БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

Серыя распрацавана
ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў 1996 годзе

*Серыя І. Мастацкая літаратура*

Кніга выдаецца з дазволу ўладальніка таварнага знака
«БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР»®
МГА «Белкнігазбор»

Аўтар праекта і галоўны рэдактар
*Кастусь Цвірка*

## ПРАРВАЎШЫ «ЗОНУ МАЎЧАННЯ»

Сяргей Грахоўскі — паэт, празаік, перакладчык, публіцыст, крытык — адзін з тых святых пакутнікаў, чый жыццёвы шлях быў азмрочаны дзесяцігоддзямі сталінскіх лагераў. Творчасць гэтага таленавітага паэта, а быў ён найперш паэт, вылучаецца ў беларускай літаратуры незвычайна плённымі і важкімі мастацкімі дасягненнямі ў самых розных жанрах. І гэта нягледзячы на тое, што вярнуўся ён у літаратуру і па-сапраўднаму пачаў сцвярджаць сябе ў прыгожым пісьменстве пасля доўгіх дзесяцігоддзяў зняволення — больш чым праз трыццаць гадоў пасля публікацыі першых спроб пяра ў 20—30-я гады ў рэспубліканскіх перыядычных выданнях («Беларускі піянер», «Маладняк», «Вясна», «Беларусь калгасная», «Чырвоная змена»).

Лепшыя гады жыцця многіх беларускіх пісьменнікаў, якія толькі ўваходзілі ў літаратуру, адабрала бязлітасная сталінская дыктатура, малох нечуванага вынішчэння і прыдушэння чалавечай асобы, пад які без ніякай віны трапіў і дваццацітрохгадовы Сяргей Грахоўскі. Але моцны духам і любоўю да бацькоўскай зямлі, якая заўсёды заставалася ў сэрцы, Сяргей Іванавіч выжыў, выстаяў, з годнасцю вярнуўся ў літаратуру і да апошніх сваіх дзён не страціў высокага творчага гарэння, пакінуў нам глыбоказместоўныя творы, якія атрымалі заслужанае прызнанне грамадскасці. За сваю грамадскую і літаратурную дзейнасць паэт быў уганараваны званнем «Заслужаны работнік культуры Беларусі» (1983), стаў лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1983) за кнігу паэзіі «Асеннія гнёзды», лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі (1992) за кнігу «Споведзь».

Сяргей Іванавіч Грахоўскі пражыў доўгае, цяжкае, багатае на розныя падзеі, поўнае выпрабаванняў жыццё. Нарадзіўся ён 12 (24) верасня 1913 года, а адышоў у вечнасць у снежні 2002 года.

Дзіцячыя і юнацкія гады прайшлі ў мястэчку Глуск, на радзіме маці. Пазней пісьменнік апаэтызуе гэты прыгожы гарадок на беразе Пцічы ў шматлікіх вершах, напіша прачулыя ўспаміны пра родныя мясціны,

пра сваіх землякоў, цёплым словам узгадае сваіх сяброў, з якімі разам вучыўся, пачынаў спасцігаць тайны і прыгажосць паэтычнага слова.

Адсюль, з гэтага дарагога сэрцу куточка, павялі будучага паэта шляхі-дарогі ў вялікае жыццё. Пасля глускай школы Сяргей Грахоўскі працаваў на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце. У Бабруйску паэт далучыўся да мясцовай філіі «Маладняка», якой кіраваў Міхась Лынькоў — тагачасны рэдактар бабруйскай газеты «Камуніст», што першы заўважыў талент юнака, надрукаваўшы яго верш «Восень», напісаны пад уплывам паэзіі Пушкіна, Ясеніна, Блока, кнігі якіх Сяргею Грахоўскаму дарыў ягоны стрыечны брат, паэт Янка Бобрык. Міхась Лынькоў падтрымліваў маладога аўтара і пазней, калі яны абодва жылі ў Мінску.

Скончыўшы літаратурны факультэт Мінскага вышэйшага педінстытута (1935), Сяргей Грахоўскі пайшоў працаваць рэдактарам на Беларускае радыё. Адначасова ён выкладаў літаратуру на рабфаку Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Апынуўшыся ў самым цэнтры літаратурнага жыцця, малады паэт пазнаёміўся і пасябраваў з многімі беларускімі пісьменнікамі. Пра гэты перыяд сваёй ранняй творчасці пазней ён напісаў кнігу «Так і было» (1986), дзе расказаў пра незабыўныя сустрэчы з Янкам Купалам, Якубам Коласам, Змітраком Бядулем, Міхасём Лыньковым, Уладзіславам Галубком, Барысам Мікулічам, Петрусём Броўкам, Язэпам Пушчам, Аркадзем Куляшовым, Уладзімірам Дубоўкам, Юліем Таўбіным, Васілём Віткам, Уладзімірам Хадыкам, Васілём Шашалевічам, Лукашом Калюгам, Алесем Пальчэўскім, іншымі пісьменнікамі, паказаў трывожную эпоху 30-х гадоў.

Паэтычны юнацкі ўзлёт быў раптоўна перапынены 19 кастрычніка 1936 г. Зусім беспадстаўна арыштаваны, Сяргей Грахоўскі ішоў па турэмных і лагерных этапах разам з тымі беларускімі пісьменнікамі, якія не былі расстраляны, але атрымалі па дзесяць гадоў канцлагераў. Пакаранне за неіснуючую віну адбываў на лесараспрацоўках Расіі. Адпакутаваўшы першую лагерную дзесятку, ён вярнуўся ў Беларусь і да 1949 г. жыў у м. Урэчча Слуцкага раёна, працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў мясцовай школе. Аднак, нягледзячы на тое, што судзімасць з яго была знятая, Сяргей Грахоўскі, як і іншыя так званыя «ворагі народа», паводле сталінскага ўказа 1949 г., быў паўторна арыштаваны і высланы ў сяло Біяза Новасібірскай вобласці. Туды да яго прыехала жонка, якую ён ласкава называў «мая дзекабрыстка», — Валянціна Міхайлаўна (Аля) з пяцігадоваю дачкою Таццянай. Пачалі абжывацца, бо высланы былі на «вечнае пасяленне». На шчасце, абставіны са смерцю дыктатара змяніліся, і Сяргей Іванавіч, рэабілітаваны 19 кастрычніка 1955 г. («за отсутствием состава преступления»), вярнуўся з сям'ёю на радзіму, у Мінск.

Асэнсоўваючы пазней усе гэтыя цяжкія падзеі, ён напіша выдатную паэму «Спаленыя масты» (1975), прысвечаную памяці Аляксандры Мураўёвай, жонкі дзекабрыста Мікіты Мураўёва, сасланага царом

у Сібір. Але «Спаленыя масты» — найперш своеасаблівы гімн і нашым беларускім самаахвярным і мужным жанчынам, тым жонкам рэпрэсаваных пісьменнікаў, якія засталіся вернымі свайму каханню і сямейнаму абавязку, не адракліся ад так званых «ворагаў народа». Паэма ўспрымаецца як твор-пакланенне подзвігу жонкі Валянціны Міхайлаўны, высакароднай жанчыны, якая, не задумваючыся, прыехала да яго ў Сібір, каб падзяліць усе нягоды жыцця палітычнага ссыльнага. Такая падтрымка дарагога чалавека дапамагла Сяргею Грахоўскаму ўсё пераадолець, вярнуцца да перарванага нявольніцкім дваццацігоддзем паўнацэннага жыцця і мастацкай творчасці.

Вярнуўшыся ў Мінск, Сяргей Грахоўскі ізноў ідзе працаваць на Беларускае радыё. Потым ён загадвае аддзелам рэдакцыі часопіса «Бярозка», становіцца літкансультантам Саюза пісьменнікаў Беларусі, рэдактарам часопіса «Вясёлка», адказным сакратаром Камітэта па дзяржаўных прэміях Беларусі ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Даволі хутка паэт далучыўся да літаратурна-грамадскага жыцця. Яго няўрымслівая натура, прага жыцця, волі, імкненне зведаць тое, чаго быў пазбаўлены доўгія гады, звалі ў далёкія і блізкія дарогі. Ён аб'ехаў амаль увесь былы Савецкі Саюз — ад Ціхага акіяна, Далёкага Усходу да Запаляр'я і Таджыкістана, пабываў у Літве, Латвіі, Грузіі, ва Украіне, у многіх замежных краінах: Францыі, Англіі, Германіі, Італіі, Швецыі. Быў нязменным удзельнікам Купалаўскіх, Коласаўскіх, Пушкінскіх, Ясенінскіх, Някрасаўскіх, Блокаўскіх святаў паэзіі, дзе абавязкова выступаў з вершамі. Ён быў знаёмы амаль з усімі найбольш вядомымі пісьменнікамі былой шматнацыянальнай савецкай літаратуры, яго запрашалі на творчыя сустрэчы і вечарыны ў самыя розныя аўдыторыі. Валодаючы высокім красамоўствам і фенаменальнай памяццю, Сяргей Іванавіч мог бясконца цытаваць свае паэтычныя радкі, пераклады, вершы іншых паэтаў з такой эмацыянальнай сілай, пачуццём перажытасці, што нікога ў зале не пакідаў абыякавым. Цёплыя, сяброўскія адносіны звязвалі яго з многімі мастакамі, архітэктарамі, скульптарамі, кампазітарамі. Ён сам выдатна маляваў пейзажы, добра спяваў, наогул захапляўся жыццём — радаваўся, здзіўляўся кожнай неардынарнай з'яве, кожнаму чалавеку. Сустрэчы з Грахоўскім для чытачоў, студэнтаў былі сапраўднай падзеяй. З такіх сустрэч і сам паэт вяртаўся ўзрушаным, памаладзелым, поўным энергіі і творчых задум.

У гэтыя гады як бы адкрылася другое творчае дыханне паэта. Пасля поспеху першага паэтычнага зборніка натхненне не пакідала яго да апошніх дзён, быццам кампенсуючы марна страчаныя нявольніцкія гады. Сёння яго творчасць уяўляецца як адна вялікая кніга, прасякнутая Праўдай, Любоўю, Сумленнем — асноўным крэда Грахоўскага-пісьменніка і чалавека. А тады, пасля вяртання са стану «ворагаў народу», адбывалася адаптацыя да нармальных умоў, тачылі сумненні — як прыме яго грамадскасць, ці здолее ён існці ўпоравень з часам? Трэба было ўзнаўляць, даспельваць творчае майстэрства,

праяўляць уласна-непаўторную індывідуальнасць, стыль, знаходзіць новыя тэмы, вобразы, сюжэты.

Пачаў ён родным беларускім словам, «забароны зламаўшы мяжу», найперш звяртацца да адвечных матываў паэзіі: харавства прыроды, маладосці, кахання, любові да Радзімы, маці, мовы, філасофскага асэнсавання перажытага, а пазней і расказваць людзям «пра гісторыю веку» праз гісторыю жыцця сучасніка, прытрымліваючыся лепшых традыцый сусветнай літаратуры і ўласнага разумення ролі паэта і паэзіі:

Каб пісаліся вершы,
Трэба быць закаханым
У жанчыну і неба,
У добрых людзей.
І ад шчасця заўсёды
Быць крышачку п’яным,
І ніколі, ніколі не траціць надзей.

Трэба быць закаханым
У гоманы бору,
У світанні над полем,
У дождж на сяўбе.
Трэба быць закаханым
У сінія зоры
І ніколі, ніколі — ў самога сябе...

Глыбіні вечна неспакойнага свету, багацце і шчодрасць душы паэта пачалі раскрывацца ў зборніках паэзіі, якія амаль штогод выходзілі ўслед за першай пасля вяртання на Радзіму кнігай «Дзень нараджэння» (1958), калі ўжо вольны паэт марыў зазірнуць у будучыню, знайсці пэўную дарогу, «спазнаць цану любой хвіліны і кожным крокам даражыць. Шукаць, знаходзіць, быць няспынным, не проста існаваць, а жыць!». Ад 1958 г. у С. Грахоўскага выйшла больш за шэсцьдзесят кніг паэзіі і прозы (у тым ліку і на рускай мове ў Маскве), выходзілі двухтомнікі выбраных твораў, шмат вершаў, апублікаваных у перыядычных выданнях, пакуль не выдадзены асобнымі зборнікамі.

Безумоўна, зробленае пісьменнікам ацэньваецца не колькасцю напісанага, а значнасцю праблематыкі, талентам, мастацкім майстэрствам, адметнасцю творчай індывідуальнасці, што ў поўнай меры ўласціва было Сяргею Грахоўскаму. Нельга не згадаць такія яго выдатныя кнігі вершаў, як «Ад вясны да вясны», «Чаканне», «Сёння і заўтра», «Памяць», «Тры вымярэнні», «Паэма дарог», «Зазімак», «Зачараванасць», «Сонечная сцежка», «Асеннія гнёзды», «Знаходка», «Кругі надзеі», «Верую», «І радасць і боль» і інш. У прадмове да двухтомніка выбраных вершаў паэта (1983) Васіль Вітка пісаў: «Сяргей Грахоўскі пазнаецца па творах. У паэта многа чытачоў, сяброў і прыхільнікаў яго таленту. Пэўна, перш за ўсё таму, што ён заўсёды ішоў і ідзе да свайго чытача, як да блізкага субяседніка, з якім гаворыць шчыра і

даверліва — адкрытым сэрцам, як адкрытым тэкстам, без ускладнёнага метафарычнага шыфра і сінтаксічнай закадзіраванасці радка. Рытмічнай кардыяграме яго верша не ўласцівыя нечаканыя перапады і галаваломныя кручы. Гэта майстар строгай формы, верны лепшым традыцыям і вопыту сваіх папярэднікаў не толькі ў нашай, беларускай класічнай паэзіі...»

Усёй сваёй творчасцю Сяргей Грахоўскі пацвярджаў нязменную любоў і адданасць да Бацькаўшчыны словамі, якія ішлі з глыбінь душы паэта: «Любоў мая — Зямля мая, адзіная да болю», «Ніколі, Радзіма, ніколі не змагу разлучыцца з табой», «І тым заўсёды ганаруся, што ў шчаслівейшую пару я нарадзіўся ў Беларусі і так, як маці, гавару...» Вобраз Бацькаўшчыны ў яго паэзіі цесна зніталаваны з вобразам маці, роднай мовай. Для паэта Радзіма і Маці — адно і тое ж «адзінае, вышэйшае імя». «...Матчына мова — спрадвечная мова, і першае ў ёй і апошняе слова, якое ніколі нікому не страціць, — Маці-Радзіма, Радзіма і Маці». Паэт сцвярджае: усё лепшае, што ёсць у нас, — добрая шчырая душа, сумленне, любоў да бацькоў, продкаў, да гісторыі, роднай мовы, да сусвету, над якім «нас падняли рукі маці» — усё ад той, што дала нам жыццё. І ёй з сыноўняй любоўю паэт прысвячае шмат вершаў («Першае імя», «Маці не спіць», «Усё ад маці», «Высокае імя», «Размова з маці», «З матчынага ліста», «Вечная маці», «Прыснілася маці», «Рукі», «Праводзіны» і інш.). Асабліва кранае прачулае слова паэта ў яго славутым вершы «Мама», неперавўзыдзеным па эмацыянальнай сіле ўздзеяння, як і паэма «Бяссмертнікі» (1976), дзе паэт услаўляе Маці, ае любоў і памяць пра сыноў, што загінулі ў полымі вайны. Яна ідзе ад абеліска да абеліска, спадзеючыся знайсці на іх імя сына, ускладае там бяссмертнікі, прынесеныя з радзімы як сімвал бяссмерця і вечнай памяці. Вобраз яе, рамантычна-ўзнёслы, але і зямны, рэальны, канцэнтруе ў сабе лепшыя рысы ўсіх мацярок, іх пратэст супраць бесчалавечнасці войнаў на кароткім, як знічка, жыццёвым шляху чалавека.

Паэзія С. Грахоўскага ясная, простая, глыбокая па думцы і пачуццях. Яна даходзіць да сэрца кожнага чытача. Многія радкі яго вершаў гучаць як афарызмы: «У спадчыну ж табе дастаўся вопыт тварыць дабро, як дыхаць і любіць...», «У праўду верыць апантана... Забыць пра крыўду і згрызоту, заўжды імкнуцца да палёту і непадкупнай дабраты, глядзець на свет не праз акенца, а жыць турботамі зямлі», «Сябе і другіх вінавачу, што гора на свеце жыве...», «Люблю ўсе колеры жыцця... Жыву, не трацячы надзей, бо веру ў дабро людзей...», «Каб у надзённай нашай прозе забыць паэзіі святло...», «Душа з маленства гартавалася на чыстым праведным агні», «Без праўды можна існаваць, а жыць без праўды немагчыма...»

Паэта хвалявала ўсё, што сустракалася на доўгай дарозе жыцця. Ён неаднойчы сцвярджаў: «На людзях і на адзіноце пра ўсё, што апякло душу, ахвотна па сваёй ахвоце кажу, спяваю і пішу...» Глыбокім роздумам пра бясконцасць сусвету, пра хуткаплыннасць жыцця, пра дабро і зло, пра смерць і бяссмерце, пра радасць і гора, пра праўду і ману,

пра сумленне і талент прасякнута філасофская лірыка паэта, такія яго вершы, як «Ноч на адзіноце», «Сляды на зямлі», «Элегія», «Зямлянін Я», «Рэквіем», «Жыццё», «Бяссмерце», «Адзінота», «Чалавек і Бог», «Фінал загадкі», «Талент», «Незваротнае», «Сарваны паром», «Век», «Вогнішча», «Серафім» і інш.

У многіх сваіх вершах Сяргей Грахоўскі захапляецца хараством роднай зямлі, паказвае арганічную злітнасць чалавека і прыроды, раскрывае глыбіню пачуццяў свайго лірычнага героя ад судакранання з ёю, сцвярджаючы, што чалавек павінен існаваць у гарманічным суладдзі з прыродай («Пралескі», «Хмель», «Вясна», «Сунічны сок», «Казка» і інш.):

Я з маленства чытаю зялёную кнігу,
Як старонкі, гартаю лугі і палі,
Што шумяць, шапацяць і гамоняць паціху
І складаюць адвечную песню зямлі...

Гэту адвечную песню прыроды, апетую ўсімі пакаленнямі паэтаў, услаўляюць непаўторныя радкі вершаў Сяргея Грахоўскага. Няма такой з’явы ў календары прыроды, якая б не стала тэмай яго вершаў. Прадметам яго паэзіі былі палескія рэкі, шумлівыя бары, рачныя кручы, белыя лілеі на вадзе, «салаўёў пераклічка і гул навальніц», палі і лугі, непрыкметныя лясныя сцяжынкі, жытнёвае поле, «глуская зямля, што пахне жытам, просам, пірагамі і белай грэчкаю здаля...». Паэт радуецца, што ён можа сустрэць узыход сонца, здзівіцца «вясёлцы і дажджынцы на траве», адчуць, як «пралескі пахнуць талаю вадою і сокам красавіцкае зямлі», як «бруіцца каля берага крыніца», убачыць, як «яблыні ў панчошках белых-белых пабеглі за далёкі небакрай...».

Вельмі часта паэт выказвае глыбокую занепакоенасць адносінамі людзей да прыроды, з болем і трывогай гаворыць пра неразумнае, неашчаднае карыстанне яе дабротамі, параўноўвае «падсочаны лес з падсечаным лёсам чалавека», яму невыносна бачыць высечаныя пушчы, спрамленыя рэкі, асушаныя без меры балоты. Бязлітаснае XX стагоддзе знішчыла прыроду так, як не здолелі яе скалечыць за мільёны гадоў. І ўжо не мы просім міласці ў прыроды, «прырода моліць літасці ў нас». У вершы «Папярэджанне» паэт, звяртаючыся да сучаснікаў, заклікае: «Уратуйце зямлю, апантаныя людзі! Можа, шчасце хоць вашым прапраўнукам будзе...» Такой жа занепакоенасцю прасякнута і паэма «Трывожны маналог Зямлі» (1977), дзе Маці-Зямля, звяртаючыся да людзей, для якіх вякамі збірала і назапашвала скарбы, папракае іх за ненасытнасць, прагнасць, драпежніцкае, безгаспадарчае вынішчэнне прыроды, жывёльнага свету, за іх гульню з агнём, што можа прывесці да знікнення адзінай нашай планеты, нашага агульнага, утульнага дому. Нішчыць прыроду — тое самае, што абкрадаць сябе, падсякаць бяздумна «карэнні свае і асновы».

У Сяргея Грахоўскага традыцыйны матыў кахання абавязкова звязаны з прыродай. З яго паэзіі відаць, што пачуццё кахання дапамагае

чалавеку больш шматгранна адчуваць свет, прыгажосць і радасць жыцця. Вясна, абуджэнне прыроды, калі «ўся зямля чакае красавання», параўноўваецца з узнікненнем першага цнатлівага пачуцця, прыгажосцю каханай. Значная частка вершаў Сяргея Грахоўскага прысвечана тэме кахання. Сярод іх чытач асабліва вылучыць вершы «Першае каханне», «Будзь музаю маёй», «Прызнанне», «Нас разлучалі вёрсты і гады», «Я цябе прыгадаў», «Сумую па табе», «Незваротнае», «Позняя радасць», «Хмель», «Чаромхавы чад», «Бабіна лета» і інш. Вершы пра каханне, як і пейзажная лірыка, — лепшыя старонкі ў творчасці Сяргея Грахоўскага. Каханне для паэта — шчаслівы дар лёсу. Яно духоўна ўзбагачае, акрыляе чалавека, дапамагае яму пераживаць нягоды і цяжкія выпрабаванні. Таму і даражыць паэт гэтым вялікім пачуццём:

Сваю любоў, глыбокую, як мора,
Дзялю на ўсіх, каго даўно люблю,
Кахання толькі, што пранёс праз гора,
І радасці ні з кім не падзялю...

Прыхільнік традыцыйнага стылю, беларускага паэтычнага слова, наследуючы класічнай канкрэтна-рэалістычнай вобразнасці, Сяргей Грахоўскі, па яго ўласных словах, быў вечным вучнем Купалы, захапляўся яго жывымі трапяткімі радкамі, якія вялі яго «ў даль дарог»: «Я пад сузор'ямі Купалы хадзіў услед за гусляром...». І нездарма творчай індывідуальнасці паэта ўласціва купалаўская мудрая роздумнасць, спавядальнасць, элегічная настраёвасць. Для яго важна было не рэгістраваць падзеі, а па-купалаўску прадбачыць і адлюстроўваць важнае ў жыцці народа.

Творчасць апошняга перыяду жыцця Сяргея Грахоўскага характарызуецца найперш вызваленнем ад умоўнасцяў сацрэалізму, гранічна адкрытай грамадзянскай пазіцыяй, высокім усведамленнем нацыянальнай годнасці, актыўным падключэннем да вострaнадзённых праблем сучаснасці. Ды і вялікія змены адбыліся ў сацыяльна-палітычным жыцці: з перабудовай распалася савецкая імперыя, Беларусь нечакана атрымала незалежнасць, былі вернуты нацыянальныя сімвалы, адзінай дзяржаўнай стала беларуская мова, паслабеў жорсткі цэнзурны ўціск. Сяргей Грахоўскі шчыра вітаў новы час («Шчаслівы, што дажыў да гэтых дзён, калі знікаюць каты і зладзеі...»), радаваўся, што «трагічны век чырвона-чорны ў нябыт сплывае спакваля...». Цяпер, калі мінуў цяжкі час, паэт, аглядаючы «няроўны свой засеў», выказвае патаемныя думкі: «Сёння б мне нарадзіцца нанова...», каб паспець сказаць пра тое, што жыве ў душы. Пафас паэзіі гэтага часу не столькі ў аб'ектыўнасці перадачы падзей, колькі ў душэўным водгуку аўтара на ўсе падзеі, праблемным падыходзе да гарачых пытанняў сучаснасці. Вершы Сяргея Грахоўскага гэтага перыяду напоўнены высокім грамадзянскім пафасам. Ён першы з беларускіх пісьменнікаў пачаў публікаваць творы пра сталінскія рэпрэсіі. У гэты час яшчэ не перавыдавалася кніга Ф. Аляхновіча «У капцюрох ГПУ», не была

апублікавана «Споведзь» Л. Геніюш, «Мая Галгофа» Я. Бяганскай, а мы ўжо чыталі паэму С. Грахоўскага «Балючая памяць», вершы «19 кастрычніка», «Ад «вінаватых без віны», «Этапы... этапы...», «Страчаная маладосць», «Згаслыя свечкі», «Майму суддзі», «Колішні страх», «А Ён яшчэ жывы», «Рэквіем рукапісам», «Вечная памяць» (Сябрам-паэтам), «Грузчык сорак першага года», «Ціхія пенсіянеры».

Вершы, прысвечаныя памяці сяброў маладосці, маюць яскрава выяўлены спавядальны характар. Іх унутраная тэма — адчуванне абавязку паэта перад тымі, хто загінуў у гады сталіншчыны, навекі застаўся ў глухой тайзе, у балоце, на лесапавале. Хто, пытаецца паэт, адкажа за тое, што «з нас мала хто прыйшоў дадому з бясконцай лютае зімы, і не адзін паэт вядомы замоўк на трасах Калымы...». Хто адкажа за пасеяны страх, «калі дрыжалі ўсе да аднаго, пакуль вялікім Ён здаваўся, бо ўсе баяліся яго. А ён адзін усіх баяўся...»?

Ад імя свайго пакалення паэт просіць даравацъ за тое, што «бяздумна маліліся мы Фараону», слухалі і верылі казённым казкам. Але і папярэджвае, што сёння «не ўсе адракліся дзікунства старога і мараць пра новага лютага Бога». І заклікае: «Глядзіце наперад уважлівым зрокам і болей не верце ілжывым прарокам...»

Асабліва вялікі грамадскі рэзананс атрымала ў гэты перыяд проза Сяргея Грахоўскага, яго дакументальныя аповесці «Зона маўчання», «З воўчым білетам», «Такія сінія снягі» і «Два лёсы — дзве трагедыі». Гэтыя творы сталі падзеяй у беларускай літаратуры, кнігамі-помнікамі, як і лагерныя творы рускіх аўтараў А. Салжаніцына, В. Шаламава, Я. Гінзбурга, А. Жыгуліна, Н. Мандэльштам, Л. Разгона, А. Волкава і інш.

«Зона маўчання» — кніга, на якую не можа не адгукнуцца сэрца і памяць усіх, хто прачытае яе, бо тут пісьменнік сапраўды выступае сведкам на Судзе Гісторыі. Ён знайшоў у сабе сілы зноў перапакутаваць дзень за днём лагернае дзесяцігоддзе, паўторны арышт і высылку ў Сібір, што сведчыць пра яго нястрыманае жаданне расказаць «дзеля шчасця ўнукаў і сыноў» пра перажытае і тым самым заклікаць нас рабіць усё, каб не вярнулася дыктатура. І не толькі пра свой шлях на Галгофу паведаў Сяргей Грахоўскі, але найперш пра пакутніцкі лёс сваіх сяброў, таленавітых беларускіх пісьменнікаў, якія разам з ім ішлі па сталінскіх этапах, працавалі ў катаржных умовах і гінулі жахлівай смерцю.

З неаслабнай увагай чытаюцца тыя старонкі «Зоны маўчання», дзе сустракаешся з вядомымі беларускімі пісьменнікамі, пакутліва перажываеш заўчасную смерць многіх з іх ад непасільнай рабскай працы, голаду і холаду. Гэта невялікія самастойныя апавяданні-лёсы, якія вылучаюцца з агульнай тканіны твора і прыкоўваюць увагу тым, што ўпершыню, напрыклад, даведваешся з іх пра лагерныя пакуты і смерць Сяргея Дарожнага — вядомага паэта, Юрыя Такарчука — выдатнага журналіста, які да арышту ўзначальваў аддзел у газеце «Звязда», Алеся Розны — паэта і перакладчыка, што загінулі страшнай смерцю. Быццам услухоўваешся ў размову тых пісьменнікаў, якіх мінавала «вышка», якіх сагналі ў адну перасыльную камеру турмы: «Апынуліся

на адных нарах Сымон Баранавых і Барыс Мікуліч, Янка Скрыган і Міхась Багун, Уладзімір Хадыка і Васіль Шашалевіч, Сяргей Ракіта і Станіслаў Шушкевіч, Алесь Розна і Сяргей Знаёмы, Зяма Півавараў і Змітрок Астапенка, Алесь Пальчэўскі і Сымон Куніцкі, былы дырэктар Дома пісьменніка Васіль Залуцкі і начальнік Галоўліта Аляксандр Якшэвіч, яўрэйскі празаік Шыман Гарэлік, ды хіба ўсіх успомніш і пералічыш?..» Добрыя, цёплыя словы знаходзіць С. Грахоўскі, успамінаючы сваіх сяброў, захапляецца іх талентам, унутранай і знешняй прыгажосцю, духоўным багаццем. Зноў і зноў ставіць пытанне: за што, каму спатрэбілася знішчаць лепшых, найталенавітых сыноў нашага народа? Тут, відаць, дзейнічаў закон Моцарта і Сальеры. Першая хваля рэвалюцыянераў — людзі, якія не мелі высокай адукацыі, інтэлекту, духоўнасці і якія лічылі, што здзейснілі рэвалюцыю дзеля простых людзей. Але яна аказалася варожай патрэбам чалавека. Па закону класавай барацьбы, навязаным дыктатарам, вынішчаўся цвет працавітага сялянства, ды і наогул, як сведчаць многія старонкі «Зоны маўчання», у лагернай апраметнай апынулася шмат людзей самых розных прафесій: урачоў, настаўнікаў, мастакоў, артыстаў.

А колькі было жанчын, дзяцей, падлеткаў, кінутых на «перавыхаванне» за «віну» мужоў, бацькоў і гэта пры тым, што афіцыйна было аб'яўлена — «сын за отца не отвечает». Мала хто з іх змог выжыць, стаць нармальным чалавекам, захаваць чыстую душу. Ці не адсюль сённяшнія праблемы, парасткі якіх пачыналі разрастацца ў атмасферы страху, даносаў, абразы чалавечай годнасці, дыктатарскага падзелу на зоны: у адной — «ворагі народа», «нацдэмы», «недазволеныя» беларусы, у другой — вернападдана-дазволеныя служкі рэжыму.

Дакументальная аповесць «З воўчым білетам» апавядае пра вяртанне вязня пасля 10 гадоў зняволення на Радзіму. Атрымаўшы даведку («воўчы білет») аб вызваленні, ён, былы «вораг народа», з вялікай цяжкасцю ўладкоўваецца на працу. З такімі людзьмі нават баяліся размаўляць, узнаўляць знаёмствы. І на працягу трох гадоў ён адчуваў напружаную часовасць свайго існавання «з воўчым білетам» пад пільным наглядам нкусаўцаў, пакуль зноў не быў высланы «навечна» ў Сібір у 1949 годзе.

У трэцяй аповесці «Такія сінія снягі» (упершыню друкавалася яна ў часопісе «Полымя», 1988, № 9, пад назвай «Успаміны майго двайніка») якраз і расказваецца пра гэты перыяд жыцця пісьменніка і яго сям'і. Там, дзе такія сінія снягі, моцныя маразы, далёка ад роднай Беларусі, і пачалі абжывацца бестэрміновыя вязні ГУЛАГа, не спадзеючыся адчуць сябе калі-небудзь вольнымі людзьмі. «...Аж не верыцца, што ўсё пражытае было са мною, — згадвае аўтар. — А было, і нічога забыць нельга. Я дзяліў горкую долю свайго народа і шчаслівы, што цяпер магу паспавядацца за сябе і сваіх незваротных сяброў...»

Своеасаблівым дапаўненнем да трылогіі Сяргея Грахоўскага з'явілася і яго пякуча-балючая аповесць «Два лёсы — дзве трагедыі» пра братоў Шашалевічаў. Сяргей Іванавіч вярнуў з небыцця светлы

воблік празаіка Андрэя Мрыя (Шашалевіча), аўтара першага ў беларускай літаратуры сатырычнага рамана «Запіскі Самсона Самасуя», раскрыў высокаадораную творчую натуру і пакутніцкі канец Васіля Шашалевіча, таленавітага драматурга, п'есы якога да арышту іх аўтара ставіліся ў тэатрах Масквы і Мінска («Апраметная», «Рой», «Змрок», «Воўчыя вочы», «Сімфонія гневу»).

Спавядальна-мемуарная проза Сяргея Грахоўскага, як і творы іншых аўтараў, што перажылі ГУЛАГ, ставячы балючыя пытанні («за што?», «хто вінаваты?», «хто адкажа?»), паказваюць, што вытвараюць з людзьмі дыктатары, дарваўшыся да ўлады. Ці не пра такія анамаліі папярэджваюць беларусаў балючыя творы пісьменніка? Можа, дзеля гэтага лёс быў літасцівы да Сяргея Грахоўскага, абраўшы яго сведкам народнай трагедыі?

«Лагерная» паэзія і проза Сяргея Грахоўскага, узаемадапаўняючыся, уяўляюць сабой самую значную частку творчасці пісьменніка і ўспрымаюцца як моцны нязгасны боль і смутак душы аўтара. Яны звернуты да вялікага кола людзей, да народа, да нацыі і даюць шырокую прастору для роздуму над нашым мінулым, сённяшнім і будучым. І ў гэтым іх галоўная каштоўнасць.

Празаічныя творы Сяргей Іванавіч пісаў адначасна з вершамі і паэмамі, а нарысы, публіцыстыка часцей за ўсё ўзнікалі пасля таго, як пісьменнік наведваў «гарачыя кропкі». У адным з вершаў ён прызнаваўся:

Мне дзве каханыя спакою не даюць.
Адну люблю з маленства і да скону:
Яна пяе і разам з ёй пяюць
Дажджы і травы, воблакі і клёны.

Яна мяне ў наступны кліча век,
Дае тугія крылы для палёту,
У поўнач дакранаецца павек,
Вядзе к сталу, саджае за работу...

Мне без яе і тыдня не пражыць...

Другая мне каханая штодня
Расказвае пра радасці і слёзы.
Яны абедзве — блізкая радня,
Адна паэзія, другая — проза.

У прозе, як і ў паэзіі, таксама адлюстроўвалася гісторыя веку. Працяглы жыццёвы шлях пісьменніка быў настолькі багаты на падзеі, разнастайныя лёсы людзей, а фенаменальная памяць захавала столькі незабыўных, цікавых фактаў, назіранняў, роздуму, што яму не трэба было фантазіраваць, мадэліраваць нейкія сюжэты, вострыя калізіі,

каб напісаць той або іншы празаічны твор. Лепшыя нарысы «Горад маладосці», «На ўскраіне Ялты», «На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай», апавяданні, навелы, кнігі лірычнай прозы «Які вялікі дзень»(1966), «Агеньчык у акне» (1972), «Сустрэча з самім сабою» (1988), аповесці «Гарачае лета» (1974), «Ранні снег» (1975), кніга дакументальных аповесцей «Суровая дабрата» (1971) сведчылі, як плённа развіваліся ў творчасці С. Грахоўскага празаічныя традыцыі беларускай літаратуры, заснаваныя на прозе Я. Коласа, К. Чорнага, З. Бядулі, М. Гарэцкага, Ц. Гартнага, М. Лынькова, Я. Брыля, І. Мележа, іншых празаікаў. Па вядомай мастацка-дакументальнай аповесці С. Грахоўскага «Рудабельская рэспубліка» (1968) пра падзеі рэвалюцыі і грамадзянскай вайны на Беларусі былі пастаўлены спектаклі Акадэмічным тэатрам Янкі Купалы і Гомельскім абласным тэатрам, быў зняты аднайменны фільм. Адна з выдатных яго аповесцей «А маці не спіць» таксама заснавана на рэальным лёсе галоўнай гераіні Аўдоцці Кастрыцкай, якую пісьменнік ведаў асабіста. Праз яе вобраз, трагічныя жыццёвыя калізіі раскрываюцца такія катаклізмы нашай нядаўняй гісторыі, як злачынная калектывізацыя, раскулачванне найбольш працавітых сялянскіх сем'яў, высылка на Поўнач і ў Сібір, вайна, прыгонная праца ў калгасе, страта блізкіх, у выніку чаго жанчына застаецца беспрытульнай і адзінокай. Бяздушным эгаістам аказаўся яе адзіны сын, якому яна аддала ўсе свае сілы. Ён адцураўся не толькі роднай мовы, вёскі, бацькавага імя, але і хворай старой маці. Раскрываючы праблему ўзаемаадносін бацькоў і дзяцей, якая востра пастаўлена і ў вершы-дылогіі «Дзве маці», аўтар, а разам з ім і чытач, прыходзіць да высновы, што страта духоўнасці, высокай маралі ў сучасным грамадстве абумоўлена ўсімі папярэднімі негатыўнымі працэсамі таталітарнай сістэмы. Аднак пісьменнік-жыццялюб не мог не паказаць, што побач з адмоўнымі персанажамі жывуць, дзейнічаюць людзі сумленныя, добрыя, чуйныя да чужога гора, і на іх трымаецца свет.

Паралельна з апавяданнямі, аповесцямі ў 80-я гады стваралася адна з лепшых паэм Сяргея Грахоўскага «Ростань на світанні», дзе паўстае велічны, самаахвярны вобраз славутай украінскай паэтэсы Лесі Украінкі. Дзеянне паэмы адбываецца на пачатку XX стагоддзя, падчас прыезду яе ў Мінск да свайго каханага Сяргея Мяржынскага, смяротна хворага на сухоты. Тады ж Лесяй, каля ложка каханага, была напісана выдатная паэма «Апантаная», эмацыянальна-ўзрушаная, балючая, як помнік трагічнаму каханню. На мяжы фантазіі і рэальнасці згадваецца сустрэча Лесі з бацькам Янкі Купалы, які паведамляе, што яго сын таксама піша вершы, і паэтэса праз бацьку перадае юнаму паэту свой запавет, які цалкам здзейсніўся ў творчасці Я. Купалы:

Хай піша, што ў душы гарыць,
Шукае сілу ў кожным слове
І не забудзе гаварыць
На матчынай пявучай мове...

Дзякуючы гэтай паэме Сяргея Грахоўскага ў Мінску з’явілася вуліца імя Лесі Украінкі.

Паэмы «Ростань на світанні», «Спаленыя масты», «Балючая памяць», значныя роздумам паэта над праблемамі, актуальнымі ва ўсе часы: «Змяняліся цары адзін другога варты... А ўсё звінелі тыя ж кайданы...» Ці не дзеля таго, каб назаўсёды скінуць гэтыя кайданы, ішлі на эшафот дзекабрысты ў XIX стагоддзі, праходзілі кругі пекла рэпрэсаваныя сябры паэта, якіх ён «паімённа збярог у памяці сваёй». І сёння, у XXI стагоддзі, зноў паўстае пытанне:

За што яны змагаліся тады
І выбралі пакутніцкую долю,
У міф паверыўшы, што праз гады
Здабудуць людзям роўнасць, шчасце, волю?

Аднак паэт не траціць веры і надзей, бо не быў бы паэтам-прарокам, не натхняў бы і нас аптымізмам, калі б не сцвярджаў, што недарэмнымі былі ахвяры герояў-пакутнікаў, «што жыць і жыць такія людзі павінны вечна для людзей...».

Падобнымі пытаннямі, балючым роздумам над праблемамі сучаснасці прасякнутыя вершы 90-х гг. (паэтычныя кнігі «Вячэрні звон» (1994), «Недапісаная кніга» (1996), шматлікія публікацыі ў перыёдыцы). Паэзія на «апошняй вярсце», адлюстроўваючы ўнутраны стан душы паэта, пазначана зваротамі да біблейскіх матываў, да лёсу народа і свайго ўласнага жыццёвага шляху, што раскрываецца і ў «Дзённіку пісьменніка», які ён вёў доўгія гады. «Малюся зноў па-беларуску і веру, што пачуе Бог», — сцвярджае паэт і выказвае жаданне: «Каб некалі на Беларусі дачакаліся ўрэшце пагоднага дня». І як запавет гучыць яго верш «Слова»:

Навек і слова застанецца,
Як жаўранак у сіняве,
І ў свеце рэхам азавецца,
Што Беларусь яшчэ жыве...

За незалежную Беларусь, за родную мову Сяргей Іванавіч змагаўся нястомна, рашуча і сваім палымяным публіцыстычным словам. Нарысы, крытычныя артыкулы, публіцыстыку ён пісаў на працягу ўсёй творчасці, адгукаючыся на самыя разнастайныя, надзённыя праблемы сучаснасці. Дастаткова прыгадаць такія яго артыкулы, як «Людзьмі звацца? Многага захацелі» і «Эхо двойного залпа» («Народная газета», адпаведна 3 верасня 1992 і 31 жніўня 1994), каб убачыць, як горача змагаўся Сяргей Грахоўскі сваім публіцыстычным словам у абарону свайго народа, супраць вынішчэння ўсяго беларускага на Беларусі.

*Лідзія Савік*

## ДУША

Мяне выхоўвалі,
Мяне захоўвалі,
Я то з'яўляўся,
То знікаў,
Мяне вадзілі
І ахоўвалі,
Хоць я нікуды
Не ўцякаў.

І пад замкамі,
І пад пломбамі,
Нібы каштоўнасць,
Бераглі
І неба клеткамі
І ромбамі
Разлінавалі,
Як маглі.

Мяне ўзважвалі і мералі,
Здымалі
Ў профіль і анфас,
Але ні разу
Не праверылі
Душы няўнасць
І запас.

Шкада,
Што не здымаюць копію
З яе юрысты
І ўрачы,

І ні адна дактыласкопія
Не можа тут дапамагчы.

Мая душа
Супраціўлялася,
Бо верыла і тым жыла,
І не чарсцвела
Не ламалася —
Была такою, як была.

Хоць дзіўна,
Ў чым яна трымалася,
А паспрабуй
Яе сагні!
Яна ж з маленства
Гартавалася
На чыстым,
Праведным агні.

*1964*

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ

Я ўсё спазнаў: і радасці, і гора,
Я з сотні рэк пакаштаваў вады,
І ноч у ноч мне сніўся светлы горад
І не даваў спакою ўсе гады.
Ён клікаў, уставаў цудоўнай явай,
Далёкі, але блізкі мне такі.
На ўсіх шляхах, за кожнай пераправай
Яго успаміналі землякі.
Я у сустрэчу верыў і не верыў,
І вось іду між пасталелых дрэў
І нечакана у асеннім скверы
Адзінага знаёмага сустрэў.
І прыгадаў пра першае спатканне,
Калі яго чароўная рука
Вяла мяне, малога пастушка,
Па здзірванелым дзедаўскім кургане
І прывяла тады ў дзівосны свет.
А праз гады па бальшаках Палесся
З кійком ішоў няўрымслівы паэт

Да першых камунараў на Арэсе.
Вось ён стаіць, над ім звісае вецце,
Шуміць праспект, гамоніць людны сквер,
І ён, здаецца, зараз усміхнецца
І прачытае свой натхнёны верш.
Над ім яшчэ і лісце не апала,
Асмужыў бронзу сонечны прамень.
А ён маўчыць. Задумаўся Купала.
Я шапку зняў, сказаўшы: «Добры дзень!»

***1956***

## БЕЛЫЯ ЛІПЫ

Сонечны горад юнацтва майго
Кветкамі скверы усыпаў,
І на праспектах і плошчах яго —
Белыя, белыя ліпы.

Белыя ліпы здалёку прыйшлі,
Іх напаілі жывыя крыніцы
Сілай і водарам шчодрай зямлі,
Вецце раскінулі і расцвілі
Белыя ліпы сталіцы.

Тут прызначае юнацтва сустрэчы,
Марыць пра заўтрашні дзень юнакі,
Ліпы усім закаханым на плечы
Сыплюць і сыплюць з пялёсткаў вянкі.

Моцна сплятуцца гарачыя рукі
Юных і самых шчаслівых людзей,
Так, каб ніколі не ведаць разлукі,
Так, каб любіць, як не любяць нідзе.

Так, каб сагрэтыя дружбай далоні
Нават гады астудзіць не змаглі б,
Так, каб і ў старасці белыя скроні
Толькі нагадвалі замеці ліп.

***1956***

## НОЧ НАД МІНСКАМ

Ясныя, зорныя ночы над Мінскам.
Што ж ты блукаеш адзін уначы?
Чуеш, спявае каханая блізка,
Пэўна, насустрач табе ідучы.

Сад закіпае блакітнаю пенай,
Месяц плыве у вясновай вадзе.
І па завулку, закончыўшы змену,
Тая, што сэрца трывожыць, ідзе.

Лёгкі туман праплывае над Мінскам,
Хутка асыплюць пялёсткі сады.
Ты не хвалюйся — каханая блізка:
Песню пачуеш і знойдзеш тады.

***1956***

## ПЛЫНЬ

Вецер насустрач, насустрач імклівая плынь.
Хлопец у чоўне, смуглявы і рослы,
Прагна глядзіць і плыве ўдалячынь —
Толькі рыпяць і згінаюцца вёслы.

Сонца насустрач і сіні прастор,
Неба і хмары — ў вясёлкавай браме.
Вёслы, як дужыя крылы, прасцёр —
Хлопец спяшаецца ўслед за сябрамі.

У далячынь, што расчынена насцеж,
Голасам сэрца і буйнай крыві
Кліча цябе неспакойнае шчасце,
Толькі хутчэй да яго даплыві.

Шчасце у кожнай тваёй перамозе,
Шчасце — адолець і вецер і град,
Шчасце — нідзе не спыняцца ў дарозе,
Спынішся — плынню адгоніць назад.

***1956***

## ЖОНКА

Калісьці самаю прыгожай
З усіх дзяўчат яна была,
І ты за ёю асцярожна
Хадзіў па вуліцах сяла.

Здавалася, у цэлым свеце
Такіх яшчэ не сустракаў
І у пралескавым букеце
Ты ёй запіскі пасылаў.

Чакаў яе і спадзяваўся,
Здалёк у вокны паглядаў,
На роўным месцы спатыкаўся
І песні пра яе складаў.

Спяваў аб харастве дзявочым,
А ў змроку восеньскіх начэй
Табе яе свяцілі вочы,
Што прыгажэй за ўсіх вачэй.

Яна цябе назвала любым,
І у апошні мірны год
Яе ты песціў і галубіў
І піў гарачых вуснаў мёд.

Яна ў паход цябе збірала,
Як толькі грымнула вайна,
Яна касіла, жыта жала,
Лісты табе на фронт пісала,
Табой жыла, цябе чакала,
І дачакалася яна.

Прыйшоў дамоў.
У кожнай хаце
Ты быў для ўсіх жаданы госць —
Знайшоў сяброў, ды толькі страціў
Сваю былую маладосць.

І песень не складаеш болей,
Знаходзіш сотні іншых спраў
І топчаш тыя кветкі ў полі,
Што толькі для яе збіраў.

І у асенні змрочны вечар
Яна дамоў ідзе адна,
Бо ты забыў пра ўсе сустрэчы,
Бо стала жонкаю яна.

* * *

*Валянціне*

Я цябе прыгадаў
Басаногаю, шустраю, тонкай,
Пад нагамі рассыпала
Раніца зерні расы,
І тады, у далёкія тыя часы,
Я цябе уяўляў
Залатою сасонкай,
І здавалася, будзеш такою заўжды —
Маладою, іскрыстаю, крышачку колкай.
Ды хіба ж загадаеш,
Каб вечна квітнелі сады
І ніколі на небе не гаслі вясёлкі?
Ды хіба ж загадаеш каму,
Каб гады
Над табою і мною улады не мелі,
Каб спынілася плынь веснавое вады,
Каб да старасці скроні у нас не сівелі?
Пасівелі, а сэрца не хоча старэць —
Мабыць, вызнана мала і зроблена мала.
Мы гарэлі ў агні, але нам не згарэць,
Навальніца прайшла, але нас не зламала.
Ты заўсёды была клапатліваю жонкай,
Ты суровай была міласэрнай сястрой.
Я цябе і цяпер уяўляю сасонкай,
Што яшчэ палымнее вячэрняй зарой.

***1956***

## НА ТАЕЖНАЙ ДАРОЗЕ

Вецер вые ў заломах рудое кугі,
Завіруха шляхі замятае дазвання.
Па дарогах блакітнай сібірскай тайгі
Ледзьве чутна рыпяць адзінокія сані.

Ад сяла да сяла каля сутак язды —
Ні жывое душы, толькі вецер калматы
Замятае пры самай дарозе сляды,
Што прабіў праз сумёт адзінокі сахаты.

Пры дарозе гудуць ледзяныя слупы,
Вецер тонкую пражу снуе на сумёце.
Завіруха лютуе. Ідзеш, як сляпы,
І здаецца, на конях прымерзлі аброці.

Завіруха лютуе, мяце і мяце —
Закавала асіннік у белыя латы.
Але ў змроку на доўгай трыццатай вярсце
Мільгануў аганёк заінелае хаты.

Над высокім сумётам пакатай страхі
Нахілілася голае шэрае вецце,
І у мораку гулкай бязлюднай тайгі
Два акенцы да самае раніцы свецяць.

Увайшоў, пагукаў і — нікога нідзе,
На камінку агеньчык яшчэ дагарае;
Каля печы — карэц у крынічнай вадзе,
Соль у шклянцы і свежага хлеба акраец

На шырокім і чыстым піхтовым стале,
На паліцы газеты за першае снежня.
Нехта печ напаліў і паехаў далей,
І сляды прападаюць у замеці снежнай.

Нехта хлеба пакінуў і трэсак насек,
Запаліў каганец, каб у змроку не збіўся
Незнаёмы, ды блізкі яму чалавек,
Што за ноч перамёрз і дарэшты змарыўся.

Вось і я, абагрэўшыся, дровы прынёс,
Хлеб паклаў на стале, пастаяў ля парога.

Завіруха сціхае, мякчэе мароз,
І далёкая болей не страшыць дарога.

*1956*

## МАМА

Калі пушок прабіўся над губою
І ў сны прыйшло дзявочае імя,
Я ні аб чым не раіўся з табою,
Матуля адзінокая мая.
Мне сорамна здавалася часамі
Сярод хлапцоў — цыбатых забіяк —
Назваць цябе, як у маленстве, «ма-ма»,
Таму часцей не называў ніяк.
А вечарамі, слова не сказаўшы,
Ішоў блукаць каля чужых варот
І пазіраў, як у акенцы нашым
Мільгаў у лямпе да світання кнот.
Не спала ты асеннімі начамі,
Хоць падала ад зморы галава,
Глядзела ў змрок вільготнымі вачамі,
Прывычная да гора удава.
Ты прала кужаль, ты капала гліну,
А ў час жніва зусім не чула рук,
Ды гаварыла ласкава пра сына:
«Хай падрасце, няхай паспіць сынок»,
І зноў сама збіралася па дровы,
А ў валасах гусцела сівізна —
«Хоць бы сказаў ён ласкавае слова,
Хоць бы, як колісь, мамаю назваў».
...Прайшлі гады. Мы пасівелі самі,
І, мабыць, крыўдна мне не аднаму,
Што гэтае святое слова «мама»
Сказаць ужо няма каму.

*1957*

# СЛЯДЫ

*Памяці Н. А. Войткі*[1]

Месячныя ночы, як тады,
Калі мы, не верачы ў разлукі,
Па сцяжынцы беглі да вады
Удваіх, пабраўшыся за рукі.

Ты пытала: «Ну нашто, зачым
Гэтыя таемныя сустрэчы?»
Але зноў да берага Пцічы
Мы ішлі з табою кожны вечар.

Ты, нібы шукаючы гусей,
Берагам ка мне ішла з усмешкай,
І на дымнай чэрвеньскай расе
Толькі засталіся нашы сцежкі...

...Месячныя ночы на Пцічы
Пахнуць мёдам і мурожным сенам,
Але, даўняй сцежкай ідучы,
Я цябе ніколі не сустрэну.

Белыя туманы на Пцічы,
Месяц за дуброваю знікае...
Я адзін блукаю ўначы,
Клічу і ніяк не прычакаю.

Дагараюць росы на траве,
Засцілае вочы горкім дымам.
Клічу я, хоць знаю, што табе
Не прыйсці ніколі з Асвенціма.

Пад вярбой ля самае вады
Двое незнаёмых абняліся,
Дзе твае маленькія сляды
На пяску вільготным засталіся.

*1958*

## НАЧЛЕГ

Ці многа патрэбна старому каню?
Наскубся і спутаны стаў ля агню.
Касцёр дагарае, і прысак ачах,
Мільгае агеньчык у цьмяных вачах,
На доўгую грыву раса асядае,
І нават чуваць, як трава маладая
З зямлі прабіваецца, цёплай і волкай,
І пахне сасоннік празрыстаю смолкай.
Курыцца туман над палянай лясною,
І дрэмлецца добра у лесе вясною.
На цёплым кажусе, на першым начлезе
Мне сніцца — лясун на алешыну лезе,
Трымае ў руках сукаватую палку
І з возера кліча дадому русалку.
У лёгкім тумане, пад месяцам сінім,
Яна азываецца крыкам гусіным,
На бераг выходзіць, расчэсвае косы,
А з іх, нібы ягады, падаюць росы.
Скаціліся кроплі, як дзве журавіны,
На белыя грудзі суседскай дзяўчыны,
І голас знаёмы я чую спрасоння,
Што піць паскакалі да возера коні.
Я вочы расплюшчыў — пад дзікаю грушай
Даспелыя косы начлежніца сушыць.
— Каму ты шаптаў і ўсміхаўся спрасоння? —
Пытае яна і глядзіць з-пад далоні.

*1959*

## ТВОЙ ГОЛАС

Тут сонца і ружы у скверы,
Тут спеюць інжыр і хурма,
І цяжка адразу паверыць,
Што недзе ў Сібіры — зіма,

Што хмары, звісаючы нізка,
Дарогі вадой залілі,
Што восень у нас і над Мінскам
Ляцяць і ляцяць жураўлі,

Што голыя мокнуць асіны,
Што з клёнаў апалі лісты,
Ад іх, як ад лапак гусіных,
Наўкол чырванеюць сляды.

Мне так закарцела дадому,
Пакуль не мінуў лістапад,
І раптам знаёмы-знаёмы
Твой голас паклікаў назад.

Даводзіла ты мне старанна,
Што трэба на поўдні пажыць...
Я чуў, што дрыжыць не мембрана,
А радасны голас дрыжыць.

Здалося, нібы ўвачавідку
Мы побач з табою стаім
І провада тонкую нітку
Сагрэлі дыханнем сваім.

Бо шчасце не ведае меры,
А шчасця без веры няма.
Няхай жа і ў нашыя дзверы
Не грукае болей зіма.

І раптам, не скончыўшы сказа,
Ты змоўкла: хвіліны прайшлі...
І зноў над хрыбтамі Каўказа
Аднекуль ляцяць жураўлі.

*1960*

## ВЕРА

*У. Мяжэвічу*[1]

Ты помніш калючыя сінія зімы?
Ты помніш глухія сігналы адбою?
Ты помніш разлукі?
І толькі Радзіма
Была неразлучна са мной і табою.

Здавалася, ўсё засталося ў мінулым,
І мы анікога на свеце не мелі,

Мы клікалі... Ноч азывалася гулам,
І белыя сосны ў трывозе нямелі.

Мы трацілі ўсё да апошняе ніткі
І толькі ніколі не трацілі веры,
Мы чулі здалёку, як білі зеніткі
І білася сцюжа ў настылыя дзверы.

Нам сніліся часта гудкі паравозаў,
Дарога на фронт і свінцовыя буры,
Мы марылі разам прайсці, як Матросаў,
Апошнія крокі к чужой амбразуры.

Ніхто не паслухаў, ніхто не паверыў,
І дзеці забыліся нашы імёны...
Ад рання да ночы грымелі сякеры
І падалі наўзніч бярозы са звонам.

Нас бачылі толькі глухія дарогі,
Сляды замяталі суровыя зімы.
Мы ў дні адступлення і ў Дзень Перамогі
Былі неразлучны з табою, Радзіма.

Мы верылі ў праўду тваю неадступна,
Таму і жылі, і любілі без меры
Трывогі, салюты, і дзень твой наступны,
І сілу тваёй непадкупнае веры.

*1962*

## ЛАСІНЫ СЛЕД

На досвітку па хрусткай стыні,
Паміж алешын і асін,
Страсаючы рагамі іней,
Брыдуць мацёрыя ласі

І ловяць мяккімі губамі
Тугія парасткі альхі.
Над пасівелымі гарбамі
Ляціць слупамі снег сухі.

На досвітку у лесе ціха,
Курыцца сіняя імгла,
Але ўстрывожана ласіха
Угору вушы падняла.

І, прыхінуўшыся да вецця,
Глядзіць за снежныя валы,
Здалёк чуваць, як свішча вецер
У варанёныя ствалы.

І лес, і снег у чыстых зорах,
У срэбных пацерках кусты,
Але ласіха чуе шорах,
І скрып, і пах за тры вярсты.

Завея замяла дарогі...
Якочуць недзе ганчакі,
Закінуў лось на спіну рогі,
Бяжыць ласіха ў хмызнякі.

Праз буралом і крутаяры,
Шарпак ламаючы таўсты,
Яны ў гушчар ляцяць у пары
І ў кроў збіваюць капыты.

Гарачы след у змроку тоне.
З густое снежнае імглы
Шуміць шалёная пагоня,
І свішча вецер у ствалы.

Дыміцца сцежка колкім снегам,
Клубамі сцелецца гання...
Азваўся лес тужлівым рэхам,
І ўсё замерла. Цішыня.

Адразу стала пуста ў лесе,
Смала іскрыцца на кары,
І толькі след на стылым снезе
Гарыць палоскаю зары.

*1962*

* * *

Ты, мабыць, добра ведаеш сама,
Што ні ў дарозе, ні ў сваім пакоі
Мне без цябе ні радасці няма,
Няма ні паратунку, ні спакою.
А прыйдзе ж дзень, і нехта з нас дваіх
Адзін у адзіноце застанецца.
Напэўна ты.
І ўжо да рук маіх
Ніколі аніхто не дакранецца,
Ім больш не дацягнуцца да пяра
І да твае далоні пры сустрэчы,
І нечакана гора, як гара,
Твае прыцісне вузенькія плечы.
Ніхто цябе не выйдзе сустракаць
Ні ў летні дождж, ні ў лютаўскую замець,
І толькі часам будзе дакараць
Надоўга патрывожаная памяць,
Што не паспела нечага сказаць,
Што нечага спытаць не мела часу,
Што радасць і пакуты не звязаць
І не пачуць ніводнага адказу.
Але пакуль жывецца — будзем жыць,
Задумваць не на дзень, а на стагоддзі,
Каханнем, хоць і познім, даражыць
Пры ветранай і сонечнай пагодзе,
І ўсё, што набалела, расказаць,
Нічога не забыцца, не адкласці,
Сустрэчнаму дарогу паказаць,
А час надыдзе — на ходу упасці.

*1962*

## ТАБЕ ЗАЙЗДРОСЦІЦЬ СОНЦА

*Тані*

Тваймy юнацтву пазайздросціць сонца,
А радасцей хапае на дваіх,
Табе ўжо не трэба абаронцы, —
Ты абароніш і сябе і іх.

Ад зайздрасці і крывадушнай злосці,
Ад чэрствасці, спакусы і хлусні
Па праву непадкупнай маладосці
Ты і сябе і блізкіх барані.

І не прасі ні ласкі, ні апекі,
Ні дапамогі чулае радні.
Ты ж напрасткі пераплываеш рэкі,
Гартуешся на сцюжы і агні.

І не шукай удачы выпадковай,
Што крышыцца і гнецца у руках
Стаптанаю іржаваю падковай,
Пакінутай на пыльных бальшаках.

Лаві губамі пругкі вецер мая
І абдымі асмужаны прастор,
Твая ж рука гарачая трымае
Сцяблінку, што дацягнецца да зор.

Ты перайначыш колеры і формы,
Ты выратуеш кволых, ледзь жывых,
У навальніцы, у завеі, штормы
І горы ўпадуць да ног тваіх.

Ты сілу сэрца, розуму і цела
Сваёй зямлі хоць сёння б аддала.
Табе ў вочы сонца паглядзела,
Зажмурыўшыся ад твайго святла.

***1962***

## ДУБОВЫ ЛІСТ

Стаяць дубровы ў жнівеньскай красе,
Ляцяць у вырай жураўлі і гусі,
Дубовы ліст, у жылках і ў расе,
Мне нагадаў абрысы Беларусі.

Яго мая кранаецца рука,
А ён нібыта выкаваны з броні,
І жылка кожная дубовага лістка
Злілася з жылкамі маёй далоні.

*1962*

## СЛОВЫ

Над намі словы уладараць.
Мы чуем і гаворым іх.
Яны то здружаць, то пасвараць
Сяброў і ворагаў маіх.

Бо словы розныя бываюць.
Адны — агню стрымаюць шквал,
Другія словы забіваюць
Усё жывое напавал.

Ад слова сэрца халадзее,
Праходзяць сон і забыццё,
Ад слова рушацца надзеі,
Ад слова свеціцца жыццё.

Ад слова вырастаюць крылы,
А ў сэрца стукае любоў,
Ад слова прыбываюць сілы,
Дык не шкадуйце шчырых слоў!

А здатным толькі на дакоры
І гучна словамі грымець,
Каб не прыносіць людзям гора,
Было б найлепей анямець.

*1962*

## СУНІЧНЫ СОК

Праходзяць летнія дажджы,
Сляпыя, цёплыя, грыбныя.
Ты ногі ў росах палашчы,
І сэрца соладка заные,

Суніцы спелыя збірай,
Няхай палае сок барвовы,
І напрасткі, нібыта ў рай,
Ідзі ў зялёныя дубровы,

Дзе пад дажджом і перуном
Іскрыцца мокрае улонне.
Прапахнуць горкім палыном
Твае і шчокі, і далоні.

І я знайду твае сляды
На багунах і мяккіх травах,
Калі ж ты вернешся сюды
Уся ў вясёлкавых аправах,

У кроплях сонца і дажджу,
У сініх пырсках навальніцы,
Цябе я болей не пушчу
Адну па спелыя суніцы,

А за табою крок у крок
Пайду збіраць суніцаў прысак
І пакаштую свежы сок,
Што на тваіх губах не высах.

*1963*

## ДАЧКА

Званкі і голас незнаёмы
Мяне трывожаць кожны раз,
І тое, што знікаеш з дому
І што вяртаешся не ў час.

А тут і дождж сячэ па шыбах,
Скуголіць вецер як знарок,

І за сцяной, нібыта выбух,
Грыміць па бруку кожны крок.

Усе спяшаюцца кудысьці
Праз вецер і праз дождж густы,
У шыбы стукаецца лісце,
А мне здаецца — гэта ты.

Калі ж ты вырасла, дачушка,
Калі паспела пасталець?
То ціха плачаш у падушку,
То пачынаеш раптам пець.

Чакаеш вечара ад рання,
Хапаеш плашчык на бягу,
Каб не спазніцца на спатканне,
І недзе мокнеш на рагу.

Што ж, я цябе не сунімаю,
Адказваю на ўсе званкі
І ўсё часцей успамінаю,
Што сам калісьці быў такі,

Што не адважваўся спазніцца,
Калі мінула дваццаць год,
Што на спатканне ў навальніцу
Праз ручаіны бег уброд...

А вось трывожуся заўсёды,
І неспакой душу дзяўбе,
Калі і ў добрую пагоду
Няма да поўначы цябе.

Мая трывога вочы засціць,
Душы спакою не дае,
Бо я трывожуся пра шчасце
І пра няшчасці ўсе твае.

*1963*

## ХМЕЛЬ

Гудзе у вербах жоўты чмель,
І млее ўсё ў ліпнёвым звоне,
Шуміць званец, і горкі хмель
Хвалюе кроў і б’е у скроні.

З табою мы ў спякотны дзень
Прытулку лепшага не мелі, —
Забеглі пад шырокі цень
І тут ад шчасця анямелі.

На цёплай маладой траве
Мы прыпыніліся пад хмелем,
Шумеў званец, і ў галаве
Званочкі сінія звінелі.

Гады сплывалі ў забыццё,
І рэкі нашыя змялелі,
А мы з табой на ўсё жыццё
У летні поўдзень ахмялелі.

*1964*

## ПАЧАТАК

За Глускам, у глухіх барах,
Яшчэ маё блукае рэха,
І дзень суніцамі прапах,
Даспелі першыя арэхі,

І золкі золак на Пцічы
Мяне штодня дадому кліча,
Дзе расцвітаюць касачы
І дзе гады зязюля лічыць,

Дзе каля цёмнае вады,
На вузенькім пясчаным мысе,
Мае дзіцячыя сляды
Дасюль, магчыма, засталіся.

Я іх ніколі не знайду,
Не адшукаю хісткай кладкі,

А ўсё ж лячу к сваймy гнязду,
К сваймy адзінаму пачатку.

*1965*

* * *

Як я жыў без цябе?
І не ведаў, што недзе на свеце,
За глухімі лясамі,
За сотнямі ўзгоркаў і меж,
Не на дальнім сузор'і,
А у нас на планеце
Ты ў зялёным і ціхім
Завулку жывеш.

Як я жыў без цябе?
А маглі ж не сустрэцца ніколі,
За паўкроку
Адно аднаго абмінуць,
Разысціся,
Як сцежкі расходзяцца ў полі,
І не знаў бы,
За страту каго папракнуць.

Мабыць, трэба было
Праваліцца у пекла,
Траціць блізкіх,
Пакутаваць, мерзнуць, гарэць,
Ратавацца,
Каб лютая сцюжа не ссекла,
Каб цябе пад Палярнаю зоркай
Сустрэць і пазнаць
І адразу забыцца аб крыўдзе,
Каб убачыць праменьчыкі
Ў зрэнках тваіх,
Нарадзіцца ізноў
І паверыць, што прыйдзе
І збавенне, і шчасце
Адно на дваіх;
Падабрэць, памякчэць,

Назаўсёды скарыцца
Непадкупнай
Суровай тваёй чысціні,
Каб істоты тваёй
Адкрываць таямніцы,
Каб душу гартаваць
На высокім агні.

Час ляціць і ляціць,
Завіруха завеяла скроні,
Пакідаюць насечкі
Гады на ілбе.
Я гляджу на цябе,
Я дзіўлюся і сёння,
Чым я жыў без цябе,
Як я жыў без цябе?..

*1965*

* * *

Нас разлучалі вёрсты, і гады,
І цёмныя аснежаныя далі.
Мае дарогі і мае сляды
Сыпучыя снягі пазамяталі.

На ломкі пласт лажыліся пласты,
Завеі скавыталі, як шакалы.
З усіх дарог вярталіся лісты,
А ты мяне гукала і шукала.

Ішла на поўнач, ехала на ўсход,
Мяняючы прыпынкі і вакзалы.
Міналі дні, ішоў за годам год,
І сэрца шлях адзіны падказала.

Неспадзявана, як у снежні гром,
Як у глухую поўнач промень сонца,
Нібы жар-птушка з вогненным пяром,
Ты да мяне ляцела на трохтонцы.

Шчаслівыя, да самага відна
Сядзелі мы, пабраўшыся за рукі,

І верылі, што толькі смерць адна
Над намі мае права на разлукі.

*1965*

* * *

Будзь музаю маёй,
Маім натхненнем
І ласкаю;
І казкаю жывой,
Маёй надзеяй і маім сумленнем,
І толькі будзь заўжды
Сама сабой.

Няўмольнаю, спагадлівай,
Вясёлай,
Маўклівaю і надта гаваркой,
У дождж іскрыся
Чыстаю вясёлкай,
У спёку стань
Крынічнаю ракой,

Прымі мяне
У залатое лона,
Ад смагі дай
Гаючую ваду,
І я з твайго
Чароўнага палону
Ніколі сам нікуды не пайду.

Твайго святла
Ужо нішто не засціць;
Ты для мяне,
Як зорка на зямлі;
Таму з табой
У горы і ў няшчасці
Заўсёды мы
Шчаслівымі былі.

Ты не даеш
Сабе і мне спакою,
Бо нам супрацьпаказаны спакой.

Свяці вясёлкай,
Стань жывой ракою,
Надзеяю
І музаю маёй.

*1965*

## НА КАТКУ

Бывае, што ў часіну адпачынку
Канькі і пада мною зазвіняць
І хочацца цыбатую дзяўчынку
На віражы дагнаць і перагнаць.

Мільгае патэфоннаю пласцінкай
Блакітны затуманены каток,
І, як іголка, тонкая дзяўчынка
На лёдзе робіць за вітком віток.

Яна ў тумане іскаркай здаецца
Далёкага юначага агню,
Паблісквае канькамі і смяецца,
Што я яе ніяк не даганю.

Яна віецца, кружыцца, лятае.
Яшчэ рывок — і зноўку абміне,
Бялявая, высокая, як тая,
Што некалі адстала ад мяне.

Жанчына каля сіняга сумёту
Трымае шалік, паліто і боты.
Я паглядзеў у вочы і пазнаў:
Дык вось каго калісьці даганяў.

*1965*

## ЗВАНЫ

Не верыў ён ні ў д’ябла, а ні ў Бога,
Ні ў казкі заімшэлай даўніны,
А слухаліся званара глухога
Раскацістыя, гулкія званы.

На самы верх па выбітых приступках
Ён уцякаў ад смутку і журбы,
Дзе на плячо садзіліся галубкі
І лапаталі крыллем галубы.

Глядзеў удалеч, на лясныя нетры,
На спелы луг і хвалі ярыны
І ўсёй істотай слухаў, як ад ветру
Гулі і захлыналіся званы.

Часамі вочы поўніліся жалем,
Калі глядзеў навокал з-пад рукі,
І перад ім трымцелі і дрыжалі
На прывязі жывыя языкі.

Ён ведаў іх і мову, і натуру,
І голас, і настрой, і лад, і склад.
Калі вызвоньваў святы і хаўтуры
І біў у гулкі звон, як у набат,

Маланкі ў поўнач рассякалі хмары
І шыліся ў падстрэшша кажаны.
Ён першы бачыў зыркія пажары —
І цемру раскалыхвалі званы.

А скаланула неба навальніца
Раскатамі не грому, а вайны —
Хіснулася старэнькая званіца,
І плачам захлынуліся званы.

Цягнула дымам з недаспелых ніў,
Па званары ніхто не пазваніў.

*1969*

## КАЗКА

Не верачы ні ў прымхі, ні ў прыкметы,
Ачуняю, толькі памажы:
Завары мне ліпавага цвету
І старую казку раскажы.

Задрамлю, і можа, зноў прысніцца,
Што прынесла з поплава сюды
Вечна маладая чараўніца
Прыгаршчы гаючае вады.

Смагаю апаленыя губы
Да яе далоняў прыкладу
І, сябе ратуючы ад згубы,
Вып’ю жыватворную ваду.

Водар дзівасілу і жывіцы
Свежасцю дыханне апячэ.
Ачуняю. Толькі чараўніца
Ад мяне нікуды не ўцячэ.

З ёю будзем усміхацца краскам,
Пазбіраем росы на траве,
Каб аддаць таму, хто верыць казкам
І на свеце за дваіх жыве.

Расчыні акно насустрач лету,
Не хвалюйся і не варажы, —
Завары мне ліпавага цвету
І, як праўду, казку раскажы.

*1970*

## ЛЯСЫ, ЛЯСЫ...

Падсочаны лес,
Як падсечаны лёс,
Моліць ратунку
Ў зямлі і ў нябёс,
Хоць і не верыць
Збавенню і цуду
І не чакае

Адмены прысуду.
Мечаны доўгімі
Шрамамі лес
Сцішыўся, сохне,
А кожны парэз,
Быццам крывёй,
Заплывае жывіцай,
Гаячы раны,
Каб зноў ажывіцца.
Але падпісан
Смяротны прысуд,
Хвоі гудуць,
Як парожні сасуд.
Горда смяротнікі
Ўзнялі галовы,
Мабыць, гавораць
Апошняе слова.
Тут не туманяцца
Росныя ранкі,
Чэзне багун,
Нават сохнуць паганкі.
Капаюць слёзы
З глыбокай насечкі —
Сосны смалой
Аплываюць, як свечкі,
Хоць і парэзы
Не ўсе адбалелі,
Кроны ад смагі
Даўно пабялелі,
Голле пакрыла
Смяротная плесня.
Страшна і ўдзень
У асуджаным лесе.
Больш ён зялёным
Не ўкрыецца пылам —
Хутка свістаць тут
Сякерам і пілам,
Хутка лаўжы
Затрашчаць на агні,
Стануць, як помнікі,
Белыя пні.
Чуеце? Ноччу

На ўсе галасы
Стогнуць і просяць ратунку
Лясы.

*1970*

## ПРАЛЕСКІ

Дурманілі ядловец і смала,
І на таполях клейкія пупышкі,
І ты набгом бярозавік піла
З халоднай запацелае гладышкі.

Па кроплі сок, салодкі і густы,
Сцякаў на мох і леташнія трэскі.
Ад радасці аж закрычала ты:
«Глядзі, пралескі! Першыя пралескі!»

Я з іх у росах, буйных, нібы ртуць,
Хацеў табе букецік скласці.
«Не трэба, не чапай. Няхай растуць
Другім на радасць, некаму на шчасце».

З таемнай красавіцкае глушы
Нас клікалі зязюлі ў пералескі,
А ў поўным запацелым гладышы
Твае сінелі вочы, як пралескі.

*[1970—1977]*

## ВЫРАТАВАННЕ

*Н. Гілевічу*

Сваю тугу
Сагні ў дугу,
А калі не —
Яна сагне
І выб’е з рук
Апошні круг —
Тваё выратаванне
Ў бязмежным акіяне.

І не кажы,
Што ўсё адно
Плысці ці рынуцца на дно.
Выратавальны круг
Лаві
І сам плыві,
Плыві, плыві.
Хоць берага і не відно
І не дастаць нікому дно,
А ты плыві з апошніх сіл,
І рукі, быццам пара крыл,
Аб хвалі б’юцца да зары,
Бо ёсць надзейныя сябры
На светлым беразе крутым
І ты заўжды патрэбен ім.
Калі ж ты галавой панік,
Яна, як цяжкі каласнік,
Цябе пацягне ў чорны вір,
На рыфы вострыя, у жвір.
Адчай з тугою у душы
Ты без ваганняў заглушы
І выйграеш няроўны бой
І перш за ўсё
З самім сабой.
Нальецца сілаю рука,
Калі агеньчык маяка
Засвеціцца,
І даплывеш
Да берага,
Дзе ты жывеш.

***1971***

## СІВЫ САЛАВЕЙ

*Памяці Міхася Забэйды*[1]

Падбіўся ў дарозе сівы салавей,
Нядужыя крылы падрэзала стома,
Далёка ад майскіх вішнёвых завей,
Прыстаў на ўзбярэжжы, далёка ад дому.

Яго навальніцы хрысцілі агнём,
З падкрылкаў ляцела крывавае пер’е,
Дарогі заслала густым туманом,
Заблыталі сцежкі адчай і нявер’е.

Падбіўся ў дарозе сівы салавей,
Расінку глынуў, і адхлынула стома,
Ачах у высокай звільжэлай траве,
Далёка-далёка ад роднага дому.

Як толькі душою крыху акрыяў,
Як толькі паверыў, што зноў уваскрэсне,
Забулькала ў горле у салаўя
Нідзе не забытая матчына песня.

Становіцца пер’е сівей і сівей,
Адзін на чужым узбярэжжы начуе
І журыцца вечна сівы салавей,
Што маці ніколі яго не пачуе.

*1971—1981*

## ШЫПШЫНА

Праціналі яе навылёт халады,
Ледзяныя снягі замяталі на кручы,
То цяпла не ставала, то чыстай вады,
І з гадамі рабіўся шыпшыннік калючы.

Не хапала заўсёды чагосьці ў жыцці,
Толькі вечна жыла неадольная прага
Хоць у познюю восень яшчэ расцвісці
На крутым узбярэжжы крывінкамі ягад...

Калі сцюжа астудзіць жывую душу,
Можа, каліва я па сабе не пакіну,
І пакуль не замоўк, аднаго папрашу:
На грудку ў галавах пасадзіце шыпшыну.

*1965*

* * *

Зямля, я з табою ў сусвеце імчуся
Праз лета і восень у замець зімы,
Гляджу, як вяртаюцца з выраю гусі,
І толькі назад не вяртаемся мы.

Нам часу бракуе спыняцца ў дарозе,
Калі над Зямлёй — апраметнае цень.
Мы ў клопатах вечных, у вечнай трывозе
Пра светлае ранне і заўтрашні дзень.

Зямля, я з табою ў сусвеце імчуся,
Калі ж мяне спішуць з майго карабля,
З табою ніколі я не разлучуся:
Ты прымеш мяне назаўсёды, зямля.

*1980*

## СПАДЧЫНА

*Памяці паэта-маладнякоўца*
*Янкі Бобрыка*[1]

Забіла сыпкімі снягамі
Сцяжынкі ўсе і бальшакі,
Вятры сухімі трыснягамі
Шумяць, шумяць каля ракі.

У полі ветрана і гола,
Звіняць ільдзінкі на страсе,
А я чакаю балагола,
Што госця з Менска прывязе.

Пад вечар зарыпелі санкі,
Прысталі коні ля двара,
І вось ужо ў абдымках Янкі
Смяюцца маці і сястра.

І да мае шчакі прыпала
Яго калючая шчака.
Прывёз ён «Спадчыну» Купалы
І кніжачкі «Маладняка».

А ноччу доўгай і завейнай
Госць, не прыткнуўшы галавы,
Пры бляску лямпы трохлінейнай
Чытае байкі Крапівы.

І хата поўная рагоча
Ад «Бібліі» і ад «Асця»,
Бо ўсе суседзі да паўночы —
У Янкі Бобрыка ў гасцях.

А як разыдуцца, я зноўку,
Хоць класціся даўно пара,
Дапытваюся пра Дубоўку,
Пра Пушчу і пра Дудара.

Хацелася пра ўсё дазнацца
І ўласную адкрыць душу,
Але ніяк не мог прызнацца,
Што сам употайкі пішу.

Яму, празрыстаму ў блакадзе,
Прыходзіў родны дом у сны...
Застаўся ён у Ленінградзе,
Навек, без блізкіх, без труны.

І зразумеў я ў час вячэрні,
Што ён, бядзе сваёй назло,
Мне перадаў жывое зерне,
Каб хоць сцяблінкай прарасло.

*1980*

## І ПЕРШЫ, І АПОШНІ...

Надыдзе чорная, як сажа,
Ноч непазбежная мая,
І «Добры дзень» ніхто не скажа,
А скажа, — не пачую я.

І на званкі па тэлефоне
Нікому ўжо не адкажу,
Як нетутэйшы, як старонні,
Пераступлю цераз мяжу

І не паспею апраўдацца,
Пакаяцца ў сваіх грахах,
Шапну «даруй», а можа здацца,
Што адымае мову страх.

Не, ўсе трывогі адбалелі
За столькі летаў, столькі зім,
Што стала ад завеяў бела
І ў сэрцы холадна маім.

Жыццё прабегла нечакана,
У вечнасць канулі гады,
І шэрым інеем заткана
Мая заранка назаўжды.

Я колісь да яе цягнуўся,
Пакуль не змогся, не прыстаў,
Ламаўся часам, ды не гнуўся,
Хоць зорку так і не дастаў.

Сябры, даруйце. Недарэчы
Патурбаваць прыйдзецца вас,
Каб паднялі мяне на плечы
І першы, і апошні раз.

*1980*

## МЯСТЭЧКА

Цвіце за аселіцай грэчка
У роснай лясной старане,
Далёкае наша мястэчка
Забыла, напэўна, мяне.

А мне яно сніцца і сніцца
У пыле пясчаных дарог,
Апошні званар на званіцы,
Глухі і ссівелы, як Бог.

Старыя замшэлыя дахі
Гарбарняў, дамоў і адрын,
Сады і садкі каля шляху
І хмельны салодкі язмін.

Да самай апошняе рыскі
Усё тут знаёмае мне:
Пад бэлькаю крук ад калыскі,
Шпакоўня на гулкім гумне.

Складаю далоні і клічу
Равеснікаў даўніх маіх
І юныя бачу аблiччы
Жывых і даўно нежывых.

Мяне не пазналі суседкі
Сягоння такога, як ёсць,
Таму запрашаю у сведкі
Забытую тут маладосць.

Прыпомню: рыпелі качоты,
Плылі пад чаромхай чаўны,
І месяц глядзеў на пяшчоты
Семнаццатай нашай вясны.

Маўчаць і схіляюць галовы
У рэдзенькіх пасмах сівых
Даўно адзінокія ўдовы
Сяброў незабыўных маіх.

У будні і ў гучныя святы
Схіляю і я галаву,
Нібы сапраўды вінаваты,
Што за аднагодкаў жыву.

Смыліць, як у сэрцы насечка,
Як самы шчымлівы радок:
Мястэчка, мястэчка, мястэчка —
Навек дарагі гарадок.

*[1980—1981]*

## РАЗУМЕННЕ

Я ўпаду адразу, як ад кулі,
На паўкроку абарвецца след,
Моцна сцісну вусны, каб не чулі,
Як шкада пакінуць гэты свет.

Свет маіх пакут і спадзяванняў,
Радасцяў, якіх не прычакаў,
Свет ружовых і туманных ранняў,
Што і я калісьці сустракаў.

Упаду адразу, як ад кулі.
Вось і след снягамі замяло,
Год міне, а пра мяне не чулі,
Быццам і на свеце не было.

*[1980—1981]*

## ЧУЖЫЯ

Даўно адцураліся дзеці
І маці, і роднай зямлі,
Даўно разбрыліся па свеце,
А шчасця свайго не знайшлі.

Ім сняцца прысады уранку
І след на халоднай расе,
І люты віхор, што буслянку
Раскідаў ушчэнт на страсе.

Ім сняцца пахілыя вербы,
Магільныя сняцца крыжы,
Забітыя вокны і дзверы
І горкае слова «чужы».

Чужы на бацькоўскім парозе
І на зааранай мяжы,
Чужы на зарослай дарозе
І на раздарожжы чужы.

Ужо не ўратуюць замовы,
Малітвы і зёлкі, калі
Сваёй адцураешся мовы,
І маці, і роднай зямлі.

*[1980—1981]*

# КАРАЛІ

У Каралішчавічах каралі
Заўзята рэзаліся ў карты
І прагулялі, прапілі
Свае маёнткі не на жарты.

Звялі па Свіслачы лясы,
Што — ні маліны, ні арэха,
І на жывыя галасы
Азвацца не здалела рэха.

Праз паўстагоддзя недзе тут,
У лесе, што даспеў за лета,
Знайшлі сабе утульны кут
І раманісты і паэты.

Зрубілі ладны смольны дом
Непадалёку ад сталіцы,
І выдаюць за томам том
Яны на кніжныя паліцы.

Маланкі свецяць уначы,
Ласі па росных сцежках блудзяць,
І так рагочуць пугачы,
Што класікаў часамі будзяць.

Вавёркі баюць казкі ім,
Спяваюць раніцай сініцы,
І каля возера кілім
Паслалі спелыя суніцы.

Тут сцежка ў кожнага свая,
Таму і не абыдзем іх мы.
На гэтай — сыкае змяя,
На той — звіняць заўсёды рыфмы.

Збіраюць з раніцы ў цішы
І раманісты і паэты
Нектар гаючы для душы
І нечаканыя сюжэты.

Пад кожным дрэвам і кустом
Знаходзім лірыкі прыкметы,

Таму і любім гэты дом
Зімою, восенню і летам.

За пералескамі — палі,
І жыта сонцам налілося...
Што прагулялі каралі,
Нам назаўсёды дасталося.

*[1980—1981]*

## ДЗВЕ РАДАСЦІ

Твае усмешкі мне, як падарункі,
Тваё прызнанне, як шчаслівы лёс.
Я на цябе гляджу цераз карункі,
Што сплёў на шыбах ранішні мароз.

Аднолькава шчаслівыя абое
Спяшаемся ў завейныя сады,
Дзе па крутых сумётах за табою
Не паспяваюць познія гады.

А мы ўцячэм ад іх у снежны вечар,
Каб замяла завея кожны след,
Няхай асыпле іней нашы плечы,
Як той далёкі яблыневы цвет.

Калі ж бяда падкосіць на паўкроку,
Хоць з ёю, можа, спраўлюся і сам,
Ты да мяне спяшаешся здалёку,
Каб падзяліць пакуты напалам.

Як лёгка нам з табою ў лад ісці
З дрыгвы і багны на круты пагорак,
Бо радасць на дваіх — дзве радасці,
А гора на дваіх — паўгора.

*1981*

## НЯМІГА

Іду па Нямізе. Нямігі няма:
Глыбока ў бетоне булькоча рачулка.
Увесну яна не раскоціцца гулка,
Яе не зашкліць, не заснежыць зіма.

І зоры ў Нямізе сябе не пазнаюць,
Праз брук не праб'юцца чарот і аер,
Напіцца не прыйдзе спалоханы звер,
Ліні на глыбокіх вірах не зліняюць.

На дне іржавеюць тупыя мячы,
Пустыя шаломы, каляныя стрэлы:
Тут некага доля ліхая сустрэла,
А нехта адбіцца не мог і ўцячы.

Крывёю курыліся поймы Нямігі,
У прорву ляцелі чаўны і стругі,
Пякельны пажар папяліў берагі,
І толькі на свеце нятленныя кнігі

Як вечныя сведкі пакутнай зямлі
Расказваюць горкую праўду сурова,
Што брамы і замкі знікалі, а слова
Чужынцы павек спапяліць не змаглі.

...Іду па Нямізе адзін уначы
У замеці лютай, калючай і белай
І чую, як свішчуць каляныя стрэлы
І глуха грымяць аб кальчугі мячы.

*1981*

## КУПАЛЛЕ

Славу Купалу пяём, пяём...

*З народнай песні*

На Купалле зорна, зорна,
На Купалле росна, росна,
На Купалле хлопцу горна,
А дзяўчыне млосна, млосна.

Дагарэць кастры над рэчкай,
За вадою, за туманам
Паплыве за свечкай свечка,
За вянком вянок — да Яна.

Можа, сыдуцца вяночкі,
Загайдаюцца на хвалі?
Ой, кароценькія ночкі!
Ой, трывожнае Купалле!

Ціха дзеўчына спявала:
«Хоць кароценькая ночка,
Адгукніся мне, Купала,
Каб сысціся удваёчку,

Каб пабегчы па пракосах
Непрыкметнымі, як здані,
Каб ніхто слядочкаў босых
Не разгледзеў на світанні.

Перапёлкі за дубровай,
У нявыпрастаным жыце
Варажбою ці замовай
Нашы сэрцайкі звяжыце».

Сонца выплыла па росах
І купалася ў тумане,
Зіхацела ў спелых косах
У Купаўкі на выданні.

Доўгі век ім накувалі
Дзве зязюлі ў жытнім полі:
Ні Купала, ні Купалле
Не забудуцца ніколі.

*1982*

## ВЕЧНЫЯ

Пад кожнаю сасной схіліся ніц:
Яны ўзышлі з прастрэленых вачніц,
Смалою плачуць сосны у бары,
Тут засталіся і мае сябры.
З іх кожны быў, як песня, малады, —
Па дваццаць пяць, па трыццаць тры гады,
Рамантыкі, натхнёныя паэты,
Іх песні і паэмы недапеты,
І не паспелі дакахаць яны, —
Ў свет не прыйшлі іх дочкі і сыны.
За што ж іх каталі і забілі?
За тое, што Радзіму і народ любілі.
Іх прыхадні судзілі пяць хвілін,
Імёны іх не ведаў ні адзін,
Не разумеў ні слова, ні радка,
Але падпісвала калматая рука
Прысуды на расстрэл, нарады для стралка.
Магчыма, той стралок яшчэ жывы
І мае ўсе ільготы і правы,
Ў яго не прытупіўся колкі зрок,
Бо ён жа варашылаўскі стралок,
Пры ордэнах, пры планках — пры парадзе.
Бо быў у «Смершы» і «заградатрадзе»,
Умеў, каму патрэбна, дагадзіць,
Па звычцы ў кожную патыліцу глядзіць.
Баліць душа да гэтае пары,
Што ні магіл, ні помніка — ў бары,
Бо у чыноўніка рука дрыжыць,
Але ўсё роўна будуць вечна жыць
І ў будучыню прыйдуць з даўніны
Народа вечна юныя сыны.
Скразныя Курапаты знаем мы, —
Ад Брэста і да Калымы.

*[1984]*

## РАЗМОВА З АЛЯКСЕЕМ ПЫСІНЫМ[1]

Пражытага штодня цяжэе ноша,
І ўсё глыбей разоры на ілбе.
А што ў тваёй дывізіі, Алёша?
Ты пачакай, мы прыйдзем да цябе.

Твой голас не замоўк і не замоўкне.
Пакуль мы тут, не пацішэе ён,
Пакуль увосень пад дажджамі мокне
У Краснаполлі адзінокі клён,

Пакуль з арбіты не сышла планета,
І ў бой ідзе дывізія твая,
Каб не было павек сканчэння свету,
Каб не замоўкла песня салаўя,

Каб на світанні выпала пароша,
Сняжынкі раставалі на губе...
Ну, што ў тваёй дывізіі, Алёша?
А ў нашай...
Пуста без цябе.

*1984*

## 19 КАСТРЫЧНІКА[1]

Здрабнелі зоркі ў тую ноч,
І месяц заблудзіўся дзесьці.
Мяне вядуць у змрок, а воч
Ніяк ад дому не адвесці.
Яшчэ зірнуў апошні раз
І ад пакуты аж заенчыў,
Калі ў маім акне пагас
І без таго слабы агеньчык.

Шумела лісце, дождж імжыў,
У сцены біўся вецер з гулам.
І з гэтае хвіліны жыў
Я не ў наступным, а ў мінулым.
Паўзла дарога, як змяя,
Пранізваў холад мозг і цела,

І знічка ранняя мая
У чорным небе праляцела,

І след яе адразу знік
На заімглёным небакраі,
Не замаўкаў над намі крык
Начное крумкачынай зграі.
Вязуць. Не ведаю куды,
І так прыспешваюць таропка.
Няўжо у дваццаць тры гады
Лёс і на мне паставіў кропку?

Вязуць па вуліцах пустых,
Я не ў сваёй, а ў іх уладзе.
Мутнее зрок, тупее слых,
У думках — поўнае бязладдзе,
Не мог тады я зразумець
Той таямнічае работы,
Што будуць дваццаць год рыпець
І па душы таптацца боты.

Як толькі ўспомню чорны год
І ноччу страчаную волю,
Астудзіць спёка, быццам лёд,
Завея апячэ да болю.
Дажыў я ўсё ж да сівізны,
Як ні ламалі, ні малолі,
А вось сябры маёй вясны
Дамоў не вернуцца ніколі.

За імі спалены масты,
І сцежка даўняя глушэе,
Крышталь адвечнай мерзлаты
Аздобіў брацкую траншэю.
Яе карэнні аплялі
І дол сціскае невыносны.
Каторы год на той зямлі
Гайдаюцца над імі сосны.

А я жыву. І вось ізноў
Гляджу, як з клёна лісце льецца.
Паклічу ў госці ўсіх сяброў,
Хоць і ніхто не азавецца.
Пабачылі б яны хаця

Наш новы дзень, і свет зялёны,
І вернутыя з забыцця
Святых пакутнікаў імёны.

*[1987]*

## СТРАЧАНАЯ МАЛАДОСЦЬ

Я шукаю цябе, маладосць,
Я гукаю цябе, маладосць.
Дзе ты ёсць? Дзе ты ёсць?
Маладосць адказала:
«Заляцеў ты ў сіло,
І таму маладосці ў цябе не было.
Юнаком згаладалым
З палескіх дарог
Пехатою прыйшоў
І прабіцца ты змог
Да натхнёнай работы,
Да шчырых сяброў,
Аж кіпела у жылах юначая кроў,
Ды на ўзлёце цябе
Захліснула сіло,
І таму маладосці ў цябе не было.
Незваротную сцежку
Да роднае хаты
Засланілі надоўга
Іржавыя краты.
У вялікім натоўпе ты быў адзінокі...
Замаўкалі штодзённа пакутнікаў крокі.
Ты ў дарозе лічыў
За вялікае шчасце
Не прыстаць, не спыніцца,
Каб толькі не ўпасці,
Дапаўзці да парога,
Зваліцца на нары
І яшчэ ўратавацца
Ад новае кары.
Ты пачаў забываць,
Кім ты быў, хто ты ёсць,
Як цябе абмінула твая маладосць.

Ты не бачыў радні,
Ні вясновых садоў
Дзевятнаццаць гадоў,
Дзевятнаццаць гадоў!
І таму адзінокі,
Стамлёны, нясмелы
Ты з юнацтва вярнуўся
Дамоў пасівелы.
Вочы засцілі слёзы,
Завея і дым.
Кім ты толькі не быў?
Ды не быў маладым.
Мабыць, добра цяпер
І самому відно:
Маладыя цябе перагналі даўно.
Нават будні для іх — урачыстыя святы,
А здабыткі твае
Больш падобны на страты.
Адыходзяць усе, як часовыя госці.
Не шукай і дарэмна не кліч маладосці.
Паглядзі: падрастае надзейная змена.
Ты шчаслівы, што век дажываеш сумленна».

*[1987]*

## ЗГАСЛЫЯ СВЕЧКІ

*Памяці Алеся Розны*[1]

Звалілася бяда, нібыта камень:
Мяне мой друг пакінуў без сяброў,
І мне здалося — белымі вянкамі
Укрылася спакойнае Дняпро.

На Беларусі — яблыневы снежань,
І салавей спакою не дае,
Дзяўчаты на пясчаных узбярэжжах
Спяваюць песні першыя твае.

На Беларусі — месячныя ночы
Засыплюць срэбрам цёмныя сады,

А маці і варожыць, і прарочыць,
Што сын з выгнання прыйдзе малады.

Ёй кожнай ноччу мроіцца і сніцца,
Што праз завеі і здзічэлы лес
Праб’ецца і паціху ў аканіцу
Пастукаецца сын яе Алесь.

Каторы год не спіць, і мроіць маці,
І чуе крокі сына ля акна,
Кагоры год у апусцелай хаце
І днём і ноччу моліцца яна.

Але ніхто не скажа ёй ніколі,
Што ў тую ноч, калі прысніўся сын,
Калі душа заходзілася болем,
Яго хавалі каля трох асін.

У гушчары тайгі без дамавіны,
Засыпаны зямлёю назаўжды,
І толькі з адзінокае рабіны
Сцякалі кроплі дажджавой вады.

Шуміць тайга над братняю магілай,
І слёз няма, і не хапае сіл
Злічыць усё, што Беларусь згубіла,
Стаптаных лёсаў і зламаных крыл.

І я, магчыма, следам за сябрамі
Пакіну свой барак без забарон,
І нехта пажартуе каля брамы:
— На «волю» едзе з біркаю і ён.

Дзяўчаты заспяваюць на Купалле,
Русалка карагоды павядзе,
І там, дзе слёзы матчыны упалі,
Патухнуць нашы свечкі на вадзе.

*[1987]*

## РЭКВІЕМ РУКАПІСАМ

Казалі — рукапісы не гараць,
А я аднойчы бачыў, як гарэлі
У печы Галубковы акварэлі,
Як вершы адпраўлялі паміраць,
Сагрэтыя яшчэ жывым дыханнем,
І ласкаю, і трапяткім каханнем,
А кажуць — рукапісы не гараць.

І як яшчэ гараць! І колькі іх згарэла
У печах патаемнага двара,
Што зеўралі, як д'яблава нара,
Душа паэм навекі адляцела,
Што так дайсці да кожнага хацела
Пасланцам весялосці і дабра,
Ды знікла ў полымі казённага кастра.

Не стануць рукапісы кнігамі ніколі,
Не дакрануцца чулае душы,
Халодны попел як ні варушы,
Што датляваў па дзікай волі,
З вятрамі знік ён у бязлюдным полі,
Якое не засеяць, не ўзараць...

А кажуць — рукапісы не гараць.

*[1987]*

## СЦЮЖЫ

Ад сцюжы сэрца халадзела
І прамярзала навылёт,
Шурпацела, як тарка, цела,
Не раставаў на вейках лёд.

Не сунімалася завея,
Збівала і валіла з ног,
Здавалася, душа сівее,
А праведных карае Бог.

За паслушэнства і бязволле,
За непавагу да сябе,

За абыякавасць да болю,
Да кругана, што лоб дзяўбе.

А сцюжы? Сцюжы лютавалі,
Сляпілі вочы ледзяшы,
І часам рэбры прыстывалі
Да пасівелае душы.

Я так настыў у маладосці,
Я навучыўся так цярпець,
Што толькі спадзяюся косці
У крэматорыі сагрэць.

*[1987]*

## СТАРЫ МЛЫН

Не пытаюся, куды вядзе дарога,
Калі ёсць, дык некуды вядзе...
Пэўна, да млына таго старога,
Што даўно не меле, а гудзе.

Толькі вецер у кашах і ў скрынях,
Зарастаюць мохам латакі,
І ляжыць на бэльках, быццам іней,
Пыл калісьці змеленай мукі.

Не, не збіўся. Прывяла дарога.
Млын дрыжыць адбіткам на вадзе.
Пагукаў, але няма нікога,
Нават следу не відно нідзе.

На прантах парэпаліся жорны,
Пацукоў цікуе кот рабы,
На приступках і ў паддашшы чорным
Стогнуць і жыруюць галубы.

А было ж завознікаў памногу,
Жорны аж да поўначы гулі,
І вазы ў далёкую дарогу
Везлі мліва цёплыя кулі.

Паглядзеў на млын, нібы на страту
Даўніны забытай і нямой.
І сумеўся, разабраўшы дату,
Што забыты млын — равеснік мой.

*[1987]*

## БЫВАЙ

Дагарае захад, дагарае,
Зелянее на лугах туман,
Дзе ж ты, азавіся, дарагая, —
Даўняя надзея і падман.

Нашыя дарогі разышліся
На мяжы сумлення і маны.
Дзе ж ты, дарагая, азавіся
З прывіднай далёкай даўніны…

Нас ніхто ніколі не пачуе,
Мы знікаем, як начны туман.
Дагарае захад, і хачу я
Хоць у сне убачыць тонкі стан.

Юнаю, іскрыстаю прысніся
І мяне ні ў чым не дакарай.
Калі ж ты жывая, азавіся,
Каб было каму сказаць «Бывай».

*[1988—1989]*

## СЛОВА

Я пакараны адзінотай
На схіле доўгага жыцця,
І плачу, і бядую ўпотай,
І цешуся да забыцця
Туманным золкам вераснёвым
І пералётам жураўоў,
У сэрцы зберажоным словам,

Даўно пазбаўленым правоў,
Адроджаным і незабытым,
Закрэсленым і зноў жывым,
Прастрэленым, ды не забітым,
Адзіным родзічам маім.
Навекі слова застанецца,
Як жаўранак у сіняве,
І ў свеце рэхам азавецца,
Што Беларусь яшчэ жыве.

*[1989—1990]*

## АХВЯРЫ

Ахвяры лічым на мільёны
І ўсіх не можам палічыць,
Бо век зламаны і шалёны
Пакуль нічым не залячыць.

Не гояцца старыя раны,
І яшчаркі шукаюць спрат
У чарапах непахаваных
Яшчэ з тае вайны салдат.

А іх дасюль чакаюць маці,
«Без вестак» страчаных сыноў,
Ні месца ім няма на свяце,
Ні пенсіі, ні мірных сноў.

Бязгучна ў апусцелых хатах
Яшчэ жыве нязводны страх
І плач па тых, што ў Курапатах
Закончылі апошні шлях.

О, колькі іх, непахаваных
І не акропленых слязой,
Навекі юных і каханых
Пад мохам і пад дзеразой.

Ніхто ахвяр не злічыць зроду,
З маленства кінуты на звод

Дзяцей тых «ворагаў народа»,
Што так любілі свой народ.

З пустых вачніцаў Курапаты,
Як і даўней, у гэты час
Глядзяць з трывогаю, што каты
Усё яшчэ цікуюць нас.

*11 верасня 1990 г.*

## МАЛІТВА

Як некалі маліўся ў Глуску
На скрыжаванні трох дарог,
Малюся зноў па-беларуску
І веру — зразумее Бог.

Маё апошняе маленне
За ўсе малітвы карацей:
Малю не ставіць на калені
Маіх унукаў і дзяцей,

Бо настаяўся я ў няволі
За грэшнікаў і за святых,
Таму малю, Айцец, даволі
Караць маіх і не маіх

Нашчадкаў на зямлі пакутаў,
Дзе хіжы д’ябал правіў баль,
Усіх калючкаю апутаў
І душы закаваў у сталь.

Магутны Божа, днём і ноччу
Адзінай літасці прашу,
Не засляпі нашчадкам вочы,
Ратуй нявінную душу

Ад жорсткасці і ад здзічэння
І катам не аддай на здзек,
Бо на каленях з нараджэння
Я прастаяў увесь свой век.

Ратуй нас, Божа, ад напасці,
Дзяцей — ад торбы і турмы,
Ад «волі» і такога «шчасця»,
Якое церпім толькі мы.

*[1990—1991]*

## СТУК

Стук мяне палохае ўначы,
Нават калі дома не начую,
Бо вярзецца, як звіняць ключы,
І каваных ботаў крокі чую.

Сцюжа працінае да касцей,
Калі нехта тупае за мною,
Быццам хоча зноў паслаць «гасцей»
З ордэрам і страшнай навіною.

Я не сплю спакойна па начах
Вось ужо амаль што паўстагоддзя,
Бо дасюль не пакідае страх...
У чужыя дзверы стукаць годзе!

*[1990—1991]*

## ГОНАР БЕЛАРУСІ

Зямля мая ад Буга і да Сожа,
Ты мне за ўсё на свеце даражэй.
Няхай цябе усемагутны Божа
І нас, і наша поле беражэ.

Народ не будзе болей анямелым,
Ніколі нас не ашукае зброд.
Пад сцягам бел-чырвона-белым
Здабудзе шчасце наш народ.

Мы гаравалі звеку і давеку,
А мову і сумленне зберaглі,
Змагаліся за волю чалавеку
Святое беларускае зямлі,

Каб назаўсёды прашчуры і дзеці
У нашым светлым доме і ў гасцях
Пранеслі гонар Беларусі ў свеце
І бел-чырвона-белы сцяг,

Каб узмужнела воля у народзе
І расцвіла зямля, як сад.
І Беларусь свабодная ўзыходзіць
На вечны і пачэсны свой пасад.

*24 верасня 1991 г.*

## АСАЦЫЯЦЫІ

Турма на колах
Коціцца ў нябыт,
За кратамі мільгаюць перагоны:
«Кунгур,
Першауральск,
Ірбіт»
Выстукваюць таварныя вагоны.

А ў іх не быдла,
А засмяглы крык:
«Вады і хлеба! Забярыце мёртвых!»
Канвой рагоча, бо даўно прывык,
Бо падабраны з вопытных і цёртых.

На сценах іней,
На падлозе лёд,
Апошні ў печы вугаль дагарае,
І кожнага каторы год
І беззаконне і мароз карае.

У белую халодную Сібір,
У дзікія бураны і завеі
Усесаюзны гоніць канваір,
І ўвесь этап за тыдзень пасівее.

Апоўначы звалілі пад адхон
Парторга, багаслова і маёра.
Заместа помнікаў да гэтых дзён
Гарацьнад імі ледзяныя зоры.

Паверыў я, што адышлі ў нябыт
На колах турмы, і жыве надзея,
Што ўсё ў мінулым, але страшны быт
Схаваў душу, і сэрца халадзее,

Калі ў наколках юнакоў вядуць
Пад матчын плач і нейчыя праклёны
На сорам наш, на гора і бяду
У тыя ж «Спецыяльныя вагоны».

*[1990—1991]*

## НАРОД

Мы адзіныя, мабыць, на свеце,
Што забылі, як маці завуць.
Так і нас адцураюцца дзеці
І нялёгкі свой век дажывуць.

Нам не раз падсякалі асновы,
Выстаўлялі святыні на здзек,
Але матчына мудрае слова
Пераходзіла з веку у век.

Хто ж нятленную памяць нанова
І таптаў, і развейваў у прах?
І сумленне, і годнасць, і мову
Адымалі няволя і страх.

У душы незагойныя болькі
Развярэдзіў разбэшчаны зброд...
Мы насельніцтвам станем, і толькі,
Калі з моваю знікне народ.

*[1990—1991]*

## ПАД НЕБАМ БЕЛАРУСІ

Хацеў накінуць на сябе пятлю,
Бо змогся ад жыцця такога.
Здалося — больш нічога не люблю,
І кончылася цяжкая дарога,

І больш ужо няма куды ісці,
Ніколі ўжо не вырвацца на волю,
Бо не было ў маім жыцці
Нічога, апрача бяды і болю.

За вокнамі асенні дождж
Адлічвае апошнія хвіліны,
Прайду на развітанне басанож,
Перахрышчуся і... пятлю накіну.

Зірну наўкол праз вузкае сіло,
Намоклы шпак гайдаецца на гронцы,
І раптам нечакана узышло
З-за разарванай хмары сонца.

На вецці, на іглiцы, на лістах
Дрыжаць, нібы вясёлкі, завушніцы,
І адкаціўся неадольны страх,
Калі ў званы ударылі званіцы.

Што думаў з гора рукі налажыць,
Кляну сябе і сам сабе клянуся,
Што як ні горка, але трэба жыць
У Беларусі і для Беларусі.

***2 жніўня 1991***

## МАК

З усіх гарадоў зніклі макі.
А як цвілі! А як цвілі,
Нібыта сонечныя знакі
На шчодрай дзедаўскай зямлі.

Галоўкі сохлі ў кожнай хаце
Ад восені і да вясны,
Каб ноччу сніліся дзіцяці
Ружовыя святыя сны.

Напэўна, Богам пакараны
Знайшоў пякельны хмель дзівак,
І стаў пракляццем катаваны
Ружовы і чырвоны мак.

Сталочаны, стаптаны, змяты,
Пакінуты на звод і здзек,
Бо мак, ні ў чым не вінаваты,
Зрабіў злачынцам чалавек.

*8 жніўня 1991 г.*

## НЕВЯДОМЫЯ АКЦЁРЫ

Спектаклі на лагернай сцэне —
«Любоў Яравая», «Разлом»,
Наўрад хто як трэба ацэніць
Любоў і змаганне са злом.

Да ўзроўню трагедый падзеі
Натхнёна акцёры ўзнялі,
Калі Яравога з кандзея
Спектакль даіграць прывялі.

Ён грозны, пяшчотны і шчыры,
Варожы, а некаму свой.
На сцэну глядзяць канваіры,
Акцёраў пільнуе канвой.

І я на унжлагаўскай сцэне
Ў «Разломе» іграў Гадуна,
А заўтра у першую змену
Пагоняць грузіць дацямна.

На крок пахіснуся управа
Ці ўлева хіснуся на крок,
Мяне па уласнаму праву
На мушку паймае стралок.

За пільнасць падзяку заслужыць,
А я, забываючы боль,
Пад воплескі лютае сцюжы
Закончу апошнюю роль.

Я, дзякаваць Богу, не збочыў,
Не знік у галоднай журбе,
Ссівеў і ад рання да ночы
Іграю самога сябе.

Акцёры з рэжымнае зоны
Са сцэны траплялі на здзек...
Завея і сцюжа заслоны
Закрылі за імі навек.

*[1990—1992]*

## СУВОЙ ЖЫЦЦЯ

*Яўгеніі Пфляўмбаўм*

Такім натхнёным, юным і прыгожым
Наканаваны быў шчаслівы лёс,
Шляхі без ростаняў і раздарожжаў,
Без смутку, без адчаю і без слёз.

Разгортвалі і Вы на ўзлёце крылы
Чысцейшай галубінае красы,
І зачароўвалі пяшчотнай сілай
Дзявочыя, як песня, галасы.

Натхнёна Жэня, Зіна і Наташа*
Спявалі дзеля шчасця і святла,
Але ў злавесны век атруты чаша
Іх напаткала і не абышла.

Дарогі разышліся назаўсёды,
Сарваліся і змоўклі галасы.
Нягоды напаўзалі на нягоды,
Як майскі снег, як град, як маразы.

А Вы не страцілі лірычнай ліры
Ні ў горы, ні ў адчаі, ні ў тузе,
Яна была ратункам у Сібіры
І пуцяводнай зоркаю ў тайзе.

Яе збівалі лютыя бураны
І каты распіналі на крыжы,
Але і ў горы гоіліся раны,
Бяда не стала пусткаю душы.

---

* Я. Пфляўмбаўм, З. Бандарына, Н. Вішнеўская — паэтэсы-маладнякоўкі.

Як прывіды, прыходзяць успаміны,
Імёны і жывых і нежывых.
Пад ветразем натхнення вы павінны
Спяваць і хваляваццa і за іх.

Расстаўшыся з далёкай маладосцю,
Ў шчаслівыя хвіліны забыцця
Іду зачараваны, як у госці,
І развінаю Ваш «Сувой жыцця»*.

*[1992]*

* * *

Дагарае леташняе лісце,
Коцікі ўваскрэслі на вярбе,
Я чакаю ў змроку, як калісьці,
І не дачакаюся цябе.

Ведаю, — не прыйдзеш, а чакаю,
Можа, лёгкім ценем прамільгнеш,
Светлая, як ветразь, трапяткая,
Дзе ж ты так забавілася, дзе ж?

Нават наша хвоя учарнела,
Дзе ад шчасця заміралі мы.
Колькі ж гэта летаў праляцела
Ад тае вясны і да зімы,

Што навек з табою разлучыла,
Што не забываў і не забыць,
Што на сконе веку развучыла
Верыць, спадзявацца і любіць.

Ты ў блакітным ранішнім тумане,
У карунках зорнага святла
Недасяжнай, незваротнай зданню
Над зямлёй бясследна праплыла.

Я, дзівак, твайго шукаю следу
На пачатку кожнае вясны

* Падкрэсленыя сказы належаць Я. Пфляўмбаўм.

І прыходжу, каб ніхто не ведаў,
Да тае ўчарнелае сасны.

*16—17 красавіка 1992 г.*

## ВЯЧЭРНЯЯ МАЛІТВА

Да поўначы, укленчыўшы, хрышчуся,
У неба, у зорак і ў Бога малю
Даць волю і долю маёй Беларусі,
Вярнуць нашу мову, душу і зямлю.

Даўно мы знямелі, аглухлі, аслеплі,
Зайшоўся ад болю і голас, і зык,
Нас прыхадні гналі пад кулі і ў петлі
І вырвалі ў нашага Бога язык.

А Бог уваскрос, і жывы, і нязводны,
Распяты не раз без адходнай імшы,
У памяці нашай, у долі народнай,
У кожнай жывой акрыялай душы.

Зацятыя прыхадні енку не чуюць,
Бо ведаюць толькі: «крышы» і «карай»!
Пагардай і лютай знявагай лінчуюць
І мараць пра «Северо-Западный край».

Яго нашы продкі і мы паспыталі,
Але не здаліся пякельнай бядзе:
Прарока нам Бог даравАў на Купалле,
Каб ён запытаўся: «А хто там ідзе?!»

О, Божа магутны, малю і малюся:
Спрадвечныя нашы пакуты згадай,
Хоць ты заступіся за лёс Беларусі
І згінуць не дай.

*30 чэрвеня — 3 ліпеня 1992 г.*

## МАЎЧАННЕ

*Туга па Янку Скрыгану*[1]

Зноў цягнецца рука да тэлефона
І набірае лічбу 23...
А потым трубку кідаю ўтрапёна,
Бо толькі трубяць за акном вятры.

Я ведаю, ніхто мне не адкажа,
Не дазванюся і не напішу.
Глухая ноч, жалобная, як сажа,
Павольна завалаквае душу.

Апошні друг замоўкнуў назаўсёды,
Ад гора я нямею і дрыжу.
Каму цяпер пра ўсе свае нягоды
І дробязныя ўдачы раскажу?

Няма каму. Самота і маўчанне
Ў палоне доўгіх таямнічых сноў,
І верыцца, што ноччу або ўранні
У пекле ці ў раі пабачымся ізноў,

У цішыні ці ў гуле навальніцы,
Хоць пэўна і не ведаю, калі
Сустрэнемся, каб зноў нагаварыцца
Пра ўсё, што не сказалі на зямлі.

***20 верасня 1992 г.***

## НЕЗВАРОТНАЕ

*Памяці С. Э.*

Як цябе я любіў,
Ад вачэй і да пятак
Ты свяцілася ў змроку ружовым святлом.
Гэта быў нечаканага шчасця пачатак
Пад гарачым маім і пяшчотным крылом.

Як цябе я кахаў!
Як мяне ты любіла!

Мы з табою былі як істота адна.
Нас вяла і яднала таемная сіла,
Толькі шчасце было усяго давідна.

Адарвалі, забралі,
Пагналі кудысьці.
Толькі крыкнуць паспела: «Трымайся! Бывай!»
Не было ні надзей, ні ратунку, ні выйсця,
А пакут і разлук назаўжды — цераз край.

Не забыў, не забуду.
З такімі вачамі
Немагчыма ніяк размінуцца ў жыцці.
Я шукаю цябе, ты мне снішся начамі,
А магілы ніколі ў тайзе не знайсці.

*18 снежня 1992 г.*

## НЯВОЛЯ

Самая страшная кара — няволя,
Часамі страшней за імгненную смерць.
Зона маўчання без сценаў і столі,
Дзе нельга ні плакаць, ні голасна пець,

Дзе нельга кахаць і сустрэцца з каханым,
Дзе ўлічана кожнае слова і крок,
Дзе бачыць цябе цераз мушку нагана
Забойца, гатовы націснуць курок.

Жахлівае ўсё засталося ў мінулым,
А памяць раптоўна душу апячэ,
Як толькі дакоціцца плачам і гулам
Няволя, што недзе лютуе яшчэ.

Вярэдзяць душу успаміны да болю,
І я праклінаю любую няволю.

*25 мая 1993 г.*

## ПАМЯЦІ НЕНАПІСАНЫХ ВЕРШАЎ

Я вас тады не напісаў,
Калі вы стукаліся ў скроні,
І з сэрца іскры выкрасаў
У вечным д’ябальскім палоне.

Укормленыя гайдукі
За праўду горкую каралі,
І з намі шчырыя радкі
На лютай сцюжы дагаралі.

А мог жа нечаканы верш
Загоіць боль чужое раны.
А іх было ўсё менш і менш,
І кожны лепшы — пахаваны.

Там сосны выраслі даўно
І братнія датлелі косці,
І нават знаку не відно
Тае далёкай маладосці.

Заканчваю апошнія віткі,
Каб не ўглядацца больш у высі.
Шкада, што, мабыць, лепшыя радкі
На незваротных сцежках засталіся.

*21 мая 1993 г.*

## ЖУРАВЫ

И журавли, печально пролетая,
Уж не жалеют больше ни о ком.

*С. Ясенін*

Бывайце. Шчасліва ляцець, журавы,
Хай будзе бясхмарнаю ваша дарога.
Спяшаецца ключ, як на злом галавы,
Нібыта на споведзь да зор і да Бога.

Гляджу і зайздрошчу: няма ў вас граніц,
Над вамі то сонца, то морак настылы,

Нясуць вас праз дождж і агні бліскавіц
Нястомныя, дужыя, лёгкія крылы.

Калі ж вы ў мае завітаеце сны
Пакутам і даўнім трывогам на змену?
Вас будуць чакаць на пачатку вясны...
Даруйце, калі я, магчыма, не стрэну.

*18 верасня 1993 г.*

## АДЗІН РАДОК ЛЕМАНТАРА

Расшыфраваць прыйшла пара
Адзін радок лемантара.
«Мы — не рабы. Рабы — не мы».
А я, нібыта вол рабы,
Агаладалы і нямы,
З маленства трапіў у абоз
І ад зімы і да зімы
Цягну чужы вялізны воз
Уранні, ўдзень і ўночы,
Бо пад’ярэмны вол рабочы.
Пот залівае твар і вочы,
Крумкач пагібель напрарочыў,
Бо помніць абавязак свой —
Кружыць над кожнай галавой.
Я воз цягну з апошняй сілы
Ад нараджэння да магілы
І плачу, хоць не маю слёз,
Бо выпаў самы горкі лёс —
Не ведаць радасці ніколі,
Радзіцца у здзічэлым полі,
Дзе людзі радыя скарынцы,
Бо правяць каты і злачынцы
І лічаць воляю няволю,
Дзе сочаць хіжыя сычы
І свішчуць хлёсткія бічы.
Як ні стагні, як ні крычы,
Ніхто не хоча памагчы.
Таму не плачу, а крычу я,
Бо ведаю, — ніхто не чуе.
«Мы — не рабы. Рабы — не мы».

Мы — вязні даўняе турмы.
Дай Бог, каб сынавы сыны
Забыліся пра кайданы,
Не стукаліся ў сцены лбамі
І не былі, як мы, рабамі.

*[1993—1994]*

* * *

Пакойчык у фіранках і вазонах
Нарэшце я прыдбаў і палюбіў,
Але юнацтва на харчах казённых
Не выкрасліў з душы і не забыў.

Я не забыў пад'ёмы па загаду,
Завеі і гарачы пыл дарог.
Відаць, таму звычайную спагаду
Да кожнага, каму цяжэй, збярог.

І ўсё ж, відаць, не дарам сілы трачу,
Калі слабейшым памагчы хачу.
А не змагу — з чужога гора плачу
І толькі пра сваю бяду маўчу.

*[1993—1994]*

* * *

Не абміні чужой бяды,
Сабой не надта ганарыся,
Няхай спяшаюцца гады,
А ты вазьмі і прыпыніся:

Слабому працягні руку,
Сляпому пакажы дарогу,
Падай акраец жабраку,
Суцеш малога і старога,

Тады і познюю зіму
Усмешкай стрэнеш маладою

І не прыйдзецца аднаму
Застацца са сваёй бядою.

*[1993—1994]*

## ПАЧАКАЙ

Пачакай, маё сэрца, спыняцца.
Я ў дарогу яшчэ не гатоў:
Толькі часам трывожаць і сняцца
Мне завеі наступных гадоў.

Пачакай, маё сэрца, не трэба
Караціць укарочаны шлях.
Прыйдзе час, — паравернецца неба,
Згасне сонца ў асенніх палях,

Змрок на ўсё непражытае ляжа,
Змоўкнуць гром, галашэнне і спеў,
І ніхто за мяне не раскажа,
Чаго я расказаць не паспеў.

Пачакай, каб знянацку не ўпасці,
Пачакай, каб душу наталіць,
Каб убачыць сапраўднае шчасце
І з другімі яго падзяліць.

*[1993—1994]*

## НЯЗГАСЛАЯ ДУША

Ты пабудзь са мною, дарагая,
Хай душа адкрыецца душы,
Не зважай, што свечка дагарае
І яе дачасна не тушы.

Памаўчым, паверым у надзею,
Як у шчасце верылі спярша,
Не зважай, што сэрца халадзее,
Не астыла б чулая душа.

Мроіцца то росны луг, то рэчка,
Пылам незабыўны шлях курыць.
Ты пабудзь, пакуль датлее свечка,
А душа ніяк не дагарыць.

*9 студзеня 1994 г.*

## ЗОРНА, ВЕТРАНА, ЗІМА

За сняжынкамі сняжынкі
Паляцелі на палі,
За сцяжынкаю сцяжынкі
У юнацтва павялі.

Па гасцінцах Беларусі,
Каля снежных церамоў
У валёнках і ў кажусе
Я спяшаюся дамоў.

«Еду, еду. Поле, хаты,
Выязджаю на бальшак»*...
У сталіцу, як на свята,
Ехаў мой таварыш так,

Ехаў, марачы аб славе,
І ў бязвоблачныя дні
У старажытным Амсціславе
Запаліў свае «Агні».

Спадзяваўся: «Ўдача будзе.
Што ж, бывай, мой гарадок...
І натхнёна у «Таўрыдзе»**
За радком снаваў радок.

Заклапочаны і рады,
Усміхаўся ён вясне,
Вершы, часам пераклады
На хаду чытаў і мне.

Праляцела шчасце міма,
Слава бокам абышла,

* Радкі з верша Ю. Таўбіна[1].
** Назва першай яго кнігі.

Нечакана восень дымам
Той бальшак завалакла.

Я дамоў гасцінцам еду.
Зорна. Ветрана. Зіма.
Не відно юнацтва следу,
І сяброў даўно няма.

*[1993—1994]*

## ЗАКАХАНЫМ

Гляджу на маладых і закаханых,
Нібы здалёку на сябе гляджу,
Вясновай стомаю закалыханы
І шэптамі маруднага дажджу.

Здаецца, расхінаю гронкі бэзу,
Што расцвіце сягоння давідна,
І праз густы шыпшыннік пералезу
Да цёмнага высокага акна.

У цішыні дрыжаць на шыбах зоры,
І маладзік глядзіць у твой пакой,
Ты расхіні хоць напалову шторы
І хоць усмешкай сэрца супакой.

Далёкае прыпомніцца, як сёння,
Хоць зморшчыны не сцерці на ілбе,
І сівізна пасерабрыла скроні,
Каханая, ў мяне, а і ў цябе.

Мінула ўсё, і казачная стома
З табою разлучыла назаўжды.
Дзе ты цяпер? Нікому невядома,
І безнадзейна страчаны сляды.

Успамінаю даўнія гады я
І шчасце ад вясны і да зімы...
Шкада, калі такія маладыя
Расстануцца дарэмна, як і мы.

*16—17 студзеня 1994 г.*

* * *

Снег завейвае плечы
І маю галаву.
Да жаданай сустрэчы
Я наўрад дажыву.

Праз снягі і завею,
Праз начную жуду,
Я хутчэй пасівею,
Чым да любай дайду.

Толькі ўспомню аб свяце
У былыя гады
І адчую, што страціў
Я цябе назаўжды.

Незваротнаю стратай
Пакараў мяне Бог.
Мабыць, сам вінаваты,
Што цябе не збярог.

*2 лістапада 1994 г.*

* * *

Лісты не прыходзяць, няма тэлеграм,
Табе дазваніцца ніяк немагчыма,
І нават з адчаю не вып’еш сто грам,
Каб ты ажыла прад вачыма.

Магчыма, цябе і на свеце няма,
А ў памяці быццам — Мадонна святая,
Магчыма, сухімі снягамі зіма
Ці восень лістамі твой след замятае.

Пакуль я жывы, ты жывеш як жыла,
Адданая, прагная і трапяткая.
Шкада, што гняздо на дваіх не звіла,
Што сёння мяне ўжо ніхто не спаткае.

І я не праводзіў цябе назаўжды
У дождж ці ў крутыя марозы.

Імкліва бягуць за гадамі гады,
Як познія горкія слёзы.

*19 лістапада 1994 г.*

## АДНА НАДЗЕЯ

Я заўтра ўстану рана-рана
І працай смагу наталю,
Каб зажыла старая рана,
Масты ў мінулае спалю.

Улягу ў марную работу,
Хоць і не ведаю, калі
Па віражах, праз павароты
Я адарвуся ад Зямлі

І палячу ў такія высі,
Якіх не бачыў чалавек,
Хоць і загадваюць: «Вярніся»,
Імчуся ў дваццаць першы век,

Бо век. што ўжо даўно на сконе,
Прапах крывёй і дзікім злом,
Ад нараджэння і па сёння
Кляймёны д’яблавым таўром.

Вядзе пякельнымі кругамі
З пякельных і бяздонных сфер
Аслеплы, з вострымі рагамі
Люцыфер люты і цяпер.

А ў рай закрэслена дарога, —
Усталяваны гвалт і здзек,
Адна надзея што на Бога,
Каб блаславіў наступны век.

Усё, што рупіла, старанна
Зраблю, каб раны залячыць,
Таму і сёння ўстану рана,
Каб хоць душою адпачыць.

*21 лістапада 1994 г.*

## МІНАЕ ЛЕТА

Апошні дзень вясны закрэслю
У перакідным календары,
А ты мне за любоў і песню
Усмешку толькі падары.

Нас грэлі цёплыя пракосы,
Над намі воблакі плылі,
Як з келіха, ад смагі росы
З лілеі белае пілі.

На досвітку шаптала вецце
Нам зачараваныя сны,
Нібыта у дзівосным свеце
Былі з табою мы адны.

А тое лета так далёка,
Што нават не хапае слоў,
І толькі не сціхае клёкат
Шчаслівых, як і мы, буслоў.

Успамінаю і не веру:
Было яно ці не было —
Лілеяў водар і аеру,
І бусла белае крыло.

Навошта патрывожыў сёння
Расінку, што сплыла з павек?
Мінае лета. І на сконе
Шчаслівы наш і горкі век.

*1995*

## САМАСУД

Калі б я ўсё прайшоў спачатку
І разабраўся сам з сабой,
Я кінуў бы сабе пальчатку,
Як выклік на апошні бой.

Адпомсціў бы за ўсе пралікі,
За ўсе памылкі і грахі,

Кароткім здаўся б дзень вялікі,
І вузкай сцежкаю — шляхі.

Стамлёная душа знямее
І ёй не ўдасца дагадзіць,
Бо хто судзіць сябе не ўмее,
Не можа іншага судзіць.

***27 лістапада 1996 г.***

## САКСАФАНІСТ

На рыначным стракатым фоне
Іграў заслужаны артыст на саксафоне.
Было яму на золку не да сну, —
Завейваў снег густую сівізну,
Гучалі вальсы Штрауса, то туш,
І «зайцы» падалі часамі ў капялюш.
Ад лютай сцюжы ледзянелі пальцы,
У кедах ногі стылі на асфальце,
А ён іграў то маршы, то сюіты,
Як некалі, дзеля вышэйшай світы,
І вось нарэшце атрымаў свабоду
Іграць тутэйшаму народу.
Іграў натхнёна, як заўжды, —
Перабіраў настылыя лады.
Забыўся ён пра колішняе званне
І не сыходзіў з рынку да змяркання.
«Адзначыліся» сорак тры душы
Ў паношаным яго капелюшы.
Я непрыкметна, быццам цень,
Яго прыходзіў слухаць кожны дзень.
Але замоўк раптоўна саксафон.
Міналі тыдні, — не з’яўляўся ён.
Не змоўк базарны лямант, як бывала,
А мне усё чагосьці не хапала.
Знаёмыя казалі, што на сконе
Ён ціхенька іграў на саксафоне,
Што засталася ў музыканта змена,
Што сын іграў жалобны марш Шапэна,

І не змаўкаў да самае імшы...
Гудзе базар, ды пуста на душы.

*1997*

## САМ САБЕ...

О, колькі я зрабіў памылак
І сам сабе прынёс бяды.
Здавалася, быў, як асілак,
Цяпер няварты нікуды.

Мне кожны промах вочы коле,
Я ўсё жыццё ў сябе ў даўгу,
А выправіць ужо ніколі
Свае памылкі не змагу.

Зямным бажкам я не маліўся,
Пустой хлусні не давяраў,
Як ні ламалі, не схіліўся,
Душу нічым не замараў,

Не здрадзіў праўдзе і не збочыў,
Усё, што думаю, кажу,
І смела кожнаму у вочы
Цяпер, як некалі, гляджу.

Усім рабіць дабро стараўся.
А вынік? Вынік ледзь відзён,
І сам пакутнікам застаўся
Ад першых да апошніх дзён.

*1997*

## МОЙ ЛЕПШЫ ТВОР

*Дачцы Тані*

За Уралам, за белай тайгою
Кожнай шыбай, зашклёнай ільдом,
Пазірае ў завею з тугою
Мной калісьці пастаўлены дом.

Хтось рыпучыя топча масніцы,
Замятае на ганку сляды,
І нікому цясляр не прысніцца
У пару і пакут, і бяды.

Кожны вугал трашчыць на марозе,
Вецер свішча ў расколах тайгі.
Хто ж ступае па хісткай падлозе,
Я гадаю у вечар даўгі.

І прыпомню стажок за павеццю,
Завірухай замецены двор,
І шчаслівы, што некаму свеціць
Мой найлепшы завершаны твор.

*29 студзеня 1997 г.*

## АСАБІСТАЕ

Чаго я толькі не пабачыў,
Чаго, чаго не перажыў:
Часамі нават нешта значыў,
То злыдню нейкаму служыў.

Уставаў і клаўся па загаду,
На сцюжы лютаўскай пацеў,
І толькі быў таму і рады,
Што думаў так, як сам хацеў.

Я добра ведаў — жах не вечны,
Бяда не даканае нас,
Што ўсё ж надыдзе чалавечны,
Сумленнем благаслаўлёны час.

Чакаў яго дзесяцігоддзі,
Хоць і не верыў у падман,
Жыла надзея у народзе,
А ён знікаў, нібы туман...

То трaціў, то знаходзіў выйсце,
Прывычны да пакут і страт,
Ды горка, што, як і калісьці,
Часамі топча брата брат.

*1997*

## НЕПАЗБЕЖНАСЦЬ

Ніколі не верыў увішным цыганкам,
Што шчасце прарочылі ў доўгім жыцці,
Бо кланяўся нейчым прыступкам і ганкам
І ведаў — назад мне да іх не дайсці.

Што больш не вярнуся на даўнія сцежкі
Ні спорнаю і ні маруднай хадой
Туды, дзе калісьці гулялі у снежкі,
Пад вокнамі пелі з каляднай звяздой,

Дзе зычылі шчасце іскрыстыя вочы,
Дзе зырка шугалі Купалля лаўжы...
За воблікам воблік знікае дзявочы,
І бачацца толькі крыжы і крыжы.

Як дым разышліся мае аднагодкі,
Я зноў адзінокі ў апошняй чарзе,
Мой дзень дагарае, а вечар кароткі
З іскрынкаю ў светлай салёнай слязе.

Чакайце, хвіліны, і так не бяжыце:
Я рукі яшчэ на грудзях не злажыў.
Ад страты да страты два матчыных жыцці
Па свеце бадзяўся — то жыў, то не жыў.

Нічога ні ў кога я не патрабую,
Бо ведаю, час да прычала прыстаць.
Шкада толькі — некага ўсё ж патурбую,
Каб жменькай забытага попелу стаць.

*26 снежня 1997 г.*

## КОНІ

У цокаце, тупаце, звоне
Па гулкай вячэрняй зямлі
Ляцяць закілзаныя коні
І срэбныя мнуць кавылі.

Імчацца гарачыя коні,
Падковы звіняць і звіняць,

На белай і чорнай папоне
Іскрыстыя зоркі гараць.

Прароку на вечнай іконе
Усё да драбніцы відно —
І коннікі з бронзы, і коні,
Што недзе прысталі даўно.

А воўк згаладалы завые,
Агеньчыкі ў зрэнках мігцяць.
Крылатыя коні, жывыя,
Ляцяць ад пагоні, ляцяць.

*19 студзеня 1998 г.*

## ПАКАЯННЕ

*Табе і мне*

Дарагая! Ну вось мы з табой і сівыя,
Дачакаліся ўнукаў, а шчасця чакаем дарма.
За акном то дажджы, то завея завые,
То пастукае ў дзверы сівая зіма.
Мы з табою былі пад захмараным небам,
Нам здавалася — шчасця з гарчынкай стае,
Як настылае пайкі казённага хлеба,
Як усмешкі, як горкай слязінкі твае.
Мы чакалі сустрэч, але толькі разлукі
Чарадою адна за другою ішлі.
Сэрца сэрца шукала, а кволыя рукі
Нечакана настылыя рукі знайшлі.
Маладосць нечакана ўваходзіла ў сталасць,
І з паўслова душа разумела душу.
На апошнім вітку нам чагось не ставала...
Я і суд над сабой, і расправу вяршу,
І караю сябе за пралікі і страты,
І за тое, што ў многім адзін вінаваты.
Нас калісьці лічылі шчаслівымі ў свеце:
Гасцявалі ў сяброў і збіраліся ў нас.
Мы любілі дзяцей, шанавалі нас дзеці,
А з гадамі і гэты агеньчык пагас.
На апошняй вярсце, на апошнім парозе

Сэрца сэрцу патрэбна, рука — саслабелай руцэ,
Каб сумленна прайсці, што яшчэ засталося,
Покуль знікнем бясследна ў бяздоннай рацэ.
Ты прыйшла на зямлю пад Каляднаю зоркай.
Я цябе не збярог. Нас не мілуе лёс,
Як цяпер ні балюча, ні цяжка, ні горка,
Ты ўсё церпіш адна і маўчыш, як Хрыстос.
Дай Табе, Усявышні, хоць трошачкі шчасця,
Без трывог, без пакут, і бяссонных начэй,
Каб яшчэ пратрымацца, каб разам не ўпасці,
Покуль блізкім і родным не стане лягчэй.
Божа, дай Табе сілы да новага Веку,
Як святому няскоранаму Чалавеку.

*1974—1998*

## РАЙ НА ПРЫПЯЦІ

Мы з табою на зары
Стрэліся у Мазыры
І пайшлі, як дзівакі,
Да палескае ракі.
Збіла ты аб пень каленка:
«Пацярпі, не плач, Аленка,
Мы жывой вадой з ракі
Ўсе загоім сінякі.
Ты зірні, якая Прыпяць,
Аж гатоў да кроплі выпіць.
Вунь плывуць шчупак і жэрах.
Дык давай на правы бераг
Пераправімся абое
І пашэпчамся з табою,
Што рабіць нам, як нам быць —
Ці пакінуць, ці любіць?»
Памаўчаўшы, не адразу,
Дачакаўся я адказу:
«Я кашулю не здымаю,
Бо купальніка не маю».
«Я ж аббег з дзесятак лавак
І не дапытаўся плавак.

Кажуць: «Гэта ж не зіма,
Плавак ад вясны няма».
Мы ж з табою не малыя,
Кожны жменькаю прыкрые:
Адзін — гэта, другі — тое,
Самае, што ёсць святое.
А як хочаш, распраніся
І адразу акуніся.
Дзеля нашага спакою
Я прыкрыюся рукою».
Апынуўшыся ў рацэ,
Паплылі — рука ў руцэ,
Плёскаліся, як умелі,
І прыбіліся да мелі,
Глянулі на ўсе бакі,
Ці не бачаць рыбакі?
Не, нідзе іх не відно,
А тут цёпленькае дно,
Мяккі жоўценькі пясочак,
Мы ж без плавак, без сарочак.
Заплылі аж за буі,
Апынуўшыся ў раі...

Не было змяі, ні дрэва,
Толькі мы — Адам і Ева.

*8 лютага 1998 г.*

## НОВЫ КАЛЯНДАР

Нясу дадому новы каляндар —
Узятыя авансам дні і тыдні.
Я іх і падуладны, і ўладар,
Яны — мае і радасці, і злыдні.

Трывожная загадка — каляндар:
«Што дзень наступны мне рыхтуе?»
Ці суцяшэнне, ці удар,
Ці рыбку абяцае залатую?

Магчыма, нечакана лёс
Не дасць сарвацца і упасці,

Засцеражэ ад горкіх слёз
І незаслужанага шчасця,

Не ашукае гучным сказам,
А дасць найдаражэйшы дар —
Перагартаць з усімі разам
На Новае Стагоддзе каляндар.

*1999*

## СТАРЫ КОНЬ

Снег завейвае шчокі і вочы
І ляціць з цішыні ў цішыню,
Каб ніколі з дарогі не збочыць, —
Давяраю старому каню.

Палазня прападае няспынна,
Змрок — ні знічкі нідзе, ні агню,
Каб у замець такую не згінуць, —
Давяраю старому каню.

Каб прабіцца да торнай дарогі,
Я не тузаю і не ганю,
Не чакаю чужой дапамогі, —
Бо паверыў старому каню.

Нам абоім і цяжка, і горка,
А надзея адольвае страх...
Нечакана агеньчык на ўзгорку
Мільгануў — і выводзіць на шлях.

*19 студзеня 2000 г.*

## ТЭЛЕФОН

Даймалі тэлефонныя званкі
Ад рання і да позняй ночы:
То запрашалі ў госці землякі,
То нехта нешта пачытаць ахвочы.

Я кожнаму стараўся памагчы:
Паслухаць, падтрымаць, сустрэцца.
Вяртаўся ў непагоду і ўначы,
Не адчуваючы, як сэрца б’ецца.

Мае сябры знікалі назаўжды,
Бязмоўныя, з патухлымі вачыма...
Так пазваніць хацелася туды,
Куды ўжо дазваніцца немагчыма.

Я на самоце — многа год і дзён
Ніхто не запытае: «Як жывецца?»
Я кратаю маўклівы тэлефон,
Хоць ведаю — ніхто не азавецца.

*2001*

## ЗАМОВА

Чытаю замову за родную мову,
За шчасце і волю Зямлі.
Мы помнім знявагі, і здзекі, і змовы,
А вечную мову усё ж збераглі.

Яна, як сумленне, яна, як аснова,
Яна, як паходня, у дужых руках,
Бо матчына слова, бо родная мова
Свяціла і будзе свяціць у вяках.

*27 лютага 2001 г.*

## ПРАДЧУВАННЕ

Надыходзяць апошнія тыдні і дні.
Красавік капяжамі булькоча.
Не пачую радні, не пабачу радні,
Як навекі заплюшчацца вочы.

Набалелае сэрца радзей і радзей
За хвілінамі лічыць хвіліны,
На ратунак і радасці меней надзей,
Калі сняцца адны дамавіны.

Так зямныя пакуты закончацца ўсе,
Знікнуць болі, бяда і нягоды.
Невядома адно, хто душу панясе,
І куды панясе назаўсёды.

Шлях апошні зашэрхне вясновым лядком,
І ніхто не зажурыцца ў скрусе.
Спадзяюся, што некалі хоць бы радком
Да жывое душы дакрануся.

*26 красавіка 2001 г.*

## ПАЭЗІЯ

І мой скрануўся лёд
У 88-ы год...

Я шукаю паэзію. Дзе ты, паэзія?
То ўголас гукаю, то шэптам прашу.
Здаецца, на мукі ў пекла палез бы я,
Каб толькі сагрэць і суцешыць душу.

Дзе ж ты, паэзія? Дзе ты няўлоўная?
Шукаю з маленства да крайняй мяжы.
Знаходзіў драбніцы, а траціў галоўнае,
Ад гора сябе распінаў на крыжы.

Прасіліся ў сэрца харэі і ямбы,
Спяшаўся паставіць радок на крыло
Здавалася, ў радасці ўзняўся і сам бы.
Ды толькі паэзіі ўсё ж не было.

Сапраўдных паэтаў лічыў я Багамі,
Паэзія іх у бяссмерце вяла.
Нарэшце і сам зразумеў: пад нагамі
Паэзія ў кожнай расінцы жыла,

Жыла і жыве і ў травінцы, і ў слове,
У светлым і ў самым пякельным жыцці,
У вечнай, нікім не закрэсленай мове,
З якою ад веку да веку ісці.

Паэзія — ў шолаху жыта і бору,
У мудрасці мудрых, у ззянні вачэй,

У золку, калі — непагасныя зоры,
У бляску маланак трывожных начэй.

Паэзія — ў ясным разважлівым зроку,
У сэрцы збалелым і чыстым заўжды,
У шчырай усмешцы, упэўненым кроку,
У горкай слязінцы ў хвіліну бяды.

Паэзія — шчасце, што цяжка прыкмеціць,
І часам відушчы, нібыта сляпы,
З калыскі да скону блукае па свеце,
На радасць, спагаду і ласку скупы.

Шукаю Паэзію змалку да скону,
А я ж паўмільёна дарог абышоў.
Гляджу на Паэзію, як на ікону.
Шукаю яе.

І наўрад ці знайшоў.

*24 верасня 2001 г.*

## СУЦЯШЭННЕ

Магчыма, лічаныя застаюцца дні
Глядзець на сонца, месяц і на зоры,
Не бачыць ні сяброў і ні радні,
Не слухаць больш папрокі і дакоры.

Я змогся ад пралікаў і няўдач,
Аблытаны ружоваю маною.
Нібыта заварожаны крумкач,
Мой горкі лёс віецца нада мною.

Падводжу вынікі нялёгкага жыцця
І чую толькі водгукі нямыя,
У сэрцы боль і немач у касцях,
І сцюжу ад зімы і да зімы я.

Шапчу сябе: «Хоць радасць прыгадай,
Вясну і верасень у чыстай пазалоце»,
Але, як прывід, прамільгнуў мой май
Па апантанай д’ябальскай ахвоце.

Штодня за днямі ўспамінаю дні,
Пакутую, што некаму абрыдзеў,
Што дагараюць і мае агні,
І сонца для мяне ўжо не ўзыдзе...

Апошнія сляды завее замець,
А новыя нікому не прабіць,
Няхай нікога не трывожыць памяць,
А я суцешуся, што так павінна быць.

*3 кастрычніка 2001 г.*

## ДАРОГА ДА ВОЛІ

Свабода і Воля —
З адзінага поля,
З адзінага лёсу,
З адзінай мяжы,
Адна ў іх нядоля,
Адзіная доля —
Ці шчасце прыносіць,
Ці быць на крыжы...

*2002*

## АПОШНЯЯ ЭЛЕГІЯ

Адкахаў, адлюбіў, адсмяяўся,
Траціў болей, чым меў у жыцці,
І заўсёды усё ж спадзяваўся
Хоць жывую іскрынку знайсці,

Каб душу ратавала ад сцюжы
І свяціла у змроку начэй,
Падтрымала, калі занядужаў,
І любіла за ўсіх гарачэй.

Уяўляў яе светлай багіняй,
А сустрэўся аднойчы у дождж
І пабачыў у глеі і гліне
На пякельнай зямлі басанож...

Паглядзеў, памаліўся на неба.
Вось якая прыйшла навіна:
Вось якая мне толькі і трэба —
Як душа, назаўсёды адна.

Праімчала больш за паўвека,
Мы рабіліся ў горы дужэй,
Не была нам патрэбна апека,
Бо яна мне за ўсё даражэй.

Наш апошні рубеж недалёка.
Паратунку не знойдзеш нідзе:
Засталося, магчыма, паўкрока...
Хто ж апошні каго правядзе?

*11 жніўня 2002 г.*

# *Пераклады*

## НЕЗНАЁМКА

*З Аляксандра Блока*

Увечары над рэстаранамі,
Калі спякотны дзень патух,
Кіруе воклічамі п’янымі
Вясновы і атрутны дух.

Здалёк над мітуснёй завулачнай,
Над смуткам загарадных дач,
Ледзь залаціцца крэндзель булачнай,
І чуецца дзіцячы плач.

І кожны вечар за шлагбаўмамі,
Заломваючы кацялкі,
Паміж канаў гуляюць з дамамі
Дасціпныя жартаўнікі.

Над возерам рыпяць уключыны,
І чуецца жаночы піск,
А ў небе, да ўсяго прывучаны,
Скрывіўся адзінокі дыск.

І кожны вечар, як па звычаю,
Мой друг у шклянцы прамільгне
І пеннай, даўкай, таямнічаю
Аглушыць вадкасцю мяне.

А каля столікаў гадзінамі
Лакеі сонныя тырчаць,
І п’яныя з вачмі трусінымі
«In vino veritas» крычаць.

У пэўны час, якога прагнуў так
(Ці гэта толькі сніцца мне?),
Дзявочы стан, у шоўк зацягнуты,
Плыве ў задымленым акне.

Павольна пройдзе паміж п’янымі,
Як і раней, заўжды адна,
Дыхне духамі і туманамі
І сядзе зноў каля акна.

Павеюць колішняй аздобаю
Яе пярсцёнкі і шаўкі,
Капелюшок, пяро з жалобаю,
Празрыстасць вузкае рукі.

Прыкуты, як да самай блізкае,
За вэлюмам лаўлю пагляд,
Чароўны бераг тонкай рыскаю
За дзіўны вабіць далягляд.

Мне таямніцы ўсе даручаны,
Належыць сонца мне даўно.
Сваёй душой, да болю змучанай,
Я зведаў горкае віно.

Зноў пёры страуса замглёныя
У памяці маёй плывуць,
І вочы, сінія, бяздонныя,
На дальнім беразе цвітуць.

Ад скарбаў, што ў душы схаваныя,
Ключы належаць толькі мне.
Сцвярджае зноў пачвара п’яная:
Я знаю: ісціна ў віне.

## ЛІСТАПАД

*З Міхаіла Дудзіна*

На сцежцы высахне трыпутнік,
Прыціхне апусцелы сад.
Ідзе карцёжнік і пакутнік,
Растратчык шчодры — лістапад.

Паставіць стаўку. Прагуляе,
І зноўку набярэ ачкі,
І дуб зялёны размяняе
На залатыя пятачкі.

І пойдзе голыя даліны
Агнём астуджаным дражніць,
Рубіны вешаць на рабіны,
Лісты шыпшыны залаціць.

Дарэшты страціўшы багацці,
Зусім адзін збяжыць за лог.
А каб чырвоны плашч не страціць,
Аддасць малочніцы ў залог.

І свет захрумстае, іскрысты,
Ў карунках, зорным серабры,
З усмешкай шчодраю і чыстай
Увесь застыне. На двары

Скорагаворкамі сарокі
Сустрэнуць ранне. І даўно
Відзён у блёстках двор шырокі
Праз заінелае акно.

І за расстаўленыя строга
Ў папахах статныя стагі
Ляціць далёкая дарога
У свет бясконца дарагі.

# ЗОНА МАЎЧАННЯ

Я и Сам о Себе свидетельствую, свидетельство Моё истинно; потому что Я знаю, откуда пришёл и куда иду...

*Евангелие от Иоанна, гл. 8, стих 14*

## СЛОВА ДА СПОВЕДЗІ

*...Я пасціў дваццаць гадоў перад споведдзю. І вось настала пара маёй позняй восені, пара шчырай споведзі, бо зазімак стукае ў дзверы, а халодная кароткая вясна маіх няспраўджаных летуценняў прамільгнула даўно і незваротна.*

*На пачатку майго лета ўдарыў страшэнны гром, і лютая навальніца пагнала далёка ад дому на пакутніцкіх шляхах дзяліць горкі лёс з мільёнамі нявольнікаў, заплямленых страшэнным таўром 58-й пробы.*

*Я двойчы прайшоў усе кругі пекла і не зламаўся, не знік на таежных скрываўленых трасах. Смерць з дня ў дзень цікавала кожнага з нас, глядзела ў ашклелыя вочы і збірала шчодрую даніну. А я не паддаўся ёй.*

*У самай страшнай бядзе толькі чалавек ратуе чалавека, толькі дабро і спагада вядуць з цемры безнадзейнасці да жыцця і збавення. Нас з тысяч вярталіся адзінкі, з мільёнаў — сотні. Усё менен і менен застаецца сведак тае страшнае пары, калі кожны баяўся ўласнага ценю, не адважваўся прызнацца да закатаванага бацькі, а бацька — да сына, калі па праведнай крыві з рыпам ступалі катавы боты.*

*Усё наваколле ад небасхілу да небасхілу патанала ў змроку хлусні і казённай патэтыкі; бравурныя маршы і гучныя рапарты заглушалі людскі стогн, плач і зладзейскія стрэлы ў патыліцы сумленнейшых сыноў народа.*

*Асірочаныя дзеці пад гул бубнаў і горнаў, глытаючы слёзы, па камандзе дзякавалі «любімаму бацьку народаў за сваё*

*шчаслівае...» сіроцтва. Колькі іх не ведала сваіх бацькоў і мацярок?! Колькі іх шукала родныя магілы, не знайшло і не знойдзе ніколі?! Злачынцы ўмелі замятаць крывавыя сляды.*

*Я бачыў усё і ўсё перажыў. Лёс злітаваўся і наканаваў мне жывым выйсці з пекла і стаць Сведкам на Судзе Гісторыі. Я памятаю сотні прозвішчаў, імёнаў і аблiччаў сваіх пабрацімаў па няволі, што не выйшлі з пекла і засталіся ў вечнай мерзлаце. Я памятаю садыстаў-следчых, злачынцаў-«суддзяў», наглядчыкаў, лагерных начальнікаў і канваіраў. Памятаю ўсё да драбніц і клянуся кожным словам, кожным радком гаварыць толькі праўду, каб ведалі людзі і ніколі не далі сябе ашукаць прыгожай хлуснёй і д'ябальскім каварствам. Сведчу, каб нашы нашчадкі спазналі сапраўдную волю, роўнасць і шчасце на роднай акрыялай і расквітнелай зямлі.*

*Клянуся і сведчу.*

## «КРОК НАЛЕВА, КРОК НАПРАВА»

Ачмурэлыя ад густой і нясцерпнай задухі ў натрамбаваным арыштанцкім цялятніку, мы вывальваліся праз адсунутыя дзверы ў глыбокі снег і шчыльнае кола канвою. Лёгкія аж раздзірала свежае халоднае паветра. Пасля змроку ў закураным вагоне зіхоткі снег і звонкая сінява неба да слёз сляпілі вочы. У зрэнках круціліся каляровыя колцы, большалі, адплывалі, знікалі і кружыліся зноў. Ад доўгай нерухомасці на нарах і пад нарамі дранцвелі ногі, іх праціналі вострыя іголкі, і ступалі як чужыя.

Адна чыгуначная каляя блішчала паміж сумётамі і знікала ўдалечыні. Наўкол заінелыя лясы і лясы. Непадалёк, на сухастоіне, злавесна каркае варона, нібы прадчувае блізкую спажыву, відаць, прынюхалася да асаблівага арыштанцкага духу. Пакуль вылазілі апошнія, я разгледзеў непадалёк невялічкі дом з кругляка з пабітаю ржою шыльдаю: «Ст. Постой, Ж. Д. НКВД СССР». Вось і наш прыстанак. Ці доўга мы прастаім на гэтым Пастоі? Відаць, нехта з нас у гэтых лясах і снягах застанецца назаўсёды. Апрача станцыі, нідзе ніводнай душы, ні будыніны, ні дымка. Значыць, пагоняць некуды далей.

Глыбокі сыпкі снег п'яніў даўно забытым пахам змерзлай на сцюжы кужэльнай бялізны, цішыня і замецены снегам лес нагадвалі нешта роднае, страчаную і недасяжную волю.

Нас атачылі спераду, ззаду і з бакоў канваіры ў сівых шынялях і чорных кубанках, яны глядзелі на нас з насцярогаю і нянавісцю,

трымаючы напагатове доўгія вінтоўкі з штыхамі. Гляджу на іх і думаю: «Што ж вас пагнала на гэтую сабачую службу? І вы ж, як і мы, лагернікі, толькі па розныя бакі дроту? Хто вам увёў у вушы, што мы «ворагі народа»? Можа, сумленней і адданей нашаму ладу нікога за нас і няма, а ворагі тыя, што цэлы год нас мардавалі, выбіваючы няпраўду, каб сумленнейшых людзей падвесці пад «вышку» або загнаць на пагібель у шахты і ў гэтыя непраходныя лясы. Якому д'яблу служаць тыя, што апантана ламалі рэбры старым камуністам, што жанчынам заганялі ў саскі завостраныя алоўкі, што ножкамі крэслаў раструшчвалі пальцы ног і месяцамі гнаілі ў халодных і цёмных карцэрах? Гэта яны нас загналі сюды, а вас прымусілі трымаць нас на мушцы. Дзе ж тая праўда? Ці была яна, ці ёсць?»

Гэтыя пытанні другі год б'юць і б'юць у мазгі, выкручваюць душу, ні ўдзень, ні ўначы не даюць спакою. Тым часам з вагона ў снег скочваюцца старыя нямоглыя арыштанты. Яны тузаюцца і не могуць устаць, а нам не дазваляюць выйсці са строю і памагчы саслабелым. Убок адышоў невысокі, перацягнуты папругаю і партупеямі з жоўтым партфелем начальнік канвою і не па росце зычна скамандаваў: «Стро-о-ой-сс-я! Разабрацца па чатыры. Прадапраждаю: шаг улева, шаг управа, — нехта буркнуў: прыжок уверх, — прэкраціць агітацыю, — гаркнуў начальнік і закончыў даўно засвоеную малітву, — канвой страляе без прадупражджэння». Відаць, гэты бялыніцкі ці чавускі хлопец не аднаго свайго земляка і суседа справадзіў у апошні пагібельны шлях. Эх вы, пякельныя думы, няма ад вас ратунку!

Абапал лагернай аднапуткі стаяў змрочны, замецены снегам лес. Следам за намі кружыліся, кідаліся на сляды і зноў узляталі груганы, з елак з шоргатам спаўзала снежная навісь.

Большасць з нас былі ў паўчаравічках — на дзіравыя шкарпэткі, у папрэлых за паўтара года бадзяння па камерах галёшах, у выцертых, як рэшата, штоніках, падбітых ветрам пальцечках. Пашанцавала таму, каго забралі зімою, — у іх былі цёплыя паліто, шапкі, а то і валёнкі. Сцежка па цаліку вяла ў гушчар. Снег набіваўся ў чаравікі, раставаў і намярзаў ледзянымі брыжамі на калашынах штаноў. Ішлі моўчкі. У кожнага за плячыма на лямках — брудная, укачаная на нарах торбачка з арыштанцкімі трантамі.

Лес гусцее. Углыбіні відны заваленыя снегам вывараткі, зламаныя пад цяжарам замеці елкі, з верхавін з глухім вуханнем зрываюцца камякі снегу. Канвой з бакоў грузае па снезе па

самыя «ступіцы», ад злосці люцее, крычыць, мацюкаецца і без дай прычыны ляскае затворамі. Ідзём моўчкі, як пахавальная працэсія, толькі часам уздыхаюць і войкаюць старыя, а іх у хвост і ў грыву падштурхоўваюць прыкладамі.

Ішлі, ішлі і нарэшце прыбіліся да агароджы. На тоўстыя слупы аж у дзве рэдзі шчыльна нацягнуты калючы дрот, па вуглах пад дашчанымі стрэшкамі вартавыя вышкі, на іх у гаматных кажухах — стралкі. Тут ахоўнікаў завуць стралкамі: у іх адзіны абавязак — страляць. Каго, за што — нікога не цікавіць.

Вось і наш прытулак. Што тут нас чакае? Пакута і... смерць. Хто вытрымае дзесяць гадоў? Выцягваем шыі паглядзець, што там, за плотам. Тры дахі. Адзін даўжэйшы, два ніжэйшыя і карацейшыя. З комінаў лена паўзе шызы дым. Шарэюць прыцярушаныя снегам доўгія палаткі. Спыніліся каля шырокай брамы. Пры ёй маленькая хатка на два акенцы. Над брамаю на доўгай дошцы чырвонаю фарбаю напісана: «Лучковая пила и канадский топор — кратчайший путь к освобождению». Што за лучковая піла і канадскі тапор? — відаць, пазнаёмімся і будзем з іх дапамогаю скарачаць свой доўгі тэрмін.

Загадалі «разабрацца» па два. З прыбудоўкі выйшаў куртаты з шэрым тварам, у новых закасаных валёнках вахцёр, на абвіслай папрузе целяпаецца кабура з наганам. Стаіць, жартуе, зубаскаліць з начальнікам канвою. Адмыкаць не спяшаецца. Ногі закляклі, шчокі пакрыліся гусінымі пупышкамі і самі сабою дрыжаць, губы ледзьве варушацца. Адно жаданне: хутчэй бы пад дах, у цяпло. З зайздрасцю пазіраем на барак і з апаскаю на заінелыя палаткі. Яны-то, відаць, якраз і для нас. Барак даўно заселены.

З зоны на вахту паволі ідзе сярэдняга росту мужчына ў доўгім шынялі і кубанцы. Яны доўга гавораць з начальнікам канвою, закурваюць, нібыта нас і не бачаць. Нарэшце забірае ў начальніка канвою нашы фармуляры і становіцца каля расчыненай брамы. І зноў пачынаецца старая песня: прозвішча, імя, па бацьку, год нараджэння, артыкул, тэрмін. Выкліканы ідзе ў зону і чакае астатніх. Мы, сябры і знаёмыя па волі і перасылках, трымаемся адзін аднаго, каб быць разам і тут. Адзін за адным прайшлі ў зону. Каля нас круціцца губаты, шыракатвары блацяк з «фіксаю» на пярэднім зубе, у новым мультановым бушлаце, закасаных валёнках і з тоўстым кантовым кіем у руцэ. Відаць, ён нейкі лагерны начальнік, бо парадкуе нас, пакрыквае, марудных папіхае кантовым «воспитателем». «Адкуль, контрыкі, прывалілі?» Пачуўшы адказ, выскаляецца: «Бульба-картопа

дробненькая. А за Гомелям людзі ёсцяка, гы-гы-гы! Ну, варушыся, даўгалыгі трацкіст», — штурхае ён паважанага колішняга метадыста наркамасветы Жураўскага. Той ледзьве перaступае на распухлых, як налівачы, нагах.

«Усякайце. Значыць, так: я — ваш нарадчык Віцёк Мілашачкін. Зараз зоймем апартаменты, разаб'ём вас, жмурыкаў-саколікаў, на брыгады і пачнём іскупаць віну перад народам. Парадак такі: пад'ём у шэсць, развод у сем, з барака вылятай без апошняга. Маруднаму мой памочнік дапаможа», — ён рагатнуў і патрос кантовым дрынам. «За мною шагам марш!» — і павёў у доўгую заінелую палатку. З яе, з вытыркнутых бляшаных труб, валіў густы дым.

Палатка метраў на сорак нацягнутая на каркас з неакоранага падтаварніка, абапал вузкага праходу суцэльныя двух'ярусныя нары. Пасярэдзіне дзве печкі з бляшаных бочак, напаленыя дачырвана. Вокан няма. На прыбітых да слупоў паліцах дымяць тры газнічкі. Дымна, парна, і пахне паленым кортам. У паўзмроку на нарах у нечым длубаюцца невыразныя цені, замест фіранак паразвешваны брудныя каравыя парцянкі, ідзе едкая пракіслая пара ад мокрых бушлатаў. Хто захапіў месца пры печы, падсмажвае на ражэнчыку рэшткі пайкі, зманліва пахне прыгарэлым хлебам.

Мы, чалавек трыццаць, занялі верхнія нары, рэшту нашага этапу загналі ў суседнюю палатку. Пад намі настылыя сырыя дошкі. Ад пасцеляў мы адвыклі даўно: што на мне, тое і пада мною, у чым хаджу, у тым і сплю, тым і накрываюся. Турэмныя падлогі былі сухія, а тут сядзіш на макрэчы. Вецер ляскае намёрзлым брызентам палаткі, у вузкім праходзе снуюць, варушацца, штурхаюцца, падобныя на кажаноў, цені, працiскаюцца да печы, як чорныя кіпцюры, працягваюць да цяпла паскручваныя пальцы. Гэта чакае і нас. Мы ўпяцёх, сябры па волі і этапах, умасціліся побач. Са смакам нюхаем пах падсмажанага хлеба і глытаем слінкі. Нам сёння нічога не належыць: сухі паёк даўно з'едзены, а тут яшчэ не паставілі на катлавое ўтрыманне, вось і хаўкаем, шморгаем насамі і загаворваем адзін аднаму зубы, каб меней думаць пра хлеб.

Мой сусед, былы карэспандэнт «Известий» Валодзя Мяжэвіч, яшчэ не падобен на арыштанта: на ім добрае зімовае паліто з каракулем, цёмна-карычневы гарнітур з камізэлькаю, цёплая шапка, чаравікі з суконнымі гетрамі на гузічках. Усё пакамечылася, запылілася, але яшчэ нагадвае прэстыжнае мінулае гаспадара. З зайздрасцю пазіралі на гарачую печ, каб адагрэць

мокрыя змерзлыя ногі, але навічкам туды не прабіцца. Сушымся, пазвесьваўшыся з нараў. Умошчваемся не распранаючыся, пад галавою торбачка з рэшткамі трантаў пасля шмонаў, пражарак і крадзяжоў на этапах, на босыя ногі нацягваем мокрыя калошы штаноў. Ляжым з заплюшчанымі вачыма, а кроў стукае ў скроні, думкі ні на хвіліну не даюць спакою: што тут нас чакае, што будзе заўтра, праз месяц, праз год? А іх наперадзе дзевяць — больш за год адбыў у турмах. Дажыць хоць да лета. Успамінаецца, як даўно забыты фільм, такое далёкае жыццё на волі. Сяброў і знаёмых не абмінуў гэткі ж горкі лёс. Хто ж застаўся там, не забраны? Чаму адных узялі, а другіх не? Пісьменнікаў з магілёўскай перасылкі высмыквалі на этап па некалькі чалавек. Куды іх закінуў лёс? Дзе яны цяпер? Добра, што побач некалькі блізкіх і надзейных сяброў, загартаваных у следчых рэбрадрабілках, у карцэрах і на этапах. Калі адчыняюцца дзверы, у палатку ўрываецца хісткае злавеснае святло ад вогнішчаў вакол зоны. Яны гараць усю ноч.

Грукаючы сваім «выхавальнікам», уваходзіць Віцёк Мілашачкін: «Жмурыкі-мазурыкі, прыбыўшыя нонча, слухай сюды. Заўтра вы — брыгада лесарубаў. Брыгадзір ваш вось ён, былы памкамузвод доблеснай Чырвонай Арміі, а цяпер за доўгі язык, як і вы, пяцьдзесят восьмая. Пакажыся, Міша Селязнёў». На крок адышоў сярэдняга росту вайсковец у шынялі і будзёнаўцы без зорачкі. У змроку былі відны толькі падбародак і правалы вачэй. Ён трымаў даўгаватую фанерную дошчачку і запісваў на ёй нasліненым хімічным алоўкам нашы прозвішчы і ініцыялы. Зрабіў пераклічку, папярэдзіў, што на снеданне ідзём строем, а адтуль — на развод.

А Віцёк усё нешта марудзіў: некага ўшчуваў, палохаў кандзеем, адганяў ад печы з апухлым шкляным тварам дахадзягу. Ён засынаў і тыцкаўся тварам аб гарачую бляху, на шчоках цямнелі апёкі, там, дзе пазлазілі струпы, ружавела скура і сачыліся болькі. Відаць, чалавек дажываў апошнія дні. Гэта быў некалі славуты на заводзе імя Варашылава ўдарнік і рабкор Іван Іванавіч Казлоў. Яго імя грымела на мітынгах і ў друку, ён сядзеў у прэзідыумах і стаяў на трыбунах, цяпер ашклянелы, апалены, амаль непрытомны дагараў каля бляшанай печы ў халоднай палатцы за тысячы вёрст ад дому пад гул таежнай завірухі. Барані божа дайсці да такога стану. Лепш загінуць адразу без зняважлівых пакут.

Пакруціўся Мілашачкін каля нас і ўскочыў на верхнія нары. «Ну як, мужыкі? Хоць хранова, а жыць можна: замка і парашы няма, і то добра. А ты, пахан, — звярнуўся ён да Мяжэвіча, — відаць, на волі фартовым хмыром быў? Га? — Мяжэвіч маўчаў. — Слухай сюды. Шмоткі твае уркі адразу памыюць. Давай махнём кліфт, правілку, шкары на зменку і чатыры пайкі. Ну, лады?» — «На якой вы мове гаворыце? Я нічога не разумею». — «Цьфу ты, ахламон. Мала ж цябе вертухаі ганялі, што па фені не ботаеш. Хрэн з табою. Сам прыбяжыш і залямантуеш: «Ой, ратуйце, раздзелі, абакралі. Давай па-людску, у накладзе не будзеш. Я ўсё магу. А там і ў прыдуркі ўваткну». Мяжэвіч закруціўся ў паліто і прыкінуўся, што спіць. «Ну, аглаед, ты ў мяне яшчэ паскачаш». — Нарадчык лёгка саскочыў з нараў і выскачыў з палаткі. На праходзе ўсё яшчэ сланяліся і штурхаліся каля печы цёмныя здані: нешта мянялі, адмервалі махорку запалкавымі карабочкамі, сварыліся, валтузіліся. Гайдаўся і ляскаў па апалубцы брызент палаткі, з шчылін цягнула холадам, было вільготна і мулка.

Неўзабаве на вахце ўдарылі жалязякаю па вагонным буферы: ад-бой. Хочаш не хочаш, лажыся. Калі пашанцуе, — сон — адзінае збавенне ад усіх пакут і страшных дум. Чалавек ужо прызвычаіўся, што ён нікому не патрэбен, што яго могуць расцерці, як муху, але ўсё ж чапляецца за жыццё, на нешта спадзяецца, верыць, што яго голас нехта пачуе і выратуе з гэтага пекла. Цяжкі і трывожны сон — і збавенне і пакута. Зноў прыходзяць кашмары допытаў, начныя «стойкі», «канвееры» па трое сутак. Нарэшце знясіленага цягнуць у адзіночку. Адзіны паратунак — зваліцца на тапчан і заснуць, але дзе там заснеш: да адбою класціся забаронена. Садзішся на ўмураваны ў сцяну зэдлік, падпіраеш рукою шчаку, павекі заплюшчваюцца самі. Стук у жалезныя дзверы — не спаць! І так да вечара. Адбою чакаеш, як збавення. Толькі прылёг, праваліўся ў бездань, адчыняецца жалезнае акенца, стук ключом: «На «Гэ» — на допыт. Жыва! Жыва!» Адразу не ўцяміць, дзе ты, што з табою, а дойдзе — дрыжыкі працінаюць наскрозь. На ўсё жыццё запомніўся пах пракураных «Беламорам» калідораў следчага корпуса, перасвіст «вывадных», каб не сустрэліся арыштанты, як прывіды, упаўзаюць у памяць шэрыя ад папяроснага дыму і злосці, калюча-сухія, здзекліва-ўсмешлівыя і сытыя аблічччы следчых, і жах апаноўвае зноў. Шчасце, што гэта сон, што допыты — у мінулым.

На голых нарах храпуць, трызняць, варочаюцца, стогнуць, чухаюцца ад страшэннага свербу няшчасныя людзі. Мы ж месяц не распраналіся, не мыліся, рубцы залубянелай, як бляха, бялізны, як асцюкамі, забіты шэрымі паразітамі. Калі распранемся? Калі памыемся? Пакуль што ніякіх надзей. Палатка заінела з сярэдзіны, мерзнуць рукі, не знятая на ноч шапка прымерзла да брызенту, здранцвела шыя, страшна паварушыцца, а ў шэсць гадзін пад'ём. Колькі ж цяпер? Паўтара года я не бачыў гадзінніка, але беспамылкова дзейнічае біялагічны. Што мяне чакае заўтра, як пачнецца першы дзень лесаруба? Што абую? Што адзену? Куды пагоняць? Што скарачаюць лучковая піла і канадскі тапор, жыццё ці тэрмін?

Так у палоне пытанняў і ў тумане трызнення я нерухома ляжаў на трошкі падсушаных уласным целам нарах. Хацелася забыцца, хто я і дзе я, але трэск замерзлай палаткі, храп, мармытанне, стогны і крыкі суседзяў у сне вярталі ў страшную рэальнасць. Толькі праваліўся ў нейкую глыбокую прорву, адчуў бязважкасць і застыў у палёце, як ударылі на вахце ў буфер: «Пад'ём! Па-а-д'ё-ом!» Днявальны запальваў капцілкі, адразу шэрая маса заварушылася на нарах, нацягвалі яшчэ мокрыя штаны і целагрэйкі, а мы нейкімі матузкамі шнуравалі свае чаравікі, твары здаваліся сінімі з чорнымі праваламі, лесарубы шукалі лапці і парцянкі, за патрэбаю выскаквалі за дзверы палаткі, а следам урываліся клубы белае пары, нібыта воблакі на нябёсах. Вакол палаткі снег быў жоўты, папраточваны чалавечымі струменямі. Трошкі далей адыходзілі, чэрпалі далонямі шурпаты снег, расціралі рукі і твар: ні вады, ні ўмывальнікаў не было. І ўсё бягом, усё «Давай! Давай!». З гэтым «давай» уставалі, пласталіся на лесасецы і звальваліся на нары з адбоем.

Брыгадзіры раздавалі пайкі хлеба. Гэта была сапраўдная латарэя: адзін адварочваўся, брыгадзір трымаў пайку і пытаўся: «каму», той называў прозвішча. Шчаслiўцу трапляла гарбушка. З ім спрабавалі памяняцца з прыдачаю на цыгарэту махоркі. Але дзе там! Такая ўдача бывала не часта.

У палатку ўварваўся раз'ятраны Віцёк. «Што ж вы, маць вашу, цераз пень-калоду, контрыкі, сабатаж разводзіце, усё яшчэ мітынгуеце, бляхі, ёдам мазаныя! Ану, вылятай, аглаеды, без апошняга!» — І, стоячы пры расчыненых дзвярах, хрысціў кантовым дрынам кожнага, хто не ўправіўся апярэдзіць суседа. Строем ішлі ў сталоўку, — па вокны ў зямлі засыпны з дошак барак, поўны пары, гоману і тлуму. Упершыню бачу міскі, вытачаныя з бярозавых чурак, набрынялыя, слізкія і кіслыя. Няхай

сабе, абы былі поўныя, а ў іх недавараны турнэпс, хвасты і галовы салёнай траскі.

Лагпункт толькі асвойваюць. Няма яшчэ электрычнасці, каля вахты і вакол зоны гараць зыркія вогнішчы. Ад полымя снег і твары арыштантаў чырвоныя, як на пажары, і навакольны замецены і заінелы лес здаецца ружовым і хісткім. Наш брыгадзір камандуе па-вайсковаму: «Брыгада Селязнёва стр-р-ро-й-ся!» У водбліску вогнішчаў панура ідзём на вахту. Рукі і ногі ўжо адубелі, а што ж будзе да вечара? У суседнім невялічкім бараку стаіць страшэнны гвалт і гармідар, крыкі, шматпавярховы мат, жаночы віск, лаянка, якой зроду не чуў. Старыя лагернікі жартуюць: «Выводзяць брыгаду Машкі — «зялёнага пракурора». Нарэшце адна за адною выскакваюць маладзенькія дзяўчаты, амаль падлеткі, у стракатых пальцечках, хустачках і берэціках, а з вуснаў ляціць такі слоўны бруд, што я тузаю сябе за вуха, ці не сніцца гэта мне. Павольна з барака выходзіць у міліцэйскім шынялі і шлеме з казыркамі спераду і ззаду кірпатая, з мангольскімі вочкамі і адкапыленаю ніжняю губою «зялёны пракурор» — Машка Прошкіна і сыпле такую віртуозную лаянку, што рагочуць усе брыгады. Яна не выгаворвае палову алфавіту, і яе мацюкі становяцца яшчэ каларытней. А я думаю: «Божа, божа, да чаго давялі самую чыстую істоту — жанчыну; як яна апусцілася і дзе? У нашай перадавой дэмакратычнай краіне». Палохаюся сваіх думак і гляджу, як нарадчык і дзяжурнякі валакуць да вахты гэты жаночы «батальён смерці», а Машка закасвае левы рукаў шыняля, правую далонь падстаўляе пад локаць і трасе рукою ў наколках: «Мы табе, гражданін начальнік, в-о-о намантулім. Наша спіціяльнасць вясёлая. Закарціць, прыходзь на дзялянку, мы табе пака-жам хранцузскія прыёмчыкі». Усе рагочуць, а Машцы толькі таго і трэба. Начальнік нібыта нічога не чуе. З лямантам, віскам і крыкам выпіхваюць жанчын за вахту, не сунімаецца толькі «зялёны пракурор».

Брыгады вывелі за вахту, а нас затрымалі. Стаім, чакаем. Павольна падышоў начальнік, рыхлатвары, з чырвонымі, трахомнымі павекамі, у белым казловым кажусе, фетравых бурках і чорнай кубанцы. Агледзеў нас, пакруціў галавою: «Ну і рабацяг падкінулі! Дзе толькі набралі такіх? Вы ж у сваіх шчыблецiках, як прусакі, памерзнеце. А ты, ваяка, як трапіў у гэтую хеўру контрыкаў?» — спытаў у высокага і худога, як тычка, у доўгім кавалерыйскім шынялі і будзёнаўцы лейтэнанта Ягорава. «За падмочаную радню, гражданін начальнік». — «Тады давай, падмочаны, з брыгадзірам у капцёрку па лапці і

парцянкі. Скажаш, я загадаў». — А мы ўжо выбіваем чачотку і ляпаем сябе па настылых плячах.

Два былыя вайскоўцы прынеслі бярэма ануч з мешкавіны і ліпавыя лапці. «Разбірай! Азувайся!» — загадвае брыгадзір. Хапаем, каму што дасталося, садзімся на снег і ўспамінаем пастушкоўскае дзяцінства: абкручваем чаравікі анучамі, нацягваем лапці, а яны не лезуць, ззаду тырчаць абцасы, так-сяк зацягваем аборы, ідзём як спутаныя. Нас прыспешваюць: «Давай! Давай! Варушыся весялей!» О, гэтае «давай», яно дзень у дзень, ад пад'ёму да адбою да вызвалення або да магілы, як бізун хвошча кожнага лагерніка. Некаторыя ад злосці самі сабе мармычуць: «Давай хрэнам падавіўся». А ён жывучы — «давай», і мацюкі — асноўны слоўны запас любога лагернага начальніка. Варта іх засвоіць, і можаш кіраваць чым захочаш.

Каля інструменталкі брыгадзір раздае папярочныя пілы і калуны. А дзе ж тыя, лучковыя, што скарачаюць шлях да вызвалення? Відаць, іх яшчэ трэба заслужыць. Нясу на плячы хісткую і звонкую пілу, мой напарнік Валодзя Мяжэвіч — сякеру. Яго яшчэ не паспеў раскурочыць Віцёк Мілашачкін. Валодзя, бадай, адзін з усяе брыгады не мерзне, але ў доўгім паліце цяжка адольваць высокія сумёты. Мы ўваходзім у густы лес. Яшчэ толькі пачынае шарэць, у небе растаюць і знікаюць зоры, вобмацкам цаляем у сляды папярэднікаў. Ідзём моўчкі, нібы на ўласных хаўтурах. Правальемся вышэй калень у гурбы сыпкага снегу. Крыссе брыгадзіравага шыняля плыве па сумётах, а стралок прыспешвае: «Давай, давай, варушыся, не адставай!» Ён злосны, бо, відаць, недаспаў, і ён, як і мы, грузае па снезе і будзе да самага адбою стаяць на сцюжы і на ветры, ратавацца каля кастра. Таму і лаецца, бо болей няма на кім спагнаць злосць, бо верыць, што пільнуе «ворагаў народа», а ён і ёсць той самы народ і мае права пры парушэнні строю страляць без папярэджання, і ахвотна стрэліць, дай толькі зачэпку, і аддзячыць начальства за пільнасць і класавую непрымірымасць. Чаго толькі не перадумаеш за гэтую доўгую і цяжкую дарогу?

Неба пачынае сінець, выразней відны камлі сосен, прыгнутыя снежнай навіссю лапы ельніку. Нарэшце неяк дагрэбліся да ачаплення. На некалькі квадратных кіламетраў дзялянка лесу акантавана шырокаю прасекаю, на ёй выцераблена ўсё да былачкі, метраў за сто адна ад аднае стаяць вышкі, каля іх дымяць вогнішчы: калі стралок змерзне — злезе пагрэцца. Кастры распальвае і падкідае дровы былы рэктар нашага Беларускага універсітэта прафесар Рудніцкі. Худы і высокі, як

бацян, тоненькія ногі ўкручаны салдацкімі абмоткамі, на галаве прапалены малахай, на пасінелым носе прывязаныя ніткаю да вушэй акуляры з адным раструшчаным шкельцам. Яму многія зайздросцяць — ён на «цвёрдым» акладзе — шасцісотка і другі кацёл, а за іх трэба мантуліць не разгінаючыся.

На вахце начальнік канвою фанернаю дошчачкаю грэбліва адкідае нашы здвоеныя рады, запісвае на фанерцы трыццаць дзве душы і папярэджвае брыгадзіра, што ён за кожнага адказвае галавою. На дзялянцы сустракае дзесятнік, круглавокі, сярэдняга росту і веку мужчына ў новых валёнках і ватных штанах, зграбным чорным паўкажушку, з трошкі заінелымі закручанымі вусікамі. «От твая дзялянка, Селязнёў, расстаўляй сваю брыгаду «ух», толькі так, каб не перабілі адзін аднаго. Паняў? Цяпер слухайце сюды: норма ў нас на сто працэнтаў такая: зваліць, ацерабіць, спаліць сучкі, распілаваць хлыст на паўметровыя чуркі, перакалоць іх, скласці ў штабель вышынёю метр дзесяць сантыметраў, даўжынёю... Колькі, вы думаеце, трэба на тры і тры дзесятых кубаметра?.. шэсць і шэсцьдзесят сотых метра, а на дваіх у два разы болей. Гэта і ёсць сто працэнтаў — шэсцьсот грамаў хлеба, другі кацёл і неабмежавана свежае паветра. Зразумела, мужыкі? Тады — за работу. Улічыце, валіце дзеравіну, крычыце, каб сцераглíся суседзі, а то вы самі сабе смяротныя прысуды вынесеце. Расстаўляй, брыгадзір». Дзесятнік ляпнуў па халяве доўгім кійком з сантыметровымі дзяленнямі і знік у падлеску. Брыгадзір удакладніў: «Невыкананне нормы — трыста грамаў, штрафны кацёл, ноч у кандзеі, а раніцай — на развод». Ён расставіў пары далей адну ад аднае, лейтэнанта Ягорава без напарніка прызначыў «кастражогам», а мы з Валодзем пачалі абтопваць камлі тонкіх бярозак. Пакуль поўзалі па снезе, яшчэ не пілаваўшы, абодва выбіліся з сіл. Дзіва што! Паўтара года без руху, у душных камерах, на пайцы і місцы баланды раз на дзень. Адкуль узяцца той сіле? Але трэба варушыцца. Укленчылі і пачалі пілаваць шурпаты камель тонкай бярозкі. На сярэдзіне, як абцугамі, заціснула пілу. Колькі ні тузалі — ні з месца. Падсеклі, я ўпінаўся плячом і галавою. Валодзя цягне пілу, а яе зноў заціснула. Нарэшце жывасілам звалілі сваю першую бярозку, яна з гулам крышыла падлесак і ўпала ў пульхны снег. Сяк-так абсеклі вецце, паспрабавалі пілаваць, зноў заціскае пілу. Падважваем, круцімся, спатыкаемся, падаем, умакрэлі, змагліся і нічога не напілавалі.

Непадалёк каля вялізнага, замеценага снегам лаўжа рукавом шыняля выцірае слёзы, ад адчаю ці ад дыму, лейтэнант Ягораў

і ніяк не можа ўпаліць адсырэлае сучча. Мы трохі аддыхаліся і звалілі яшчэ адну бярозку, і яна патанула ў снезе, і зноў заціскае пілу. Выбіліся з сіл, а выніку ніякага. Значыць — трыста грамаў, ноч у кандзеі, а заўтра і на такую работу не хопіць сіл. Перспектыва адна: да вясны загнёмся. «И никто не узнает, где могилка твоя». Селі на недарэзаную бярозку і заплакалі ад крыўды, ад бяссілля, ад голаду і холаду, ад жалю да сябе і блізкіх. Зноў вярэдзіць неадступнае пытанне — за што? Незаўважна падышоў дзесятнік. «Вось гэта рабатнулі. Ну, стаханаўцы... нічога не скажаш. А я ішоў кубікі прымаць. І той ваяка, — ён кіўнуў на Ягорава, — соплі распусціў. І не сорам, дарослыя мужыкі. Ты кім быў на волі?» — спытаў у Мяжэвіча. «Карэспандэнтам «Известий». — «Ну, і, вядома, пісалі пра стаханаўцаў поля і лесу, як яны лёгка даюць па тры нормы, а паспрабавалі і селі макам у першы ж дзень. Ладна. Хопіць вільгаць разводзіць. Усё роўна Масква слязам не верыць. Хрэн з вамі. Сёння выручу: запішу кантоўку дня ля пня і выведу шасцісотку. І таму бацяну ў шынялі нешта прыдумаю. Неяк трэба ратаваць вас... Ну і брыгадка ў Селязня». Ён памахаў сваім метровым кійком і лёгка і спрытна пайшоў туды, дзе шугалі вогнішчы, падалі дрэвы, грукалі сякеры, чуліся крыкі: «Бера-ажы-ся!»

Да нас падышоў замурзаны сажаю, змерзлы Ягораў. Мы яго суцешылі абяцаннем дзесятніка. Гусцеў змрок, дагаралі вогнішчы, пераклікаліся брыгадзіры і лесарубы. Неўзабаве на вахце ўдарылі ў рэйку: «Выходзь строіцца!» Наш першы рабочы дзень закончыўся нічым. Грузаючы па снезе, зусім знясіленыя, мы ішлі на вахту каля доўгіх шурак дроў, штабеляў дзелавой драўніны, датлелых кастроў. Здалеюць жа, умеюць неяк людзі, зайздросцілі мы лесарубам.

## «КАРАЦЕЙШЫ ШЛЯХ...»

Ніяк не магу ўцяміць, дзе рэальнасць, а дзе трызненне і сон. Ляжу на нарах, чую гаману, сваркі, крыкі: «Укралі! Укралі! Лаві яго, гада!» Пацягнула халодным ветрам. Гляджу — насупраць у брызенце прарэзана вялікая дзірка. Праз яе зніклі дзве торбы з трантамі і пайкамі рабацяг. Пакуль абкрадзеныя беглі праз дзверы, зладзеяў і след прастыў. Глыбей нацягваю шапку, адгінаю на лоб калматы казырок, заплюшчваюся і зноў патанаю ў свет успамінаў. Але што ўспамінаць? Колькі было таго жыцця? Галоднае і пакутнае маленства, кароткае «орабачивание»

на бабруйскім камбінаце, захапленне літаратурай, мары пра пісьменніцтва, жаданне служыць літаратуры да скону, зрабіць нешта значнае, стаць вядомым назло зайздроснікам, што ў вочы кпілі з мяне, дражнячы вершаплётам. Я моўчкі зносіў абразы і верыў у свой шчаслівы лёс.

Успаміналася студэнцтва на трохсотграмным пайку, бутэрброды з гарчыцаю ў студэнцкай сталоўцы, але якія былі спадзяванні, якія ўяўляліся перспектывы, даволі частае друкаванне ў газетах рыфмаванай банальшчыны да свята, да падпіскі на пазыку, пра выратаванне чэлюскінцаў. І гэта па наіўнасці здавалася далучэннем да літаратуры. Успаміналася частае наведванне Дома пісьменніка, шапачнае знаёмства з вядомымі пісьменнікамі і такімі ж, як і сам, калялітаратурнымі хлапчукамі. Не магло прысніцца нават у кашмарным сне, што за наіўную калялітаратурную гульню могуць на самым пачатку так бязлітасна паламаць жыццё і кінуць, як страшнага звера, у каменную дамавіну адзіночкі так званай «амерыканкі». Яе тэрмінова збудавалі па праекце таленавітага архітэктара (казалі, што потым ён сам у ёй сядзеў як шкоднік) у двары самага страшнага наркамата, калі пачалася расправа над «ворагамі народа», калі даваліся заданні і спускаліся планы на арышты і знішчэнне.

Нават на мулкіх нарах у настылай палатцы страшна ўспомніць маю адзіночку, несупынны трохмесячны канвеер — ноч і дзень, зноў ноч і дзень, калі страчана адчуванне часу, рэальнасці, а бяссонне пад невыносным прэсам пагроз, здзекаў, цынічных зняваг некалькіх змен следчых даводзілі да галюцынацый, да страты прытомнасці. «Амерыканка» адразу расплюшчвае чалавека маральна, дзейнічае на псіхіку, ашаломвае незвычайнай таямнічасцю, а бясконцыя месяцы бяссонных допытаў пра нішто нават непакорлівага і трывалага ламаюць як асобу, і ўжо чакаеш смерці, як збавення ад страшэнных здзекаў і нечалавечых пакут.

І ў сонечныя дні ў камеры змрок і магільная цішыня. Сядзі і думай пра свае «злачынствы», якіх у цябе ніколі не было, бо ўся твая біяграфія — тры радкі на старонцы вучнёўскага сшытка, а следчы патрабуе «арганізацыі», «зборышчаў» і дзяўбе адно: «Прызнавайся! Гавары праўду», а праўдаю тут лічаць хлусню, фантазію і самапаклёп. Прыдумляй з расплюшчанымі вачыма, бо нават задрамаць стоячы лічыцца злачынствам, а за яго караюць карцэрам у глыбокім падзямеллі, без святла і чыстага паветра, з цуркамі вады па сценах і на падлозе. Ні тапчана, ні зэдліка. Стой, пакуль не звалішся ў халодную лужыну на бетоннай падлозе.

«Амерыканка» наяве і ў снах трызніцца, як кашмарнае відовішча. Я ў адзіночцы на несупынным канвееры праседзеў тры месяцы. Потым яшчэ туды вяртаўся тры разы. Усё гэта круціцца ў памяці. Сон не бярэ на голых, трохі падсушаных уласнымі бакамі нарах. Жах апаноўвае, што праз некалькі гадзін зноў ударыць у буфер і... «вылятай без апошняга», умывайся снегам, сёрбай у чаднай сталоўцы поліўку з трасковымі галовамі, дрыжы на разводзе, шэсць кіламетраў мясі снег да лесасекі, выбівайся з сіл каля тонкіх бярозак, ведаючы, што норму ніколі не выканаць. Значыць, тут і загнешся, у хмызняку за конбазаю засыплюць снегам і твой шкілет, бо, як ні старайся, на лучковую пілу і канадскі тапор спадзявацца няма чаго. Лепш было б над гэтымі варотамі напісаць: «Оставь надежду всяк сюда входящий».

Але так ужо створаны чалавек, што да апошняй хвіліны на нешта яшчэ спадзяецца, каб хоць на дзень адкласці апошняе імгненне. Вось і Валодзя Мяжэвіч «махнуў кліфт, правілку і шкары» за некалькі паек хлеба і абяцаную палёгку. Паліто аддаў дзесятніку Папову, яму хутка вызваляцца, затое нам цяпер гарантавана шасцісотка і другі кацёл. У мяне «заганяць» няма чаго, таму адчуваю сябе нахлебнікам свайго напарніка. А ён адразу стаў падобны на датлелага дахадзягу — бушлат трэцяга тэрміну, мультановы малахай, на нагах ватныя бахілы і лапці, а я калачуся ў сваіх неданосках з волі — нікога яны не прывабілі, ніхто за іх і пайкі не дасць.

Неяк у зоне нечакана сустрэўся даўні знаёмы — паэт Сяргей Дарожны[1]. Тут ён быў пад сваім прозвішчам — Серада. Мы з ім таварышавалі на волі, часта сустракаліся ў Доме пісьменніка, бываў у яго на кватэры, у «пісьменніцкім мікрараёне» на вуліцы Розы Люксембург. Сустрэліся ў адной камеры мінскай гарадской турмы. Яго раней за нас забралі і раней адправілі на этап. І вось сустрэча. Угледзеў і ледзьве пазнаў. Сяргей заўсёды быў франтаваты: насіў добрыя касцюмы, модныя чаравікі і гальштукі, абавязкова капялюш і з дарагога драпу паліто. І ў турме ён вылучаўся вопраткаю. Цяпер на ім была цеснаватая прапаленая мультановая шапка з падвязанымі кароткімі вушамі, трэцяга тэрміну бушлат, бахілы і так званыя ЧТЗ — вялізныя чаравікі з аўтамабільных пакрышак. Настрой у Дарожнага быў бадзёры: ён, нягледзячы на «контррэвалюцыйны» артыкул, прыстроіўся рахункаводам у бухгалтэрыі: выпісваў на брыгады лапці, парцянкі, целагрэйкі і бялізну. Я пацікавіўся, як гэта яму пашанцавала ўбіцца ў «прыдуркі». Сяргей не вельмі ахвотна расказаў,

што начальнік КВЧ (культурна-выхаваўчай часці) Малаканаў даведаўся, што ён паэт, папрасіў напісаць мабілізуючыя частушкі, рыфмаваныя лозунгі і за гэта прыстроіў у кантору. «А хто такі Малаканаў?» — пацікавіўся я. «Ён жа кожную раніцу на разводзе выступае з прамовамі, заклікае выконваць і перавыконваць план, даваць «лес Родине, и она вас простит!». Я думаў, гэта намеснік начальніка такі палымяны прапагандыст, а Сяргей растлумачыў, што Малаканаў — «бытавік», родам з Горкага, яго расканваіравалі і даручылі выхоўваць нас. Цяпер стала ясна, чаму на разводзе, стаўшы на скрынку, ён звяртаецца да нас: «Товарищи заключенные! Родина-мать дала вам возможность честным трудом искупить свою тяжкую вину. Родине нужен лес для великих строек социализма, наш долг — дать его Стране Советов, оправдать доверие партии Ленина — Сталина, сохранившей вам жизнь, чтобы вы исправились, перевоспитались и стали честными гражданами нашей самой счастливой в мире страны. За ударный труд предоставляются зачеты, и вы досрочно возвернетесь в семью строителей социализма. За работу, товар-рищи!» Адно і тое ж кожны дзень.

Малаканаў ходзіць у будзёнаўцы, новенькім бушлаце, зграбных валёнках з закасанымі халявамі, весела жартуе з начальнікам і камандзірам узвода, запанібрата з вахцёрамі, жыве ў асобнай кабінцы, абеды яму проста з кухні носіць днявальны. Пасля штодзённай «малітвы» на вахце Малаканаў падае знак блатнаватаму гарманісту, і той рэжа адну і тую ж мелодыю «Утро красит нежным светом стены древнего Кремля». Пад музыку вахцёр пералічвае пагалоўе брыгад, а стралкі далдоняць адно і тое ж: «Шаг вправо, шаг влево ... стреляю без предупреждения».

На адным з разводаў Малаканава не было, а мы так прывыклі да яго зычных «акафістаў», што здалося: нечага не хапае. Думалі, захварэў, аж не, папаўзла чутка: палымяны прамоўца і наш заўзяты выхавальнік... збег. Знік, і знаку няма. Ні аўчарка, ні стралкі так і не ўзялі след, па якім сігануў Малаканаў. А оперупаўнаважаны чэкісцкага аддзела ўсю ноч дапытваў Дарожнага, як ён садзейнічаў уцёкам Малаканава. І той расказаў шчырую праўду: за пасаду ў канторы начальнік КВЧ зняў з яго ўсё, нават бялізну, каб па лагерных пячатках ніхто не пазнаў, адкуль ён. Паліто і шапку пераправіў на конбазу раней, на гарнітур Дарожнага нацягнуў новенькі бушлат, нібыта пайшоў на станцыю Пастой па плакаты, прысланыя з упраўлення. Як пайшоў, так і след прастыў. Схапіліся толькі на другі дзень, калі «прапаведнік» не выйшаў на развод. Потым выявілася, што

Малаканаў зусім не Малаканаў, а славуты ў злачынным свеце аферыст, якога шукаюць па ўсёй краіне. Ён здабыў сабе прыстойную «ксіву» (дакумент), павандраваў па Волзе і Каўказе, а калі адчуў, што можа ўліпнуць за ранейшыя буйныя злачынствы, украў нейкую дробязь, так, каб адразу злавілі. Далі яму чатыры гады, і ён схаваўся на нашым лагпункце, каб пераседзець небяспеку. Занудзіўся па сапраўднай «рабоце» і знік, каб пачаць гастролі па асноўнай спецыяльнасці.

Няшчаснага Дарожнага затузаў «кум» за садзеянне ўцекачу, але, відаць, Сяргей неяк разжалобіў упаўнаважанага, што той не павесіў на яго новы артыкул і тэрмін, а выгнаў з цёплага месца ў дахадзяжную брыгаду лесарубаў. Там Дарожны і скіс. А мы патроху акрыялі: зрэдку з дому пачалі прыходзіць пасылкі. Сям'і ў мяне ўжо не было, але дзядзька з Глуска часам прысылаў сухары, рукавок фасолі, кавалак сала і пачак кускавога цукру. Мае сябры мелі добрыя пасылкі ад блізкай радні, але ніхто не жаваў хатнія прысмакі з кулака, усе дзяліліся чым толькі маглі. Павесялела наша брыгада. Не таму, што стала пілаваць звыш нормы, а ўсе навучыліся заганяць «туфту» — па тры разы здаваць адны і тыя ж кубікі.

Дарожны яшчэ не ўцягнуўся ў работу і не засвоіў лагерную прамудрасць, і з волі была малая дапамога ад адзінай слаба забяспечанай сястры. Хадзіў Сяргей маўклівы і змрочны. У лесе не выцягваў на другі кацёл, слабеў з кожным днём і думаў, як вырвацца з лесапавалу. Дачуўся, што недзе ёсць сельскагаспадарчыя лагеры. Яны яму здаваліся збаўленнем — і работа лягчэйшая, і першая морквіна ці бульбіна, хоць сырая, перападзе, а там, глядзіш, і гурочак не абміне. І наважыўся пісаць заяву, што ён аграном і просіць скарыстаць яго па спецыяльнасці. Я яго ўгаворваў нікуды не зрывацца ад сваіх, не паслухаўся, адправіў заяву ў Другі аддзел упраўлення. «Які ж ты аграном? Выкрыюць падман і загоняць на штрафны», — ушчуваў я яго. «Хіба я не ведаю, як бульбу саджаць. А выкрыюць — пайду радавым рабочым. Рыдлёўка і капаніца ўсё ж лягчэй за пілу, ды і перападзе якая гародніна, а тут я загнуся галоднай смерцю». Мы бачылі, як ён пакутуе на сваёй маленькай паечцы, дапамагалі як маглі. Напрадвесні яго выклікалі на этап па спецнарадзе. Мы развіталіся каля вахты; я больш ніколі не сустракаў Сяргея і нічога не ведаў пра яго лёс аж да шасцідзесятых гадоў. А лёс склаўся трагічна.

Адправілі Дарожнага ў Камсамольск-на-Амуры. Там, на ўскраіне новага горада, быў вялікі лагер. Пракладвалі дарогі,

дзяўблі непадатлівую горную пароду, грузілі баржы і «даходзілі», асабліва на пачатку вайны. Ніякім аграномам Дарожны не стаў. Ён нудзіўся, што адбіўся ад сваіх, сам сябе загнаў у гэты суровы край і ўкалвае мудрэй, чым на павале.

Па афіцыйнай версіі, Дарожны памёр у 1942 годзе ад запалення лёгкіх. Пелагру, дыстрафію, поўнае знясіленне ў лагерных актах аб смерці пераймяноўвалі на больш прыстойныя дыягназы — пнеўманія, сардэчная недастатковасць, рак або язва. Нешта падобнае запісалі і ў апошнім дакуменце асуджанага па артыкулах 72-а і 76 (групавая контррэвалюцыйная агітацыя) Серады Сяргея Міхайлавіча, а на волі пранікнёнага лірыка Сяргея Дарожнага.

У шасцідзесятыя гады ў Камсамольску-на-Амуры я ехаў у трамваі каля таго самага лагера, дзе пад шасцізначным нумарам сканаў Сяргей Дарожны, і ўспомніліся яго даўнія радкі: «Зіма, зіма, а снегу па калені, ні сцежак, ні дарог няма». Так, цяпер ні сцежак, ні дарог няма за тыя сопкі, куды звезлі тысячы пакутнікаў з усіх куткоў нашай горкай, знявечанай, абрабаванай здзічэлымі катамі зямлі. Магіл іх няма, і следу не засталося, толькі крываточыць і баліць незагойны рубец памяці нямногіх жывых, што пранеслі цяжкі крыж, каб сведчыць пра здзекі, знявагі чалавечай годнасці, пра масавае знішчэнне лепшых, сумленнейшых сыноў і дачок краіны, за волю і шчасце якой гінулі многія пакаленні самаахвярных летуценнікаў і волатаў духу.

## ТУФТА

Калі з першых дзён не засвоіў прымітыўныя лагерныя хітрыкі, твой тэрмін будзе скарачацца хутчэй за шчыгрынавую скуру, і вывезуць цябе, небараку, у самым хуткім часе ноччу за вахту, а ў зводцы перавядуць з групы «А» ў групу «Д» (нябожчыкі).

Не прыпомню ніводнага выпадку, каб нават самы дужы і здатны лесаруб не тое што дзесяць, а запар тры гады вытрымаў на лесапавале. Спачатку ён — ударнік, яго ставяць усім у прыклад, абедаць садзяць на сцэну і, каб усе бачылі, нясуць кампот і беленькую булачку, потым ён знікае са сцэны, ледзьве дае сто працэнтаў, праз паўгода трапляе ў «слабасілку», аціраецца каля кухні, на сметніках збірае косці, становіцца «шакалам» і «міскалізам», апухае, перастае ўмывацца і непрыкметна

пераходзіць у групу «Д». Нават асілак пры тых харчах, у тых умовах і пры нечалавечых нормах больш трох гадоў не вытрымліваў.

Яшчэ неяк трымаўся той, хто засвоіў спрадвечныя лагерныя ісціны: «Не правялі б канала без туфты і аманала», «Дзень кантоўкі — месяц жыцця», астатняе залежала ад вынаходлівасці, асцярожнасці і рызыкі, каб не засыпацца, не трапіць у кандзей і здаваць адны і тыя ж дровы, рудстойку і дзелавы лес, пакуль не вывезуць з дзялянкі.

На туфту мяне з Мяжэвічам далікатна падбіў сам дзесятнік Папоў. Яго намёкі спачатку напалохалі, а як расшалопалі, што да чаго, з штрафнікоў ледзь не выбіліся ў стаханаўцы. Дзесятніку я падарыў вельмі дарагі напамінак аб доме — зялёны пуловер у ромбіках. Каб падарунак не выглядаў хабарам, сказаў: «У палатцы ўсё адно ўкрадуць, у вас ён зберажэцца ды і на волі вам згадзіцца». Ён паламаўся дзеля прыліку, нібыта нехаця ўзяў, потым наўрад ці ўспомніў калі нас з Валодзем, а я вось яго і цяпер успамінаю.

Паленцы ў нашых штабелях ён адзначаў пятае праз дзесятае, на шасціметровых бярвеннях ледзь прыкметна пісаў таўшчыню, запісваў выпрацоўкі і ішоў далей. Назаўтра раніцай на сваю ўчорашнюю паленніцу мы спускалі бярозу, дровы рассыпаліся, з адзначаных бярвенцаў шкельцам счышчалі адзнакі, распілоўвалі зваленую бярозу, змешвалі дровы і хуценька складалі новы штабель са старых дроў у другім месцы і ў іншым кірунку. На месцы штабеля раскладалі вогнішча, і знікалі яго сляды. На канцах дзелавой драўніны зразалі колца з адзнакаю, закопвалі яго ў снег і зноў здавалі бервяно, укарочанае на некалькі сантыметраў. Вясною ўся дзялянка, як аладкамі, стракацела пазразанымі колцамі з шасціметровых лясін. Часам «туфтачы» так захапляліся, што бервяно скарачалася ледзь не на метр, але нічога, — здавалі.

Туфта была толькі падтрымкаю да нашага мізэрнага пайка, бо ўсё адно трэба было варушыцца: валіць, абсякаць сучча, пілаваць, калоць, выкладаць паленніцы, разбаўленыя туфтой.

Начальства ведала пра нашы фокусы, але не надта зважала на іх. Яму важна было, што выконваецца план, ідуць добрыя зводкі ва ўпраўленне і ГУЛАГ, а што на складзе не хопіць некалькі тысяч кубаметраў, ніхто не заўважыць, бо і грузчыкі зараджаюць туфту, і вагоны ідуць напалову пустыя. Тут трэба было майстэрства. Я ім валодаў дасканала, але дзяліцца вопытам не буду.

Часам туфта даходзіла да абсурднага здзеку. Кожны вечар брыгадзір здае нарміроўшчыку рапарцічку дзённай выпрацоўкі. Каля акенца нарміроўшчыка чарга, штурханіна, гамана, угля-

дацца ў кожнае слова няма калі, трэба хутчэй падбіць працэнты і здаць рапарцічку ў продстол. І вось знаходзіліся брыгадзірыжартаўнікі і пісалі на поўным сур'ёзе: і) Пракладка тунеля на дне Унжы — 100 пр. 2) Кантоўка дня каля пня — 96 пр. 3) Затрымка сонца — 110 пр. 4) Брыццё галавы прараба — 100 пр. 5) Разгонка дыму і гэтак далей.

Нарміроўшчык дакладна падлічваў працэнты, ставіў сваю візу, а назаўтра рагатала ўся бухгалтэрыя.

Калі хто пападаўся на туфце, кара была бязлітасная — дзесяць сутак ізалятара, а часам заганялі на штрафны. Гэта рабілася не столькі дзеля страху, а толькі для справаздачы, што вядзецца «барацьба з туфтою». Гэтае слова настолькі прыжылося ў лагеры, што ўвайшло ў афіцыйныя дакументы.

Начальства нібыта вяло барацьбу з туфтою і туфтачамі, хоць і ведала, што без туфты не абыходзілася ніводная зводка і справаздача ўпраўленню. І яшчэ быў адзін паратунак — «закасіць» у санчасці вызваленне ад работы: нагнаць тэмпературу, прымарозіць пальцы, толькі так, каб не аднялі, прыбінтаваныя пялёсткі кураслепу давалі такія флегмоны, што можна было кантавацца тыднямі. Такіх майстроў было не так многа, але былі і ратаваліся як толькі ўмелі, прыслужвалі каля кухні, пякарні, продкапцёркі і мелі кавалак хлеба ці лішнюю міску баланды.

Мы па-ранейшаму спалі на голых нарах, на бярозавай чурцы замест падушкі. Асабліва даймалі неадлучныя арыштанцкія спадарожнікі, якія не пераводзіліся нават пасля дэзінфекцыі ў рубцах нашых бляшаных ад бруду кашуль і споднікаў. Яны не давалі ніколі сумаваць: усе чухаліся, скрэбліся, раздзіралі цела да крыві. А яны пладзіліся і набухалі на нашых маслах, дасмоктваючы тое, што не высмакталі следчыя. Чаргу ў лазню наша брыгада чакала больш за месяц. Ды і лазня тая была як на здзек. Непадалёк ад вышкі скідалі хатку не больш як на адну сям'ю. Каля яе дымілася жалезная будачка з дзверцамі. Звалі яе вашапрудка, а па-вучонаму — «дэзакамера». Брыгада распраналася каля яе проста на снезе. Кожны нанізваў свае транты на гарачае драцяное колца і вешаў у камеру. У лазні ніякіх сенцаў не было, па снезе адразу ўскоквалі ў мыйню, церліся адзін аб аднаго і закураныя сцены. Пры ўваходзе выдаваўся, як ірыска, драбочак мыла і конаўка ледзь цёплай вады. Наіўнаму яе хапала намыліцца, а змываць чым хочаш. Выскаквалі за дзверы, зачэрпвалі снег, ён хутка раставаў, і збольшага змывалі мыла. А потым калаціліся, чакаючы, калі выкінуць на снег каляную і рыпучую ад гарачыні адзежу.

Потым даўмеліся: распраналіся на лесасецы і над вогнішчамі трэслі свае пажоўклыя ад бруду і пражарак кашулі, праводзілі над полымем рубцамі, і толькі трэск ішоў ад паразітаў. Калі б тады, барані божа, уплюнуўся тыфус, ён бы «вызваліў» увесь лагер, але лёс быў літасцівы, а мы трывушчыя.

Мы з Мяжэвічам разам з туфтою налаўчыліся зарабляць часам аж восемсот грамаў хлеба і «прэмблюда» — квадрацік густой аўсянай кашы.

Павярнула на вясну, пабольшалі дні, прыгравала сонца, асядалі сумёты, каля пнёў чарнелі праталіны, пацямнелі ад сцюжы і першага сонца твары, парэпаліся, зашэрхлі, задубянелі ад мазалёў рукі, на нагах, асабліва ў цяпле, нылі і торгалі прымарожаныя пальцы. Але трымала нас сяброўская еднасць. Алесю Пальчэўскаму[2] пашанцавала прыстроіцца рэгістратарам да лекпома ў так званай санітарнай часці. А лекпомам быў тыповы блатнячок, малады, высокі Васёк у ссунутай на адно вуха кепачцы, у бушлаце з натапыраным каўняром. Яго медычныя веды далей тэрмометра і рыцыны не сягалі. Скардзіўся яму на разводзе рабацяга на гарачку і галаўны боль, Васёк грэбліва мацаў пульс і лоб і цадзіў праз зубы: «Увечары зойдзеш, а цяпер шуруй на работу. Кубікі патрэбны. Панімаш?» Начальству такі «медык» якраз і быў патрэбен.

Пальчэўскі ў санчасці вёў усю канцылярыю, прысутнічаў на прыёмах, мераў тэмпературу і, калі бачыў зусім саслабелага, прыбаўляў некалькі дзесятых, каб даць вызваленне ад работы. Часам у спісы вызваленых цішком уключаў каго-небудзь з нас.

Пасля разводу ўсіх, хто заставаўся ў зоне, выганялі да вахты на паверку. Прагульшчыкаў заганялі ў кандзей, з вызваленых па хваробе адбіралі дужэйшых абіраць на кухні мёрзлую бульбу, чысціць рыбу, скрэбці флякі, калоць дровы і цягаць ваду. Самым абразлівым было, што пры выхадзе з кухні абшуквалі ад вушэй да пят. У каго знаходзілі прыхаваныя дзве-тры бульбіны або кавалак траскі, збівалі да крыві, а самі работнікі кухні жэрлі не ў сябе ды яшчэ цягнулі з сабою ў барак. Які я ні быў галодны, а ў заработкі на кухню да канца тэрміну ніколі не хадзіў. Калі чалавек станавіўся рабом страўніка, траціў годнасць і сорам, пачынаў лазіць па памыйніцах і сметніках, вылізваць у сталоўцы чужыя міскі, рабіўся «шакалам», значыць, хутка яго ноччу вывезуць за вахту па групе «Д».

Ад дахадзяг ішоў цяжкі дух гнілой бульбы, гнілі і паносу. Пра такіх гаварылі: «Кандыдат у сасновы бушлат». На першых парах, калі паміралі адзінкі, кульгавы сталяр Міцька Сарокін збіваў для іх з няструганых аполкаў скрынку, яе і празвалі «сас-

новым бушлатам», а як пачаўся масавы мор, не хапала ні дошак, ні сталяроў — вывозілі ў агульныя траншэі нават без бялізны, а зімою прысыпалі снегам, бо ўкапаць мёрзлую, як каменны маналіт, зямлю ні ў кога не выстарчала сілы.

Адзіны ратунак у самых вялікіх пакутах — не апусціцца, не страціць волю, прыстойнасць, не забыцца, што ты чалавек, і мець надзейнага друга. Любое гора з таварышам дзеліцца напал і становіцца паловаю гора. Таму і трымаліся мы адзін аднаго: Алесь Пальчэўскі, Уладзімір Мяжэвіч, прыгажун і выдатны журналіст Юрка Такарчук, мой даўні друг Алесь Розна[3] і я. Каму б ні прыйшла вестка з дому, яна была нашай агульнай радасцю, пасылка дзялілася на ўсіх. Пасылкі ўскрываліся,ператрасаліся і выдаваліся на вахце. Каму б яна ні прыйшла, атрымліваць мы ішлі ўсе разам з добрымі кіямі, бо па завуголлі «чарцей-пасылачнікаў» цікавалі блатары. Яны наляталі, накрывалі галаву бушлатам, білі кіем па галаве, вырывалі скрынку з рук, і толькі іх бачыў, а ты лямантуй, крычы, кліч на дапамогу, — ніхто не прыйдзе, толькі ўспамінай убачанае на вахце сальца, сухары і блакітнаватыя драбочкі цукру. Колькі наглядчыкі ні спрабавалі шукаць украдзенае, ніколі нічога не знаходзілі.

Мы засвоілі прымітыўныя складанасці лагернага жыцця — трымаліся ўсе разам і неяк жылі, малілі толькі Бога і начальніка, каб хоць бы нас не разлучалі.

## БЕЛЫЯ ЗДАНІ

Мой напарнік Валодзя Мяжэвіч вельмі хутка засвоіў усе тонкасці падліку лясной прадукцыі. Ён імгненна пераводзіў пагонныя метры ў кубічныя, беспамылкова падлічваў кубатуру рудстойкі і дзелавой драўніны, шпальніку, балансу і авіяфанеры. Гэта заўважылі дзесятнікі і бралі Валодзю сабе ў дапамогу, а нам за гэта дапісвалі працэнты, а значыць, большала і пайка.

К вясне мы акрыялі на пасылках і нашых «туфтовых» заробках. Навучыліся дакладна валіць лес з пня, хутка пілаваць і калоць дровы, засвоілі, што выгадней нарыхтоўваць, і круціліся як маглі. Праўду кажуць — голад не цётка, ён і ката прывучыць гарчыцу есці.

Пабольшалі дні, прыпякала сонца, асядалі сумёты, дружна сходзіў снег, падсыхалі ад вахты да ачаплення дарогі, набракла апырсканае пупышкамі бярозавае вецце, выпстрыкнула вострая траўка, па абочынах засінелі пралескі. Усё гэта хвалявала,

будзіла ўспаміны, а радасці было мала. Суцяшала толькі, што меней мерзлі, не грузалі па сумётах, на развод выходзілі завідна і вярталіся, калі сонца толькі знікала за лесам. Было яшчэ светла, а па зоне, пабраўшыся адзін за аднаго, трымаючыся за відушчага, вобмацкам, з нармальнымі расплюшчанымі вачамі ішлі хлопцы. Начальства вінаваціла іх у сімуляцыі; за тое, што не выходзілі на начныя пагрузкі, саджала ў кандзей. А няшчасныя хлопцы плакалі і кляліся, што, як толькі змеркне, нічога не бачаць. Падтакваў начальству і ліпавы прыблатнёны лекпом.

А сляпых станавілася ўсё больш і больш. Удзень — нармальныя старанныя лесарубы, а на змярканні пабяруцца адзін за аднаго, і сунецца па зоне чарада сляпых. Як ні білася начальства, як ні мардавала ў ізалятары, відушчымі не станавіліся. Заступіўся брыгадзір дахадзяжнай брыгады былы ветэрынарны ўрач Міхайлаў. Прыбыў ён разам з намі з магілёўскай турмы. Быў адным з трох нерасстраляных выкладчыкаў Віцебскага ветэрынарнага інстытута. Іх вінавацілі ў шкодніцтве, у тым, што прышчэпвалі коням і каровам сібірскую язву і сап. Як яны ні даводзілі, што ў беларускіх сёлах не было зарэгістравана ніводнага выпадку гэтых хвароб, нічога не дапамагло: дзесяць чалавек расстралялі, траім далі па дзесяць гадоў. Латарэя!

Вось Міхайлаў і адважыўся прыйсці да начальства. З пабітым рабаціннем тварам, надзьмуты, як гладышка, малодшы лейтэнант глядзеў трахомнымі вачыма на колішняга палкоўніка ветэрынарнай службы зэка Міхайлава:

— Ну, чаго табе?

— Грамадзянін начальнік, я хоць і ветэрынарны ўрач, але асновы анатоміі і фізіялогіі ведаю дасканала і мушу сказаць, што вы дарэмна заганяеце ў ізалятар людзей, якія слепнуць на змярканні. Яны сапраўды не бачаць.

— А ты адкуль ведаеш? Заступнік мне знайшоўся сімулянтаў і контрыкаў!

— Я вам хачу вярнуць паўнацэнных работнікаў. У іх так званая курыная слепата. У арганізме адсутнічае вітамін Д і іншыя неабходныя кампаненты. Яны ёсць у сырой пячонцы і рыбным тлушчы. Паспрабуйце даць ім трохі пячонкі, і ўсе стануць відушчымі.

Начальнік задумаўся.

— Калі праўду кажаш, расканваірую, і пойдзеш рабіць на конбазу конскім доктарам, ашукаеш, згнаю ў ізалятары. Так што выбірай. Тлушчу і нашым дзецям няма. А дзе ўзяць пячонку?

— На конбазе. Там выбракаваных коней раздзелваюць нам у кацёл, а ўвесь лівер выкідваюць сабакам. А гэта ж ратунак для няшчасных людзей.

Нарэшце ўгаварыў Міхайлаў начальніка. Праз тыдзень ужо ніхто не хадзіў па зоне вобмацкам.

Неўзабаве Міхайлаў пайшоў ветэрынарыць на конбазу, яго брыгаду перадалі майму напарніку Валодзю Мяжэвічу. Яго журналісцкая хватка засвойваць усё на ляту, уменне давесці сваю праваты, непаспешлівая разважлівасць ратавалі яго ў самых складаных варунках. Ён выгаварыў у начальніка права скамплектаваць брыгаду па-свойму і прапанаваў новы метад працы — канвеерны. Дайшоў, як кажуць, сваім розумам да таго, што цяпер шырока вядома як брыгадны падрад.

Мяжэвіч узяў у сваю брыгаду Грыцка і Амельку Смыкоў, нізкарослых, дужых і паслухмяных братоў з Чарнігаўшчыны, выдатных вальшчыкаў з пня. Яны клалі любую дзеравіну дакладна туды, куды трэба: крыж-накрыж, хлыст на хлыст, каб зручна было, не згінаючыся, пілаваць. За вальшчыкамі ішлі сучкарубы і раскражоўшчыкі, я быў адзіны кольшчык на ўсю брыгаду. Калуном і канадскім тапаром, як арэхі, лузаў свежыя бярозавыя чуркі і сукаватыя яловыя камлі. Брыгада працавала весела і дружна на агульны кацёл, стараліся адзін аднаму памагчы: перад адбоем усе разам складалі дровы ў паленніцы, і не верылася, што столькі напілавалі за дзень, скочвалі ў штабялі дзелавы лес і, пільна азіраючыся, хавалі канцы туфты. Выпрацоўка ішла на ўсіх пароўну. Вылучалі толькі Смыкоў, — ім заўсёды быў забяспечаны трэці кацёл. Часам усёй брыгадзе выводзілі «стаханаўскія». Гэта ўжо было свята: брыгаду саджалі на сцэне за доўгі стол, неслі поўныя міскі баланды і кашы, а на «прэмблюда» маленькія, як царкоўныя просвіркі, булачкі. Глядзіш на яе і не ведаеш, есці ці толькі нюхаць. Пах нагадваў волю, тую пару, калі можна было купіць пульхную сітніцу, батон, сайку ці свежую французскую булку. Я непрыкметна хаваю сваё «прэмблюда» ў кішэню, бо сорамна кусаць, калі на цябе прагна глядзіць столькі галодных вачэй. Булачкі выпадалі рэдка, і мы ведалі, што гэта заслуга вынаходлівасці нашага брыгадзіра — вялікага майстра складаць рапарцічкі і выводзіць працэнты за нарэзаныя і туфтовыя кубікі, а часам за «кантоўку дня ля пня».

У канцы мая ўдарыла пякельная спёка. На сінім да бляску небе — ні воблачка, ні хмурынкі. Сонца ў зіхоткім німбе пералівалася растопленым металам, сляпіла вочы і смаліла бязлітасна. Звяла бярозавае лісце, і пахла лазняю. Ігліца, сухі

мох, дробнае сучча трашчалі пад нагамі, як порах. Высахлі ўсе копанкі і лужыны, а мы прэлі ў абшарпаных, з клоччам чорнага пакулля ватніках. Забаранілі паліць лаўжы, бо на паўночных лагпунктах тыднямі гарэлі лесасклады, пажар дабіраўся да зоны, гарэў лес, гарачы вецер даносіў да нас пах дыму і гары. Лесарубы млелі ад гарачыні і смагі. Пад выварatamі знаходзілі зялёныя ад жабурыння, поўныя юркіх апалонікаў лужыны, прыпадалі да іх і праз анучачку смакталі слізкую і горкую каламуць. З высахлых балацін накінулася на нас плойма крыважэрнай заедзі — вялізныя, як чмялі, авадні ссякалі да белых пухіроў, сляпні прыліпалі да змакрэлага цела, лезлі ў рот, у вочы і вушы, звінелі і гайдаліся хмараю вакол галавы камары. Ледзьве адкараскаліся ад паразітаў у рубцах кашуль, як напала гэтая лютая погань. Коні не маглі адбіцца ад заедзі, раўлі і падалі ў аглоблях. Міхайлаў іх мазаў дзёгцем і крэазотам, але і гэта слаба памагала.

У спёку саслабелыя трацілі прытомнасць. Падала выпрацоўка, не памагалі штрафныя пайкі і кандзей, расла туфта, каб пратрымацца хоць бы на шасцісотцы. Задумалася і начальства. Раптам у нядзелю абвясцілі выхадны. О, радасць! А мы ўжо забылі, калі ён быў. Усе ўзяліся латацца, абшывацца, галіцца, падстрыгацца. У каго што збераглося з дому, апрануліся ў «вольныя» штаны і кашулі, каб хоць у выхадны не парыцца ў пашарпаных ватніках. Летняга адзення ў лагеры не было, таму і летам хадзілі ў зімовых неданосках.

Арыштанты ў сваёй адзежы ўстрывожылі камандзіра ўзвода аховы: гэта ж магчымыя ўцекачы. Надвячоркам у зону ўвайшло чалавек пятнаццаць стралкоў, і пачаўся павальны «шмон» — забіралі нялагерную вопратку, з мяшкоў і фанерных чамаданчыкаў вытрасалі фотакарткі і лісты з дому, забіралі іх на «праверку», хоць і прайшлі яны самую пільную цэнзуру. Так нічога і не вярнулі. Завідна пагналі на вячэру і да заходу сонца прызванілі адбой. Нарадчык і дзяжурныя ўсіх заганялі спаць, — пад'ём будзе ў гадзіну ночы, снеданне і развод. Працаваць будзем да дзвюх гадзін дня, пакуль не ўдарыць спёка.

Але дзе ты заснеш, калі яшчэ смаліць сонца, а ў палатцы ад гарачыні няма чым дыхаць. Усе абліваюцца потам, варочаюцца, кідаюцца і лаюцца ад злосці. А тут яшчэ развялася плойма клапоў, імі забіты ўсе шчыліны ў нарах, яны, як дождж, сыплюцца з апалубкі і дасмоктваюць рэшткі арыштанцкай крыві. Вошы, гніды і клапы неадступныя спадарожнікі арыштантаў

на ўсіх этапах, у турмах, перасылках і бараках. Сякуць яны нас і ў палатцы.

Ні матрацаў, ні падушак, ні коўдраў нам так і не далі — курчымся на нарах, падаслаўшы знятыя з сябе транты. У такую пару сон не бярэ, і чакаем брыгадзіра з нарады. Ён прыйшоў змрочны, шэптам расказаў, якую накачку даваў начальнік дзесятнікам і брыгадзірам: за невыкананне нормы — з вахты ўсю брыгаду ў кандзей, пазбаўляецца пасылак і перапіскі кожны «сабатажнік», а камандзір узвода папярэдзіў, калі з брыгады хто ўцячэ, адказвае ўся брыгада — пераводзіцца ў рэжымны барак пад замком. Правёў інструктаж і «кум» — упаўнаважаны оперчэкісцкага аддзела. Яму вядома, што ёсць незадаволеныя лагерным рэжымам, а лагер *савецкі*, значыць, незадаволены яны савецкай уладай, ёсць зацятыя ворагі, што і тут вядуць контррэвалюцыйную агітацыю. Брыгадзіры абавязаны выяўляць іх і паведамляць пра іх «дзейнасць» упаўнаважанаму.

Валодзя Мяжэвіч зусім абмяк: «Наліха мне гэтае брыгадзірства. Хочуць усіх брыгадзіраў зрабіць стукачамі. А нехта ж даносіць «куму» за лішнюю міску баланды, так што не распускайце языкі, а то ўлепяць новую дзесятку або і пад «вышку» падвядуць. А цяпер спаць — у гадзіну пад'ём».

Які там быў сон? Ночы амаль белыя, клапы сякуць як нанятыя, заплюшчышся, а думкі круцяцца, як каляровая карусель: вярзецца воля ў маім кароткім жыцці, першая завейная зіма, калі мы з Валодзем плакалі каля датлелага вогнішча, думалася, як будзем валіць і пілаваць ноччу. Толькі праваліўся ў сон, нешта нетутэйшае саснілася, а ўжо «бом!», «бом!», «бом!» — звоняць як на пажар, і ўжо чуваць з суседняй палаткі: «П-а-ад'ё-ё-м! Давай! Давай! Варушыся! Вылятай без апошняга!» А што гэта значыць, мы добра засвоілі. Але ў цяжкім сне ніяк не ўцямлю, ява гэта ці трызня, саджуся і кулакамі тру яшчэ заплюшчаныя вочы.

Ночы былі парныя, пранізаныя свербам камарынага звону. Прачыналіся потныя і ачмурэлыя, нылі бакі і спіна, здранцвела шыя ад ляжання на бярозавай плашцы або на торбе, напакаванай каравымі парцянкамі і арыштанцкімі трантамі, бо ў лагеры кожная анучачка, вяровачка, нітка і латка, гузік, бляшанка — неабходная каштоўнасць, тваё адзінае багацце. З нараў усе злазяць у сподняй бялізне, ды і бялізнай яе нельга назваць — белаю яна была ў першы дзень лагернага існавання, потым брудна-шэрая, у плямах салёнага поту і запечанай крыві ад драпін і ўкусаў заедзі. Спешна абуваем лапці, сонныя ідзём у сталоўку, сёрбаем трасковую поліўку — і перад вахтай пастроілася доўгая калона

ў споднiках, нават вахцёраў разбiрае смех. З пiламi i тапарамi на плячах месiм пульхны пыл да самай лесасекi. Камары над намi гайдаюцца хмараю, сякуць рукi i твар, лезуць у нос i вушы, дыхнеш — залятаюць у рот. На дзялянцы iх яшчэ больш. Ноччу не так даймае спёка, але бязлiтасна лютуюць камары, i ў прыцемках з непрывычкi марудна пачынаецца работа. «Давай! Давай! Варушыся! Хопiць раскачвацца!» — гукаюць дзесятнiкi i майстры лесу.

I заварушылiся: сярод кустоў i падлеску сланяюцца белыя ценi. Нашай вопраткай асаблiва былi задаволены стралкi — калi хто адважыцца ўцякаць, убачыш за вярсту i ўжо не прамахнешся па такой мiшэнi. За тыдзень уцягнулiся ўставаць апоўначы, прылаўчылiся ў змроку валiць лес. У гадзiну дня, аблiваючыся потам, з засмяглымi вуснамi, ссечаныя аваднямi, канчалi работу, цягнулiся на вахту ў ачапленнi, чакалi, пакуль усiх палiчаць, здымуць канвой i павядуць у зону. Пасёрбаўшы баланды, засыналi трывожным сном у душнай палатцы.

Наша брыгада была як адна сям’я, большасць нас былi знаёмыя па волi, па агульных камерах i этапах, былыя журналiсты, маладыя фiлолагi, улюбёныя ў лiтаратуру i паэзiю, за гэтую любоў, ахрышчаную следчымi «контррэвалюцыйным нацыяналiзмам», нас «перавыхоўвалi» на лесапавале, у халодных i душных палатках i кандзеях. Бяда зблiзiла i з’яднала нас. Усе, не ўтойваючы нiчога, апошнiм дзялiлiся з сябрамi, дапамагалi чым толькi маглi. Калi я не паспяваў перакалоць усе сукаватыя чурбакi i кручаныя камлi, кiдалiся на падмогу ўсе астатнiя. Выгнаны з санчасцi «по статейному признаку» Алесь Пальчэўскi стаў добрым пiлаправам i раскражоўшчыкам. Быў у нашай брыгадзе таленавiцейшы журналiст Юрка Такарчук. У дзевятнаццаць гадоў ужо — карэспандэнт «Комсомольской правды», потым узначалiў аддзел у «Звяздзе», перад самым арыштам працаваў галоўным рэдактарам грамадска-палiтычнага вяшчання радыёкамiтэта. Ён быў маiм начальнiкам i добрым таварышам. Здзiўляў Юрка талентам, аператыўнасцю, вобразнасцю i дакладнасцю фармулёвак. Ён адказныя артыкулы адразу дыктаваў машынiстцы, i яны былi ўзорам глыбiнi думкi i дакладнасцi стылю, i сам ён быў дакладны ва ўсiм i прыгожы: высокi i статны, бровы, як ластаўчыны крылы, сыходзiлiся над яснымi шэрымi вачыма. Ён апранаўся ў бездакорныя светлыя касцюмы, насiў да хрусту накрухмаленыя каўнерыкi i яскравыя гальштукi, нечым нагадваў партрэты Джэка Лондана.

На дзялянцы Юрка, як і ўсе, хадзіў у закарэлых ад смалы споднiках і лазовых лапцях, волю нагадвала толькі прысланая яго Броняю прыгожая, як казалі, «горкаўская» цюбецейка. Яго эрудыцыя, энцыклапедычная дасведчанасць і дасціпнасць зачароўвалі ўсіх у камеры, у палатцы і на лесасецы. Нават блацякі пачціва звалі яго Юры Кліменцьевіч. А яго крыжавы шлях закончыўся трагічна і страшна, але пра гэта трохі пазней.

Быў у нашай брыгадзе мой незабыўны друг з піянерскіх гадоў, таленавіты паэт і перакладчык вершаў Міцкевіча і Генрыха Гейнэ — Алесь Розна. Разгублены, наіўны, несабраны, захоплены не бытавымі дробязямі, а нейкімі сваімі ўзвышанымі марамі. Ён мог забыць каля ўмывальніка адзіную кашулю, уціральнік, у сталоўцы — недаедзеную пайку. Я яго апекаваў, як малое дзіця. Мы з ім побач спалі, елі з аднаго кацялка, дзяліліся апошнім сухаром, падсоўваючы адзін аднаму большы кавалак. У 1927 годзе мы разам друкавалі свае вучнёўскія вершыкі ў часопісе «Беларускі піянер». Праз рэдакцыю пачалі перапісвацца. Ён жыў на ўскраіне Мінска, цяпер гэта цэнтр і тэрыторыя завода імя Кірава. Алесь рана пачаў друкавацца ў «Савецкай Беларусі», «Чырвонай змене», «Полымі», прысылаў мне свежыя выданні, пісаў пра паэтаў, якіх я і не чуў, я яму з свайго глухога Глуска слаў наіўныя лісты і слабенькія вершыкі. Потым мы разам вучыліся ў інстытуце, працавалі ў «Чырвонай змене», сустракаліся бадай кожны дзень. Следчы нашы сустрэчы лічыў «контррэвалюцыйнымі зборышчамі», злыгаў у адну «нацыянал-фашысцкую арганізацыю», засудзіў нас адзін і той жа Карпік, даў па дзесяць гадоў і пяць пазбаўлення правоў. Лёс нас вёў доўгімі этапамі на нары ў палатцы на шостым лагпункце і ў адну канвеерную брыгаду.

Алесь Розна трагічна загінуў лютаю зімою 1942 года. Хворы на запаленне лёгкіх, ён упарта ішоў у лес, зняможаны лажыўся на сучча на снезе, пакуль зусім не страціў прытомнасць. Яго смерць была наўмысным самагубствам. Ён загінуў таму, што нас разлучылі. Я б яго ўбярог для жыцця і літаратуры. У акупіраваным Мінску фашысты знішчылі ў гета яго маці, сястру і двух братоў. Я і цяпер бядую па Алесю, як па самым дарагім і родным чалавеку.

У тое спякотнае лета, трохі акрыялыя пасля турэмнага голаду і нерухомасці, мы спадзяваліся на перагляд нашых выдуманых спраў, у вольныя хвіліны пісалі скаргі дабрэйшаму Усесаюзнаму старасту Міхаілу Іванавічу Калініну і Молатаву, наіўна верачы ў справядлівасць і выратаванне. Дзівакі! Мы ж і не ўяўлялі,

што яны не маглі выбавіць з лагераў сваіх жонак, а старшыня Саўнаркома падпісваў даўжэзныя спісы сваіх былых паплечнікаў і сяброў да пакарання смерцю.

Розна сярод нас быў самы большы аптыміст. Ён лагічна даводзіў абсурднасць усіх абвінавачванняў, верыў, што варта толькі цвярозым і разважлівым людзям пагартаць нашы «справы» і ўбачыць фантастычную бязглуздзіцу малапісьменных пратаколаў. Алесь на допытах «раскалоўся» і назваў завербаваных ім Памялоўскага, Ляскова, Паляжаева. Следчы ўзрадаваўся, далажыў начальству, а потым збіў Алеся на горкі яблык. Мы жылі ў тое лета спадзяваннямі, а нашы скаргі добра гарэлі ў грубках упраўлення Унжлага.

Тыдні за два ўцягнуліся ў начныя пад'ёмы і работу ў поцемках. Усё больш і больш мучыла смага: усе лужыны высахлі і пакрыліся парэпанаю граззю, пакінулі апалонікі і жабы. Ад прывезенай бочкі вады кожнаму даставалася два-тры глыткі, а сонца смаліла бязлітасна, пад нагамі трашчала ламачча і перацёртая на порах ігліца, пачарнеў і паскручваўся чарнічнік, бярозы шамацелі, як сухія венікі. На небе — ні воблачка, ні хмурынкі, паветра гайдаецца, як растопленае шкло. Ужо і пацець няма чым. Задубелыя і прасоленыя кашулі аж рыпяць на ссечаных заеддзю спінах. Але нікуды не дзенешся — трэба пілаваць, калоць, складаць паленніцы.

І раптам зашапацеў ветрык, загайдаліся падсохлыя верхавіны, нечаканы павеў асвяжыў абсмаленыя спёкаю шчокі і чорныя, як галавешкі, рукі. Мы зашэрхлымі губамі прагна лавілі свежае паветра. Вецер мацнеў і мацнеў. Загайдаліся, сагнуліся танчэйшыя бярозы, як мяцеліца, паляцела сухое лісце і сучча, сонца паблякла і зацягнулася пылам. Пушча гула і стагнала ад ураганнага ветру. Дзесятнікі бегалі і загадвалі спыніць павал, бо ледзьве падпілаваныя дрэвы валіў вецер і шпурляў, куды яму хацелася. Над вершалінамі дрэў стала цёмна-шызая з малінавымі падпалінамі хмара. Яна імкліва папаўзла вышэй і вышэй і засланіла сонца. Трашчалі і падалі сухія дрэвы, вецер выварочваў з карэннем елкі і старыя хвоі. На трасе загайдаліся вышкі, з іх пазлазілі стралкі. З вахты праз свіст ветру і шум буралому даносіліся ўдары ў рэйку: «Выходзь строіцца!» Мы пакідалі недакладзеныя паленніцы, хапалі інструмент і, згінаючыся, беглі на вахту.

Неба рассекла сіняя пакручастая маланка, ударыў і пакаціўся гром. Нам насустрач з гулам і плёскатам ішла сцяна густога дажджу. Буйныя кроплі астудзілі твар і распаранае цела. Брудная

бялізна папрыліпала да спіны і ног. Ад кожнага руху папрэлыя за лета кашулі лопаліся і звісалі з плячэй матузамі, а дождж з ветрам хвастаў і збіваў з ног саслабелых. Ісці было страшна, бо то спераду, то побач падалі вывернутыя з карэннем дрэвы. На вахце, дрыжучы ад ветру і халоднага дажджу, туліліся адна да аднае мокрыя белыя здані. Цяпер яны былі шэрыя ад гразі і дажджу.

Нарэшце начальнік канвою пералічыў пагалоўе і падаў сігнал стралкам здымацца з трасы. Пакуль яны ішлі, мы скавыталі на вахце, прысядаючы ад маланкі і грому. А да зоны сем кіламетраў. Паперадзе цягнуўся даўжэзны абоз возчыкаў іператварыў дарогу ў ліпкі жужаль. Па ім па калені ў гразі з голымі спінамі ў ашмётках рыззя хлюпалі лесарубы. Ішлі праз колішнія дзялянкі. На іх там-сям тырчалі семеннікі — самыя спелыя бярозы і хвоі. Яны згіналіся да зямлі і перакрыжоўвалі нам дарогу. На шчасце, нікога не прыбілі, мабыць, мелі літасць да арыштантаў. Да зоны цягнуліся доўга пад крыкі: «Давай! Давай! Варушыся, мацьперамаць». Усё засцілала заслона буйнога і хлёсткага дажджу. Сківіцы ляскалі, цела пакрылася пупышкамі, як гусіная скура. Кожны марыў — хутчэй хоць пад мокры дах палаткі, да жалезнай печкі, — але дзе там! Стой, калаціся перад варотамі, пакуль усіх не палічаць і не адзначаць на доўгай фанерцы.

З’явілася і маленькая надзея: можа, дасць бог, прастыну, падскочыць тэмпература і некалькі дзён пракантуюся ў зоне. Але, відаць, нават прастыць з маім «шчасцем» не ўдаецца. Колькі ні мёрз, колькі ні дубеў у мокрай адзежы на лютым марозе, ні правальваўся ў лапцях на тоненькую парцяначку ў заледзянелыя лужы, ніякая хвароба не брала. А прастыць і захварэць была самая светлая мара.

Кашулі нашы параспаўзаліся, заляпаныя гразёю нагавіцы прасушыць няма дзе, сваю адзежу пазабіралі. А на работу, дождж ці спёка, ісці трэба, а ў чым? Пасля вячэры загадалі забіраць у капцёрцы сваё вольнае адзенне. Ледзь не да поўначы стаялі ў чарзе, потым нацягвалі на голае цела прапахлыя тхлінаю, зваляныя кашулі і штаны. А ў каго не было, зноў ішлі ў брудным параздзіраным споднім.

## ЧАМУ! ЗА ШТО! НАВОШТА!

Па дарозе на лесасеку, пілуючы і колючы дровы, сёрбаючы баланду ў парнай, як лазня, пратухлай гнілымі трасковымі

галовамі сталоўцы, скрозь, дзе б ні ішоў, што б ні рабіў, токам біла адна думка, свідравалі адны і тыя ж пытанні: чаму «чорны воран» ухапіў мяне, чый палец тыцнуў у мой бок, каго пакрыўдзіў, каму замінаў? Кожны з маіх дваццаці трох пражытых гадоў быў відзён як на далоні. Я нікому і на парушынку нічога кепскага не зрабіў. За што ж такая жорсткая кара? Ды хіба мне аднаму?

За васемнаццаць месяцаў турмы і многія гады лагерных пакут мне сустракаліся толькі сумленныя, чыстыя і светлыя душою, адданыя нашаму ладу людзі. Навошта ж ім усім паламалі жыццё? Каму гэта трэба? Па чыім загадзе вынішчаецца цвет народа? А калі прыехала ўвосень 37-га года ў Мінск страшная Ваенная калегія Вярхоўнага суда на чале з крыважэрным Ульрыхам, колькі светлых галоў і чыстых сэрцаў было прастрэлена маладзенькімі катамі ў блакітных фуражках. Толькі цяпер знойдзена невялічкая частка прабітых навылёт чарапоў лепшых сыноў і дачок Беларусі ў хвойніку, названым Курапатамі. У адзін дзень, 29 кастрычніка 1937 года, забілі Платона Галавача[4], Васіля Каваля[5], Анатоля Вольнага[6], Валерыя Маракова[7] і Ізі Харыка[8]. За што? Ніхто не адкажа. Хто страляў? Нібыта ніхто не ведае. А недзе ж у «справах» ёсць іх подпісы пад актамі аб прывядзенні прысуду ў выкананне, недзе ж яшчэ жывуць натрэніраваныя ў стральбе па жывых мішэнях «варашылаўскія стралкі». Не ўсе яны адышлі ўслед за сваімі ахвярамі, многія ходзяць побач з намі, атрымліваюць персанальныя пенсіі, прымацаваны да асобых размеркавальнікаў і, напэўна, спакойна спяць. А сумленне? Не муляе і не мучыць. Чаго не было, таго няма. За многія гады духоўнага спусташэння гэтая маральная катэгорыя назаўжды страчана ў паслухмяных служак і прыслужнікаў крывавага рэжыму, гатовых выканаць любы бязглузды і злачынны загад. Яны, як манкурты, па загадзе родную маці застрэляць.

Прайшло болей паўстагоддзя, а памяць зноў і зноў вяртае ў той дажджлівы кастрычніцкі вечар 1936 года. Я працаваў у радыёкамітэце. Рана здаў усе перадачы, а дамоў ісці не хацелася: сланяўся па рэдакцыі, гартаў падшыўкі газет, чамусьці было страшна выйсці ў трывожную слату асенняга вечара. Пабадзяўся па гастраноме, пастаяў у чэргах, даехаў трамваем да Камароўкі і марудна паплёўся па цёмнай і гразнай Цнянскай вуліцы да барачнага тыпу дома, дзе і мне далі пакойчык. Здалёк убачыў сваё асветленае акно, і апанаваў невядомы страх. Стрымлівала нейкае трывожнае прадчуванне. І яно не падвяло: бяда ўжо чакала мяне і правяла 19 кастрычніка жалобную рысу ў маім жыцці.

Увайшоў у пакой і сумеўся: заплаканая жонка сядзела на ложку, а за сталом два вайскоўцы з лётнымі пятліцамі і лейтэнанцкімі кубікамі гарталі кніжкі, знятыя з адзінай этажэркі. Каб не кідацца ў вочы блакітнымі фуражкамі, аператыўнікі часта з'яўляліся ў цывільным або ў агульнавайсковай форме. Я адразу не спалохаўся і не разгубіўся, бо ведаў, што за мною няма ніякай віны. Магла быць адзіная зачэпка — вярнуўшыся з камандзіроўкі ў пагранічны раён, не паспеў своечасова здаць у камендатуру візу. Вось, думаю, адзіная прычына такога нечаканага візіту. Пацікавіўся, з якое прычыны яны капаюцца ў маіх кніжках, а мне працягнулі ордэр на права вобыску і арышту. І гэта мяне не вельмі ўразіла. Думаю, паўшчуваюць, папалохаюць і раніцай пусцяць дадому. Але аператыўнікі вельмі ж уважліва ўглядаюцца ў кожную старонку, дзе толькі падкрэсленне ці паметкі, — адкладаюць убок, складаюць у папку мае скрэмзаныя чарнавікі, лісты і фотаздымкі. Глядзеў на іх работу, пакуль не змарыў сон, і я спакойна заснуў.

У пяць гадзін раніцы разбудзіў пад акном гул машыны, тупат і незнаёмыя галасы людзей, што ўваліліся ў мой невялічкі пакойчык у агульнай кватэры радыёкамітэцкага дома. Ён стаяў у полі на пясчаным узгорку. Я яго адшукаў пасля вайны. Ён яшчэ доўга ліпеў паміж новых дамоў. Я хадзіў вакол яго, пазіраў у колішняе маё акно, бачыў нейкія постаці, а ў пакой зайсці не адважваўся, баяўся, што расплачуся. На тым парозе абарвалася мая маладосць, страчанае назаўсёды каханне, там убачыла свет маё дзіця, толькі я яго ніколі не пабачыў, а неўзабаве і яно стала ахвяраю крывавага тэрору: жонку з дзіцём на руках выселілі з ведамаснай кватэры, выключылі з інстытута. Без прытулку і грошай да самых маразоў яны начавалі ў скверы на плошчы Волі, сябры і знаёмыя пазбягалі, баяліся даць прытулак. Калі пахавала сына, падалася на нейкі торфазавод, і нашы шляхі разышліся назаўсёды.

А мяне ў тое кастрычніцкае ранне пяць узброеных чалавек везлі ў нейкую страшную невядомасць. Побач сядзеў мой будучы следчы, высокі з шэрым тварам і цёмнымі кругамі пад вачыма старшы сяржант Даўгаленка, з другога боку прыціснуўся маленькі ў скураным паліце, з авечым профілем начальнік сакрэтна-палітычнага аддзела Шліфенсон, у патыліцу дыхаў гніллю зубоў высачэзны міліцыянер, спераду сядзелі два «лётчыкі» на стосах забраных у мяне кніг. Нават Чэхаў і Горкі трапілі ў «крамольную» літаратуру.

У дарозе мяне агарнула трывога: калі іх столькі сабралася, выходзіць, справа не ў візе. Ламаю галаву, што мог кепскага зрабіць, і нічога прыпомніць не магу, а прадчуванне бяды сціснула сэрца і стукае ў скроні.

З таго пад'езда, дзе мне неаднойчы выдавалі візы, павялі ў сутарэнне. У вялікім пустым пакоі вопытны турэмшчык імгненна пазразаў усе металічныя гузікі і гаплікі, з чаравікаў павыцягваў шнуркі, распрануў, як у лазні, загадаў нагінацца і агледзеў усё, што і не кожны ўрач аглядае. А ў дзвярах ужо мяне чакаў «вывадны». Як жа ісці, калі ўсё звальваецца, а рукі трэба трымаць за спіною? Адарваў аблямоўку ад насоўкі, неяк звязаў паясніцу на штанах, і павялі мяне доўгімі прадымленымі «Беламорам» калідорамі на пяты паверх у невялікі пакой на першую пакуту. Праз акно ўбачыў халоднае світальнае неба ў цёмна-сініх хмарах з барвовымі пацёкамі ад недзе схаванага сонца. Злева за сталом нешта пісаў Даўгаленка. На ім была шэра-зялёная габардзінавая гімнасцёрка, на левым рукаве вышэй локця чэкісцкая эмблема — вышыты ў авале шчыт і меч, над манжэтамі — тры пунсовыя нашыўкі, падобныя на сэрцы. Следчы паказаў мне на прыкручанае ў куце да падлогі крэсла. Акно выходзіла на Рэспубліканскую вуліцу. Па ёй ішоў трамвай, з яго выходзілі і садзіліся людзі. Рабочыя спяшаліся на абутковую фабрыку, дзеці беглі ў школу. Учора так хадзіў і я, а з ночы гэты свет стаў для мяне чужы і недасяжны, усё дарагое і жаданае засталося за неадольнаю сцяною, імя якой няволя. Следчы толькі часам блісне на мяне, маўчыць і нешта піша. Зыркая настольная лямпа слепіць мне вочы. Я прыхінуўся да спінкі і па звычцы заклаў нагу на нагу. «Сядзьце, як паложана: спіною не абапірацца, ногі паставіць роўна, рукі на калені. І так заўсёды». Тады я яшчэ не здагадваўся, што ў гэтай пакутнай позе давядзецца сядзець па трое сутак запар, пакуль не страціш прытомнасць і не ссунешся з крэсла, а маладыя ўкормленыя следчыя, папіваючы чай з бутэрбродамі, будуць змяняць адзін аднаго і дзяўбці: «Прызнавайся ў контррэвалюцыйнай трацкісцкай дзейнасці». Як толькі ў калідоры зарыпяць боты, следчы ўскаквае, грукае кулаком па стале, крычыць і сыпле адборныя мацюкі. Сціхнуць крокі, цішэе і следчы, корпаецца ў паперках, звоніць дадому, жартуе з жонкаю і дачушкаю, відаць, на пытанне, калі прыйдзе, адказвае: «Ды тут адзін тып у мяне ніяк не хоча раззбройвацца, але нідзе не дзенецца».

На трэція суткі мяне кінулі ў адзіночку ў так званай «амерыканцы». Чаму «амерыканка»? Казалі, што яна нечым падобна на амерыканскую турму «Сінг-сінг». У двары следчага корпуса

стаіць круглая, як вадакачка, з шэрага бетону, з маленечкімі закратаванымі акенцамі ўнутраная турма. Падводзячы да яе, «вывадны», «вертухай», або «попка», як іх завуць усе арыштанты, тройчы свішча. А дзеля чаго, адразу не зразумеў. Адзін вертухай не ўмеў свістаць. З тоўстых, як сасіскі, губ чулася толькі шыпенне. Падвёў ён мяне да дзвярэй і загадвае: «Свісні». — «А я не ўмею», — адказваю. «Свісні, мацъ-перамаць!» Стаім. Думаю, хоць падыхаю свежым паветрам. А ён аж са скуры вылузваецца — трэба весці іншага арыштанта, а ён са мною валэндаецца. Свістам яны папярэджвалі наглядчыкаў, каб, барані божа, не сустрэліся, не ўбачылі адзін аднаго зняволеныя.

Мой першы вывадны быў якраз добры свістун і, пачуўшы свіст у адказ, увёў у даволі светлае круглае памяшканне, падобнае на цырк. На першым паверсе — чацвёра шэрых жалезных дзвярэй, з «кармушкамі» і «ваўчкамі». Пахне свежаю масляною фарбаю, сапраўднаю, на пакосце. Гэты пах запомніўся назаўсёды, толькі пачую, адразу ўспамінаецца «амерыканка». Над галавою сектарамі разбягаецца металічнае павуціннe, на яго накінута густая вераўчаная сетка, пасярэдзіне, на круглым мастку стаіць наглядчык. Дзесяць прыступак уверх, і я стаю на чырвонай дывановай дарожцы, засланай па крузе, над галавою шкляны купал. У сценах васемнаццаць дзвярэй. Па дарожцы няспынна ходзіць другі наглядчык і праз «ваўчкі» заглядае ў кожную камеру, часам стукае ў дзверы і некага нябачнага папярэджвае: «Не спаць!» — і ідзе далей. Перада мною самі адчыняюцца дзверы (гэта наглядчык на пульце павярнуў ключом). Адразу ўражвае гэтая нечаканая таямнічасць. Увайшоў, і дзверы мякка шчоўкнулі, як у пастцы. Вось і камера. Усечаны сектар круга нагадвае дамавіну. Пад столлю з тоўстага непразрыстага шкла закратаванае акенца, да сцяны прыкручаны прантамі жалезны тапчан з матрацам, у куце ўмураваны столік і зэдлік, пры дзвярах тумбачка і параша. Вось і ўся мэбля. На тумбачцы тры пайкі хлеба і шэсць драбочкаў цукру за тыя дні, што прабыў у следчых.

Адзінае жаданне — зваліцца і заснуць. Толькі памкнуўся да пасцелі, адчынілася кармушка, усунуўся прышчавы твар «хадуна па крузе»: «Да адбою класціся забараняецца, спаць седзячы таксама. За парушэнне — карцэр. Зразумела?» — «Нармальнаму чалавеку зразумець гэта нельга». — «Нічога, пасядзіш, зразумееш». Кармушка нячутна зачынілася, а я сапраўды хутка зразумеў і адчуў увесь жах свайго становішча.

Ні баланда, ні пайкі хлеба не лезлі ў рот. Я шнураваў пяць крокаў ад сцяны да дзвярэй і назад, а ў галаве круціліся, пяклі і свідравалі адны пытанні: «За што? Чаму мяне? Дзеля чаго? Каму трэба з мяне рабіць ворага?» Яшчэ верылася, што пераканаюцца ў маёй невінаватасці і пусцяць дамоў. А там мая маладзенькая жонка з дня на дзень чакае дзіцяці. Як яна? Што з ёю? Хто ёй дапаможа? Нашы ж людзі выхаваны ў спрадвечнай пільнасці, у страху, нават блізкія адварочваюцца ад сям'і пакутніка. Але я памыляўся. Тады, калі дзеці выракаліся бацькоў — «ворагаў народа», жонкі — мужоў, мой дваюрадны брат, славуты хірург Мікалай Іванавіч Бобрык, не толькі не адвярнуўся ад маёй няшчаснай жонкі, ён не баяўся званіць па тэлефоне майму следчаму, станавіцца перад турмой у чаргу з перадачаю для мяне, ён не пакідаў мяне да апошняга дня маёй няволі. А думкі не давалі спакою ні на хвіліну, у вачах круціліся чырвоныя, сінія, жоўтыя знічкі, у галаве гула і ляскала кузня. Я садзіўся на зэдлік, падпіраў рукою шчаку, самі заплюшчваліся вочы, і адразу ж у рэчаіснасць вяртаў стук: «Не спаць!»

Дачакаўся адбою і праваліўся ў глыбокі сон. Праз нейкую гадзіну адчыняецца кармушка, стук ключом па жалезных дзвярах: «Хуценька на допыт. Давай, давай! Варушыся». Пракінуўся і не разумею, дзе я, што са мною, а расшалопаў, — скаланулі дрыжыкі і заляскалі зубы, рукі дрыжаць і не знаходзяць рукаў, добра, што не трэба зашнуроўваць чаравікі і зашпільваць гузікі: усё выразана, усё наросхліст.

Рукі назад, свіст — і павялі праз вузкі двор, а ў ім, як у доўгай трубе, скавыча пранізлівы вільготны вецер. У канцы двара ляжаць стосы папер, папак, канвертаў з лістамі і здымкамі. Іх кідае ў спецыяльную печ невысокі вайсковец, а другі доўгаю качаргою варочае і разбівае попел. Колькі там згарэла рукапісаў, дакументаў, дысертацый, здымкаў, дзённікаў і лістоў! Год, пакуль быў пад следствам, не патухала тая страшная печ. А колькі яна палілася да мяне і пасля мяне?

На кожным павароце даўжэзных калідораў з мноствам дзвярэй свішча або звоніць ключамі мой вывадны і зноў прыводзіць у вузкі пакойчык Даўгаленкі. Пакуль ішоў, наслухаўся прыглушаных крыкаў, тупату, енкаў і плачу з кабінетаў следчых. Тут «работа» пачыналася апоўначы і да світання. Днём «канвееры» праходзілі цішэй, каб выматаць чалавека бяссоннем і страхам, — нагняталіся пагрозы знішчыць родзічаў, на вачах расстраляць жонку. «Яна ж цяжарная». — «А каму патрэбны байструкі ворагаў народа?» Логіка следчых жалезная.

Каторы раз следчы запаўняе маю анкету, задае адны і тыя ж пытанні — ловіць, заблытвае, каб не было разыходжанняў. Упарта піша: «Месца нараджэння Польшча». Як я ні даводжу, што мясціна, дзе я нарадзіўся і пражыў дзесяць месяцаў да імперыялістычнай вайны, ніколі Польшчаю не была, а часова захоплена ўрадам Пілсудскага[9] і належыць Савецкаму Саюзу, ніяк пераканаць не магу. Следчаму так трэба. Грымяць мацюкі і кулак па стале: «Не вучы мяне, а лепш прызнавайся ў контррэвалюцыйнай трацкісцкай дзейнасці. Раззброены вораг нам не страшны. Запомні, што сказаў Горкі: «Калі вораг не здаецца, яго знішчаюць». Знішчым і цябе. Шлёпнем, вось табе і следства, і суд». — «Без суда ніхто не мае права пакараць», — упінаюся я. «Эх ты, наіўны жаўтароты шчанюк. Прыстрэлім і складзём акт, што забіты пры спробе ўцячы, тады апраўдвайся, што не вінаваты». Думаю — лагічна, тут можа ўсё быць. Калі я трацкіст, дык чаму не магу быць нябожчыкам? Мне называюць членаў маёй арганізацыі. Я зроду не чуў такіх прозвішчаў — Барсукоў, Левашоў, Шляхціч, а мне крычаць: «Хлусіш! Прызнавайся!» Пачынаю разумець, што тут праўду лічаць маною, а хлусню — праўдаю. Зноў круціцца канвеер на трое сутак, без сну, без яды і вады, а следчым прыносяць чай з лімонам, бутэрброды з каўбасою, апельсіны, шакалад і пачкі «Беламора». А ў мяне пухнуць вушы ад жадання курыць, і я прагна ўцягваю дым, выпушчаны следчым.

Пасля допыту зноў камера, зноў: «Не спаць!» І так кожны дзень. А колькі іх? Запалкаю чыркаю рысачкі на нішы акна. Ого, трыццаць тры рысачкі, а я збіраўся раніцай таго ж дня быць дома. Першая ноч без допыту здзівіла і абрадавала — праспаў да пад’ёму на адным баку. Не патрывожылі і ўдзень. Ні кніжак, ні газет не даюць — думай пра свае «злачынствы», рыхтуй прызнанні. А ў чым прызнавацца, нават следчы не ведае, апрача невядомых прозвішчаў, не прад’явіў ніводнага абвінавачання. Зноў мераю камеру, за дзень прайшоў некалькі кіламетраў, добра, што хадзіць не забараняюць, а думкі замыкаюцца на адным: як там мая Таня, што з ёю? У гэтыя дні яна павінна стаць маці. Як ні ўпрошваў следчага даведацца пра яе лёс, адказ адзін: «Прызнаешся, дам спатканне. Што ж ты за бацька, што не хочаш даведацца, хто ў цябе нарадзіўся. Не прызнаешся, пасадзім і яе, дзіця здадзім у прытулак, зменім прозвішча, каб ніколі не найшлі».

Я ўпершыню сустрэўся з такою бесчалавечнаю жорсткасцю. На волі ледзь не кожны дзень хадзіў каля гэтага будынка,

таямнічы страх апаноўваў і тады, але не мог уявіць, якія жахі, якая жорсткасць і якое звярынае беззаконне пануе за яго сценамі. Баяўся толькі звар'яцець.

Праз некалькі дзён вар'ята ўсё ж падкінулі мне ў камеру. І каго? Таго самага Сяргея Шляхціча, пра якога ў мяне так настойліва дапытваўся следчы. Як толькі ўвялі яго, вочка ў дзвярах не заплюшчвалася: сачылі, ці сапраўды мы незнаёмыя. Мой новы сусед яшчэ не зусім страціў прытомнасць і ў хвіліны прасвятлення расказваў, што вучыўся ў вячэрнім педінстытуце і аднойчы ў свайго аднакурсніка Федзі Клімянка ўбачыў дыскусійны зборнік з артыкулам Троцкага[10], але чытаць не захацеў. Клімянка таго я ведаў здалёк, працаваў ён сакратаром рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі» і вучыўся на вячэрнім літфаку. Адразу я не мог звязаць свой арышт з Клімянком і гэтым няшчасным хлопцам. А ён дзень і ноч шнураваў па камеры, нешта мармытаў, вочы гарэлі малінавым святлом. Ён будзіў мяне і плакаў, бажыўся, што не вінаваты, казаў, што ў сяле адзінокая маці толькі і спадзявалася на яго, а цяпер сыдзе слязьмі і аддасць богу душу. Ён біўся галавою аб сцяну і крычаў: «Мамачка, я ж не вінаваты! Мамачка, даруй! Федзя, што ты нарабіў?»

Відаць, пераканаліся, што мы незнаёмыя, і хутка забралі з камеры майго «чокнутага» цёзку, а мяне тыдзень нікуды не выклікалі. Адзінота не меншая пакута — думкі могуць давесці да вар'яцтва. Я пачынаў здагадвацца, чаму мяне дапытвалі пра Клімянка, пра яго знаёмых і абвінавачвалі ў трацкізме. І толькі амаль праз год, пры заканчэнні следства, зразумеў усё. У даўжэзным спісе сваіх «знаёмых» арыштаваны ў пачатку восені сакратар «Піянера Беларусі» Клімянок назваў усіх пісьменнікаў, каго толькі ведаў у твар, у тым ліку і мяне.

Рэдакцыі піянерскіх выданняў былі ў доме № 25 на Камсамольскай вуліцы, змяшчалася там і бухгалтэрыя выдавецтва «Чырвоная змена». Амаль усе пісьменнікі часта заходзілі туды. Клімянок іх ведаў у твар і на следстве назваў сваімі знаёмымі. Разам з Клімянком стыль-рэдактарам працаваў Анатоль Зіміёнка, вядомы як гумарыст Дзяркач.

Недзе ў вёсцы на Жлобіншчыне Клімянок знайшоў зборнік з артыкулам Троцкага, прывёз у Мінск і паказаў таварышам па інстытуце. Неўзабаве пра гэтае рэдкае выданне даведаліся ў шэрым доме на Савецкай вуліцы, арыштавалі ўсіх, хто яго толькі бачыў. Узнікла версія, што раскрыта трацкісцкая арганізацыя. Але ў пастку трапілі толькі жаўтаротыя юнакі. Не салідна. Патрэбен лідэр. Успомнілі старога Зіміёнку з нейкім цьмяным

мінулым. Вось і знаходка! Першае пытанне кожнаму арыштаванаму: «Назавіце бліжэйшых сяброў і знаёмых». Тры-пяць прозвішчаў следчых не задавальнялі. Давай, давай чым больш, называй усіх, каго ведаеш. Клімянок і назваў усіх пісьменнікаў, хто толькі заходзіў у рэдакцыю і бухгалтэрыю. «Вось і буйная трацкісцкая арганізацыя». А пісьменнікі заўсёды народ ненадзейны. І пачаў «чорны воран» кожную ноч запаўняць камеры «амерыканкі» і сутарэння беларускімі празаікамі і паэтамі. Тыя называлі сваіх знаёмых. «Арганізацыя» разрасталася.

Усіх арыштаваных напачатку абвінавачвалі ў трацкізме. Але колькі ні біліся следчыя, амаль ніхто не ведаў Клімянка і яго сяброў, не меў, хоць бы прыблізна, дачынення да трацкізму. Версія рушылася, а выпускаць не выпадала, каб не было браку ў рабоце.

Перапынак у допытах мяне абнадзеіў, але дарэмна. Ноччу выклікалі зноў. Даўгаленка моўчкі перабіраў у шуфлядзе нейкія дакументы. Разгарнуў і наказаў мне білет Саюза пісьменнікаў. «Пазнаеце?» — «Няўжо і Цішка Гартны?» — «Тут, тут ваш правадыр. Ну, цяпер не адкруцішся. Мы думалі, трацкіст, а ты контррэвалюцыйны нацыяналіст. І запомні: дзверы ў нас адчыняюцца толькі ў адзін бок. Ёсць чалавек, будзе і справа. Гэты ваш ідэйны кіраўнік, — ён патрос білетам з карткаю Гартнага, — і разлічваў на такіх жаўтаротых. Вы павінны быць удзячны, што мы ізалявалі вас да таго, як маглі зрабіць цяжкія злачынствы.

А цяпер давайце сумленна расказваць пра сваю контррэвалюцыйную нацыяналістычную дзейнасць. Сумленна прызнаецеся, дапаможаце следству, два-тры гады праверым у працоўнай абстаноўцы, і вернецеся да ранейшай працы, не раззброішся, разатром і размажам па сценцы, і знаку не застанецца».

Так мяне перакваліфікавалі. Следства цягнулася год. Мяне кідалі з «амерыканкі» ў турму, з турмы зноў у адзіночку, мяняліся следчыя, а песня была адна і тая ж. Я адчуваў, што недзе тут мае інстытуцкія сябры, мне зачытвалі нейкую неверагодную лухту: сустрэча некалькіх сяброў з пляшкаю віна ператваралася ў контррэвалюцыйнае зборышча і змову. Вельмі напіраў следчы на сувязь з акадэмікам Замоціным[11]. Яго дачка Таня, студэнтка-філолаг, запрасіла некалькі хлопцаў і сваю сяброўку з нашай групы да сябе ў госці. Для нас гэта быў вялікі гонар. Мы часам заходзілі да любімага прафесара на кансультацыю, а ў госці трапілі ўпершыню.

У вялікай з высокаю столлю сталовай быў накрыты стол. На белым абрусе блішчалі падстаўкі пад нажы і відэльцы,

пераліваліся перламутрам талеркі, талерачкі, разеткі, соусніцы. Усё гэта мы бачылі ўпершыню і разгубіліся, не ведаючы, як і за што брацца. Маўкліва туляліся па кутках. Абаяльны, дасціпны і вясёлы гаспадар праз некалькі хвілін зняў напружанне і разгубленасць уласцівай яму прастатою, жартамі і шчырай гасціннасцю. Пачаліся танцы, смех і песні. За сталом Іван Іванавіч паказваў, як трымаць нож, відэлец. І ўсё гэта з жарцікамі і анекдотамі, весела і нязмушана. Праз некалькі хвілін мы і за сталом адчувалі сябе як у сваёй кампаніі.

Разам з намі быў маўклівы аднакурснік дачкі прафесара. Ці не ён толькі дапамагаў следству ведаць, што пілі і елі, дзе хто сядзеў, але і тое, чаго ніколі не было, — ні анекдотаў, ні палітычных размоў: мы ж усе былі дысцыплінаванымі і запраграмаванымі камсамольцамі. Ніхто з арыштаваных не пацвердзіў паклёп, які нам падсоўвалі следчыя, але і гэта не ўратавала нашага любімага прафесара. Яго арыштавалі трохі пазней, бо аднаму з яго вучняў вельмі ж карцела заняць пасаду прафесара, а тады любое месца вызвалялася вельмі лёгка — «сігналам» у органы. Так «прасігналіў» і прэтэндэнт на месца Замоціна, а Івана Іванавіча пратрымалі амаль тры гады пад следствам, і памёр ён на пасадзе днявальнага лагернага барака. А ў нашых пратаколах засталося «зборышча» на кватэры Замоціна.

За год пад кашмарным следствам мяне двойчы вадзілі на інсцэніраваны расстрэл. Звычайна далёка за поўнач будзілі, не дазвалялі апранацца, у бялізне вялі праз двор не ў следчы корпус, а ў глыбокае цёмнае сутарэнне, прапахлае тленам і карболкаю, ставілі тварам да бетоннай сцяны, «апошні раз» пыталі, ці падпішу пратакол пра ўдзел у нацыянал-фашысцкай арганізацыі, клацалі курком, білі пад дых і вялі ў камеру «падумаць». І цяпер не разумею, чаму не спусцілі курок адразу.

Мне ставілі ў прыклад «ідэйнага кіраўніка» маральна зламанага Міхася Зарэцкага[12]. Гэты любімы і вельмі паважаны пісьменнік па загадзе маленькага рудога следчага Шчурава паслухмяна падпісваў нейкую неверагодную трызню.

За «чыстасардэчнае прызнанне» Зарэцкаму дазвалялі сядзець на канапе, давалі сустрэчы з сям'ёю, перадачы прыносіла жонка ў пакой следчага, і тут Зарэцкі частаваўся хатнімі прысмакамі, сядзеў побач з дачкою і сынам, усміхаўся сваёй Марыльцы і нават жартаваў. Няўжо сапраўды ён верыў свайму следчаму і ў палёгку за паклёп на сябе і сваіх сяброў?

Паказаць вось такую ідылію мяне правялі ў суседні пакой, пасадзілі каля дзвярэй, каб усё бачыў і чуў і сам клюнуў на такую прынаду.

Следчы мяне пераконваў, што Зарэцкі раззброіўся і праз год-два вернецца да літаратурнай працы. Спачатку хацелася верыць, а многія месяцы пад следствам пераканалі, што ў гэтай установе праўды ніколі не было і няма, кожнае слова следчага — пастка, хлусня, каварны падман, паказанні іншых арыштаваных — падробкі і фальсіфікацыя. Так яно і было. Праз месяц я выпадкова на прагулцы ўбачыў жонку Зарэцкага, потым былі ў адным лагеры, а аўтара «Сцежак-дарожак» выклікалі з камеры без рэчаў, і ён знік назаўсёды 29 кастрычніка 1937 года.

За мяне зноў узяўся Даўгаленка. Ён мне зачытваў «паказанні» Міхася Чарота[13], што нібыта існавала не нацыяналістычная, а нацыянал-фашысцкая арганізацыя, якая імкнулася далучыць Беларусь да капіталістычнай Польшчы. Я слухаў і не верыў. Хіба ж мог Чарот, які ваяваў з пілсудчыкамі ў грамадзянскую вайну, Чарот — кандыдат у члены ЦК, член урада, першы рэвалюцыйны паэт, не толькі сказаць, а падумаць такое? Я запярэчыў Даўгаленку: «Ён п’яны або звар’яцелы» — і зарабіў за гэта па карку гумоваю палкаю, закручанаю ў «Праўду». Ад болю нема завыў, а ён яшчэ абурыўся: «Бач, які далікатны. Газеткаю нельга дакрануцца».

Амаль за год допытаў і бадзяння па розных камерах я добра вывучыў прымітыўныя метады следчых — катаў з неабмежаванаю ўладаю. Ім патрэбны былі толькі хлусня, паклёпы, самаабгаворы. Подпісы пад пратаколамі яны вырывалі здзекамі, інсцэніраванымі расстрэламі, пагрозамі знішчыць сям’ю і ўсю радню, і дамагаліся, і здзяйснялі свае пагрозы. Яны патрабавалі прызнанняў у тым, што нават і не снілася ў самым кашмарным сне.

Перад гэтаю д’ябальскаю машынаю фальсіфікацый, падробак, фізічных і маральных здзекаў не мог устояць не толькі кволы і далікатны Зарэцкі, ламаліся загартаваныя старыя бальшавікі, а яны ж прайшлі допыты царскіх жандараў, катаржныя цэнтралы, зведалі пешыя этапы. Тады нічога не прызналі, бо іх дапытвалі ідэйныя ворагі, а тут член партыі малодшы лейтэнант камуніста з 1905 года, старшыню рэспубліканскага таварыства МОПРа (Міжнароднай арганізацыі дапамогі рэвалюцыянерам), старога, — усімі паважанага Серпеня прымусіў падпісваць неверагодныя фальшыўкі, даводзячы, што гэта патрэбна партыі, неабходна для сацыялізму. Калі арыштаваны ўпінаўся, следчы ставіў ножкі

крэсла на пальцы ног няшчаснага, гоцаўся на крэсле, пакуль у таго чаравікі не заплывуць крывёю. Серпень стагнаў і плакаў, звяртаўся да сумлення маладога чалавека і тут жа курчыўся ад удару пад дых. Даведзены да адчаю, падпісваў, што ён польскі шпіён і член міфічнай тэрарыстычнай арганізацыі. А шпіянаж і тэрор забяспечвалі толькі «вышку».

Я сустрэўся з Серпенем у «камеры старых бальшавікоў». Іх было чацвёра з дарэвалюцыйным стажам, і яшчэ да нас укінулі ружовашчокага дзевятнаццацігадовага Альфрэда Бенэка, сына былога наркама земляробства. Ён і многія сотні сыноў і дачок «ворагаў народа» былі пацверджаннем формулы Сталіна: «Сын за отца не отвечает». Маці Альфрэда пасадзілі, а дзесяцігадовага брата пад іншым прозвішчам здалі ў дзіцячы дом.

Суседняя камера была таксама камуністычнай. Там сядзелі пераважна камандзіры Чырвонай Арміі, падчыстую падабраныя летам 1937 года. З вучэбных палігонаў, з летніх лагераў, з пагранічных застаў везлі і везлі ў турму і «амерыканку» камкораў, камдываў, палкоўнікаў і маёраў. На выцвілых гімнасцёрках цямнелі сляды многіх баявых ордэнаў з часоў грамадзянскай вайны. Былі лётчыкі і танкісты, артылерысты і сапёры, кавалерысты і пагранічнікі, пераважна немаладыя, загартаваныя ў баях камандзіры. Траплялася і моладзь. Сядзелі са мною ў агульнай камеры «амерыканкі» лейтэнанты з віцебскага авіяцыйнага палка. Спачатку яны жартавалі і лічылі сваё становішча недарэчнасцю, відавочнай памылкай. Канвеер перамалоў і іх: Краўцоў звар'яцеў у камеры, Філатава і Сударыкава выклікалі ў трыбунал, і яны не вярнуліся.

Аднойчы ноччу з суседняй камеры пастукаў былы палкоўнік: «Даведзены да адчаю. Прашу дазволу сёння ж вырашыць свой лёс...» Партгрупа нашай камеры параілася, асудзіла маладушша таварыша і забараніла нават думаць пра самагубства. Запэўніла, што ўсё высветліцца, партыя выкрые злачынствы і пакарае вінаватых. Палкоўнік адказаў: «Повинуюсь», — і пайшоў на доўгія пакуты. А Серпеня два здаравенных вывадных павалаклі на чарговы страшэнны допыт.

Мяне неўзабаве зноў перакінулі ў «амерыканку», каб зручней было цягаць на допыты. Агульная камера для многіх была сапраўдным універсітэтам. Дацэнт Магілёўскага педінстытута Піпота кожны вечар чытаў лекцыі па гісторыі Расіі. Мы ж яе не вывучалі ні ў школе, ні ў інстытуце, і кожны эпізод, маляўніча расказаны Клімянтам Пракопавічам, быў для нас адкрыццём. Перад адбоем Піпота развучваў з намі шчымлівыя і жартоўныя

ўкраінскія песні. Мы ў яго куточку ціха-ціха спявалі, часам глытаючы слёзы. Пра асваенне Поўначы расказваў вопытны палярнік Язэп Іванавіч Сцяпура, невысокі ладны мужчына з каштанаваю бародкаю і хвалістымі доўгімі валасамі. Ён насіў цяльняшку і флоцкі бушлат. Сцяпура быў арыштант з вялікім дарэвалюцыйным стажам і трымаўся ўпэўнена і спакойна. Прывезлі яго з Ленінграда, бо назваў яго сваім даўнім знаёмым з дарэвалюцыйнай пары Анатоль Зіміёнка, арыштаваны па справе Клімянка і прызначаны следствам ідэйным кіраўніком «трацкісцкай» групы. Некалі Сцяпура і Зіміёнка спачувалі эсэрам. Калі гэта было, яны ўжо не помнілі самі, а для следчых яны былі знаходкаю, як натхніцелі і кіраўнікі контррэвалюцыйнай групы.

Укінулі ў камеру высокага і мажнога прыгажуна з чорнаю чупрынаю, былога старшыню Лепельскага райвыканкама Язэпа Сямашку. Яго судзілі з раённым кіраўніцтвам, далі ўсяго год і прыслалі на гаспадарчы двор мінскай турмы. Там ён падмятаў прагулачныя загоны, разносіў баланду, ды раптам забралі пад следства ў «амерыканку». Ён грукаў у дзверы, патрабаваў каменданта, але ніхто не зважаў на яго пратэсты. Сямашка абвясціў галадоўку. Апрача вады, нічога не браў у рот. Турэмны доктар, плюгавы чалавечак з сінім носам і мышынымі вочкамі за шкельцамі пенснэ, гразіў, што будзе карміць штучна праз гумовую кішку. Сямашка казаў: «Калі ўдасца» — і паказваў вялізны кулак.

На дзесяты дзень галадоўкі па яго прыйшлі два вывадных і забралі на допыт. Хацелі ўзяць пад пахі, але Сямашка так крутануўся, што яны адскочылі ў розныя бакі. Яму прад'явілі абвінавачанне ў шкодніцтве і ашуканстве суда і ўзялі на канвеер. Лёс яго, відаць, закончыўся трагічна, бо нідзе ніхто яго не сустракаў, а мяне 2 кастрычніка 1937 года павезлі на суд у былую гарадскую ратушу на плошчы Волі, пад белаю вежаю з гадзіннікам.

Судзілі нас, васьмярых былых студэнтаў газетна-выдавецкага аддзялення літфака педінстытута. Дзевяты, ціхі, таленавіты і кволы Янка Валасевіч, не вытрымаў здзекаў і сканаў пад следствам. Дзеля саліднасці нам далі ў «кіраўнікі» вядомага драматурга Васіля Шашалевіча[14]. Апрача мяне і яго колішняй вучаніцы Жэні Каплуновай, ніхто з абвінавачаных з ім ніколі не сустракаўся, і пра іх існаванне Васіль Антонавіч нічога не чуў.

За судовым сталом — дробненькі чарнявы старшыня з невыразным тварам, Васіль Сымонавіч Карпік, і дзве бязмоўныя постаці засядацеляў. Сапраўды, яны добра сядзелі і маўчалі.

Збоку сакратар, а за асобным столікам каля акна ў цывільным — следчы Наркамата ўнутраных спраў. Карпік прамармытаў «Абвінаваўчае заключэнне», якое магло быць перадавіцай раённай газеты аб класавай барацьбе і пільнасці. У канцы паведаміў: «Вещественных доказательств и свидетельских показаний по делу нет. Дело слушается в закрытом судебном заседании без участия сторон». Не падымаючы вачэй, суддзя пытае ў кожнага: «Признаете себя виновным в предъявленном обвинении?» Адказ катэгарычны: «Не». Спрабуем растлумачыць, як выбіваліся подпісы ў пратаколах. «Суду ясно. Садитесь! Вы клевещете на советское следствие. Секретарь, занесите в протокол». І такая размова з кожным. Засядацелі нерухома маўчаць, а следчы пагрозліва круціць галавою. «Суд удаляется на совещание».

Канваіры тэрміновай службы ўнутраных войск, пераважна ўкраінскія хлопцы, суцяшаюць заплаканую Жэню: «Та нэ плачтэ. За що вас судыты? Зараз підэтэ додому». Хлопцы парушаюць статут канвойнай службы, бо ў пакоі больш нікога няма, і супакойваюць нас. Выцягваем з кішэняў недаедзеныя пайкі, запыленыя драбочкі цукру, дзелімся адзін з адным і чакаем свайго лёсу. Хвілін праз дваццаць: «Встать. Суд идет!» Вось табе і «Нэ мае за що!». Сямі чалавекам па дзесяць гадоў папраўчага лагера і па пяць гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў, аднаму — восем і аднаму — пяць. «Приговор окончательный и обжалованию не подлежит», — прамармытаў Карпік і, не гледзячы на нас, выскачыў з пакоя; чапляючыся за крэслы, няўклюдна пасунуліся заседачы. Мы стаялі як аглушаныя громам. За што? Навошта? Каму гэта трэба? Гэтыя пытанні мучылі ўсё жыццё і будуць мучыць да скону.

«Чорны воран» даставіў нас у гарадскую турму. Год мы не бачыліся і цяпер расказвалі, хто з кім сядзеў, чаго дамагаліся следчыя. У прахадной паміж турэмнымі варотамі чакалі, пакуль адвядуць у камеру, як маглі суцяшалі Жэню і самі верылі, што хутка разбяруцца і вызваляць. Відаць, на начную змену некага мардаваць і «расколваць» ішоў следчы Серашаў. За год ён ведаў нас усіх. Усміхнуўся і весела спытаў: «Ну, па колькі адхапілі? Лічыце, што вам пашанцавала. Сёння прыняты закон і тэрміны павялічаны да дваццаці пяці гадоў» — і павольна пайшоў да жалезнай брамкі, папраўляючы фуражку з блакітным верхам.

Можа, і праўда пашанцавала. Маглі ж і пастраляць, як Галавача, Каваля, Вольнага, Лявоннага[15], Харыка, Маракова, Зарэцкага, Сташэўскага, Чарота, як Зіміёнку і ўсю «групу Клімянка»,

як тысячы такіх жа невінаватых, сумленных пакутнікаў. Зноў у скроні стукае кроў і на даюць збыту адны і тыя ж пытанні.

У перасыльную камеру турэмнага сутарэння за некалькі дзён сагналі некалькі дзесяткаў беларускіх літаратараў, якіх мінавала «вышка». Апынуліся на адных нарах Сымон Баранавых[16] і Барыс Мікуліч[17], Янка Скрыган і Міхась Багун[18], Уладзімір Хадыка[19] і Васіль Шашалевіч, Сяргей Ракіта[20] і Станіслаў Шушкевіч[21], Алесь Розна і Сяргей Знаёмы[22], Зяма Півавараў[23] і Змітрок Астапенка[24], Алесь Пальчэўскі і Сымон Куніцкі[25], былы дырэктар Дома пісьменніка Васіль Залуцкі і начальнік Галоўліта Аляксандр Якшэвіч, яўрэйскі празаік Шыман Гарэлік, ды хіба ўсіх успомніш і пералічыш? Алесь Звонак[26] і пасля суда мог яшчэ жартаваць. Ён лагічна даводзіў, што відавочнае глупства заўважыць разумны і сумленны чалавек і ўвесь гэты «контррэвалюцыйны» міф рассыплецца пылам. Асабліва ўзрадаваліся і акрыялі духам, калі дазналіся, што былы пракурор Глезер, які падпісваў на нас ордэры, на другім паверсе турмы сам выносіць парашу. Значыць, нешта зменіцца да лепшага. Без суцяшэння, без веры ніхто б не вытрымаў турмы і лагера. Больш за ўсё спадзяваліся на амністыю да дваццатай гадавіны Кастрычніка.

У кожнай камеры з'яўляліся перакананыя аптымісты і суцяшальнікі, «тэарэтыкі» амністыі. Да іх ішлі, як на споведзь, «аблегчыць душу», суцешыцца, паверыць у збавенне, у справядлівасць, яны нечым нагадвалі горкаўскага Луку — падтрымлівалі веру і надзею даведзеных да адчаю. Асабліва вылучаўся былы армейскі палітработнік высокага рангу Іосіф Львовіч Коўтун. Маленькі, лысы, з палаючымі чорнымі вочкамі, бледным нервовым тварам. Ён сядзеў па-турэцку на асобным тапчане, бо карыстаўся асаблівай павагай усёй камеры. Вакол яго заўсёды сядзелі даведзеныя да адчаю людзі, якія прагнулі суцяшэння, падтрымкі, веры ў блізкую волю.

Коўтун быў палымяны прамоўца і перакананы тэарэтык: ён тлумачыў масавыя арышты злачынствам шкоднікаў у следчых органах. Яны ашукваюць таварыша Сталіна і народ, падрываюць аўтарытэт партыі. Іх хутка выкрыюць, і ўсе мы пойдзем на волю, адноўленыя ў партыі і на ранейшых пасадах. Ён пераконваў, што ўжо падпісаны ўказ аб амністыі ўсіх зняволеных па палітычных справах і дваццатую гадавіну мы будзем сустракаць дома. Малапісьменныя калгаснікі на пайку выменьвалі кавалачкі паперы, і Коўтун ім пісаў поўныя патэтыкі «слязніцы» вялікаму Сталіну. У іх ён укладаў усю сваю палітычную эрудыцыю вайсковага прапагандыста і лірычны літаратурны талент. Часам

пісаў так «жаласна», што, чытаючы свае скаргі, сам выціраў вочы, а «заказчыкі» шморгалі насамі і кулакамі па шчоках размазвалі слёзы. Казалі: «Гэны развярэдзіць любому душу». І спадзяваліся на добрае сэрца.

Нас усіх падтрымлівала патаемная вера, што хутка разбяруцца сумленныя людзі, як толькі даведаецца пра ўсё «вялікі і мудры бацька народаў». Бадай усе былі загіпнатызаваны гэтым страшным імем, верылі ў яго мудрасць, сумленне, дабрату. А гэтыя рысы вытраўляліся з душы кожнага чалавека, людзей ператваралі ў даносчыкаў, паклёпнікаў, ілжэсведак, садыстаў і катаў. Потым знішчалі іх як небяспечных сведак страшэнных злачынстваў. Гэтае разуменне прыйшло з вялікім спазненнем, хоць часам са страхам думалася пра гэта, але ўголас нельга было сказаць самым блізкім і сабе самому.

У камеры прасочваліся чуткі (іх звалі турэмнымі «парашамі»), што многіх нашых следчых «за адданую працу па барацьбе з ворагамі народа» ўзнагароджвалі ордэнамі, а праз некаторы час арыштоўвалі і знішчалі ў тых жа падвалах, дзе яны знішчалі нашых сяброў. Замест іх набіралі новых катаў, і машына беззаконня працавала без перабояў у зададзеным рэжыме і тэмпе. І так увесь час: адны касталомы змянялі другіх, а канвеер круціўся няспынна.

Гэтае веданне прыйшло цяпер, а тады? Тады па наіўнасці ў нешта лепшае верылі і пакорліва ішлі на пакуты. А без веры нават тыя нямногія, што вытрымалі нечалавечы здзек да канца, не дацягнулі б да вызвалення.

Не зразумела было, чаму адных расстрэльвалі, другім, такім жа невінаватым, давалі па дзесяць гадоў, іншым восем і нават пяць. Праўда, пасля другога кастрычніка тэрміны падскочылі да 25 гадоў, і тройкі ахвотна выконвалі новы ўказ. У іх быў адзін прынцып: лепш пакараць сто невінаватых, чым выпусціць аднаго вінаватага, лепш перагнуць, чым недагнуць, лепш больш, чым менш. Гэтым і кіраваліся.

Седзячы ў цесным, душным, смуродным сутарэнні «роднай» мінскай турмы, мы толькі і марылі, як найхутчэй вырвацца з-за кратаў на свежае паветра, з клапоўніка ў любы барак без «парашы», без пільнага вока ў «ваўчку», каб можна было паслаць дадому ліст, адправіць скаргі і «слязніцы» ўсемагутным і «любімым» кіраўнікам.

Нарэшце халодным кастрычніцкім надвячоркам пачулі чаканую каманду: «Усім сабрацца з рэчамі». Як мы хваляваліся, як радаваліся, як спяшаліся скласці свае транты ў заплечныя

мяшкі, як марылі хутчэй трапіць у лагер, хоць і не ўяўлялі, што гэта такое.

Любая змена ў турэмным існаванні хвалюе і абнадзейвае зменаю абставін, спадзяваннем на нешта лепшае. Калі загадалі збірацца, значыць, некуды паедзем. Хоць да д’ябла, абы вырвацца з гэтай агіднай смуроднай душагубкі з бясконцымі вобыскамі і карцэрамі за знойдзеную іголку, кавалачак грыфеля ад алоўка, за шахматныя фігуркі, па-майстэрску зробленыя ў складчыну з хлеба. Спадзяваліся — адразу павязуць у лагер, на чыстае паветра, а там можна будзе прычакаць пасылку з сухарамі, а можа, і кавалачак сальца. За год мы так агаладалі, што вецер хістаў і збіваў з ног, а мара была адна — хоць раз пад’есці хлеба.

Усе з заплечнымі мяшкамі пастроіліся ў калідоры ў дзве шарэнгі. Зноў пераклічка, зноў адно і тое ж: прозвішча, імя, па бацьку, год нараджэння, артыкул, тэрмін. Турэмшчык перадаў нашы фармуляры начальніку канвою, нас акружылі салдаты з вінтоўкамі і аўчаркамі з вываленымі чырвонымі языкамі і вялізнымі вострымі ікламі і павялі за вароты турмы. Мы прагна глыталі свежае паветра, углядаліся ў змрочнае асенняе неба, пазіралі адзін на аднаго. Пры дзённым святле былі асабліва бледныя, худыя, зарослыя дзікаю шчэццю знаёмыя твары. Чаравікі пассыхаліся і пабялелі, адзежа звалялася і выцвіла. Зірнеш — сапраўды, ідуць людзі з «дна». Вылучаліся толькі Уладзімір Хадыка ў шэрым капелюшы і добрым драпавым паліце, Барыс Мікуліч у рудаватай футравай куртцы, добра апрануты Сымон Баранавых і заўсёды элегантны Васіль Шашалевіч. На ім самы просты касцюм выглядаў прыгожа, ён умеў насіць рэчы з уласцівым яму артыстызмам.

Павялі нас па вуліцы Валадарскага, праз Савецкую ў бок вакзала. На тратуарах спыняліся маўклівыя змрочныя людзі. Адны пазіралі спагадліва, магчыма, шукалі родных ці знаёмых, некаторыя паказвалі сваю пагарду і нянавісць да «ворагаў народа». З надзеяю і мы глядзелі на шчаслівых вольных людзей, спадзеючыся ўбачыць хоць адно знаёмае аблічча. Як мы зайздросцілі кожнаму па той бок канвою, іх шчасцю быць вольнымі. Глядзелі і думалі, як яшчэ шмат засталося неарыштаваных. У бальніцы здаецца, што ўсе хварэюць, на вакзале — усе некуды едуць, у турме — нікога не засталося на волі. А тыя, што глядзяць на нас, і не ўяўляюць, колькі людзей пакутуе за кратамі, і не паверацць, што без жаднай віны.

У тупіку стаялі звычайныя пасажырскія вагоны з закратаванымі вокнамі. Іх некалі прыдумаў царскі міністр унутраных спраў Пётр Аркадзьевіч Сталыпін. З тае пары гэтыя вагоны так і завуць «сталыпінскія». У іх няма купэ, а ёсць камеры. Туды набіваюць, каб толькі зачыніліся закратаваныя дзверы. Куды нас павязуць, ніхто не здагадваўся. Канвой быў глухі. Ад яго толькі і чулі: «молчать», «не положено», «давай, давай» — і штуршок у каршэнь на прыступках.

Неспадзявана праз закратаванае акно ўбачылі жонак Мікуліча, Скрыгана і Шушкевіча. Яны нам махалі здалёк, нешта выразнае стараліся вымавіць губамі. Колькі яны цікавалі каля турмы, пакуль дачакаліся нашай адпраўкі. І вось — нічога не перадаць, не пачуць, нічога не сказаць блізкаму чалавеку. Зразумелі толькі адно слова «Магілёў», напісанае ў паветры пальцам Лінай Скрыган. Сталыпінскі вагон прычапілі да нейкага саставу, загрукалі колы, залязгалі буферы, і мы паехалі ў невядомасць.

Вагон нагадваў пісьменніцкі сход. Тут былі паэты, празаікі, драматургі і крытыкі, вядомыя і пачаткоўцы, але ўсе звязаныя агульным лёсам.

Усе гаварылі, успаміналі допыты, спрабавалі жартаваць, а на душы ў кожнага былі змрок і адчай. Так недарэчна, нізашто зламалі жыццё на самым пачатку. Сваю дваццаць чацвёртую восень я сустрэў у турэмнай камеры зберажонаю пайкаю хлеба і двума драбочкамі цукру, а наперадзе яшчэ дзевяць верасняў у няволі, невядома дзе, у лесе ці ў шахце, у катлаване канала ці на чыгуначным палатне. Дзе б ні быў, не верылася, што столькі вытрываеш. А калі нават выйдзеш, дык каму ты патрэбен з плямаю «вораг народа». Значыць, ты ўжо не народ, цябе з яго выключылі. Што ж ты зрабіў? Каму нашкодзіў, чым правініўся перад сваім народам? Успамінаю і не магу ўспомніць ніводнага ўчынку, ніводнага слова, вартага пакарання.

Галава гула ад думак і ўспамінаў, намагаўся зразумець, за што мне выпаў такі горкі лёс, за што такая несправядлівасць абрынулася на мяне. Ды хіба толькі на мяне? Вунь колькі вязуць невядома куды таленавіцейшых, разумнейшых, адданейшых нашаму ладу пісьменнікаў і проста сумленных людзей, партыйных і беспартыйных, але аднолькава ні ў чым не вінаватых. Да канца жыцця так і не зразумееш, каму, навошта і за што спатрэбілася знішчыць такія таленты, як Чарот, Галавач, Зарэцкі, Хадыка, Вольны, Каваль, Калюга[27], Маракоў, Лявонны. Успомнілася, як у турэмным туалеце знайшлі пісульку на абрыўку махорачнага

пачка: «Даруйце, калі чым вінаваты перад вамі. Гісторыя скажа праўду. Платон». Так развітваўся былы першы сакратар ЦК камсамола Беларусі, член ЦК КПБ, член урада, сумленнейшы чалавек і пісьменнік Платон Галавач.

Пакуль грукатаў вагон, ніхто з нас не спаў: кожны думаў сваё, як пацеры, перабіраў трыста шэсцьдзесят жахлівых дзён і начэй гэтага кашмарнага года. А наперадзе была тайна, загадка, невядомасць. Нас адвучылі задаваць пытанні, думаць пра наступны дзень. За нас думалі начальнікі, следчыя, наглядчыкі, канвой — нашы страшныя апекуны.

Далёка за поўнач у закратаваных вокнах замільгалі рэдкія цьмяныя агеньчыкі. Цягнік стаў. Калі разышліся пасажыры, нас выводзілі ў чорную, як сажа, цемень і загадвалі садзіцца ў ледзьве падшэрхлую гразь. Бразгалі прыклады, тупалі падбітыя цвікамі боты, пахла паравозным дымам, казармаю і псінаю ад мокрых аўчарак. Нас пастроілі на чатыры, начальнік канвою прачытаў звычайную малітву і скамандаваў: «Направляющий, вперед!» І павялі па цёмных і гразкіх ускраінах Магілёва. Па дарозе Шашалевіч часта задыхаўся і спатыкаўся. Мы з Хадыкам падтрымлівалі яго з абодвух бакоў, каб часам не ступіў крок улева або ўправа. Ішлі доўга, як сляпыя.

## ТРЭЦІ ГОД НА АГУЛЬНЫМ СХОДЗЕ...

У вільготнай і туманнай цемры прывялі ў пусты і гулкі двор старой, кацярынінскіх часоў, турмы. З вузкіх закратаваных вокнаў цадзілася слабае святло і валіла густая пара. На вышках варушыліся гаматныя постаці ахоўнікаў. Усё наша «пагалоўе» палічыў, праверыў па фармулярах начальнік корпуса і павёў па вузкіх калідорах з нізкаю паўкруглаю столлю. Забаранялася гаварыць, тупаць, каманды аддаваліся шэптам, каб ніхто не чуў, што прыбыў новы этап.

Наглядчык адамкнуў абабітыя жалезам дзверы, за імі — другія, з тоўстых кантовых прантоў, у камеру велічынёю з футбольнае поле, покатам усланую соннымі людзьмі да самага парога. Але арыштантаў можна трамбаваць, колькі захочуць: у камеру на дваццаць чалавек заганялі сто, і неяк месціліся. У нашай новай камеры некалі была турэмная царква, а цяпер — перавалачная «база» вандраўнікоў па няволі на Поўнач. Каля дальняй сцяны — суцэльныя нары, каля другое — некалькі металічных ложкаў з голымі дошкамі, відаць, для камерных

«арыстакратаў». Насельнікі гэтага чалавечага мурашніка храпуць, мармычуць у сне, чухаюцца, войкаюць і ўздыхаюць. Дух страшэнны ад разапрэлых, даўно не мытых целаў і ад высачэзнай дзежкі, напоўненай смуроднаю жыжаю. Столь і сцены, як спелымі брусніцамі, усыпаны ўкормленымі рухомымі клапамі, гэтымі неразлучнымі спадарожнікамі ўсіх арыштантаў. Яны дакладна пікіруюць на свае ахвяры і дасмоктваюць рэшткі крыві з расчасаных змарнелых целаў. Ходка плодзяцца вялікія бледныя вошы ад нуды, ад гора, ад цеснаты.

Мы спыніліся на парозе, не маючы куды ступіць. Пабудзілі старасту камеры. Пераступаючы сонных на падлозе, падышоў высокі шыракаплечы, з маленькаю галоўкаю мужчына ў кароткіх споднiках, былы бялыніцкі настаўнік Гайдукевіч. Першае пытанне: «Адкуль? Што новага на волі?» А мы больш за год тае волі і не нюхалі. Стараста пачаў старанна запісваць нас на вузкай фанерцы. Ад першых прозвішчаў разгубіўся. «Ці ж не пісьменнікі вы, таварышы? Я ж не так даўно расказваў у класе пра вашы творы, а потым выкрэсліваў прозвішчы і выдзіраў партрэты. А божачкі, за што ж вас столькі?» Перапісаў усіх і прапанаваў размяшчацца. А дзе, калі тут і ступіць няма куды. Гайдукевіч раскатурхаў сонных, загадаў паціснуцца, легчы бокам. Умошчваліся, дзе хто мог прыткнуцца. Мы — тры Сяргеі, Ракіта, Знаёмы і я, знайшлі вольны куточак каля печы пад нарамі. Адразу дажджом пасыпаліся на нас клапы. Нехта з разбуджаных паклікаў Васіля Антонавіча Шашалевіча да сябе. Гэта быў славуты саліст-балалаечнік радыёкамітэта Струнеўскі.

У шэсць раніцы пад'ём. Хочаш не хочаш, уставай: наглядчыкі прыносяць пайкі хлеба з прышпіленымі трэсачкамі-давескамі. Гайдукевіч раздае хлеб дзесятнікам. У розных кутках усчынаюцца сваркі за гарбушкі. На іх існуе чарга, а калі гарбушак далі менш, часам даходзіць да бойкі.

У камеры шэсцьдзесят дзесятнікаў. І каго тут толькі няма? Такой разнастайнасці асоб, характараў і лёсаў болей нідзе не сустрэнеш. Турма раўняе ўсіх, і кожны — індывідуальнасць. Тут — брат і швагер былога Старшыні Саўнаркама Галадзеда, начальнік пагранзаставы, далікатны і інтэлігентны Удовін, маленькі, лысы, з палымянымі чорнымі вачыма армейскі палітработнік высокага рангу Коўтун — наш галоўны суцяшальнік. Ён змаўкае толькі, калі спіць. Да яго ідуць як на споведзь. Кожнаму ў бядзе і няшчасці патрэбна спагада і суцяшэнне, іх знаходзяць у Коўтуна. Ён звычайна сядзіць, падкурчыўшы ногі на засланым шынялём жалезным ложку, гаворыць і гаворыць, пакуль не

зморыцца і не асіпне. Непадалёк ад Коўтуна — месца вясёлага кавалерыйскага лейтэнанта з дзіўнаватым прозвішчам Афтар. На ім сіняя венгерка, фуражка без зорачкі, збітая на левае вуха. Асобны куток на нарах займаюць былыя работнікі магілёўскай канторы «Заготзерно» Радкевіч, Халадэнка і Фрэнкель. За сцяною, у камеры для смертнікаў, чакае выканання прысуду іх таварыш Дамброўскі. Іх судзілі за кляшча. Ён спрадвеку вёўся ў збожжы. А знайшлі і пачалі знішчаць не кляшча, а работнікаў кантор, тэхнарукоў і загадчыкаў элеватараў. З лета 1937 года ў турмы пайшлі чыгуначнікі, ад начальнікаў дарог да машыністаў і стрэлачнікаў. На допытах яны «прызнаваліся», што рыхтавалі дыверсіі, а потым плакалі, што падвялі саміх сябе пад «вышку». Хадзіў па камеры да пояса голы, але з гальштукам на шыі і ў чорным берэце не то кантрабандыст, не то спекулянт з Польшчы.

Каля сцен шчыльна сядзелі на сваіх «сідарах» калгасныя «тракцысты», «гітатары» і «сабатажнікі»: мацюкнуў члена сельсавета — маеш чырвонец за знявагу «савецкай улады», паспагадаў раскулачанаму «нехацімцу» — ідзі следам за ім. Калгаснікі трымаліся асобна. Яны ўспаміналі, якія ў каго былі каровы, якіх жарабкоў гадавалі, як радзіла грэчка, дзе лепей проса расце. Амаль у кожнага з іх была агульная слабасць — выменьваць розныя транты на пайкі хлеба: самі хаўкаюць ад голаду, а ў хатулі пакуюць выменяныя кашулі, світэры, камізэлькі, споднікі, спадзеючыся хутка выйсці з танным набыткам. Спадзяюцца, бо цвярозы розум не можа пагадзіцца, што невінаватага можна караць. Галоўны камбінатар у камеры — голы кантрабандыст з гальштукам. Кідаецца ў вочы невядомага ўзросту, з постаццю падлетка, сагнуты, з сухою маленькаю галоўкаю і заўсёды раскрытым ротам Філя. Ён усім услужвае, падмятае падлогу, выносіць парашу, наглядчыкі яго выклікаюць мыць прыбіральню за лішнюю міску баланды. Чым ён займаўся на волі, за што сядзіць, ніхто не ведае, і ён нічога пра сябе не расказвае. Успамінаецца Пастарнак: «Сколько типов и лиц». А ў турме асабліва.

Увесь дзень камера гудзе і кіпіць, як мурашнік. Праз закратаваныя і закрытыя «наморднікамі» вокны далятаюць з вуліцы шум, смех, асобныя галасы і словы. Там іншы свет, там воля, там шчаслівыя людзі. Яны смяюцца і не ведаюць, што іх чакае заўтра. Так некалі смяяўся і я, і мой смех, напэўна, чулі пакутнікі ў сутарэнні таямнічага дома на Савецкай вуліцы.

Асаблівае ажыўленне настае за гадзіну да абеду: усе снуюць, як галодныя драпежнікі ў клетках заапарка. У дзве гадзіны ў

калідоры чуваць грукат, галасы, тупанне, соўганне дзежак па падлозе, даходзіць пах варанага турнэпсу і бручкі, такі прывабны і чаканы. Два крымінальнікі-баландзёры ўносяць цэбар гарачай баланды. Дзесяткі строяцца адзін за адным, стараста сочыць, каб ніхто не «закасіў» лішнюю порцыю. Ёсць у камеры і «шакалы». Яны хуценька апаражняюць сваю міску і прашываюцца з ёю пад кашуляю да цэбра. Варта толькі баландзёру адвярнуцца, як шакал імгненна зачэрпне самае гушчы і, душачыся, апякаючыся, глытае яе. Бі, штурхай — не адбярэш.

Па абедзе ўсе разыходзяцца па сваіх кутках, як цяпер кажуць, «па інтарэсах»; успамінаюць былі і небыліцы, прыгожае і сытае жыццё на волі, расказваюць цікавыя выпадкі і анекдоты. Ёсць выдатныя апавядальнікі-імправізатары. Яны па некалькі дзён расказваюць «раманы» накшталт «Прыгод Мікодыма Дызмы», «Таямніцы палаца на востраве святой Магдалены». Яны найбольш хлусяць пра шыкоўныя палацы, пра каханне прынцэсы да бандыта, пра смелыя налёты і неверагодныя ўцёкі. Адзін з лепшых «раманістаў» Уладзімір Мяжэвіч. За гэта ён вызвалены ад вынасу парашы і збору посуду. Асабліва крымінальнікі слухаюць яго з разяўленымі ратамі, а ён вядомыя сюжэты аздабляе такімі падрабязнасцямі, што ў многіх аж дух займае.

Вечарамі стыхійна пачыналіся канцэрты. Васіль Шашалевіч ціха пачынаў сваім прыгожым тэнарам:

> Спускается солнце за степи,
> Вдали золотится ковыль,
> Колодников звонкие цепи
> Взметают дорожную пыль.

Прыпеў: «Динь-бом, динь-бом, слышен звон кандальный, динь-бом, динь-бом, путь сибирский дальний» — падхоплівала ўся камера. Кожнае слова, як стогн, выдыхалі з глыбіні душы. У многіх на вейках блішчалі слёзы. Наглядчыкі стукалі ў дзверы: «Прекратить! Староста, пойдешь в изолятор!» Песня пераходзіла на шэпт, але не змаўкала. Яе змяняла напісаная некалі нашым земляком Іванам Гольц-Мілерам папулярная на ўсіх этапах, у царскіх турмах «Слушай!». Тут ужо не зважалі на стук наглядчыкаў, больш за сотню глотак цягнула: «Слу-у-шай!» Калідорныя прыадчынялі дзверы, слухалі самі і толькі прасілі спяваць цішэй. Шашалевіч і Удовін дуэтам выконвалі «Не искушай», «Средь шумного бала», пісьменніцкі хор спяваў «Зорку Венеру». Аднойчы з вуліцы пачуліся воплескі.

Мы з Сяргеем Ракітам часта дэкламавалі вершы Купалы, Багдановіча, Багрыцкага, Маякоўскага, Лугаўскога. Струнеўскі на грабянцы з папяроснаю паперкаю імітаваў ігру на балалайцы і дайшоў да такой віртуознасці, што здавалася, гучыць сапраўдная балалайка.

Праз некалькі дзён у камеру ўварваўся начальнік корпуса і некалькі наглядчыкаў.

«Стараста, здаць балалайку!» — «Якую балалайку? Сюды іголку нельга пранесці, не тое што балалайку». — «Не аддасі сам, на дзесяць сутак загрыміш у карцэр, а камеру пазбавім прагулак і перадач». Усе маўчалі. «Прыступайце!» — загадаў ён наглядчыкам. Тыя рынуліся ператрасаць арыштанцкія транты, лазілі пад нары, капаліся ў печы і нічога не знайшлі.

«Гайдукевіч, прамым ходам у карцэр!»

Што такое карцэр у колішняй магілёўскай турме, я адчуў уласнай скурай і касцямі. Не давядзі гасподзь нікому туды трапляць. Горшых я не бачыў. Гайдукевіч стаяў па камандзе «смірна», камера маўчала. Да начальніка падышоў Струнеўскі са сваім грабянцом і зайграў «Турэцкі марш» з усімі пералівамі і варыяцыямі. Наглядчыкі разявілі раты. Закончыў і працягнуў начальніку грабянец. «Вазьміце. А балалайка вось тут», — і ён пастукаў сабе ў грудзі... «Ну артысты, маць в-а-шу вош», — начальнік вылаяўся і выскачыў з камеры, за ім, азіраючыся на Струнеўскага, выходзілі наглядчыкі.

Калі ўсё сціхла, Васіль Антонавіч заспяваў:

Как дело измены, как совесть тирана,
Осенняя ночка черна...
Чернее той ночи встает из тумана
Видением мрачным тюрьма.

Да яго далучыўся Удовін, а потым і Афтар:

Кругом часовые шагают лениво,
В ночной тишине, то и знай,
Как стон, раздается протяжно, тоскливо
«Слу-шай!»

І пакацілася па камеры водгуллем: «Слу-у-шай! Слу-у-шай!»

Мароз прадзіраў па скуры ад гэтага хору. Пасаромленыя наглядчыкі больш не стукалі ў той вечар, а Струнеўскі даваў цэлы віртуозны канцэрт.

Васіль Антонавіч Шашалевіч стаў душою ўсіх загнаных лёсам у гэтую камеру людзей з рознымі характарамі і густамі,

адукаваных і малапісьменных калгасных «тракцыстаў». Некаторыя з іх ад голаду і бясконцых цяжкіх дум трацілі прытомнасць і рэальнае ўяўленне, дзе знаходзяцца. Кожную ноч, у адзін і той жа час, прахопліваўся сівы і сухенькі дзядок, глядзеў на мноства людзей і крычаў: «Грамадзяне, калі ж гэта скончыцца? Трэці год — усё на агульным сходзе». Пракрычыць, як начны певень, паківаецца, пакруціць галавою, упадзе на пасланую на падлозе світку і засне цяжкім сном да пад'ёму, а ўвесь дзень ён сядзіць моўчкі і перабірае худыя, збялелыя без работы пальцы.

Без спадзявання і суцяшэння ў бядзе чалавеку жыць вельмі цяжка. Калі хто-небудзь занудзіцца і даходзіць да адчаю, яго ўгаворваюць і суцяшаюць суседзі, пераконваюць, што да амністыі застаюцца лічаныя дні: дваццатая гадавіна Кастрычніка вызваліць усіх невінаватых. Суцяшалі і пачыналі верыць самі. Гэтую веру падтрымліваў Коўтун. Ён пераканаўча даводзіў, што раней шкодзіў Ягода, а цяпер Сталіна ашуквае Яжоў. Заявы ад зняволеных і іх родзічаў адкрыюць праўду Генеральнаму сакратару ЦК, і ён выправіць усе памылкі і перагібы.

Як мы чакалі Кастрычніцкага свята! Нават самыя песімісты на нешта спадзяваліся. Амаль усе гэты дзень адзначалі своеасаблівым «балем»: тыдзень па лустачцы эканомілі хлеба і па драбочку цукру, на сёмы дзень набіралася цэлая пайка. Свята можна было адзначыць дзвюма пайкамі, кубкам салодкага чаю і ўспамінамі пра апошняе свята на волі.

Пасля вячэры быў святочны канцэрт: Сяргей Ракіта чытаў раздзелы з рэвалюцыйных паэм Маякоўскага, я дэкламаваў «Смерть пионерки» Багрыцкага, потым спявалі «Вяршавянку», «Наш паравоз, вперед лети», «Широка страна моя родная». Асабліва натхнёна гучалі радкі: «Я другой такой страны не знаю, где так вольно дышит человек».

Прайшло свята, і нашы спадзяванні на амністыю канчаткова рухнулі. Спахмурнеў і замоўк Коўтун. Змрочны, ён сядзеў, падкурчыўшы ногі, на ржавым жалезным ложку, падзываў субяседнікаў, але ўсе абміналі яго, нібыта ён адмяніў абяцаную амністыю. У абед адчыніліся дзверы, на парозе чалавек гадоў трыццаці пяці падняў рукі і закрычаў: «Ура! Таварышы! Я жыву. Я самы шчаслівы чалавек!» Да яго падбеглі «заготзярноўцы» Радкевіч і Фрэнкель, абдымалі, цалавалі, выціраючы слёзы, павялі толькі што памілаванага ад пакарання смерцю свайго таварыша Дамброўскага. Гэта ён быў так рады, што расстрэл замянілі на 25 гадоў катаргі. Выходзіць, катарзе можна радавацца.

Як толькі акрыяў, Дамброўскі расказваў пра свае пакутныя ночы: днём смертнікі спакойныя — спяць, шнуруюць па камеры, а з набліжэннем вечара расце трывога, пасля адбою апаноўвае страх, што здаецца, вось-вось выскачыць сэрца: насцярожвае кожны стук, кожны крок, кожны шолах, здаецца, вось твая апошняя хвіліна, а зарыпіць у замку ключ, кроў адлівае ад галавы і ад сэрца, траціцца прытомнасць і згінаюцца саслабелыя ногі. Некаторыя наглядчыкі заходзілі ў камеру без патрэбы, распытвалі пра здароўе, самаадчуванне, груба жартавалі, а для смертнікаў гэта былі страшэнныя пакуты. Калі зачыняліся дзверы, апаноўвала радасць, што яшчэ не вядуць туды, адкуль няма звароту, і вярталася надзея на літасць. Часта да Дамброўскага падсаджваўся Шашалевіч і далікатна распытваў пра адчуванні і думкі чалавека ў самай страшнай камеры.

У канцы лістапада пачалі па некалькі чалавек высмыкваць на этап. Адзін за адным знікалі таварышы. Былі кароткія развітанні, абдымкі, запаміналі адрасы родзічаў, каб потым спісацца. Наіўныя мы былі летуценнікі — так ніхто нікога і не знайшоў, ніхто не адгукнуўся. Хутка зніклі Баранавых, Шашалевіч, Багун, Мікуліч, Астапенка, Скрыган і Хадыка. На парозе мы абняліся з Васілём Антонавічам. «Трымайся. Ты ж малады. Можа, пашанцуе вырвацца жывым. Бывай». Мы абняліся. Так я з ім ніколі больш і не спаткаўся, а расказаць пра трагічны лёс гэтага чалавека выключнай дабраты, таленту і сумлення па праву памяці, па абавязку апошняга сведкі я павінен.

Нас з Магілёва апошнімі адпраўлялі на этап у снежні 1937 года. Усё злачыннае і ганебнае робіцца ноччу. І нас вялі глухой поўначчу ў далёкі ад вакзала тупік і загналі ў «цялятнік» з суцэльнымі нарамі, дзіркаю ў падлозе і жалезнаю печчу з дзежкі. Везлі некалькі крымінальнікаў і нас, даўніх сяброў і знаёмых, некуды на ўсход. Часта наш састаў заганялі на суткі, а то і на двое ў тупікі, не дазвалялі вытыркацца ў закратаваныя вокны, крычаць і гучна гаварыць. Па далёкім голасе дыктара з рэпрадуктара здагадваліся, што стаім у Оршы, потым у Смаленску. Маскву пазналі па адпраўленні электрычак, а калі крануліся, праз заплеценыя калючым дротам і кратамі акенцы ўбачылі, як праплылі рубінавыя зоркі. Як яны былі блізка і як недасяжна далёка!

У вагоне мы трымаліся незалежна і дружна, не далі крымінальнікам узяць над сабою верх. З намі быў і Валодзя Мяжэвіч. І тут ён усіх скарыў сваімі «раманамі».

Так мы і прыехалі ў сцюдзёную заснежаную тайгу на пакуты і на пагібель.

## ТРАГІЧНАЕ АДСТУПЛЕННЕ

У 1939 годзе запаўняць лагеры пачалі вызваленымі з-пад прыгнёту пілсудчыкаў сынамі і дочкамі Польшчы. Некалькі эшалонаў іх прывезлі ў Томасінлаг, а з яго айчынных нявольнікаў развезлі па іншых лагерах. Трапілі томасінлагаўцы і да нас.

У новых этапнікаў заўсёды распытваюць, як там ім жылося, як кармілі, ці не сустракалі каго знаёмага. Аднойчы былы ўкраінскі настаўнік сказаў мне, што быў разам з беларускім пісьменнікам Шашалевічам, але яго пагналі не то на 27, не то на 28 лагпункт. Колькі я ні стараўся праз экспедытараў адшукаць Васіля Антонавіча, усё было дарэмна. Крыўдна, што недзе непадалёк жыве блізкі табе чалавек, а звязацца ніяк не ўдаецца. Я распытваў у таго былога настаўніка ўсё, што той ведаў пра Шашалевіча. Ён расказаў, што спачатку Васіля Антонавіча везлі на Калыму. Восем месяцаў ён прасядзеў ва Уладзівастоку на перасылцы і так дайшоў, што камісія вярнула яго на мацярык, і ён трапіў у Томасінлаг. Працаваў там то ў бухгалтэрыі, то ў санчасці рэгістратарам. Часта выступаў у канцэртах, пісаў вясёлыя частушкі і скетчы. Бясспрэчна, гэта быў ён, але з ім не звязацца.

У часе вайны адных пакідалі ў зоне да «заканчэння вайсковых дзеянняў», а некаторых выпускалі без права выезду з тэрыторыі лагера. Яны лічыліся вольнанаёмнымі, туляліся недзе на кватэрах і былі паслухмянымі папіхачамі ў начальства. Такі «абмежаванец» па прозвішчы Балясны прыбыў да нас на пасаду майстра лесу. Я даведаўся, што ён прыехаў з 27 лагпункта, і пацікавіўся, ці не сустракаўся яму часам Васіль Антонавіч Шашалевіч. Ён даволі доўга моўчкі глядзеў на мяне і запытаў: «А кім ён табе даводзіўся?» — «Таварыш. Па адной справе праходзілі». Балясны пачаў павольна: «Па стане здароўя ён не мог працаваць на павале. Прыстроілі статыстыкам у санчасць. Работа лёгкая, ды і перападала трохі з бальнічнай кухні. Аднойчы ён напісаў вясёлую гумарыстычную п’еску з лагернага жыцця. Яе паставілі аматары на лагернай сцэне. Апладзіравалі, дзякавалі аўтару. А ноччу яго выклікаў упаўнаважаны оперчэкісцкага аддзела і зрабіў разнос, мудрэйшы за самы жорсткі допыт: абвінавацію у паклёпе на выхаваўчую сістэму ў лагеры, у кампраметацыі

кіраўніцтва, у працягванні варожай ідэалогіі. Новую справу на яго заводзіць не стаў, а загадаў адправіць у лес, «а там ты і сам загнешся», — сказаў на развітанне.

Упаўнаважаны стрымаў слова. Шашалевіча пагналі ў лес, але ні пілаваць, ні грузіць ён не мог — даўнія сухоты абвастраліся часцей і часцей. Яго пасадзілі на складзе каля кастра адзначаць, колькі хто з возчыкаў вывез драўніны. Лес ад складу валяць далёка, а тут, на колішніх дзялянках, пакідаюць некалькі дзесяткаў адборных дрэў-семяннікоў. Пройдзе час, і высечаны квартал зарасце самасейкамі.

Шашалевіч сядзеў каля вогнішча і на фанернай дошцы адзначаў, колькі кубаметраў вывез кожны возчык. І раптам невядома хто непадалёк ад вогнішча падпілаваў семянную бярозку і спусціў прама на Шашалевіча. Яна прыціснула яго да палаючага кастра. Возчыкі пачулі гул зваленай бярозы і раздзіраючы душу крык. Падбеглі, а ў вогнішчы жыўцом гарэў патрушчаны і прыціснуты дрэвам учотчык. Падняць бярозу не падужалі. Пабеглі на лесасеку па пілу. Распілавалі тоўстую дзеравіну і выцяглі з-пад яе абгарэлага, з выцекшымі вачыма ўчотчыка. Толькі пад вечар яшчэ ледзьве жывога Шашалевіча прывезлі ў санчасць. Урач, медсястра і санітаркі плакалі, як па самым родным чалавеку. Усе разумелі, хто вынес такі страшны прысуд на пакутніцкую смерць гэтаму сумленнаму і таленавітаму чалавеку, а сказаць ніхто не адважваўся.

Калі, дзе і з кім разам пахавалі Васіля Антонавіча Шашалевіча, ніхто не ведае і не дазнаецца ніколі. Там цяпер шуміць у адвечнай жалобе тайга.

Трагічная пакутніцкая смерць і незабыўны вобраз гэтага светлага, таленавітага і чыстага, як самое сумленне, пісьменніка і старэйшага таварыша — мой незагойны боль.

Але гэта яшчэ не ўсё. На гэтым трагедыя не канчаецца. Думаючы пра Васіля Антонавіча, я часта ўспамінаў яго беленькую негаваркую Веру з іх першым сыночкам. Дзе яна апынулася ў часе вайны, ці жывая, ці дазнаецца калі пра лёс свайго Васіля?

Ішлі гады. Жыццё мяне круціла і матала на ўсе бакі: было кароткае вызваленне, новы арышт, следства, турмы, перасылкі і вечная ссылка ў Сібір. Нарэшце — рэабілітацыя. У 1956 годзе я вярнуўся ў Мінск на ранейшую працу ў радыёкамітэце. Згаладалы па творчай рабоце, я часта выступаў перад мікрафонам і ў друку. Аднойчы вераснёвым днём у рэдакцыйны пакойчык зайшла жанчына з абветраным тварам, пасмамі сівізны, у старой злінялай кофце. Павіталася і маўчыць. Гляджу на яе і

нічога знаёмага ў твары не знаходжу. «Няўжо не пазнаеце?» — сарамліва спытала яна. Маўчу і разводжу рукамі. «Я — Вера Шашалевіч». — «Божачка, адкуль?» — я ухапіў яе шурпатую руку, запрасіў садзіцца і пачаў распытваць. Яна расказала, што да вайны зрэдку прыходзілі ад Васіля лісты то з Уладзівастока, то з Томска, а потым з Горкаўскай вобласці. А пасля вайны куды ні стукалася, нічога дазнацца не магла. Толькі нядаўна паведамілі, што пасмяротна рэабілітаваны. А калі, ад чаго памёр і дзе пахаваны, невядома. Каб неяк пракарміцца і зберагчы адзіную ўцеху — сына, з'ехала з горада ў вёску Волма Дзяржынскага раёна. Сына выгадавала. Ён другі год служыць у Савецкай Арміі.

У калгасе цяпер самая гарачая пара — усе на бульбе, і яна ледзьве выпрасілася ў старшыні на дзень з'ездзіць у Мінск, каб што-небудзь даведацца пра Васіля. У мяне закалацілася сэрца, і я ледзьве стрымаўся, каб не расказаць страшную праўду і не дабіваць гэтую няшчасную пакутніцу. Яна спытала, можа, я што ведаю. Я моўчкі пакруціў галавою. Каб перавесці гаворку, сказаў, што яна можа за рэабілітаванага мужа атрымаць у Літфондзе грашовую кампенсацыю. (Чым жа можна кампенсаваць загубленае жыццё чалавека?) Я павёў Веру Сымонаўну на вуліцу Энгельса ў колішні Дом пісьменнікаў. Дырэктар Літфонда хутка аформіла дакументы аб выплаце кампенсацыі ў памеры дарэформенных шасці тысяч рублёў. Але ў касе не знайшлося ў наяўнасці такой сумы. Паабяцалі выплаціць праз два дні. Вера сказала, што старшыня калгаса яе нізавошта больш не адпусціць, пакінула свой адрас, каб пераслалі грошы па пошце.

Мы паабедалі з Вераю ў прывакзальным кафэ, развіталіся каля аўтобуса, а праз два дні мне сказалі, што грошы адпраўлены, і я супакоіўся, заняты сваімі клопатамі.

Мінулі восень і зіма, увесну выпадкова разгаварыўся са знаёмым крытыкам. Ён расказваў пра свае паездкі з лекцыямі пра беларускую літаратуру. Ужо развітваючыся, спытаў, ці ведаю я, што здарылася з удавою Шашалевіча, і расказаў мне жахлівую гісторыю. Вера кватаравала ў рэдка цвярозага калгасніка Міхася Крыловіча. Пасля яе прыезду з Мінска па сяле пакацілася пагаласка, што Шашалевічыха за мужа атрымала аж шэсць тысяч. У той час на працадзень плацілі капейкі, а такая сума ўяўлялася неверагодным багаццем. Не давала гэта спакою і кватэрнаму гаспадару. Відаць, у прыпадку ачмурэння, калі Вера нагнулася да прыпечка, ён адным ударам засек яе. Ператрос куфэрак, але замест грошай знайшоў новенькую ашчадную кніжку. Працверазеўшы ад замарачэння, ён пайшоў у пуню і павесіўся.

Так трагедыя, пачатая ў 1936 годзе, прынесла яшчэ тры жахлівыя смерці. Пра ўсё гэта я даведаўся пасля вызвалення і мусіў расказаць, парушыўшы храналогію апавядання. А ў лагеры я пакутаваў яшчэ доўга.

## У ШАЛМАНЕ

Каб трохі супакоіць народ і неяк апраўдаць свае злачынствы, у 1939 годзе даволі глуха загаварылі аб «перагібах у рабоце Наркамата ўнутраных спраў». Вясною саракавога года амаль усім «нацдэмам» абвясцілі, што прысуды па нашых справах адменены і яны накіраваны на даследаванне. Неўзабаве выклікалі на этап Мяжэвіча, Такарчука, былога артыста Антона Згіроўскага і выкладчыка Платона Жарскага. Усе былі ўпэўнены, што яны хутка будуць на волі, давалі ім адрасы сваякоў, прасілі напісаць нам, і кожны чакаў свае чаргі, калі паклічуць «на вахту з рэчамі».

Усё валілася з рук, а дні цягнуліся марудна, хацелася хутчэй вырвацца з гэтай пякельнай работы, давесці сваю невінаватасць людзям, якія разбяруцца і паверацць табе, строілі самыя светлыя планы і зайздросцілі сябрам, выкліканым на даследаванне.

А лёс нашых сяброў склаўся трагічна. На «даследаванні» іх пратрымалі да самай вайны. Калі запалаў і пачаў рассыпацца пад фашысцкімі бомбамі Мінск, частку арыштантаў пагрузілі ў таварныя саставы і без харчоў і вады павезлі на ўсход. Каго не паспелі вывезці, пад бамбёжкамі вялізнаю калонаю пагналі па Магілёўскай шашы. Каля Чэрвеня канвой дачуўся, што магістраль перарэзана нямецкім дэсантам, што трэба ратавацца самім. Начальнік канвою загадаў бытавікам заставацца на месцы, «палітычным» адысці ўбок. Сумленныя і наіўныя людзі паслухмяна адышліся. Бытавікам загадалі разыходзіцца. Тыя рванулі хто куды, а па «контрыках» далі залп. У гэтай калоне разам з усімі загінуў выдатны акцёр Антон Згіроўскі і яўрэйскі паэт Зэлік Аксельрод, счакаўшы, з-пад трупаў выпаўз лёгка паранены крытык Рыгор Бярозкін. Ён прабіўся да Магілёўскага ваенкамата, схлусіў, што выскачыў без дакументаў з палаючага Мінска, стаў салдатам і ўсю вайну праваяваў на вогненных рубяжах ад Волгі да Берліна, стаў капітанам, а пасля Перамогі... даседжваў у лагеры неадбыты тэрмін.

Мяжэвіча з Такарчуком цэлы месяц везлі ў Сібір. Па дарозе выкідалі мерцвякоў, на нейкім паўстанку давалі па селядцу, але не было вады, людзі раставалі, як свечкі. Ледзьве рухомых

прывезлі ў табольскую турму. Пачалася павальная цынга і пелагра. Што гэта за хвароба, ведае не кожны ўрач. Мабыць, у самой назве ёсць лагерная аснова. Пры пелагры на жывым целе разбураецца тканка, вылазяць рэбры, відно, як дыхаюць лёгкія, арганізм не засвойвае страву, чалавек разлагаецца жыўцом пры поўнай свядомасці. Ад пелагры ў Табольску памёр Юрка Такарчук, сумленнейшы і таленавіцейшы журналіст, якіх я толькі сустракаў.

А Валодзю Мяжэвіча выратавала санітарка турэмнай бальніцы чарнічным адварам. Ён выжыў, вярнуўся, быў рэабілітаваны, адноўлены ў партыі толькі пасля XX з’езда КПСС, а тады ніхто дваследаваннем і пераглядам спраў не займаўся. Іх трымалі ў турмах да пелагры, потым спісвалі, а хто выжываў, адпраўлялі ў далёкія і больш суровыя лагеры, а групе выкладчыкаў Віцебскага і Магілёўскага педінстытутаў у два разы павялічылі тэрмін. Такі быў «перагляд», такое чарговае ашуканства.

А мы зайздросцілі сваім сябрам, выкліканым па пратэсце пракурора, спадзяваліся да самай вайны і нічога не ведалі пра іх жахлівы лёс.

На шостым лагпункце нас, даўніх сяброў, засталося толькі трое — Розна, Пальчэўскі і я. Ад гарачыні і непасільнай працы ў мяне часта ногі распухалі, як налівачы. Націснеш пальцам, ямка і праз паўгадзіны не выпростваецца, на яе месцы астаецца сіняк, ледзь згінаюцца калені, перасоўваешся, як на шкляных хадулях. У такім стане мяне на некалькі дзён вызваляў ад работы колішні земскі фельчар, спагадлівы Ізот Іванавіч Цымбалюк. У лагеры быў дэвіз: «Дзень кантоўкі — месяц жыцця». І кожны марыў праўдамі ці няпраўдамі «закасіць» вызваленне і хоць дзень «пракантавацца» ў зоне. Адны ішлі на кухню качаць ваду, абіраць бульбу, чысціць траску за лішнюю міску баланды, іншыя ў бараку латалі свае транты, адсыпаліся, набіраліся сілы на «ўдарную працу».

Мы спалі побач і елі з аднаго кацялка з маім даўнім другам Алесем Рознам. Некалі разам друкаваліся ў «Беларускім піянеры», марылі пра шчаслівы літаратурны лёс, потым вучыліся ў адной групе педінстытута, і вось горкі лёс звёў на пакутніцкіх лагерных сцежках. Усё, што ў нас было, дзялілі да апошняй крошкі. Застаўшыся ў зоне, я ў кіпяцілцы з пасылачных круп да прыходу Алеся варыў кашу або густы крупнік. Памешваў у кацялку і пачуў нейкую мітусню: сярод дня дзяжурныя і нарадчык усіх зганялі на паверку да вахты. Я схаваў недавараную

кашу на нарах і пашкандыбаў за ўсімі. З ізалятара вывелі чалавек пятнаццаць абадраных, абшарпаных, бледных, як бульбяныя парасткі ў склепе, адказчыкаў.

Усіх пастроілі. Прыйшлі начальнікі лагпункта і УРЧ (уліковаразмеркавальнай часці) і нейкі прыезджы, чорненькі і шустры, як мышаня, у сініх галіфэ і зашчытнай «сталінцы» з шырокім рэменем. Выклікалі па адным, і ён аглядаў кожнага, як цыган каня на кірмашы. Старых і нядужых адпускаў адразу, маладых і больш-менш пруткіх адводзілі ўбок. Далучылі і мяне да блацякоў, выпушчаных з кандзея. «Дваццаць хвілін на зборы, і ўсе з шмаццём на вахту!» — загадаў незнаёмы начальнік.

Як жа мой недавараны крупнік? Ці дазнаецца Алесь, куды мяне пагналі? І я ж не ведаю нічога. Тут усё засакрэчана: забіраюць чалавека, і ён знікае назаўсёды. За вахтаю нас прынялі два стралкі. Былога «дамушніка і скокара» Васю Лебедзева прызначылі брыгадзірам пагрузачнай брыгады, і патупалі мы на дзевяты лагпункт, у свой новы прытулак.

Злодзей у законе можа пазбавіцца ўсяго, толькі не стракатай коўдры і падушкі. Яны — адзнака прыналежнасці да вышэйшай блатняцкай лігі. На этапе «шмоткі пахана» звычайна носіць «шасцёрка» — хлапчук-папіхач, бездакорны выканаўца волі гаспадара. Скарб нашага брыгадзіра нёс рылаценькі, вугрясты, з шчылінкамі вочак Ванёк «Сіпоўка», а тонкі, сухапары Лебедзеў у хромавых ботах з закасанымі халяўкамі нервова цвыркаў праз зубы слінаю і грэбліва пазіраў на сваю брыгаду дахадзяг і часам бурчаў: «Бля... буду, адкуль вас набралі, столькі фіцілёў? Ну і рабатнём у рот мазанаму начальнічку. Толькі падавай вагоны!» — «Разг-а-а-вор-чыкі!» — крычыць канваір. «А страявога песняка можна ўрэзаць, гражданін начальнік?» — «У кандзеі заспяваеш, а тут не вякай. Давай шыра шаг!»

З лесу выйшлі на вузкі і доўгі чыгуначны прагал. Лагерная аднакалейка працягнулася больш як на сто кіламетраў. Едзеш па ёй — абапал векавыя лясы, зрэдку станцыйныя будачкі і склады — больш нічога не ўбачыць самае пільнае вока. У таежным гушчары за тры-пяць кіламетраў ад чыгункі за калючым дротам — зоны лагпунктаў і мноства падкамандзіровак, з вышкамі, баракамі, кандзеямі, сваім жыццём, сваімі трагедыямі, пакутамі, слязьмі і смерцямі. Колькі ў гэтых колішніх Шарамецеўскіх лясах гібее нашага брата, ніхто дакладна не ведае і не скажа.

Мы перасеклі чыгунку і выйшлі на лясную дарогу. Свеціць сонца, з галінкі на галінку пырхаюць дразды і сініцы, трымціць павуціна, ускрай дарогі гайдаюцца сінія званочкі і лапушыцца

папараць. Ідылія. А нам да гэтых званочкаў і папаратнікаў можна дайсці толькі з куляй у патыліцы і ўпасці на цёплую зямлю, да адзінага ратунку ад пакут і безнадзейнасці. Злева пачаліся бясконцыя склады дроў і дзелавога лесу, да іх падведзены чыгуначны «вус». Вось-вось пойдуць адзін за адным саставы паражняку, і не будзе ні дня, ні ночы, толькі: «Давай! Давай! Варушыся, у бога душу, аглаеды, шкоднікі, зрыўшчыкі плана!» Запалаюць начамі вогнішчы і квачы з мазутам, пагрузку зменіць падноска за трыста метраў, будзеш несці бервяно і засынаць на хаду, спатыкацца аб пні, падаць, збіваць калені і ўрэшце «заражаць туфту» ў пульманаўскіх вагонах.

Лебедзеў зірнуў на бясконцыя штабелі: «Ну, мазурыкі, от вам і фронт работы. Укалвай, пакуль пуп не развяжацца. Памантулім начальнічку і сабе на «досрочное освобождение». — «Яшчэ вякнеш, загрыміш з вахты ў кандзей», — аж кіпіць канваір. «Кандзей для людзей, а свабода для блядзей», — агрызаецца брыгадзір, і аўтарытэт сярод сваіх расце.

Вось наш і новы прыстанак. Ого! Тут толькі адна палатка. Вялікую плошчу квадратам акаймоўваюць доўгія баракі, відна сталовая з высокім ганкам, пякарня, капцёрка, санчасць і, вядома, пад вышкаю ў асобнай зоне кандзей. Хіба ж можна ў турме ды без турмы? Палічылі і запусцілі ў пусты барак. Там-сям на голых нарах скручаныя нейкія шмоткі і некалькі пацёртых стракатых коўдраў. Значыць, ёсць свае «законнікі». Малады аднавокі днявальны да пояса голы, аж сіні ад наколак. На грудзях і на спіне цэлая карцінная галерэя, і ўсе сюжэтныя малюнкі выкананы кваліфікавана, у рэалістычным плане: вось арол нясе ў кіпцюрах прыгажуню, русалка з рыбіным хвастом іграе на гуслях, на руках краты, кінжалы, крыж і надпіс: «Не забуду мать-старушку». Над левым і правым саскамі — профілі Леніна і Сталіна. Такія наколкі ў многіх лагерных старажылаў. Яны перакананы, што з гэтымі татуіроўкамі іх ніхто не адважыцца расстраляць. Не ведалі бедалагі, што звычайна страляюць у патыліцу. Сапраўды, «блажен, кто верует».

Днявальны нам адводзіць правы край барака. Лебедзева ён ужо ўсёк і дае месца на тапчане, падобным на ложак. Я адзін чужы сярод уркаганаў. Як яно будзе? Вырашыў: з ваўкамі жыць, па-ваўчынаму выць. Не, я не стаў ні злодзеем, ні фармазонам (аферыстам), ні карцёжнікам, але і сябе ў крыўду не даваў. У шалмане я назіраў мноства зламаных лёсаў, маральнае падзенне, жорсткасць і сентыментальнасць у адной асобе, бязлітаснасць і чуласць ад «душещипательных романов». Я бачыў, як дзялілі

і хавалі крадзенае, як прагульвалі ў «буру» і «штос» чужыя шмоткі, маглі прагуляць чалавека і забіць першага, хто пройдзе за акном. Аднойчы прагулялі шынель і шапку начальніка лагпункта. Пастукаўся да яго ў кабінет дахадзяга, доўга «пудрыў мазгі» нейкімі просьбамі, нават слязу пусціў, а калі начальнік адвярнуўся да тэлефона, дахадзяга знік з кабінета. Праз паўгадзіны начальнік агледзеўся, што на вешалцы няма ні шыняля, ні шапкі. Колькі ні шукалі, не знайшлі. Дахадзяга прыпухаў у ізалятары, а шыняля не было. Давялося начальніку выкупіць сваю форму за некалькі буханак хлеба і дзесяць дадатковых абедаў нашай брыгадзе.

Вечарамі прыбягала ў шалман маленькая касавокенькая цыганачка. Яе цягнулі то ў адзін, то ў другі закутак. Нікому яна не адмаўляла ў сваіх «пяшчотах» за пайку хлеба або скварку, украдзеную з торбы рабацягі. На кароткія гастролі забягалі і больш прыстойныя «шалашоўкі» да «свайго мужыка». Наглядзеўся і наслухаўся я ў шалмане, чаго больш нідзе не пачуеш і не ўбачыш. І я ж ім хлусіў і фантазіраваў бессаромна, расказваючы «раманы». Я іх упрыгожваў таямнічымі палацамі і незямнымі прыгажунямі, закаханымі ў няўлоўных рабаўнікоў банкаў, галаваломнымі ўцёкамі і таемнымі сустрэчамі на шыкоўных курортах і ў казачных вілах. У маіх слухачоў аж слінкі цяклі ад задавальнення. Часам да адбою чытаў вершы. Слухаючы «Мцыры» і «Ліст да маці» Ясеніна, некаторыя непрыкметна выціралі слёзы, а каб прыхаваць расчуленасць, давалі вышэйшую ацэнку: «От, у рот ёдам мазаны, хапае за душу і, як панчоху, выварочвае. А Ясеніна часта «менты» забіралі? Свой хлопец быў, а піса-а-аў як!» Тады я мяняў рэпертуар на «Біблію» Крапівы. Усе разумелі і дружна рагаталі. Так я заслужыў імунітэт недатыкальнасці, павагу і нават некаторую палёгку.

У нашай брыгадзе былі ўцекачы, рэцыдывісты, «цяжкавагавыя» злачынцы, таму яна лічылася рэжымнаю і мела пэўную перавагу. Пакуль добра не развіднее, рэжымнікаў з зоны не выводзілі, з пагрузкі здымалі, як толькі змеркне. Усе ўкалваюць, а нас вядуць з работы. Звычайныя брыгады дзень пілуюць, а як толькі пададуць паражняк, усю ноч грузяць, прывядуць у зону паснедаць, дадуць гадзіну пагрэцца ў бараку, і зноў на павал.

Брыгада Лебедзева лічылася ў перадавых. Пакуль не было вагонаў, рабацягі рыхтавалі фронт пагрузкі — цягалі дровы бліжэй да рэек, а нашы архараўцы «цiскалі раманішкі» або шасталі па нечых торбах. А падавалі паражняк, займалі чужую нарыхтоўку, гразіліся брыгадзіру сякераю і хуценька загружалі

вагоны. Былі ў нашай «гоп-брыгадзе» вялікія майстры туфты. Як яны гэта рабілі, расказваць не буду, каб часам не пераймалі гэты ашуканскі спосаб у наш час. Вагоны адыходзілі напалову пустыя. Начальства на гэта заплюшчвала вочы. Яму было выгадна, што на складзе астаюцца сотні кубаметраў, якія «паехалі» толькі ў накладных. Было гэта на руку грузчыкам, якія разгружалі нашы вагоны. Яны ў паражняку нам у падзяку прысылалі некалькі пачкаў махоркі і запіску: «Братцы, давайце болей туфты».

«Лебедзеўцаў» днявальныя не пускалі ні ў адзін барак. «Куды прэшся, зладзюга?! Я табе пашастаю тут!» — звычайна сустракаў і мяне днявальны ў брыгадзе Куўшынава. У ёй працаваў мой інстытуцкі таварыш і друг па няшчасці Міша Плашчынскі. Яго днявальны папярэджваў: «Глядзі мне, Плашчынскі, калі што прападзе, будзеш адказваць. Знайшоў мне дружка з шалмана. Інстытуцкі, кажаш? Ён, відаць, зладзейскую акадэмію прайшоў». Крыўдна было, але я цярпеў. Неўзабаве перайшоў у брыгаду Куўшынава, і мы з днявальным сталі добрымі сябрамі. Я зноў стаў кольшчыкам дроў. Тут было куды цяжэй, як у рэжымнай брыгадзе Лебедзева: дзесяць гадзін укалвалі на павале, а калі ноччу падавалі вагоны, нашу рабацяшчую брыгаду ўспорвалі першаю і гналі на вахту. Там доўга чакалі канвою, калаціліся і скавыталі ад сібернага ветру і сцюжы. Падноска была за сотні метраў. Пад грузам рудстойкі, балансу ці дроў дарога яшчэ даўжэйшая. На пагрузках і па дарозе ў зону я навучыўся спаць на хаду: механічна пераступаеш з нагі на нагу, самі заплюшчваюцца вочы, і нават пачынае нешта вярзціся. Часам думалася: «У шалмане хлопцы спяць або рэжуцца ў карты». Але не шкадаваў, што развітаўся з імі: бо адчуваў, як душа абрастае брудам, а разбэшчанасць нораваў, жорсткасць, крадзеж, распуста страшэнна абуралі. Я часта задумваўся, што іх, на першы погляд нармальных хлопцаў, зрабіла такімі, а яны ж яшчэ задаваліся адзін перад адным. Былі ж нармальнымі хлапчукамі, акцябратамі і піянерамі, вучыліся і чыталі Пушкіна і Гогаля, Горкага і Гайдара. Дзе ж зламалася іх жыццё? Хто вінаваты ў бядзе гэтых хлапчукоў, а яшчэ больш дзяўчынак? Прычын было шмат, і ў кожнага свая. Усе крымінальнікі прыдумлялі сабе прыгожыя біяграфіі: былі сынамі не меней як «генералаў», «акадэмікаў», «славутых артыстаў». Хлусілі па-майстэрску, аж самі пачыналі верыць у свае легенды, а пра ўласныя злачынствы расказвалі такія байкі, што і ў дэтэктыўных раманах не знойдзеш.

Я часам сустракаўся з імі, зайздросціў, што яны ідуць у зону, а мы на пагрузку. «Што, у рагацікі запісаўся? Ну давай, давай,

студэнт, чашы ў фіцілі, сасновы бушлат па табе плача». Хоць было і цяжка, а на душы — чысцей і святлей.

## НЯВОЛЬНІКІ — АРТЫСТЫ

У лебедзеўскім шалмане я пазнаёміўся з самым аўтарытэтным крымінальнікам нашага лагпункта, класным фармазонам Іванам Іванавічам Вадап'янавым. Такое цяпер было яго прозвішча. Быў ён зграбны і шчыгульны, у добрым сінім фрэнчы, адпрасаваных штанах і жоўтай хромавай фуражцы. Прыгожы смуглявы твар усходнецыганскага тыпу быў сімпатычны і прывабны. Манеры арыстакрата, артыстызм у паводзінах, дасканалая літаратурная мова, добрае веданне паэзіі рабілі яго прыкметным сярод лагернага шматлюддзя. Афіцыйна ён лічыўся днявальным, хоць ні разу не трымаў у белых дагледжаных руках з доўгім кіпцем на мезенцы ні дзеркача, ні дужкі ад вядра. Усё за яго рабілі «шасцёркі» — служкі паняволі. Часам яго выпраўлялі ў лес. Дні тры-чатыры ён выходзіў з брыгадаю, сядзеў каля вогнішча і толькі загадваў брыгадным шасцёркам: «Эй ты, фитиль, подбрось посуше».

Брыгадзір яму ў рапарцічцы «за разгонку дыму» выводзіў сто пяцьдзесят працэнтаў, потым ён наганяў сабе тэмпературу і тыднямі кантаваўся «па хваробе».

Культурна-выхаваўчая частка часам на сцэне ў сталоўцы наладжвала вечары самадзейнасці: работнікі бухгалтэрыі на балалайках і мандалінах ігралі «Широка сторана моя родная», «На сопках Маньчжурии» і папуры з сучасных песень. У большасці канцэртаў выступаў Іван Іванавіч. Ён не дэкламаваў, а па-майстэрску іграў «Сумасшедшего» Апухціна, маналог барона са «Скупого рыцаря» і на высокім пафасе чытаў «Стихи о советском паспорте». Гэта быў акцёр ласкаю боскай. Прафесія афэрыста патрабавала тонкага артыстызму, пераўвасаблення ў вучонага, журналіста, акцёра, інжынера. У давер ён уваходзіў адразу, у цягніку, ва вакзалах, у аэрапортах яму давяралі «паглядзець хвіліначку» рэчы, жанчыны даверліва аддавалі свае каштоўнасці, і ніхто нават падумаць не мог пра сапраўдную спецыяльнасць гэтага абаяльнага маладога чалавека. Ён ніколі не хваліўся сваімі прыгодамі, быў нешматслоўны, а ціхія, спакойныя яго загады кожным крымінальнікам выконваліся імгненна. Ён быў у іх свеце некаранаваным каралём. На волі яго шукалі ад Брэста да Уладзівастока, а ён вадзіў за нос аператыўнікаў

і знікаў, як у шапцы-невідзімцы, і зноў даваў гастролі ў тыле пагоні. У карты ён мог выйграць усё, што захоча.

Я пасябраваў з Вадап'яравым яшчэ ў шалмане. Звяла нас любоў да паэзіі. Калі што-небудзь у маіх знаёмых рабацяг прападала, прасілі мяне дапамагчы вярнуць прапажу. Я ішоў да Івана Іванавіча. Ён нічога пэўнага не абяцаў: «Калі ўдасца выйграць, вярну, а не — прабачай і ніколі не пытай, у каго выйграў», — і часам вяртаў украдзеную рэч без выкупу.

Перайшоўшы ў брыгаду Куўшынава, я рэдка бачыўся з Вадап'янавым. За нешта апошнім часам на яго ўз'еўся начальнік лагпункта і тыднямі трымаў у кандзеі. А я тым часам даволі ходка дагараў на павале і начных пагрузках: жонка мяне выраклася, дзядзькавы пасылкі прыходзілі рэдка, а праца не адпавядала харчу. Каб падтрымаць саслабелых, брыгады па чарзе пасылалі іх на дзень дзяжурыць па кухні. Прыпала такое шчасце і мне: хадзіў з кухарамі ў капцёрку па прадукты, назіраў, як закладаюць у катлы абцягнутыя плеўкамі рэбры бараніны. Яе сушылі на сонцы недзе ў стэпах Казахстана, і разам з шумавіннем у катле шапкаю ўсплывалі белыя чэрві. Збольшага іх збіралі шумоўкаю, але дзе ты іх усе пераловіш? Кухары ведалі, што дзяжурны прыйшоў не кантраляваць іх, а пад'есці, кармілі яго дасыта і рабілі ўсё, што ім хацелася. Самым большым далікатэсам была смажаная бульба, кансерваваная з лоем фасоля, а баланды і кашы еш, хоць раменьчык здымай, і наядаліся да ачмурэння і «рэвалюцыі» ў страўніку.

Пасля закладкі ў катлы дзяжурнаму няма чаго рабіць, але і адлучыцца не мае права; а раптам прыйдзе начальнік і спытае: «Хто дзяжурны?» Цягніся ў струнку і рапартуй: «На катлавым давольствіі... па першым катле... па другому» — і гэтак далей. От і аціраешся ўвесь дзень, па некалькі разоў здымаючы «пробы».

З сталоўкі даходзілі нейкія галасы. Выйшаў паглядзець. На сцэне пераважна «прыдуркі» рэпеціравалі «Платона Крэчата». Платона іграў Вадап'янаў. Яго прыводзілі з кандзея, а пасля рэпетыцыі адводзілі назад у камеру. Ліду іграла ўрач Вольга Рыгораўна Вінаградава, мілая, прыгожая, спагадлівая ленінградка. Тэрмін у яе быў, як ва ўсіх, — дзесяць гадоў, але жыла яна ў асобным пакойчыку пры санчасці, так званай «кабінцы», і ратавала як магла лагернікаў. Іграў і адначасова суфліраваў капцёр Ваня Воранаў. Убачыў мяне і пытае: «Эй ты, фіціль, чытаць умееш?» — «Трохі ўмею». — «Давай сюды. Пасуфліруй». Я ў лапцях, абшарпанай целагрэйцы і папрапальваных ватных штанах палез на сцэну і сумеўся, ці не развучыўся

за гэтыя гады чытаць, бо амаль пяць гадоў не бачыў друкаванага слова. Узяў п'есу і пачаў падаваць рэплікі з адпаведнай інтанацыяй.

Закончылі першы акт, Воранаў мне і кажа: «Слухай, у цябе ж здорава выходзіць. Сыграй Аркадзія, га?» Я зарагатаў, зрабіў рыцарскі рэверанс: «Якраз у такім шыкоўным гарнітуры і іграць закаханага доктара». — «На спектакль мы цябе апранем, як ляльку». — «О, гэта спакуса, — падумаў я, — хоць на некалькі гадзін адчуць сябе чалавекам у белай кашулі і добрым гарнітуры», — і згадзіўся. У канцы рэпетыцыі падышла да мяне Вольга Рыгораўна і сказала, каб увечары прыйшоў у амбулаторыю.

Калі раздалі вячэру і я здаў дзяжурства, заінтрыгаваны запрашэннем Вольгі Рыгораўны, павольна пайшоў у санчасць. У доміку пад вышкаю было дзве палаты, амбулаторыя, куханька і пакойчык дакторкі. Медсястрою і кухаркаю была сівенькая, у вялікіх акулярах інтэлігентная Валянціна Міхайлаўна Яцэвіч. У нашым спектаклі яна вельмі натуральна і прачула іграла маці Крэчата. Пастукаўся ў прыёмны пакой. «Калі ласка», — пачуўся голас Вольгі Рыгораўны. У пакоі палілася грубка, перад адчыненымі дзверцамі на перавернутым табурэце сядзела дакторка. Полымя паружавіла яе зграбную постаць і светлае аблічча, пазначанае някідкаю, трошкі таямнічаю прыгажосцю. Яна ўстала, запрасіла садзіцца на амбулаторны тапчанок і побач села сама. Я парушыў маўчанне: «Слухаю вас, Вольга Рыгораўна». — «А я слухаю вас. Раскажыце пра сябе. Кім працавалі на волі, дзе і як жылі».

Я коратка адказаў на пытанні дакторкі, нават пералічыў, чым некалі хварэў. «Вы сістэматычна недаядаеце. Я пастаўлю вас на санітарны паёк. Будзеце прыходзіць пасля работы да Валянціны Міхайлаўны, і яна вас накорміць дадаткова. Калі вельмі зморыцеся, прыходзьце на прыём, запішу ў спіс вызваленых ад работы». Я падзякаваў і ўстаў. Вольга Рыгораўна падала мне мяккую ручку. Ледзьве ўтрымаўся, каб не пацалаваць яе. «Калі будзе вельмі сумна, заходзьце пасля вячэрняга прыёму пагаварыць каля гэтага агеньчыка».

Я выйшаў усцешаны і рады. Як нямнога чалавеку трэба — спагада, увага, каб быць і ў гэтым пекле шчаслівым. Здавалася, сам Бог пасылаў выратаванне, верылася, што акрыяю на санітарным пайку і падтрымцы доктара. Перамагаючы сорам, вечарамі я ціха стукаўся ў бальнічную кухню, калі ўжо адвячэралі санпаёчнікі, бо адчуваў, што падкармліваюць мяне

з ласкі, нібы жабрака, якога не пускаюць далей кухні. Ласкавая Валянціна Міхайлаўна разумела маю разгубленасць, шчыра частавала запяканкаю і кісялём, гаварыла, як з роўным, пра нашы рэпетыцыі і талент Вадап'янава. «Вось і мяне на старасці гадоў усё ж угаварылі падацца ў артысткі. Паўпіналася, а далей падумала, — трэба ж чалавеку нейкае адхланне, нечым забыцца, а спектаклем усцешыць няшчасных пакутнікаў, што ледзь прыпаўзаюць з лесасекі. А гэтыя канцэрты і спектаклі падобны на баль у часе чумы». З кухні я праходзіў каля пакойчыка Вольгі Рыгораўны, бачыў на марлевай фіранцы яе цень, але прыспешваў крок, каб ніхто мяне не заўважыў.

У дзень спектакля ад работы мяне вызваліў начальнік КВЧ. Пасля вячэры ссунулі сталы, расставілі доўгія лавы, а за кулісамі хваляваліся і мітусіліся дэкаратар і артысты. На мяне надзелі недзе пазычаны сіні бастонавы гарнітур, белую кашулю, гальштук і зграбныя чаравікі, падрумянілі і прыпудрылі твар. Я выпрастаўся, падцягнуўся і ўпершыню за многія гады адчуў сябе чалавекам. Прыведзены з кандзея Іван Іванавіч апранаўся і грыміраваўся, як прафесійны артыст, быў засяроджаны і негаваркі, арыстакратычна пакланіўся Валянціне Міхайлаўне, пацалаваў ручку Вользе Рыгораўне. Больш за ўсіх хваляваўся наш рэжысёр — нешта загадваў, папраўляў касцюмы, правяраў рэквізіт, праз шчыліну ў заслоне пазіраў у залу.

Першыя лаўкі занялі начальнік лагпункта Вахонін, камандзір узвода Русакоў, «кум» і вольныя ад дзяжурства стралкі з жонкамі, тыповымі вясковымі кабетамі з кержанскіх сёлаў. Лавак усім не хапіла. Зэкі стаялі шчыльным натоўпам. Можна пачынаць. Адкрылася заслона. На сцэне ўтульная кватэра Крэчата, у ёй чакаюць гаспадара вясёлыя, інтэлігентныя і прыгожыя людзі. Усіх зачараваў Вадап'янаў у ролі Платона. Ён і на скрыпцы іграў без дублёра, а манеры, інтанацыі, кожны рух — высакароднага інтэлігента. Потым і ў прафесійных тэатрах я не бачыў лепшага Крэчата. Зачаравала ўсіх Вольга Рыгораўна ў ролі Ліды, пасмяшыў Бублік — лагерны цырульнік Пецька Самойлік. Хвалюючыся, у першым акце ў неўласцівую мне ролю кар'ерыста Аркадзя ўвайшоў і я.

Як кажуць тэатралы, спектакль прайшоў «на ўра», пад доўгія воплескі зняволеных, а «вальняшкам» апладзіраваць было забаронена. Парываліся паапляскаць некаторыя жанчыны, але мужы хапалі іх за руку, а адною не пляснеш. Пасля спектакля затрымаўся начальнік. Ад яго, як заўсёды, несла пракіслым перагарам, але трымаўся ён роўна, толькі часцей моргаў

пачырванелымі павекамі. Паклікаў старшага кухара: «Лудзін, накармі артыстаў ад пуза». Кіўнуў кандзейшчыку, які чакаў Крэчата, каб весці ў камеру. «Вадап'янава адпусці. А ты, артыст, глядзі, каб у бараку быў парадак і ніякага крадзяжу».

Пасля спектакля так не хацелася здымаць усё цывільнае і зноў нацягваць абшарпаныя і прапацелыя лагерныя транты. Узбуджаныя, шчаслівыя ад поспеху, што парадавалі забыццём сваіх таварышаў, сядзелі мы за доўгім сталом і малацілі густую баланду і кашу з ячнай сечкі.

Назаўтра зранку хвастаў касы дождж з сіберным ветрам. Мы моклі і дрыжалі на вахце. Адны падхвальвалі мяне, іншыя зубаскалілі: «Ну, артыст пагарэлага тэатра, колькі кубікаў паставіш за начальнікаву баланду? Гы-гы-гы».

Я пілаваў і калоў, як заўсёды, а ў галаве круціліся рэплікі з «Платона Крэчата», гучала скрыпка і мелодыя, напэўна, прыдуманая самім Вадап'янавым. Пасля паўдня дождж сціх, а рэзкі вецер ударыў нясцерпным холадам. Мокрая адзежа зашэрхла; як зашклёныя, не гнуліся рукавы, але трэба было варушыцца, каб не зайсціся зусім. Языкі вогнішчаў круціў вецер і раздзімаў іскры. Яны падалі на целагрэйкі, і жалела вата, што ледзь паспявалі тушыць. Бярозы і хвоі гнуліся і гулі, слабейшыя вецер выварочваў з карэннем. Думалася: так і чалавек — дужы трымаецца, а слабы падае ніц. Змяркалася, а адбою ўсё яшчэ не было.

Сагнутыя, раскудлачаныя ветрам, як вароны ў навальніцу, доўга яшчэ дрыжалі і туліліся адзін за аднаго на вахце, пакуль начальнік канвою пералічваў брыгады і здымаў з трасы стралкоў. Абледзянелыя бушлаты і целагрэйкі аж трашчалі на згібах, ногі ў лапцях на новенькую парцяначку былі як чужыя. Я суцяшаў сябе, што прастуджуся, да раніцы падскочыць, дасць бог, тэмпература і, можа, лекпом вызваліць ад работы. Але ўсе спадзяванні былі марныя: колькі ні мерзлі, колькі ні моклі, тэмпература не падымалася.

На вахце ў збітай на вуха кубанцы стаяў сам Вахонін. Тварам ён мне чамусьці нагадваў партрэты самадзержца Паўла І — кірпаты, з пукатымі вачыма і адвіслымі шчокамі. Ён, заўсёды на лёгкім падпітку, трымаў на шворцы лютую аўчарку з натапыранымі вушамі, вываленым чырвоным языком і вострымі вялізнымі ікламі. Значыць, сёння начальнічак будзе пацяшацца. Ён прапусціў доўгую калону лесарубаў, асядлаў каня, даўжэй адпусціў павадок і паехаў за апошняй брыгадай. Ззаду звычайна ледзьве калываюцца дахадзягі. «Ану, падцягніся, маць вашу туды-сюды, контрыкі!» — крычыць начальнік і пускае аўчарку.

Яна збівае з ног апошняга, шкуматае яго рыззё; Вахонін хвошча няшчаснага бізуном і весела рагоча. Гэта была любімая забава начальніка-садыста. Казалі, што ён спрабаваў спакусіць Вольгу Рыгораўну, а ёй падабаўся прыгожы ленінградскі інжынер Паша Баярскі. Вахонін нічога не дамогся, а Баярскі загрымеў на штрафны лагпункт. Адзінага доктара адправіць на павал ён не мог. Хто б тады лячыў зняволеных і вольных? Ён лаяўся і тупаў нагамі на Вольгу Рыгораўну, што многа вызваляе ад работы лесарубаў, а зусім нямоглых адпраўляе ў слабасільную каманду. Дакторка цярпліва тлумачыла: калі будзе пасылаць у лес хворых, павялічыцца смяротнасць, а за гэта не пахваляць ні начальніка, ні санчасць.

Я ўсё яшчэ хадзіў вечарамі на санпаёк і трохі акрыяў і падужэў. Часам мілая Валянціна Міхайлаўна казала: «Зайдзіце ў амбулаторыю». Я ціха стукаўся ў дзверы. У прыёмным пакоі перад расчыненымі дзверцамі грубкі глядзела на агонь Вольга Рыгораўна. Яна распытвала, як я жыву, задавала балючае пытанне, ці пішуць з дому. Я расказваў, што ў Мінску засталася маладая жонка з хлопчыкам, народжаным пасля арышту. Ведаю, што іх выселілі з кватэры, Таню выключылі з інстытута. На першым часе прыходзілі лісты, а вось ужо другі год — ні слыху ні дыху. Дзе яны, што з імі, нічога не ведаю. А невядомасць — самая страшная пакута: ці не пасадзілі і іх, ці жывыя яны? Вольга Рыгораўна, як магла, суцяшала, а каб забыцца, прасіла чытаць вершы. Мая маладая памяць іх трымала мноства. Я чытаў Блока і Ясеніна, Багрыцкага і Пастарнака, «Про это» Маякоўскага і лірыку Пушкіна. Не называючы аўтара, я прачытаў:

Мы с тобой сидели рядом у погасшего огня,
И в тиши печальным взглядом
Ты смотрела на меня.

Было яшчэ некалькі строф у тым жа стылі. Пасля доўгай паўзы Вольга Рыгораўна спытала, ці не я гэта напісаў. Я разгубіўся і назваў прозвішча неіснуючага аўтара. На развітанне яна падала маленькую мяккую руку і сказала, што назаўтра мяне ўключыла ў спіс вызваленых ад работы. Я падзякаваў і паўтарыў вядомую прымаўку: «Дзень кантоўкі — месяц жыцця».

Зімою 1940 года нечакана Вольгу Рыгораўну выклікалі на вызваленне. Яна затрымалася на некалькі дзён, пакуль здавала санчасць фельчару з шостага лагпункта Ізоту Іванавічу Цымбалюку. Праводзілі Вольгу Рыгораўну ўсе, хто быў у зоне. На развітанне яна мяне абнадзеіла: «Лёд крануўся. Спадзяюся сустрэцца з

вамі ў Ленінградзе. Я напішу». І вызваленых на каменданцкі лагпункт вялі пад канвоем. Павёў стралок і выратавальніцу многіх арыштантаў і вольных.

Ліста ад Вольгі Рыгораўны я не дачакаўся. Праз многія гады ў ленінградскім адрасным стале мне адказалі: «Такая не значыцца». Хутчэй за ўсё загінула ў блакаду, а каб засталася ў сваёй санчасці да канца тэрміну, магчыма, жыла б і цяпер. Што лепш, ніколі чалавек не ведае наперад.

Больш на волю і на перагляд спраў з адмененымі прысудамі нікога не выклікалі. Я цярпліва чакаў свае чаргі. Пілаваў дровы, хадзіў на начныя пагрузкі, кончыліся мае санпайкі і «кантоўкі», ніхто мне не пісаў. Адчуваў сябе адзінокім, пакінутым, нікому не патрэбным у свеце. Праўда, зрэдку прыходзілі пасылкі з Глуска ад дзядзькі: чорныя сухары, рукавок фасолі, кавалачак сала і пачак цукру. Гэта была адзіная ўцеха і падтрымка. А душа прагла хоць маленькага суцяшэння, аддушыны, спадзявання, забыцця. Мокры, змораны, хадзіў вечарамі на рэпетыцыі лаўрэнёўскага «Разлому». Іграў не нейкую там эпізадычную ролю, а рэвалюцыйнага матроса Гадуна.

Начальнік КВЧ, Пятро Іванавіч Марозаў, чалавек недалёкі, мітуслівы і спагадлівы, быў вялікі аматар самадзейнасці, living рознымі праўдамі і няпраўдамі даваў палёгку ўсім удзельнікам спектакля. А ў лагеры былі людзі ўсіх спецыяльнасцяў — мастакі, сталяры, бутафоры, скульптары. Афармленне нашых спектакляў набліжалася да прафесійнага. Сцэна нагадвала палубу сапраўднага карабля. Дэкарацыя кватэры Бярсенева будзіла ўспаміны пра волю. Спектакль паўтаралі некалькі разоў, нават выязджалі з гастролямі на суседнія лагпункты. Марозаў хадзіў імяніннікам.

Аднойчы ён мяне ўгаварыў напісаць п’есу на лагерным матэрыяле, паказаць ударнікаў і прагульшчыкаў, прыдумаць вясёлыя прыпеўкі, карацей, «даць мабілізуючы матэрыял». Для гэтага паабяцаў на тыдзень вызваліць ад работы. Як тут не згодзішся? Выйдзе не выйдзе, а тыдзень пракантуешся. І я напісаў вершаваную, месцамі нават дасціпную двухактоўку з патрэбнаю начальству назваю «Лес — Родине». Яе ставілі здатныя да спеваў і танцаў драмгурткоўцы. На спектаклі аўтар падпіраў плячыма халодную грубку, і ніхто яго не заўважаў. А воплескаў было многа, некаторыя «героі» адразу пазнаваліся, а з дзесятак чатырохрадкоўяў увайшло ў лагерны фальклор.

З прадстаўлення я прыйшоў у сваю палатку спустошаны, з уражаным аўтарскім самалюбствам: ніхто мяне не заўважыў, ніхто не прывітаў. Успомнілася маё даўняе супрацоўніцтва з толькі што створаным у Мінску тэатрам юнага гледача і выдатным рэжысёрам Кавязіным. Для тэатра рабочай моладзі перакладаў драму Бурштэйн «Працяг будзе», глядзеў, як яе рэпеціруе таленавіты і палымяны Міхаіл Зораў, успаміналіся прэм'еры і радасць дачынення да зробленага сапраўднымі мастакамі.

Брыгада ўжо спала. Я падаслаў целагрэйку на голыя нары, накрыўся бушлатам і патануў у свет успамінаў, летуценняў і сноў. Аж у палатку з грукатам увайшоў дзяжурны з ліхтаром і гучна назваў маё прозвішча: «Давай на адной назе да начальніка!» Я прахапіўся і адразу не зразумеў, чым правініўся. Ага! Дапісаўся! Начны выклік да начальніка, або «кума» — верны кандзей. Папрачыналіся і мае суседзі. Яны разумеюць, куды мяне бяруць. Вытрасаюць па каліве махорку, збіраюць на закрутку паперу, Міша Плашчынскі суе засохлы кавалачак хлеба. Мяне сякуць дрыжыкі. Па пустой зоне дзяжурны вядзе да начальніка. Свеціцца толькі адзінае акно ў яго кабінеце. Няўжо маю работу над п'есай палічыў прагулам? А можа, у ёй знайшоў палітычна шкодныя думкі, тады — цэнтральны ізалятар, новае следства, «контррэвалюцыйны рэцыдыў» і новы давесак да маіх дзесяці гадоў.

Вахонін сядзеў за сталом адзін у накінутым на плечы шынялі і ссунутай на лоб кубанцы, ружовенькі і прапахлы густым перагарам. Я спыніўся ў парозе і далажыў, што прыбыў па яго загадзе. За мною стаяў дзяжурны з ліхтаром. «Можаш ісці, Тарасаў», — буркнуў начальнік. Памаўчаў, агледзеў мяне ад лапцей да макаўкі. «Гэта ты са сваёй галавы зварганіў гэтую храновіну?» Усё ў мяне абарвалася ўсярэдзіне. «Па заданні начальніка КВЧ. Ён сам усё правяраў і ўхваліў». — «А кім быў на волі?» Я расказаў. «Хм, жур-на-ліст! Пя-са-цель. Чаго ж табе не хапала на волі? У контррэвалюцыю пацягнула? Язык доўгі ці напісаў, чаго не трэба?» Я сказаў, што ні ў чым не вінаваты. «Усе вы не вінаватыя, а чырвонец адвалілі за здарова жывеш? Усё гэта глупства. А ты, відаць, башкавіты. Складна ў цябе выходзіць. Унь як рагаталі. Адно кепска... Здагадваешся? Не? Няўжо такі тупы? А хто больш за ўсіх змагаецца за лес ро-дзі-не, га? Рукавод-ст-ва! Паняў?» — «Паняў, гражданін начальнік». — «Ты ў якой брыгадзе? Куўшынава? Та-ак. Скажы заўтра Марозаву, што я загадаў аформіць цябе днявальным у КВЧ і сачыняй так, як трэба. Ясна?» — «Ясна, гражданін начальнік». — «Ну, чашы».

Я вярнуўся на свае нары, рады, што не трэба ўставаць на развод, што хоць трошкі акрыяю ад павалу і бясконцых пагрузак. Узбуджаны нечаканым паваротам лёсу, доўга не мог заснуць, варочаўся на мулкіх нарах, засланых мокраю целагрэйкаю, на бярозавай плашцы замест падушкі.

Марыў, як «закіпіць» работа ў КВЧ, хоць і было няёмка перад сябрамі па брыгадзе, што ўбіўся ў прыдуркі. І апраўдваў сябе самога: а хіба было б лепш, каб настыраўся з самадурам, каб дагарэў у кандзеі ці «слабасілцы», каб яшчэ адным нябожчыкам стала больш? У кожнага свой лёс, свая дарога. Я яе прайшоў сумленна, каб выжыць, каб некалі расказаць праўду нашчадкам.

## БРЫГАДА «УХ»

Вясна саракавога года была ранняя і дружная. У лясных лагчынах яшчэ ляжаў падталы шэры снег, прыцярушаны карою і ігліцай, прыгрэтыя сонцам узгоркі папрастрыквала кволая траўка, падсохла разбітая паўсотняй фурманак возчыкаў дарога. Брыгады ўжо не хлюпалі па суцэльнай калатушы, а пераскоквалі з грудка на грудок, цалялі ў падсохлыя каляіны.

Ачапленне было кіламетраў за пяць ад зоны. Яно пачыналася штабелямі дроў, накатамі шасціметровага кругляка, ярусамі рудстойкі і пропса, дробнага падтаварніка і шпал. Склады драўніны расцягнуліся кіламетры на чатыры ўздоўж і на кіламетр углыб. Прыйшла пара вывозіць арыштанцкую прадукцыю на будоўлі, на шахты, на заводы, у нейкія далёкія гарады, дзе ніхто і не здагадаецца, што кожнае бервяно паліта слязьмі, магчыма, іх родзічаў ці знаёмых.

Каб вывозіць, трэба падвесці чыгуначную ветку, як тут яе завуць, «вус». Дзеля гэтага прыехаў прадстаўнік чыгуначнага аддзела лагера бесканвойны інжынер Сцяпан Агурцоў. Тэрмін у яго быў невялікі, і ён вольна ездзіў па ўсёй тэрыторыі лагера. Вясёлы, трошкі цынічны малады чалавек неяк разгаварыўся са мною; мы знайшлі агульную мову і пасябравалі.

Увечары мяне выклікаў начальнік і загадаў прыняць брыгаду на будаўніцтве чыгункі. Я адмаўляўся, бо ніколі чыгунак не будаваў. Агурцоў паабяцаў, што за дзень навучыць усім прамудрасцям, работаю будзе кіраваць сам. «А якую брыгаду прыняць?» — «Заўтра на разводзе ўбачыш і павядзеш», — сказаў начальнік.

Я доўга думаў пра сваю новую пасаду і не ўяўляў, з каго мне набяруць брыгаду. Ноччу прайшоў цёплы дожджык, зямля курылася блакітнаю параю. Развод закончыўся, а ніякай маёй брыгады не было. Падышоў Агурцоў: «Ты толькі не палохайся і не лезь у бутэльку. Чыгунку мы з табою пабудуем і выратуем людзей. Слухайся толькі мяне, і ніколі не пярэч. Я з начальнікам пра ўсё дамовіўся». Браму зачынілі, а маёй брыгады няма. Аж гляджу, з ізалятара адзін за адным выпаўзаюць зацятыя «адказчыкі» з вялікім кандзейным стажам. Яны месяцамі не працавалі, даходзілі на трохсотках і рэдзенькай поліўцы. Каб вырвацца ў стацыянар, адны зашывалі сабе рот, прышывалі гузікі на голыя грудзі, рэзалі чэрава, калечылі рукі, абы толькі не хадзіць на работу.

Некаторыя мае будучыя брыгаднікі з зімы не вылазілі з кандзея, таму былі ў дзіравых целагрэйках і ватных штанах, мультановых малахаях, зарослыя і бледныя, але вясёлыя і языкатыя. «Брыгада ух, работает да двух. Начальнічак, лады, дай болей баланды». Асабліва ўсе блацякі любілі гаварыць у рыфму. Былі сярод іх «зладзеі ў законе» — ад шыі да пят у кваліфікаваных татуіроўках Колька Сцёпін і невысокі, бялявы і прыгожы Толік Кузняцоў. У яго была адзіная наколка, але на ўсю спіну — ілюстрацыя да пушкінскай «Песні аб вешчым Алегу»: коннік, кудзеснік, чэрап і змяя. Унізе чатырохрадкоўе: «Так вот где таилась погибель моя! Мне смертию кость угрожала! Из мертвой главы гробовая змея шипя между тем выползала...» Відаць, наколваў кваліфікаваны мастак. Як толькі было цярпець такую пакуту? Між іншым, надпіс для Толіка быў прарочы. Гады праз два расказвалі, што на нейкім іншым лагпункце за тое, што «ссучыўся» (здрадзіў сваім) ці прайграўся, Толіка соннага засеклі ў бараку, а вінаватага так і не знайшлі, ды і не надта шукалі.

Нарэшце маю брыгаду пастроілі. Агурцоў з усмешачкай і жарцікамі расказаў пра ўмовы працы: работа здзельная — норму схапілі і — у зону, за перавыкананне — трэці кацёл і кіло дзвесце хлеба. Пасля вячэры ўсё, што астанецца ў катлах, — чыгуначнай брыгадзе. «Ну як, лады, хлопцы?» Маўчаць, не вераць. «Вас я не пакрыўджу, але ўкалваць прыйдзецца без дурыкаў». — «А ты не цямніш, начальнічак без намордніка?» — «Што вы, хлопцы». — «А ты забажыся па-блатному». — «Бля... буду», — ляпнуў сабе ў грудзі Сцяпан і перахрысціўся пад агульны рогат. «А цяпер у сталоўку! Стоп! Стоп! Вы ж не табун, а брыгада. Строем за

брыгадзірам». І мы пайшлі. У хлебарэзцы выдалі кожнаму па шасцісотцы, накармілі густою баландою і абедзеннаю кашаю.

Павесялелі мае дахадзягі. Як яны прагна ўміналі дзённую пайку, як выскрабалі і вылізвалі міскі. У інструменталцы ахвотна разбіралі рыдлёўкі, ламы і кіркі. Дарогу пачыналі весці ад канца складаў да магістралі. Капалі глыбокія кюветы, а грунт выкідалі на будучае палатно. Хоць і худыя, знясіленыя, дахадзягі, як мурашкі, выкарчоўвалі пянькі, махалі рыдлёўкамі, варочалі ламамі і пазіралі на дзве тычкі ў канцы нашага ўчастка. Да першай — сто працэнтаў, да другой — сто пяцьдзесят. Там свяціў трэці кацёл і вялікая пайка. Акорднае заданне — найлепшы прыганяты для лагерніка. Яго найбольшая мара — хутчэй з'есці сваю порцыю і легчы на голыя нары. І мае «рабацягі» стараліся і прыспешвалі адзін аднаго. Трохі адставаў прыгожы азербайджанец Касімаў. Яго вялізныя чорныя вочы глядзелі пранізліва і сумна. З разадраных па швах некалі ватных штаноў свіцілася бруднае смуглае цела, на прапацелую майку надзета дзіравая целагрэйка. Я спытаў, ці ёсць у яго яшчэ якое-небудзь адзенне. «Есть», — і Касімаў высмыкнуў з прарэхі рубец заношаных трыкатажных трусоў: «Вот, нэ знаю, как ему фамілія». — «Трусы», — падказаў я. «Тур-русы. Забил сапсэм». — «Кім жа ты быў на волі, Касімаў?» — «Я-я? Я била лёчик». — «На якіх самалётах лятаў?» Здзіўлена глядзіць на мяне Касімаў і ўсміхаецца: «Сапсэм не летал. Я лёд возил», — рагочам удвох. Сапраўды, і смех і грэх з такога «агітатара».

Агурцоў быў асаблівым прыхільнікам маёй брыгады. Ён, відаць, хацеў выратаваць хранічных адказчыкаў, падкарміць іх, паставіць на ногі. Выкарчуем два пні, а ў рапарцічцы іх ужо чатыры, пералапачваем жоўты пясочак, а дзесятнік піша: «твердый глинистый грунт с извлечением валунов». Хто іх лічыў, хто праверыць, які там быў грунт? А гэта давала вунь які высокі працэнт!

З першых дзён мая брыгада «чыгуначнікаў» пад рогат усяго лагпункта стала ўдарнаю і стаханаўскаю. Ніхто не любіць аднастайную марудную работу ад званка да званка, асабліва калі норма вялікая, а пайка малая. А тут работа акордная — зрабіў і — на бакавую, і пайка свяціла самая важкая. Вось і стараліся з дапамогаю разумнага Сцёпкі Агурцова. Калі ён недзе ёсць і цяпер, дык не адзін чалавек абавязаны яму жыццём, і дзеці тых дахадзяг прыйшлі ў гэты свет таму, што выжылі іх бацькі.

Аднойчы мы прыйшлі на вахту, калі сонца толькі звярнула з паўдня, і трэба ж было сутыкнуцца з начальнікам. Ён як затупае,

як вырачыцца: «Вы чаго гэта? Хто дазволіў? Усёй брыгадай у кандзей захацелі? Брыгадзір, далажы!» Я паказаў рапарцічку, падпісаную дзесятнікам. Сто трыццаць працэнтаў. Начальнік зірнуў на маіх абадранцаў, пакруціў галавою і засмяяўся. Стралок пацвердзіў, што працавалі без перакуру і дзесятнік дазволіў весці ў зону.

«Хрэн з ім. Наша дзела даць рабсілу, а яны няхай разлічваюцца. А вы будзеце ўкалваць — новае абмундзіраванне дадзім».

«Мы работы не баімся, на работу... сам панімаеш, гражданін начальнічак. Ударнікі, адным словам. На зіму бяры нас у прыдуркі. З мяне класны пекар будзе. Тут усе кухары, капцёры і бухгалтары. Вунь Касімаў свой лётчык», — зарагатаў і адбіў чачотку Толік Кузняцоў. «А на цябе, здаецца, нарад прыйшоў», — успомніў начальнік. «Можа, на работу ГУЛАГ запрашае? А калі на штрафняк, схаваюся, не знойдзеце. Мне цяпер і тут добра», — прызнаўся Кузняцоў.

Мы баяліся, каб начальнік не павярнуў назад на трасу. Аж не, пакруціў галавою і пайшоў праз вахту. Пусцілі ў зону і нас. Сцёпка Агурцоў шчодра нам выпісваў трэці кацёл за неіснуючыя валуны, пянькі і цвёрды грунт і паступова адносіў вешку далей і далей. Хлопцы нібыта не заўважалі і ўкалвалі не лянуючыся. Мне Агурцоў тлумачыў сваю «методу»: «Так, як цяпер, яны ніколі не працавалі і наўрад ці будуць працаваць. Ты ж ні разу не крыкнуў на іх «давай, давай». Акордная работа — найлепшы прыганяты. Беручыся за рыдлёўку, чалавек павінен ведаць, колькі ён павінен зрабіць і што за гэта будзе мець. Бачыш, як яны варушацца і слухаюцца цябе, бо вераць: ні ты, ні я не ашукалі іх ні разу. Зірні, як яны ад’еліся. Пасля галадухі чалавек становіцца як налівач, а сыты ўжо не захоча садзіцца ў кандзей на трохсотку».

Аднойчы я прыхварэў, і брыгаду павёў сам Сцёпка. Хацеў паказаць, на што здатны, і ўвечары прынёс мне падпісаць рапарцічку на сто пяцьдзесят працэнтаў. Следам за ім зайшоў Касімаў, памыты, пачышчаны, у новых картовых штанах і кашулі. Усміхаецца і маўчыць, потым працягвае з-за спіны беленькую булачку са свайго «стаханаўскага» пайка. «Кусай, биригадир. Ты балной. Кушай, пажалуста». Я паўпінаўся, потым разламалі булачку напалам і з’елі ўдвох.

Туфта была туфтой, а чыгуначны «вус» рос з кожным днём і састыкаваўся з галоўнаю магістраллю. Зажурылася мая брыгада, што кончылася «лафа» і «стаханаўскія» абеды. Пачаліся пякельныя пагрузкі. Паражняк падавалі адзін за адным переважна

ноччу. Нарадчыкі і дзяжурныя бегалі па зоне з ліхтарамі — лавілі ўцекачоў, а яны зашываліся на гарышчы, хаваліся ў моргу, толькі б не ісці на пагрузку. Загрузіўшы два эшалоны, людзі валіліся з ног, засыналі на хаду, ламаліся і падалі пад цяжарам сырых шпал, не здалелі ўскаціць даўжэзнае бервяно, яно зрывалася з пакатоў, калечыла, а то і на смерць раструшчвала не надта спрытнага грузчыка.

Пагрузка была не для маіх «стаханаўцаў». Пачаліся «мастыркі»: прыкладалі да цела пялёсткі люцікаў, а праз пару дзён з'яўлялася мокрая флегмона, набівалі тэмпературу, на вогнішчы прыпальвалі пятку, абы толькі не ісці на пагрузку. Некаторыя зноў падаліся ў ізалятар. Аднойчы па дарозе на пагрузку прыгожы хлапчук з Магілёва Лёнька Філонаў (мабыць, мянушка стала прозвішчам) вільнуў за разлапісты выварат, затаіўся, стралок прайшоў каля яго і не заўважыў. Вопытны «кішэннік» і «дамушнік» Лёнька Філонаў бясследна знік. Відаць, недзе на перагоне зашыўся ў гружаны вагон і паехаў на волю.

Толькі пасля пагрузкі спахапіліся, што не стае чалавека. Гадзіны тры на вахце трымалі ўсе брыгады, з аўчаркамі абшасталі ўсе склады і лесасеку, у загружаныя дрыўмі вагоны паролі пікамі, а Лёньку не знайшлі. Доўга мяне цягаў упаўнаважаны чэкісцкага аддзела за «садзеянне ўцекачу». Брыгаду перавялі ў рэжымныя. Мае хлопцы дзякавалі Лёньку, што выратаваў нас ад начных пагрузак.

## СМЕРЦЬ АНГЕЛА

Пасля вызваленчага паходу Чырвонай Арміі на захад 1939 года наш лагер стаў інтэрнацыянальным. Увосень прыбыў этап з Польшчы: мужчыны ў ніколі не бачаных шыкоўных гарнітурах і палітонах, з блішчастымі скуранымі чамаданамі і партфелямі, жанчыны ў капялюшыках, светлых пальцечках з пелярынкамі і ў лайкавых пальчатках на зграбных ручках. З Бесарабіі прыгналі дзевяноста трох малдаван у доўгіх суконных бурнусах, у кажушных камізэльках і каракулевых стаўбунаватых шапках. Быў сярод іх колішні пракурор, некалькі святароў і звычайныя сяляне — вінаградары і кукурузнікі.

У польскім этапе трымаўся незалежна паважаны ўсімі землякамі былы таварыш міністра, быў і маленькі, сівенькі і надта ж гаваркі банкір. Ён кожнаму расказваў, колькі яго мільёнаў захоўваецца ў швейцарскім і лонданскім банках. А

цяпер ён працаваў «рухавіком» — увесь дзень тузаў за вяроўку прымітыўнае прыстасаванне, што шчапала дранку на дах. Перакоўваўся, вывучаў на практыцы, як дастаюцца мільёны.

Дужэйшых паслалі на павал і на пагрузку, жанчын на акорку драўніны, самую прыгожую ўзяў за прыбіральшчыцу на пякарню Коля Зотаў, колішні буйны махляр і прайдзісвет, з добра падвешаным языком і ўяўнай адукаванасцю. Начальства яму патурала ва ўсім: ён за кошт прыпёку шчодра карміў усіх вольнанаёмных.

Тыдні праз два палякі ўжо не пазнавалі адзін аднаго ў лагерных неданосках. Іх бессаромна распраналі вольныя і блатары, брыгадзіры і дзесятнікі, кухары і капцёры. Уркі на дзвярах свайго шалмана павесілі прыгожую фанерную шыльду «Ларёк». Многія палякі пацягнуліся туды, спадзеючыся нешта купіць. Ім у дзвярах рабілі «цёмную» — на галаву накідвалі коўдру або бушлат, вытрасалі кішэні, здымалі пінжак, папярэджвалі, калі каму заікнецца, прырэжуць, давалі ў каршэнь кухталя, і небарака ляцеў з ганка, мінаючы прыступкі. Некаторыя беглі скардзіцца на вахту. «Дзе абрабавалі?» — «У ларку». Пасля аперацыі шыльда часова здымалася. Наглядчык з пацярпелым ішлі ў сапраўдны ларок і, як кажуць, цягнулі пусты нумар. Потым шыльда вывешвалася зноў для чарговага «наіўняка».

Большасць гарнітураў, чамаданаў, паліто і партфеляў пераплыла за зону, у шафы і куфры начальнікаў і стралкоў. Іх бессаромна выменьвалі за хлеб, цукар, махорку, за невялікую плату. Пекар Коля Зотаў з дапамогаю вольных адпраўляў дадому пасылку за пасылкаю.

Менш прывабнаю была вопратка малдаван, але і іх хутка пераапранулі ў неданоскі трэцяга тэрміну. Паплыў за зону шыкоўны сурдут былога пракурора Бесарабіі Прусакова, з тонкага сукна — сутана айца Іоны. Валіць лес, грузіць вагоны, будаваць ляжнёўкі яны былі не здатныя. Пайкі не цягнулі вышэй за чатырыста-пяцьсот грамаў, рэдзенькая баланда на першы кацёл, лыжка ячменнай кашы, а часам за невыкананне нормы ўся брыгада з вахты ішла без затрымкі ў кандзей. У многіх малдаван паацякалі твары, пад вачыма пазвісалі вадзяністыя мяшэчкі, пабляклі і апусцелі вочы.

Першымі апускаліся ў лагеры не загартаваныя працаю кволыя інтэлігенты. Яны пачыналі длубацца на сметніках каля кухні, вылізваць чужыя міскі, станавіліся абыякавыя, пераставалі ўмывацца, трацілі чалавечае аблічча і годнасць, ад

жывых ішоў нейкі трупны дух. Па зоне сланяліся патэнцыяльныя смертнікі. На работу ісці яны не здалелі, без тэмпературы санчасць вызвалення не давала, значыць, садзіліся ў кандзей, а там неўзабаве — дарога на вахту з біркаю на вялікім пальцы правай нагі.

Самых саслабелых пасылалі ў брыгаду лапцяплётаў. У зямлянцы з невысокаю надбудоваю бязногія і кульгавыя дзяды забяспечвалі галоўным абуткам лесарубаў — вяцкімі лапцямі на сорак вушак. Сярод лапцяплётаў былі свае стаханаўцы і ўдарнікі і, седзячы, зараблялі трэці кацёл. Паслалі да іх вучыцца двух маладых польскіх дахадзяг. Колькі яны ні біліся, а цалкам лапця не сплялі: адзін неяк агораў насок, другі пятку, і панеслі здаваць у капцёрку кожны па паўлапця, каб не лічыліся прагульшчыкамі і не начаваць у кандзеі. Ну ж і парагатаў з іх капцёр Яша Смірноў, а яны, няшчасныя, стаялі і плакалі.

З польскімі і з малдаўскімі прозвішчамі сяк-так асвойталіся, а прыбыў вялікі этап з Грузіі, і пачаліся пакуты для брыгадзіраў і работнікаў бухгалтэрыі: усе прозвішчы здаваліся на адзін капыл. Іх блыталі ў продстале, блыталі нарміроўшчыкі, блыталі рэгістратары санчасці. Пакуль было цёпла, сыны Каўказа яшчэ неяк трымаліся, а ўдарылі маразы, закруцілі завеі, дарогі і тайгу завалілі высокія сумёты, учарнелі, згорбіліся, закалаціліся ад голаду і сцюжы некалі прыгожыя і дужыя землякі «вялікага» Сасо і пасыпаліся адзін за адным, як мухі. Пакуль дойдзе да ачаплення — духі вон. Трэба ж абтаптаць, падсекчы камель. Пачнеш пілаваць, а пілу заціснула. Вопытны лесаруб ведае, як даць рады, а бедныя дзеці сонечнага поўдня выбіваюцца з сілы, пакуль зваляць адно дрэва. Ніхто іх не вучыў гэтай рабоце: пілу з сякераю — у зубы і гайда ў лес, а там хоць пуп развяжы, а норму дай. Дрэвы падалі абы-куды, і гінулі пад імі дзесяткі бездапаможных лесарубаў. Ніхто па іх не заплакаў, не паведаміў радні, як загінуў іх пакутнік.

На такіх санчасць складала на вузенькай паперцы акт: «Памёр ад запалення лёгкіх» або «ад сардэчнай недастатковасці», а дзе і калі пахаваны, засталося таямніцаю назаўсёды. За тыдзень нябожчыкаў набіраўся поўны дашчаны хляўчук, названы моргам. Укамянелую зямлю было не ўкапаць, а хаваць неяк трэба. За поўнач голыя, закасцянелыя ад марозу трупы, адных удоўж, другіх упоперак, укладаў на сані хозвозчык Мяфодзій Кастроў, вывозіў у лес за конбазу і да вясны завальваў снегам. А як растане зямля, было не да нябожчыкаў, ды і знікалі яны неяк таямніча з таго месца. Толькі часам знаходзілі косці і чарапы.

Ад сцюжы, голаду і непасільнай работы, асабліва грузіны і малдаване, падалі на хаду. Яны хутка трацілі волю, надзею і чалавечае аблічча; апускаліся маральна і фізічна, голад іх гнаў да скрынак з кухоннымі адкідамі, яны прагна грызлі салёныя галовы траскі, абпіваліся вадою, ногі, твары распухалі да шкляной празрыстасці, і людзі нячутна згасалі. Раніцай будзяць на паверку, а ён нежывы. Брыгадзір не надта спяшаўся даваць на нябожчыка весткі ў санчасць, каб яшчэ дні два мецы лішнюю пайку на брыгаду. Здаралася наадварот: па зоне блукалі «жывыя нябожчыкі». Не надта пісьменныя брыгадзіры часам памыляліся: памрэ Гогіберыдзе, а ў рапарцічцы спішуць Насарыдзе. І ён з раніцы ходзіць высвятляць, чаму яму не даюць пайку. У продстале тлумачаць, што ён памёр. «Вай, слюшай, зачем умер? Я ещё живой». І тупае небарака, жывы нябожчык, у санчасць па даведку, што ён сапраўды яшчэ жывы.

Малдаване ўсё ж неяк трымаліся, лягчэй пераносілі маразы, каго не абабралі блацякі, насілі кажушныя душагрэйкі, і лесапавалам яны авалодвалі спрытней. Маладыя хлопцы стараліся зарабіць большую пайку і давалі больш за сто працэнтаў. Але ўсе былі замкнёныя, маўклівыя і змрочныя. Толькі і пачуеш: «Буна даміняца», «буна сяра». Іх парадзелая брыгада жыла асобна, але не надта дружна, часам усчыналіся сваркі, а за што, не разбярэш. Брыгадзірам у іх быў не то малдаванін, не то ўкраінец Іон Саўчук, чалавек патрабавальны і жорсткі. Ён адразу засвоіў галоўную лагерную паганялку: «Давай! Давай! Мацъ-перамаць!» Хто не вырабіў норму, таго з вахты здаваў у кандзей, дагаджаў начальству, каб толькі ўтрымацца ў брыгадзірах.

Неяк на пагрузцы наша брыгада стаяла побач з Саўчуковаю. Пакуль выводзілі загружаны састаў, усе разам паселі вакол вогнішча. Грузчыкам прывезлі дзежку застылай на марозе баланды з турнэпса і вотруб'я. Значыць, зноў грузіць усю ноч, а раніцай ісці на павал. Цяпер успамінаю, і не верыцца, што гэта мог вытрываць галодны чалавек, хоць і вытрымлівалі адзінкі. Мы пракліналі чыгунку, што самі пабудавалі, глядзелі на бясконцы склад — і апаноўваў жах, што ўсё гэта суджана нам перацягаць на ўласных гарбах. Звалімся, вывезуць за вахту, прыгоняць новых, і на іх долю хопіць.

Каля вогнішча побач са мною сядзеў, відаць, некалі прыгожы, з сумнымі вачыма малады малдаванін Рубежу. Сёрбаў ён баланду неяк далікатна, не хапаючы, не давячыся. Заўсёды быў маўклівы і стрыманы, нават калі яго лаялі, маўчаў і ўсміхаўся. Я пацікавіўся, чым ён займаўся на волі. «Літаратурай». Прызнаўся і я сваёй

адданасці прыгожаму пісьменству. Хутка мы разгаварыліся. Рубежу добра гаварыў па-руску і расказаў, што доўгі час збіраў матэрыялы пра службу Пушкіна ў Малдавіі, пра вытокі яго «Цыган» і вершаў, калісьці напісаных у Кішынёве. Расказваў ён павольна, узважваючы кожнае слова, успамінаў асабліва любімыя строфы і чытаў свае пераклады іх на малдаўскую мову.

Пасля гэтай пагрузкі мы ўжо не абміноўвалі адзін аднаго: затрымліваліся хоць на некалькі хвілін. Рубежу быў лепшым лесарубам і грузчыкам у брыгадзе Саўчука. Ён, мабыць, паверыў, што сапраўды «лучковая піла і канадскі тапор — карацейшы шлях да вызвалення», авалодаў лучковай пілою, спрытна валіў дрэвы з пня, раскражоўваў, калоў, словам, выкладаўся, не шкадуючы сілы, абы зарабіць большую пайку і залікі, у якія некаторыя па наіўнасці яшчэ верылі.

Напрадвесні пабольшалі дні, на ўзлобках падтаваў снег, рудзелі праталіны, на іх, як аладкі, ляжалі колцы з адмецінамі, пазразаныя з шасціметровых бярвенняў, — сляды зімовай туфты.

У многіх лагернікаў крываточылі дзёсны, выпадалі зубы, пачыналіся паносы, малдаване іх звалі «дзіарыя», а медыкі — цынга. Даўжэй за ўсіх трымаўся Рубежу.

З павалу вярталіся яшчэ завідна. Неба ачысцілася ад воблакаў, праз цёмныя верхавіны лесу мігцела, драбілася іскрамі вялікае сонца. Прадвесне радавала цяплом, зялёнаю травою, саладкаватымі дудкамі, а летам — чарнічкаю і сыраежкаю. Арыштанты, як трусы, елі ўсё, што расло ў лесе, і ратаваліся ад цынгі і страшэннай пелагры.

Наша парадзелая, абшарпаная і саслабелая брыгада ўваходзіла ў зону апошняю. Ладны, падцягнуты вахцёр у хромавых ботах, сініх брыджах, перацягнутай папругаю гімнасцёрцы, нібы лапаткаю, фанернаю дошчачкаю адграбаў пары і запісваў, колькі вярнулася з лесу. Я толькі ступіў у зону, бачу — прыткнуўшыся да сцяны вахты, сядзіць Ангел Рубежу. Каля ног — закураны кацялок. Я азваўся: «Уставай, Ангел, прастынеш». А ён маўчыць, галава звісла на грудзі. Дакрануўся да пляча, цела паволі хіліцца на правы бок. У твары — ні крывінкі, вусны пасінелі, збялеў кончык носа. Няўжо Ангел адляцеў у лепшы свет? А раптам можна яшчэ выратаваць.

Пабег у санчасць, прывёў лекпома. Той прыадкрыў павекі і спакойна сказаў: «Група «Д». Прыйшлі санітары з насілкамі, і знікла яшчэ адна добрая душа. У гэты дзень Рубежу выканаў паўтары нормы і не дайшоў да барака. Параліч сэрца. Колькі

іх спынілася, колькі разарвалася ад пякельнай работы, крыўды і гора?

Група «Д» расла з кожным днём, а брыгады адпаведна радзелі. У начальства быў план, і яно патрабавала ў ГУЛАГа новай і новай рабсілы (сапраўды, сіла была рабская), ГУЛАГ даваў заяўкі аператыўным органам, значыць, зноў начамі шасталі «чорныя вораны», круціўся няспынны канвеер у следчых кабінетах, і на Поўнач ішлі эшалоны з закратаванымі люкамі, стогнамі: «Ва-а-ады-ы!» «Хле-ба!» Везлі будучых лесарубаў і кандыдатаў у групу «Д». Памятаю — у пачатку месяца на работу выходзіла каля шасцісот чалавек, а праз два месяцы — толькі шэсцьдзесят. Так з малдаўскага этапу к вясне астаўся жывы адзін брыгадзір Саўчук. І ён дайшоў: высокі, як тычка, тонкі, звонкі і празрысты, з ацёчнымі нагамі, вадзяністым тварам і патухлымі вачыма трапіў у «слабкаманду» — гэтую перасылку на той свет.

## ГЛУХАТА

За некалькі месяцаў у нядзелю выпаў першы выхадны дзень. Дзіўна: не падалі ніводнага паражняка. Людзі ў бараках латалі свае транты, у каго ў капцёрцы вялося нешта ў пасылцы, — у кіпяцілцы, на маленькіх вогнішчах у гліняных кар'ерах каля цагельні, у закураных кацялках варылі прасяную або панцаковую кашу, іншыя адсыпаліся за ўсе бяссонныя ночы.

На пятачку паміж баракамі з кавэчэўскага патэфона плыў хрыпаты голас Уцёсава: «Я возвращаю ваш портрет, я ни о чем вас не молю...» Гэты прымітыўны раманс вярэдзіў душу, нагадваў волю, студэнцкі інтэрнат, песні Уцёсава, Козіна, Ірмы Яўнзем.

Непадалёк ад патэфона на лавачцы сядзела прыгожая, статная, як дзяўчынка, Соф'я Іванаўна Эндэн. Яна працавала ў бухгалтэрыі. Здавалася, не сівыя, а срабрыста-белыя хвалістыя валасы аблямоўваюць ружовы твар класічнай прыгажосці. На чысты лоб спадала маленькая грыўка, светла-шэрыя з сінявою вочы іскрыліся вільготнаю цеплынёю. Сіняя ў белую крапінку сукенка аблягала яе зграбную постаць. Соф'я Іванаўна заўсёды была стрыманая, з усімі аднолькава далікатная і незалежная. Гаварылі пра яе рознае. Сядзела яна за мужа, былога начальніка штаба Ленінградскай ваеннай акругі. Пасля забойства Кірава разам з многімі ленінградцамі і яго з сям'ёю выслалі ў Саратаў на пасаду начальніка ваеннага вучылішча. За што? Нехта ўспомніў,

што некалі малады Блюхер заляцаўся да Соф'і Іванаўны. У яе мужа з будучым маршалам была сутычка, якая ледзь не скончылася паядынкам, — абодва расшпільвалі кабуры. Значыць, начальнік штаба схільны да тэрору. У 1937-м мужа Соф'і Іванаўны арыштавалі і расстралялі, а ёй далі восем гадоў. Неўзабаве забілі і Блюхера.

Соф'я Іванаўна была ў нас увасабленнем чысціні, жаноцкасці і прыгажосці. У бухгалтэрыі яна сядзела каля акна, і многія па некалькі разоў праходзілі каля канторы, каб толькі паглядзець на яе. Яна гэта заўважала, чырванела і адварочвалася.

Соф'я Іванаўна заўсёды мне нагадвала волю і людзей, што засталіся там, але падысці і загаварыць не адважваўся, бо саромеўся свайго выгляду ды і не ведаў, што ёй сказаць.

У той выхадны дзень яна чытала тоненькую пажоўклую кніжачку. Я так рэдка трымаў у руках друкаванае слова, што баяўся развучыцца чытаць. А тут — кніга. Я ціха падышоў з-за спіны і ўбачыў, што Соф'я Іванаўна чытае вершы: перагарнула — «Тры пальмы», «Ветразь», «Валерык». Лермантаў! Тут, за калючым дротам, у некага пад падушкаю, хаваецца ад «шмонаў», пераходзіць з рук у рукі. Ад хвалявання ўздыхнуў. Яна азірнулася: «Вам падабаюцца вершы?» У роце перасохла, я толькі кіўнуў і нешта невыразнае мармытнуў. «Сядайце, пачытаем разам». Я прысеў на краёчку лаўкі, Соф'я Іванаўна прысунулася бліжэй і працягнула мне кніжку: «Вам падабаецца Лермантаў!» — «Калі б ён дажыў хоць бы да пушкінскага веку, гэта быў бы найвялікшы сусветны паэт. Чаго варты «И звезда с звездою говорит», «Под ним Казбек, как грань алмаза, снегами вечными сиял».

Соф'я Іванаўна паглядзела на мяне доўгім поглядам. Раптам, бразнуўшы дзвярыма вахты, у зону беглі толькі што прысланы замест Вахоніна новы начальнік, малады і прыгожы Фамічоў, за ім ледзьве паспяваў куртаты даўганосы камандзір узвода Русакоў з пустою расшпіленаю кабурою, за ім спяшаўся белабрысы ў рагавых акулярах і блакітнай фуражцы ўпаўнаважаны оперчэкісцкага аддзела Факін, дыбаў павольны начальнік рэжыму, апошні бег начальнік КВЧ Марозаў. Божа мой, колькі іх, і ўсе начальнікі! Яны завярнулі ў кабінет Фамічова, а Марозаў падбег да стала, выключыў і забраў патэфон, а з КВЧ вынес чорную талерку рэпрадуктара і пайшоў следам за ўсімі.

У паводзінах начальнікаў адчуваліся трывога і заклапочанасць. Можа, збегла цэлая брыгада, бунт крымінальнікаў, крушэнне на чыгунцы? Што здарылася, ніхто здагадацца не мог. А

мы чыталі сабе Лермантава, не думаючы ні пра што. Пры самай вялікай сакрэтнасці па лагеры напоўз страшэнны шэпт: «Вайна. Напалі немцы». Аптымісты пасмейваліся: «Слон і моська!», «Мы іх за тыдзень у парашок сатром. Колькі той Германіі?» і напявалі: «Не видать им красавицы-Волги и не пить им из Волги воды». А тым часам трывога расла: у кожнага на волі засталіся родныя, блізкія. Хоць даўно маўчала мая Таццяна, нічога не ведаў пра народжанага без мяне сына, заўсёды думаў пра іх, асабліва цяпер было боязна за іх лёс, за роднага дзядзьку, стрыечных братоў і сястру, думаў і пра бацьку, які даўно баяўся прызнавацца да мяне.

Больш за ўсё трывожыла невядомасць: змоўкла адзіная радыёкропка, зніклі газеты ў КВЧ, маўчалі вольнанаёмныя — ім забаранялася гаварыць пра вайну, спыняцца з зэкамі.

У некаторых у чэрвені і ў ліпені канчаўся тэрмін. Яны лічылі дні да вызвалення, паздавалі ў капцёрку зімовыя транты, напісалі родным, каб чакалі, а іх выклікалі ва УРЧ (улікова-размеркавальная часць) і паведамілі, што затрыманы ў лагеры да канца ваенных дзеянняў. Адны ў шокавым стане не маглі вымавіць слова, другія істэрычна лямантавалі. Бесканвойных заканваіравалі, знялі з блатных работ і ўсіх пагналі ў лес. Толькі таму, што скончыўся тэрмін, людзі трапілі ў цяжкае становішча, як у першыя дні зняволення. Колькі было адчаю, колькі было слёз!

Многія з нас панеслі ва УРЧ заявы з просьбаю адправіць на фронт, пісалі лісты «любімаму і роднаму бацьку, правадыру і настаўніку Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну», пісалі Варашылаву, Калініну і Молатаву, наіўна верылі, што нашы «слязніцы» дойдуць, што іх прачытаюць, павераць нашай адданасці Радзіме, гатоўнасці абараняць яе да апошняй кроплі крыві. Заявы прымалі, але далей упраўлення яны не ішлі. Праз паўгода прызвалі некалькі крымінальнікаў у штрафныя роты. Яны гінулі ў першых жа баях, на змену ішлі другія. А мы былі глухія і сляпыя; ніхто нічога не ведаў, што робіцца на фронце, дзе ідуць баі. Паўзлі чуткі: заняты Мінск, Орша, Смаленск. Не хацелася верыць. Новыя этапнікі шэптам расказвалі (каб не сеяць паніку), што бамбілі Маскву. Апаноўваў жах. Рэзка пагоршылася харчаванне — хлеб з вотруб’я, баланда з турнэпсу, каша — неабдзіраная пшаніца і ячмень.

Пачалі ў армію забіраць маладых стралкоў, вольнанаёмных начальнікаў розных аддзелаў. На іх месцы прысылалі пажылых белабілетнікаў, эвакуіраваных жанчын з Пскоўскай і Калінінскай абласцей. Можна было здагадацца, дзе ідуць баі, але не хацелася

верыць, што немцы пад Масквою, што ўся Беларусь у акупацыі, што родныя і блізкія далёка за лініяй фронту.

Нормы адразу пабольшалі, з'явіліся заклікі: «Усё для фронту, усё для перамогі!» На кожным разводзе былы зняволены, а цяпер асабліва зацяты начальнік вытворчасці Бойчанка заклікаў ударнай працай для фронту зменшыць сваю віну перад Радзімай і папярэджваў: сістэматычнае невыкананне нормы лічыцца контррэвалюцыйным сабатажам, а сабатаж у ваенны час караецца адною караю. Кожнае выступленне Бойчанка заканчваў адным абяцаннем: «Па трупах пайду, а план выканаю». І выконваў па кубаметрах драўніны і трупаў. І прадукцыя ў нас пайшла абарончая — ружэйная балванка, авіяцыйная фанера, лафетнік для гармат, рудстойка для Кузбаса і дровы для Масквы.

Амаль усе зняволеныя, сцяўшы зубы, з апошніх сіл пілавалі, грузілі авіяфанеру і баланс на цэлюлозу, прыклады для аўтаматаў, дровы і шпальнік. Кожны адчуваў сябе змагаром у тыле, абаронцам сваёй зямлі. Брыгада мая распалася, і я зноў пайшоў на лесапавал. Ад перанапружання на гарачыні ў мяне часта ішла з носа кроў: толькі вярнуўся ў зону, падышоў да карытца-ўмывальніка, прыклаў прыгаршчы вады да твару, як цуркам хлынула кроў. І ніяк яе не спыніць. Нехта паклікаў лекпома. Ён прыйшоў разам з Соф'яй Іванаўнай. Яна прыкладала мокрую хусцінку на лоб, прынесла з амбулаторыі кальцый і не адыходзіла, пакуль не спынілася кроў. Можа, яна і спынілася ад яе такога пяшчотнага дотыку.

Пасля гэтага крадком, але часта мы пачалі сустракацца, каб ніхто нас не бачыў. Соф'я Іванаўна мне расказвала пра Ленінград, пра выдатныя спектаклі ў Марыінцы, пра дом Блока на Пражцы, а я ёй чытаў «Незнаёмку», «Равэну», «Салаўіны сад», расказваў, што ў інстытуце пісаў дыпломную работу пра творчасць Блока і бясконца чытаў яго вершы. Тады я і падумаць не мог, што некалі буду перакладаць Блока на беларускую мову і выдам томік яго вершаў і паэм. А там быў змрок, безнадзейнасць, смерць лунала над кожным з нас і бязлітасна касіла брыгаду за брыгадай — з дзвюх, з трох збіралася ледзьве адна. Увага Соф'і Іванаўны вярнула жаданне жыць, засвяціла маленечкую надзею. Развітваючыся, яна затрымала маленькую мяккую ручку ў маёй шурпатай далоні і ціха сказала: «Мне трэба з вамі пагаварыць, нават параіцца. Прыходзьце на змярканні на лавачку за санчасцю».

Я чакаў заходу сонца, як некалі першага спаткання. Рупіла, што яна мае сказаць, што ёй магу параіць? За гадзіну да змяркан-

ня тупаў каля тае лавачкі пад кашлатаю елкаю. Там мы хаваліся ад усяго і ад усіх. Нават двум мужчынам доўга затрымліваецца было рызыкоўна: абавязкова дазнаецца «кум», тады дабра не чакай.

Соф'я Іванаўна выйшла з санчасці, падала ласкавую ручку, вочы гарэлі нейкім ліхаманкавым святлом. Мы зайшлі ў ашаляваны тамбур амбулаторыі. «Тут нам ніхто не перашкодзіць». Гаворка пераскоквала з аднае дробязі на другую, зноў пачаліся ўспаміны. Мне асабліва не было чаго ўспамінаць, а яна з задавальненнем расказвала пра сваё шчаслівае мінулае, бедавала пра васемнаццацігадовую дачушку, як складзецца яе лёс, адрынутай, заплямленай ганьбай невінаватых бацькоў, а людзі бязлітасныя і жорсткія, дбаюць і калоцяцца толькі пра сябе. Потым наступіла доўгая паўза. Відаць, Соф'я Іванаўна ніяк не магла пачаць размову, вагалася, а можа, не давярала мне. Я строіў здагадкі, але не мог і падумаць пра тое, што яна мне сказала. «Я не маю з кім падзяліцца і параіцца, а калі чалавеку нясцерпна цяжка, неабходна споведзь, спагада, суцяшэнне і... парада. А вы пакляніцеся, што размова застанецца паміж намі і вы яе забудзеце за гэтым парогам». Я паспрабаваў пажартаваць, што не маю ні Евангелля, ні Бібліі, склаў рукі, як на малітву, і тройчы паўтарыў: «Клянуся, клянуся, клянуся».

«Вы ж ведаеце, што мы ў бухгалтэрыі часта заседжваемся дапазна, пакуль у кабінеце начальнік. Раптам ён мне дае тэрміновае заданне падрыхтаваць нікому не патрэбныя звесткі. Выклікае да сябе, гаворыць кампліменты, частуе смажанаю бульбай і чаем з белым хлебам. Хоць і глытаю слінкі, але настойліва адмаўляюся ад начальніцкай ласкі. А ён сыпле двухсэнсоўныя жарцікі і настойліва прапануе свае любошчы. Я кажу, што рабыня не можа палюбіць нават Апалона, а тут гэта пагражае вялікаю караю. Ён прапануе стаць загадчыцай лазні, жыць у асобным пакойчыку. Я ад усяго адмаўляюся. Лепш загіну, а не стану палюбоўніцай свайго турэмшчыка. Парайце, што мне рабіць. Сказаць, што паскарджуся ўпаўнаважанаму, ён толькі пасмяецца, бо яны ж сябры, аднолькавыя нахабнікі і каты».

Што я мог ёй параіць, як засцерагчы ад гвалту і знявагі? Яна прытулілася да мяне, гарачыя рукі дрыжалі, шчокі палалі чырванню. Я асцярожна прытуліў яе да сябе. Яна горача загаварыла: «Лепш належаць блатняку, чым гэтаму кату з жывёльным інстынктам. Тых, каго вывозяць за вахту, губяць ён і яго апрычнікі. Як я іх ненавіджу. Адзін дотык — знявага памяці ўсяго чыстага мінулага. Не дзівіцеся, чаму даверыла вам сваю

споведзь. Прачытала ў вашых вачах такі сум, такі боль і падумала, што зразумееце мяне. Дык што вы скажаце?»

Я параіў не здавацца, каб не пакутаваць усё жыццё ад зняваагі і бруду, берагчы сябе. Ёй жа заставалася пакутаваць яшчэ чатыры гады, верылася, што будзе воля, усе правы і новае жыццё. Пасля гэтай сустрэчы мы часта сыходзіліся з Соф'яй Іванаўнай, перайшлі на «ты», і тайна сустрэч належала толькі нам.

Неўзабаве па загадзе Фамічова яе знялі з работы ў бухгалтэрыі і паслалі ў лес на акорку. Апрача чаравічак, сукеначкі і клятчастага паліто з волі, у яе нічога не было. А да лесасекі ісці кіламетраў пяць па гразкай ухабістай дарозе. Першы дзень яна на работу не пайшла. З паверкі яе з уркаганамі і адпетымі шалашоўкамі пагналі ў кандзей. Яна з гонарам трымала сваю прыгожую беленькую галоўку. Жанчыны з бухгалтэрыі і абслугі любілі і паважалі яе, глядзелі ўслед і выціралі слёзы.

Фамічоў адваліў ёй дзесяць сутак без вываду на работу: камера, параша, голыя нары, пацукі і трыста грамаў хлеба на дзень. Загадваў кандзеем кульгавы Валодзя Лісоўскі. Ехалі мы з ім у адным этапе і сустракаліся цяпер як даўнія знаёмыя. З выгляду ён быў суровы і няўмольны, а ў душы спагадлівы і мяккі. Пры начальстве крычаў на сваіх «падапечных», а на кухні выпрошваў для іх некалькі лішніх порцый баланды не па штрафным, а па другім катле, цішком перадаваў махорку, або кавалак хлеба...

Папрасіў я Валодзю не саджаць Соф'ю Іванаўну разам з шалашоўкамі і прыняць перадачу: хлебарэз даў ладную гарбушку, кухар наклаў паўкацялка густое кашы. Аднойчы Валодзя пусціў мяне ў цёмную халодную камеру. На голых нарах, укруціўшыся ў сваё клятчастае пальцечка, ляжала Соф'я Іванаўна. Уяўляю, што яна перадумала, што ўспомніла за гэтыя дні зняволення ў зняволенні. Яна ўзрадавалася нечаканаму прыходу, прытулілася і ціха заплакала: «Не ад крыўды плачу, ад радасці, што не забыў мяне... Усё ж я перамагла. Лепш загінуць, чым належаць нягодніку. Цяпер мне нічога не страшна».

Лісоўскі прыспешваў. Я пацалаваў маленькую халодную руку і сам ледзь стрымаў слёзы.

Пад восень у глыбіні тайгі пачалі будаваць новы, 24 лагпункт. Укапалі некалькі шулаў, ашалявалі іх аполкамі, зверху прыкідалі яловаю карою, збілі нары. Кара пакарабацілася, і над галавою было шэрае неба, закратаванае лагамі і кроквамі. Нары прыкідалі яловым лапнікам і прыгналі сюды на акорку рудстойкі непаслухмяных і зацятых манашак, свавольных шалашовак і ў лапцях на босую нагу з торбачкаю за спінай Соф'ю Іванаўну.

Пачаліся зацяжныя дажджы. У будане без падлогі ператварылася ў жудаль размешаная нагамі зямля. Зверху ліло, у шчылінах свістаў вецер, на мокрым лапніку ўлежаць было немагчыма. З-пад дажджу выганялі на дождж няшчасных пакутніц, прымушалі цяжкімі акорачнымі лапаткамі пралышваць рудстойкі. Адзіны ратунак быў каля вогнішча, ды і тое з адсырэлага ламачча не гарэла, а толькі дыміла. З выгляду далікатны, шчыгульны, наадэкалонены Фамічоў кінуў жанчын на пагібель. У іх апухлі твары і раз’едзеныя тванню ногі, душыў кашаль, днём і ноччу калацілі дрыжыкі.

Лагпункт ледзь чутна абураўся, але быў бяссільны перад уладаю азвярэлага самадура. Ён мог караць і мілаваць, паставіць на «блатную» работу і растаптаць кожнага бяспраўнага нявольніка. За пакутніц заступіўся колішні земскі фельчар, ціхі і мяккі Ізот Іванавіч Цымбалюк. Ён з санітарнаю сумкаю хадзіў на лесапавал, бо няшчасныя выпадкі здараліся кожны дзень; пад спіленае дрэва траплялі не надта спрытныя, нявопытныя лесарубы, некаторыя наўмысна канчалі свае пакуты пад зваленаю бярозаю ці асінаю. Скаўзнецца сякера ў кольшчыка ці ў сучкаруба і параніць нагу ці руку. Цымбалюк іх як мог ратаваў. Стаў ён у абарону загнаных на пагібель у лясную загарадку жанчын. У многіх пачалося запаленне лёгкіх, бранхіты, адкрыліся на нагах флегмоны. Стары фельчар пайшоў да начальніка патрабаваць усіх жанчын перавесці ў зону, некалькі забраў у стацыянар. Дзве маленькія палаты не маглі змясціць усіх хворых. На станцыі Лапшанга была лагерная бальніца. Яе ўзначальвала выдатны хірург, прафесар Бурцава. Хоць у яе фармуляры быў артыкул шкодніцтва, але на кансультацыі і аперацыі ехалі да яе нашы высокія начальнікі, чыны з абласных устаноў і іх родзічы.

На Лапшангу адправілі і Соф’ю Іванаўну. Яе з дзвюма жанчынамі паклалі на воз і амаль нерухомую павезлі на станцыю. Мы развіталіся каля вахты. Некалі срабрыстыя хвалістыя валасы паскручваліся і пажоўклі, прыгожы твар высах і пасінеў, патрэсканыя вусны ледзьве варушыліся. Яна прашаптала: «Прашчай. Пастарайся выжыць і расказаць праўду». Колы патарахцелі па ляжнёўцы за вахту.

Больш я ніколі не бачыў Соф’ю Іванаўну, не ведаю пра яе лёс. А ў памяці яна засталася, як пры першай сустрэчы, светлым праменьчыкам у змроку дзікунства і няволі. І гэтыя радкі — запавет вялікай пакутніцы Соф’і Іванаўны Эндэн.

## «ЖЫЦЦЁ — КАПЕЙКА»

Па лагпункце паўзлі трывожныя здагадкі і чуткі, што немцы занялі Маскву, адразу акупіравалі Беларусь і Украіну. Не хацелася верыць, але па злосных тварах вольнанаёмных, па лютасці канвою, па ўзмоцненым рэжыме і выцісканні апошніх сіл адчувалася нейкая вялікая бяда. Планы нарыхтоўкі і адгрузкі лесу раслі, а выконваць іх не было каму. Начамі вывозілі за вахту дзесяткі паабгрызаных пацукамі шкілетаў, абцягнутых сіняю скураю. У лесе іх збольшага прыкідвалі зямлёю на спажыву ваўкам і лісам. На тым жахлівым могільніку з зімы валяліся абглыданыя косці ды фанерныя біркі з нумарамі асабістай справы, каб і на тым свеце «контрык» меў сваё месца. Работа, харч, рэжым вынішчалі людзей у імя высокай мэты — перамогі над фашызмам.

У начальства быў адзін клопат — любою цаною выканаць план і даць прыстойную зводку. А там прыбудзе новы этап, выціснуць з яго ўсё магчымае і спісаць па групе «Д». І прыбывалі. З'явіліся першыя франтавікі ў падрэзаных шынялях, абмотках, зарослыя, брудныя акружэнцы. Расказвалі, як прабіваліся з баямі, а іх «асабісты» абвінавацілі ў здрадзе, пусцілі пад палявы трыбунал, каму далі «вышку», каму лагер, а каго не паспелі аформіць, прыслалі з паметкаю ў фармуляры «следственный». Следства ніякага не было. Праз некалькі месяцаў прыходзілі вузенькія паперкі з пастановай «тройкі» — 10 гадоў лагера.

Спачатку вельмі асцярожна франтавікі расказвалі, дзе трапілі ў акружэнне, дзе ідуць баі, якія страты нясе наша армія, як у першыя дні вайны на прыгранічных аэрадромах былі знішчаны амаль усе самалёты, як геаічна змагаліся і гінулі пагранічнікі, як лютуюць фашысты на акупіраванай зямлі.

Рэжым закручвалі ўсё тужэй і тужэй: з тэмпературай 37,5 гналі ў лес; хворых, але не вызваленых санчасцю, пад двайным канвоем выпіхвалі на лесасеку, а яны маглі толькі раскласці вогнішча і паступова даходзілі каля яго. На лагпункт з Лапшангі прыбыў граза ўсіх урак Іван Васільевіч Самойлаў. Яго жорсткасць і мянушку «Воўк» ведаў увесь лагер. Рэцыдывіст-крымінальнік у мінулым, як кажуць блатныя, «ссучаны», — здрадзіў сваім і стаў выканаўцам бязлітаснай волі начальства. Яго адразу прызначылі старшым дзяжурным па лагпункце. Сярэдняга росту мужчына ў хромавых ботах гармонікам, у кепачцы-васьмiклінцы з гузікам на макаўцы, у добрым пінжаку з чужога пляча і новым бушлаце, ён адразу ўсім кінуўся ў вочы. Правільныя рысы твару, круглыя і нейкія нерухомыя вочы выдавалі яго суровасць. Ён заікаўся

і не мог варочаць шыю. Калі трэба паглядзець убок, круціўся ўсім тулавам, таму і празвалі «ваўком», характар і жорсткасць у яго былі ваўчыныя. Хадзіў ён з тоўстым кіем, а ноччу яшчэ з ліхтаром «лятучая мыш». Біў без промаху і жалю, асабліва даставалася блатной шушары. Кажуць жа, што здраднік самы люты кат. За гэта блатныя помсцілі Самойлаву на ўсіх лагпунктах: у бок загналі фінку, потым яго прайграў у карты вуграсты недаростак «Хмыр». Ён падцікаваў Івана Васільевіча ў сталоўцы і, калі той нагнуўся да раздатачнага акна, сékануў сякераю па шыі. Галава засталася, але не варочалася ў бакі. Кожны раз Самойлава цыравала прафесар Бурцава і апошні раз сказала: «Станавіцеся чалавекам, Самойлаў. Больш латаць не буду». А ён стаў яшчэ люцейшы. Калі злаваўся, замест слоў чулася шыпенне. На развод выганяў дрынам, кожнага абзываў «асмадзеям і ш-ш-ш-пі-і-і-ён-сс-с-к-а-ю м-ордаю». Толькі не заікаўся на мацюках. Пасля разводу хворых, кульгавых, нядужых Самойлаў зганяў да вахты на паверку: ставіў у доўгую шарэнгу і трымаў па камандзе «смірна», пакуль вахцёр палічыць усю абслугу, бухгалтэрыю, хворых у санчасці і пасаджаных у кандзей. Толькі тады выклікалі вызваленых па хваробе, астатнія лічыліся «адказчыкамі», іх аглядаў лекпом. У каго не было высокай тэмпературы, Самойлаў гнаў у ізалятар. Там ён даваў волю дрыну і пацяшаўся ад ляманту сваіх ахвяр. Начальства было ў захапленні такім дзяжурным, а яго кантовы кій звала «выхавальнікам».

Аднойчы на паверку з шалмана не выйшлі тры крымінальнікі. Самойлаву яны прыгразілі адточанымі з напільнікаў фінкамі і жалезнаю воссю. Ён спалохаўся і пабег жаліцца на вахту. Непаслушэнства тут не даравалі. На вахце сабраліся камандзір узвода аховы, глюгасты і крываногі Русакоў, намеснік начальніка, прыгажун і весялун, садыст па натуры Караблёў, старшы наглядчык, даўгалыгі і змрочны Дзёмін, тры вольныя ад дзяжурства стралкі і Самойлаў. Раіліся, як выгнаць з барака ўзброеных злосных адказчыкаў. Нікому не хацелася лезці на фінкі і падстаўляць галаву пад жалезны прэнт.

Мяне ў той дзень пакінуў у зоне начальнік КВЧ «сачыняць» частушкі пра ўдарнікаў і гультаёў. Іх за ноч развучваў кавэчэўскі мастак Лёшка Лапцеў і раніцай на разводзе спяваў гэты «выхаваўчы матэрыял» пад балалайку. Я толькі настроіўся на патэтычны лад, як прыбег Самойлаў: «Кідай г-г-г-эту-ю хра-н-н-овіну і на ад-н-н-ой назе н-н-а вахту». Значыць, трэба бегчы. Мабыць, палічылі і мяне адказчыкам і пагоняць у кандзей... А на вахце сапраўдны «аператыўны штаб» вырашае, як выгнаць з барака ўзброеных Плужнікава, Бойку, Электрычнага і Нефць-

Маслава. І дадумаліся парламенцёрам да іх паслаць мяне. Я ж быў з імі ў адной брыгадзе, разам жыў у шалмане, расказваў ім «раманы», а Бойка мой зямляк. Умовы: здаць зброю і самім прыйсці на вахту. Саджаць у кандзей іх не будуць, а выведуць за зону адграбаць пілавінне ад шпаларэзкі, абы лічыўся выхад на работу, каб не псаваць справаздачу групай «Г» (адказчыкі).

На душы трывожна, але загад ёсць загад. Спадзяюся на зямляцтва і прыязнасць Бойкі. Хоць і без белага сцяга, пайшоў выконваць волю начальства. Па прыступках ішоў павольна, ліха яго ведае, як сустрэнуць, скажуць «ссучыўся, прадаўся начальству і нас прадаеш». Самойлаў іх ужо раззлаваў, цяпер яны насцярожаныя і зацятыя. Што з таго, што некалі разам «травілі баланду», што слухалі мае пабасёнкі. Яны, відаць, надумалі паставіць на сваім, заваяваць сабе выключнае права сядзець у бараку; калі возьме іх верх, «кантоўка» забяспечана; патузаюцца, патузаюцца і адступяцца. Бывалі часам у лагеры такія «арыстакраты», блатная эліта.

У пустым бараку на верхніх нарах расцягнуўся на стракатай коўдры прыгажун усходняга тыпу Плужнікаў, побач, па-турэцку падкурчыўшы ногі, сядзіць трошкі кульгавы Нефць-Маслаў, унізе — Электрычны і мой рэчыцкі землячок Коля Бойка. На прывітанне не надта ласкава адказалі: «А ты чаго прываліў? Да гэтых сук у легашы наняўся?» — «Што вы, хлопцы, я-а...» — «Ты ж каля іх кантуешся. У артысты пагарэлага тэатра падаўся. Давай чашы, а мы тут самі разбярэмся. Скажы, няхай лепей не лезуць, пакуль галовы цэлыя. У кандзей ім нас не загнаць».

Я ўгаворваў скласці зброю, і ніхто іх не кране, пакантуюцца каля шпаларэзкі, і ўсё. Караблёў з Русаковым далі чэснае слова. Я прысеў каля Бойкі і пачаў угаворваць, што ў ваенныя часы бунтаваць небяспечна. «А ідзі ты са сваімі ўгаворамі і скажы недасечанаму Ваўку, хай і сцежку сюды забудзе, бо галаву адцяпаем і начальнічку на сподачку прынясем. А нам што, пакантуемся ў цэнтральным ізалятары, новы чырвонец павесяць «с поглощением неотбытого срока». У мяне гэтых чырвонцаў на ўсю брыгаду хопіць...»

Пакуль я ўгаворваў, на ганку пачуўся тупат — не хапіла ў начальнікаў вытрымкі. «Ану, рві когці!» — паспеў мне крыкнуць Бойка. Я адскочыў на другі бок праходу. Хлопцы наструніліся, засунулі рукі пад коўдры. Першы ўскочыў Караблёў: «Ану, духарыкі, мацць вашу ёдам мазаную, вылятай без апошняга!» — і падскочыў да нараў. Плужнікаў выхапіў з-пад коўдры жалезную вось, яе канец прасвістаў каля самага вуха Караблёва. Ён

хіснуўся і прысеў да падлогі. Нефць-Маслаў і Электрычны выхапілі блішчастыя фінкі. Сасмыкнуўшы кашулю, з фінкай у зубах, ускочыў на верхнія нары Бойка.

Начальнікі пераканаліся, што голымі рукамі іх не возьмеш. Заікаючыся, пагражаў і люта мацюкаўся Самойлаў. Ён, як певень, падскокваў, замахваўся дрынам і адлятаў назад. Плужнікаў стаяў паміж нарамі і спрытна адмахваўся цяжкай воссю. Караблёў памякчэў і пачаў угаворваць скласці жалязякі і ісці на вахту. Нефць-Маслаў паматаў закасанаю да локця рукою: «А ху не хо, гражданін начальнічак? Мантуліш, мантуліш, а пайка з камарыны хрэн. Нас прыслалі кару адбываць, мы і адбываем. Ты ведаеш, у царскіх турмах арыштанты нічога не рабілі, ім давалі два фунты хлеба і фунт мяса на дзень. А нам што? Турнэпс з атрубямі. А кубікі няхай табе даюць контрыкі і рагацікі. Карацей, канайце адсюль, пакуль без дзірак у галаве».

Плужнікаў спрытна пераскочыў праход, бліжэй да начальнікаў, і, як пікаю, замахнуўся воссю. «Кінь жалязяку! — узарваўся камандзір узвода. — Здавайцеся, духарыкі, лічу да трох», — і ён расшпіліў кабуру... «Не палохай пужаных! Схавай пукалку, начальнічак, бо адбяру, бля... буду, адбяру», — спакойна сказаў Коля Бойка. Яго рукі, грудзі і спіна былі спрэс у непрыстойных наколках, і, як у кожнага уркі: «Я помню мать свою родную». Бедная пакутніца-маці, лепш бы яна не раджала сабе, яму і людзям на пакуту гэтае няшчаснае дзіця. Не злосць, а спагада і боль за гэтыя загубленыя душы і лёсы вярэдзілі мне сэрца, і загадка, як і чаму ў наш час суцэльнай пісьменнасці, няспыннага і нястомнага «выхавання» ад дзіцячага сада да выхаваўча-працоўнага лагера, у нас столькі злачынцаў — юнакоў, падлеткаў, нават дзяўчынак з такім зламаным і горкім жыццём? Глядзеў на гэтых маладых, нечыіх сыноў, і не верылася, што гэтая сутычка праз недарэчную дробязь закончыцца так трагічна.

Русакоў падняў пісталет на плеценым раменным павадку: «Кідайце жалязякі, паразіты! Чуеце?! Р-а-а-з... д-в-а-а...» — «Хрэн з табою, страляй. Маё жыццё — капейка, а тваё рубель». Прагучаў стрэл, разышоўся дымок, а Плужнікаў як стаяў, так і стаіць. «Пукай, пукай. Што, слабо? Сам цюрагі баішся?» — зарагатаў Плужнікаў і рвануў блакітную кашулю, прытрымаўшы пад пахай вось. Трэцяя куля збіла яго з ног. Ён паляцеў у праход паміж нарамі, але зачапіўся за нешта калашыною і павіс уніз галавою. Па загарэлых грудзях і блакітнай кашулі пабегла змейка крыві і закапала на падлогу, а поўныя нянавісці, яшчэ жывыя

вочы не заплюшчваліся. Аднекуль прыбег фельчар Цымбалюк, загадаў недастрэленага Плужнікава пакласці на нары. Той сіліўся нешта сказаць, але захлынаўся пеністаю крывёю. Цымбалюк туга забінтаваў яму шыю. Праз марлю праступала і распаўзалася пунсовая пляма. Астатнія «бунтары» пакідалі жалязякі і бегма пабеглі ў ізалятар. А Лісоўскі іх без ордэра не прымае. Хлопцы напрамілы бог просяцца схаваць іх ад Самойлава ў ізалятары.

Плужнікава не давезлі да бальніцы. Ён сканаў па дарозе. Недзе на таежным перагоне ў неглыбокай ямцы прыкідалі зямлёю прыгожага юнака з татуіроўкаю на руцэ «Я помню мать свою родную». Склалі акт: «Убит при попытке к бегству». За што загубілі жыццё на самым пачатку, ніхто не адкажа, і маці не дазнаецца, дзе яе сын. Ніхто нікому нічога не паведамляў — знікалі людзі і — канцы ў ваду.

Праз тыдзень Самойлаў зайшоў у кантору, абапёрся на невысокі бар'ерчык і раззаікаўся з рахункаводам продстала. Ззаду нячутна падкраўся недаростак, дахадзяга Карзубы, высмыкнуў з-пад бушлата сякеру, падцягнуўся на дыбачках і сакануў Самойлаву па цемю, але ўдар быў слабы, рассек толькі кепку і скуру. Самойлаў ад страху заваліўся ў кут галавою і замахаў нагамі, як на веласіпедзе. Канторшчыкі выскачылі з крыкам: «Засячэ! Засячэ!» Карзубы круціў сякераю, каб пацэліць у галаву, але Іван Васільевіч так брыкаўся, што было не падступіцца. Да Карзубага ззаду падскочыў здаравенны брыгадзір Лёшка Лычагін, высмыкнуў сякеру і выспяткамі пагнаў «секача» ў ізалятар.

Самойлава зноў павезлі да прафесара Бурцавай. Больш ён на нашым лагпункце не з'явіўся. Лагерны «тэлеграф» працаваў беззаганна, пра лютасць Самойлава ведалі на кожным лагпункце. Потым расказвалі, што прыкончылі Самойлава на нейкай паўночнай падкамандзіроўцы і вінаватага не знайшлі.

Камандзір узвода Русакоў па загадзе камандавання ўзброенай аховы «За ўмелае і аператыўнае ўмацаванне дысцыпліны на лагпункце № 9» быў узнагароджаны імянным гадзіннікам. Маленькі, глюгасты, падобны на грака, здавалася, ідучы па зоне, ён выглядаў сабе новую ахвяру.

Неўзабаве пракаціліся стрэлы на вахтах амаль усіх лагерных пунктаў. Зімою 1942 года Берыя выдаў загад: «Нявыхад на работу без уважлівых прычын з'яўляецца контррэвалюцыйным сабатажам. Сабатажнікаў у ваенны час расстрэльваць на месцы». Загад трэба выконваць у «выхаваўчых мэтах», бо спытаюць: «А як у вас выконваецца загад №...?» Ад куль магла

выратаваць толькі высокая тэмпература, а хворых на страўнік, з апендыцытам, сардэчным прыступам, ліхаманкаю выганялі за вахту, тройчы папярэджвалі, а небарака не тое што ісці, паўзці не здолеў. Звычайна казалі: «А, прыкідваецца, гад», — білі ногцамі і дастрэльвалі ляжачага. На маіх вачах забілі хлапчука гадоў васемнаццаці з Варонежчыны Ваню Сінякіна, дзвюх прыгожых крымінальніц Нюрку Пекараву і Надзьку Удавічанка.

Месяцы праз тры загад усё ж адмянілі, бо тупыя, лютыя, нацкаваныя на так званых «ворагаў народа» камандзіры ўзводаў маглі адстраляць больш, чым планаваў сам Лаўрэнцій Паўлавіч. Хто б тады валіў лес, часаў ружэйную балванку, грузіў эшалоны. Планы былі жалезныя, іх трэба перавыконваць, як казаў начальнік вытворчасці Бойчанка, ідучы па трупах.

## ЗМРОК

У вайну нават сонечныя дні здаваліся змрочнымі і чорнымі. На лагер наваліўся голад. Кармілі турнэпсам і вотруб'ем, нормы раслі, а пайка меншала, лесасекі адступалі далей і далей. Пакуль дабрыдзеш у ачапленне, не хапае сіл на работу, а варушыцца мусіш, і не абы-як. Хоць расцягніся, а норму дай.

Маім напарнікам на павале быў варонежскі калгаснік, дробненькі, заўсёды з мокрым носам Ваня Тарасенка. Хоць не надта дужы, але вельмі цягавіты і старанны мужычок.

Каб выканаць план, у канцы месяца начальнік выганяў на павал «прыдуркаў». Побач з намі пілавалі новы лекпом і кіеўскі цырульнік Пецька Самойлік. Ён звычайна праводзіў «санапрацоўку» новых этапаў і брыгад, прыгнаных у лазню, — аднолькава галіў пад пахамі і лабкі мужчынам і жанчынам. Нават такой знявагаю напаміналі, што ты не чалавек, не асоба, а толькі рабсіла.

Па выкліку начальніка Пецька бегаў да яго ў кабінет: стрыг, брыў, рабіў масаж і цешыў «кліента» непрыстойнымі анекдотамі і скаромнымі жарцікамі. За старанне яму хапала хлеба і да хлеба. Ён быў класны майстра з брытваю і зусім бездапаможны з пілою. Але калі прыгналі ў лес, хочаш не хочаш, варушыся. Пачаў ён з лекпомам пілаваць елку, а яна крутнулася на пні і пайшла не ў той бок, прашумела калматым веццем і завісла на гонкай бярозе. Стаяць, пазіраюць няздатныя лесарубы і не ведаюць, што рабіць. Пытаюць рады ў мяне. «А вельмі проста: спусціце асінку, яна саб'е елку, і будзе зручна пілаваць». Паслухалі, спусцілі,

а яна зачапілася за яловае сучча і вісіць. Прыгнулася бяроза, патрэсквае, ад ствала на згібе адшчапіліся доўгія стрэмкі, а ўсё адно стаіць і трымае два дрэвы. «Пускайце на іх бярозку, яна, пэўна, саб’е гэты будан». Спусцілі, а бярэзіна стаіць і трымае ўсю навісь. Непадалёк пілуюць лесарубы, ды і можа падысці дзесятнік, бяроза не вытрымае і накрые яго.

Мартынюк і Самойлік просяць памагчы. Што тут зробіш? Адзіны ратунак — падсекчы бярозу і паспець адскочыць, пакуль упадуць усе счэпленыя дрэвы. А калі не паспееш? Але гэтым прыдуркам трэба паказаць, чаго варты сапраўдны лесаруб. Рызыка. Чым я, уласна кажучы, рызыкую? Жыццём? А навошта яно, каму трэба? Не сёння, дык заўтра загнешся. Сунешся, як той Ангел Рубежу каля вахты, і канцы, горай жыўцом дагніваць у пелагрозным бараку, вывезуць за конбазу з біркаю наназе, і ніхто не дазнаецца, калі ты і куды знік, бо нікому ты ўжо не патрэбен — адзіная блізкая душа выраклася даўно, не ўберагла сына, і самую, калі жывая яшчэ, недзе закруціла вайна. Прасіўся на фронт, і там не патрэбен. Дык навошта пакутаваць і дарэмна цягнуць лямку? Усё гэта прамільгнула ў галаве, пакуль глядзеў на будан завіслых дрэў на гонкай, але трывушчай бярозе. Няўдалыя лесарубы з апаскаю пазіралі на сваё «збудаванне» і з надзеяй на мяне. Хочаш не хочаш, а зваліць трэба гэтую пастку.

Адступаць не было як. Мой напарнік спалохана буркнуў: «Не лезь, дурань, заб’е. Давай дарэжам сваю бярозу, а тая сама ўпадзе». Мяне пад’юджваў нейкі дурны азарт: калі не заб’е, дык трохі паламае рэбры, а трапіць на бальнічны ложак — мара кожнага арыштанта. «Па тры закруткі махоркі з кожнага і звалю», — прапанаваў свае ўмовы. «Валі. Дамо па чатыры».

Я ўзяў вострую сякеру і пайшоў пад навісь да сагнутай і патрэсканай бярозы. Пад цяжарам на ёй паадставала бяроста, паадколваліся доўгія белыя паскі. Камель каравы і тоўсты. Яму рады не дасі. Значыць, падсякаць трэба вышэй, насупроць надлому. Пастаяў, памеркаваў, а бяроза патрэсквае, пагойдваецца разам з навіссю. Хоць ты перахрысціся. Узяўся за тапарышча, зірнуў на Ваню, Мартынюка і Самойліка, прыжмурыўся на сонца, зайшоў з другога боку, размахнуўся з усяе сілы, сакануў, а яна стаіць. Яшчэ сакануў, зарыпела, а не падае. Апанаваў страх. «Кідай! Уцякай!» — крычыць лекпом. Я прымеркаваў, калі падаць, дык побач з камлём, і сакануў яшчэ раз. Бяроза хіснулася, затрашчала, нахілілася і пайшла, па ёй з шоргатам папаўзлі завіслыя дрэвы, я накрыў галаву рукамі і каля самага камля ўціснуўся ў мох. Мяне хвастала колкае яловае вецце, сук прыціснуў плечы.

Высока падсечаная бяроза звалілася, але камлём яшчэ трымалася на пні. Яна і ўратавала мяне. Я расплюшчыў вочы. Жывы. Ные і шчыміць схвастаная спіна, і нешта трымае зверху. Мартынюк з маім напарнікам абламвалі нада мною вецце, я паварушыўся і пачаў выцярэбвацца з завалу. «Жывы! Жывы! Давай руку!» — мітусіўся каля мяне Мартынюк, а маленькі, нечым падобны на гноміка, цырульнік толькі лыпаў вачыма і шлёпаў збялелымі губамі. Я вылез ускудлачаны і схвастаны веццем, з драпіны на вуху сачылася кроў, усё цела трымцела ад напружання і перажытага страху, а я па-дурному ўсміхаўся, нібыта ніякай небяспекі і не было. «Ну ж і напалохаў ты нас. Аж сэрца зайшлося. Думаю, за чатыры цыгаркі чалавека паслалі на смерць», — расчуліўся Пецька Самойлік і развязаў кісет. Я дрыготкімі пальцамі скруціў цыгарку і прагна курыў.

## БРЫГАДА МЕРЦВЯКОЎ

Вайна забірала сваю даніну не толькі ў акопах, а і тут, у глыбокім тыле. Людзі знікалі непрыкметна і ціха, каб ніхто не чуў і не бачыў, не паспагадаў і не развітаўся са сваім учарашнім напарнікам. Нябожчыкаў спісвалі, як спісваюць утыль. Асабліва страшны быў 1942 год. Каля таго будана, накрытага яловай карою, дзе разам з жанчынамі гібела Соф’я Іванаўна, пачалі будаваць новы лагерны пункт. Лес адступаў усё далей і далей, дарога туды і назад займала шмат часу. План гарэў. Таму і пачалі ў вялізным масіве некранутай тайгі будаваць 24 лагпункт. Будоўля пачыналася з зоны: двайнога плота, густа заплеценага калючым дротам, забаранаванай кантрольна-следавой паласы і вышак для стралкоў. Спешна ставілі з сырога кругляка баракі, кандзей, кантору, сталоўку, пякарню і лазню. Брыгады цесляроў моклі і мерзлі, пакуль не накрылі першы барак і не склалі з сырцу грубку. Да замаразкаў і першага снегу ў новую зону прыгналі першыя брыгады. Наўкол стаяла змрочная, калматая тайга. Каля самай вахты гайдаліся векавыя елкі, сыпалі пажоўклае лісце старыя каравыя бярозы, дрыжалі скрываўленым лісцем асіны на фоне цёмнага хвойніку. Загналі на новы лагпункт і мяне.

Начамі вакол зоны палалі зыркія вогнішчы, каб часам не паўцякалі дахадзягі, а яны не толькі бегаць, хадзіць ужо не здалелі, але варушыліся, да апошняга чапляліся за жыццё — хоць дзень, ды мой... У бараках сырыя сцены абрасталі слізкаю плесняю, печы дымілі, ад слабага цяпла ішла пара, у кожнай

секцыі барака чадзіла па капцілцы, двухпавярховыя голыя нары ў пары і змроку здаваліся нейкімі пачварнымі прывідамі. Праз запацелыя шыбы, як водбліск пажараў, вакол зоны гайдалася святло вялікіх вогнішчаў. Паміж баракамі тырчалі пні, размешаная калясьмі, лапцямі і чунямі таежная твань хлюпала пад нагамі, як густая смала.

Ногі прэлі, а прасушыць парцянкі не было дзе. Шанцавала тым, хто раздабыў «ЧТЗ». Вы не ведаеце, што гэта такое? З корду аўтамабільных пакрышак неяк зляплівалі вялізныя няўклюдыя чаравікі, цвёрдыя і мулкія. Яны пакідалі след, як гусенічны трактар, але ў іх было сушэй, як у лапцях.

Ад барачнага дыму, копаці і вільгаці выскакваеш за дзверы. Падсвечаныя вогнішчамі вышкі з цёмнымі сілуэтамі стралкоў у гаматных кажухах, слупы і калючы дрот, а за імі змрочная маўклівая тайга нагадваюць нейкае сярэднявечнае стойбішча. Глядзіш, і свет двоіцца на жорсткую і страшную рэальнасць і нейкую фантазію, асветленую хісткім вогнішчам. Але трэба ісці ў барак. Узлазіш на няшчыльныя голыя нары, пад галавою бярозавая плашка замяняе падушку, закручваешся ў целагрэйку, заплюшчваеш вочы, а думкі ні днём ні ноччу не даюць збыту: успамінаецца мінулае і не верыцца, што гэта было з табою, і зноў апаноўвае безнадзейнасць: і на тваіх касцях вырасце елка або горкая асіна і, як пяецца ў турэмнай песні, «и никто не узнает, где могилка твоя».

Да поўначы сноўдаюцца па бараку дахадзягі: нехта выграбае жар прыкурыць чынарык, глытае дым і заходзіцца кашлем, нехта ў сне мармыча і скрыгоча зубамі, крымскі татарын ківаецца і шэпча малітву, мой сусед гукае то маму, то Любу, то нейкага Аўдзея крые мацюкамі. А выспацца трэба. На вахце гайдаецца і трымціць ад ветру вагонны буфер. У шэсць гадзін ударыць па ім вахцёр малатком, — скочвайся з нараў, накручвай халодныя і мокрыя парцянкі, бяжы ў сталоўку, пры капцілцы нешта сёрбай і «вылятай без апошняга». Зноў ранішняя «малітва» — крок налева, крок направа, зноў пілуй, калі, складай паленніцы, спатыкайся і падай, чакай, як збавення, адбою. І так дзень у дзень. Наперадзе яшчэ чатыры гады. Хто іх вытрывае?

На новым лагпункце і новы начальнік. Ходзіць у хромавых ботах, суконнай «сталінцы» з шырокім рэменем, зялёная фуражка ссунута на вочы. Прозвішча яго Сямёнавых, а для нявольнікаў «гражданін начальнік». Ён мала гаворыць, толькі загадвае і грозіць указальным пальцам з пакалечаным пазногцем. Паглядзіш — нармальны чалавек, статны, бялявы, шэравокі,

са светлым ружовым тварам, а паслухаеш — і дзівішся, адкуль столькі жорсткасці, нянавісці да гэтых няшчасных, паабдзіраных хадзячых нябожчыкаў, сумленных і не меней за яго адданых Радзіме. Хто ж яму ўбіў у галаву чалавеканенавісніцтва, няўжо яго сэрца не ведае спагады і жалю?

Зіма ўдарыла адразу. Ледзяныя ветры пагналі шорсткі пясок, загула пад нагамі, як чыгунная, зямля, зашэрхлі каляіны, пад нагамі ламаецца лёд, ступакі ў лапцях дранцвеюць у ледзяной вадзе, а цела, як тарка, пакрываецца пупырышкамі і дробна дрыжыць. У сярэдзіне кастрычніка паваліў густы снег. Вецер з гулам пагнаў доўгія пасмы кручанай мяцеліцы, за два дні ўсё стала белым, сумёты раслі і раслі. Зімовай вопраткі не было. Лесарубам і возчыкам выдалі прастрочаныя ватныя бахілы, а лапці на іх не лезуць, не ўзбіць і «ЧТЗ». Неяк абуваліся, абмарожвалі ногі, пальцы набухалі, як слівы, і пачыналі гнісці. Да дыму і чаду ў бараку дамешваўся смурод гнілой чалавечыны. Амаль усе ходзяць накульгваючы

Пад'ём. Злажу з нараў, а сусед, мабыць, не чуе. Пачынаю катурхаць. Звальваецца і павісае ў праходзе халодная пасінелая рука. І з другога канца барака гукаюць: «Днявальны, кліч Лясэра». Лясэр, высокі, рыжы, з тоўстымі губамі аўстрыец, санітар у санчасці, укормлены на «недаедках» спісаных хворых. Яму трэба сіла ўносіць і выносіць з палат і ў палаты жывых і мёртвых. Ён пад'язджае да барака з невялікімі саначкамі, лёгка, як дзіця, здымае з нараў былога «контрыка», кладзе на саначкі і вязе ў так званы морг — невялікі дашчаны хлевушок. Мёрзлых расстаўляе каля сцен, свежых кладзе на заледзянелую зямлю. За тыдзень хлевушок набіваецца пад столь. Парадкуючы, Лясэр ходзіць па голых трупах у гумовых ботах, яны рыпяць і слізгаюць па заінелай скуры, трашчаць косці, санітар вядзе апошні перапіс былых нявольнікаў, але з яго веданнем мовы Працэнка становіцца Трацэнкам, Салавейчык — Саламейчыкам, Перцхалава — Пахалява. У Лясэравым хлеўчуку шастаюць табуны вялізных рудых пацукоў. У вайну, як ніколі, іх процьма развялася ў лагеры. Яны нікога не баяліся, пішчалі і грызліся пад баракамі, шмыгалі з-пад ног, нападалі на сонных дахадзяг. У Лясэравым хлеўчуку яны раскашаваліся як хацелі.

У так званай «слабасільнай камандзе» даходзілі такія нездалекі, што не здужаюць прыдушыць клапа: трымае, трымае пад пальцам, а ён варушыцца, тады просіць суседа: «Давай давянём разам. Што ён, бляха, жалезны?» І давяць удвух.

Смерць касіла лесарубаў спраўней, чым яны валілі лес. План трашчаў. Туфта падхарошвала зводкі, але трэба былі і кубікі. Кожны вечар на разнарадку Сямёнавых збіраў майстроў лесу, дзесятнікаў і брыгадзіраў «прамываць мазгі», «пясочыць», «даваць у косці» і «ставіць адказныя задачы». Як і ва ўсёй краіне, і тут сядзелі далёка за поўнач, выскаквалі распараныя брыгадзіры, чухаючы патыліцы, не ведаючы, што іх чакае заўтра: праскочаць праз вахту ці ўсёю брыгадаю загрымяць у кандзей.

У канцы нарады начальніку паведамілі па сакрэце з упраўлення, каб днямі чакаў камісію з праверкаю. Тут і пачалася другая ўсяночная змена, дзяжурны зганяў да начальніка сонных начальнікаў калон, кухараў, пекараў, лекпомаў, загадваў зранку драіць баракі, у катлы закласці двайную порцыю, спячы хлеб без вотруб'я (а потым навярстаем), усім надзець чыстыя халаты, на сцежках расчысціць снег, наўтыкаць елачак, словам, навесці «па-р-р-адак». У канцы спытаў у медыкаў: «Колькі ў вас не вывезена па групе «Д»?» — «Каля трыццаці». — «Вы што, ахранавелі? Вэндзіце там іх ці марынуеце? Каб да раніцы пуста было, падмецена і прысыпана пілавіннем. Марш! Ану, за работу!» Калі ўсе разышліся, загадаў выклікаць бесканвойную возчыцу Нюрку Пінчанку.

Прывёў дзяжурняк заспаную, невялічкую, канапатую, з белым чубком пад збітай на вуха кубанкай не то дзяўчыну, не то хлапчука. Пінчанка носіць штаны з напускам на закасаныя валёнкі, камізэльку, кліфт (мужчынскі пінжак), з кішэні целяпаюцца кутасы ад кісета, слінаю цвыркае праз зубы, мацюкаецца мудрэй за нарадчыка і дзяжурнага. За вочы яе завуць «каблом», бо выконвае ролю мужчыны ў лесбійскім каханні, а яно распаўсюджана сярод крымінальніц у жаночых бараках.

Стаіць Пінчанка, праціраe вочы з белымі парасячымі вейкамі і паўтарае: «Панятна, гражданін начальнік. Бу-у ізделана. Да раніцы ўсіх жмурыкаў вывезу». Павярнулася і пайшла.

На досвітку ўсхадзілася завіруха, што свету божага не відно. Тэмпература трошкі ніжэй трыццаці, значыць, дзень заактаваць нельга. Калоцяцца, як раскудлачаныя вароны, каля вахты парадзелыя брыгады, чакаючы, калі паснедае і збярэцца канвой. Нарэшце палічылі і павялі грузаць па сумётах сяк-так апранутых у рыззё, змардаваных дахадзяг, даваць «Лес — Родине». Кожны глядзіць толькі пад ногі, каб снежныя крупы не сляпілі вочы, каб не зачапіцца і, барані божа, не ўпасці, не хіснуцца з калоны, а ступаць след у след. Ідуць панура і марудна, снег пад нагамі

перасыпаецца, як пясок, раз'язджаюцца ногі, сляды замятае завіруха. На паўдарозе заскавытаў службовы сабака і пацягнуў свайго гаспадара Ташчакова са сцежкі ў поле. Кідаецца, брэша, цягне павадок.

«Ст-о-о-й, калона!» — камандуе начальнік канвою. Брыгады спыніліся, глядзяць ва ўсе бакі. Завея засцілае вочы, але праз мітульгу метраў за дзесяць ад дарогі па калені ў снезе стаяць у два рады голыя апруцянелыя людзі і адзін паперадзе. Начальнік канвою камандуе: «Усім направа глядзець! Шагам марш!» Сабачніка паслаў у зону.

Зноў прывялі заспаную Нюрку Пінчанка да начальніка. Той моўчкі глядзіць на яе з-пад насунутай на вочы шапкі. Нюрка крыва ўсміхаецца. «Што ж ты, курва, нарабіла? Га?» — і пайшоў яе касцярыць на чым свет стаіць, ды такімі мацюкамі, што ні ў адным бараку не пачуеш. Нюрка пераступае з нагі на нагу, чухаецца, пазяхае, а начальнік аж вылузваецца ад злосці. Нарэшце змогся. «Ну, чаго маўчыш, сука?» — «Вы ж не даеце слова сказаць. Вывозіла я іх двума рэйсамі. Даехала да развілкі, а кабыла села ў сумёце на хвост, і хоць ты страляй. Дай, думаю, скіну. Пакласці — снег замяце, не знойдзеш. Пачала ставіць, а яны пруткія, як калы, і звіняць, нібы шкляныя. Паглядзела — добра стаяць. Развярнулася па астатніх. Пакуль везла, бачу, хутка і пад'ём. І гэтых паставіла ў другі рад. Зірнула, ну, дальбог, брыгада. Дваццаць сёмага, таго Салавейчыка, што на балалайцы іграў, спераду за брыгадзіра паставіла. Ад'ехала, у завірусе не відаць. Думаю, пасля разводу збяру іх, давязу на тое ўзлессе, ды праспала, гражданін начальнік. Вам усё не хапае рабсілы, вось і падкінула брыгадку». — «У кандзей шкуру на дзесяць сутак», — яшчэ люцей усхадзіўся начальнік. А Нюрка ўсміхнулася сваім канапатым тварам і буркнула: «От, дзякую, хоць адасплюся, а то робіш, робіш, і ніякай спагады, ды яшчэ ў кандзей. А за што?»

## ДАРЭМНЫЯ ПОШУКІ ГАЛІВУДА

На лагпункце было некалькі «кавэжэдзінцаў». Гэтыя савецкія грамадзяне многія гады працавалі на Кітайска-ўсходняй чыгунцы, пабудаванай царскім урадам у 1897 годзе. Пасля руска-японскай вайны частку яе захапіла Японія і перадала марыянетачнаму ўраду Манчжоу-Го. З 1924 года ўсходняю часткаю чыгункі валодалі разам Савецкі Саюз і Кітай. Яе абслугоўвалі нашы спецыялісты, многія там нарадзіліся, жылі сем'ямі, прыязджалі

ў адпачынак на радзіму. У 1935 годзе СССР прадаў чыгунку Манчжоу-Го, а рабочыя і служачыя адразу вярнуліся дамоў.

Занепакоіліся самыя пільныя органы. Хто яны, гэтыя кавэжэдзінцы? Каму служылі? З кім кантактавалі? Якія іх палітычныя погляды? Хто іх мог завербаваць, і, напэўна, некага завербаваў? А каго? Адразу не знойдзеш. Прасцей усіх залічыць у патэнцыяльныя шпіёны. Не маглі ж японцы не завербаваць сабе надзейную агентуру? Не маглі. Разбірацца з кожным паасобку доўга і клопатна. Усё вырашыла «тройка» і «асобая нарада»: усіх кавэжэдзінцаў павезлі за казённы кошт у лагер і там абвясцілі аб пазбаўленні волі на дзесяць гадоў па неіснуючых у кодэксе артыкулах КР, КРД, СВЭ, СОЭ. (Контррэвалюцыянер, контррэвалюцыйная дзейнасць, сацыяльна шкодны элемент, сацыяльна небяспечны элемент).

Трапілі і да нас інтэлігентныя, далікатныя, адукаваныя людзі. Адзеннем і паводзінамі, нават дасканалаю літаратурнаю моваю яны вылучаліся сярод абшарпаных, затраўленых, замацюканых зэкаў. Самаю прыкметнаю сярод кавэжэдзінцаў была высокая з пшанічнага золата касою, вялікімі сінімі вачыма Герта Карлаўна Варламава. На ёй было шчыгульнае скуранoe паліто, з высокімі халяўкамі боцікі, на прыгожай, пародзістай галаве цёмна-сіні берэт. Яна трапіла сюды з нейкага другога свету, таму ўсе спыняліся і глядзелі ёй услед, а яна ішла, не зважаючы на страшнае наваколле, нібыта ўсё яшчэ жыла ў сваім недалёкім мінулым.

Муж яе быў буйным інжынерам, а яна выдатнаю спявачкаю. Канцэрты Варламавай слухалі ў лепшых залах свету. Прыгожае кантральта зачароўвала самыя патрабавальныя аўдыторыі. Пра яе поспехі расказвалі яе харбінскія знаёмыя, а Герта Карлаўна горка ўсміхалася, махала рукою — усё ў мінулым.

Яе ўгаварылі выступіць у лагерным канцэрце, ды і сама, мабыць, «застаялася» ў вакальным маўчанні. Ні раней, ні пасля такога артыстызму выканання я больш нідзе і ніколі не чуў. Яна пераўвасаблялася ў любой песні. Кожны нумар быў маленькім спектаклем. У рускіх і ўкраінскіх народных песнях яна ляпіла вобразы мімікай, жэстам, інтанацыяй, і ажываў то «замерзающий ямщик», то сваволіў падпіты Яўтух, то гарэтніца-салдатка. У оперных арыях адчуваліся веліч, гонар, высакародства. Яна, відаць, не магла не спяваць і ахвотна выступала ў лагерных канцэртах. Слухалі яе і забываліся, хто мы, што мы, дзе мы. Воплескам і крыкам «брава» і «біс» не было канца-краю, а вальняшкі толькі круцілі галовамі ды цмокалі языкамі. Спяваючы «Яўтушэ,

мій дружэ», яна так пераўвасаблялася, што здавалася, на сцэне стаіць маленькі, няўклюды ўкраінскі дзядок: яна паменела ростам, скуколілася, міміка змяніла твар да непазнавальнасці.

Артыстку доўга не адпускалі са сцэны, і яна спявала ахвотна і натхнёна. Мабыць, песня гаіла яе спакутаваную душу, і хацелася суцешыць няшчасных, абшарпаных, з галоднымі вачыма лагернікаў.

З нечыяй літасці Варламаву прызначылі разам з інвалідкамі і дзвюма манашкамі латаць старыя бушлаты, бахілы і целагрэйкі. Пра такую «блатную» работу пад дахам і ў цяпле марыла кожная жанчына. Некаторыя зайздросніцы паролі вочы Герце Карлаўне, што «такая цяліца» прыдурваецца з інвалідкамі, а ёй бы стаўляць кубікі. Яна маўчала і толькі чырванела, баялася, каб не выперлі з цёплага закутка. А прыхільнікам яе таленту хацелася хоць чымнебудзь падтрымаць гэтую незвычайную спявачку.

Часцей за ўсіх з дробнымі патрэбамі пачаў захаджваць у майстэрню бесканвойны механік электрастанцыі Жэня Іваноў, невысокі далікатны хлопец гадоў дваццаці васьмі. З пропускам ён часта хадзіў на падсобную гаспадарку, каб разжыцца гурком, морквінаю або рэпаю. На конбазе часам перападаў кавалак пячонкі або сцегняка ад прырэзанай клячы. На пякарні ставіў разетку, і яму «абломваўся» кавалак белага хлеба з начальнікавага рэзерву. Свае набыткі ён аддаваў Герце Карлаўне, прыпраўляючы далікатнымі жарцікамі. Яна напачатку аднеквалася ад дарункаў, але голад не цётка, і яна перастала «заўважаць» Жэнькавы скрутачкі. У іх яна знаходзіла пяшчотныя запісачкі. Вольны ад дзяжурства, ён чакаў швачку і праводзіў да жаночага барака. Тады ён яшчэ не быў адгароджаны ад агульнай зоны.

Маральную прыстойнасць зняволеных ахоўваў вольнанаёмны дзяжурны, губасты, юрлівы стралок Мацвей Капітонаў. Ён некалькі разоў за ноч абыходзіў баракі, каб, барані божа, на адных нарах не тырчала чатыры нагі і не пуставала месца ў жаночым бараку. Ён не вельмі налягаў на службу. Часам на месцы жанчыны ляжала набітая трантамі лялька, а яна начавала ў «кабінцы» якога-небудзь прыдурка. Капітонаў ведаў, хто да каго ходзіць, і браў з таго «кантрыбуцыю». Сам пасля абходу тушыў ліхтар, пракрадаўся ў выгараджаны посцілкамі закутак да тэлефаністкі Марускі Мікалаевай і цешыўся да пад'ёму. Гэта ведалі ўсе, апрача начальства, а каб дазналася, Капітонаў загрымеў бы ў далёкі запалярны лагер, а Маруська — на штрафны лагпункт. За сувязь вольных з лагерніцамі належала суровая кара. Сувязей хапала, а вось пакаранняў нешта не прыпомню.

Усе былі замазаныя. Канспірацыя была на вышэйшай ступені вынаходніцтва. Чаго толькі не прыдумлялі, як ні хаваліся, але нехта нешта бачыў, ведаў і маўчаў.

Чалавек, упрэжаны ў штодзённую лямку, у безнадзейным горы і бядзе, часам прагне ласкавага слова, клопату, увагі, жаночага дотыку і ласкі. І жанкі нудзіліся без апекі і падтрымкі, без заступніцтва аднаго дужага, каб не зацерціся, не размяняцца, не гібець у адзіноце. Забароненая, крадзеная любоў у лагеры часта была трывалаю. Там маглі скласціся моцныя сем'і на ўсё жыццё, каб начальнікі знарок не разганялі закаханых у розныя этапы. Колькі было слёз, і пакут, і незваротных страт. Раскіданыя нават у адным лагеры рэдка маглі знайсці адно аднаго. Каб толькі пабыць разам, пасёрбаць з аднаго кацялка, людзі пускаліся на самыя вытанчаныя хітрыкі.

Не была выключэннем і Герта Карлаўна. Яшчэ не дабітая непасільнаю працаю, яна часам сустракалася з Жэнькам Івановым. На некага з іх Капітонаў «меў зуб», «папутаў», абаіх загнаў у кандзей і раніцай далажыў начальніку. Ён выклікаў «выгнаных з раю грэшнікаў», бессаромна смакуючы, здзекаваўся з іх і на першы раз выпісаў ордэр на пяць сутак з вывадам на работу. Без вячэры яны кожную ноч «астывалі», па формуле начальніка, на голых нарах. Толькі маглі перастуквацца праз сцяну і ганяць нахабных рудых пацукоў. Пасля другога прыводу начальнік адправіў Герту Карлаўну ў лес.

Пачалася лютая і завірушная зіма. Ні бушлата, ні целагрэйкі на Варламаву нельга было падабраць. Яна хадзіла на лесасеку ў сваім абшарпаным скураным паліце, берэт абвязвала хусткаю, на боцікі накручвала парцянкі і нацягвала лапці. Пра норму на павале не было чаго і думаць. А яна была аднолькавая на кожную адзінку спісачнага складу. Герта Карлаўна паліла сучча і часцей сядзела каля вогнішча. Іскры папрапальвалі хустку, рукі і шчокі былі ў сажы і ў попеле. Яе вялікія вочы пабляклі і яшчэ пабольшалі. Яна ўжо не іграла скуколенага Яўтуха, а сама высахла, на твары і шыі абвісла пасінелая скура, неасэнсаваны погляд, здавалася, нічога не бачыў. Яна стала маўкліваю і абыякаваю да ўсяго. Адзіны быў клопат — есці. Іванова перакінулі на другі лагпункт, і ёй ніхто болей не прыносіў скрутачкі.

Болей чатырохсоткі, рэдзенькай баланды і лыжкі запаранага вотруб'я Герта Карлаўна не зарабляла. Даведзены да галоднага псіхозу чалавек траціць сорам і пачуццё годнасці, і пайшла выдатная спявачка Варламава збіраць у сталовай пустыя міскі і выскрабаць з іх падонкі брудным пальцам. Пасля арыштанта

ў той драўлянай лаханцы і мыш наўрад ці што знайшла б. Яна хадзіла зашушканая ў нейкае рыззё, нямытая, недагледжаная, з непрыемным пахам гнілі і мёрзлай бульбы. У гэты час прыйшоў ліст ад сястры, што яе ўпарта расшуквае Галівуд для ўдзелу ў нейкім шматсерыйным фільме. Шукалі яе ў Харбіне, потым у Маскве, натрапілі на сястру. Тая паведаміла незвычайны адрас: «п/я 286, олп 24». Калі дайшоў адказ, дык і ў Галівудзе знайшліся кемлівыя людзі і не сталі больш шукаць патрэбную ім артыстку, каб яшчэ больш не нашкодзіць ёй.

Хутка зусім знясіленую Варламаву перавялі ў «слабасілку» — асобны барак для бездапаможных дахадзяг. Ад цынгі высыпаліся некалі белыя, як часнок, зубы, пасекліся густыя залацістыя валасы і тырчалі нейкімі тыфознымі касмыкамі. Яна моўчкі глядзела на сцяну ў клапіных разводах, не скардзілася, не енчыла, не стагнала. Са «слабасілкі» яе забралі ў стацыянар. Там адбывала свае дзесяць гадоў маладая дакторка Вольга Мантэйфель, далікатная, чулая маскоўская інтэлігентка. Яна рабіла ўсё магчымае ў яе становішчы, каб выратаваць Герту Карлаўну. Паклала ў асобную баковачку, выпісала дадатковае харчаванне, але і яно было настолькі поснае і мізэрнае, што не магло вярнуць сілы змардаванаму целу і разбудзіць спакутаваную душу.

Я некалькі разоў заходзіў у тую маленькую палату. Варламава ляжала, утаропіўшыся ў шэрую сцяну адсутным поглядам. Яна баялася цемнаты. Калі тушылі святло, яна прасіла доктара хоць што засвяціць у яе палаце. Мабыць, верыла, што святло ўтрымае яе на гэтым свеце. Ад каганца ляцела сажа. Мантэйфель дастала некалькі свечак. З апошняю згасла і Герта Карлаўна.

Пра гэта я даведаўся, калі на наступную ноч яе вывезлі за зону. Аплакаў і напісаў верш на рускай мове, каб зразумелі доктар і мае сябры.

Февральские ветры свистят, как когда-то,
За стеклами бьются испуганной птицей.
На смятой постели холодной палаты,
Метаясь в бреду, умирала певица.
На стенах колеблются желтые тени,
И только слезится свеча до рассвета,
А звуки, как стебли бессильных растений,
Пробиться пытаются в марево это.
Мешаются строчки из разных поэтов,
Звучат величавые звуки сонаты,
И грезится тихое теплое лето,

Прибой и на море дорожка заката.
И падают клавиш усталые капли,
И песня дрожит в обессиленном горле,
Прозрачные руки до боли озябли,
И вспомнились полузабытые роли.
Проносятся тени оранжевым шаром,
Ключицы стучат, как стучат кастаньеты,
Волшебные звуки классических арий
Врываются в уши живого скелета, —
И музыка, музыка, музыки звуки
Безудержным вихрем гремят и стенают
О радостях встреч и о горе разлуки
И в мрачной палате опять умирают.
Не видно восторженных лиц и оваций,
И нету поклонников прежних с цветами,
А снежные хлопья, как грозди акаций,
Стучат до рассвета в оконные рамы.
Храпят санитары в прихожей больницы,
Задернуты шторы в кабинке врача.
Светает. На тумбочке бывшей певицы
Слезится и гаснет кривая свеча.

*(24/11 44 г.)*

## АДНАКЛАСНІЧАК

Часта ў бухгалтэрыі і ў кабінеце начальніка даводзілася чуць: «Калі ўпросім, калі ўгаворым, калі ўламаем таварыша Сушкова, будзем з вагонкаю, з абразным брусам». «Сушкоў, Сушкоў», — паўтаралася на кожнай нарадзе.

На станцыі Лапшанга, пры шаснаццатым лагпункце, была галоўная лагерная пільня, і ёю камандаваў нейкі ўсемагутны Сушкоў. Усе лагпункты залежалі ад яго. А піламатэрыялы былі патрэбны пазарэз — будаваць новыя баракі на новых лагпунктах. Лагер разрастаўся ўздоўж чыгункі і ў глыб тайгі. Ушчэнт сплюжаныя тысячы дзялянак зарасталі хмызняком, дагнівала суччa, шумелі і падалі адзінокія семеннікі. На новыя, яшчэ не дабудаваныя лагпункты прыбывалі і прыбывалі свежыя этапы. Хоць якія яны там былі «свежыя»? Худыя, змардаваныя ў турмах, на следствах і ў перасылках людзі яшчэ трохі рухаліся, а без вопыту і сілы пра нормы на павале не было чаго і гаварыць.

З’явіліся «акружэнцы» ў абмотках, у пакарочаных шынялях без хлясцікаў, пятліц і папруг. Прыбывалі старасты і паліцаі з вызваленай Варонежчыны, прыгажуні з адбітых у немцаў гарадоў Крыма. Часова ставілі палаткі і неяк рассялялі новы «кантынгент», а начальства зноў стукалася да Сушкова з нарадамі і лімітамі ўпраўлення, а ён іх бязлітасна скарачаў і крэсліў. Відаць, эвакуіраваныя ўжо не месціліся ў гарадах і паселішчах вобласці. І пачалі з’яўляцца ў лагеры падлечаныя франтавікі і жанчыны з акупіраванай тэрыторыі. На першым часе яны губляліся ў незразумелых акалічнасцях, не ведалі, як з кім абыходзіцца. Часам бывалі далікатныя са старэйшымі інтэлігентнымі зэкамі. Для вольнанаёмных прыдумлялі розныя пасады, якіх раней не было. Увялі цэлы ўзвод наглядчыкаў за выкананнем унутранага рэжыму, яны па начах шасталі з барака ў барак, стаялі на варце «манастырскай» маралі, сачылі, каб пасля адбою па зоне ніхто не хадзіў, каб не было крадзяжу. Чым пільней сачылі наглядчыкі, тым больш было парушэнняў, нават з’явіўся спартыўны інтарэс абвесці вакол пальца «вертухаяў».

За быт адказваў намеснік начальніка, малодшы лейтэнант Надзеждзін, маленькі, з выцягнутым вяснушкавым тварам і качынаю дзюбкаю чалавечак. Ён кульгаў на правую нагу і яшчэ не навучыўся лаяцца шматпавярховымі мацюкамі, але неўзабаве авалодаў і гэтаю неабходнаю ў лагеры якасцю. Асабліва ашчадна ён насіў новенькія блішчастыя пагоны і чэкісцкую фуражку з блакітным верхам. Я доўга не мог прывыкнуць да пагонаў, бо помніў той час, калі «залатапагоннікаў» ставілі да сценкі або пагоны рассякалі шабляю разам з афіцэрскім тулавам.

Туманным адліжным надвячоркам дзяжурны прывёў мяне ў маленькі цьмяны пакойчык Надзеждзіна. Па дарозе ніяк не мог здагадацца, чым я правініўся і якая кара чакае мяне. Я зайшоў і па форме далажыў: «Па вашым выкліку зняволены такі-та з’явіўся». У кабінеціку было цёмна. Надзеждзін сядзеў на фоне акна, як заўсёды ў шапцы, за прыстаўным столікам былі відны абрысы незнаёмага. Толькі мільгала іскрынка яго цыгарэткі. Незнаёмы перапытаў: «Дык як ваша прозвішча?» Я па складах паўтараў яго. «Адкуль вы?» — і на гэта я адказаў. «У якія гады вучыліся ў школе?» Допыт і зварот на «вы» нічога добрага НЕ абяцаў і пачынаў мяне злаваць. «А сваіх аднакласнікаў помніш?» — «А якое гэта мае дачыненне? Ды і выбілі ўсе імёны з памяці». — «Хто выбіў?» — наскочыў Надзеждзін. «Блатары і бандыты на этапе і ў шалмане», — схітраваў я.

«Успомні, Сяргей, з кім вучыўся», — здзівіў мяне такім зваротам незнаёмы. Падумалася, ці не новы «кум» з мяне нешта цягне. Нават на следстве мае школьныя сябры нікога не цікавілі. Няўжо нехта з іх засыпаўся і назваў мяне?

Незнаёмы ўстаў, пстрыкнуў выключальнікам, я зажмурыўся ад яскравага святла, прыкрыў вочы, каб агледзецца. Насупраць стаяў невысокі шыракатвары чалавек з пукатымі вачыма, у суконнай гімнасцёрцы з шырокім адкладным каўняром, глядзеў на мяне і ўсміхаўся. «Мяне ты хоць пазнаеш?» — «Здаецца, некалі бачыў, але дзе і калі, не прыпомню. Не ведаю, што ад мяне трэба». — «Тут пытанні задаём мы. А твой абавязак сумленна адказваць», — умяшаўся Надзеждзін. «Ведаю, чыстасардэчнае прызнанне і гэтак далей. У народзе гэта называюць: «кось-кось, пакуль у аглоблі». — «Эх, Сяргей, Сяргей! Як табе не сорамна? Хто цябе зацягнуў у гэтае балота контррэвалюцыі?» — «Следчыя Даўгаленка і Серашаў, а суддзя Карпік пацвердзіў і пачапіў тэрмін». — «Ну, ты даеш! Ха-ха-ха!» — зарагатаў мой субяседнік. «А Паўла Сушко помніш?» — «А як жа! Самы актывіст быў у школе, «авангардам» яго дражнілі, і сястру яго Анюту помню». — «І цяпер не пазнаеш? Я ж — Павел. Ніколі не думаў, што трапіш сюды. Ты ж быў такі прамоўца. Усе зайздросцілі табе. Значыць, ворагі не абмінулі цябе. І ты паддаўся. Эх, Сяргей, Сяргей. Мне сорамна за цябе». — «А мне няма чаго саромецца. Я і цяпер такі, як і тады ў камсамоле, такім і памру. А следчыя на маёй бядзе выканалі план, зарабілі павышэнне, а можа, і ардзянок... Я магу ісці?» — «Пачакай». — «Калі вам, грамадзянін Сушко, захацелася пацешыцца з гора пакутніка, дык у вас на лагпункце такіх і без мяне хапае». Звярнуўся да Надзеждзіна: «Дазвольце мне ісці, грамадзянін начальнік, бо прапушчу вячэру». — «Пазнаю твой характар. Ты і ў школе быў ганарысты. Вершыкі састаўляў, на сцэне іграў, задаваўся перад намі. А цяпер памяняліся ролі». Я перабіў яго: «Вязень і — турэмшчык». — «Э-э-э, не забывайся. Я не турэмшчык. Я вольны інжынер у сістэме ГУЛАГа». — «Мяне паклёп загнаў сюды, а ты па ўласным жаданні палез за калючы дрот і кожны дзень бачыш пакуты сумленных людзей».

«Маўчаць! — гыркнуў Надзеждзін. — У ізалятар захацеў?» — «Затым і выклікалі, што там не поўны камплект?» — «Заткніся! І тут прапаганду вядзеш!» — «Не трэба, Хрысанф Міканоравіч. Як-ніяк, а мой былы аднакласнічак. Пачуў знаёмае прозвішча і вушам не паверыў. Няўжо ён? І не памыліўся. Выходзіць, і ты са сваімі сцішкамі дастукаўся. Справай трэба было займацца і

не думаць пра глупства. Ну што ж, ідзі, сумленна скупляй сваю віну».

Я не развітваючыся выйшаў. Сэрца закалацілася, і татахкала ў вушах. Дык вось хто той недасяжны таварыш Сушкоў? Колішні троечнік Паўлік. У школе ён хадзіў у ботах, сваёй работы суконных галіфэ і фрэнчы з накладнымі кішэнямі. На камсамольскіх сходах распінаў дзяцей «заможных бацькоў», а яго маці — Аміля Сушко была на ўвесь раён дэлегаткаю, на ўсіх мітынгах выступала. Хадзіла яна ў хромавых ботах, чырвонай касынцы, з «казлінаю ножкаю» ў зубах. Яна граміла шляхецкія засценкі, раскулачвала непаслухмяных суседзяў, на пачатку калектывізацыі ёй выдалі наган. Брахалі, што яна з ім і спала, баючыся нападу варожых элементаў. Граматы хапала на подпіс: «Суш... », а замест «ко» ставіла загагуліну. Але яна вельмі хутка засвойвала ўсе патрэбныя лозунгі і палітыку «настаяшчага мамента», ведала, хто галоўны вораг, хто падпявала, каго і як трэба знішчаць. Кожную прамову пачынала: «Таварышы, граждане і вы, несазнацельная маса! У настаяшчы мамент у кожнай шчыліне затаіўся вораг нашай савецкай улады». І ў імя сусветнай рэвалюцыі галодных жанок за жменьку каласкоў па ўказе ад сёмага жніўня 1932 года здавала на дзесяць гадоў, а іх дзетак выпраўляла жабраваць. Калектывізацыю яна праводзіла не меней як на 102 працэнты. Мужчыны цішком кпілі: «Амілька і нябожчыкаў абагуліла».

Я тады яшчэ не ведаў, што і Амілю разам з раённым начальствам пасадзілі, судзілі ў нардоме, і знікла яна разам з усімі. А Паўлік, відаць, падчысціў анкету, дадаў да прозвішча «ов» і схаваўся ў гэтай смяротнай сістэме. А сустрэцца з ім давялося яшчэ раз. Гэта ўжо на волі, пасля маёй рэабілітацыі. Вяртаўся з Дубултаў, і на Рыжскім вакзале нехта меня гукнуў. Я азіраўся на ўсе бакі і нікога не пазнаваў. Праз натоўп праціснуўся Павел Сушко, падаў руку і памкнуўся абняць, а я нагнуўся, нібыта завязаць на чаравіку шнурок, а трэба было сказаць усё, што думаў пра яго. Пашкадаваў ці пасаромеўся. Ён нібы «радаваўся» за мяне, распытваў, як жыву. «Перавыхоўваюся. Па тваёй парадзе «искупляю» віну». — «Ты, брат, не гневайся. Такі быў час. І мне было не лёгка. А стала яшчэ цяжэй: у нас цяпер адны крымінальнікі, а з імі, сам ведаеш, як упраўляцца. Чуў, што ты зноў за сцішкі ўзяўся. Брось! Прыязджай да нас, вазьму загадчыкам піларамы. Аклад — во-о! Кватэра, харч, бясплатнае абмундзіраванне. Цяпер вашага брата бяруць». Я ўсміхнуўся: «Кажаш, бяруць? Яны бралі і раней, на пэўны тэрмін, а ты ў лагеры па прымусу ці па ўласнай волі? А як жыве твая маці?»

Павел заліўся чырванню, пазаікаўся і схлусіў: «Загінула ў часе вайны». — «О, у вайну асабліва ходка сыпаўся наш брат. Мабыць, і яна, пакутніца, недзе хвойкаю ўзышла». Ён нічога не паспеў адказаць, — за рукаў тузанула кароткая азызлая кабета: «Балбочаш тут, а там чарга падыходзіць» — і павалакла майго колішняга аднакласнічка да касы.

Праз некалькі гадоў мой зямляк расказаў, што па дарозе з санаторыя Павел Сушко раптоўна памёр на тым жа Рыжскім вакзале. Мне стала шкада гэтую невідушчую ахвяру нашага часу.

## НЕПАЎНАЛЕТКІ

У лагер прыгналі дзяцей. І іх папярэджвалі суровыя канваіры: «Крок улева, крок управа...» Да вахты беглі жанчыны — думалі, можа, і іх дзеткі трапілі ў гэтае пекла. Глядзелі на маленькіх спалоханых арыштантаў і выціралі слёзы. Кожнай, відаць, успаміналіся свае асірацелыя сынкі і дачушкі. А яны ў нейкіх невядомых дзіцячых дамах страцілі свае прозвішчы, забываліся аблічча бацькоў і мацярок, баяліся прызнацца, чые яны і адкуль. Так выхоўваўся страх і комплекс непаўнацэннасці. Пільныя выхавацелі ведалі іх радаслоўную, зневажалі як маглі, прыціскалі дзе толькі можна, каб сцвердзіць сваю адданасць і класавую непрымірымасць.

А гэтыя ж за што? Горкія ж дзеці, мурзатыя, стрыжаныя хлапчукі і дзяўчынкі, усе ў нейкіх трантах з чужога пляча, з палахлівымі і галоднымі поглядамі. Жанчыны дапытваліся, адкуль яны, за што іх забралі. Адказ быў адзін: «указнікі» — і ўся геаграфія цэнтральнай Расіі. І тэрміны былі дзіўныя — ад года да трох. Што ж гэта за ўказ на дзяцей выйшаў? Старэйшыя растлумачылі — за спазненне, нявыхад на работу і на заняткі ў рамеснае вучылішча. З дванаццаці гадоў — турма.

І пайшлі па турмах і лагерах «сагрэтыя клопатамі бацькі народаў» маленькія нявольнікі набываць жыццёвы вопыт і крымінальную кваліфікацыю.

А ў школах, на піянерскіх лінейках, на плошчах не змаўкалі галасы заўтрашніх маленькіх арыштантаў: «Спасибо товарищу Сталину за счастливое детство!» Праспала дзіця, спазнілася на 20 хвілін у «рамяслуху» ці на сваю скрыначку пад нагамі на заводзе і загрымела ў лагер набываць камерную і барачную адукацыю.

Новенькіх непаўналетак размясцілі ў асобным невялікім бараку і далі ім у выхавальнікі сімпатычнага сівагаловага Івана Міхайлавіча Віткова, разважлівага і стрыманага, з прэтэнзіяй на галантнасць і інтэлігентнасць у гаворцы, з вялікім крымінальным вопытам і стажам у многіх лагерах. У начальства Віткоў лічыўся цалкам «перакаваным» і палітычна надзейным. Ён дасканала валодаў дэмагагічнай тэрміналогіяй таго часу, бязлітасна пясочыў «ворагаў народа», «пресекал враждебные разговорчики», быў у пашане ў «кума», а па сутнасці застаўся схаваным «паханом» (старэйшым кіраўніком) рэцыдывістаў. Па яго загадзе і наводцы трашчалі капцёркі, куфэркі і мяшэчкі рабацяг, нават уцекачы рыхталіся з яго дапамогаю і кансультацыяй, — ён даваў адрасы надзейных «малін» (прытулкаў) для ўцекачоў у Маскве, Пскове і Горкім.

Не без удзелу Віткова зімою сорак другога года брыгада крымінальнікаў раззброіла стралка, брыгадзір надзеў яго шынель і шапку, а канваіра ў бушлаце і малахаі паставіў апошнім у строй і павёў брыгаду нібыта на пагрузку. Далёка ад ачаплення стралка прывязалі да асіны, а самі рассыпаліся куды каторы. Брыгадзір з трыма надзейнымі сябрамі спрабаваў прабіцца з тэрыторыі лагера. Уся лагерная ахова была кінута на ліквідацыю ўзброеных уцекачоў, і тры дні ўвесь лагер не выводзілі на работу. Арыштанты малілі бога, каб хоць яшчэ з тыдзень доўжылася гэтая пагоня. Задубелага стралка адшукалі позна ноччу. Да раніцы завея пазамятала сляды ўцекачоў, і знайсці іх было не так проста. Тых, што прыбіліся пагрэцца да вёсак, за невялікую ўзнагароду выдавалі «пільныя» калгаснікі, хітрэйшых доўга выпорвалі з стагоў і кінутых на зіму заімак. Калі напалі на след брыгадзіра, той адстрэльваўся да апошняга патрона. Як толькі змоўклі стрэлы, спусцілі зграю аўчарак. Праз некалькі хвілін пачуўся яшчэ стрэл і віск параненага сабакі. Скусаных і абадраных чатырох уцекачоў дабівалі па дарозе на лагпункт. Натоўп крыважэрных стралкоў вымяшчаў злосць на няшчасных хлопцах, што цаною жыцця рваліся на волю, а жывыя кляліся, што марылі трапіць на фронт.

Чатыры скрываўленыя да непазнавальнасці трупы кінулі каля вахты, каб астатнія глядзелі і не думалі ўцякаць. З тыдзень на марозе ляжалі апруцянелыя нябожчыкі з выклеванымі вачыма, падзёўбанымі тварамі, над імі з крыкам кружыліся і садзіліся на здабычу вялізныя крумкачы.

Пасля гэтага кожную брыгаду вадзілі не адзін, а два стралкі — адзін наперадзе, другі — ззаду. А дзе іх было браць? Ма-

ладыя пайшлі на фронт, а замест іх прысылалі перастаркаў — белабілетнікаў, кульгавых, касавокіх, задыхаватых, абы мог насіць вінтоўку. Па броні аставаліся маладыя чырванамордыя камандзіры ўзводаў ды паджарыя, спрытныя на нагу «сабачнікі». Гэта пераважна былі садысты. Калі не дастрэльвалі ўцекача адразу, дык доўга цешыліся здзекамі з яго: аўчарка па загадзе свайго гаспадара спускала да ніткі ўсю адзежу з няшчаснага, па другой камандзе магла перагрызці глотку, парваць да касцей.

Памятаю, у ліпеньскую спёку над лесасекаю пракаціліся два стрэлы. Значыць, нехта ўцёк. У той бок, сігаючы цераз ламачча, пянькі і завалы, паімчаліся сабачнік з аўчаркаю і начальнік канвою. Усіх цікавіла: «Хто?» Удасца ўцячы ці спаймаюць? Праз паўгадзіны рагатала ўсё ачапленне: праз лесасеку сабачнік вёў голага, як маці радзіла, няўклюдага, маруднага, блізарукага кіеўскага вучонага Федчанку. Ён звычайна хадзіў апошні ў брыгадзе інвалідаў, як іх тут называлі, «хронікаў», на акорку падтаварніка, на падчыстку дзялянкі, нарыхтоўку лазы на лапці. Федчанка насіў акуляры з тоўстымі шкельцамі, праз іх вочы здаваліся вялікімі і пукатымі, а яго лічылі дзіваком, не разумелі яго разважанняў і з’едлівага, вельмі тонкага гумару. Каб хто пажартаваў: «Федчанка збіраецца ўцякаць», — ужо ўсе б рагаталі. А то вядуць голенькага, як Езуса, у жмені заціснутыя акуляры і трымае іх ніжэй пупка. «Глядзі, глядзі, снасць паказвае праз павелічальнае шкло, гы-гы-гы», — рагочуць дасціпныя жартаўнікі. Пацяшаецца і сабачнік Ташчакоў — то адпусціць павадок, і ашчэраная аўчарка з доўгім чырвоным языком вось-вось учэпіцца ікламі ў абвіслы зад вучонага, Федчанка войкае, увесь падцінаецца, спатыкаецца аб ламачча, шчыльней прыціскае да лабка акуляры і вінавата ўсміхаецца лесарубам. Адны глядзяць спагадліва, другія пад’юджваюць і строяць кпіны.

Нават оперупаўнаважаны не надта сур’ёзна паставіўся да ўцёку Федчанкі. Загадаў апрануць у транты трэцяга тэрміну, разы два выклікаў у сваю баковачку, склаў кароценькі пратакол і адпусціў. Пакуль адправяць на новы тэрмін, Федчанка сланяўся па зоне.

Неяк мы сустрэліся з ім каля сталоўкі, і я спытаў, няўжо і праўда, што ён хацеў уцячы. «Вядома, не, — адказаў Федчанка, — ішоў на верную смерць. Больш трываць не магу. Спадзяваўся — дастрэляць, і канец маім пакутам. Аж і тут не шанцуе», — горка ўсміхнуўся гэты ціхі, сімпатычны і добры вучоны. А я спрабаваў яго суцешыць, абнадзеіць, пераконваў, што пасля вайны разбяруцца з усімі намі. Пачаўся ж перагляд у

39-м годзе, некаторым адмянілі прысуды, а цяпер не да нас. Угаворваў і сам верыў, што прыйдзе збавенне, што будзем на волі і мы. Федчанка ўсміхаўся і паблажліва ківаў галавою, паглядзеў на мяне прасветленымі вачыма. «Блажен, кто верует», — сказаў і павольна пайшоў у барак.

Неўзабаве Федчанку адвезлі на каменданцкі лагпункт у цэнтральны ізалятар. Гэта лагерная турма з тоўстага бярвення за двайною высокаю агароджаю. У ёй трымаюць уцекачоў, забойцаў, рабаўнікоў капцёрак і пякарань і падапечных «кума» — «рэцыдывістаў-контрыкаў». Калі ёсць оперупаўнаважаны, дык павінна быць відна і яго работа. Перш за ўсё трэба мець у кожным бараку і ў кожнай брыгадзе па «стукачу» — добраахвотных і прымусовых даносчыкаў. А як іх навербаваць? Вельмі проста: паабяцаць за стараннасць блатную работу ў зоне, брыгадзірства, дзесятніцтва, датэрміновае вызваленне, перапіску праз «вольную» пошту — цэнзарам станавіўся сам «кум». І знаходзіліся ахвотнікі за міску баланды і кашы таварыша па нарах і брыгадзе ўпячы на новае дзесяцігоддзе, а то і падвесці пад «вышку» як непапраўнага рэцыдывіста. А ён толькі і сказаў, што на баландзе з турнэпсу і хлебе з вотруб'я хутка ўсе пазагінаюцца. Вось табе — контррэвалюцыйная агітацыя, незадаволенасць савецкім ладам, заклік да сабатажу, падрыў дысцыпліны ў ваенны час. Хлеб і баланда савецкія, ты імі не задаволены, значыць, незадаволены савецкай уладаю. Сафістыка магла абвінаваціць каня, які не хоча есці гнілую салому, у контррэвалюцыйным сабатажы. Ты павінен быць задаволены, што пасадзілі на дзесяць гадоў, барані божа сказаць, што не вінаваты — паклёп на «святая святых» — следчыя органы і «самы справядлівы суд». Не пікай, што галодны і халодны, мусіш выраблядь нечалавечую норму на павале — тры і тры дзесятых кубаметра паўметровых дроў за шэсцьсот грамаў глеўкага хлеба, міску баланды і лыжку кашы з неабдзіранай пшаніцы або з таго ж вотруб'я.

Лічы сябе шчаслівым, што гнешся, як цюцька, на голых нарах у смуродным бараку, што лупіць цябе дрынам блатны «дзяжурняк», радуйся і крычы, што ты шчаслівы чалавек, дзякуй вялікаму і мудраму правадыру за клопат пра цябе. Найвялікшая кара для чалавека — пазбавіць яго волі. Сядзелі некалі засуджаныя ў камеры на салдацкім пайку, чыталі кніжкі, вывучалі мовы, пісалі трактаты, раманы, як Чарнышэўскі, або паэмы, як Колас — «Новую зямлю». Марозаў і Засуліч пісалі ўспаміны і філасофскія даследаванні. Дабрачынныя таварыствы пасылалі ім

перадачы і грошы, ніхто не меў права іх абразіць, пакрыўдзіць, назваць па «ты».

Мала што лагернік пазбаўлены волі, дык ён ператвораны ў бяспраўную і бязмоўную рабсілу, у звычайнае цягло, у якога няма нават арыштанцкіх правоў, кінутае на здзек і пагібель. У гэтае пекла загналі і дзяцей, забраных ад мацярок, ад родных, з-пад бацькоўскага даху. Калі не на пагібель, дык на маральнае растленне кінулі іх. За паўгода, за год з хлапчукоў выходзілі кваліфікаваныя зладзеі і жорсткія бандыты, з непаўналетніх дзяўчынак — разбэшчаныя прастытуткі за міску баланды. З «школы Віткова» ўсе яны выйшлі «адукаванымі» кішэннікамі, скокарамі, майданнікамі, фармазонамі, а дзяўчынкі прымітыўнымі «начнымі матылькамі». Я памятаю прозвішчы і імёны многіх дзетак з паламанымі на ўсё астатняе жыццё лёсамі. Многія з іх праз некалькі месяцаў пасля вызвалення зноў вярталіся ў зону маўчання, дзе нема крычалі душы SOS, якога ніхто не чуў і не мог пачуць, дзе начамі плакалі і кусалі губы, стагналі «мама, мамачка» дзеці, у якіх не было дзяцінства, якія не ўмелі смяяцца і спагадаць бліжняму.

Дзе яшчэ гінула і гіне столькі дзяцей, як у турмах і лагерах, дзе так калечацца душы і норавы, як у нашых «папраўчых установах»? А яны ж ледзь не з пялёнак крычалі: «Заўжды гатоў!», «Дзякуй вялікаму Сталіну за шчаслівае дзяцінства!» І верылі, бо не ведалі іншага, на ўвесь голас гарлалі: «Ура-а-а!» — і да знямогі пляскалі ў ладкі.

## ЭТАПЫ, ЭТАПЫ, ЭТАПЫ...

Колькі іх прыбывала на маёй памяці! Вялікія і малыя, грузінскія і малдаўскія, польскія і ўкраінскія, беларускія і маскоўскія, вайсковыя і цывільныя знікалі, як дым, як снег пад дажджом. Прыходзілі сваімі нагамі, — вывозілі патаемна начамі шкілеты былых вучоных, чыгуначнікаў, ветэрынараў, паэтаў, карабелаў, непісьменных у зрэбніках «тракцыстаў», жонак «ворагаў народа». Ніхто іх не палічыў і наўрад ці палічыць, а сосны, што выраслі на касцях пакутнікаў, састарэлі і ціха шумяць адвечную песню тугі і жалобы.

А план патрабаваў новых і новых ахвяр. З начальнікаў спаганялі «кубікі», гналі састаў за саставам пад пагрузку, а грузіць не было каму. Пасля разводу ў зоне заставалася болей, чым выходзіла за вахту. Паміж баракамі, на сметніках за

сталоваю і пякарняю сланяліся абшарпаныя, з азызлымі шэра-блакітнымі тварамі і спустошанымі поглядамі смертнікі. У многіх пачынаўся галодны псіхоз.

Начальства лютавала і звярэла: патрабавалі з яго, а яно з нас выціскала апошнія сілы. Кароткія зімовыя дні дабівалі бязлітасна: пілуем, колем, складаем і з туфтою не дацягваем да нормы на шасцісотку. Менее пайка — знікае сіла, а начальства замест харчу гоніць у кандзей, карае за сабатаж. Вечарэе, дагараюць вогнішчы, марым дапаўзці да барака, але дудкі! Недзе паблізу падае гудкі паравоз — на чыгуначную ветку ўпаўзае даўжэзны састаў пульманаўскіх вагонаў, платформаў, вуглянак. Усіх здымаюць з лесасекі і — на ўсю ноч на пагрузку. Штабелі з кожным днём адыходзяць далей і далей — падноска за трыста метраў. Каля вагонаў раскладаем вогнішча, каб бачыць, куды ісці, у які вагон грузіць.

Ад штабеля да вагона — суцэльныя пянькі. Ідзеш, спатыкаешся, падаеш, зноў узвальваеш на плячо лясіну, шпалу, падтаварыну, клянеш усё на свеце і свой дзень нараджэння, але трэба несці, грузіць пад свіст бізуна: «Давай! Давай!» Начальнік канвою, майстры лесу, дзесятнікі паганяюць такімі мудрагелістымі мацюкамі. што пудзяцца коні. А мы сноўдаемся, як механічныя здані. Знясіленыя падаюць і не здалеюць устаць, іх прыводзяць у прытомнасць дрынам і выспяткамі.

На золку канчаем пагрузку. Адзіная мара — пасёрбаць гарачай баланды і зваліцца на нары, але начальнік канвою доўгім жалезным прэнтам пора кожную шчыліну ў загружаных вагонах, каб часам не заклалі дрыўмі ўцекача. Бывае, парне, а за папярэдняю клеткаю пуста. Разумны змаўчыць, а дурань усчынае вэрхал, прымушае дагружаць, а потым усю брыгаду гоніць у кандзей. Калі ўсё абыдзецца, вядуць у зону. Ідзеш і на хаду спіш, сусед пільнуе, каб толькі не хіснуўся ўлева або ўправа. З вахты вядуць у сталоўку; даклыпаеш да барака, ускараскаешся на нары і правальваешся ў цяжкі пакутлівы сон.

Гадзіны праз тры дзяжурны грукае кіем па нарах і зычна крычыць: «Па-а-д’-ём! Канчай начаваць!» Расплюшчваеш нібыта засыпаныя пяском вочы, марудна ўстаеш і адразу не разумееш, дзе ты, працінаюць дрыжыкі, і ўсё цела, як тарка, укрываецца пупышкамі. Зноў на вахту, пілы ў зубы — і на лесасеку, а ўвечары, як бязлітасны ўдар, зноў гудзе паравоз і суне цёмныя прывіды вагонаў.

Пасля разводу ўсіх жывых выганяюць да вахты. Начальнік сам правярае інвалідаў, хворых, слабасільных, лапцяплётаў і

прыдуркаў, не зважае на заключэнні медыкаў, хто стаіць на сваіх нагах, даводам гоняць у лес, абы падняць у справаздачы выхад на работу па групе «А». Выгналі за вахту вызваленага доктарам высокага чарнявага хлопца з Магілёўшчыны Лявона Гарэлага. Ён паказвае абмарожаныя, як слівы, пальцы, але ніхто не зважае. Мароз градусаў на трыццаць, курыцца густы туман, над лесам выпаўзае злавесна-чырвонае сонца. Лявона цягнуць у строй. Ён кінуў на зямлю шапку, бушлат, целагрэйку, сасмыкнуў кашулю, бахілы і штаны. Стаіць босы на заледзянелай да бляску дарозе ў адных споднiках. Падскаквае раз'юшаны камандзір узвода аховы, хвошча дубчыкам пачырванелую на марозе спіну. Гарэлы стаіць нерухома. Нарэшце не вытрываў: «Калі ў цябе ёсць маці, няхай бы паглядзела, якога яна выкарміла звера».

Раззлаваныя канваіры скруцілі Гарэлага, кінулі на заледзянелы палок саней, накрылі прыцярушанымі трантамі, прывязалі вяроўкаю, і стралок павёз яго ў лес.

Да арышту я верыў кожнаму лозунгу, кожнаму друкаванаму і афіцыйнаму слову, быў узорам бяздумнага «патрыятызму», згаджаўся, што ў нас усё перадавое, разумнае і неабходнае. «Перавыхаванне» ў лагеры мне расплюшчыла вочы, вучыла самастойна думаць, сумнявацца, пратэставаць у душы, але зацята маўчаць.

На пачатку 1942 года пайшлі этап за этапам мужчыны ў шынялях, без папруг і пятліц. Прыбывалі салдаты, камандзіры, штабныя работнікі — прадстаўнікі ўсіх родаў войск з Варонежскага і Калінінскага франтоў. Віна іх была ў тым, што трапілі ў акружэнне, з баямі прабіліся да сваіх, а каб не трапілі ворагам дакументы, частку іх знішчылі або закапалі, многія выйшлі без партыйных білетаў. «Ага, значыць, былі паражэнчыя настроі, не спадзяваліся выйсці з акружэння, а можа, і знарок хацелі здацца», — разважалі «асабісты» і «смершаўцы». А ў іх размова кароткая: «Рукі назад!» — і ў турму, а там, як прусакоў у шчылінах, поўна цывільных «шпіёнаў» і «ворагаў». Стаяць стаяком, на нары кладуцца па чарзе. Людзі падаюць у непрытомнасці. Без затрымак пачыналіся разгрузкі турмаў, падаваліся закратаваныя цялятнікі, і паехала на ўсход свежая рабсіла, і гэтых рабоў ехала мільёны.

Разам з вайскоўцамі прыбывалі жанчыны за тое, што асталіся пад акупацыяй, перахопленыя на дарогах на ўсход, пакінутыя начальствам у тыле ворага. Ніхто ніякага следства не вёў. Паспявалі толькі запоўніць фармуляры. У графе «артыкул і тэрмін» было напісана «следственный». І так у кожнага. Спадзяваліся — пры-

едуць следчыя і будуць разбірацца на месцы. Але ніхто так і не прыехаў.

У вачах учарашніх воінаў былі разгубленасць і адчай, на злінялых гімнасцёрках — цьмяныя сляды павыдзіраных ордэнаў і камандзірскіх адзнак, пілоткі без зорачак, і на гэтых былі шынялі да калень. У зоне стаяў шэры маўклівы натоўп былых акружэнцаў. Нядаўнія баявыя камандзіры і салдаты глядзелі на падвойны плот з калючага дроту, на вышкі, на змрочныя баракі, на лагернікаў у абшарпаных, прасмоленых на павале трантах, на схуднелыя, задубелыя на сцюжах, пад ветрам і дымам твары мужчын і на жанчын, якія даўно страцілі адзнакі хоць прыблізнай жаноцкасці. Старажылы лагера ўяўляліся ім страшэннымі злачынцамі, рэцыдывістамі, бандытамі і забойцамі, а да вахты цягнуліся былыя партыйныя работнікі, лётчыкі, настаўнікі, сяляне — «злосныя нядоімшчыкі, нехацімцы і сабатажнікі», каб пабачыць «новенькіх», распытаць, што на волі. на фронце, а мажа, і сустрэць знаёмых. Этапнікі трымаліся насцярожана і маўкліва.

За натоўпам ваяк чуліся мілыя жаночыя галасы. І пайшлі ў зону ў прыгожых сукеначках, жакеціках і чаравічках пераважна маладыя, яшчэ не злінялыя ў камерах прывабныя маладзіцы і зусім юныя дзяўчаты. Начальнік УРЧ выклікаў прозвішчы: Коласава, Кальцова, Фокіна, Каравашкіна, Зяленіна, Гаўрылава, Волкава Зінаіда і Волкава Антаніна, Сальнікава, Андрэева. На пытанне «Артыкул і тэрмін?» адказ быў адзін — «следственная». Гэта быў сапраўдны парад прыгажунь з волжскіх узбярэжжаў. Прайшла з высока паднятаю галавою срэбравалосая чарнабровая жанчына, і я адразу ў ёй пазнаў былую настаўніцу і не памыліўся. Яна пяшчотна суцяшала разгубленых і заплаканых дзяўчат. Многія былі яе колішнімі вучаніцамі.

У шэрую і змрочную зону, з якое патыхала трупным тленам, уварваўся свежы, шматкалёрны промень жыцця. Нехта з начальніцкіх падбрэхічаў кінуў: «нямецкія падсцілкі», другі ўдакладніў: «аўчаркі». А яны, прыгнечаныя прадчуваннем свайго трагічнага будучага, моўчкі выціралі слёзы.

Мне, недасведчанаму ў юрыспрудэнцыі, нельга было зразумець і пагадзіцца, чаму гэтых няшчасных, над якімі нават не пачалося так званае следства, прыгналі ў лагер, а заўтра гэтым кволым дзяўчатам дадуць пілы і канадскія тапары і пагоняць у лес ставіць кубікі, выконваць нечалавечую норму, а начамі грузіць пульманаўскія вагоны. Я глядзеў на іх, і не верылася,

што яны здатныя хоць на маленечкае злачынства ці здраду. Магчыма, нехта з іх і стаў ахвяраю гвалту нямецкага салдата ці афіцэра, але не больш.

Пакуль выклікалі астатніх, я ўгледзеў каля ганка страшнай баковачкі оперупаўнаважанага маленькую, як падлетак, зусім беленькую, у сіняй сукеначцы ў крапінку, дзяўчынку. Па шчоках каціліся буйныя слёзы. Мне яе зрабілася асабліва шкода. Яна здавалася бездапаможнаю і адзінокаю, нечым вылучалася з натоўпу кідкіх прыгажунь, запомнілася мне адразу і запала ў душу.

Этап развялі па бараках. Пра пасцелі не было чаго і думаць. Калі ёсць што, падсцілай, а няма — курчыся на голых нарах.

Прыгажуні з калінінскага этапу занялі палову барака. З клуначкаў, сабраных у дарогу сплаканымі мамамі, даставалі нейкія посцілачкі, фіраначкі, запіналі імі свае закутачкі, торбачкі набівалі стружкамі каля сталяркі, каб было на што прыхінуць галаву. Старастам барака абралі вядомую калінінскую настаўніцу Анастасію Рыгораўну Андрэеву. Яна была дэпутатам гарсавета, дырэктарам школы. У акупіраваным горадзе Андрэева берагла былых вучаніц. Каб не пагналі іх у Нямеччыну, яна ўсіх сабрала ў школу і адкрыла кравецкую майстэрню. Калі не было чаго шыць, латалі старое, даводзілася падкарочваць і расточваць афіцэрскія і салдацкія мундзіры і шынялі, абшываць дзяцей.

Як толькі вызвалілі горад, за «супрацоўніцтва з ворагам» уся майстэрня апынулася ў турме. Пасядзелі два тыдні, і пачалася разгрузка камер, яны спатрэбіліся для новых «пасобнікаў». Так цэлы этап «следственных» апынуўся ў лагеры. Усе дзяўчаты паважалі і слухаліся сваю колішнюю настаўніцу. Ад фашысцкага рабства яна іх уратавала, а тут не дала рады. Андрэева супакойвала і суцяшала дзяўчат, што вось-вось прыедзе следчая камісія, разбярэцца і адпусціць дадому. Амаль усе дзяўчаты зберaглі свае камсамольскія білеты і нідзе сябе нічым не заплямілі.

Акружэнцаў разбілі на тры лесапавальныя брыгады, жанчын прызначылі ў калону грузчыкаў. Вагоны падавалі пераважна ноччу, а ночы з дня на дзень станавіліся ядранеей і сцюдзёней. У сонны жаночы барак, грукаючы па стойках нараў, з ліхтарамі «лятучая мыш» урываюцца дзяжурнякі: «Пад'ём, бабы. Дзесяць хвілін на зборы. Андрэева, давай стопрацэнтны вывад на пагрузку!» Неапрытомненыя, спрасоння ўскакваюць жанчыны, адразу не ўцяміць, дзе яны і што з імі. Сарамяжа прыкрываюць ногі, грудзі і плечы, а нахабныя дзяжурнякі лыпаюць вачыма, прыспешваюць і адпускаюць цынічныя жарцікі.

Андрэева абураецца: «Выйдзіце, дайце апрануцца дзяўчатам. Не бойцеся, усе будуць на вахце». Жарабцы з дрынамі і ліхтарамі агрызаюцца: «Фрыцаў не саромеліся, а тут цыпачак з сябе строяць». Калоцячыся ад холаду, нервовага напружання, нявыспаныя і галодныя жанчыны цягнуцца на вахту. Пры цьмяным святле ліхтароў яны зрабіліся непазнавальнымі зданямі з чорнымі правaламі вачніц. Доўга дрыжаць на вахце, пакуль прыйдуць не вельмі таропкія стралкі. Нарэшце ідуць, грукаючы абцасамі і прыкладамі, канваіры, адчыняецца брама, пры святле ліхтароў вахцёр уголас лічыць нявольніц і адзначае колькасць на доўгай і вузкай фанерцы.

Я ўсё часцей думаю пра тую кволенькую, у сіняй сукенaчцы, дзяўчынку. З многімі я ўжо гаварыў, распытваў пра жыццё на волі, пра акупацыю; да яе падысці ніяк не адважваўся. Некаторыя яе сяброўкі ўжо круцілі з дзесятнікамі і брыгадзірамі, а яна, як бездапаможнае птушаня, што выпала з гнязда, цуралася людзей, хадзіла адна і блізкіх сяброўак не мела.

Лагернай вопраткі на ўсіх не хапала, таму новенькія дадзіралі на пагрузцы свае сукенкі, жакецікі і чаравікі. У канцы жніўня раздажджылася. Твань на дарогах і ў зоне была непралазная, ліпкая і чорная, як каламазь, а нудны і сцюдзёны дождж ліў удзень і ўначы. Коўзаючыся па гразі, мокрыя, панурыя ішлі ў сталоўку дзяўчаты, а яна паўзла, як на лыжах, у вялікіх лапцях на босых маленькіх ножках. Мне здалося, што яна ўжо на мяжы пагібелі, і захацелася хоць чым-небудзь ёй дапамагчы.

Я быў лагерным старажылам, каб мы не выручалі адзін аднаго, пазагіналіся б усе. Кухарам рабіў мінскі зямляк Андрэй Андросік, хлебарэзам — друг па самадзейнасці Ванька Воранаў, пякарняй загадваў ленінградскі караблебудаўнік Васіль Краўцоў, капцёркаю — Якаў Міхайлавіч Смірноў. Мы з ім разам вандравалі з лагпункта на лагпункт і даўно папрыцыраліся. Шаўцом стаў колішні днявальны на дзевятым лагпункце, што некалі лічыў мяне блацяком, а цяпер стаў лепшым другам. Ды і я ўжо круціўся каля прыдуркаў, то пры КВЧ, то начальнік, ведаючы мае філалагічныя схільнасці, часта выклікаў перапісваць справаздачы і «састаўляць» даклады для вольнанаёмных.

Здаровых лагерных служачых праглынула вайна, а да нас зноў прыбывалі эвакуіраваныя з Пскоўшчыны, з Тарапца і займалі вызваленыя пасады ў КВЧ, УРЧ, бухгалтэрыі, планавым аддзеле. Спецыфікі лагернага ўліку, жыцця і ўзаемаадносін яны не ведалі і не адразу асвойталіся, таму было шмат блытаніны і недакладнасцяў. Начальнік выклікаў мяне і загадаў весці ўлік

рабсілы, усю справаздачнасць, а «бабы няхай падпісваюць». Я разгубіўся і напомніў, што ў мяне пяцьдзесят восьмы артыкул. «А ты не высоўвайся, а там неяк адбрэшамся». І я шчыраваў ад пад’ёму да поўначы. Тады ж уся краіна працавала начамі, пакуль пакутаваў ад бяссоння крамлёўскі гаспадар. А раптам аднекуль пазвоняць, некаму спатрэбіцца нейкая лічба. І так не драмаў увесь ланцужок ад Масквы да самых да ўскраін. Такі быў стыль — «гарэць на рабоце». Гарэлі і дагаралі і ў лагеры.

Увечары ў цьмяным калідорчыку канторы разам з брыгадзіркаю нечага чакала тая маленькая адзінокая дзяўчынка з апошняга этапу. Здаецца, звалі яе Аляю. Я папрасіў яе затрымацца, пакуль закончу зводку. Праз вузкае акенца сваёй канторкі бачыў, як яна прытулілася да сцяны ў вялізных лапцях на босую нагу. Праз паўгадзіны я папрасіў Алю прайсці са мною. Яна паслухмяна выйшла, а па дарозе спынілася і спалохана спытала, куды мы ідзём. Я супакоіў, што ідзём у капцёрку па важнай справе. Там нас чакаў Яша Смірноў, вясёлы, гаваркі валжанін. Ён паставіў на прылавак даволі зграбныя, адрамантаваныя Макравусавым чаравічкі. «Памерайце». Аля лыпала вачыма і не рухалася. Не ведаю, пераканаўча я хлусіў ці не, гаворачы, што яе прэміравалі за старанную работу на пагрузцы і... па разутасці. Удвух мы ўгаварылі яе ўзяць абнову і распісацца ў ведамасці, а яна ўсё даводзіла, што многія дзяўчаты працуюць куды лепш.

Назаўтра яна ўжо хадзіла хоць і не надта ў прыгожых, але ўсё ж чаравіках. Сяброўкі на яе глядзелі падазрона і недвухсэнсоўна перашэптваліся. А мы з ёю яшчэ ні разу не пагаварылі. Неўзабаве Аліну брыгадзірку ўзялі загадваць лазняю, а я дамовіўся з майстрам лесу Інакенціем Талакновым, каб ён брыгаду перадаў Алі. Звычайна брыгадзір расстаўляе брыгаду на падноску і пагрузку, улічвае аб’ём работы, запаўняе рапарцічку і, пакуль ідзе пагрузка, сядзіць каля вогнішча, счышчае шкельцам з фанернай дошчачкі ўчарашнія паказчыкі, каб запісаць новыя. З усіх брыгадзіраў адна Аля ўкалвала мудрэй за іншых сваіх грузчыц.

На яе брыгаду кухар падкідаў лішнія дзве-тры порцыі, хлебарэз «памыляўся» на пару паек. Яна іх вяртала назад. Андросік і Воранаў пыталіся ў мяне: «Яна што, чокнутая?» — «Проста яшчэ не навучылася жыць у лагеры», — адказваў я, а яе папярэдзіць не адважваўся, каб не падумала чаго благога.

Увосень пачалі прыходзіць вузенькія паперкі на ўсіх «следственных», хоць ніякага следства яны не дачакаліся. Усім акружэнцам «тройка» па артыкуле 196 «прыпаяла» каму пяць, каму дзесяць гадоў, а дзяўчатам па артыкуле 7-35 (парушэнне

пашпартнага рэжыму) — ад пяці да васьмі гадоў лагера. «За што?» — галасілі нядаўнія прыгажуні, ледзьве падобныя на саміх сябе. «Мы ж чакалі следства, верылі, што разбяруцца і адпусцяць нас. Якое парушэнне рэжыму? Мяне ж забралі з дому з пашпартам і прапіскай у бацькоўскай хаце». Яны хадзілі да начальніка УРЧ, да ўпаўнаважанага оперчэкісцкага аддзела. Тыя толькі разводзілі рукамі і раілі: «Пішыце. Разбяруцца. Але ж вы ведаеце, што ў нас невінаватых не саджаюць».

Па тым жа артыкуле Аля распісалася за пяць гадоў. Адразу замкнулася, як закамянела. Яна ведала, што ніхто не будзе пераглядаць і чытаць іх скаргі. Калі не было паражняка, і яе брыгаду ставілі на павал, а нанач — на пагрузку. У зону вярталіся ледзь жывыя, мокрыя, заляпаныя граззю — ні памыцца, ні абсушыцца. У бараку дымілі каганцы, са столі і шчылін у нарах сыпалася і паўзла плойма клапоў і секла схуднелыя дзявочыя целы.

З акружэнцаў стварылі брыгаду лесарубаў. Брыгадзірам яны абралі свайго камбата Папова і доўгі час трымаліся вайсковага статута: «Дазвольце звярнуцца, таварыш капітан. Дазвольце адлучыцца». Знясіленыя ў акружэнні, у камерах і на этапах, з восені яны яшчэ неяк трымаліся, а ўдарылі маразы, закруцілі завеі, многія паадразалі полы раней пакарочаных шынялёў на парцянкі і ў выцертых вайсковых неданосках калаціліся на марозе і сіверным ветры. І пасыпаліся адзін за адным нядаўна маладыя і здаровыя салдаты, якіх так не хапала на фронце. Адных з лесасекі везлі проста ў морг да Лясэра, іншыя гэты шлях праходзілі праз «слабасілку». Брыгада раставала на вачах. Яна ўжо не выходзіла на развод, яе паступова начамі вывозіў за вахту бесканвойны возчык Кастроў, складаючы ўдоўж і ўпоперак на санях рэшткі былых воінаў.

Трымаліся яшчэ трохі жанчыны. Яны заўсёды былі трывалейшыя. Але голад і катаржная работа выкруцілі іх так, што не пазнавалі сябе: ад ветру, сцюжы і дыму вогнішчаў шчокі задубелі і пасівералі, пад вачыма навіслі вадзяністыя мяшэчкі, пасекліся даўно не мытыя валасы. Каб не пладзіліся паразіты, многія паабстрыгаліся, і ўсё ж ратунку ад іх не было. У лазню ганялі раз на месяц. Змылачкам і галаву не памыеш, і вады было скупа. Жанчыны паступова прывыклі і сталі абыякавыя да зняважлівых «санапрацовак» Пецькі Самойліка. Спачатку ён цынічна жартаваў, а потым саромеўся непрыстойнай работы. Толькі некалькі манашак супраціўляліся знявазе. Яны адбіваліся, плакалі, малілі літасці, а іх валаклі сілком і нахабна ржалі:

«Мы вас, бабанькі, хутка разманашым», а тыя толькі хрысціліся і шапталі: «Свят! Свят! Ізыдзі, сатана — нячыстая сіла. Госпадзі, памажы і ўкрапі!»

Лагер не разлічваў на такую колькасць жаночага «кантынгенту» і не меў адпаведнай бялізны, таму выдавалі мужчынскія кашулі і споднікі з матузкамі. У іх патаналі худзенькія, змізарнелыя дзяўчаты.

Зноў на развод выходзіла ўсё меней і меней людзей, а план не скарачаўся, вагоны падавалі кожны вечар. На пагрузку выганялі ўсё жывое: на кухні і ў пякарні пакідалі па два чалавекі, і тыя ўпраўляліся з дапамогаю дахадзяг, у бухгалтэрыі пайкі налічваў аднаногі інвалід, астатнія пры святле вогнішчаў і смаляных квачоў грузілі дровы, піловачнік, рудстойку і шпалы.

Два баракі цалкам занялі пелагрознікі і цынготнікі, выпаласканыя няспыннымі паносамі. Каля гэтых баракаў усе затыкалі насы. Саладкаваты трупны дух стаяў над зонаю. На лагпункт пачалося нашэсце велізарных рудых пацукоў. Яны, нікога не баючыся, шасталі каля ног, нападалі на саслабелых, праточваліся ў хлевушок Лясэра. Аднойчы ён заўважыў, што не толькі там харчуюцца пацукі, а нехта паабразаў ягадзіцы ў нябожчыкаў. Гэта было ўжо зусім страшна, сакрэт перастаў быць сакрэтам, а людзі сябе адчувалі кінутымі на пагібель: «Сягоння ты, а заўтра я». Каб вырвацца ў цэнтральны ізалятар на шасцісотграмовую пайку, рэцыдывіст Генка Серабракоў без дай прычыны разваліў сякераю чэрап брыгадзіру будаўнікоў, ціхаму і далікатнаму пскавічу Андрэю Іванову. Акрываўленую сякеру прынёс на вахту, кінуў на стол: «Я там кокнуў нейкага чорта. Завіце кума, няхай афармляе новы «строк» (так яны вымаўлялі тэрмін).

На Лапшанцы прафесар Бурцава выратавала Андрэя, але вярнуўся ён без памяці, бездапаможны, як малое дзіця. Яго камісавалі па інваліднасці, але выпусціць не адважыліся, каб часам «не вёў агітацыю». Свае спагадалі Андрэю, а блацякі кпілі з яго. Серабракоў тры месяцы пракантаваўся на турэмным пайку. Лагерны суд накінуў яму пяць гадоў «за хулиганство с нанесением телесных повреждений осужденному по ст. 58 заключенному Иванову». З дзесятай судзімасці Серабракоў праседзеў паўтара года, яны касаваліся, і пачынаўся тэрмін па новым прысудзе. Ён ведаў, што вайна рана ці позна скончыцца і надзейныя «сябры народа» атрымаюць амністыю, і не памыліўся, так яно і было.

Каб неяк зацыраваць прарэху ў рабсіле, з бальніцы, з іншых лагпунктаў прыбывалі невялічкія этапы. Але хто адправіць добрага рабацягу? Сплаўлялі дахадзяг або рэцыдывістаў.

Колькасць павялічвалася, а рабацяг не прыбаўлялася. У этапе з бальніцы кінуўся ў вочы высокі мужчына ў некалі белым бушлаце і дзіравых бахілах на тоненькіх, як цурачкі, нагах. У вялікіх сумных вачах свіціліся іронія і розум. «Апарын Сяргей Дзмітравіч. Артыкул 58, пункт 10, тэрмін 10 і 5 пазбаўлення правоў». Каля яго круціўся невялічкі чалавечак у навейшым бушлаце, пацёртай цыгейкавай кубанцы з габардзінавым верхам. Такія зімою насілі следчыя Наркамата ўнутраных спраў. Няўжо каторы з іх? Прыбыла і куртатая чарнявая Марыя Дарошка, вясёлая сакатушка, з усімі загаворвае, бядуе, што разлучылі з добрым чалавекам Лёшкам Філатавым. Ён хоць аднарукі, але больш грознага кандзейшчыка на лагпункце не было, а ў любошчах і рукаты не дакажа. Яна балбоча адкрыта і бессаромна. А адбывала яна свае дзесяць гадоў за... нават пісаць гідка і страшна. За людаедства. Маленькая, куртатая, гаваркая — канібал новай фармацыі.

Калі ў 1933 годзе галодная смерць выкошвала ўкраінскія сёлы і ўжо не было каму хаваць нябожчыкаў, Марыя засекла і з'ела сваё дзіцятка. Потым бажылася, што ў яе адняло розум: «Тількі адно було в голові — істы, істы і істы. А воно вжэ ходыть не здоліло, хоч і годувала його як могла. Як цэ було, хоч забі, не пам'ятаю». Марыя Дарошка была не адна. Траплялiся з такою ж віною, як яна, прыстойныя з выгляду кабеты, але з імі нават за адным сталом было сядзець гідка: кусае хлеб, а вярзецца — грызе чалавечыну. Хто ж вінаваты ў гэтай бядзе? Хто давёў жанчыну, маці да канібалізму, да страты памяці, да такога падзення? На Украіне, у Паволжы ў 1932 — 1933 гадах памерла ад голаду каля дзесяці мільёнаў няшчасных, дзяржава ў той жа неўрадлівы год прадала за мяжу 12 мільёнаў цэнтнераў збожжа, а дарошкі елі сваіх дзяцей.

У гэтым этапе больш за ўсіх мяне зацікавіў Апарын. У яго доўгім абліччы і ў выразе вачэй было нешта трагічнае і глыбакадумнае. Мы разгаварыліся. Ён — буйны інжынер-энергетык. Дайшоў на павале і, на мяжы пелагры, трапіў у бальніцу, а выйшаў адтуль інвалідам. Што ж, будзе мець гарантаваную чатырохсотку, пойдзе на кухню абіраць мёрзлую бульбу, збіраць у сталоўцы слізкія драўляныя міскі за порцыю баланды. Мы з ім зайшлі ў мой закутак у бараку, каб спакойна пагаварыць. Частаваць не было чым. На тумбачцы стаяла поўная сальнічка. Апарын угледзеўся, і ў яго прагна захадзілі жалвакі. «Дазвольце мне трошкі солі». Я прапанаваў адсыпаць колькі трэба, а ён дрыжачаю рукою сыпаў буйныя драбкі ў рот, сквапна перамолваў

доўгімі пачарнелымі зубамі і глытаў як найлепшы ласунак. Потым растлумачыў, што ў яго пачынаўся псіхоз ад недастачы солі. Мы сталі з ім сябрамі. Яго забралі з арміі «за вальнадумства». Ён і тут абураўся, што бяздарныя камандзіры губяць цэлыя дывізіі, а лепшыя палкаводцы вынішчаны напярэдадні вайны. Я яго перапыняў, мігамі паказваў на баковачку «кума», казаў, што тут і сцены маюць вушы, а ён не зважаў і гаварыў сваё.

Перад Новым годам на лагпунктаўскай электрастанцыі згарэў генератар. Усё патанула ў змроку. Як у першыя дні, вакол зоны палалі вогнішчы, чорныя цені баракаў гайдаліся на паружавелым снезе, у канторы, санчасці і сталоўцы мільгалі каганцы. Генератар трэба было везці на завод, чакаць, пакуль прымуць, а рамонт зойме не меней як тры месяцы. Цяжка было жыць упоцемку. Аднойчы Апарын без энтузіязму сказаў, што можна адрамантаваць генератар на месцы. Патрэбен толькі ізаляцыйны матэрыял і два абмотчыкі. Я пабег да начальніка. Той з недаверам выслухаў мяне і ўсё ж паклікаў Апарына. Глядзеў на яго скептычна, відаць, падумаў — захацеў дахадзяга пакантавацца на ўзмоцненым пайку, але довады Сяргея Дзмітравіча былі пераканаўчыя, ды ён не вельмі і набіваўся з паслугамі. Паслаў начальнік экспедытара за патрэбнымі матэрыяламі, даў на выбар абмотчыкаў з непаўналетак, і закруцілася работа: пры газніцах працавалі да поўначы. Праз тыдзень на лагпункце загарэлася святло. Начальнік, відаць, стрымліваў эмоцыі, калі дзякаваў Апарыну, загадаў карміць па трэцім катле, апрануць ва ўсё новае і прызначыў загадваць усёй энергетыкай.

Запыніў мяне неяк каля сталоўкі сціплы панылы чалавечак, што запомніўся мне ў апошнім этапе па энкавэдысцкай кубанчцы. «Землячок, вы тут даўно, усіх ведаеце, калі можаце, ратуйце мяне. Маё прозвішча Лукашонак. Можа, чулі?» — «А як жа, чуў, калі з мяне на «канвееры» выцягвалі жылы, каб далажыць таварышу Лукашонку». — «Мы ведалі, што вы ні ў чым не вінаваты. Але што маглі зрабіць? З нас патрабавалі... і мы мусілі». — «Ратавалі свой дабрабыт крывёю і жыццём тысяч невінаватых. А вы як сюды трапілі? Што ўзарвалі? На каго рыхтавалі замах?» — «Хутчэй за верную службу. Спачатку ўсіх узнагародзілі ордэнамі, урачыста іх уручалі, а потым загналі ў «амерыканку». Кунцэвіча, Лаймана, Карэліна расстралялі, Басянкевіча, Шліфенсона і ўсіх астатніх адправілі на Калыму, а мне ўшпілілі чырвонец. Блатары лаюць «лягавым», заганяюць пад нары... Не дайце загінуць, землячок». — «Перш за ўсё

спаліце сваю чэкісцкую «камілаўку». Хіба не разумееце, што яна вас здалёку выдае. Я вас яшчэ за вахтаю пазнаў».

Па брудных, даўно не мытых запалых шчоках Лукашонка беглі два светлыя струменьчыкі слёз. Ён іх выціраў закарэлым рукавом целагрэйкі. «Схадзілі б да «кума», можа б, памог свайму аднакроўніку». — «Хадзіў, і слухаць не хоча. Усе ацураліся, і жонка выраклася...»

Мабыць, у мяне нешта было ад талстоўства — караць дабратою. Для тых, у каго хоць трошачкі асталося сумлення, — найбольшая кара, а нягоднік нягоднікам і памрэ. Я папрасіў нашага земляка Андрэя Андросіка, каб узяў Лукашонка на кухню абіраць мёрзлую бульбу і качаць ваду. Няхай жыве і адпакутуе свой чырвонец. Ён здалёк мне ліслівa кланяўся і здымаў прапалены малахай. У ім стаў падобен да звычайнага чалавека. Як яго склаўся лёс, не ведаю, бо ў лютым 1943 года тэрмінова расфарміравалі лагпункт і вызвалілі зону для немак з Паволжа.

Пачалася паніка: разлучаліся сябры, напарнікі; сувязі ўзаемнай дапамогі і выручкі рваліся назаўсёды, расставаліся звязаныя патаемным каханнем блізкія людзі. Многія з плачам упрошвалі начальніка, каб адправіў разам, а ён рабіў усё наадварот. Такая была ўстаноўка чэкісцкага аддзела, каб людзі не прыціраліся адзін да аднаго, рабіць усё як найгорш для зняволеных. Жанчын пераважна адпраўлялі на трэці асобны лагерны пункт. Туды ў пачатку вайны эвакуіравалі швейную фабрыку. Яна выпускала вопратку для арміі і для лагернікаў, а матарыстак бракавала, вось і павезлі змізарнелых на пагрузцы і павале дзяўчат у швачкі. Адпраўлялі і маю «падшэфную» Алю.

Пераводзілі на трэці лагпункт інспектара УРЧ Ліду Сярову. Яе бацька служыў у лагеры вольнанаёмных дзесятнікам. Хударлявы з чорнаю бародкаю дзядок хадзіў з метроваю меркаю і заўсёды на сярэднім падпітку. Ні шкоды, ні карысці ад яго нікому не было, але трымалі дзеля «аб’ектыўнага» кантролю. Лідка была яго малодшая дачка. Я яе помніў дванаццацігадоваю дзяўчынкаю. Ці не ў шаснаццаць гадоў яна выскачыла замуж за стралка Арэшнікава, яго адразу забралі на фронт, азваўся адным лістом і кануў без следу. А «саламяная» ўдава стала інспектарам УРЧ, строіла з сябе начальніцу. У асноўным яна падпісвала гатовыя зводкі, а я іх складаў, як трэба было начальству. З маім артыкулам да ўліку нельга было і блізка падпускаць, але Лідка мяне ратавала кожны раз. Бывала, выганяць у грузчыкі, а яна тыдні праз два-тры верне зноў. Угаварыла Ліда адправіць і мяне на трэці лагпункт, баючыся, што там не адразу знойдзе сабе парабка. Парабкавалі ў бухгалтэрыі, у планавай часці, у

КВЧ, а начальнікі камандавалі, пакрыквалі і палучалі зарплату. І я марыў трапіць на адзіны, «нелесапавальны» лагпункт, ды і баяўся страціць сімпатычную мне Алю.

Да цяплушкі на станцыю Лапшанга вялі нас блакітнаю месячнаю ноччу. Паперадзе на развалках ехала Ліда з двума чамаданчыкамі. Часам падсаджвала на сані каго-небудзь з саслабелых дзяўчат. Над конікам курыўся парок, рыпелі палазы па ўкатанай дарозе. Свяціў вялікі месяц на ўсыпаным зоркамі небе, паблісквалі вострыя кончыкі штыхоў на вінтоўках нашых канваіраў. Яны ведалі амаль усіх нас і не надта былі лютыя ў дарозе.

## АПОШНІ ЛАГПУНКТ

Пасля лесапавальных трэці лагпункт здаваўся курортам. У лес хадзіла толькі адна брыгада рэзаць дровы для зоны, фабрыкі, электрастанцыі і цэхаў шырпатрэба. Ад вахты да сталоўкі вяла шырокая бярозавая алея, з-пад снегу тырчала сухое бадылле леташніх кветак, баракі атынкаваныя і пабеленыя. Да жылой зоны прымыкае вялікі сталярны цэх, некалькі сушылак драўніны, кухня, склад піламатэрыялаў і гатовай прадукцыі, наступныя — зона швейнай фабрыкі. У сталярні чырванадрэўшчыкі і мастакі-рэзчыкі па спецзаказах робяць паліраваную, з прыгожымі інкрустацыямі мэблю, плінтусы, панелі для кабінетаў ГУЛАГа, выразаюць шахматныя фігуры, лыжкі, точаць гузікі. І ўсё пад дахам, у адносным цяпле. Вырвацца з лесу — мара кожнага зэка. У механічным цэху звіняць цыркуляркі і фугавальныя станкі, на двары — горы пілавіння, валіць дым з сушылак.

Швейная фабрыка працуе ў тры змены. Тут шыюць ватнае адзенне, гімнасцёркі, плашч-палаткі і маскхалаты, рукавіцы для арміі, бушлаты і целагрэйкі — для лагернікаў.

Тут смертнасць значна меншая, але ўсё роўна цэлы барак займае «слабасільная каманда», каля хлебных кропак сланяюцца з закуранымі кацялкамі, нешта вараць у кар'еры каля цагельні і ўсё каштуюць сваё варыва з падабраных каля сталоўкі адкідаў. Харчы тут, як і скрозь, — памерзлая бульба, турнэпс (дзе яго столькі бралі?), вотруб'е, праўда, трошкі лепшы хлеб. Аля пайшла матарысткаю на фабрыку, а мяне Ліда пакуль што ўсватала брыгадзірам на пагрузку. На чыгуначную ветку прыбывалі вагоны з «метражом», цюкамі ваты, скрынкамі нітак. Усё гэта мы

згружалі ў склад, а паражняк напакоўвалі гатовай прадукцыяй фабрыкі. Гэта ўсё ж не бярвенні качаць, не шпалы і дровы цягаць за трыста метраў. Вагоны пераважна падавалі ноччу. Стралкоў не хапала, і начальнік вырашыў сабраць брыгаду з бесканвойных. Я адбыў тры чвэрткі свайго «чырвонца», у фармуляры амаль не было спагнанняў, ды і Ліда, пэўна, закінула слова, спадзеючыся ўзяць у памочнікі, а самой біць лынды. І мне выдалі пропуск бесканвойнага. О-о, гэта ўжо нешта значыла. Я мог хадзіць па тэрыторыі лагпункта і нават ездзіць у цяплушцы з дазволам начальніка.

Адчуваю, нехта з вас папракне: «Э-э, браце, дык табе шанцавала, умеў прыстасоўвацца, не столькі рваўся на рабоце, колькі прыдурваўся». А няўжо, каб не вылазіў з лесу і загнуўся, было б лепш? Ведаю па ўласным вопыце — ніводзін самы дужы ўвесь тэрмін, нават палову не вытрываў на павале і пагрузцы. «Стаханаўскія» брыгады Ложкіна, Карагодзіна, Яфанава заносілі на чырвоныя дошкі, карцілі на сцэне, каб усе бачылі, давалі па малюсенькай белай булачцы. І ніхто з гэтых «стаханаўцаў» не дацягнуў да канца тэрміну. Усіх павывозіў Кастроў за вахту з фанернымі біркамі на назе. Выжылі толькі тыя, каму хоць трохі пашанцавала пракантавацца на лёгкіх работах. Некаторыя дацягнулі да нашых дзён. Ці не лёс іх абраў сведкамі народнай трагедыі?

І мне наканавана было выжыць, каб хоць збольшага расказаць пра пакуты маіх «аднабарачнікаў» і «аднабаландnікаў», пра сваю няволю і неадольную прагу жыць, бо не ведаў, якія выпрабаванні яшчэ чакаюць мяне, але, каб і прадбачыў, усё адно чапляўся б за жыццё: ніводная ж фантазія не магла ўявіць усяго, што мне давялося перажыць, пабачыць на сваім вяку і стаць сведкам, калі праўда стала Праўдаю. Дзеля гэтага трэба было жыць.

А тады я быў шчаслівы, атрымаўшы пропуск бесканвойнага. Гэта ўжо невялічкая палёгка: можна праскочыць у ягады, на падсобнай гаспадарцы высмыкнуць морквіну, выпрасіць агурок. Пасля пагрузкі я забягаў хоць трохі адвесці душу да вусатага, суровага з выгляду агранома Бахціна, хваліў яго парнікі і грады, а ён на развітанне што-небудзь соваў мне ў кішэню. Я свой вітамінны набытак заўсёды адносіў Алі. Яна аднеквалася і дзяліла ўсё пароўну. Я ўжо да драбніц ведаў яе кароткае жыццё ў невялічкім рабочым пасёлку ў сям'і гутніка. Правучылася два гады ў педінстытуце, а калі ў 1939 годзе ўвялі плату за вучэнне, вымушана была паехаць настаўнічаць у вясковую школу непадалёк ад свайго пасёлка. На пачатку вайны капала акопы і

супрацьтанкавыя траншэі, а калі да сяла падышлі немцы, пад абстрэлам і бамбёжкаю знаёмымі ляснымі сцежкамі прабілася дадому. Праз некалькі дзён пайшла ў міліцыю аформіць прапіску ў кватэры бацькоў. Пайшла і не вярнулася. Пад канвоем адправілі ў набітую да самых дзвярэй камеру абласной турмы. Следства ні пачаць, ні скончыць не ўправіліся, і пагналі яшчэ адну «следственную» ў лагер. Добра, што далі бытавы артыкул, а маглі ж прыпісаць шпіянаж, здраду радзіме, дыверсію, хоць немцаў яна і ў вочы не бачыла.

Чыстая, светлая, шчырая дзяўчынка стала мне самаю неабходнаю. Я ўжо ведаў, што раннюю сям'ю страціў назаўсёды. У пару маёй маладосці было неабавязковым афармляць шлюб у цесным катушку райвыканкама з шыльдаю «ЗАГС». Лічылася нават абразлівым — нібыта не давяраем адно аднаму і павінны замацаваць адносіны паперкаю. І мой шлюб не быў зарэгістраваны, але гэта не зменшыла пакуты няшчаснай жонкі. Яна з'ехала з Мінска і недзе звязала свой лёс з больш надзейным чалавекам. У мяне нікога блізкага на свеце не засталося: маці памерла за год да майго няшчасця, хоць бацька не напісаў мне ніводнага ліста, забралі і яго за «сувязь з беларускім нацыяналістам». Знік і ён назаўсёды. А чалавеку без спагады, без блізкай душы жыць проста немагчыма. Кароткія сустрэчы з Аляю ратавалі ад безнадзейнай адзіноты, хацелася верыць, што не страцім адно аднаго. І яна са мною не была такою безабароннаю і безнадзейнаю.

Я часам прысвячаў ёй чуллівыя, сентыментальныя вершы, яна іх перапісвала ў самаробны блакноцік і зберагла да гэтай пары. Пісаў я тое-сёе і для КВЧ — пра пакуты акупіраванай Беларусі, пра гераізм воінаў і партызан. Пасля перамогі пад Сталінградам у нас уключылі радыё, часам траплялі газеты, і мы прагна лавілі кожнае слова з волі, з вайны, з родных мясцін.

Начальнікам КВЧ у нас быў светлы, кучаравы Веня Камракоў — сын начальніка суседняга лагпункта, белабілетнік па блізарукасці. Не надта адукаваны, але начытаны і ўлюбёны ў паэзію і сам пісаў неблагія вершы то пад Лугаўскога, пад Карнілава, то пад Багрыцкага. Нас зблізіла паэзія. Веня ўцягнуў мяне ў самадзейнасць. Пачаліся патрыятычныя мітынгі, нас заклікалі працаваць для фронту, для перамогі. І працавалі, не шкадуючы сіл. Некаторыя матарысткі на фабрыцы самі заставаліся на другую змену: садзіліся за незаняты матор, але, знясіленыя, здаралася, засыналі на канвееры, прышывалі пальцы, у трансмісію траплялі валасы. Слабых і сонных выпраўлялі

ў барак, а яны хаваліся за цюкамі ваты, каб зноў заняць вольнае месца. Тамара Сахарава, нікога не баючыся, крычала дырэктару фабрыкі: «Вы тут хаваецеся, тылавыя пацукі, а мой бацька і брат замярзаюць пад Ленінградам, я хачу, каб гэтыя целагрэйкі сагрэлі іх». Некаторыя матарысткі на падкладцы целагрэек пісалі: «Дарагі воін, бі фашыстаў! Няхай табе будзе цёпла. Прывет ад Олі Громавай».

Часта Камракоў угаворваў мяне прачытаць вершы на мітынгу або вечары самадзейнасці. Пісаў паспешліва, але шчыра, бо душа балела за родны край, бо сам колькі разоў прасіўся на фронт.

Самадзейнасць на лагпункце была амаль прафесійнай. Кіраваў ёю былы галоўны рэжысёр Сімферопальскага тэатра, былы вучань Станіслаўскага Амар Галімавіч Дзевішаў, пры ім быў некалі прафесійны балетмайстар, стары ўжо чалавек, з апухлымі нагамі, але пластычнымі рухамі, Уладзіслаў Станкевіч, музычную частку ўзначаліла дацэнт Маскоўскай кансерваторыі Вера Туроўская, быў і таленавіты піяніст-імправізатар Яўген Бродскі. Ён адбываў свой не надта вялікі тэрмін на пасадзе інспектара КВЧ. Трымалі і такую адзінку, бо зняволеных было больш за дзве тысячы чалавек. Камракоў меў добры густ і не замінаў Дзевішаву і Бродскаму. А яны, фанатыкі тэатра, знаходзілі адзінае адхланне ў лагерных спектаклях і канцэртах. Пры клубе былі два мастакі — крымінальнік Іван Ціханаў і былы дэкаратар нашага беларускага тэатра оперы і балета Віктар Шэйно.

Любіў і падтрымліваў самадзейнасць начальнік лагпункта лейтэнант Сцяпан Гаўрылавіч Цокур. Сярэдняга росту, крутаплечы, кучаравы, губасты, суровы з выгляду, у блакітнай, ссунутай на вочы чэкісцкай фуражцы, ён быў ці не найлепшы з усіх папярэдніх начальнікаў.

Нездарма многія яго звалі «Баця». Ён мог накрычаць, абляць, загадаць пасадзіць на дзесяць сутак, а цішком буркнуць дзяжурнаму: «Адвядзі гэтага дахадзягу ў сталоўку, накармі, турні ў барак і скажы, каб болей не рыпаўся».

Зімою Цокур надумаўся ўпрыгожыць зону снежнымі скульптурамі. Знайшоўся і майстра — цыбаты, у драцяных акулярах, заўсёды з кропляю пад носам Коля Лейзераў. Сын дыпламата, студэнт ІФЛІ, кволы і непрактычны хлопец трапіў у лагер за тое, што ён сын «шпіёна і ворага народа». Яму Цокур загадаў каля сталовай зляпіць са снегу двух сланоў у поўны рост. Чаму сланоў, мабыць, не адказаў бы і сам начальнік.

Вечна прастуджаны Коля на сцюжы ставіў каркасы, вёдрамі цягаў снег, ляпіў, шліфаваў лапаткаю, выгладжваў і выштукоўваў вушы, хобат, біўні. Паглядзеў Цокур на гатовую работу і загадаў дарабіць дэталі, якія звычайна закрываюцца фігавым лістком. Потым па загадзе начальніка Лейзераў і Шэйно зляпілі з гліны, апалілі ў ганчарнай печы паменшаную копію скульптуры Мухінай. Рабочы і калгасніца павінны былі натхняць арыштантаў на ўдарную працу.

У маладосці ў родным украінскім сяле Цокур быў настаўнікам пачатковай школы. У арміі трапіў ва ўнутраныя войскі, потым камандаваў узводам аховы лагера на будаўніцтве магістралі Мінск — Масква. За нейкае парушэнне пратрымалі яго некалькі месяцаў у вяземскай турме, а калі выкруціўся, «сістэма» ўжо не адпускала свае кадры. Душа ў яго была спагадлівая і добрая, а абавязкі суровыя, планы жорсткія, рэжым і вышэйшае начальства — бязлітасныя. Цокур навучыўся круціцца ў няспынным коле патрабаванняў, абавязкаў, прымусу і спагады. Мастацтва ён любіў з маладосці. Для спектакляў на дэкарацыі і касцюмы адпускаў з фабрыкі ўпаковачную марлю, а Дзевішаў і мастакі рабілі выдатныя заднікі, шылі фракі і старажытныя камзолы для спектакляў класічнага рэпертуару. Ставіліся п’есы Гальдоні, Мальера, Астроўскага, «Разлом» Лаўранёва, «Слава» Гусева і пушкінская «Русалка». Калі нельга было дастаць п’есу, Дзевішаў дакладна ўспамінаў свае колішнія спектаклі, перапісваў тэксты, узгадняў з Туроўскаю і Станкевічам і пачынаў рэпетыцыі.

Людзі на спектаклях і канцэртах хоць на некалькі гадзін забываліся пра сваё гора. Ахвотнаігралі і самадзейныя артысты, каб не толькі думаць адно і тое ж, каб хоць на сцэне адчуць сябе чалавекам. Пасля прадстаўлення з дазволу начальніка нас карміў дадатковаю вячэраю загадчык сталоўкі Лазар Самуілавіч Гільман. Мы з ім былі землякі — абодва з Магілёўшчыны. Гільман у мінулым — чэкіст з вялікім стажам і вопытам, а да арышту працаваў наркамам унутраных спраў Казахстана і, вядома, з абавязкамі спраўляўся паспяхова. У канцы 1937 года яго выклікаў сам Яжоў. Гільман прыбыў у Маскву ў службовым вагоне і адразу з’явіўся да «гаспадара». Наркам спадзяваўся на павышэнне або на перавод у якую-небудзь бліжэйшую да цэнтра рэспубліку, а пра спагнанні і думкі не было: арышты казахскіх «нацыяналістаў» ішлі поўным ходам, турмы былі забітыя поўнасцю, тройкі працавалі як трэба.

Прыёму гаспадара ён прачакаў гадзін да пяці вечара. Патрымаў Яжоў яго некалькі хвілін па стойцы «смірна», папракнуў,

што слаба працуе, мала выявіў ворагаў, загадаў актывізаваць аператыўную работу і зараз жа ехаць у Алма-Ату. Ноччу Гільман вяртаўся ў сталіцу Казахстана, па дарозе прыкідваў, каго яшчэ з «кітоў» можна ўзяць. Праз некалькі станцый ад Масквы ў купэ ўвайшлі тры малайцы ў цывільным, раззброілі казахстанскага наркама, прад'явілі ордэр на арышт, падпісаны Яжовым два тыдні назад, перасадзілі ў машыну і прывезлі на Лубянку ў адзіночку. Далі яму не многа, усяго пяць гадоў. Быў ён у лагеры бесканвойным начальнікам пагрузачнай калоны, загадваў прадуктовай капцёркаю і вось цяпер — сталоваю. Былы наркам цягнуўся перад лейтэнантам Цокурам і яго намеснікам, маладзенькім параненым франтавіком Лацьковым.

А начальнікам усяго лагера быў палкоўнік Пачтароў. Улада яго тут была неабмежаваная. Сто кіламетраў чыгункі, трыццаць лагпунктаў, дзесятак падкамандзіровак, сотні тысяч зняволеных, больш за тысячу вольных, уласны самалёт, салон-вагон. Лепшыя мастакі з усяго лагера распісвалі казачнымі сюжэтамі пакоі яго сына, чырванадрэўцы-разьбяры рабілі унікальную мэблю, былыя мадэльеры сталічных салонаў абшывалі яго сям'ю, начальнікі лагпунктаў даведваліся пра яго гастранамічныя густы і дагаджалі, як толькі маглі. Да яго прыезду ў зоне дарожкі пасыпалі жоўтым пясочкам, варылі гусцейшую баланду. Абходы Пачтароў часта пачынаў з кухні. Гільман перад ім цягнуўся ў струнку, хоць і вытыркалася чэрава, і зычна рапартаваў: «Гражданін начальнік, на катлавым давольствіі...» Пачтароў ляпаў яго па плячы: «Брось, старик. Как поживаешь? Не горюй. Скоро мы тебя определим». Пачтароў некалі быў у Гільмана ад'ютантам і цяпер спрыяў яму.

Увечары для Пачтарова давалі спецыяльна падрыхтаваны канцэрт. Выступалі некалі прафесійныя спявачкі Галя Істратава, Клава Крылова і выцягнуты з дахадзяг былы саліст маскоўскай аперэты Косця Штурм. Акрыялы і прыстойна апрануты, з добра пастаўленым голасам, ён зачараваў усіх рамансамі і франтавымі песнямі. А трапіў ён да нас з нейкай франтавой канцэртнай брыгады, за анекдот. Пакуль яго не падабраў Камракоў, Штурм у асноўным штурмаваў сметнікі і скрынкі з кухоннымі адкідамі. Лепшых салістаў Пачтароў загадаў прэміраваць картовымі касцюмамі па мерцы. Стрымаў ён і абяцанне свайму былому начальніку Гільману. Яго вызвалілі без права выезду з лагера і прызначылі намеснікам начальніка інваліднага лагпункта. Там адкрылі гадзіннікавую майстэрню — зборку з гатовых дэталяў.

З трафейнага плексігласу дахадзягі выпілоўвалі і шліфавалі пісьмовыя прыборы з выяваю Спаскай вежы і гадзіннікам у цэнтры. І пасля вайны гэтых «шэдэўраў» лагернага мастацтва было поўна ў магазінах Масквы, Горкага, Калініна, і ніхто не здагадваўся, чыімі рукамі яны выпакутаваны.

Гільман на новай пасадзе выпрастаўся, у голасе пачуўся метал і інтанацыі загаду. Добра толькі, што не азвярэў, а некаторыя начальнікі з былых нявольнікаў, каб утрымацца на службе, станавіліся асабліва лютымі і няўмольнымі.

## СЫНЫ ЭЛАДЫ

За зонаю прайшло і спынілася чалавек сорак вайскоўцаў без зброі, з рэчавымі мяшкамі, у многіх на злінялых прапацелых гімнасцёрках — ордэны.

Змораныя няблізкай дарогай, запыленыя і няголеныя, яны паселі на траве каля інструменталкі, здзіўлена і са страхам глядзелі на дзве рэдзі калючага дроту, на вышкі з вартавымі і паціху перагаворваліся на незнаёмай пявучай мове. Прывёў іх лейтэнант унутраных войск. Ён з вялікім партфелем прайшоў да начальніка лагпункта, праз некалькі хвілін туды ж паспяшаліся камандзір узвода аховы Грыгарэнка і «кум» Марозкін. Пакуль яны нешта вырашалі, салдаты прынеслі пайкі хлеба і два бачкі з баландою і кашаю. Агаладалыя вайскоўцы прагна елі арыштанцкую страву.

Неўзабаве да іх выйшлі Марозкін з Грыгарэнкам, нешта даволі ціха пагаварылі, падвялі да інструменталкі, салдаты пабралі пілы, сякеры і рыдлёўкі і з двума стралкамі без вінтовак пайшлі ў лес па дарозе на вёску Пруды.

Што за вайскоўцы, адкуль яны, навошта прыгналі сюды, ніхто не ведаў. Але і ў лагеры сакрэты трымаюцца не больш двух-трох дзён: гэта на фронце знялі з перадавой крымскіх грэкаў, пагрузілі ў вагоны і прывезлі сюды, але не загналі ў зону: яны ж не асуджаныя, амаль усе з ордэнамі, гвардзейскімі значкамі і нашыўкамі раненняў, многія члены партыі. Завялі іх у гушчар каля вёскі Пруды, загадалі ставіць сабе буданы, капаць зямлянкі і валіць лес «на патрэбы фронту».

У некага «наверсе» ўзнік недавер не толькі да крымскіх татар, але і да грэкаў. Усе яны нарадзіліся, выхаваліся на савецкай зямлі, прынялі і засвоілі патрэбную ідэалогію, сталі камуністамі,

адважна ваявалі на перадавой, а ім не верылі толькі таму, што яны грэкі.

Праз пару дзён захмарыла, грымнула, рассекла небасхіл бліскавіца, з ветрам лупянуў дождж і не сціхаў двое сутак. Мы былі ў бараках, а нядаўнія воіны моклі і курчыліся ад холаду на голай зямлі ў буданах з яловага лапніку.

Іх экспедытар часам прыходзіў у лагер па прадукты. Ад вахты па зоне яго вёў стралок, каб «не ўступаў у кантакт з лагернікамі». Бесканвойныя з конбазы траплялі ў «Лясную Эладу», гаварылі з пакутнікамі-ардэнаносцамі і камуністамі без дакументаў. Іх партбілеты і вайсковыя кніжкі ляжалі ў сейфе Грыгарэнкі.

Новыя лесарубы ледзьве авалодвалі чужою для іх спецыяльнасцю. Днём іх заядалі авадні і сляпні, ноччу даймала плойма камароў, твары і рукі распухалі, гнаіліся пухіры. Жылі яны ў трохі лепш дагледжаных буданах, прыкіданых ссохлаю яловаю карою, страву варылі на вогнішчы ў вялікім казане, ваду насілі з копанкі, хадзілі зарослыя і брудныя. Але вольныя іх называлі «таварышамі», камуністаў запрашалі на партыйныя сходы ў чырвоны куток ваенізаванай аховы, а «вольныя» грэкі зайздросцілі нам, што жывём і працуем пад дахам.

Аднойчы мне давялося пабачыць іх лагер. А было гэта так: начальнік гаспадарчай часці, звольнены па раненні Шылаў, загадаў мне раніцай падаць да вахты асядланых коней начальніка, упаўнаважанага і загадчыка конбазы і самому сабрацца ў дарогу на ўвесь дзень. Куды, дзеля чаго ехаць, пытаць не дазволена.

Толькі я пад'ехаў да канавязі, з вахты выйшлі з цяжкімі партфелямі ўпаўнаважаны оперчэкісцкага аддзела Марозкін і Шылаў, селі ў сёдлы і загадалі ехаць следам. Марозкін хвастануў буланага стаенніка, закурыў пыл, і ён знік у гушчары лясной дарогі. Мы ехалі павальней. Відаць, Шылаву раненне давала сябе знаць на сядле.

Хутка пачуліся ў лесе галасы, гул і трэск спіленых сосен, пахла дымам лаўжоў. Налева ад дарогі была дзялянка «вольных» грэкаў.

Мы прыехалі ў кержацкую вёску Пруды. Марозкін ужо рассядлаў каня і чакаў нас каля вялікага, на два паверхі, дома. Унізе былі стайня, катухі для свіней, курэй і авечак, свіронак і кладоўка. Некалькі прыступак вялі ў хату. Сцены з чэсаных векавых соснаў адлівалі бурштынаваю жаўцізною, вышараваная да бляску падлога, пабеленая печ з умазаным люстэркам, мноства вазонаў здзівілі мяне чысцінёю і акуратнасцю.

Мае начальнікі пабралі партфелі, і мы пайшлі праз сталочаны кароўмі і коньмі выган. Быў пачатак верасня, дзьмуў сіверны

вецер, неба засцілалі нізкія хмары, часам паміж іх бліскала і знікала сонца. Перад намі была шырокая з крутымі берагамі лясная рака Кержанец. Вада здавалася свінцова-сіняю, узвіхраныя хвалі біліся ў глеістыя берагі. За ракою стаялі скіты і каплічкі колішніх раскольнікаў. Вось чаму многіх старавераў завуць «кержакамі». Яны гэтую назву прынеслі і ў Сібір.

Марозкін загадаў мне распранацца. Дзеля чаго, я адразу не мог уцяміць. «Казалі, што ты добра плаваеш, вось і паплавай на агульную карысць. Цяпер закурвай». Закурылі і яны, дасталі з партфеля тры пляшкі з нейкім жаўтаватым парашком і правадкамі, уткнутымі ў рыльцы. Адну пляшку далі і мне. «Як толькі загарыцца шнур, кідай далей пляшку ў ваду». Папяросамі падпалілі запалы, і паляцелі пляшкі ў рэчку. Над хвалямі пагайдаліся тры дымкі, магутны выбух скалануў берагі, пасярэдзіне ўзняўся высокі фантан мутнай вады, і хвалі ўкрыліся белымі чэравамі вялізных ляшчоў, лінёў і акунёў. «Хутчэй плыві і выкідай на бераг!» Я кінуўся ў сцюдзёную ваду, хапаў коўзкія рыбіны, а яны, недаглушаныя, выкоўзваліся з рук. Штук пяцьшэсць паспяваў выкінуць на бераг, астатніх зносіла хуткая плынь.

Дрыжучы, выбіраўся з ракі, браў прыкураную папяросу, і зноў ляцелі ў ваду пляшкі з толам. Вада пакрывалася глушанаю рыбаю, я стараўся вылавіць як мага больш, але набытак быў невялікі. Больш ішло ў глум. Марозкін мацюкаўся і камандаваў: «Хапай вунь тую! Пад жабры яе! Ты што як нежывы паварочваешся?! Трымай шчупака!» Пасля апошняй закідкі я ледзьве выпаўз на бераг — біла ліхаманка, з рота лілася вада, ссінелае цела ўкрылася пупышкамі. Невялікі набытак склалі ў дзве торбы. Прадзьмутыя ветрам, дрыжалі і мае начальнікі. Подбежкам выправіліся ў вёску.

Марозкін загадаў гаспадыні смажыць рыбу, кінуў на стол некалькі рублёў, каб дзе хоча дастала гарэлкі. «На чем-то жарить, начальник? Жиров нетути никаких. На сметане разве?» — «Давай на чем хошь!» Самагонку гаспадыня прынесла ў паўлітровым слоіку. На прыпечку на трынозе з трэскам смажылася рыба. Я ўсё яшчэ калаціўся пасля прымусовага купання. Марозкін разліў самагонку ў кантовыя шклянкі, адну падсунуў мне: «Погрейся и не дрожи, как шелудивый щенок, да не вякни, что уполномоченный подносил».

З непрывычкі хата і мае начальнікі паплылі кругам. Калі даелі рыбу, Марозкін захапіў свой партфель, спрытна ўскочыў у сядло і паехаў наперад. Мы з мокрымі торбамі рыбы ехалі павольна.

Я пацікавіўся ў Шылава, куды столькі рыбы. Ён змоўчаў. «Можа, ударніцам на прэмблюда?» — «Бач, чаго захацеў. Пачтароў прыязджае з праверкаю. Ён, кажуць, вельмі любіць свежую рыбу. Я сыду каля дома, а ты торбы занясеш начальніку».

Далей ехалі моўчкі. Шылаў звярнуў на разбітую лясную дарогу, і мы прыехалі да грэкаў. У іх ужо было некалькі зямлянак і шчыльных буданоў, пад стрэшкаю — кухня і сталоўка з двума доўгімі сталамі і лавамі.

Гэтыя напалову вольныя лесарубы лічыліся атрадам, а брыгадзір — камандзірам. Да нас падышоў невысокі, ладны, зарослы густою шчэццю капітан з многімі баявымі ўзнагародамі. З Шылавым ён гаварыў неахвотна, на пытанні адказваў абыякава, ды і не было ім пра што гаварыць. «А жывецца нармальна. Усім задаволены, толькі з богам не ў ладах — часта нас палівае, а мы не расцём, больш згінаемся». Гукнуў некага з лесарубаў, казырнуў і пайшоў на лесасеку.

Салдаты ў прасмоленых да хрусту гімнасцёрках, падраных на каленях штанах і брыджах, зарослыя і змрочныя, валілі векавыя сосны, церабілі іх і скочвалі ў штабелі піловачнік. Пайкі ім давалі трохі большыя, чым нам, у лазню прыводзілі два разы на месяц, але ніхто з іх не хацеў галіцца.

Канвою ў іх не было, але не было і ніякіх дакументаў. Хадзіць ім дазвалялася не далей вахты і вёскі Пруды. Прадукцыю іх прымаў вольнанаёмны дзесятнік, пайкі налічала лагерная бухгалтэрыя, хворых стралок прыводзіў у нашу санчасць. Так яны пакутавалі, пакуль не ўдарылі маразы і не закруцілі мяцеліцы. І зніклі сыны Элады гэтак жа нечакана, як і з'явіліся. А куды, ніхто не чуў і не ведаў.

## ФЕДЗЯ БЕЛЯНОЎ

Прыбыў вялікі этап з варонежскай турмы. Пераважна былыя старасты і паліцаі. Адносіны ў нас да іх былі аднолькавыя — пагарда і нянавісць. Лёсы нашых родных на акупіраванай тэрыторыі былі трагічныя, таму фашысцкіх паслугачоў ніхто не хацеў прымаць у сваю брыгаду, не хацелі з імі жыць у адным бараку, паселеных сілком заганялі пад нары, не адказвалі на пытанні.

Было ў этапе некалькі вайскоўцаў. Хто трапіў за непаслушэнства, хто за неабачліва сказанае слова, за празмерна праўдзівы ліст. Працавалі яны на шырпатрэбе і трымаліся ад

варонежцаў асобна. Былы капітан, малады, інтэлігентны Федзя Беляноў на цыркулярцы раскройваў дошкі на плінтусы, на карнізы і вузенькія рэйкі. Аднойчы піла выбіла брусок, левая рука сарвалася і... далонь звалілася на станіну. У дваццаць пяць гадоў Федзя стаў інвалідам. Пасля бальніцы паставілі днявальным у сталоўцы. Ён па чарзе запускаў брыгады, сачыў, каб не выносілі міскі, потым іх збіраў на лано і адносіў мыць. Ганяў «шакалаў», каб не шасталі сярод рабацяг, не кралі пайкі і прэмблюды. Асабліва нахабны быў малы, гугнявы, з тварам, як цвікамі, пабітым чорнымі вуграмі Пеця Петухоў, Федзя быў старанны і сумленны днявальны. Рабацягі яго слухаліся і паважалі, а «шакалы» баяліся і ненавідзелі. Пры сталоўцы Федзя добра ад’еўся, пакруглеў, пачырванеў. Убачыў яго на абходзе начальнік і загадаў адправіць на шырпатрэб у сушылку. Работа там не цяжкая: падкінуў у печ абрэзкаў і пілавіння, сядзі і грэйся, пакуль не прагарыць.

Зменшчыкам у Белянова быў той самы «шакал» Петухоў. Гаварыць ім не прыходзілася: адзін здаў, другі прыняў змену, і разышліся. Трэцім сушыльшчыкам быў стары, з губернатарскаю, расчэсанаю на два бакі, сіваю барадою Віктар Шахаўцоў. Ён сябраваў з Беляновым, калі той яшчэ стаяў пры дзвярах, а Віктар качаў ваду і насіў дровы на кухню.

Аднаго разу пасля разводу мне сустрэўся спалоханы і задыханы Шахаўцоў. Я пацікавіўся, куды ён так ляціць. «На вахту, на вахту. Бяда ў нас у сушылцы». І стары расказаў: прыйшоў ён змяніць Петухова, а той не ідзе з сушылкі, нешта цягне, марудзіць, загаворвае зубы, а далей і кажа, каб не браў пілавіння з вялікай кучы, бо... там ляжыць... забіты Беляноў. Ноччу, кажа, прыйдзе на змену і да раніцы спаліць Федзю. Старому прыгразіў качаргою, а калі пікне, і ён будзе ў кучы пілавіння. Шахаўцоў думаў, што жартуе Пеця, грабянуў пілавінне, аж і праўда — тырчыць закручаная ў брудны бінт Федзева кукса. Кінуў сушылку і пабег на вахту. Я аслупянеў ад такой навіны. Здаецца, пара была прывыкнуць да смярцей, забойстваў, самарубаў, а тут страшнае было наперадзе.

Калі разгрэблі пілавінне, мяккія месцы на Белянове былі паабразаны, а каля печы валяўся тоўсты дрот і з загнутым канцом. На ім Петухоў смажыў шашлык са свайго зменшчыка. Божа, да чаго мы дажылі, што зрабілася з людзьмі? Дый ці людзі гэта? Петухова забралі ў цэнтральны ізалятар. Ён нічога не адмаўляў, прызнаўся, што даўно хацеў адпомсціць Белянову за тое, што ганяў яго ад сталоўкі, а сам быў сыты. Далі Петухову дзесяць

гадоў «с поглощением неотбытого срока». Фактычна ён страціў адзін адбыты год. Чаму б не забіваць пасля такога пакарання адзін аднаго на шашлыкі?

Праз месяц насупраць вахты спынілася маладая жанчына ў зграбным шынялі з лейтэнанцкімі пагонамі, у хромавых ботах і берэце з зорачкаю. Ад станцыі яна ішла пехатою з ладным чамаданчыкам. Зазірнула ў адчыненую інструменталку і пачала распытваць у пілаправаў, ці не ведаюць яе брата. Тыя адварочваліся, глядзелі ў дол і казалі, што не чулі такога. Побач з інструменталкаю быў ларок для вольных. Пайшлі па хлеб жонкі стралкоў. Убачылі маладзічку ў вайсковым, загаварылі, узяліся распытваць, што чуваць на волі, ці хутка даб'юць немцаў, ці не да мужа прыехала. «Не, — кажа, — да брата. Ён адважна ваяваў, быў узнагароджаны, ды нейкі стукач загнаў за гэты калючы дрот. Можа, чулі, Федзя Беляноў?» Жанчыны змоўклі, а самая гаваркая ляснула рукамі і завойкала: «Спазнілася, маладзічка...» У гэты час з вахты выйшаў начальнік. Франтавічка падышла да яго, прадставілася па ўсёй форме, падала дазвол на асабістае спатканне з братам. Начальнік доўга ўчытваўся ў вузенькую паперку, кусаў губы, нарэшце прамармытаў: «Няма на лагпункце вашага брата. Адправілі яго па спецнарадзе, а ў другім аддзеле, відаць, не паспелі адзначыць. Прабачце. Спяшаюся», — і пабег у бок казармы ўзброенай аховы. А тая языкатая не ўтрымалася і расказала ўсю праўду пра гібель яе брата. Жанчына захлыналася слязьмі і істэрычным крыкам кляла ўсіх і ўсё на свеце: «Звяры, звяры! Гэта вас трэба трымаць за калючым дротам замест сумленных людзей. Фашысцкая куля абмінула майго братачку, дык тут паліцаі даканалі!»

Жанкі суцяшалі яе, угаворвалі як умелі. Але хіба можна суцешыць у такім горы? Начальнік загадаў адвезці на яго стаенніку сястру Белянова на станцыю, а сам так і не адважыўся падысці да яе.

## ТРЫ ПАЛКОЎНІКІ І ЎЗВОД БАПТЫСТАЎ

Чаго толькі не было на трэцім лагпункце! Апрача цэхаў шырпатрэбу і швейнай фабрыкі была даволі вялікая цагельня, падсобная гаспадарка з цяпліцаю і парнікамі, бульбяным і капусным полем, конбаза, а за ёю гарбарня. Засуджаны на восем гадоў за забойства жонкі (за анекдот давалі дзесяць), высокі, прыгожы і шчыгульны Дзмітрый Белакапытаў вырабляў хром і

шаўро на паліто для начальнікаў і іх жонак. Іх абшывалі лепшыя ленінградскія майстры Саша Крылоў і Вася Рамашкін. Побач з гарбарняю была адзіная ў лагеры ветэрынарная лячэбніца і біялагічная лабараторыя. Іх узначальваў мой аднакамернік па магілёўскай турме, былы дацэнт Віцебскага ветінстытута Міхаіл Васільевіч Капітанакі. Некалі ў камеры ўсе паўтаралі яго вершык: «Паечка, паечка, как же ты мила, паечка, паечка, как же ты мала».

Пасля многіх гадоў разлукі мы з Мішам сустракаліся як браты, асабліва калі я атрымаў пропуск. У лабараторыю часта прывозілі на аналізы вантробы, мяса выбракаваных коней і кароў. Пасля даследавання Капітанакі варыў іх і рабіў катлеты, часта дзяліўся і са мною. На палявыя работы, на конбазу і цагельню трэба былі людзі, кожны дзень выгружалі метраж і загружалі вагоны прадукцыяй фабрыкі.

Пад весну з невялікім этапам прыбылі тры палкоўнікі — былы начальнік аддзела бронетанкавага ўпраўлення Генеральнага штаба Іосіф Аляксандравіч Матуль, палкоўнік хімічных войск Герман Пятровіч Арцем'еў і інжынер-палкоўнік Георгій Іванавіч Гускін.

Удзельнік грамадзянскай вайны Матуль даношваў злінялую гімнасцёрку з цьмянымі слядамі садраных ордэнаў. Высокі, статны, са светлымі вусікамі і выразным шырокім тварам, вабіў стрыманасцю і сапраўднай інтэлігентнасцю. Гускіна паслалі на шырпатрэб нешта будаваць, хіміка Арцем'ева — з капытоў варыць сталярны клей.

Праз некалькі тыдняў пасля палкоўнікаў прыбыў цэлы вагон салдат у кароткіх шынялях, абмотках, з паадрыванымі гузікамі і хлясцікамі. Гаварылі яны на заходнеўкраінскім дыялекце, былі палахліва інертныя, ціхія і паслухмяныя. Звярталіся адзін да аднаго: «Брат Іван, брат Грыцко». Артыкул у іх быў адзін — 196 і тэрмін — 10 гадоў. Адразу яны не маглі ўцяміць, куды трапілі. Як толькі наша армія вызваліла Ровеншчыну, дужых мужчын прызвалі ў войска. Яны прайшлі камісію, прыбылі ў часць, абмундзіраваліся, а зброю браць адмовіліся. Як ні ўгаворвалі, як ні загадвалі, нічога зрабіць не змаглі. Служыць яны не адмаўляліся ў абозе, на кухні, у лазарэце, толькі не страляць. Ім тлумачылі, што трэба біць ворага. «Всэ одно — люды, а людыну вбіваты грых». На вайне цацкацца з баптыстамі не было калі, сказалі: «Паедзеце ў часць, дзе не трэба страляць», пагрузілі ў вагоны таварняка, прыставілі некалькі канваіраў і прыгналі на наш лагпункт. Быў з імі і прэсвітэр Анікей Парчук. Пакольκі іх

не арыштоўвалі і не абшуквалі, амаль у кожнага былі Біблія, малітоўнік, рукапісныя кніжачкі самадзейных псалмоў.

Пасялілі іх у асобным бараку, каб «не распаўсюджвалі рэлігійны опіум». Да разводу і перад адбоем Парчук тварыў кароткія малітвы, заклікаў да паслушэнства і цярплівасці, бо ўсе пакуты ад Бога, за грахі малыя і вялікія, свае і людскія. Ціха спявалі два-тры псалмы на палескай мове і строем ішлі ў сталоўку, а потым на развод. За брыгадзіра ім далі палкоўніка Матуля. Грузілі і разгружалі яны без перакураў, старанна і акуратна. Зводдаль брыгада баптыстаў нагадвала нейкае абшчыпанае войска або атрад палонных. Брыгадзір з імі быў уважлівы, усіх называў на «вы», хоць не ўсё разумеў, што казалі яго рабацягі.

Неяк на вахце начальнік пажартаваў: «Ну, як справы, палкоўнік?» — «Выдатна, гражданін начальнік, пайшоў на павышэнне: камандаваў палком, а цяпер вось брыгадай». Не адразу да Цокура дайшоў змрочны гумар, толькі праз некалькі хвілін ён зарагатаў.

На нашу чыгуначную ветку падалі вагон. З яго вылезлі мужчына і жанчына, замкнулі вагон і прыйшлі да начальніка прасіць фурманку. Прадстаўнікі ровенскай абшчыны евангельскіх хрысціян у разгар вайны, калі кожны вагон быў на ўліку, усё ж нанялі адзін з іх, сабралі прадукты і прывезлі ўсім «братам» па мяху пытляванкі і па торбачцы сала. Некалькі фурманак прывезлі «падаянне» на вахту. Пасланцы з Ровеншчыны выклікалі адзінаверцаў па спісе і мех з торбаю аддавалі кожнаму з нізкім паклонам, а «браты» адказвалі: «Хвала Госпаду Богу» і ўціралі слёзы.

Брыгада палкоўніка Матуля павесялела, падужэла на харчах, што прывезлі ім незнаёмыя «брат і сястра». Пасля работы кулеш варылі на невялічкіх вогнішчах каля цагельні і шчыльным заслонам баранілі кухара дужыя і ціхія «браты» ад нападу «шакалаў».

Іосіфа Аляксандравіча ўсе шчыра паважалі: ніхто ад яго не чуў крыку і грубага слова, а ўсе брыгаднікі звярталіся па-вайсковаму: «Таварыш палкоўнік», ён пярэчыў, але так нічога і не дамогся.

Летам брыгада касіла сена для конбазы, ставіла стагі на ўзбярэжжы ціхай лясной ракі Кержанец. На другім беразе дажывалі свой век счарнелыя скіты раскольнікаў. Адсюль і пайшла секта кержакоў. На сенажаці баптысты шчыравалі з асабліваю ахвотаю — выкошвалі кожны лапік, стагі стаўлялі, як лялькі.

Пад восень начальнік прыдумаў Матулю пасаду памочніка па быту. Ён правяраў чысціню ў бараках, кіпяцілцы, у лазні, камандаваў днявальнымі. Перасялілі яго з барака ў невялічкую мазанку каля вахты. Разам з ім жыў экспедытар, дасціпны і вясёлы сухумец Ніязі Байрамаў. Да вайны ён вучыўся ў Маскоўскім медінстытуце. Летам студэнты выехалі ў ваенныя лагеры. Аднойчы сусед па палатцы спытаў у Байрамава, ці можа Савецкі Саюз заключыць пагадненне аб дружбе з Германіяй. Байрамаў у той дзень газет не бачыў і, як сапраўдны патрыёт, абурыўся: «Толькі вар'ят можа заключыць такі дагавор з фашыстамі». На другі дзень следчы дамагаўся, каго Байрамаў лічыць вар'ятам, а неўзабаве тройка паслала яго перавыхоўвацца на восем гадоў у папраўча-працоўны лагер. Цокур яго прызначыў экспедытарам. Ніязі дастаўляў на лагпункт прадукты, суправаджаў па тэрыторыі лагера вагоны гатовай прадукцыі фабрыкі. Было ў яго шмат накладных, актаў, справаздач. У бараку іх трымаць нельга, бо скураць, таму і адсялілі яго з Матулем у мазанку, а яны ў падсуседзі ўзялі мяне. Матуль часта расказваў пра сваё ранейшае жыццё ў Маскве ў вышэйшых вайсковых сферах, пра пачатак вайны, пра разгубленасць многіх бездапаможных камандзіраў. Ён добра ведаў і любіў літаратуру, быў знаёмы з некалькімі вядомымі пісьменнікамі.

Перад канцом работы, недзе каля поўначы, Іосіфа Аляксандравіча выклікаў начальнік, і яны разам па невыразных газетных інфармацыях разбіралі ваенныя дзеянні, строілі прагнозы, і Матуль вельмі рэдка памыляўся.

Днявальным у нас быў самастрэл, дробненькі, хітранькі разанскі мужычок Грышка Сяргунін. Пра свае «подзвігі» на фронце расказваў коратка: «Ляжу сабе ў акопе, зажмуруся і пастрэльваю, а куды, Бог яго ведае, а ўсё наўкол грыміць, гарыць і калоціцца. Заб'юць, думаю, а паміраць не хочацца, от стральнуў у руку, і сам не ведаю як. Далі чырвонец, але ж жывы, на павал не пагоняць — інвалід. Кончыцца вайна, можа, і дадому пусцяць». Ён уважліва слухаў зводкі Саўінфармбюро, складаў нашы і нямецкія страты разам і дакладваў палкоўніку: «Люду-то, люду, Ляксандрыч, сколь пабілі» — і называў вялізную лічбу. Калі Матуль яму тлумачыў, што больш паклалі фашыстаў, Грышка стаяў на сваім: «Усё адно — людзі. Нас і іх жывасілам на смертачку пагналі. Усіх шкода».

## ЭТАП З ТАГО СВЕТУ

З усіх начальнікаў Цокур заставаўся чалавекам. Ён перажываў за кожную смерць, а трагедыя з Федзем Беляновым прыбавіла сівізны ў яго кудлатай галаве. Брыгады лесарубаў і грузчыкаў карміў толькі па трэцім катле, увесь ураджай немалой падсобнай гаспадаркі ішоў у кацёл, тушы выбракаваных коней траплялі на кухню. Нехта калі не скажа, дык падумае: «Хто ўлез у прыдуркі, той хваліць начальніка». Цокура даўно няма на свеце, але я ўпэўнены, што ніхто з лагернікаў трэцяга лагпункта яго не папракне і не пракляне. Суровы з выгляду Цокур быў спагадлівы і нават чулы. Можа, не ўсё, як і мы, разумеў, але пра многае здагадваўся і часам гаварыў мне або Матулю: «Якія ж вы ворагі? Калі людзі так працуюць на абарону, не хочацца верыць, што яны злачынцы, антысаветчыкі».

Не так даўно я дазнаўся, што пасля дваццатага з’езда Цокур звольніўся з гэтай сістэмы, пайшоў у гаспадарнікі, паціху з гора спіўся і дачасна памёр. Відаць, замучыла сумленне, што і ён удзельнічаў у страшнай трагедыі. Прыкладна гэтак жа склаўся лёс здольнага і начытанага былога начальніка КВЧ Вені Камракова. Пасля лагера ён працаваў у раённай газеце недзе ў Кастрамской вобласці. Пасля маёй рэабілітацыі сустрэў у друку маё імя, адшукаў, і ў нас завязалася перапіска. У кожным лісце былі жаль, адчай, расчараванасць. Аднойчы паведаміў, што кладуць яго ў наркалагічны дыспансер. Дачка з пераломам нагі трапіла ў бальніцу. Дома яшчэ двое дзяцей і ні капейкі грошай. Я ведаў сумленную і прыгожую эвакуіраваную з Тарапца Лізу. Яна выйшла замуж за Камракова. Былі шчаслівыя, але нядоўга. Спагадаючы ёй, я пабег на пошту і тэлеграфам паслаў дзвесце рублёў. Дзякуючы за грошы і ўвагу, расчуленая Ліза пісала, што Веню замучылі кашмары, бяссонне і галюцынацыі, ён запіў, некалькі разоў зрываўся з работы, сям’я трапіла ў вельмі цяжкае становішча.

Так канчалі сумленныя людзі, якіх зацягнула ў сваё жэрла страшэнная машына тэрору, зрабіла ўдзельнікамі крывавых злачынстваў. Адны співаліся, некаторыя канчалі самагубствам. А грыгарэнкі, русаковы, фамічовы жывуць на добрых пенсіях, і не мучыць іх сумленне, бо чаго няма, таго няма, не сняцца ім Плужнікавы, Сінякіны, Пекаравы і Удавічанкі — пастраляныя на вахце за «контррэвалюцыйны сабатаж», сотні замардаваных імі невінаватых і таленавітых людзей. Яны жывуць і ганарацца, што служылі ў «органах», стаялі на варце «дзяржаўнага спакою і бяспекі».

Можа, гэтае адступленне здасца лішнім і нясвоечасовым, а мне думаецца — неабходным у гэтым невялічкім раздзеле.

Летам сорак чацвёртага года загадалі з упраўлення падаць на станцыю Пруды дзесяць фурманак пад этап. Што за важны «кантынгент» прыбывае, не здагадваўся ніхто. Фабрыцы трэба былі матарысткі, і чакалі жанчын. Пасля паўдня на вахце ссаджвалі з фурманак нейкіх шэрых, з пасінелымі тварамі і вялікімі вачыма жанчын невядомага ўзросту. Апранутыя ў пажоўклыя ад пражарак транты, усе стрыжаныя, прыбылі блакадныя ленінградкі. У іх поглядах былі абяссэнсеная абыякавасць і нявыплаканая туга. Вялі іх усяго тры канваіры, яны і без канвою лішняга кроку зрабіць не маглі.

Мы чулі пра блакаду Ленінграда, ведалі, што тры гады, кінуты на пагібель, з голаду выміраў вялізны горад. Калі гэтыя, яшчэ жывыя, падобныя на шкілеты, дык якія ж назаўсёды засталіся там, якіх ужо не суцешаць шчырыя словы вялікай пакутніцы Вольгі Бергольц: «Нішто не забыта, ніхто не забыты». Гэта для жывых, а што для тых, замучаных па волі ап’янелых ад крыві катаў? Мільёны таленавітых, магчыма, геніяльных, так і не ашчаслівілі чалавецтва сваімі адкрыццямі і сілаю светлага духу.

За што ж трапілі ў лагер гэтыя пакутніцы? Артыкулы ў іх былі самыя розныя: ашуканства, падробка дакументаў, растрата, крадзеж і нават марадзёрства. Хадзячых адпраўляюць у барак. З фурманак каго вядуць, каго нясуць. Разам з начальнікамі этап прымае зняволеная доктарка Міна Сіманаўна Галаўчынер. Нямоглых забірае ў стацыянар, рухомых — у слабасілку. Аглядае, распытвае, а сама ледзьве стрымлівае слёзы: у Ленінградзе засталіся яе блізкія. Дзе яны, што з імі, — нічога не ведае. Па гэтых шкілетах відно, што перажылі людзі халоднага і галоднага горада. У давяршэнне пакут гэтыя няшчасныя трапілі яшчэ і ў няволю. А за што? Гэтае пытанне штодзённа муляе кожнага з нас. Што ж зрабілі гэтыя вялікія пакутніцы? У аднае памерла сястра, а яна яшчэ тры дні па яе картцы атрымлівала сто пяцьдзесят грамаў эрзац-хлеба, другая падрабіла талон, трэцяя выцягнула картку з кішэні мёртвага. А за гэта — турма, лагер, тэрмін — пяць, восем і дзесяць гадоў.

У некаторых нашых ленінградак пачаўся галодны псіхоз: яны забываліся сваё імя, выскаквалі з барака голыя і ноччу беглі ў сталовую, у іх не заставалася адзнак жаноцкасці — здавалася, ледзь перастаўляе ножкі-цырубалкі стрыжаны, бязгруды падлетак. Ім усе спагадалі. Міна Сіманаўна дамаглася, каб іх кармілі патрошку чатыры разы на дзень, у санчасці варылі хвойны на-

стой і кожнай давалі кубачак горкага зеленаватага пітва, Цокур загадаў даваць ленінградкам сырую гародніну. Яны пакрысе ажывалі, цверазелі, а маглі толькі есці, і то пад наглядам доктара, каб не душыліся, не глыталі непажаванае. Але парадак ёсць парадак: прыбыў этап, павялічваецца і план. Начальнік вытаргаваў для ленінградак два тыдні на папраўку.

Агаладалыя людзі папраўляюцца на вачах, ружавеюць, ажываюць вочы, паступова вяртаецца сіла. Папаўзлі і ленінградкі на фабрыку насцілаць вату, падбіраць абрэзкі ў закройным цэху, а потым садзіліся і за матор. Спачатку шылі рукавіцы, бялізну, маскхалаты, а там узяліся і за целагрэйкі. Што выжылі, што ажылі, яны былі абавязаны Цокуру, Міне Сіманаўне і аграному Бахціну. Этап з таго свету ўсё ж вярнуўся на зямлю.

Праз пару месяцаў яны ўжо не пазнавалі адна адну, з «гідкіх качанят» выпросталіся прывабныя жанчыны і ўжо некаторыя цішком прашмыгвалі ў мужчынскія баракі. Інтымныя адносіны ў лагеры катэгарычна забараняліся. Начамі па ўсіх закутках шасталі з ліхтарамі дзяжурнякі і вылоўлівалі «парушальнікаў рэжыму». Калі прывялі да начальніка першую ленінградку, ён разрагатаўся і пахваліў: «Ну, малайчына. Значыць, будзеш жыць. А каб іншыя не бегалі, астынь да раніцы ў ізалятары».

## ЖАН І ЖОРА

Падстрыгаць і галіць начальніка прыходзіў у кабінет цырульнік Жора Слушнік, адэсіт, засуджаны за дробны крадзеж на чатыры гады. Майстра ён быў здатны: нажнічкі вакол калматай Цокуравай галавы звонка цокалі і ляскалі, як ластаўчын хвост, брытваю, здавалася, не дакранецца да шчакі. А як ён выстрыгаў валасінкі з вушэй і ноздраў, як падбрываў шыю! Ад масажу спрытнымі далонямі начальнік жмурыўся, як сонны кот. Паслугамі ў кабінеце яшчэ карыстаўся начальнік оперчэкісцкага аддзела, невысокі, рыхлаваты лейтэнант у рагавых акулярах, і нават у пакоі — у блакітнай фуражцы.

Цырульня была пры лазні. Жора старанна стрыг брыгады, далікатна брыў патаемныя мясціны пры санапрацоўцы жанчын, не дазваляў лішняга дотыку і руху. Некаторыя свавольныя блатнячкі гаварылі пры ім непрыстойнасці, спакушалі яго, а Жора толькі мыкаў, круціў галавою і часам чырванеў. І начальнік пры ім гаварыў па тэлефоне або падначаленым тое, чаго зэкі ведаць і чуць не павінны. Жора быў глухі як пень і без’языкі.

Казалі — на павале яго накрыла елка, пахвастала веццем спіну, сучком параніла патыліцу, з тае пары ён страціў слых і мову, разумеў толькі на мігах або па запісках. На пытанне, якая спецыяльнасць, адпісаў «палікмахер». Так ён і трапіў на трэці лагпункт.

Выклікаў яго да начальніка звычайна высокі статны румын Траян Унгурану. У яго была паралізавана левая рука, а праваю ён спрытна скручваў цыгарку, чыркаў запалку, запальваў ліхтар. Па фармуляры ён быў Траян, а звалі яго прасцей — Жанам. У вайну ён трапіў у Бесарабію, затрымаўся там, а прыйшлі нашы, западозрылі ў шпіянажы, засудзілі на восем гадоў, і Жан апынуўся ў лагеры. Але які з яго рабоцька з адною рукою? Вось і далі ліхтар «лятучая мыш», абавязалі будзіць і выводзіць на вахту брыгады, сачыць, каб парадкам ішлі ў сталовую, каб пасля адбою не цягаліся па зоне, не цурчэлі з ганкаў сонныя рабацягі, каб у мужчынскія баракі не забягалі жанкі. Не чапаў ён толькі капцёраў, кухараў, пекараў і хлебарэза, не заўважаў, калі бегалі да сваіх хахаляў фабрычныя брыгадзіркі і кладаўшчыцы.

Начамі для большай пільнасці і адказнасці разам з Жанам дзяжурыла вольнанаёмная Дуська. Шчыгаляла яна ў зграбным шыняльку, хромавых ботах і ссунутай на правае вуха пілотцы. Звечара яны паганяюць распусніц, каго-небудзь замкнуць у кандзей, а самі з пачуццём выкананага абавязку па ўмацаванні маралі зняволеных заваляцца ў баковачцы пры ізалятары і спакойна спяць у абдымку да пад’ёму.

Ад брыгадзірак Жану перападалі катушкі нітак, ад кладаўшчыцы ладныя кавалкі тканіны. Усё гэта Дуська заганяла за зонаю, мела сабе капейку і Жану прыносіла кавалак скароміны, а часам і пляшку самагону.

Цырульнік жыў пры лазні, вечарамі ён не замыкаў дзверы. Тады пракрадаліся ў прылазнік Жан з Дуськаю, ведаючы, што пра іх нямы Жора нікому нічога не скажа. Пры ім гаварылі ўсё, што хацелі, кпілі з яго, а ён і вухам не вёў. Калі Жан прыводзіў Жору да начальніка, той жартаваў: «Тры рукі і адзін язык на дваіх».

Тэрмін у Жоры набліжаўся «да званка». Ён старанна збіраўся на волю: выменяў у некага з новенькіх зграбныя карычневыя штонікі, цёмна-сіні пінжак, рабенькую кепачку-васьміклінку. Ён ведаў, што яго не затрымаюць да асобага распараджэння, як «контрыкаў», артыкул і тэрмін у яго быў «дзіцячы», да волі заставаліся лічаныя дні. Ужо загадалі здаць цырульню, афармлялі дакументы на вызваленне, выпішуць на камендандцкім лагпункце пашпарт з мінусамі, і — каці Жора на Чорнае мора.

Без выкліку Жора сам прыйшоў у кантору і пастукаўся ў кабінет начальніка, увайшоў і выразна, трохі асіплым голасам павітаўся. Цокур ускочыў з крэсла, залыпаў вачыма і пасля паўзы прамовіў: «А ядры тваю качалку, дык ты гаварыць навучыўся, га?» — «Не, грамадзянін начальнік, ледзь не развучыўся за тры гады, але затое жыццё выратаваў. На павале даўно б загнуўся. Унь колькі маіх карашкоў вывезлі за вахту. А цяпер даеш Адэсу-маму, а не пусцяць, усё адно на поўдзень махну. Намёрзся, аж душа да рабрын прыстыла». — «Як жа ты тры гады цярпеў і не сказаў ні слова?» — «Думаеце, лёгка было, калі вы пацяшаліся і мужыкі кпілі, а шалашоўкі на нос вешаліся. Аднаго баяўся — загаварыць спрасоння. Калі жыў у бараку, нанач, нібы зубы баляць, ручніком сківіцы падвязваў. Ох і напакутаваўся ж, сам з сабою загаварыць баяўся, язык да крыві прыкусваў, а гэта пакута; але лепш, чым пілаваць табе-сабе-начальніку. Вам вялікі дзякуй — трымалі і падкармлівалі, і што пры вас брыцьстрыгчы налаўчыўся». — «Ну ж і сучы сын! Колькі ж ты нас, дурняў, за нос вадзіў?» Цокур націснуў кнопку званка. У кабінет увайшла дзябёлая сакратарка з эвакуіраваных. «Палюбуйся, Аня, на гэтага мазурыка. Ён не толькі гаварыць, спяваць умее. Ну, урэж, Жора, «С одесского кичмана бежали два уркана». А ў Адэсу цябе не пусцяць. Горад рэжымны». — «Нічога, Крым вялікі, аднаму чалавеку заўсёды месца знойдзецца. Пастараюся сюды болей не залятаць, таварыш начальнік. Цяпер так можна?» Начальнік паляпаў яго па плячы: «Ну, артыст! Давай чашы, як некалі казалі, з Богам». — «А ведаеце, як вас некаторыя завуць? Баця». — «Гэта не падымае мой аўтарытэт. От і ты мяне ашукаў. Ну, давай», — і Цокур падаў яму руку.

Мы развіталіся з Жорам каля вахты. Ён ніяк не мог нагаварыцца, вочы засвяціліся розумам і весялосцю, калі падрабязна расказваў пра сваё развітанне з Цокурам.

Я ішоў у кантору каля акна начальніка, ён пастукаў у шыбу і загадаў тэрмінова прыслаць да яго Унгурану. Я ведаў, што Жан дзяжурыў ноч і, напэўна, моцна спіць. Дзверы ў яго кабінку адчынены і завешаны ад мух і камароў рудаватаю ўпаковачнаю марляю. На тапчане ў адных споднікаў спаў Жан. У пакоі звінелі мухі, біліся ў шыбу, поўзалі па недаедках на стале, а вялікая сіняя гула над змакрэлым ілбом. Як толькі яна садзілася, Жан спрытна леваю рукою зганяў яе. Я глядзеў і не верыў сваім вачам. Гэта ж трэба: толькі што загаварыў глуханямы Жора, а тут паралізаваная рука спрытна зганяе мух.

Я ведаў, як прыдзірліва дактары правяралі Жана, пакуль прызналі інвалідам, — калолі іголкамі, прыпальвалі: не

здрыгануўся ніводзін мускул. От гэта вытрымка, каб толькі выжыць. Я разбудзіў яго. Ён пры мне апрануўся адною рукою, а левая зноў целяпалася, як вераўчаная. Я глядзеў і ўсміхаўся. «Ты чаго лыбішся?» — «Кладзешся спаць, прывязвай руку да нагі. Я нічога не бачыў, а ты маю параду запомні». Жан пачырванеў, пацiснуў мяне за локаць і хуценька пабег да начальніка.

## ТРЫВОГІ І НАДЗЕІ

Вайна адкочвалася на захад, і ў бараках ад пад'ёму да адбою не выключаліся чорныя талеркі рэпрадуктараў. Радаваў кожны загад пра вызваленыя гарады, водгулле салютаў хвалявала і абнадзейвала. Мы ж чыталі і чулі толькі пра поспехі і перамогі, пра ахвяры фашыстаў і нічога не ведалі, колькі пралілося і яшчэ пральецца крыві лепшых людзей нашай зямлі.

У зводках мільгалі знаёмыя гарады і паселішчы. Калі назвалі мой Глуск, я не мог стрымаць слёз, нават не ўяўляў, што некалі зноў прайдуся па яго вулачках, паплавах і ўзбярэжжах Пцічы. Самым найвялікшым жаданнем кожнага з нас было заканчэнне вайны: перамога абяцала і нам свабоду. Усіх асуджаных па 58 артыкуле затрымлівалі да «заканчэння вайсковых дзеянняў», а потым «да асобага распараджэння». Затрыманы быў і мой даўні друг Алесь Пальчэўскі. Нас разлучылі да вайны на шостым лагпункце. Доўга мы нічога не ведалі адзін пра аднаго. Выпадкова ад экспедытара даведаўся, што Алесь загадвае інструменталкаю на васемнаццатым лагпункце, і пераслаў яму кароценькую пісульку. Месяцы праз два той жа экспедытар прывёз адказ. Пальчэўскі пісаў, што адбыў свае восем гадоў, затрыманы да канца вайны, заканваіраваны і адпраўлены зноў на павал. От табе і адбыў пакаранне! От табе і в-о-л-я! «Калі зможаш перацягнуць на свой нелесапавальны лагпункт, — прасіў Алесь, — дапамажы і выратуй».

А мне ж так заўсёды яго не хапала, самага надзейнага, шчырага і разумнага старэйшага таварыша. Падцікаваў добры настрой у начальніка і пайшоў упрошваць паслаць нарад на спецыяліста на ўсе рукі Алеся Пальчэўскага. «Ты як той цыган, каня прадаеш. Скажы, што дружка хочаш выручыць». — «Угадалі, грамадзянін начальнік. Чалавек адбыў тэрмін, і на табе, заканваіравалі, пілу — у зубы і пагналі на павал». Цокур памаўчаў, ссунуў з ілба шапку на патыліцу і буркнуў: «Ладна. Прыдумай паперу ў другі аддзел. Падпішу». У той жа дзень заяўка на «выдатнага інструментальшчыка» пайшла ва ўпраўленне.

Тыдні праз два па гразкай, размытай дажджамі дарозе канвой прывёў некалькі чалавек з бальніцы і з імі худога і цыбатага, у кароткім бушлаце, з фанерным чамаданам за плячыма Алеся Пальчэўскага. Мы абняліся і доўга не маглі нагаварыцца, а ўспомніць было што: думалі, што Мяжэвіч з Такарчуком даўно на волі, можа, недзе ваююць, шкадавалі, што не паспелі выклікаць на перасследства нас, бо нічога не ведалі пра трагічны лёс нашых сяброў, якіх заспела вайна ў мінскай турме.

Алеся ўладкавалі на самую блатную работу — кантралёрам па якасці шавецкай шпількі. Яе з бярозавых цурачак стругалі сцізорыкамі інваліды і здавалі ў канцы дня кантралёру. Мы з Алесем адводзілі душу гаворкамі па-беларуску, успаміналі даўніх сяброў, Дом пісьменніка і не ўяўлялі, хто там астаўся, здавалася, выкарчавалі ўсіх да аднаго.

Пад восень прыбыў этап маладзенькіх дзяўчат з Беларусі. Амаль усе ў зграбных ботах на высокіх абцасіках, у клятчастых хустачках стаўбункамі. Пераважна з мясцін, якія пры нас былі за мяжою: з Баранавіч, Слоніма, Альберціна, Наваградка і Вілейкі. Хлапчукі былі ў аднолькавых шэра-зялёных парцяных фрэнчыках. Пытаюся: «За што вас, дзеткі?» Адказваюць: «СБМ». — «А што гэта такое?» — «Саюз беларускай моладзі. Хто запісаўся, не гналі ў Нямеччыну. А каму ахвота ехаць з дому парабкаваць на немцаў. Вось і пісаліся. А што рабілі? Збіраліся, маршыравалі, спявалі беларускія песні». Расказваў мне прыгожы Лёня Леванчук. Ён быў салістам у хоры Шырмы і ў лагеры стаў любімцам усіх аматараў песні. Асабліва Лёню ўпадабала новая начальніца КВЧ Таццяна Мяркулава, тоўстая, белая, як сыр, і да анекдатычнасці прымітыўная жанчына. Яна часта Леванчука выклікала позна ноччу «на рэпетыцыі і складанне канцэртных праграм». «Рэпеціравалі» яны, пакуль не зацікавіўся оперупаўнаважаны. Мяркулавай далі суровае партыйнае спагнанне, а Лёньку ўпяклі на штрафны лагпункт. Там гэты ласкавы і далікатны сын віленскага святара звязаўся з блатнымі і пайшоў вандраваць з рэжымнымі этапамі з штрафнога на штрафны лагпункт. Чуў я, што трапіў ён у Казахстан і быў «сваім» сярод крымінальнікаў.

Нечакана ў беларускім этапе сустрэлася сястра даўняга друга. Я ведаў яе маленькай беленькай дзяўчынкай, а цяпер пазнаў толькі па прозвішчы. Гэта была прыгнечаная горам, змардаваная астрогамі і этапам жанчына. Адзіны яе брат, апякун і выхавацель, да вайны быў недзе ў Сіблагу. Больш яна нічога не ведала

пра яго, а цяпер і яе не абмінуў гэты горкі лёс. У першыя дні вайны яна пехатою па палаючай зямлі з Віцебска дабралася да роднага гарадка, на папялішча бацькоўскай хаты, прытулілася ў стрыечнай сястры, пагаладала без работы і нарэшце пайшла прыбіральшчыцай у кантору «Віршафткаманды». Мыла падлогі, паліла печы, хадзіла замурзаная ў сажу, у кірзавых ботах і старызне, каб нікому не кідацца ў вочы. А дачакалася вызвалення, арыштавалі за «супрацоўніцтва» і прыслалі ў лагер з адзнакаю «следственная». Праз восем месяцаў абвясцілі пастанову тройкі: «Па артыкуле 7-35 за парушэнне пашпартнага рэжыму засудзіць на восем месяцаў і семнаццаць дзён», — роўна столькі, колькі яна адбыла з дня арышту, каб лічылася судзімаю і не плаціць кампенсацыю за вымушаны «прагул». Такіх пастаноў прыходзіла шмат, так «правасуддзе» ахоўвала інтарэсы дзяржавы.

Астатніх дзяўчат з беларускага этапу паслалі на швейную фабрыку, хлопцаў растыкалі па цэхах шырпатрэбу, яны за сваё «эсбээмства» атрымалі па пяць-восем гадоў, а потым яшчэ і высылку ў Казахстан і Сібір.

Летам 1944 года расканваіравалі Алю. Яна вяла ўлік тканіны і гатовай прадукцыі на складзе пры выгрузцы і адгрузцы, а вольнаю часінаю мы рознымі сцежкамі сыходзіліся на некалі высечанай дзялянцы. Бярозавыя пні паабрасталі парасткамі, хваёвыя — пакрыліся бурштынаваю смалою, у высокай траве, як жар, чырванелі суніцы. Іх тут не было каму збіраць. Мы лажыліся на траву, перапаўзалі ад куста да куста і губамі лавілі даспелыя салодкія ягады. Над намі было сіняе-сіняе, без адзінай хмурынкі неба, паволі гайдаліся задуменныя сосны, зялёная яшчарка грэлася на пяньку, цішыня, смольны водар і дух разнатраўя вярталі на некалькі гадзін на далёкую і амаль забытую волю. Якое шчасце пабыць сам-насам пасля камернага і барачнага шматлюддзя. Як агідна, нібы пад рэнтгенам, гадамі быць навідавоку соцень чужых людзей.

Часам забягалі на падсобную гаспадарку змрочнага, але шчодрага Бахціна. Ён нам паказваў шматгадовы дзённік надвор'я і амаль дакладна ставіў прагнозы на тыдзень наперад. Развітваючыся, ён ухмыляўся: «Ведаю, ведаю, не пагода вас цікавіць. Есці хочаце» — і засоўваў у кішэню пару гуркоў, пабурэлую памідорыну, некалькі морквін і жменю цыбульнага пер'я.

Бесканвойным часам дазвалялася сходзіць у суседнюю вёску Пруды. Там жылі так званыя кержакі, нашчадкі прыхільнікаў старой веры, уцекачоў ад гневу патрыярха Нікана. Яны сяліліся ў лясных нетрах, па берагах павольнага і паўнаводнага Кержан-

ца. Будаваліся на стагоддзі. Усцяж вуліцы стаялі прасторныя двухпавярховыя дамы з чэсанага смольнага бруса. На першым паверсе былі хлеў і гумно, склеп і кладоўка, некалькі прыступак вялі наверх, у чыстую палавіну. Яна сапраўды была чыстая: неатынкаваныя сцены, як жаўток, зіхацелі смольнымі пражылкамі, вышараваная тоўчанаю цэглаю падлога вабіла свежаю прахалодаю, на шырокіх лавах лапушыліся фікусы, герані і сталетнікі. І людзі жылі тут спагадлівыя і шчырыя, гатовыя падзяліцца з арыштантам апошнім. Бачылі навылёт «варнакоў» і замыкалі ад іх хаты і душы.

На лагпункце была свая невялікая пасека для вышэйшага і тутэйшага начальства. Невялікая хатка і амшанік стаялі на лясной палянцы, зарослай кіпрэем, мядункамі, рамонкамі і густым шыпшыннікам. Гаспадарыў тут патомны пчаляр з 58 артыкулам, з чырвонцам і «наморднікам» (пазбаўленнем правоў) за плячыма, высокі, сухі, як жардзіна, дзед Самсонаў. Раз на тыдзень ён прыходзіў у зону па сухі паёк і адзначацца на вахце. Таму быў рады кожнай жывой душы. Мы з Аляю часам забягалі да яго. На стале з'яўляўся скрыль сотавага мёду і кубачак салодкай медавухі. Самсонаў любіў пагаварыць пра вайну, верыў, што перамога адкрые вароты ўсіх лагераў і змые з нас дзікія абвінавачванні і плямы недаверу.

Лагернікі жылі тым, што ў нешта верылі, суцяшалі адзін аднаго хуткімі амністыямі, прыдумлялі неіснуючыя камісіі па пераглядзе спраў. Гэтыя чуткі чамусьці называлі «парашамі», і яны падтрымлівалі веру і дух знясіленых і змардаваных.

На вахту мы вярталіся паасобку рознымі сцежкамі, вахцёры часам адпускалі непрыстойныя жарцікі, а мы цярпелі і малілі Бога, каб не заканваіравалі і не адправілі на этап. Мне да канца тэрміну заставалася два, а Алі тры гады. Што будзе з намі, ніхто не ведаў. Асабліва «кум» любіў разганяць блізкіх людзей, каб яны ніколі не сустрэліся. Колькі разоў яму хацелася скруціць мяне ў барані рог. Вельмі ж яго цікавіла наша сяброўства з Пальчэўскім. За намі сачылі сексоты, нанятыя за міску баланды, мы іх пазнавалі адразу і асцерагаліся даўгавухіх «прыяцеляў». Мяне заўсёды ратаваў Цокур. Кожная перамога на фронце адзначалася «мабілізуючым» на вытворчыя поспехі мітынгам на лагпункце і ў чырвоным кутку вольнанаёмных. З натхнёнымі прамовамі любіў выступаць начальнік. Ён выклікаў мяне ў кабінет, замыкаў дзверы, клаў пачак «Беламора» і падшыўкі газет, я іх праглядаў і кампіляраваў з артыкулаў Эрэнбурга, Сіманава, Гарбатава ўзнёслыя прамовы для Цокура. У канцы

ставіліся задачы лепш працаваць для фронту, для перамогі. Мяне ратаваў мой колішні журналісцкі вопыт адразу дыктаваць на машынку пустапарожнія патэтычныя перадавіцы і артыкулы. Цокура слухалі ўважліва і апладзіравалі дружна.

У яго недзе на Урале жыла даўняя каханая Галя. Яны некалі працавалі ў адной школе, але лёс чамусьці разлучыў іх. Аднойчы Цокур папрасіў мяне напісаць ёй прачулы лірычны ліст у «сьціхах». Такі-сякі вопыт рыфмавання ў мяне быў, і я даволі хутка «накатаў» пасланне ў стылі: «Ты помнишь наши встречи и вечер над рекой». Я стаў неафіцыйным сачыніцелем дакладаў, прамоў і лірычных лістоў пры начальніку. З павагаю ён ставіўся да палкоўніка Матуля, часта раіўся з ім, прыслухоўваўся да яго парад, і кожны вечар удвох разбіралі ваенныя зводкі. Не крыўдзіў Цокур Гускіна і Арцем’ева, шанаваў адукаваных і таленавітых людзей. Цокур быў выключэннем, рэдкасцю сярод мноства лагерных вурдалакаў у блакітных фуражках і лейтэнанцкіх пагонах.

Пасля вызвалення Матуль узначаліў авіяцыйны завод на Урале.

Калі скончылася вайна, па амністыі вызвалілі вайскоўцаў і ровенскіх баптыстаў. Але да Перамогі было яшчэ далёка, і ўсе цягнулі лямку, не ведаючы, што іх чакае заўтра.

## СТАРОНКІ З ДЗЁННІКА

Нашу мазанку ўпадабаў начальнік рэжыму Гарбушын і загадаў «аслабаніць памяшчэнне». Я знайшоў прытулак у катушку дзесятніка па будаўніцтве, былога начальніка пагранзаставы Сцёпы Падгурскага. З намі разам жыў бухгалтар і днявальны ўчастка, былы протаіерэй з вёскіІсток на Разаншчыне, зямляк і колішні таварыш славутых народных артыстаў, братоў Піраговых. Калі яны спявалі па радыё, айцец Іосіф станавіўся на табурэтку, прыкладаў вуха да чорнай талеркі рэпрадуктара, яго вузенькая казліная бародка трэслася ў такт песні, а па шчоках спаўзалі слёзы.

Палкоўнік Матуль пасяліўся ў кабінцы бухгалтэрыі, Байрамаў недзе на каменданцкім лагпункце прымаў прадукты для нашай капцёркі і «вольнага» ларка. Да прыезду пасцель яго і скрутачак з рэчамі закінулі на гарышча мазанкі. Прыехаў ён ноччу, прайшоў праз вахту, разгрузіўся і некуды знік. Вахцёры і наглядчыкі асабліва пільна цікавалі яго: у экспедытара можна

было здабыць пачак «Беламора», а то і чацвярцінку са скрынкі, прывезенай у іх ларок. Кінуліся шукаць — нідзе няма. Думалі, заскочыў у жаночы барак да сваёй Лідкі Нікалаевай, аж — ні яго, ні яе. Правялі аператыўную нараду ў сваім новым «штабе», дзе шукаць парушальнікаў маралі, абшасталі ўсю зону, нават праверылі астылыя печы цагельні і нідзе не знайшлі.

Пасля паверкі Байрамаў ішоў з накладнымі ў «вольны» ларок. Наглядчыкі ўчынілі яму сапраўдны допыт: «Дзе быў?» — «Спаў у бараку. Вы ж нас выселілі, вось і бадзяюся абы-дзе». — «А дзе была Нікалаева?» — «Гэта вы спытайце ў яе». Як толькі ноччу прыязджаў Байрамаў, наглядчыкі кідаліся шукаць яго і Лідку, і ўсё дарэмна. Каго яны толькі не распытвалі, дзе ні шукалі, ніхто не ведаў. Яны доўга раіліся ў мазанцы, намячалі маршруты, бралі ліхтары і зноў шасталі па ўсіх закутках.

Насталі халады. Наглядчыкі ў мазанцы распрацоўвалі чарговы план пошукаў экспедытара. Іх нараду перабіў стук у дзверы. На парозе стаяў Байрамаў з пляскатым матрацам і коўдраю пад пахаю. «Грамадзянін начальнік, дзякую вам за кватэру, — ён ткнуў пальцам у столь. — Цяпер там холадна. З’язджаю ў барак. Я чуў усе вашы аператыўныя нарады і ледзьве стрымліваў смех. Хіба ж можна было траціць такую мансарду? Дзякую вам». Гарбушын і яго наглядчыкі толькі лыпалі вачыма і непрыстойна лаяліся, а з іх доўга кпілі стралкі: «Ну як, паймалі Байрамава?»

Пасля рэабілітацыі ў 1956 годзе я ўпершыню трапіў у Гагру, паехаў на экскурсію ў Сухумі. Дай, думаю, зайду ў адрасны стол, можа, знайду свайго лагернага друга. Толькі назваў яго прозвішча, як, нічога не гаворачы, жанчына вывела мяне на ганак, рукою паказала на беленькі домік на ўзгорку: «Вот в этом доме и живет Хума». — «Не, мне патрэбен Байрамаў». — «Вай, он и есть Байрамов, а весь Сухум его с детства называет Хума — черненький». У лагеры ўсе яго звалі Коля замест непрывычнага Ніязі. Мы сустрэліся з ім, як родныя браты. Байрамаў ужо быў членам партыі, узначальваў курортгандаль у Новым Афоне, а потым буйнейшы рэстаран «Амра». Мы аж да світання ўспаміналі нашы лагерныя прыгоды і рагаталі з пошукаў Гарбушына. Я ў яго доме ўбачыў і адчуў сапраўдную каўказскую гасціннасць, шчодрасць і непадробную шырыню душы; калі мы хадзілі і ездзілі па горадзе, я пераканаўся, што яго ведае кожны сухумец, і не толькі ведае, а шчыра паважае. Мы з ім часам перапісваліся, у святы абменьваліся віншаваннямі, перазвоньваліся па тэлефоне. У наш век перапіска — з’ява рэдкая, і нікога не здзіўляе доўгае маўчанне.

Неяк у Кактэбелі я разгаварыўся з пісьменнікам Фазілем Іскандэрам. Ён сухумец, а ў Сухумі адзін аднаго ведаюць амаль усе. На ўсякі выпадак спытаўся пра Байрамава. «Ён быў маім дальнім родзічам». — «Чаму быў?» — здзівіўся я. «Летась ён памёр ад невылечнай хваробы. Яго праводзіў увесь горад», — з сумам і шкадаваннем сказаў Іскандэр. «У доме жыве яго сын Джамал. Ён стаў у Сухумі вядомым санітарным урачом». Так я страціў яшчэ аднаго добрага друга: удары трыццаць сёмага дабівалі і ў сямідзесятыя гады.

А ў той час, калі мы з Байрамавым сёрбалі баланду з аднаго кацялка, мне заставалася сядзець больш за два гады, ды яшчэ ў дадатак было пяць гадоў пазбаўлення правоў. Гэта як таўро на лбе колішняга катаржніка. З ім не сунешся нікуды на людскую работу, не паселішся там, дзе захочаш, і чакае цябе лёс адрынутага ад людзей, загнанага, нікому не патрэбнага бадзягі. Куды паткнешся з часовым «воўчым пашпартам»? З ім затрымае кожны міліцыянер. Расла трывога не толькі за сябе, а і за Алю, за будучае нашага нашчадка, а ён, яшчэ не вядомы, але ўжо любімы існаваў зусім побач і ўсё часцей і настойлівей напамінаў пра сябе. Яго чакалі і Аліны сяброўкі па фабрыцы: прыносілі абрэзкі мультану і паркалю, бязі і ўпаковачнай марлі. Старая мілая латышка Ганна Янаўна Балодзіс шыла распашонкі, з каляровых абрэзкаў — коўдрачку і чэпчыкі.

Настала снежная марозная зіма. Печы ў бараках ледзьве грэлі, і Аля часта прыбягала ў нашу будаўнічую канторку да грубкі, добра напаленай «айцом Іосіфам», перад адбоем павольна вярталася ў свой халодны барак.

Звечара круціла і грукала завея, а ў поўнач пастукаўся бальнічны санітар, марудны, сівавусы дзед Пашчанка: «Доктор просыла сказаты, що у вас вжэ е донька, щоб вранці відвідалы іх». Да раніцы я не заснуў, а як толькі развіднела, пабег у стацыянар. Міна Сіманаўна павіншавала мяне і сказала, што пасля цяжкай ночы яны спяць. Праз гадзіну я трымаў чырвоненькі, кірпаты, вільготны і цёплы камячок, — роднае дзіця, народжанае ў няволі. На нас глядзела і ўсміхалася бледная і змізарнелая Аля. Усе стараліся ёй памагчы: пекар Сярчук засоўваў мне пад бушлат кавалак цёплага хлеба, нешта ў кішэню запіхвалі кухары і капцёр Коля Болаў, Бахцін прыслаў два свежыя гурочкі з цяпліцы. Мяне кранала ўвага людзей, на чыю ласку я не спадзяваўся. Часам кавалак хлеба прыносіў з пякарні дрэвакол Хведар Жылуновіч, родны пляменнік Цішкі Гартнага, засуджаны за сувязь з «ворагам народа», хоць бачыўся з тым некалі славутым дзядзькам лічаныя

разы. Мудры тбіліскі шавец Грыша Сіхуралідзе з кажушных рукавоў пашыў Алі зграбныя і цёплыя бурачкі, каб не мерзла ў дарозе. І ўсё гэта без просьбаў, усё ад шчырага сэрца.

Праз тыдзень ледзь акрыялую Алю з дзіцём адпраўлялі на бальнічны лагпункт № 2. Там, за зонаю, былі яслі для арыштанцкіх дзяцей (яшчэ вольных), а ў зоне — спецыяльны барак для «мамак». Яны бачылі сваіх дзетак толькі некалькі разоў на дзень на кармленні. Па сігналу ў рэйку лётам ляцелі мамкі на вахту, каб не спазніцца і не адстаць. Канваір іх прыспешваў: «Бабы, не мешкать. Пятнадцать минут, и вылетай строиться. Неча искать своё. Талкай сиську первому попавшему. Все оне общие». А кожная ж шукала сваё, і адразу не знойдзеш, калі яны ўсе ў аднолькавых каравых анучках і аднолькава галосяць, як шпачаняты, раскрытымі ратамі. Мамы за пазухаю прыносілі цёпленькія пялёначкі і не заўсёды паспявалі перапавіць і накарміць. І тут дзейнічала нязменнае: «Давай! Давай!»

Лёс народжаных у лагеры быў просты і часам трагічны. Дзіця ў яслях трымалі да трох гадоў. Калі маці яшчэ не вызвалялася і ніхто з радні не забіраў нашчадка арыштанткі, яго пад любым прозвішчам адпраўлялі ў невядомы дзіцячы дом. Як казаў той стралок, яно станавілася «общим».

Нашай дачушцы гэта не пагражала. У мяне тэрмін канчаўся праз паўтара года, у Алі — праз два. Мы ўсё прадумалі і разлічылі, спадзеючыся, што нас усё ж выпусцяць.

І вось настала пара развітання ўжо не з адною, а з дзвюма дарагімі істотамі. А калі давядзецца сустрэцца? Калі дзіця адымалі ад грудзей, маці звычайна засылалі на нейкі далёкі лагпункт, каб бацькі не сустрэліся ніколі. Так нас перавыхоўвалі «гуманісты». На вахту вывелі чалавек восем: каго адпраўлялі на каменданцкі, каго ў бальніцу. Аля стаяла паперадзе з дачушкаю на руках. Свяціла зыркае сонца, лясы зіхацелі ружовым інеем, слаўся лёгкі марозны туманок. Да станцыі Пастой кіламетраў пяць па лясной дарозе, а колькі там чакаць цяплушку, ніхто не ведаў: чыгунка лагерная, дакладнага раскладу не было, цягнікі хадзілі рэдка і стаялі, пакуль разгрузяць або загрузяць таварныя вагоны. Невялічкі этап прынялі два немаладыя канваіры Ягор Смірноў і маўклівы і змрочны Плятнёў. Я напярэдадні папрасіў у начальніка дазволу праводзіць Алю да станцыі. Як толькі іх вывелі за браму, я дачушку захутаў у свой бушлат і панёс да Пастоя.

Пакуль ішлі, добра прыгрэла сонца, з вецця з шоргатам асыпаўся іней, да рэзі ў вачах іскрыўся снег, патыхала хуткаю

вясною, а дарогаю ішлі няшчасныя, спакутаваныя, ні ў чым не вінаватыя сумленныя людзі. Іх падганялі, абражалі і лаялі пажылыя вясковыя дзядзькі, якім загадалі пільнаваць і ненавідзець, а калі спатрэбіцца, — страляць. Таму іх і звалі стралкамі.

Збіты з дошак вакзальчык не апальваўся. Настылыя сцены ўкрыліся белаю шчэццю шэрані. Побач з вакзалам была перавалачная база нашага лагпункта і хатка вартаўніка. У ёй спыняліся вольныя і экспедытары ў чаканні цяплушкі. Гаспадарыў тут акуратны і разважлівы бесканвойны Торшын. З халадэчы вакзала я панёс сваё дзіцятка ў цёплую старожку. Пры адпраўцы Алін пропуск застаўся на вахце, і яна апынулася пад канвоем. Колькі я ні ўпрошваў і ні ўгаворваў пусціць у старожку маці, чуў адно: «Не положено».

Праз паўгадзіны галоднае дзіця ўсчало страшэнны плач, ніякія суслы і калыханні не памагалі. Я пабег у халодны вакзал упрошваць, каб пусцілі Алю пакарміць дачку. У настылым, забруджаным пакоі нельга было нават бушлат расшпіліць, не тое што... Смірноў згаджаўся, што Аля была бесканвойная, і схіляўся пусціць яе на маю адказнасць, а бязбровы, пабіты рабаціннем Плятнёў гугнявіў адно: «Не положено». Я вярнуўся ні з чым, а дзіця заходзілася да сінявы. Якраз на лёгкіх саначках пад'ехаў Цокур, пачуў плач і зайшоў у хату. Я расказаў, чаго плача дзіця. Ён моўчкі выйшаў і неўзабаве прывёў Алю. Яна калацілася ад холаду, а як толькі ўзяла на рукі дачушку, тая сціхла і зацмокала губкамі. Да адыходу цяплушкі мы былі разам, а пры развітанні абаіх душылі слёзы.

Маркотныя дні цягнуліся марудна. Часам з экспедытарамі удавалася перадаць маім дзяўчатам на пялёнкі кавалак упаковачнай марлі або якую злыбеду, каб не прапала малако.

У канцы сакавіка пацяплела. Асядалі сумёты, па ўгноенай фурманкамі дарозе беглі ручаінкі, пад нагамі хрумсталі шыбкі беленькіх ільдзінак. Пабольшалі дні, запахла вясною, я марыў як-небудзь праскочыць да сваёй маленькай «нелегальнай» сямейкі, але мара заставалася platформай. Аднойчы ўвечары рахункавод Марфа Карчынская паклікала да тэлефона. Я захваляваўся, бо нічога добрага не чакаў ад начнога званка. У трубцы пачуў Алін плач. Падумалася самае горшае. Я алёкаў з дрыжачаю трубкаю ў руцэ. «Кажы хутчэй, што з Таняю (у яе ўжо было імя)?» — «Мяне... выз-ва-ляюць», — пачулася скрозь плач. «Дык чаго ж ты, дурнічка, плачаш? Радавацца трэба. Калі адпраўляюць?.. Пытаюся, адпраўляюць калі?» — «Праз тры дні. А як жа ты застанешся?» — «Я з вамі на ўсё жыццё... ту-ту-ту...»

Спагадлівы Цокур дазволіў мне паехаць развітацца з Аляю і дачкою. Між іншым буркнуў: «Не ўздумай пакрыўдзіць ці пакінуць іх. Тваё шчасце, што сустрэў такую жанчыну. Схадзі да Болава, скажы ад майго імя, каб што-небудзь даў ім на дарогу».

У доўгім вузкім бараку жыло каля дваццаці мамак з розных лагпунктаў. Усе нешта шылі, латалі, распускалі, вязалі і чакалі сігналу на кармленне дзяцей. Я баяўся, каб часам іх не пераблыталі ў яслях. Супакойвала Аля: «Нашу я па плачу здалёк пазнаю». Увесь дзень мы былі разам. Аля расказвала, што яе бацька, патомны рабочы, бясконца пісаў заявы, абіваў парогі, збіраў подпісы, стукаўся ва ўсе дзверы. І вось яе вызвалілі «за отсутствием состава преступления». Я радаваўся, што яна едзе дадому, і непакоіўся, як жа сустрэнуць бацькі, якімі плёткамі забрудзяць свярбячыя языкі недаткнёную некалі, чыстую і сумленную дзяўчыну, ці не ўзненавідзяць бацькі «агіднага спакусніка». Супакоіла Аля: бацькі ўсё ведаюць, рады прыняць унучку і яе бацьку.

Мы развіталіся каля вахты позна ўвечары і ніяк не маглі развітацца: разыходзіліся і вярталіся зноў, баяліся страціць адно аднаго назаўсёды. Наўкол слаўся вільготны туман, асядаў і спаўзаў з дахаў і стрэшак на вышках мокры снег, кроплі вільгаці дрыжалі на калючках туга нацягнутых дратоў вакол зоны, праз шэрую вату аблокаў часам прабіваўся і знікаў месяц. Я выйшаў за вахту, а маленькая постаць яшчэ доўга стаяла каля брамы.

У яслях чамусьці не гарэла электрычнасць. У калідорах і ў пакоях мільгалі капцілкі. Мяне спыніла немаладая, відаць, вечна заспаная нянька. На маю просьбу адказала, як ім загадана: «Ваабчэ-то не паложана!» А я не адступаў, грозіўся, што не выйду да раніцы. І ўсё ж, бурчучы, вынесла загорнутае ў шэрую мокрую пялёначку дзіцятка. Маё ці не маё? Прыгледзеўся — адкапылена верхняя губка. Яна. У яслях было холадна, з маленькага роціка пыхкалі струменьчыкі пары. Я прытуліў дачушку да ледзь цёплай грубкі, хукаў, цалаваў лобік, нешта шаптаў пяшчотнае, а слёзы самі каціліся па шчоках за каўнер. «Калі ж я пабачу цябе, дачушка, ці дажыву да твае сталасці?»

«Досыць тут вільгаць разводзіць. Іншыя кабялі сюды і носа не кажуць, а гэты распусціў нюні. Давай чашы, а то запаздаеш», — забрала нянька дачушку, і я пахлюпаў па гразкай дарозе да станцыі.

Ехаў на тармазной пляцоўцы ў вільготную цемень ночы, толькі ўдоўж дарогі цямнелі верхавіны хвояў і елак. На стыку з веткаю да нашых складаў цягнік запаволіў ходу, я саскочыў

з падножкі і плюхнуўся ў падталы снег. На лагпункт прыйшоў позна. На вышках паблісквалі цыгарэткі вартавых, у бараках мільгалі газнічкі, бо электрычнасць выключалі з адбоем. І такім сумам, такой тугою сустрэла мяне маўклівая зона...

## ПАСЛЯ РАЗВІТАННЯ

Я лічыў тыдні ад ліста да ліста. Ішлі яны марудна, некім прачытаныя і затрыманыя. Аля жыла ў бацькоў на невялічкай станцыі паміж Масквою і Ленінградам. Лісты супакойвалі і суцяшалі, хоць і адчувалася, як нялёгка жывецца на нішчымным бацькоўскім пайку. А вайна ўжо грымела на подступах да Берліна. З Глуска мне паведамілі — разбамбілі дзядзькава селішча, а ён сканаў у чужой хаце. Абарвалася апошняя сувязь з роднымі мясцінамі.

Затрыманыя да канца вайны чакалі Перамогі і свайго вызвалення. Не ведалі, што яшчэ некаторых пакінуць у зоне «до особого распоряжения». Без асаблівых спадзяванняў збіраўся ў дарогу Алесь Пальчэўскі, бо і яго ніхто не чакаў на волі: жонка ад страху выраклася яго, а потым адцураўся сын, пакінуўшы незагойную рану і скараціўшы бацьку век. І ўсё ж я зайздросціў свайму другу, што ён выйдзе з гэтага пекла на паўтара года раней за мяне.

Надышоў май. Вецер часам прыносіў чаромхавы пах з недалёкіх нізін і зараснікаў. Позна ноччу з восьмага на дзявятае я пачуў урачыстыя пазыўныя Масквы. Лагер спаў, а мяне затрымала дзённая зводка да поўначы. Голас Левітана абвясціў пра Перамогу Савецкага Саюза над фашысцкай Германіяй і безагаворачную капітуляцыю нямецкага камандавання. Радасць перахапіла дыханне, я кінуў усё і пабег з барака ў барак з адным словам: «Пера-мо-га!» Людзі спрасоння абдымаліся, цалаваліся, крычалі «ўра!» і ўжо не спалі да раніцы. І ў нас у гонар Перамогі быў абвешчаны выхадны дзень. Пасля абеду правялі мітынг, і начальства пераканалася, якіх патрыётаў яно трымала і мардавала за калючым дротам. Пра гэта мне прызнаўся Цокур, а Грыгарэнка і «кум», відаць, думалі іначай. Затрыманыя да канца вайны збіраліся ў дарогу. Была абвешчана амністыя вайскоўцам, вызвалялі евангелістаў і трох палкоўнікаў. Матуль мне пакінуў свой маскоўскі адрас, а самога яго загналі аж за Урал. З Пальчэўскім развіталіся на вахце, і адразу зрабілася пуста і маркотна, не было з кім перамовіцца словам, а мне ж яшчэ

сядзець да кастрычніка наступнага года. Заўсёды апошні год, апошнія месяцы і дні цягнуцца асабліва марудна. Я закрэсліваў рысачкі, а іх заставалася яшчэ шмат.

Праз пару месяцаў мяне парадаваў Алесеў ліст: яго ўзялі на выкладчыцкую работу ў Рудзенскую школу. Гэта абнадзейвала і мяне, і я часцей задумваўся, куды мяне закіне лёс, дзе тая хата, што прытуліць мяне, дзе тыя людзі, што падтрымаюць або адштурхнуць назаўсёды: у мяне ж яшчэ пяць гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў. Хто адважыцца ўзяць на работу з такою анкетаю? Усё было ненадзейна і няпэўна. Маглі ж мяне пакінуць «до особого распоряжения», вызваліць без права выезду з лагера, мог «кум» па любым даносе стукача навесіць новы тэрмін, трэба ж было яму адрабляць сваю зарплату. Ніхто з нас не ведаў, што яго чакае заўтра, думалася самае горшае.

У ліпені 1946 года маёй дачушцы быў год і пяць месяцаў, і Аля адважылася прывезці яе на знаёмства з бацькам. Дабіраліся яны доўга, у брудных перапоўненых вагонах, з перасадкамі, валяліся на заплёваных вакзалах, але неяк даехалі. Аля дамаглася дазволу толькі на «асабістую перадачу» — на вахце аддаць з рук у рукі сухары, махорку і развітацца. Але ж я быў бесканвойны. Са згоды начальніка пасяліў сваіх дзяўчат у пакойчыку Мішы Капітанакі пры ветлячэбніцы і патаемна, каб не ведаў камандзір узвода і ўпаўнаважаны оперчэкісцкага аддзела, наведваў іх кожны дзень. Беленькая чарнавокая дачушка на першым часе цуралася мяне, не ішла на рукі, не хацела ніяк называць, а я так марыў пачуць з яе вуснаў «тата». Яна яшчэ доўга дзічылася і не прызнавала мяне. Каб ніхто не бачыў, мы ўтраіх хадзілі ў лес збіраць суніцы, пару разоў наведвалі на пасецы суровага з выгляду і добрага душою Самсонава. Я рабіў вялікі крук і ў зону вяртаўся з другога боку, бо маглі ж мне навесіць новы тэрмін за парушэнне рэжыму і сувязь з вольнымі, але мы былі навучаныя горкім вопытам, і добрыя людзі ахоўвалі ад турэмшчыкаў наша маленькае крадзенае шчасце. Развітваючыся, я ўпершыню пачуў «папа», зайшлося ад радасці сэрца, горла перахапіў даўкі камяк.

Як жа мне было горка і цяжка без іх аднаму аставацца, не ведаючы, што мяне чакае ў будучым. Пасля амністыі паменела людзей, заставаліся «эсбээмаўцы», былыя старасты і паліцаі, дабывалі свае дзесяцігодкі «контрыкі» пяцьдзесят восьмай пробы, узору 1937 года. У маім самаробным календары ўсё меней і меней заставалася рысачак да запаветнай даты — 19 кастрычніка 1946 года.

## АД’ЕЗД

Дачакаўся! Еду на каменданцкі лагпункт афармляць дакументы на вызваленне. Тут сказалі, што часовы пашпарт і даведка пра адбыццё тэрміну будуць гатовы толькі праз тыдзень. Чакаю ў палатцы разам з амнісціраванымі, вызваленымі, «абмежаванцамі», з крымінальнікамі і нашым братам — «палітыкамі».

На каменданцкім лагпункце база лагернай агітбрыгады. Ёю кіруе напалову вызвалены мой даўні прыяцель Амар Галімавіч Дзевішаў. Брыгада дае канцэрты, ставіць спектаклі і аперэты. Таленавітыя аматары і прафесійныя артысты — эстонская спявачка Элен Рэйнап, колішнія салісты Беларускага радыё Вастокаў і Швайко, драматычны акцёр Курбатаў сталі любімцамі зняволеных і вольных.

Агітбрыгада рыхтавалася да свята Кастрычніка і рэпеціравала «Любоў Яравую» Транёва. Амар Галімавіч запрасіў мяне на рэпетыцыю ў клуб вольнанаёмных. Рэжысёр і акцёры выкладаліся з апошніх сіл, праганялі па некалькі разоў кожны эпізод, бясконца паўтаралі поўныя рэвалюцыйнага пафасу маналогі, а за кулісамі стралкі з вінтоўкамі пільна ахоўвалі герояў аднае з рэвалюцыйнейшых п’ес.

Туляцца ў тлумнай палатцы мне надакучыла, і я з пропускам вярнуўся на свой лагпункт да айца Іосіфа. Праз два дні мяне ў зоне «засёк» камандзір узвода Грыгарэнка і загадаў, каб і духу тут майго не было. «Ты ж вольны ўжо і не маеш права знаходзіцца ў месцы зняволення!» Выручыў Цокур: дазволіў пабыць, пакуль аформяць дакументы.

Кухары далі мне пакунак залітых лоем ырак, капцёр — пару рыбін, пекары — буханку хлеба, каб на першым часе не галадаць у дарозе. Я развітаўся з усімі знаёмымі і зайшоў да начальніка. Ён пацiснуў руку і шчыра пажадаў дабра.

З блакітнаю паперкаю — гадзічным пашпартам і даведкаю аб вызваленні — ледзьве ўдалося ўзяць білет на цягнік да Масквы. На вакзале і вакол яго людзей процьма. Цягнікі дальняга следавання спыняюцца толькі на хвіліну. Увесь апантаны натоўп рынуўся да вагонаў, а дзверы не адчыняюцца, хапаюцца за парэнчы, паказваюць білеты, грукаюць, мацюкаюцца, крычаць, праз брудныя шыбы ў дзвярах пазіраюць і круцяць галовамі абыякавыя праваднiцы. Перада мною расчыніліся дзверы, і нехта сышоў з прыступак. Я ўхапіўся за парэнчу, другою рукою прасунуў на пляцоўку фанерны чамадан, цягнік крануўся, а тоўстая, рудая, як сланечнік, праваднiца спіхвае мяне на хаду. Мільганула думка:

вось і «вызваліўся», зараз бразнуся пад колы — і канцы, ніхто і не дазнаецца, дзе дзеўся, Аля падумае — збег, нягоднік. Я з апошніх сіл адштурхнуў правадніцу рубам чамадана і ўціснуўся ў тамбур, нагою прыкрыў за сабою дзверы, каб не выштурхнула. Правадніца падняла лямант. З вагона выйшаў малодшы лейтэнант унутраных войск. «Ты што хуліганіш? Не паспеў выскачыць з лагера, зноў захацеў за калючы дрот?» Запыханы, знерваваны, я слова сказаць не магу, а ён мяне ўсё бярэ на цыгундар, пагражае ссадзіць на бліжэйшай станцыі. Я паказваю білет, але не даю ў рукі, каб не парвалі.

У тамбур выйшаў босы, у кароткіх споднiках, патлаты, з татуіроўкамі на грудзіне мужчына. «Ша! Чаго шуміш, халява? Чалавек на волю едзе, а ты яго пад колы піхаеш. Давай валі да нас». І павёў мяне ў сваё купэ. «Каб яна яшчэ вякнула, я б ёй сапатку збіў на патыліцу». З верхніх паліц пазіралі галодныя вочы мазурыкаў, вызваленых з Бура-палому. Паёк свой яны даўно з'елі, пажывіцца ў вагоне не было чым. Я добра ведаў, як трымацца ў такіх выпадках, для прыліку спытаў, куды едуць, колькі «кавалкаў адцягнулі». Усе ехалі да Масквы, а там — куды каторы. «Хаваць хочаце?» — «А ў цябе ёсць?» Я раскрыў чамадан. «Ё-ё-о маё! Жывём, гаўрыкі. Стоп. Колькі нам дзён засталося? Дзелім на кожны дзень пароўну», — саскочыў з верхняй паліцы мой выратавальнік — «пахан». «Выдаваць буду я. Хто ўздумае шопнуць, раздзяру да кутніцы». Ён востраю фінкаю з наборнаю тронкаю ўсё парэзаў на роўныя порцыі і сумленна дзяліў усю дарогу. Пацяробкі даелі ў Маскве.

Мы сталі лепшымі сябрамі. З вагона выйшлі разам. Я хацеў развітацца. «Не, мы цябе даставім на Ленінградскі вакзал». Данеслі мой пусты чамадан і не адыходзілі, пакуль не пасадзілі ў вагон. Увесь час міліцыя з нас не спускала вачэй. На развітанне «пахан» сказаў правадніцы: «Ты, чортава лялька, глядзі, не забіжай чалавека. А то магём сутыкнуцца ў в-у-у-зенькім праходзе, тады маліся Богу». На развітанне паляпаў мяне па плячы, падаў руку, кіўнуў сваім: «Гайда, мазурыкі!»

І я паехаў у невядомасць.

Цягнік ішоў у цемень кастрычніцкай ночы. З кожным паўстанкам усё часцей білася сэрца. Я ведаў, што Аля чакае мяне, а як паглядзяць, што скажуць яе бацькі? Наўрад ці каго ўзрадуе такі «зяцёк». З мае ласкі ўжо другі год Аля з дачушкаю жывуць на пенсіі бацькі і маленькай матчынай зарплаце. Ці не праклінаюць мяне, што звязаў жыццё іх дачкі са сваім пакутніцкім лёсам. Яна ж магла быць шчасліваю з нармальным добрым мужам. Не давалі збыту адны і тыя ж трывогі.

Што нас чакае наперадзе? Хто адважыцца ўзяць на работу ўчарашняга лагерніка, на пяць гадоў пазбаўленага грамадзянскіх правоў? А чаго варты бяспраўны чалавек?

Галава трашчала ад горкіх дум. Зліпаліся вочы, і нешта вярзлося неверагоднае. Цягнік запаволіў ходу. Праваднiца папярэдзіла: «Паварачвайся. Стаім адну хвіліну». З душнага вагона я вываліўся ў вільготную цемень ночы. На пероне стаяў адзіны дзяжурны ў чырвонай шапцы з заплямленым жоўтым сцяжком. Я паставіў свой нязграбны фанерны чамадан і спытаў, як адшукаць патрэбную вуліцу. Ён паказаў мне кірунак.

Вяла мяне ў змрок шырокая гразкая вуліца. Пасёлак спаў: нідзе — ні агеньчыка, ні жывога голасу, толькі надта далёка, падвываючы, лена брахаў адзінокі сабака. На Заводскай вуліцы ў мезаніне прысадзістага дома слаба свяцілася адно акно. Тут! — ёкнула сэрца. Мабыць, прачнулася дзіця або некаму не спіцца. Я дрыжачымі рукамі чыркаў запалкі, пакуль разгледзеў нумар дома. Ён! Увайшоў у пад'езд без дзвярэй і вобмацкам па рыплівай драўлянай лесвіцы падняўся наверх, намацаў абабітыя цыратаю дзверы. Аддыхаўся, пастаяў і ціха пастукаў. Пратупалі босыя ногі. «Хто там?» А я загадзя і не падумаў, як сябе назваць. Хто я ім такі? Кім даводжуся? Пamармытаў нейкія прабачэнні і нясмела сказаў: «Я Танін бацька». Бразнула клямка, каля парога ў халаціку стаяла яшчэ даволі маладая Аліна мама. У адказ на прывітанне яна нахінула маю галаву і пацалавала ў шчаку. З баковачкі выскачыла заспаная Аля і павісла ў мяне на шыі. Таня, цмокаючы адкапыленаю губкаю, соладка спала.

З Аляю і яе мілаю мамаю мы прагаварылі аж да світання. Некалькі разоў я падыходзіў на дыбачках, каб паглядзець на сонную дачушку. Раптам Аліна мама засмяялася і весела сказала: «Нарэшце супакоілася, што Таня наша». — «А чыя ж яшчэ, мама?» — «Хіба ж не маглі пераблытаць у яслях? Ты ж яе і бачыла, толькі калі карміла. Цяпер пазнала — губы і шчыліна між зубоў бацькавы, а то ўсё нейкая трывога тачыла».

Раніцай Таня зноў не прызнала — адварочвалася і цуралася. Як ні паддобрываўся, як пяшчотна ні называў, хавалася за маму. Толькі ўвечары злітавалася і павяла мяне на вуліцу. Суседкі глядзелі на нас праз вокны, азіраліся ўслед, бо чаго яны толькі не плявузгалі, калі вярнулася Аля з дзіцём. Таня бегла наперадзе, а на рукі не ішла. Калі трохі прывыкла, перадражняла мяне: «Дачушка, дачушка».

Звычайна на трэці дзень госць адчувае сябе ўжо лішнім. А я і Кастрычніцкія святы правёў у Алінай сям'і, хадзілі часта з гасцей у госці па яе радні. А мне карцела хутчэй ехаць, знайсці

нейкае месца ў жыцці, забраць сям'ю, так-сяк стаць на ногі. А куды ехаць? Толькі ў Беларусь. Раднейшай, даражэйшай мне зямлі не было і няма.

Аля ўгаворвала ўстрымацца: там жа ўсё спалена і зруйнавана, ды і ўсе мае няшчасці пачаліся там, можа, і людзі, што паламалі жыццё, пазнаюць. А я не ўяўляў свайго існавання без Беларусі. Там, за калючым дротам, бясконца сніліся родныя краявіды, а цяпер неадольная сіла цягнула туды, дзе росы цяплейшыя, сонца ласкавейшае, паветра напоена водарам, а кожнае слова цешыць і лечыць спакутаваную душу.

Толькі ў Беларусь!

Неяк Алінай маме ўдалося дастаць мне білет да Мінска. З лагерным фанерным чамаданам я чакаў цягніка на пустым пероне. Прыпынак тут толькі на адну хвіліну. Дзверы майго вагона не адчыніліся. Добра, што на тых вагонах звісалі прыступкі з парэнчамі. Я паставіў чамадан каля дзвярэй, ухапіўся за настылыя парэнчы і паехаў. Пакуль цягнік набіраў ходу, спадзяваўся, што праваднiца ўпусціць мяне, а яна толькі зірне праз закопчанае шкло, пагрозіць кулаком і знікне. Што за насланнё? Другі раз рызыкую жыццём.

Вецер свідруе навылёт, рукі дранцвеюць ад напружання і сцюжы, на закругленнях чамадан б'е па каленях і вось-вось спіхне пад колы. «От, — думаю, — і пагібель мая прыйшла. Дзесяць гадоў пакутаваў, каб так па-дурному загінуць». Адчуваю — яшчэ некалькі хвілін, і рукі адарвуцца ад парэнчаў, і не дазнаюцца, хто і чаму загінуў пад коламі цягніка. А ён тым часам запаволіў ходу, замільгалі агеньчыкі на стрэлках і станцыйныя ліхтары. Напружваю апошнія сілы і волю, каб не зваліцца. Няўжо выратуюся?

Цягнік стаў. Адчыніліся дзверы. Здаравенная зваспаватым тварам праваднiца вылаялася, хацела спіхнуць з прыступак. А ў мяне ад холаду закляклі сківіцы і вусны, што і слова не прамовіць. Так-сяк дастаў і паказаў білет. З лаянкаю: «Местов нетути, а они по блату обилечиваются, и вези где хошь» — усё ж пусціла ў вагон.

Дзякаваць богу, уратаваўся. Еду ў Беларусь.

А што далей?

Былі невялікія радасці, вялікія пакуты і... такія сінія снягі.

*[1989]*

# З ВОЎЧЫМ БІЛЕТАМ
## *Аўтабіяграфічная аповесць*

Я пропал, как зверь в загоне.
Где-то люди, воля, свет,
А за мною шум погони,
Мне наружу ходу нет.
*Барыс Пастарнак*

### I

Трэці тыдзень на волі і ўсё яшчэ азіраюся. Дзякаваць богу, канваіра з настаўленым у спіну аўтаматам не відно. Куды б ні ішоў, вярзецца — пільнае вока сочыць за мною. Паставых міліцыянераў абмінаю здалёк: раптам спытае, хто і адкуль, зірне на блакітную паперачку майго пашпарта без прапіскі і адзнак аб месцы работы, з мінусам сталічных і абласных гарадоў, і адразу «за парушэнне пашпартнага рэжыму» загрымлю туды, адкуль толькі што вярнуўся. Баюся сустракацца і з даўнейшымі знаёмымі. Хоць іх ацалелі адзінкі і, відаць, занялі высокія пасады, а хто што думае, каму служыць і як паглядзіць на цябе, невядома.

І ўсё ж нешта трэба рабіць, за нешта зачапіцца. Далі ж адразу пасля вызвалення Алесю Пальчэўскаму работу ў школе. Чаму ж і мне не паспрабаваць? Дыплом забралі пры арышце, і яго ўжо не вернеш. Выходзіць, трэба расстарацца хоць даведку аб адукацыі.

З гэтымі думкамі і трывогамі блукаю па руінах Мінска. Закураны, разбіты галоўны корпус Універсітэцкага гарадка зеўрае пустымі вачніцамі, скрозь — друз і попел, амаль увесь горад ляжыць на зямлі, расчышчаны толькі вуліцы, там-сям ліпяць дзве-тры сцяны недабураных будынкаў, вецер шкуматае паабдзіраныя шпалеры, на цвічку гайдаецца нейчы партрэт. Абапал

Савецкай вуліцы сярод друзу на градках дагнівае картаплянік. Чатыры гады бамбёжак вытрывалі толькі Дом урада, чырвоны касцёл і гарадская турма. Ад вакзала відзён Дом друку, цудам ацалелі драўляныя ўскраіны. Я знайшоў часовы прытулак на Калектарнай вуліцы ў маленькай кватэры стрыечнага брата. Пяць душ сям'і жывуць на скупым пайку па картках. Адарваны ад іх кавалак становіцца рубам у горле, а купіць нічога не купіш. Але мне да голаду не прывыкаць.

З дому выходжу раніцай, вяртаюся на змярканні, каб не кідацца ў вочы і не трывожыць пільных суседзяў, што невядома адкуль з'явіўся староннi чалавек у нейкай дзіўнай паддзеўцы з шынялі, у стаптаных ботах, малады, але на дэмабілізаванага не падобен. Усё думаю пра сябе і пра іх, хаджу, азіраючыся, як злодзей, палохаюся ўласнага ценю, — усё здаецца, нехта ідзе следам, і ўсё ніяк не магу зразумець, за што мне выпаў такі горкі лёс, такія пакуты, відаць, да самага скону.

Ноччу прыслухоўваюся да кожнага шораху і стуку. Прахаплюся і адразу не магу ўцяміць, дзе я — ні нараў, ні барачнага духу, ні капцілак няма. Няўжо сапраўды на волі? І зноў правальваюся ў трывожны сон. Удзень сланяюся па руінах, спрабую пазнаць колішнія вулачкі і завулкі, успамінаю здаўна знаёмыя дамы, а на іх месцы праз завалы бітай цэглы і вялізныя абвалы сцен прабіўся палын, на папялішчах тырчыць парудзелы скрыпень. Што тут чаўплося? Які жах наваліўся на мой горад! Хто вінаваты? Няўжо два апантаныя ў сваім фанатызме чалавекі? Думаю — і самому робіцца страшна, каб і думак ніхто не падгледзеў.

Сходзіў на сваю Цнянскую вуліцу. Стаіць мой колішні стандартны дом, месцамі з-пад асыпанага тынку тырчыць парудзелая дранка, дажджы пазмывалі пабелку, наўкол пустка і здзічэнне. На былым маім акне марлевая фіранка і маленькі калючы кактус. Хто ж там цяпер жыве? Ці ведае пра лёс сваіх папярэднікаў? Зайсці, пaглядзець на сцены, пакінутыя дзесяць гадоў назад? А што скажу гаспадарам? Мне ж хваліцца няма чым. Доўга стаяў зводдаль: зрэдку выходзілі і заходзілі нейкія людзі, выбягалі дзеці — і ніводнай знаёмай душы. Усё да драбніц ажыло ў памяці — радасць пачатку самастойнага жыцця ў гэтым казённым пакойчыку і апошняя ноч, калі вырвалі мяне з людства і кінулі ў пекла без віны і дай прычыны. Ад таго, што я не адзін прайшоў усе кругі і цяпер, нібы лепразорны са званочкам на шыі, абмінаю людзей, не робіцца лягчэй. Сотні тысяч прайшлі побач са мною па смяротных дарогах у нябыт,

а я, можа, шчаслівейшы, што вырваўся з таго свету на новыя знявагі і пакуты. Што чакае мяне заўтра, пазаўтра, праз год?

Каб жыць, трэба дзейнічаць, нешта рабіць, за нешта хапацца, чапляцца, каб не прапасці зусім. Каб адзін быў, клопату меней было б, а ў мяне ж сям'я — надзея мая і паратунак.

Дапытаўся, што педінстытут месціцца ў зялёным будынку каля клінічнага гарадка. Каб атрымаць дакумент аб адукацыі, трэба тры пацверджанні былых выкладчыкаў інстытута. А дзе іх знойдзеш, хто застаўся жывы? Амаль усе пайшлі следам за сваімі студэнтамі.

Які ні горкі быў мой лёс, і ўсё ж часам шанцавала на добрых людзей, яны з'яўляліся ў самыя крытычныя хвіліны, на такую сустрэчу спадзяваўся і цяпер. І... пашанцавала. На вуліцы да мяне прыгледзеўся і заўсміхаўся добра апрануты невысокі ружовенькі чалавек з вялікім партфелем. Пазнаў і я яго: Валодзя Вярбіла. Мы з ім у адзін час вучыліся і працавалі на рабфаку пры універсітэце. Ён не спалохаўся, хоць і ведаў, куды я знік. Спыніўся, не азіраючыся, павітаўся, папытаўся, дзе жыву, што раблю. Я расказаў пра свае клопаты.

«Заўтра прыходзь да мяне ў педвучылішча, напішу пацверджанне, што ты закончыў педінстытут. У акадэміі адшукай Барысёнка і Фіглоўскую. Яны цябе помняць і дадуць пацверджанні. У педінстытуце атрымаеш даведку аб адукацыі і чашы ў Міністэрства асветы. Настаўнікі цяпер патрэбны пазарэз. Архівы знішчаны, у многіх страчаны дыпломы, і большасць наймаецца на работу з такімі даведкамі. Я ўжо з паўсотні падпісаў нашым дэмабілізаваным хлопцам».

Наступным днём у канцы цяперашняй вуліцы Захарава адшукаў педвучылішча, дачакаўся перапынку, і Валодзя Вярбіла аддаў мне аформленае пацверджанне аб адукацыі. Першая зачэпка ўжо ёсць. Еду трамваем у Акадэмію навук шукаць сваіх былых выкладчыкаў. Ад галоўнага корпуса засталася каробка без даху, закураныя калоны, груды бітай цэглы і друзу. Увесь двор у ямах, скрутках арматуры, неразабраных руінах. І людзей не відно. Здалёк каля невялікага дамка ўгледзеў легкавушку. Значыць, там нехта ёсць. І не памыліўся. Толькі ўзышоў на ганак і праз шкляныя дзверы ўбачыў мілую Уладзіславу Францаўну — нашу Купаліху, за ёю ішлі Васіль Васільевіч Барысёнак, былы наш дэкан, і выкладчыца рускай літаратуры Лідзія Іванаўна Фіглоўская. Ад радасці аж закалацілася сэрца. Каб перахапіць, пайшоў ім насустрач. Уладзіслава Францаўна пазнала мяне, паціснула руку і прыхінулася да пляча. Спытала

толькі, каго і чаго шукаю. Я сказаў пра сваю патрэбу былым выкладчыкам. «Не, не, не. Цяпер не маем часу. Тэрмінова едзем. Заходзьце другім разам», — сказаў Барысёнак і зрабіў крок да дзвярэй. «Нікуды мы, даражэнькія, не паедзем, пакуль не напішаце патрэбныя паперкі гэтаму хлопцу. А я пачакаю».

У нейкай прыёмнай, незадаволеныя затрымкай, мае настаўнікі таропка напісалі пацверджанні, сакратарка іх заверыла, і, нічога не распытваючы, аддалі мне. Я ад радасці ледзь не заплакаў. І праз дзесяць гадоў другі раз мяне падтрымала клапатлівая і нястомная ў дабраце Уладзіслава Францаўна.

Яны паехалі, а я праз вуліцу пайшоў у часовае прыстанішча педінстытута. Відаць, адразу пасля вайны бюракратычная валакіта не паспела ўдасканаліцца і закасцянець, агрубець і зачарсцвець да цяперашняга ўзроўню. Мяне адразу прыняў негаваркі, з хваравітым абліччам дырэктар інстытута Макарэвіч. Загадаў напісаць заяву і прыкласці пацверджанні. Праз паўгадзіны ў мяне ўжо была даведка за нумарам 290 ад 15 лістапада 1946 года, што я ў 1935 годзе закончыў літаратурны факультэт Мінскага педінстытута імя Горкага і здаў дзяржаўныя экзамены.

Мае спадзяванні былі ў гэтай паперцы. З ёю я імчаўся ў Міністэрства асветы. Чым бліжэй да Дома ўрада, тым мацней калацілася сэрца і нарастала трывога, бо на ўласным вопыце пераканаўся, што мяне скрозь і заўсёды чакаюць толькі няўдачы і пакуты. Ішоў і прыдумляў магчымыя адгаворкі і прычыны, каб адмовіць мне. Што ж тады рабіць? Куды падацца? Хто адважыцца ўзяць на работу з такім пашпартам і даведкаю аб вызваленні з лагера? Чаго варта кадравіку здаць тут жа, у Доме ўрада, паставому міліцыянеру парушальніка пашпартнага рэжыму? А кадравікі сваю службу ведаюць. На ўсходцах зусім запаволіў крок, але і назад дарогі няма. Хай будзе, што будзе. Пайшоў пехатою на чацвёрты паверх. Пашнураваў па доўгім калідоры, некалькі разоў спыняўся перад дзвярыма з шыльдачкаю «Аддзел кадраў», нарэшце адважыўся і ўвайшоў. Пасярод вялікага пакоя сядзеў загадчык, за сталамі некалькі жанчын нешта пісалі, падлічвалі, падшывалі паперкі. Падумалася: Божа мой, колькі іх пішацца і падшываецца за дзень па ўсёй краіне! А якая патрэба і карысць?

Асцярожна падышоў да начальніка і спытаў, ці не знойдзецца ў любой школе рэспублікі месца выкладчыка мовы і літаратуры, і паклаў на стол свежанькую даведку. Адразу штурханула пытанне: «Дзе вы працавалі апошнім часам?»

Я павагаўся і не надта гучна сказаў, што толькі тры тыдні, як вызваліўся з лагера. «Я вас памятаю па інстытуце, на два курсы быў маладзейшы. Здорава тады падчысцілі літфак. Вось папера, пішыце заяву і запоўніце анкету». Жанчыны паклалі ручкі і глядзелі на мяне, як на здань з таго свету. Рукі ў мяне калаціліся, пяро драпала цубкую паперу, стараўся пісаць прыгожа і чытэльна, а выходзіла наадварот. Супакойваў сябе: калі спатрэбілася заява і анкета, значыць, ёсць нейкая надзея.

Кадравік прагледзеў мае кароткія паперы і папярэдзіў: «Толькі давядзецца вам выкладаць рускую мову і літаратуру. Чаму? Напэўна, разумееце самі. — Падумаўшы, дадаў: — Як глядзіце, калі пашлем вас у Брэсцкае педвучылішча. Там ёсць месца з вялікаю нагрузкаю, і горад амаль не разбіты, кватэру лягчэй знайсці». Я спалохаўся і шчыра прызнаўся, што ў прыгранічным горадзе да мяне будзе павышаная цікавасць, ды і наўрад ці пусцяць туды. Начальнік згодна паківаў галавою і спахапіўся, нешта ўспомніўшы: «Тут павінны хутка падысці хадакі з Урэцкай школы. У іх закрылі дзесяты клас, бо няма настаўніка з вышэйшаю асветаю. Калі згодны, ім, і вам, і нам будзе добра». Пакуль мы гаварылі, у пакой зайшлі тры пераросткі з Урэцкай школы ў чунях, у нейкіх вайсковых неданосках, але з жывымі і разумнымі вачамі — Белкін, Галоўчыц і Сяховіч. Потым яны былі маімі лепшымі вучнямі. Яны радаваліся не мне, а таму, што адкрыюць дзесяты клас і не прыйдзецца канчаць школу ў Слуцку. Наабяцалі яны мне найлепшыя ўмовы, і я згадзіўся. Тут жа загадчык аддзела кадраў таварыш Шадурын падпісаў загад.

Адразу не верылася, што пашанцавала і мне, што паверылі, паспагадалі і далі работу. На плошчы спыніўся каля срабрыстых елачак, дастаў вузенькую паперку: «Загад №...» Так, маё прозвішча, імя і па бацьку.

Я цяпер выкладчык рускай мовы і літаратуры ў старэйшых класах. Прачытаў — і нечаканую радасць захліснуў страх: я ж за дзесяць лагерных гадоў амаль усё забыў, часам здавалася — і чытаць развучыўся. Што я скажу вучням на першым уроку? Правалюся, і на другі ж дзень выганяць з трэскам, як толькі дазнаюцца, адкуль з'явіўся такі «педагог», ды яшчэ на пяць гадоў пазбаўлены грамадзянскіх правоў. Прававерныя калегі і сесці побач не захочуць.

Трывогі і сумненні заглушылі першую радасць. Але адступаць не было куды: з усіх бакоў — прорва. Трэба неяк дабірацца ў тое невядомае Урэчча, недзе ўсталёўвацца, пачынаць новае

жыццё. Мой стрыечны брат шчыра парадаваўся за мяне, на развітанне запрасіў заязджаць, калі будзе патрэба, і я з чыгуначным білетам да Слуцка выправіўся шукаць сваё шчасце, а можа... і новую бяду.

Быў халодны і змрочны канец лістапада, плылі нізкія запалавелыя хмары, трава пажоўкла і пасівела ад першых замаразкаў. На вакзале процьма народу, на пероне хвалююцца натоўпы людзей з малымі дзецьмі, клункамі, куфэркамі, чамаданамі, мяхамі і торбамі — жанчыны, юнакі і старыя, вялікія групы вайскоўцаў з агромністымі трафейнымі чамаданамі. Вагоны бяруць штурмам, месцы ў білетах не адзначаны: дзе ўшчаміўся, там і стой. Я і прастаяў у тамбуры да самых Асіповічаў. Тут у мяне перасадка на Слуцак. Сышоў у халодную начную слату. На пероне тое, што і ў Мінску, што на ўсіх вакзалах краіны — такое ўражанне, што ўсе людзі сарваліся з месца, абы толькі некуды ехаць, — крычаць, штурхаюцца, цераз галовы закідаюць у тамбур мяхі і чамаданы, жанчыны з зарумзанымі дзеткамі галосяць і чапляюцца за парэнчы. Правадніцы сіляцца стрымаць натоўп, адбіваюцца скручанымі сцяжкамі, ад вагона да вагона бегае адзіны міліцыянер, але ніхто і не шманае.

Я дрыжу на пранізлівым ветры і не ведаю, куды падацца. Нарэшце — бом-бом-бом: дзяжурны дае адпраўленне, цягнік паволі кранаецца, людзі ўшчаміліся на буферах, на дахах, віснуць на прыступках, нібыта ўсе спяшаюцца на пажар. І раптам дзікі крык «А-я-а-я-яй!» заглушыў усё, перакрыў лязгат колаў і пыхканне паравоза. Міліцыянер бяжыць следам, свішча і махае ліхтаром. Цягнік паволі спыніўся. Людзі бягуць да пярэдняга вагона з крыкамі: «Зарэзала! Зарэзала!» Міліцыянер і дзяжурны з ліхтарамі лезуць пад вагон і выцягваюць жанчыну без абедзвюх ног. Непрытомны абрубак кладуць на брызентавыя насілкі побач з акрываўленымі нагамі ў белых панчошках. Людзі падыходзяць, хапаюцца за галовы і бягуць прэч. Міліцыянер бяжыць ад вагона да вагона, сцягвае людзей з буфераў і прыступкаў. Толькі адыдзе, а яны зноў лезуць, абы толькі некуды ехаць — каму ў родныя мясціны, каму — шукаць лепшае жыткі.

Як толькі апусцеў перон, я ўцяміў, што ўсе рынуліся ў маленькі вакзальчык. Ён нейкім цудам вытрываў усе бамбёжкі абедзвюх авіяцый, гарматныя ўдары, хоць пашарпаны, але стаіць і слаба свеціцца аранжавымі вокнамі, да самага парога забіты людскімі целамі. Я дазнаўся, што цягнік Калуга — Баранавічы праз Слуцак ходзіць толькі два разы на тыдзень.

От табе і на! Шанцуе мне. Як таму тапельцу. Дзе ж праседзець да пятніцы амаль тры дні? У вакзале не павярнуцца, гасцініцы няма, ды і тых пазычаных у брата грошай кот наплакаў, хоць бы як перабіцца да першай зарплаты. Вось і думай, вось і выкручвайся.

І чаму я такі няшчасны? Чаму ўсе беды найперш сыплюцца на мяне? У лагеры насёрбаўся гора без віны па самыя ноздры, нібыта ўсміхнулася ўдача ў першыя дні ў Мінску, а цяпер зноў не шанцуе. Выходзіць — усё жыццё або спяшаюся, або пазнюся на свой цягнік.

Толькі ў адным пашанцавала — застаўся жывы з тысяч дужэйшых, спрытнейшых, пракіднейшых за мяне. Відаць, злітаваўся лёс і пакінуў за сведку на гэтым свеце. Але каму будзеш сведчыць, каму скажаш пра жахі ў сутарэннях і ў камерах следчых, на этапах і ў перасылках, за калючым дротам, на павале і пагрузках? Нават самому страшна, калі ўсё гэта прысніцца. А расказаць! Барані Божа, нават самаму блізкаму боязна. І вось на «волі». Але якая гэта воля з «воўчым білетам», выдадзеным на год без права жыць у буйных гарадах, з'яўляцца ў сталіцах, толькі жыць, як загнаны з усіх бакоў воўк. А хто наогул вольны? Кожны ж прывязаны да пэўнага месца і не можа зрушыцца з яго без нечыйго дазволу, яго трымае пашпарт, прапіска, працоўная кніжка, розны ўлік і пастаянны нагляд пільнага вока.

Думай не думай, а асенняя слата і вецер праймаюць да касцей. Пад надакучлівым ціхім дажджом набрыняла шапка, пацяжэла паддзеўка, перашытая лагерным краўцом з трафейнага шыняля. Іх прывозілі вагонамі, распорвалі, фарбавалі, перашывалі на бушлаты і нават на гарнітуры прыдуркам. Нарэшце прашыўся ў людны вакзальчык, прымасціўся каля дзвярэй побач з чалавекам у нетутэйшым капелюшы, у стракатым паліце, з тоненькімі вусікамі на шырокім ружовым твары. Каля яго сядзела жонка, звесіўшы на калені галаву, і нагадвала спалоханую, раскудлачаную птушку. Яны ціха перагаворваліся па-польску. Сусед з заходнебеларускім вымаўленнем мне расказаў, што едуць з Навагрудка да сына-салдата ў Слуцак. Ён нерваваўся і часта некуды знікаў. Пад раніцу раскатурхаў мяне і сказаў, што каля пакгауза стаіць паражняк і хутка адправіцца на Слуцак. Каб не пацягнуць за сабою ўсіх сонных, мы крадком выйшлі ў холад і змрок ночы і пабеглі па пуцях да таго паражняка. У цёмным і настылым вагоне ўжо бліскалі агеньчыкі цыгарак, паціху перагаворваліся нябачныя людзі. Мы ўлезлі праз

трошкі адсунутыя дзверы, за рукі ўцягнулі «пані». Пад нагамі трашчала соль ці нейкае мінеральнае ўгнаенне. Пэўна ніхто не ведаў, куды пойдзе цягнік. А раптам павязе назад, у Мінск!

Засунулі дзверы і дамовіліся, пакуль не кранемся з месца, маўчаць, каб ні чыгуначнікі, ні жадаючыя ехаць не здагадаліся, што ў вагоне ёсць людзі. (Якія ўсё ж мы эгаісты!)

Калі бразнулі буферы і скалануўся вагон, адсунулі дзверы, да нас лёгка ўскочыў нейкі малады тып. «Ану, мазурыкі, гані, заечае адроддзе, па чырвонцу за безбілетны праезд, а скнары вымятайцеся па камандзе «тры». Мой сусед заварушыўся і палез у кішэню. Я адразу змікіціў, што гэты гопнік на дурыка выкалачвае грошыкі. Ускочыў, цвыркнуў праз зубы і гаркнуў: «Давай, духарык, канай адсюль, пакуль сапатку не звярнулі на патыліцу! Мы па чырвонцу адцягнулі, а па табе параша плача...» і загнуў такога мацюка на самай дасканалай «фені», што наш «кантралёр» адразу звяў. Заварушыліся і мае спадарожнікі. «Хрэн з вамі, калі свае», — выскачыў і пабег, мабыць, у другі вагон шукаць дурняў.

Праз паўгадзіны наш таварняк тузануўся і паехаў без прыпынкаў да самага Слуцка. На станцыі яго загналі ў самы далёкі тупік паміж цыстэрнамі і платформамі з дошкамі і кругляком. Памяты, нявыспаны, я ацерабіўся ад солі і смецця, развітаўся з наваградскімі спадарожнікамі і пайшоў у горад. А горада фактычна і не было. Пазнаў толькі абгарэлыя сцены колішняга педтэхнікума, а далей, як акінуць вокам, — папялішчы, зарослыя палыном і бур'янам, толькі ў завулачку з левай рукі без адзінай драпіны бялела турма. І тут яе зберaглі адны і другія. Колькі мне ні даводзілася блукаць па этапных турмах, нідзе не бачыў разбураным гэты прытулак пакутаў, бяды і здзекаў.

За Случчу стаялі чатыры аднолькавыя двухпавярховыя дамкі пад стромкімі чарапічнымі дахамі. У іх і месціліся ўсе мясцовыя ўлады.

Перайшоў хісткі, скіданы на скорую руку масток і ў крайнім доме знайшоў райана. У маленькім пакойчыку прыняў мяне галоўны раённы асветнік Аляксей Нічыпаравіч Цыбулька. Прачытаў загад міністэрства, уважліва агледзеў мяне, відаць, зразумеў, адкуль я, нічога не распытваў, кіўнуў на табурэтку і прызнаўся, што я здорава выручыў Урэцкую школу: у пачатку навучальнага года звольніўся выкладчык мовы і літаратуры і прыйшлося закрыць выпускны клас. Цяпер будуць задаволены

вучні і бацькі, у настаўнікаў павялічыцца нагрузка і ў раёне будзе яшчэ адна поўная дзесяцігодка.

Цыбулька, відаць, здагадаўся, у якім я становішчы, прапанаваў напісаць заяву на выплату пад'ёмных, сам схадзіў у бухгалтэрыю, і я ў той жа дзень упершыню ў жыцці трымаў ладны пук чырвонцаў. Дзесяць гадоў не меў ні капейкі і раптам адчуў сябе багацеем.

Праз шмат гадоў ужо ў іншай якасці я сустрэўся з Цыбулькам,і ўспомнілі першае знаёмства. Аляксей Нічыпаравіч прызнаўся, што тады адразу здагадаўся, з якога пекла я выскачыў, у якім становішчы апынуўся, успомніў, што некалі маё прозвішча сустракаў у друку, паспагадаў і адразу выплаціў пад'ёмныя на разжытак.

А як жа дабірацца да таго Урэчча? Пайшоў на рынак. Людзей было мала. Былыя «заходнікі» з-пад Клецка прадавалі пытляванку, ружовае сала, грудкі масла ў капусных лісточках, вэнджаныя паляндвіцы. Я і не памятаў, калі бачыў і каштаваў такую смакату. Глядзеў, глытаў слінкі і адварочваўся.

У канцы рынку стаяла некалькі запырсканых гразёю палутарак. Абпытаў усіх шафёраў, і нарэшце невысокі з памятым шырокім тварам хлопец буркнуў: «Садзіся. За паўсотні падкіну». Ого! Пастаяў, падумаў, але куды дзенешся? Пехатою ж не дойдзеш. Сеў у кузаў, і паехалі на нейкую базу. Шафёр нешта доўга афармляў, потым грузілі нейкія бочкі і мяхі, я ўшчаміўся на іх, і нарэшце выехалі на «варшаўку». На змярканні каля Кучына павярнулі на гравійку, падобную на трактарную гусеніцу — яма, бугор, яма, бугор. Абапал дарогі — пералескі, дробны ельнік, на пясчаных выдмах чырвоны ракітнік, над галавою нізкае шэрае неба, вецер гоніць пясок і пыл.

Прыцемкам мінулі чыгуначны пераезд, наперадзе замільгалі слабыя агеньчыкі ў вокнах і каля самай зямлі — здагадаўся, што людзі жывуць у зямлянках. Над дахамі і стрэхамі з касмыком белага дыму тырчала высокая бляшаная труба, запахла кіслаю рошчынаю. У кузаве я намуляў бакі і прадрог ад сібернага ветру. Машына валюхалася па бітай брукаванцы і спынілася каля доўгага дома пад прысадамі, без агароджы, толькі з шуламі ад колішніх варот. Шафёр гукнуў з кабіны: «Прыехалі!» Счакаў, пакуль я ссунуўся з кузава, газануў і паехаў, а мяне ледзьве трымалі здранцвелыя ногі.

Увайшоў у двор. У доме свяцілася адно вялікае акно. У сенцах шыбануў густы дух кіслай брагі, намацаў клямку і

пастукаўся. Азваўся жаночы голас. У даволі вялікім пакоі за сталом пад лямпаю з закураным шклом сядзелі дзве бялявыя дзяўчынкі, у стоечцы румзаў хлопчык у кашульцы вышэй пупа. Невысокая расчырванелая жанчына выцягвала з палаючай печы вялікі чыгун з бульбаю. Яна здзіўлена паглядзела на мяне, сказала, што гэта і ёсць кватэра дырэктара школы, а «сам» хутка прыйдзе, прапанавала распрануцца і пачакаць.

Неўзабаве ўвайшоў высокі даўгатвары прыгожы мужчына ў паддзеўцы з шынельнага сукна, прастрочаных чорных бурках і гумовых чунях, паабліваных гарачаю брагаю, ці, як часам казалі, — бардою. Звалі дырэктара Іван Цімафеевіч Бандарчык. Ён узрадаваўся, што адновіцца дзесяты клас, у настаўнікаў пабольшае нагрузка і заработак. Я баяўся, што зараз ён пачне распытваць, хто, што і адкуль я, дзе вучыўся, дзе працаваў. Але ў яго хапіла такту асабліва не дапытвацца. Я сказаў, што жыў у Горкаўскай вобласці, пацягнула ў родныя мясціны, а каб папярэдзіць пытанні, расказваў пра Маскву, пра разбіты і спалены Смаленск, цэлыя горы патрушчанай ваеннай тэхнікі абапал чыгункі, стараўся больш распытваць пра школу. Вялікая тыпавая дзесяцігодка з усім абсталяваннем згарэла ў вайну, застаўся толькі падмурак, цяпер класы раскіданы ў некалькіх апусцелых хатах і ў гэтым колішнім папоўскім доме. Калектыў невялікі, але дружны, вучні ўсе пераросткі, ведама, у вайну амаль чатыры гады не вучыліся. У дзесятым класе толькі дванаццаць чалавек. Яны ўжо ведаюць, што будзе новы настаўнік, і пыталіся, калі прыходзіць на заняткі.

Якія заняткі? Божа мой, Божа! Што я ім скажу? У мяне ж ні падручніка, ні праграмы, нават сшытка няма. Даты і біяграфіі Пушкіна, Лермантава і Гогаля ў агульных рысах яшчэ памятаю, а ў дзесятым жа класе сучасная літаратура, новыя творы аўтараў, якіх я не чуў і не чытаў. Сэрца забілася пад самым горлам. Адчуў сябе Хлестаковым, ашуканцам спадзяванняў вучняў, дырэктара і настаўнікаў. Уявіў, як праз які тыдзень турнуць мяне як самазванца і прайдзісвета, невука з даведкаю. Я ж дзесяць гадоў і кнігі ў руках не трымаў.

Цяпло і гарачая бульба з кіслым малаком размарылі мяне пасля бяссоннай ночы ў Асіповічах і напружанага дня ў Слуцку. Гаспадыня заўважыла гэта, ведала, што нанач ісці мне няма куды, і пачала слаць пасцель на вузкай дашчанай канапе. Я распрануўся і шуснуў пад коўдру, прапахлую малодшым Бандарчыкам. Заплюшчыў вочы, а заснуць не мог: яшчэ доўга

ўпраўлялася гаспадыня, у маленькага Ванькі рэзаліся зубкі, і ён то енчыў, то крыкма крычаў. Пад чэканне ходзікаў праваліўся ў трывожны сон, зноў вярзлося, ці хутка пад'ём і развод...

Ноччу грукала калыска, шлёпалі босыя ногі, чуўся шэпт: «Сціхні ты, неслух, а-а-а, люлі, кураняты ўсе паснулі...» і зноў — прорва пакутлівай соннай трызні. На золку завішчалі, загрукалі ў дзверы лычамі свінні, відаць, унюхаўшы ў сенцах свежую брагу. За сцяною нешта совалі, бразгалі вёдры, ляпалі вечкі партаў, відаць, тэхнічкі прыбіралі да заняткаў класы.

Пасля снедання павёў мяне дырэктар шукаць кватэру. Я і сам разумеў, што тут доўга затрымлівацца не выпадае. Ішлі мы доўгаю пясчанаю вуліцаю. На пустырах з бур'яну і сівога палыну вытыркаліся стрэшкі зямлянак, з бляшаных комінаў выпаўзаў і слаўся дым. Мінулі неабгароджаныя клады з пахілымі крыжамі, вялікі дом аптэкі, нафтабазу, трапляліся прасторныя дамы з альясамі і геранямі на вокнах. Я на іх пазіраў, як на недасяжную мару. Усе дамы, хаты і нават зямлянкі былі заселены сямейнымі афіцэрамі з суседніх гарадкоў.

Бандарчык спыняўся з сустрэчнымі, пытаўся, ці не ведаюць, дзе можна прыстроіць новага настаўніка. На мяне пазіралі з нейкаю спагадліваю цікаўнасцю, а мне здавалася, што ўсе ўжо ведаюць, хто я і адкуль узяўся. Я моўчкі стаяў убаку, як цяля, якое ніхто не хоча купляць. Так дайшлі ў самы канец мястэчка. Вуліца знікала ў рэдкім сасонніку. Леваруч, на месцы колішняга вакзала, стаяла дашчаная будачка з касаю і буфетам, насупраць была пошта. Яна мне і патрэбна была. Адбіў адну тэлеграму ў Мінск стрыечнаму брату, другую жонцы ў Калінінскую вобласць, каб тэрмінова прыслалі неабходныя падручнікі па мове і літаратуры.

На пошце Бандарчык упрасіў маладжавую прыбіральшчыцу хоць часова пусціць мяне на кватэру. Яна мела невялікі дамок каля пошты і жыла разам з нямоглаю маці. Паміж кухняю і пакоем быў невялічкі калідорчык з вузкім тапчанчыкам і венскім крэселцам. Дырэктар расхваліў мой прытулак, каб толькі хутчэй сапхнуць з рук, а там не было ні стала, ні лямпы, затое пара вырывалася з вуснаў пры кожным слове. Я быў змрочны, але выбіраць не было з чаго. Вярталіся мы моўчкі.

З лагерным фанерным чамаданам я паволі ішоў на сваю першую на волі кватэру, ведаў, што доўга там не нажыву, па звычцы азіраўся, а сустрэчныя бессаромна разглядалі мяне, як кожнага новага чалавека ў невялічкім мястэчку. Яны пра яго часам ведаюць больш, як ён сам пра сябе. А мяне даймалі

ўспаміны, думкі пра маю неўладкаваную сямейку, жонку без працы і картак на харчы і апаноўвала трывога перад першым урокам, нават мільгала думка: цішком сесці на цягнік і знікнуць адсюль. А пад'ёмныя? Прысвоіў і ўцёк. Знойдуць, і зноў — турма. Няхай будзе, як ёсць. Пагляджу, чым закончыцца мая настаўніцкая кар'ера.

Праз два дні мае ўрокі паставяць у расклад ад пятага да дзесятага класа. Празвініць званок (як на мае хаўтуры), прыйду ў клас, і што я скажу сваім вучням, што ім адкрыю. Ад хвалявання цалкам адключылася памяць, нават не здагадаўся спытаць у дырэктара пра падручнікі, лічыў, што ў настаўніка павінны быць свае.

Настаўніцкая і два сумежныя класы — у доме расстралянай немцамі сям'і. Настаўнікі пазіраюць на мяне са стрыманай цікавасцю, знаёмяцца, называюць імёны і па бацьку, але хіба ўсіх запомніш адразу. Блытаюцца Ларысы і Людмілы, Тамары і Таццяны. Мужчын меней, і яны запомніліся хутчэй. Асабліва два — сімпатычны ружовашчокі на пратэзе Іван Васільевіч Магілявец і невысокі, з лёгкаю сівізною на скронях, з правільнымі рысамі інтэлігентнага твару Рыгор Антонавіч Мазавецкі. Кінуўся ў вочы ваенрук у кіцелі з мноствам ордэнскіх планак і значкоў, з пярэднім залатым зубам Міхаіл Адамавіч Сеўрук.

Дырэктар у шафе знайшоў падручнікі па літаратуры і хрэстаматыі, пакінутыя маім папярэднікам. Я ўзрадаваўся пашарпаным, скрэсленым кніжкам. Не было толькі граматыкі. Я ж за столькі гадоў забыўся дакладныя азначэнні часцін мовы, правілы правапісу і пунктуацыі, ды пры нашай нестабільнасці «стабільных» падручнікаў яны мяняліся хутчэй, чым поры года. Мову я ніколі не выкладаў, граматыка здавалася сухім і сумным прадметам, вучыў яе, каб толькі здаць залік. З тае пары прайшлі дзесяцігоддзі, і ў памяці амаль нічога не засталося, а трэба ж ісці, вучыць, чаго і сам добра не ведаю.

Напружваю памяць, успамінаю лекцыі выдатнага прафесара-паліглота Бузука, навуковую граматыку, праслуханую ў прафесара Ломцева, практычны курс Юргілевіча, і нешта пачынае ўваскрасаць у галаве: спачатку зрокавыя вобразы выкладчыкаў, потым — элементы лекцый, тэрміналогія, найбольш складаныя моўныя асаблівасці і прыклады.

Празвінеў званок, настаўнікі разышліся па класах. У мяне ўрока не было. Таропка гартаў падручнікі, каб хоць уяўляць, чаму буду вучыць сваіх дарослых вучняў. На этажэрцы ляжалі

стосікі вучнёўскіх сшыткаў з першай змены і нейкі падручнік. Зірнуў і ўзрадаваўся — граматыка для трэцяга класа. Закалаціліся рукі: ніколі ў жыцці нічога чужога не браў, а тут ухапіўся, як тапелец за лазіну, і вырашыў сграшыць. Татахкала сэрца, азіраўся, ці хто не бачыць праз акно, і схаваў падручнік паміж сваіх кніжак.

Заўтра ў мяне першы ўрок у дзесятым класе. Трэба добра падрыхтавацца, а як і дзе? У маім халодным калідорчыку цёмна і ўдзень. Лямпа гарыць толькі на гаспадынінай палавіне. Там чуецца гамана і вясёлы смех, жанчыны нешта прымяраюць, гавораць пра фасоны, а я, звесіўшы галаву, сяджу ў паддзеўцы на тапчанчыку ў поўным адчаі. Як жа без святла рыхтавацца да ўрокаў, пісаць планы, правяраць сшыткі? У продажы лямпаў няма. Настаўніку выдаюць тры літры газы і дзевяць кілаграмаў мукі на месяц. Вось табе — харч і святло. Нават капцілку зрабіць няма з чаго, ды ці дазволіць гаспадыня закурваць столь.

На цяперашні розум і адвагу пайшоў бы да гаспадыні, папрасіў дазволу пасядзець пры яе святле з аддачай спаленай газы, але за дзесяць гадоў зняваг і страху я не адважваўся нічога прасіць і спадзявацца на нейчую ласку. Сапраўды, выхавалася псіхалогія загнанага і запалоханага раба, істоты ніжэйшага гатунку, комплекс непаўнацэннасці.

У хвіліны адчаю з жалем успамінаў лагер: там была пэўная пайка кожны дзень, баланда, месца ў бараку і святло ад маленькага рухавічка, і не трэба было ні пра што клапаціцца і думаць. А тут — голад і змрок, воўчы білет, страх перад правалам у педагогіцы, адчай і безнадзейнасць і неадольная трывога за маю маленькую сям’ю.

Адзіны ратунак — урокі ў мяне ў другой змене, можна нешта пагартаць і пачытаць, хоць для завуча зляпіць нейкі план урокаў. Спадзяванні на педагагічную кар’еру былі хісткія і няпэўныя. Не распранаючыся, лёг на тапчан, заплюшчыўся, а сон так і не браў. З вакзала чуўся звон буфера, пачэпленага замест званка, а мне здавалася — на вахце звоняць пад’ём, нават інстынктыўна памкнуўся ўстаць. У рэчаіснасць вярнулі галасы за сцяною — басавіты незнаёмы шэпт і гарэзлівы гаспадынін смех. Па мазгах біла адно пытанне: за што я такі няшчасны, чаму ўсе беды б’юць у мяне без промаху? Успомнілася галоднае маленства ў грамадзянскую вайну — поліўка з гнілых тараноў у сталоўцы для дзяцей чырвонаармейцаў, галоднае існаванне на Бабруйскім камбінаце, дробнае калецтва, кіданне

ў тыфознай гарачцы паміж жыццём і смерцю, студэнцтва на трохстах грамах хлеба, рэдзенькай капусце і чаі з сахарынам, але тады сагравалі і цешылі ружовыя утапічныя надзеі, вера ў шчаслівую будучыню, і яна прыйшла пакутамі следства і дзесяццю гадамі здзекаў і голаду, нечалавечай працы за калючым дротам і заўсёды на мушцы вінтоўкі.

І вось на волі зноў люты голад — пражыў палову жыцця, а сытым ніколі не быў, а з дзяцінства так верылася, што рэвалюцыя прынесла суцэльнае шчасце, волю, дастатак і роўнасць, што цяжкасці вось-вось мінуць, калгасы заваляць краіну хлебам і ўсім да хлеба, будзе ўсё, чаго душа захоча. Верылі, тужэй зацягвалі папружкі, каб заўтра жыць шчасліва і весела, галодныя з імпэтам спявалі «Наш паровоз, вперед лети, в коммуне остановка, иного нет у нас пути — в руках у нас винтовка». Сапраўды, вінтоўка была скрозь і заўсёды. А як заўзята мы маршыравалі, як на дэманстрацыях дралі глоткі: «Широка страна моя родная» і «Слава вялікаму і мудраму правадыру і настаўніку!» І верылі, верылі да фанатызму, што да шчасця рукою падаць. Якія ўзнёслыя прамовы слухалі і паўтаралі самі, колькі ў іх было абяцанняў, надзей, веры ў светлую будучыню. А дзе яна? Пэўна, нехта шчаслівы за кошт няшчасных галодных і голых гарапашнікаў і ссінелых на карткавых пайках рабочых. І канца не відно. Аж самому страшна ад такіх крамольных думак. Каб, барані божа, хто падгледзеў ці пачуў, што круціцца ў маёй збалелай галаве, была б немінучая «вышка».

І зноў вяртаюся да рэчаіснасці: што заўтра буду рабіць у сваім класе? Можа, здаць падручнікі, усё расказаць дырэктару і развітацца назаўсёды. Не, гэта маладушша. Я ж не адзін. Недзе Аля з дачушкаю чакаюць, калі паклічу да сябе, калі зажывём сям’ёю. Я іх абнадзейваю ў лістах, хоць не вельмі веру, што некалі выб’юся з галечы і нэндзы.

Затузаны думкамі, успамінамі і сумненнямі, угрэўшыся пад паддзеўкаю, праваліўся ў трывожны сон. Усе мае сны трывожныя з нейкім пакутным трызненнем. Колькі праспаў, не ведаю, — раніца ці яшчэ ноч. За сцяною чуваць храп і чэканне ходзікаў. Паціху прайсці за перагародку, чыркнуць запалку, паглядзець, колькі часу, не адважыўся. Ляжаў і слухаў, як у дзежку капае дажджавая вада, шаргаціць па страсе галінка, зусім блізка гукнуў паравоз і з грукатам пакаціўся цягнік. Паляжаў і зноў праваліўся ў сон.

II

Ніхто і падумаць не мог, як калацілася сэрца па дарозе ў школу. Здавалася, іду на пагібель, на правал і сорам, яшчэ крок — і палячу ў бездань. Я ведаў, што трэба мець план урока, а як яго пісаць? Ішоў без планаў, думаў, калі спытае завуч, апраўдаюся — трэба даведацца, што прайшлі, на чым спыніліся вучні. Яны з асаблівай цікавасцю глядзелі на мяне. Астатнія настаўнікі былі мясцовыя, вучні ведалі іх жонак, дзяцей і ўсіх сваякоў, разам з імі штурмавалі каля бровара раздатчыка брагі, некаторых часам бачылі на падпітку, сустракаліся ў лазні. А тут з'явіўся невядома адкуль нейкі новы настаўнік, і апрануты не па-тутэйшаму, малады, паджары, а лоб ужо лезе на патыліцу. Я бачыў, як мяне бессаромна разглядаюць дарослыя і вучні, думалася, напэўна ведаюць маю «радаводную».

Як празвінеў званок, нешта здрыганулася ўсярэдзіне, устаў і пайшоў, як на кару, у колішні папоўскі дом. Там і быў мой дзесяты клас. Толькі ўзышоў на ганак, нехта крыкнуў: «Ідзе, ідзе!» — і ў клас пабеглі дарослыя хлопцы і дзяўчаты. Ляскаючы вечкамі партаў, усталі ўсе дванаццаць чалавек. Былі і знаёмыя, што вербавалі мяне ў міністэрстве і абяцалі найлепшыя ўмовы.

Спытаў, на чым яны спыніліся з папярэднім настаўнікам. І раптам радасць — пачалі знаёміцца з творчасцю Блока. Гэта ж мой любімы паэт, у інстытуце выдатна абараніў дыпломную работу па яго творчасці, памятаю многія вершы і цікавыя факты з жыцця паэта, некалі перачытаў стосы мемуараў і даследаванняў яго творчасці. Супакоіўся і павесялеў. Хвіліну падумаў, нечакана для вучняў прачытаў «Гамаюн», прайшоўся па класе і пачаў расказваць пра літаратурнае жыццё Пецярбурга на пачатку стагоддзя, пра салон Гіпіус і Мярэжкоўскага, пра «вежу» Вячаслава Іванава, пра сімвалістаў і юнага аўтара «Стихов о Прекрасной даме». Так захапіўся, што толькі ў канцы апамятаўся — большасць гэтых імёнаў даўно выкраслена з гісторыі літаратуры, нібыта іх ніколі і не існавала, і раптам апанаваў страх, што за такую лекцыю можна адразу загрымець у адзіночку. Як гэта мяне занесла? Хацеў, дурань, паказаць эрудыцыю. І пачаў тактоўна выпростваць лінію, тлумачыў, што акружэнне юнага Блока было варожае ідэям рэвалюцыі, што многія здрадзілі Радзіме і ўцяклі за граніцу, а Блок напісаў «Дванаццаць», прыняў рэвалюцыю і быў верны яе ідэям да канца. У заключэнне прачытаў «Фабрыку» і «Сытыя». Нібыта

апраўдаўся. Вучні слухалі ўважліва і неяк асабліва пазіралі на мяне. Некаторыя дзяўчаты ледзьве месціліся за партамі, завусацелыя хлопцы гаварылі ломкімі баскамі. У канцы ўрока вучні назвалі свае прозвішчы. На наступны дзень я ведаў усіх у твар і не перапытваў, як каго зваць.

З палёгкаю вярнуўся ў настаўніцкую: выходзіць, нешта яшчэ ведаю і памятаю, хоць і сам дзівіўся, што не ўсё яшчэ выбіла няволя. Праз урок у мяне была «фортачка». Тэхнічка пабегла ў краму, і я застаўся адзін. На этажэрцы сярод сшыткаў настаўніц малодшых класаў знайшоў планы па арыфметыцы і хуценька перапісаў «педагагічную балванку»: «Арганізацыйны момант». Што гэта такое? Ага, мабыць, праверка прысутных. «Праверка дамашняга задання», — зразумела, «Выкладанне новага матэрыялу», «Замацаванне», «Заданне на дом». Ну, дзякаваць богу, і планамі авалодаў. Пытаць было сорамна, каб не выдаць сябе. Асабліва пакутаваў, калі настаўніца трэцяга класа шукала свой падручнік па граматыцы, а ён ляжаў у маім халодным калідорчыку. У мяне, як у таго злодзея, не шапка гарэла, а палалі вушы і шчокі, я засланяўся газетаю, але нічога не бачыў, апрача загалоўкаў.

Як толькі атрымаў бандэролі з падручнікамі, «украдзеную» граматыку падкінуў на ніжнюю паліцу этажэркі, нібы там яна і ляжала. Разжыўшыся кніжкамі, я павесялеў. На перапынку падсеў да мяне калега па прадмеце, кульгавы франтавік у кіцелі з медалямі і гвардзейскім значком, круташчокі, чарнабровы мясцовы жыхар Рува Якаўлевіч Фрыд. Ён выкладаў рускую мову і літаратуру ў паралельных з маімі пятых і сёмых класах, жыў у сваім прасторным доме з вялікім гародам, трымаў карову і парсюка. З жонкаю ён пазнаёміўся ў шпіталі паўночнага тылавога горада. Тут яна загадвала пякарняю і была ўплывоваю ў мястэчку жанчынаю.

Рува Якаўлевіч распытаў, дзе і як я жыву, і паабяцаў дапамагчы змяніць кватэру. Неўзабаве ён завёў мяне ў доўгую хату ў сваім завулку, насупраць за рэчкаю параваў і шумеў стары бровар. Ён працаваў пры немцах, і нашы захапілі поўныя чаны брагі і цыстэрны з спіртам. Мы з Рувам прыйшлі ў доўгую хату з перарубам на дзве палавіны. Адну займалі гаспадары, на другой кватаравала адзінокая, даволі дзябёлая бабуля Францыся. Маленькія, глыбока запалыя чорныя вочкі пазіралі пранізліва, недаверліва і не надта ласкава.

Руву Якаўлевіча яна добра ведала, паважала, і яго рэкамендацыя была надзейная. А ён, амаль зусім не ведаючы

мяне, расхвальваў, як цыган каня на кірмашы. Прасторны і цёплы пакой, перапнуты стракатаю шырмаю, неатынкаванымі сценамі з паскамі моху ў пазах нагадаў мне матчыну хату, і ўжо не хацелася выходзіць адсюль. Трохі паламаўшыся, Франуся паставіла жорсткую ўмову: нікога не прыводзіць, не піць, у пакоі не курыць, позна не цягацца і згадзілася («Толькі як для вас, Рува Якаўлевіч») узяць мяне кватарантам за плату, большую, чым яна плаціла сама асноўным гаспадарам. Затое тут было цёпла, светла і блізка да школы. Рува недзе разжыўся для мяне ложкам, даў сена на матрац, падушачка і коўдра ў мяне былі, і я ўсталяваўся на новай кватэры.

Кранула мяне ўвага і клопат калегі, жаданне памагчы ў цяжкую хвіліну. Каб ён тады ведаў маю біяграфію, наўрад ці хваліў бы мяне Франусі. У самыя крытычныя хвіліны мне траплялiся спагадлівыя і добрыя людзі — у міністэрстве кадравік Шадурын, у райана Цыбулька, а тут Рува Якаўлевіч Фрыд. Калі мяне потым саслалі ў Сібір, ён, камуніст, франтавік, настаўнік, не пабаяўся аднойчы прыслаць мне скрынку яблыкаў. Такое не забываецца ніколі.

Разжыўшыся на падручнікі, я штудзіраваў іх кожную вольную хвіліну, і адразу ўключалася памяць, здавалася, забытае назаўсёды ўваскрасала і прыходзіла ў даволі стройную сістэму. Лагерны друг прыслаў з Масквы том «Истории русской литературы» Аўсяніка-Кулікоўскага, я здзіўляў вучняў падрабязнасцямі біяграфій пісьменнікаў, якіх не было ў ніводным падручніку. Часам заходзіў да мяне Рува Якаўлевіч разабраць складаныя практыкаванні па сінтаксісу. І ў яго, відаць, не многа засталося ў памяці пасля настаўніцкага двухгадовага інстытута, баёў пад Сталінградам, доўгіх шпітальных пакутаў, ды і клопаты па гаспадарцы адымалі шмат часу. Я ахвотна дапамагаў, ніяк не падкрэсліваючы сваёй перавагі, мы проста разам разбіралі сказ за сказам, расстаўлялі знакі прыпынку, вызначалі даданыя і залежныя сказы.

Дзевяць кілаграмаў пайковай мукі я аддаваў гаспадыні на праснакі, увечары ў грубцы варыў чыгунок бульбы, нішчымніцу запіваў несалоджаным чаем. Франуся стагнала і войкала за шырмаю, што позна сяджу, дарэмна пераводжу газу, што святло не дае заснуць. Калі з-за шырмы чуўся храп, я ціхенька адчыняў фортку і пускаў махорачны дым за акно. Часта гаспадыня бурчала: «На д’ябла мне здаўся гэты клопат? Жыла сабе, як пані, а цяпер кожны дзень — усяночная». Як толькі мог дагаджаў ёй: насіў са студні ваду, сек дровы, хадзіў

на дыбачках і ніколі не пярэчыў, бо лепшы прытулак у напалову спаленым мястэчку наўрад ці знайшоў бы.

Звечара Урэчча патанала ў цемры. Па шырокай вуліцы вецер гнаў пясок і пыл, на ўскраіне грукаталі таварнякі, ад бровара цягнула гарачаю хмельнаю брагаю, мільгалі газнічкі ў зямлянках. Пазней за ўсё свяцілася маё акно на пакуту Францусі.

Паступова я ўвайшоў у смак педагагічнай работы: многае ўспомніў, чытаў усё, што можна было дастаць, часам добра падрыхтаваныя ўрокі ператвараліся ў натхнёныя лекцыі і чыткі праграмных твораў — на клас была адна або дзве хрэстаматыі. Лямпаў і газы ў школе не хапала, таму вусныя прадметы ставілі ў раскладзе апошнімі, і часта ўрокі праходзілі ў поўным змроку. Стоячы каля акна, я чытаў дзевяцікласнікам драму Астроўскага «Навальніца». Некалі ў лагерным спектаклі іграў ролю Барыса і амаль увесь тэкст ведаў на памяць, рэплікі і маналогі, не заглядаючы ў падручнік, не прагаворваў, а праігрываў, як некалі на сцэне. У цёмным класе стаяла мёртвая цішыня. Не паспеў закончыць маналог Кацярыны, як пачуўся плач: некалькі вучаніц, амаль равесніц Кацярыны, заліваліся слязьмі. Я разгубіўся, а ў душы радаваўся, што слова кранала добрыя і чыстыя сэрцы.

Мне вучні задавалі шмат пытанняў, ахвотна пісалі сачыненні на цэлы сшытак, літаратура ўсё больш і больш захапляла вучняў, захапляўся і я, паверыўшы, што на нешта яшчэ здатны. І ўрокі мовы стараўся праводзіць цікава, часта для разбору вышукваў дасціпныя і трапныя афарызмы, прыказкі і крылатыя сказы. Вучні ахвотна іх занатоўвалі ў свае слоўнічкі.

З настаўнікамі сыходзіўся павольна і асцярожна, баючыся роспытаў і размоў пра палітыку, нястачы і складанасці жыцця. Тады ўсё было ясна і зразумела — чытай перадавіцы «Праўды» і ніколі не памылішся. Бліжэй мне быў дасведчаны батанік, улюбёны ў літаратуру, смелы і справядлівы Іван Васільевіч Магілявец. Ён страціў нагу ў баях пад Растовам, у ерэванскім шпіталі закахаўся ў маладзенькую армяначку, што так далікатна перабінтоўвала яго куксу. Выпісаўся і прывёз у бацькоўскую хату да брата Цімаха маладзенькую чарнавокую Валю. Іван Васільевіч часам грашыў вершамі, паказваў іх мне. Я стрымана падтрымліваў яго захапленне, каб не крыўдзіць добрага чалавека, — няхай, думаў сабе, лепш піша вершы, чым співаецца, як многія калекі вайны.

Інтуіцыя падказала, што ў нас агульны лёс, і звяла з Рыгорам Антонавічам Мазавецкім. Выкладаў ён хімію, фізіку, асновы дарвінізму, мог замяніць любога прадметніка, добра ведаў

нямецкую мову, матэматыку і сусветную літаратуру. Гэта быў рэдкі ў наш час сапраўдны інтэлігент, цудам ацалелы ў капальнях запалярнага Нарыльска. Некалі ён скончыў сельскагаспадарчую акадэмію, потым металургічны інстытут, працаваў на буйнейшых заводах і ў Наркамаце чорнай металургіі, дзесяць гадоў адбыў на Таймыры, Вызваліўся, але жыць з сям’ёю ў падмаскоўным Крылацкім не дазволілі з такім жа воўчым білетам, як у мяне. Прыехаў на радзіму і пасяліўся ў хатцы на курыных ножках у малодшай сястры. І яму далі работу ў школе, не з ласкі, не з даверу, а толькі таму, што ні адна школа не была ўкамплектавана. Мы разумелі, што трымаюць нас часова да новага папаўнення скараспелымі выпускнікамі.

Рыгор Антонавіч быў сапраўднаю хадзячаю энцыклапедыяй: матэматык ішоў да яго з «упартаю» задачаю, «немка» з незразумелым словам, фізік з тэорыяй адноснасці. Тлумачыў ён даходліва, проста і весела, ніколі не падкрэсліваючы сваёй перавагі і адукаванасці. Нам з Рыгорам Антонавічам было што ўспомніць, параўнаць, падумаць пра нашу няпэўную будучыню, — ведалі, як толькі пачнецца новая хваля пільнасці і барацьбы, зноў прыйдзецца сушыць сухары.

Мне, пакаранаму за «нацыяналізм», дазволілі выкладаць толькі рускую мову і літаратуру. Прыехаў я з Расіі, стараўся гаварыць без беларускага акцэнту і вучняў папраўляў, калі яны акалі, гэкалі і дзэкалі. У настаўніцкай часам разгортваў «Звязду», сустракаў знаёмыя прозвішчы колішніх таварышаў па літаратуры і журналістыцы і дзівіўся, што тры-чатыры з іх не захлынуліся ў крывавым пекле. Некаторыя настаўнікі пыталіся, ці разумею па-беларуску, я жартаваў, што авалодваю моваю.

Некалькі разоў мае ўрокі наведваў завуч Зміцер Васільевіч Пігулеўскі. Быў ён не надта моцны матэматык і, мабыць, не лепшы завочнік у свае сорак гадоў. Напачатку я баяўся яго наведванняў, чакаў разносных разбораў, асабліва ўрокаў мовы. А ён абмяжоўваўся дробнымі заўвагамі — «зацягнулася праверка дамашняга задання, на замацаванне новага матэрыялу трэбы было выклікаць слабейшых вучняў». Аднойчы сказаў, што не ўсё разумеюць на маіх уроках, складана тлумачу і ўжываю слоўцы, якіх няма ў падручніку.

Сапраўды, часам забываўся, што мае вучні некалькі гадоў не трымалі кніжкі ў руках, мала чытаюць і цяпер, пасля школы ў кожнага хапае работы дома: бацькі многіх не вярнуліся з вайны, а некаторых за тое, што ў часе акупацыі рабілі на бровары, смалакурні і цягнулі лямку на чыгунцы, каб неяк пракарміцца,

«за пасобніцтва фашыстам» забралі на дзесяць і на пятнаццаць гадоў на змену нам з Рыгорам Антонавічам.

І ўсё ж я не хацеў спрошчваць свае ўрокі да прымітыву, адмаўляцца ад ужывання літаратуразнаўчых тэрмінаў і паняццяў. Параіў вучням завесці слоўнічкі і запісваць кожнае новае і незразумелае слова і запомніць яго значэнне. Неўзабаве пачуў, як мае вучні шчыгаляюць «вучонасцю», часам недарэчы ўжываючы новыя для іх словы, як цытуюць перавертні Хлебнікава і нават Кручоных.

Я ўваходзіў у смак. На ўроках літаратуры забываўся пра сваё пакутніцкае становішча, пра неўладкаванасць, непрыемнасці і згрызоты. Ад жабрацкай зарплаты частку адрываў на кнігі. Пасля вайны выходзілі аддрукаваныя ў Лейпцыгу аднатомнікі рускіх класікаў з добрымі прадмовамі і грунтоўнымі каментарыямі, паспяваў сачыць за навінкамі ў перыёдыцы, чытаў «Кавалера Залатой Зоркі», «Белую бярозу», вершы Сіманава. Даволі часта мяне прымушалі даваць адкрытыя ўрокі, рабіць даклады на пасяджэннях метадаб’яднанняў і педсаветаў. Часам думалася, ці не правакуюць мяне, ці не правяраюць мае палітычныя пазіцыі і погляды, ці не ловяць на слове. Гэта прымушала асабліва старанна рыхтавацца і быць асцярожным у выказваннях, быць заўсёды наструненым, прадбачлівым і абачлівым.

А Франуся ела мяне поедам, што заседжваюся вечарамі, што куру з рукава ў фортачку, што шамацяць мае паперы. Не лаяла, а сама сабе кляла па-польску і па-беларуску. Да ўсяго ж я быў хранічна галодны. Часам заходзіў у так званы рэстаран. Ён быў у старой хаце побач са школаю. У буфеце хапала спірту-сырцу, пад шклом ляжалі вараныя ныркі, шэрыя катлеты і халадзец, падобны на свежы сталярны клей. Ён мне нагадваў у лагерным сталярным цэху начнога вартаўніка — недаростачка з вуграстым шэрым тварыкам Кольку Саўкіна. У кляянках заставаўся звараны з конскіх пысаў і капытоў клей. Агаладалы Саўкін з’ядаў яго замест халадца, а пад раніцу курчыўся і енчыў жыватом. Забіралі яго ў санчасць, неяк прачышчалі страўнік, забаранялі есці клей са здыхляціны, а на другі дзень усё паўтаралася зноў. На лаянку доктара Саўкін апраўдваўся: «Так исць хоцца, што не смогаю. Не посылайте в столярку, кабы не помереть». Які я ні быў галодны, а, успомніўшы Саўкіна, да халадца не дакранаўся. Галодны чалавек хутка прастуджва-

ецца і мерзне. Мяне душыў кашаль, губы абкідалі болькі, твар зарастаў сухою шчацінаю.

Аднойчы Рува Якаўлевіч сказаў, каб увечары заскочыў да яго, магчыма, удасца разжыцца кавалкам хлеба. Як ні прыкра было чакаць нейчай ласкі, прасіць падаяння, але голад часам бывае мацнейшы за сорам. Мне часта сніўся свежы хрусткі бохан, а пах брагі нагадваў водар цёплага хлеба. Фрыдаву жонку з пякарні часта падвозілі дадому на машыне вайскоўцы. Як толькі крыты грузавік прамільгнуў за акном, мне ўжо не сядзелася — неадольная сіла цягнула ўслед за ім. Пазіраў, калі з кабіны выйдзе з чорнаю сумкаю Тося, калі ад'едзе машына, марудзіў, пакуль распранецца і ўправіцца гаспадыня, і прыдумляў нейкую патрэбу да Рувы. Тупаў узад-уперад, не адважваючыся зайсці ў хату. Я ведаў, што частка звышпрыпёку перападае «пякарцы», і спадзяваўся, што нешта сёння абломіцца і мне. Павагаўся і зайшоў у цёмныя сенцы, намацаў клямку і паляпаў ёю. Відаць, чакаючы некага свайго, Тося крыкнула: «Чаго шкрабаешся? Заходзь». Я спыніўся на парозе, гаспадыня сумелася, кіўнула мне і знікла за шырмаю ў запечча. Прычыкільгаў з каморы мілы Рува Якаўлевіч і запрасіў да сябе. Спрабавалі гаварыць пра школьныя справы, пра настаўнікаў, але гаворка не клеілася. І ён і я ведалі, што мне трэба, але галоўную размову адцягвалі. Нарэшце Рува выйшаў у кухню і прычыніў за сабою дзверы. Пасля размовы з гаспадыняю ён прынёс загорнутую ў газету кулідку цёплага хлеба. «Колькі?» — спытаў я. Памаўчаўшы, ціха прамовіў: «Сказала, дваццаць пяць». Я вытрас усё, што было ў кішэні, падзякаваў, пад крысом адчуў цяпло свежага хлеба. Пакуль ішоў дадому, глытаў слінкі і даў зарок: «Лепш галадаць і ні ў кога не прасіць ласкі». Галадаў цярпліва і доўга.

## III

Ноччу зямля загула і патрэскалася ад марозу. Счарнела канаплянае і сланечнікавае цыб'е, заінелі палыны і бур'яны, вецер хвастаў твары пылам і шорсткім пяском. Нудна гулі тэлеграфныя слупы, на чорным небе тлелі буйныя зоры. Цёмнымі і ветранымі начамі асабліва было маркотна і горка адчуваць сябе адрынутым людзьмі і богам. Часам забываўся пра свае пакуты на ўроках літаратуры, калі мог захапіцца сам і захапіць вучняў.

Праз сенцы ў кухні асноўных гаспадароў уранні і ўвечары сварыліся, клялі адно аднаго за нейкі здор, за сала, за ван-

трабянку, а хто вінаваты, відаць, толкам і крыкуны не ведалі. Калі ўсчынаўся вэрхал, я затыкаў вушы і ніжэй схіляўся над кнігаю. Франуся бурчала: «Зноў нячысцікі ўсхадзіліся». Асабліва даядалі старэйшую дачку. Вайною яна нагуляла з нейкім паліцаем байстручка. Дробненькі залатушны хлапчучок часам татам называў дзеда, а той крычаў: «Твой тата — Ваня ў Магадане, а ты з мамкаю на маю шыю ўсселіся, каб вас пярун...» Уся сям'я зрывала злосць на няшчасным дзіцяці, папікала яго пакутніцу-маці лыжкаю заціркі і скваркаю. Яна крычала ў адчаі: «Каб не дзіця, даўно рынулася б пад паравоз. Але трасцу! Вы ж яго, нелюдзі, голадам заморыце». Мне было шкада яе і залатушнага хлопчыка. За шырмаю стагнала і войкала Франуся нават ад рыпу табурэткі. Мне хацелася хутчэй уцячы ў школу і на ўроку забыцца ад штодзённых згрызотаў. З вучнямі я гаварыў як з дарослымі людзьмі — многія дзяўчаты ледзьве месціліся за партамі, хлопцы галіліся і гаварылі басамі і, не хаваючыся, курылі. На ўроках задавалі нечаканыя пытанні, прыахвоціліся чытаць навінкі літаратуры, часта аспрэчвалі афіцыйныя ацэнкі аповесцяў Паўленкі і Панфёрава, а мне прыходзілася выкручвацца, шукаць нейкія непераканаўчыя довады, хоць і сам ім не верыў.

У дзесяты клас хадзіў сын мясцовага святара Слава Шаламіцкі, старанны і здольны, высокі, з тонкім тварам і душою бялявы юнак. Яго інтарэсы былі куды шырэй за школьную праграму, ён стараўся да ўсяго дайсці сам, пісаў цікавыя самастойныя сачыненні. Яго ацэнкі і характарыстыкі часцей не супадалі з ацэнкамі падручніка, я быў абавязаны настаўляць яго на правільную лінію, папраўляць і зніжаць адзнакі, але за арыгінальнасць мыслення ўсё ж ставіў пяцёркі і страхаваўся мінусам. Іншыя настаўнікі ацэньвалі яго беззаганныя веды толькі з класавых пазіцый — стараліся зрэзаць, знізіць адзнаку, але прычапіцца да Шаламіцкага было не так проста, і ў журнале ў яго былі адны пяцёркі і чацвёркі. Слава спадзяваўся, што толькі медаль дапаможа паступіць у медычны інстытут, інакш з яго паходжаннем не было чаго і стукацца туды. Ён быў адзіны прэтэндэнт калі не на залаты, дык на сярэбраны медаль.

Але дзе вы бачылі! Як толькі я на педсавеце заікнуўся пра гэта, паднялася цэлая бура, загаварылі пра палітычную блізарукасць, беспрынцыповасць, напомнілі, хто яго бацька. «Мы ж ацэньваем не папа, а сын, як вядома, за бацьку не адказвае», — даводзіў я. «Юрыдычна так, — растлумачыў ваенрук Сеўрук, — а фактычна класава ненадзейны элемент» — і знізіў ацэнку па ваеннай справе, дырэктар — па гісторыі.

Замест мединститута Шаламіцкі паступіў у духоўную семінарыю, потым скончыў акадэмію і стаў прафесарам багаслоўя. Праз шмат гадоў мне расказвалі, што ён прыязджаў да бацькоў у госці на ўласным «ЗІМе» і пасміхаўся з былых аднакласнікаў пралетарскага паходжання. Каб не залішняя пільнасць прынцыповых настаўнікаў, не прафесарам багаслоўя, а, магчыма, прафесарам медыцыны стаў бы Вячаслаў Шаламіцкі. Не пра ідэйную чысціню савецкай навукі дбалі пільныя настаўнікі, а дрыжалі за сябе, каб толькі, барані божа, ніхто іх не папракнуў у прытупленні, страце партыйнай прынцыповасці. Дырэктар неяк аднаму мне намякнуў пра неабходнасць быць больш разборлівым у сваіх прапановах. А я думаў, колькі мы трацім таленавітых маладых людзей у навуцы, у тэхніцы толькі таму, што некаму не падабаецца татава анкета.

З Шаламіцкім мы жылі на адной вуліцы і часта пасля заняткаў разам ішлі ў адну дарогу. Ён, відаць, давяраў мне, а можа, здагадваўся ці ведаў, які лёс закінуў мяне сюды, і гаварыў са мною адкрыта і шчыра: «Сталін сказаў, што сын за бацьку не адказвае, а чаму дзяцей у пялёнках выслалі разам з бацькамі, чаму я з першага класа адчуваю сябе чужым, горшым за ўсіх, нават аднакласнікі баяцца са мною сябраваць. А мой бацька нічога кепскага не робіць, сілком нікога не прымушае маліцца, толькі вучыць людзей дабру і сумленнасці. Часта людзям патрэбна споведзь і суцяшэнне, парада і падтрымка, вось і ідуць... А ў чым вінаваты я?»

Я як умеў суцяшаў яго, казаў, што мясцовыя перастрахоўшчыкі нечага не разумеюць і баяцца, што прыйдзе час і ўсё стане на свае месцы. Ён не надта ўважліва слухаў мае суцяшэнні, бо я і сам не верыў ім. З адным ён згаджаўся: што мусіць старанна вучыцца, больш ведаць, быць працавітым, настойлівым. Мы развіталіся каля майго завулка, і я нехаця ішоў слухаць Францісіну буркатню і вэрхал за здор і сала.

З нейкіх амерыканскіх, юнраўскіх, складаў на школу выдзелілі дзве пары абутку. Адны чаравікі дасталіся матэматыку Міхаілу Фёдаравічу Гурыновічу, другія — мне. Вялізныя, з цубкай штучнай скуры на тоўстай падэшве, падбітай лупатымі цвікамі, ратавалі мяне ад холаду і макрэчы. Па дарозе ў школу на бруку з-пад маіх чаравікаў пырскалі іскры і чуўся кавалерыйскі грукат.

На адрас школы мне часта прыходзілі лісты. У зваротным адрасе было незнаёмае маім калегам жаночае прозвішча. Гэта інтрыгавала асабліва цікаўных настаўніц. Часам, трымаю-

чы высока ліст, па дурной звычцы прымушалі мяне тупаць гусеніцамі амерыканскай работы. Я абыякава хаваў канверт у кішэню, хоць страшэнна карцела прачытаць такі чаканы ліст.

У старэйшых класах я даручаў пісаць невялічкія рэфераты на пэўную тэму, а сам клаў разгорнуты ліст у журнал і некалькі разоў яго перачытваў. Аля падрабязна пісала пра поспехі нашай дачушкі, як яна прыдумляе казкі і лічылкі і расказвае іх бабулі. Мабыць, каб парадаваць мяне, пісала, што Таня часта пытае, калі прыедзе тата і чаму яго так доўга няма. У сваіх пачуццях Аля была стрыманая, а мне так не ставала яе ласкавага слова, пяшчоты і цеплыні, пасля дзесяцігоддзя зняваг, лаянак і папрокаў хацелася хоць самай стрыманай увагі. У канцы ліста напісала: «Спадзяюся, Новы год будзем разам, тады і скажу ўсё, што думаю і адчуваю. Чакай тэлеграму».

І я чакаў яе, як найвялікшую радасць, але і нарастала трывога, як сустрэне Франуся маю жонку, што можа ляпнуць у сваёй зацятай зласлівасці. Яна ж не разлічвала, што ў мяне ёсць і можа прыехаць сям’я. Я прымяркоўваўся, як сказаць сваёй наравістай гаспадыні, што да мяне можа прыехаць на некалькі дзён жонка. Прыдумляў дыпламатычныя падыходы, а сказаць баяўся, каб адразу ж не турнула з гэтага пастылага, але неабходнага мне прыстанішча.

У школе работы і клопатаў усё прыбывала: у 5—6-х класах далі мне некалькі гадзін малявання і класнае кіраўніцтва ў 10-м класе. Пры маёй беднасці кожная капейчына была не лішняю. Як і ўсіх настаўнікаў, і мяне прымацавалі да дзесяцідворкі — весці агітацыйную работу, чытаць газеты, тлумачыць найважнейшыя партыйныя і ўрадавыя пастановы, расказваць пра буйныя дасягненні ў краіне і ў лагеры сацыялізму. Слова «лагер» будзіла толькі адны ўспаміны, вярэдзіла душу, думалася — няўжо і там лагер?

Разы два на тыдзень я хадзіў на сваю дзесяцідворку. Добрая палова ўрэцкіх удоў, абсыпаных дробнымі дзецьмі, яшчэ жыла ў зямлянках, петавалася і гваздалася ў гразі і гнаі на агаладалых фермах. Даглядчыцы і даяркі былі такія ж перапалыя, як іх ледзьве жывыя каровы з накарэлымі на сцёгнах «медалямі» гною, самых нядужых падвешвалі на вяроўках і ўсё адно — даілі, давалі «план». А я, «лішэнец», мусіў даводзіць, якія мы ўсе шчаслівыя пад сонцам Сталінскай канстытуцыі, якія ў нас вялікія правы, што толькі ў СССР няма беспрацоўя, што ў нас усеагульная пісьменнасць, дармовае лячэнне, трактары і камбайны, што ўсім забяспечана шчаслівая будучыня.

Плявузгаў і баяўся глядзець у вочы змардаваным работаю, зашушканым у неданоскі і транты, дачасна звялым, зморшчаным, пасівелым маладзіцам. Язык не паварочваўся абяцаць блізкае шчасце. У зямлянках дымілі газнічкі, на палку і каля бляшанай печкі ў рыззі капашыліся мурзатыя дзеці, амаль усе з болькамі на празрыстых тварыках і залатушных галоўках, абстрыжаных лесвічкаю. Чым я мог суцешыць гэтых няшчасных мацярок? Яны ад цямна да цямна гарбелі на калгаснай рабоце за палачкі ў ведамасці і некалькі кілаграмаў пазаддзя. Толькі пачалася зіма, а ўжо некаторыя саламяныя стрэхі паздзіралі на сечку, звозілі з поля счарнелую салому.

Не столькі я агітаваў, колькі выслухоўваў скаргі і прычытанні, праклёны і плач. Часам пісаў скаргі ў пракуратуры, што без дай прычыны забралі «карміцеля», пад скаргамі жонкі збіралі подпісы мястачкоўцаў, а з турмы так ніхто і не вярнуўся. Гледзячы на гэтую пасляваенную галечу і нэндзу, сам ледзьве стрымліваў слёзы, стараўся ўсе беды спісаць на вайну, абнадзеіць і суцешыць.

У канцы года пачалася «добраахвотная» падпіска на чарговую Дзяржаўную пазыку. Мне і маладому выкладчыку беларускай мовы Паўлу Жуку даручылі правесці падпіску на нашых дзесяцідворках разам. Мой калега, тутэйшы светлавалосы кучаравы прыгажун, ведаў усіх, і яго ўсе ведалі з маленства, у вайну ён партызаніў і часам заскокваў у мястэчка разжыцца лекамі і харчамі. Вечарамі, пасля калгаснай работы, мы з Паўлам спускаліся ў зямлянкі ўгаворваць пакутніц памагчы дзяржаве залячыць раны вайны і падпісацца на пазыку.

Памятаю, маладзіца, як манашка, абвязаная чорнаю хусткаю, бліснула поўнымі слёз вачыма: «Наце, забірайце ўсіх гэтых галапузых за паўсотні на разжытак уласці!» — тыцнула чорным скручаным пальцам на траіх мурзатых дзетак з галодным бляскам чыстых вочак. «Апруцянеюць, пахаваць не будзе за што». А дзеці ў голас: «Не аддавай нас, мамка, мы болей не будзем плакаць і прасіць есці. Не забірайце, дзядзечкі, нас».

Я выскачыў з зямлянкі, каб не расплакацца наўзрыд, за мною, кусаючы губы, вылез Павел Жук, вымацюкаўся і сказаў, што болей не пойдзе трэсці гэтых няшчасных. Яму, з чысценькаю анкетаю і партызанскім пасведчаннем, можна было занатурыцца, а мне? Злазіў яшчэ ў некалькі зямлянак, убачыў адно і тое ж, як пад капірку, і з незапоўненым падпісным лістом вярнуўся на кватэру. Не распранаючыся, лёг на рыплівы ложак, закінуў рукі пад галаву, і ахапіў мяне жах, зрабілася страшна

жыць і хлусіць гэтым змардаваным працаю і голадам жанчынам, хлусіць вучням і самому сабе. Жыццё раздвойвалася на горкую і страшную праўду і на ружовую хлусню. Падумаў: пакуль будзем дзень і ноч маліцца аднаму «вялікаму і мудраму», дабра, спакою і шчасця не будзе. Спахапіўся і жахнуўся ад страшных думак. Барані божа, нехта прачытае тое, што роіцца ў збалелай галаве, і — канцы табе, і не адапрэшся, думаў, а гэта ўжо — зла-чын-ст-ва!

Толькі часам па дарозе са школы перакідаліся намёкамі з разумным і дасціпным Рыгорам Антонавічам Мазавецкім. Яго жонка і сын жылі ў сваім доме пад Масквою, жонка настаўнічала, сын працаваў урачом, ён з «воўчым пашпартам» баяўся нават адведаць іх, каб «за парушэнне пашпартнага рэжыму» зноў не загрымець на паўднёвы бераг ракі Нарылкі. Рыгор Антонавіч хадзіў па сваёй дзесяцідворцы з такім жа вынікам, як і мы.

Пасля заняткаў сабралі ў сельсавет на інструктаж усіх зборшчыкаў падпіскі на пазыку. Старшыня сельсавета, памяркоўны дэмабілізаваны сяржант, добра разумеў становішча местачкоўцаў, але ціснулі на яго, ён ціснуў на нас: «Важнейшая палітычная кампанія — падпіска на пазыку, у нашым савеце пад пагрозай зрыву. Ніхто нам не дазволіць правaліць дзяржаўнае мерапрыемства спасылкамі на аб'ектыўныя прычыны. Недаравальна бяздзейнічаюць некаторыя настаўнікі, ад бабскіх слёз распусцілі нюні і патакаюць супраціўленню розных элементаў...» — «А вы канкрэтней», — перабіў яго наезджы невялічкі чалавек у блакітнай фуражцы. «Я маю на ўвазе вас і вас, — старшыня тыцнуў на мяне і Паўла Жука, — гэта ж трэба ўмудрыцца, два славеснікі не падпісалі ніводнага чалавека. Расчуліла іх, бачыце, Хадора Мінчэня, жонка нямецкага памагатага. Такія адносіны да важнай справы інакш як сабатаж не назавеш...» — «Цішэй на паваротах, Сымон Пракопавіч, — узарваўся Павел Жук, — мы такія сабатажнікі, як Леўка Мінчэня памагаты. Ён жа кожны тыдзень нашаму атраду ў грэлках перадаваў спірт для шпіталя, перасылаў данясенні, а яго за гэта ўпяклі за краты. Ніхто не хоча і пальцам кіўнуць, каб вызваліць чалавека. На яго жонцы і кашулі няма». Галасна заржаў парторг і галоўны пажарнік Іван Койка: «Ты, відаць, замест падпіскі правяраў бабскія кашулі і што пад імі, гы-гы-гы...» — «На большае ў цябе мазгоў не хапае. Ты ж ведаеш, у кожнай зямлянцы плакаць хочацца. Там дзеці, як свечкі, дагараюць. А ты-ы-ы!» — агрызнуўся Павел Мікалаевіч. «От

зараз мы вам пакажам, як пры правільнай пастаноўцы работы з насельніцтвам усе будуць падпісвацца», — закончыў старшыня.

І сапраўды, паказалі. Нікуды не дзеліся, хоць з плачом, а падпісваліся. І Хадора Мінчэня здалася. Па тых жа зямлянках другім наваротам мы ўжо хадзілі ўтрох. Паперадзе выступаў невялічкі, рудзенькі, як вераб'інае яечка, наезджы начальнік. На нагах, як люстэрка, блішчалі наваксаваныя боты, на пагонах — блакітны пасачак і па невялічкай зорачцы, на стаўбунаватай галоўцы, як рэшата, фуражка з блакітным верхам. Падумалася: «Ну ж і ў кампанію я зачасаўся!» Пах ад яго «Беламору» і трайнога адэкалону нагадваў мне страшныя ночы маёй жахлівай маладосці. Няўжо гэта агульны дух той страшнай установы?

Што прозвішча яго Сёмін і з якое ён установы, даведаліся на нарадзе, а што валодае такою магічнаю сілаю, мы з Паўлам не ўяўлялі. Варта было яму пераступіць парог, як гаспадыні і дзеці замiралі адразу. «Вы что, ходзяюшка, проти советской уласти имеете? А?.. Пачиму не жалаите поддержать родное правительства, разароннае Гитлерам атечаства?» Гаспадыня маўчала, скрыжаваўшы рукі на запалых грудзях. Сёмін выцягваў падпісны ліст, згінаўся над хісткім столікам і пытаўся: «Фамилия, имя, атечаства, стать... цьфу, чортова прывычка. Колхозница аль рабочая? Сколько отвалишь родному государству? Не боись, оно тибе с процантам и выигрышем возвернётъ. Так сколь?»

Гаспадыня толькі хліпала ды ражочкам даўно не мытай хусткі выцірала вочы і без слова, не пярэчачы, у ведамасці супроць прозвішча і сумы ставіла нейкую загагуліну, усхліпвала: «Калі не выстарчу, забірайце гэтых рахіцікаў, няхай разам з бацькам у тым лагеры пазыку адрабляюць». — «Не вякай, баба! Знаеш, как это называецца? Аги-та-цыя! Паняла? Ну, пращевай».

Так з хаты ў зямлянку, з зямлянкі ў хату, як за блішчастаю іконаю, хадзілі мы следам за малодшым лейтэнантам Сёміным і ходка запаўнялі падпісныя лісты. Толькі адна распатланая кабета з прыпухлымі вачыма ўзвілася ў апошнім адчаі: «Гаспадара нізашто забралі, з яго і спаганяйце, а ў мяне няма чым ні зад, ні перад затуліць», — і яна ляпнула па зашмальцаванай, як бляха, спадніцы. «У нас без дела не берут. Видимо, пособничал». — «Каму пасобнічаў? Усе чатыры гадочкі петаваўся на смалакуры, каб з голаду не апруцянець. Якое ж гэта пасобніцтва?» — «В партизаны, небось, не пошёл». — «Каб усе пайшлі, хто б карміў тых парцізанаў? От і Павел, няхай скажа, колькі разоў

прыходзіў па скароміну. Праўду кажу, Мікалаевіч?» — «Што было, то было», — змрочна пацвердзіў мой калега па падпісцы.

Вылезшы з зямлянкі, Сёмін павучаў нас: «Вот как надо работать, товарищи пидагоги, а то распустили сопли. Не нажмёшь — не капнет. Ишь, как миленькие подписались». Толькі ў канцы нашай сумеснай работы я разгадаў «магічную» сілу таварыша Сёміна. Ён быў начальнікам слуцкай турмы. Ад яго залежала прыняць падаянне ці не, даць свіданку ці адмовіць, прыняць адзежу і грошы ці вярнуць назад. А прычына адна: «Не положено». Урэцкіх у камерах Сёміна было поўна: не маглі ж людзі амаль чатыры гады сядзець склаўшы рукі, трэба было неяк жыць, і наймаліся хто на бровар, хто на смалакур, хто на чыгунку за маркі, а галоўнае, каб не загналі ў той «фатэрлянд». А вызвалілі, прыйшлі нашы, і адразу свае ж падтыкалі на «здраднікаў і памагатых», і зашнураваў «варанок» ад зямлянак да Сёмінавай мураванкі з кратамі, адтуль — дарога ў Сібір, у Варкуту і слаўны горад Магадан. Вось у чым «прапагандысцкая» сіла Сёміна. Паспрабуй не падпісацца ў такога агітатара. А мы, дурні, канючылі, упрошвалі, абяцалі светлую будучыню за тыя няшчасныя сіроцкія чырвонцы.

Хадзіць разам з Сёміным вельмі ж няўтульна было мне: блакітны верх і крывава-чырвоны аколыш, блакітны прасвет на пагоне адразу паднімалі ціск — і пульс лупіў сто дваццаць удараў у хвіліну.

## IV

Снегу не было да самага Новага года. Зямля ад сцюжы пасівела і парэпалася, вецер запарушваў вочы дробным пяском. Было холадна, няўтульна і змрочна. Першае паўгоддзе ў маёй педагагічнай практыцы — празмерна напружанае: неяк трэба падгледзець, як пішуцца справаздачы прадметніка, класнага кіраўніка, планы на наступнае паўгоддзе, выставіць усім адзнакі, запоўніць журналы і дзённікі, ды так ацаніць поспехі, каб забяспечыць высокі працэнт у справаздачы школы. Дрыжаў над кожнаю паперкаю, каб не выдаць сваю недасведчанасць. І ўсё ж неяк выкручваўся.

Раптам радасць і трывогу прынесла тэлеграма: «Сустракай 27-га ноччу. Аля». Цягнік Калуга — Баранавічы прыходзіў далёка за поўнач. Чым пазней заседжваўся над школьнымі паперамі, тым люцей абуралася мая гаспадыня. Я заціскаў

вушы, прыкідваўся глухім, а гэта яшчэ больш злавала Франусю, ёй, відаць, хацелася, каб я агрызаўся і даваў магчымасць выпусціць застарэлыя крыўды на яе бабыльскі лёс. Яна глуха ныла і ныла, як гнілы зуб.

Я доўга не адважваўся прызнацца, што ненадоўга прыязджае жонка, і нарэшце вымушаны быў неяк падрыхтаваць сваю гаспадыню, каб часам не выставіла нас абаіх ноччу на вуліцу. «На колькі нядоўга? — заірдзелася Франуся. — Каб ведала, што сямейны, ніколі б не пусціла, і трымаць не збіраюся. Ну і ўсватаў мне бяду Рувачка!» Я супакоіў, што Аля доўга не затрымаецца, бо пакінула ў бацькоў маленькую дачушку. «Бронь божа, і крыксу яшчэ сюды, чаго добрага, прытарабаніш. А ці папраўдзе жонка едзе? Цяперашнім светам за адным стаднікам чарада ходзіць. Як праверыш?» — хітра ўсміхнулася гаспадыня. Тут у мяне ёкнула сэрца: чаго добрага, у яе хопіць спрыту праверыць пашпарт, а ў ім пра шлюб ніякіх адзнак няма, бо там, дзе нас звёў лёс, загсаў не было. Пасля вырашылі пакуль што не звязваць сябе юрыдычна — не было гарантыі, што не могуць мяне зноў схапіць, а жонку пацягнуць за «сувязь», за «недоносительство». Гэты страх стрымліваў нас да самай маёй рэабілітацыі. Толькі з дакументам «о прекращении дела» адважыліся зарэгістравацца, а за сведак былі двое нашых дзяцей.

Перад Аліным прыездам, як толькі мог, улагоджваў сваю наравістую гаспадыню, а Франуся толькі ўздыхала за шырмаю, але з кватэры не гнала, бо брала з мяне больш, чым плаціла сама.

Я ведаў, якая крыўдлівая Аля, і першы наскок Франусі атруціць нам некалькі дзён.

27 снежня ў чорную, як сажа, цемрадзь я загадзя пайшоў на вакзал. На месцы разбітага вайною будынка стаяла доўгая дашчаная будка. Сцежка ад мястэчка вяла проста ў буфет. Там было хоць заліся спірту-сырцу, на закусь — блакітны «зэльц» і слізкі бурачковы вінегрэт. З боку перона — акенца касы і тры доўгія лаўкі на ўсыпанай шалупіннем ад семак падлозе.

Пакуль чакаў цягніка, успомніўся нядаўні выпадак. За п'янку спісалі з адной вайсковай часці маёра медычнай службы, выпісалі літэр і «бывай здароў». Выправіўся да цягніка, а раніцою ледзь цёпленькі прыпоўз назад у часць. Так тыдні з два ніяк не маглі яго выправіць. «Чаму не паехалі?» — выходзіў з сябе камандзір часці. «Бачыце, — тлумачыў медык, — вакзал пастаўлены няправільна: ідзеш і адразу замест касы трапляеш у буфет, а там, самі разумееце, знаёмыя, слова за слова, а цягнік

фю-і-і-і-ць — і няма. Калі б вакзал развярнулі, трапляў бы ў касу і ўжо даўно быў бы дома».

Вакзал так і не развярнулі, маёра даставілі два аўтаматчыкі, пасадзілі ў вагон і стаялі на пероне, пакуль цягнік не знік за семафорам. Мне гэта ўспомнілася ў халоднай і цёмнай «зале для пасажыраў». Памяць пракручвала ўсё наша кароткае, горкае і рамантычнае жыццё з Аляю. Яна была адзіным, самым дарагім і надзейным чалавекам у маім кручаным лёсе. Маленькая, кволая, шчырая і пяшчотная, з нязломным і непахісным характарам жонка, назаўсёды зарэгістраваная ў маім сэрцы. У чаканні стукала ў скронях, не верылася, што вось-вось спыніцца цягнік і яна трапіць у мае абдымкі.

Часта мяне апаноўвала трывога, страх, што магу страціць яе назаўсёды, тады жыццё траціла сэнс, заставаліся пустата, змрок і адзінота. У хвіліны сумнення думалася: навошта я ёй, кляймёны страшэнным таўром, назаўсёды адрынуты ад людзей, выпушчаны на «волю» на кароценькай шворачцы без ніякіх правоў. Разумеў, што такіх, як я і Мазавецкі, церпяць, пакуль не хапае настаўнікаў, а як толькі з'явяцца надзейныя кадры, адправяць з воўчым білетам шукаць ветру ў полі. Ідзі ў грузчыкі, калі возьмуць, у дворнікі, бо і яны «наменклатура» пэўнага ведамства. Я ведаў, што Аля са мною ніколі не зведае шчасця і на дачушку пяройдзе каінава пячатка з бацькавай заплямленай анкеты.

Часта выходзіў на дзіравы насціл перона, прыслухоўваўся да нуднага гулу ветру, да звону і шоргату па рэйках пясчынак, у змроку не было ні зорачкі, ні іскрынкі, толькі ад ліхтара з разбітым шклом на брудным пероне гайдалася жоўтая пляма. Было холадна, няўтульна і маркотна, радавала трывожнае хваляванне, што недзе ў непрагляднай чарнечы грукоча і калываецца вагон з самаю роднаю і неабходнаю жанчынаю, маці майго дзіцяці — дарагою знаходкаю патаемнага кахання.

Нарэшце ў змрок урэзаўся яскравы прамень і памчаўся наперад. На пероне стаяў вайсковец з вялікімі чамаданамі і некага сустракалі дзве немаладыя жанчыны. Ужо выразна чуўся грукат колаў на стыках і ўваходнай стрэлцы, замільгалі слаба асветленыя вагоны, паравоз дыхнуў вільготнаю параю і перагарам антрацыту. Успомніліся радкі: «И окунаясь в масло по локоть, рычаг начинает акать и окать». Як дакладна і «смачна» сказана. Далекавата ад мяне адчыніліся адзіныя дзверы вагона. Я пабег да яго. Правадніца выцірала парэнчы, на пляцоўцы стаялі два

вайскоўцы з рэчамі. Як толькі яны сышлі, я падхапіў на рукі маленькую і лёгкую, як падлетак, і знёс на перон Алю.

Трымаючыся за рукі, мы ішлі па цёмнай шырокай вуліцы. Каб не было нечаканасцю, я расказаў пра характар сваёй гаспадыні, прасіў не зважаць на яе буркатню. «Нічога, можа, мы з ёю і паладзім», — супакоіла Аля. У сенцах пракіслаю бульбаю пахла свіное карыта, загрымеў звалены сякач. Мы на дыбачках увайшлі ў пакой. Я засвяціў лямпу з прыкручаным кнотам. За шырмаю заварочалася і застагнала Франуся.

Седзячы на ложку, Аля расказвала, як цяжка было дабірацца з перасадкамі ў Маскве і ў Калузе. А больш гаварыла пра нашу маленькую Таню. На кожны наш рух, на кожнае слова гаспадыня азывалася ўздыхам, войканнем, штучным кашлем і ціхім мармытаннем. На другі ці трэці дзень Франуся глядзела на нас, як на асабістых ворагаў. Болей так жыць было немагчыма.

Пра маё становішча ведалі некаторыя настаўнікі. Іван Васільевіч Магілявец напытаў мне пакойчык у самым канцы мястэчка, непадалёк ад яго хаты і суседняй вёскі Крупенік. Хата Змітра Карпіевіча была на дзве палавіны. У цёплай кухні пры бацьках жылі тры дачкі і сын Міша. Ён і дзве сястры былі маімі вучнямі. Цераз сенцы ў вялікай халоднай каморы мы і пасяліліся. У ёй была настылая, як халадзільнік, грубка, драўляны ложак, стол, дзве лавы, старое «венскае» крэсла і дзве табурэткі. У кутку зарасталі пылам даўно не кратаныя кросны. Дыхнеш ці загаворыш, з вуснаў выпырхвае слупок пары. За кватэру гаспадар з нас дорага не браў, толькі самі мусілі дастаўляць дровы. А дзе іх узяць? Усё наваколле бязлеснае, паблізу і палкі не знойдзеш. Я нагледзеў непадалёк недавершаны зруб. Як толькі змеркла, азіраючыся, набраў бярэма трэсак. Загула наша грубка, на падлозе замітусіўся квадрат святла. Лямпы ні ў нас, ні ў продажы не было. З невялікай бутэлечкі зрабіў каганец з кужэльным кнотам, і загайдаліся на пабеленых сценах нашы павялічаныя цені.

Мы шчыльна сядзелі на перакуленым табурэціку і моўчкі глядзелі, як гайдаюцца, ірвуцца ў комін, то асядаюць языкі полымя. Здавалася, нам болей нічога не трэба, толькі б ніколі больш не разлучацца. (Потым разлук нашых хапіла б на тры жыцці.)

Праз некалькі дзён пачаліся зімовыя канікулы, і мы сабраліся без запрашэння ў госці да маёй стрыечнай сястры. У Слуцку ўшчаміліся ў спадарожны грузавік і надвячоркам прыехалі ў Старобін. Сястру разам з мужам пасля заканчэння медычнага

інстытута прыслалі ў гэты палескі раён. Тут яны абсталявалі бальніцу і амбулаторыю, занялі пры ёй два пакойчыкі, лячылі ад усіх хвароб, у дождж, спёку і завею ездзілі да хворых у самыя далёкія вёскі. Дома ўпраўлялася і гадавала трох унукаў і ўнучку сестрына маці — маленькая і сухенькая цётка Зося. Да старасці яна дажыла ў Глуску, ніколі нікуды не выязджала, цягніка не бачыла, на машынах не ездзіла, ні чытаць, ні пісаць не ўмела, а ўсе дзеці былі вучоныя і выдатныя спецыялісты.

Ад нямецкай бомбы згарэла ў Глуску хата, а неўзабаве ў чужых людзей сканаў мой дзядзька, славуты на ўсё наваколле каваль Іван Бобрык. Пасля вызвалення Глуска сястра наняла фурманку і прывезла да сябе маці, за возам ішла кароўка-першацёлка, у палукашку ляжалі самавар і дзядзькава мультановае паліто. Пажыццёвая гарэтніца цётка Зося не магла сядзець ні хвіліны, калі не было работы, яна яе сабе прыдумляла, бяднейшаму і галоднаму магла аддаць апошняе, нямогламу сама ішла на помач.

У Старобіне мы з Аляю адразу трапілі ў цяпло, святло і дастатак, увагу і дабрату родных людзей. Цётка Зося адразу ўпадабала маю Алю і гадзінамі расказвала пра сваё жыццё вобразнаю моваю маёй Глушчыны. Аля ўважліва слухала, згодна ківала галавою, а потым у мяне пытала, што такое царніца, паляндвіца, вырай, кіяшнік, патэльня, ёмка. Сястра трымала сваю карову і пару кормнікаў, бо пасля вайны з сям'ёю на карткавым пайку не пражывеш. Пры бальніцы быў ладны гарод і сад, ды і раён быў ураджайны, не тое што пясчанае і бязлеснае Урэчча. Мы ад'ядаліся і адсыпаліся ў цяпле і выгодзе. Пры печы ўпраўлялася сухенькая згорбленая цётка Зося. Алі падсоўвала самы падсмажаны дранік і большую скварку, прыгаворваючы: «Еш, дзеткі, пакуль есца, бо яшчэ нагаладаешся за свой век. Анціхрысты спляжылі ўсё, што чалавеку і рукі няма за што зашчаміць. Еш, не стыдайся. Ты ж вунь якая, аж свіцішся».

Дні міналі хутка, і страшна было з выгоды вяртацца ў пустую, цёмную і халодную стадолу. Але кожнаму гасцяванню прыходзіць канец. Праўду кажуць: «Першы дзень госць — золата, другі — срэбра, трэці — медзь, дадому едзь». І мы пачалі збірацца ў дарогу. Ноччу загула, закруціла мяцеліца, сады, платы і прысады, стрэхі і дарогі ўкрыліся зіхоткаю беллю. Было якраз як у Пушкіна: «В тот год осенняя погода стояла долго на дворе, зимы ждала, ждала природа, снег выпал только в январе». На календары было 7 студзеня 1947 года. Пачынаўся для нас новы, трывожны, загадкавы, з цьмянымі спадзяваннямі год.

Сястрыца Маруся напакавала нам у дарогу ладную торбу, а цётка Зося ўсё яшчэ нешта ў яе пхала, прынесенае пад фартушком з кладоўкі. Расчуліла Алю падараваная цёткаю кужэльная кашуля, відаць, зберажоная з маладосці, мне дала ў спадчыну дзядзькава доўгае мультановае паліто. Як яно потым мяне ратавала ў настылай Карпіевічавай хаце. Вечарамі я не вылазіў з яго. Прысоўваў стол да ледзь-ледзь цёплай грубкі, запальваў газнічку, пісаў планы, правяраў сачыненні, разбіраў практыкаванні, Аля выпраўляла памылкі ў дыктантах і ставіла адзнакі. Ад яе прысутнасці і дыхання рабілася цяплей і спакайней на душы. Раніцай у гаспадынінай печы яна варыла бульбу, часам пякла з пайковай мукі праснакі.

Каб зусім не аташчалі, я часам прыцемкам хадзіў да Рувы Якаўлевіча і выстойваў вялікую ласку — кулідку цёплага хлеба за 25 рублёў і быў удзячны за Тосіну дабрату, бо на рынку плаціў бы ўдвая больш.

Пасля зацяжной восені студзень заскавытаў завеямі і затрашчаў марозамі. У нашай лядоўні з замураванымі наледдзю шыбамі станавілася невыносна. Дроў не было ні палкі, і купіць нідзе не купіш, ды і купіла таго не выстарчала. Вечарамі гаспадыня, мілая і гаваркая цётка Марыля, запрашала Алю ў сваю цёплую кухню. Аля памагала Мані і Сашы рашаць задачкі, часам і Міша прасіў праверыць яго сшытак. А я вымушаны быў дубець у халоднай стадоле над планамі, сшыткамі і творамі сучасных пісьменнікаў. Мільгаў мой каганец, ад поўнага замярзання ратавала дзядзькава паліто. Мой адбітак у цьмяным гаспадарскім люстэрку нагадваў мне Меншыкава ў Бярозаве.

Часам у нашу лядоўню па дарозе ў школу заходзіў Іван Васільевіч. З-пад крыса шыняля ён выцягваў то бурак, то некалькі морквін, то круглую жоўтую рэпу. Ён успамінаў, што з юнацтва пісаў вершы, а ў ерэванскім шпіталі прысвячаў іх клапатлівай і пяшчотнай сястрычцы міласэрнасці. Яна не паслухалася бацькоў, пакінула дом і снежныя вяршыні Арарата, сонечны горад і паехала з беларускім бязногім салдатам у спаленае і зруйнаванае Урэчча.

Невыносная халадэча прымусіла пазычыць у гаспадара сякеру і саначкі. Запрэгліся з Аляю і падаліся па цаліку ў далёкія хмызнякі расстарацца якога-кольвечы ламачча. Грузалі з сумёта на сумёт, пад нагамі круцілася і сыкала белымі змеямі пазёмка, вецер хвастаў шчокі шорсткім снегам. Кіламетры праз тры ў завірушным полі прыбіліся да нізкарослага пакручастага бярэзніку. Па даўняй лесарубскай звычцы паабтоптваў

таўсцейшыя камялькі, ссякаў іх і, не цярэбячы, складаў на саначкі. Аля перацягвала іх ад куста да куста. Нагрузілі, увязалі настылаю вяроўкаю, упрэгліся і павезлі дадому сыры хмыз.

На дрывотні ўсё перасек на дробныя цурачкі, таўсцейшыя перакалоў і, каб падсыхалі, склаў каля грубкі. Доўга распальвалі іх: скручвалася і абгарала бяроста, агеньчык хліпаў і тух, на камяльках пенілася вада, і ніяк яны не ўгараліся.

Ад холаду і голаду я сцяўся, зашалудзівеў, але трымаўся, каб толькі не захварэць, бо мне, не члену прафсаюза, ніхто б і капейкі не заплаціў па бюлетэні.

Дырэктар і настаўнікі бачылі, як я перабіваюся, але далікатна маўчалі. Напэўна, усё ж Іван Васільевіч націснуў на Бандарчыка, і той злітаваўся. У склепе аднаго з класных будынкаў было поўна бульбы з прышкольнага ўчастка. Ход у склеп быў з баковачкі, у якой у часе завеяў часова жылі матэматык Гурыновіч і фізік Няронскі. Звычайна яны ў добрую пагоду ездзілі з недалёкай вёскі Сорагаў, а снягі і завеі пераседжвалі тут. Бандарчык напісаў запіску тав. Гурыновічу, каб адпусціў мне пуд бульбы. Запіску я аддаў Міхалу Фёдаравічу і спытаў, калі можна прыйсці. Ён усміхнуўся і ціха сказаў: «Гадзін у дзесяць бярыце саначкі і добры мех, а то і два». Я разгубіўся, але паслухаўся Гурыновіча.

Амаль усё мястэчка спала. Я цягнуў саначкі задамі і азіраўся, нібы ехаў на нейкае злачынства. У пакойчыку над запаветным склепам гарэла газнічка з артылерыйскага патрона. Матэматык і фізік спрытна ўскочылі на бульбу і нафугавалі поўны мех. Утрох ледзьве ўсцягнулі яго на падлогу, вынеслі за дзверы і ўскацілі на саначкі. «Ну, і скнара ж. Яму шкода галоднаму настаўніку школьнай бульбы. Пакуль мы тут, прыязджайце яшчэ». Мужчыны папхнулі прыстылыя саначкі, і я, азіраючыся, шпарка пацягнуў іх задамі на сваю кватэру.

Вялікая блакітная поўня залівала святлом усё наваколле, зіхацелі ўсыпаныя блёсткамі снягі, і мігцела накатаная палазамі дарога, рыпела пад нагамі наледзь. Я трымаўся зацененай стараны, каб часам ніхто не ўбачыў, што вязу вялізны мех, і не сказаў Бандарчыку.

Мы адчулі сябе багацеямі і пражылі на гэтай бульбе амаль цэлы месяц, а халады не спадалі. У коміне і за вокнамі гула і скавытала завея, аж надзімаліся марлевыя фіранкі і хіліўся агеньчык на каганцы. Але трэба было неяк жыць у холадзе і голадзе, усміхацца і жартаваць на ўроках, прыкідвацца аптымістам, заклікаць сваіх дзесяцідворнікаў да ўдарнай працы,

хлусіць пра вялікія поспехі недзе і раўняцца на іх нам, выпускаць на ферме «маланкі» і «баявыя лісткі».

Я бачыў, як пакутуе Аля, але суцяшае і падтрымлівае мяне. Часам шанцавала ў нядзелю купіць на рынку кавалачак сала, некалькі цыбулін, тады мы разгаўляліся заскварaным бульбяным булёнам. Мяне замучылі прастудныя болькі на твары і на губах, была адзіная надзея на вясну: часцей прыгравала сонца, туманныя адлігі папраточвалі сумёты, а ў нас — халадней, чым на вуліцы.

Ні з таго ні з сяго Аля сабралася ў Старобін. «Чаго гэта табе закарцела ехаць у такую бездараж за блізкі свет?» — «Развітаюся з Марусяю і цёткаю Зосяю перад ад'ездам да сваіх». Я не надта адгаворваў, бо добра ведаў: калі яна наважылася, дык ніякія ўгаворы і просьбы ўжо не спыняць, хоць расцягніся — не адступіцца ад свайго. Ды і варухнулася думка, што там трохі адыдзе і з пустымі рукамі ад сястрыцы не вернецца. Сабралася і паехала.

Тры дні выглядаў яе ў акно і ўсё ж не ўпільнаваў. На змярканні Аля ўвалілася з дзвюма торбамі цераз плячо, хіснулася і, не здымаючы іх, ссунулася на лаву. Твар шэры, вочы запалі, зашэрхлыя вусны збялелі, змакрэлыя валасы прыліплі да лба. Я зняў цяжкія торбы, расплікнуў мокрае паліто. Аля прыхінулася да сцяны і прастагнала: «Ой, но-о-жа-чкі...» Суконныя бурачкі з сырамятнымі перадамі ледзьве сцягнуў з набрынялых ножак, падэшвы ўкрылі сінія пухіры.

У Старобіне ёй напакавалі харчоў, толькі сабралася ехаць назад, а дарогу да Слуцка так расквасіла, так размясілі фурманкі і грузавікі, што па ёй можна было прайсці толькі пешкі. Як яе ні ўгаворвалі пачакаць, не паслухала і выправілася ў няблізкую дарогу. Адразу ж пазмульвала ногі — вяртацца не адважылася, а ісці няма як. Разулася і ў панчохах патупала па гразі, змешанай з падталым снегам, калі зусім не чула ступакоў, абувалася зноў і кульгала, колькі магла. Так і адолела трыццаць пяць кіламетраў да Слуцка. На станцыі ўшчамілася на платформу з піловачнікам і даехала да Урэчча.

Трэскамі распаліў грубку, перад агнём расціраў закарчанелыя ногі. Праз гадзіну Аля адышла, і мы ўжо балявалі старобінскімі пачастункамі. За вячэраю яна прызналася: «Хіба ж можна было пакінуць цябе галоднага ў гэтай лядоўні? Вось і выправілася да Марусі. Ведала, хоць што, ды дадуць, а цётка Зося усё падкладала і падкладала «беднаму Сярожачку». Вось

з’езджу дадому, а як пацяплее, прывязу Таню, і будзем неяк жыць».

Цяжка было нам разлучацца, але сядзець у голадзе і холадзе, пакінуўшы дачушку на слабенькую Аліну маці, не выпадала. Як толькі адышлі ногі і акрыяла сама, пасадзіў Алю на калужскі цягнік і маркотна вярнуўся ў пустую, настылую за зіму камору. Забываўся толькі захоплены працаю: афармляў выстаўкі, прысвечаныя пісьменнікам, рабіў наглядныя дапаможнікі і табліцы па арфаграфіі, грунтоўна рыхтаваўся да ўрокаў і кожны раз расказваў больш, чым было ў падручніку. Радаваўся, калі ўважліва мяне слухалі вучні і ціха сядзелі няўрымслівыя неслухі.

Здзівіўся я, калі старшыня сельсавета даручыў мне падрыхтаваць інструкцыйны даклад прапагандыстам да 77-й гадавіны з дня нараджэння Леніна. І брацца страшна, і адмаўляцца няма як: цешыла, што, відаць, мне давяраюць, і баяўся — а можа, правакуюць, ці не ляпну, да чаго можна прычапіцца. Усё ж узяўся і пачаў старанна рыхтавацца. А сумленне тачыла. Хацелася пайсці і шчыра сказаць: «Таварышы, я ж на пяць гадоў пазбаўлены грамадзянскіх правоў, «лішэнец», нядаўні лагернік. Няўжо ў вас не знойдзецца незаплямленых лектараў?» А страх страціць работу адымаў язык, і я ледзь не да раніцы праседжваў над сваім першым адказным дакладам, стараўся, каб ён быў не банальны, а цікавы, насычаны фактамі, эмацыянальны і ўзнёслы.

З трывогаю дачакаўся таго дня. У большым класе сабраліся прапагандысты з бровара, з калгаса, смалакурні, настаўнікі нашай школы і рускай сямігодкі. За апошняю партаю паблісквалі пагоны маёра райаддзела ўнутраных спраў грамадзяніна Ушакова. Ён часта наязджаў у наша мястэчка і, вядома, пра мяне ведаў болей, чым я сам пра сябе. Чаму ж ён не забараніў мясцоваму начальству даручаць такі адказны даклад нядаўняму палітычнаму «злачынцу» ? Няўжо знарок, каб мяне на нечым падлавіць?

Маёр Ушакоў уважліва слухаў і часам нешта запісваў у блакнот. Гэта мяне асабліва насцярожвала, ці не ляпнуў чаго недазволенага ці двухсэнсоўнага, можа, дапусціў палітычную памылку. Не можа быць. Даклад, перасыпаны надзейнымі цытатамі, цікавымі фактамі, сагрэў патэтыкай і лепшымі радкамі Маякоўскага. Чытаў з натхненнем і запалам, шчыра верыў таму, што гаварыў.

Развітваючыся, многія дзякавалі, нешта ўдакладнялі, пыталіся, дзе можна яшчэ нешта прачытаць, а я непрыкметна пазіраў на свайго апекуна Ушакова. Ведаў, што больш за ўсё яго цікавяць Мазавецкі і я. У некага ж ён распытвае пра нас, нехта сочыць за намі, паведамляе, дзе і з кім мы сустракаемся, хто заходзіць да нас, як жывем, што гаворым. Але хто той таемны Юда, што за страх ці за срэбранікі прадаў сваю душу і гатовы адным ілжывым сказам загнаць нас на той свет. Напэўна, нехта добра знаёмы, што набіваецца ў сябры, правакуе на небяспечныя размовы. Як горка і страшна ўсё жыццё адчуваць на сабе патаемны пагляд дробных даносчыкаў і стукачоў. Каму гэта патрэбна ўсіх людзей трымаць пад наглядам, каб сачылі адзін за адным тыя ж сексоты і нават упаўнаважаныя ў блакітных фуражках? Навошта сілком плодзяцца нягоднікі, даносчыкі, гатовыя родную маці пад страхам прадаць? Я такіх сустракаў, ведаў, што яны ёсць і тут, што начамі пад рознымі клічкамі пішуць паклёпы і на мяне. Мусяць пісаць, у іх патрабуюць. Божа, Божа, што за свет, што за людзі?!

Праходзячы каля мяне, Ушакоў змушана працадзіў: «Хороший доклад иcделали», нешта сказаў старшыні савета і знік за дзвярыма.

На маім дакладзе быў яшчэ адзін вельмі важны слухач — новы дырэктар рускай сямігодкі Герой Савецкага Саюза Уладзімір Дзямідавіч Лазнік. Ён і яго жонка — філолагі з вышэйшаю асветаю. Вось мне і надзейная замена ў наступным годзе. Для іх тэрмінова вызвалілі дом паміж кладамі і аптэкаю, для жонкі наскрэблі гадзін у сямігодцы, а ён замяніў на дырэктарскім месцы беспартыйнага Гофмана, узяў сабе некалькі гадзін геаграфіі, чарчэння і фізкультуры. Я ведаў, што Лазнікі заменяць мяне і прыйдзецца зноў недзе шукаць прыстанішча і дзевяць кілаграмаў мукі на месяц. Я ж чалавек з воўчым білетам, учорашні лагернік і займаюся выхаваннем падрастаючага пакалення, хіба ж можа быць гарантыя, што не працягваю шкодную ідэалогію? Я разважаў за сябе і за іх. Пазбавіцца ад мяне прасцей простага. На ўсіх нарадах хвалілі былога дырэктара сямігодкі, а спатрэбілася Лазніку месца, і паляцеў Гофман у радавыя настаўнікі з маленькаю нагрузкаю. Пра яго, праўда, расказвалі не надта прыемную гісторыю. Як толькі вызвалілі Урэчча, ён з сям'ёю цесця адразу вярнуўся сюды. Бровар пры немцах і пасля іх працаваў на поўную магутнасць — паравалі катлы і былі поўныя цыстэрны спірту ў падвалах завода. Спажыўкааперацыя спешна адкрыла ларок і

пачала неабмежаваны гандаль спіртам-сырцом. У ларку сядзелі пазменна Гофман і яго цесць, стары слязлівы і сінягубы Рыміч. З ларка спірт ліўся ракою, а ў ларок грошы — сапраўднаю паводкаю: на захад ішлі вайсковыя часці, афіцэры спыняліся каля ларка і паражнілі свае кішэні і планшэты ад соценных. Пазней мне расказваў капітан Воранаў, што, не адпаўзаючы ад ларка, у тыя памятныя дні прасадзіў васемнаццаць тысяч дарэформенных рублёў.

Неўзабаве ва Урэччы адкрылі школу, а настаўнікаў няма. Гофман не прызнаўся, што ён педагог-матэматык, сядзеў сабе ў фанернай будцы, пакуль не схлынула хваля пітакоў. Толькі калі ларок прыкрылі, цесць з зяцем падлічылі вялікія прыбыткі, і матэматык хутка заняў дырэктарскае месца ў сямігодцы.

Наша метадычнае аб’яднанне навязала мне даклад на тэму «Рацыянальнае засваенне правапісу прыназоўнікаў і прыставак, пунктуацыя ў складаназлучаных і залежных сказах». Аднеквацца мне не было як — я ж лічыўся асноўным выкладчыкам у старэйшых класах і чалавекам з добра падвешаным языком. Толькі мне і не хапала ў маім голадзе і з маёю нагрузкаю даклада па граматыцы, якую я не надта любіў і ведаў сам. Больш за ўсё мяне трывожыла, што прыйдзе Лазнік і пасадзіць мяне ў галёшу, прынародна скампраметуе, каб хутчэй заняць маё месца. Можа, па іх прапанове і падстроілі гэты даклад.

Я зноў рыхтаваўся начамі, перакопваў мноства метадычных распрацовак у неразрэзаных нумарах часопіса «Русский язык в школе», падбіраў цікавыя прыклады засваення пунктуацыі ў складаных сказах.

Лазнікі такі прыйшлі і паселі пасярод слаба асветленага класа. Усе з непрыхаванай цікавасцю, ліслівa разглядалі іх, усміхаліся, загаварвалі, дагаджалі. Пра Уладзіміра Дзямідавіча гаварылі, што ён занадта сціплы і просты таварыш, каб не кідацца ў вочы, і Зорку Героя не носіць. Яго жонка прыгожая, вышэйшая ростам за мужа, вясёлая і добрая настаўніца. Лазнік, чарнявы, з непаслухмяным чубам, кірпаты, быстравокі і ўсмешлівы, сядзеў у светла-шэрым афіцэрскім шынялі. Я хоць і хваляваўся, але ўмеў валодаць сабою — пісаў на дошцы прыклады і хутка разбіраў іх, выводзіў практычныя правілы і, здаецца, не праваліўся.

Пасля даклада Лазнікі падышлі да мяне пазнаёміцца, нагаварылі шмат прыемнага, ледзь не прыпісалі адкрыццё нейкіх метадычных сакрэтаў, а была звычайная кампіляцыя з папулярных часопісаў. Я пацікавіўся, дзе вучыўся Уладзімір

Дзямідавіч. «У Мінскім педінстытуце». — «О-о, выходзіць, мы з аднае кузні педагагічных кадраў», — і я назваў некалькі прозвішчаў выкладчыкаў, што ацалелі пасля пасадак 1937—1938 гадоў. Лазнік гаворку не падтрымаў, перавёў размову на нейкія жарцікі і бытавыя дробязі, пацікавіўся, дзе і як жыву, якая нагрузка. Ага, прыкідвае ўжо сабе і жонцы маю нагрузку. Я не сумняваўся, што яны пярэйдуць у нашу школу, а мне прыйдзецца зноў збіраць манаткі. Так я жыў кожны дзень пад страхам.

Юлія Лук’янаўна здалася простаю і абаяльнаю жанчынаю, улюбёнаю ў літаратуру. Яна цікава гаварыла пра «Маладую гвардыю», пра паэму Антакольскага «Сын», а з «Зоі» Алігер натхнёна працытавала: «Сталин на работе, это значит, над Москвой рассвет уже встаёт, Сталин на работе, это начат новый день свершений и забот»... і аж пабялела, як фанатык на малітве. Пасля такой добразычлівай гаворкі я трохі супакоіўся. Здзівіўся толькі, чаму Лазнік не падтрымаў гаворку пра інстытут. Звычайна колішнія студэнты ахвотна ўспамінаюць пару свайго «бурсацтва». Магчыма, Уладзімір Дзямідавіч не быў у захапленні ад выкладчыкаў «паслязамоцінскай» пары, на кафедрах апынуліся выпадковыя недавукі, што нават не паканчалі інстытутаў, ды нейкія гастралёры. Ды і студэнты пасля чысткі літфака былі палахлівыя, маўклівыя і прадбачлівыя.

Я ўсё яшчэ жыў у Карпіевічаў у трохі адталай каморы, пры каганцы рыхтаваўся да ўрокаў, гаспадыня варыла на некалькі дзён мне паліўку і бульбу, я чакаў цяпла і прыезду Алі і Тані.

## V

Нечакана наладзілася перапіска з даўнімі сябрамі, такімі ж пакутнікамі і «воўчабілетнікамі» — Алесем Пальчэўскім і Барысам Мікулічам. Пальчэўскі выкладаў рускую мову і нават быў завучам малодшых класаў рудзенскай сярэдняй школы, часта ездзіў у Мінск, паведамляў пра некаторыя літаратурныя навіны, пісаў, хто з агульных знаёмых вярнуўся і дзе прыляпіўся, як перабіваецца. Аднойчы намякнуў, што хадайнічае, каб знялі судзімасць. Мне яго спробы здаваліся дарэмнымі марамі, але расчароўваць не хацелася — як толькі зламаўся мой лёс, я больш ніколі не верыў у сваё шчасце.

Барыс Мікуліч прыстроіўся бібліёграфам у бабруйскай бібліятэцы імя Пушкіна. Бацькава хата ў вайну згарэла,

прытулак ён знайшоў у малюсенькім пакойчыку стрыечнай сястры Веры Антонаўны. Яна нанялася начным вартаўніком у лазню, каб зручней было дзяліць прытулак: Барыс апантана пісаў начамі і цешыў сябе спадзяваннем вярнуцца ў літаратуру. Пасылаў аповесці і апавяданні ў мінскія часопісы, атрымліваў далікатныя, але вельмі стрыманыя адказы ад Лынькова, Броўкі, Танка, Гурскага. Рэдактары абяцалі нешта высветліць, узгадніць, вырашыць. Абяцанкі так і заставаліся абяцанкамі. Часам праскоквалі яго рэцэнзіі ў «Чырвонай змене» і «Сталинской молодежи» пад псеўданімам Б. Міхайлаў. Аднойчы ўзрадаваны Барыс напісаў, што ў дванаццатым нумары «Полымя» ідзе яго аповесць «Жыццяпіс Вінцэся Шастака». Я заставаўся скептыкам і пажартаваў, хоць бы надрукавалі ў трынаццатым нумары. І не памыліўся: яго аповесці, апавяданні і незавершаны раман «Адвечнае» дайшлі да чытача толькі пасля пасмяротнай рэабілітацыі аўтара.

А тады ў Бабруйску Барыс жыў вялікімі спадзяваннямі — кожны дзень пісаў, выступаў з лекцыямі і дакладамі пра сучасную літаратуру, кіраваў гуртком пачынаючых літаратараў, пісаў рэцэнзіі на спектаклі і кінафільмы.

Лісты Мікуліча і Пальчэўскага радавалі і цяплілі нейкія спадзяванні, былі падтрымкаю ў хвіліны адчаю. Аднойчы і я адважыўся паспрабаваць літаратурнае шчасце. Паэтычны сверб не пакідаў мяне ўсе гады, часам рабіў накіды і рыфмаваныя занатоўкі для сябе, і напісаўся невялікі лірычны верш. Думаў, думаў і наважыўся паслаць яго ў разведку ў бабруйскую абласную газету. Паслаў і забыўся, не спадзеючыся ўбачыць яго надрукаваным. Цікава было атрымаць адказ з павучэннямі вучыцца ў класікаў. Аднойчы паштальён мне паведаміў: «Ці не ваш гэта сцішок прапячатаны ў газеце?» Мяне кінула ў жар — першае адчуванне, што я выкрыў сябе, што прыкідваўся рускім, а выходзіць, хлусіў — чаму, навошта? І недзе казытнула радасць — так хацелася ўбачыць сваё імя надрукаваным, паверыць, можа, сапраўды можна будзе друкавацца.

Як я чырванеў і апраўдваўся перад настаўнікамі, ужо не памятаю. Толькі мой дэбют так і застаўся дэбютам: ні пісаць больш, ні пасылаць я не адважваўся. Праз шмат гадоў, калі кончыліся ўсе пакуты, я пазнаёміўся з былым рэдактарам бабруйскай газеты Дастанкам. Ён успомніў тую маю публікацыю, расказваў, колькі меў непрыемнасцяў за мой бяскрыўдны вершык ад абкама і абласных чэкістаў. Ён апраўдваўся, што надрукаваў настаўніка, а яму растлумачылі, з якім кляймом

заявіўся гэты настаўнік ва Урэччы, абвінавацілі ў страце пільнасці і класавага чуцця. Больш я не выпрабоўваў свой літаратурны лёс, і тая публікацыя хутка забылася.

Аля ведала, як я чакаю яе лістоў, і пісала часта і падрабязна пра Таніны забавы, пра перакручаныя слоўцы, пра здароўе, менш за ўсё пра сябе, свае настроі і пачуцці. Ды якія маглі быць настроі ў нашым бяспраўным становішчы? Хацелася аднаго — спакойна дажываць свой век толькі разам, каб ніколі не разлучацца, рабіць, што загадаюць, не шкадаваць ні часу, ні сілы, каб людзям было добра, і неяк перабівацца самім. І мучыла сумленне: няўжо чалавечую годнасць адолела рабская псіхалогія бязволля і паслушэнства, страху перад дзікай жорсткасцю? Я ж добра ведаю, што ні ў чым не вінаваты, што ніводным учынкам не запляміў сябе, што нікому не зрабіў крыўды і зла. І крыўдна рабілася ад поўнага бяссілля, што нікому нічога не давядзеш, што людзі выхаваны так, каб нікому не верыць. Думы і згрызоты даводзілі да адчаю, і нікому не скажаш, ніхто не паверыць і не паспагадае, толькі Аліны лісты прыносілі светлыя сны — кароткія, крадзеныя ў наглядчыкаў сустрэчы і горкія развітанні, а часам вярзлося страшнае недалёкае мінулае, і, мабыць, да скону будуць сніцца калючы дрот, вышкі, канвой, аўчаркі з вываленымі чырвонымі языкамі, страшэнныя «канвееры» ў камерах следчых. Прахопішся сярод ночы, татахкае сэрца — і ўзрадуешся, што ў незакратаванае акно свеціць месяц, недзе далёка лена гаўкае сабака і кукарэкае спуджаны певень, суцяшаешся, што адносна вольны, хоць і акружаны з усіх бакоў «пільнаю ўвагаю», наскрозь прасвечаны зоркімі вачыма служак беззаконня.

Часам думалася, ці не з правакацыйнымі намерамі даручаюць адказныя даклады і лекцыі, сочаць, калі і на чым сарвуся, як яны лічаць, павінна прарвацца «варожая сутнасць». Асабліва скоўвала пазбаўленне правоў, як казалі, пяцігадовы «наморднік». Я ж быў адзіны «лішэнец» на ўвесь раён. Ідзеш па вуліцы, і здаецца — кожны ведае, што нейкая цёмная асоба, кожны можа плюнуць табе ў твар, і нічога яму не зробіш — ты ж бяспраўны. Часам адчуваў, што з малой зоны перавялі ў большую, але там ты быў роўны з усімі, а тут — адрынуты ізгой.

Самае страшнае, калі табе ніхто не верыць, шчырае слова лічаць хлуснёю, вышукваюць варожасць у кожным тваім учынку. А я ў душы заўсёды быў адданым патрыётам, у юнацтве — зацятым прапагандыстам камуністычных ідэалаў, з лагера

адправіў з дзесятак заяў, каб узялі на фронт, у самае пекла, абы толькі крывёю змыць паклёпніцкую пляму, праштампаваную так званым судом Карпіка.

Мара аб зняцці судзімасці завалодала і мною. Пальчэўскі падмацоўваў надзею: ён ужо быў у Вярхоўным Савеце, здаў неабходныя паперы, паабяцалі ўсё разгледзець і, па магчымасці, задаволіць хадайніцтва. Дачакаюся яго вынікаў, тады і сам паспрабую.

У чаканнях і спадзяваннях мінала зіма. Асядаў і спаўзаў з дахаў счарнелы снег, на грудах чарнелі праталіны, нізіны заплывалі талаю вадою, сінела і яснела неба, лягчэй дыхалася ў маёй пацяплелай стадоле. Прайшлі цёплыя веснавыя дажджы, выпырхнулі кволыя травінкі, залапушыўся трыпутнік, каля платоў бралася ў сілу крапіва. На кожнай сядзібе перакопвалі гароды, пляскалі грады. Мой гаспадар узараў пад бульбу соткі... жывою цяглаваю сілай. Дастаў плуг, а каня ў калгасе колькі ні прасіў, не дапрасіўся, а зямля перасыхала, тады запрог сваіх Марылю, Мішу, Маню і Сашу, падышла і цяжарная дачка Соня, упрэгліся і пацягнулі параконны плуг. Дзядзька Зміцер трымаў за ручкі і гнаў даволі глыбокую баразну, каб дастаць да жывое зямлі, бо ў жаўтапеску звяне і прыпячэцца насенне. Дзве суседкі кідалі ў баразну рэзаную, з ладнымі белымі парасткамі бульбу. Пасля школы Соню змяніў я, і да заходу сонца дасадзілі-такі соткі. Потныя, запыленыя, расчырванелыя маці і дочкі пападалі на ўзмежак, а мы з Мішам памаглі Змітру зацягнуць на прыгуменне пазычаны плуг, бо на яго ўжо была чарга.

Каля школы на дырэктарскім гародзе шчыравала невялічкая ладная дырэктарша. Я спыніўся каля плота і па старой звычцы сказаў нібыта жартам: «Бог помач, Раманаўна». Яна разагнулася, падаткнула пад хустку валасы і весела адказала: «Божа наўрад дапаможа, а вы бярыце жалязняк ды станавіцеся побач. Мы з Цімафеевічам даём вось гэтую градку вам для разжытку, і насення пазычу, а ўродзіць, аддасцё». Калі пераканаўся, што дырэктарша не жартуе, павагаўся і «арандаваў» тую градку. Спадзяваўся — восенню як знайду які бурак, морквіну і цыбулю.

Вечарамі капаў свой надзел, разграбаў разоры, граблямі баранаваў. Раманаўна дала з дзесятак цыбулін, трохі насення буракоў і морквы, насыпала жменьку фасолі. Я спытаў, ці часам не тычкавая яна. «Сядуха. У нас тычкавое нямашака. На яе ж тычак не набярэшся».

З вечным адчуваннем голаду, заклапочаны і прыгнечаны сваім становішчам і змрочнымі думамі, я часам забываў, куды і чаго іду. І собіла ж мне паўтыкаць тыя цыбуліны карэньчыкамі ўгору. Пасмяялася Раманаўна і ўсё перасадзіла сама, я толькі паспяваў насіць ваду і палівапь сваю і дырэктарскія грады.

І яшчэ мне ў полі каля самае чыгункі адвялі тры соткі жаўтапеску. Насення бульбы не разжыўся. Кватэрная гаспадыня пад новы ўраджай пазычыла мне місачку проса. Ну, думаю, хоць які загончык засею, дасць Бог, уродзіць, дык зімою хоць дзіцяці будзе калі-нікалі лыжка кашы. З тыдзень, хаваючыся ад людскіх вачэй, збіраў каравякі і конскія яблыкі, у старым мяху насіў на сваю дзялку, капаў дацямна сыпкі жоўты пясок, як ні стараўся, да вільготнай зямлі не дакопваўся. І ўсё ж пасеяў. Думаў: няўжо і зямля мне не спрыяе, можа, злітуецца, хоць што ды ўродзіць? Пасеяў, грабелькамі забаранаваў і чакаў, калі зазелянее мой палетак, калі з тугіх трубачак пацягнуцца гнуткія і важкія мяцёлкі.

На гародзе ўжо выскачылі ружовыя націнкі буракоў, зазелянеў моркаўнік, а фасоля? О, ліхачка! Пусціла доўгія пакручастыя вусы і шукае, за што ўчапіцца. Гэта ж трэба з паўсотні тычак. А вакол — бязлессе. Бліжэйшыя гайкі і хмызнякі кіламетры за чатыры. Але нідзе не дзенешся — трэба ісці па тычкі. Узяў сякеру, пастронак і падаўся за чыгунку ў далёкі алешнік, а ён маларослы і кручаны, ведама, — пяскі. Сек, церабіў, звязваў пучкі па пятнаццаць штук і цягаў на сваю градку да цямна. Ужо не рады быў, што задумаў пабагацець на зямлі, бачыў, як людзі з мяне пасміхаюцца, часам бессаромна падначваюць, толькі Раманаўна спагадліва круціла галавою і дзівілася, што з сядухі вырасла тычкавая.

Проса маё толькі дзе-нідзе праклюнулася, кволае, рэдзенькае, няроўнае — на гнаі зелянейшае, на пясочку нягеглае, як лагерны дахадзяга. Кожнае каліва можна было палічыць. Калі прыйшла пара здымаць ураджай, я нажом пазразаў сцяблінкі, на посцілку выцер зярняты. Набралася тры жмені з мякінаю. Куды на смех несці, дзе таўчы? Падняў посцілку і развеяў свой ураджай. А на суседскіх сотках лапушыўся картаплянік, ляжалі, як падсвінкі, жоўтыя гарбузы. Кажуць жа — багатаму чорт дзяцей калыша, а ў беднага і калыскі няма.

Стала горка і крыўдна. Ці не лёс мяне за нешта карае? За што ні вазьмуся, усё выходзіць поперак і рубам. Трошкі лепш урадзіла на дырэктарскім гародзе. Раманаўна насенне мне падаравала. А ўрадзіла так, што ўвесь ураджай занёс у

торбачцы. Я ж шчыраваў, дбаючы накарміць Алю і Таню. Я іх чакаў усю вясну. Калі прыедуць, Аля пэўне не пісала. А мяне ўсё часцей цягнула на вакзал — сустракаў і праводзіў рэдкія цягнікі, зайздросціў тым, што сустракаліся пасля разлукі, і позна вяртаўся ў сваю камору.

Пад раніцу нечакана нехта пашкробся ў шыбіну, я кінуўся да акна і ўбачыў абрысы дзвюх галовак. Аля трымала на плячах Таню. Брудныя, перамятыя, з пустымі рукамі яны ўвайшлі ў хату. Ад хвалявання я ніяк не мог знайсці сернікі. Замігала газнічка, Таня працерла вочкі і папрасіла: «Мама, есці». Добра, што ў мяне засталося некалькі халодных бульбін. Таня іх прагна ела, а мы з Аляю ніяк не маглі нагаварыцца. «А дзе ж вашы рэчы?» — пацікавіўся я. Аля замялася, памаўчала і расказала, што бацькі ёй ледзьве наскрэблі на білет, маці недзе разжылася буханкаю хлеба на дарогу, напякла жытніх піражкоў з капустаю, паклала ўнучцы жменьку цукерак-падушачак. Сабралі, што было, з адзежы, склалі ў мяшэчак і паехалі.

Да Калугі былі ў адным купэ з немаладым гаваркім чалавекам у старэнькім капелюшы, з інтэлігенцкаю бародкаю кліночкам. На станцыях ён прыносіў гарачую ваду, забаўляў Таню, часам некуды знікаў і прыносіў то піражок, то яечка і частаваў суседак. У Калузе Алі трэба было закампасціраваць білет, а грошай — ні капейкі. Узяла адзіны бохан хлеба, на лано пасадзіла дачушку, суседа папрасіла папільнаваць рэчы і падалася на пристанцыйны рынак. З утаргаванымі за хлеб грашыма прыбегла да касы, афарміла білет, і яшчэ засталася чырвоная трыццатка, у буфеце ўзяла шэры халадзец для Тані, сама папіла нішчымнага чаю і пайшла да лаўкі. Сусед сядзеў, а мяшэчка з рэчамі не было. Мужчына ледзь не плакаў, кляўся і бажыўся, што на хвіліначку адскочыў «па патрэбе», а нейкі гад свіснуў торбачку з рэчамі, а там жа быў увесь іх скарб.

У купэ зноў апынулася з тым чалавекам з бародкаю. Ён ляжаў, адвярнуўшыся да сцяны, і маўчаў. Калі Таня настойліва енчыла есці, некуды знікаў і прыносіў лустачку хлеба, чэрствы піражок, на паперачцы лыжку павідла. Аля ўсю дарогу жыла на вадзе з вакзальных тытанаў, і ў мяне не было яе чым пакарміць. Муку выдадуць толькі праз тры дні, а сёння нядзеля, і ў кішэні ў мяне цэленькая ўся зарплата. Трохі адпачыўшы, раніцаю ўтраіх выправіліся на рынак. Таня адвыкла і адварочвалася ад мяне, ніяк не называла, спрабаваў узяць на рукі, выкручвалася і з енкам цягнулася да мамы. Нічога дзіўнага — ёй жа ўсяго

два гады і тры месяцы, была са мною толькі некалькі дзён у бабчынай хаце пасля лагера. Усё разумеў, але было вельмі балюча, што і роднае дзіця адварочваецца ад мяне і няма яго чым прынадзіць.

Няма большай пакуты для бацькоў, калі галоднае дзіця енчыць есці, а даць няма чаго.

На ўрэцкі рынак з'язджаліся толькі ў нядзелю. Прывозілі бульбу з любанскіх тарфянікаў, хто яе хацеў купіць, ішоў кіламетры за два ад мястэчка насустрач фурманкам, хапаўся за біла воза і так займаў чаргу на свой пуд за сто дваццаць рублёў. На бульбу мы відавочна спазніліся. На сталах яшчэ ляжалі кавалкі сала, сушаныя сыры, мяшэчкі з пшаном і фасоляю. Чарнявая цётка ў абшмулянай плюшаўцы трымала спутанага галянастага пеўня з прымарожаным грабянцом. Мы, не таргуючыся, купілі гэтага дзюбатага курынага кавалера, узялі трохі круп і кавалачак прыжоўклага сала. Алі заставалася нешта яшчэ дакупіць да нашага «ўрачыстага» стала ў гонар уз'яднання сям'і. Я ўзяў пеўня пад паху, Таню — за руку, а яна ўпіналася і з плачом вырывалася да мамы. Праз некалькі крокаў стала — і хоць ты валачы яе волакам. Я ўзяў яе на другую руку і подбежкам пусціўся дадому. Дачка дрыгала ножкамі, заходзілася крыкам, драпала мне па твары і клікала: «Мама! Мама!» Усхадзіўся і певень, высмыкнуў адно крыло і давай хвастаць мяне з другога боку. Людзі спыняліся, адны рагаталі, другія суцяшалі Таню, а яна і певень люцелі, стараючыся вырвацца.

Схвастаны з абодвух бакоў, ледзьве дабег да кватэры, пусціў Таню ў двор і зашчапіў брамку, у пакоі доўгім бінтом прывязаў пеўня да «венскага» крэсла. Стузаны двума неслухамі, адчыніў акно і выйшаў у двор супакоіць Таню. На прызбе ў пяску купаліся і квакталі гаспадыніны куры, пачуў іх мой певень, азваўся гучным ку-ка-рэку, і ўся курыная чарада выпырхнула з наседжаных ямак. Гляджу — праз адчыненае акно ляціць мой галагуцкі кавалер, залапатаў крыламі і павіс на падаконніку. Напалоханая Таня ўсчала лямант. Доўга круціўся, пакуль уняў дачку і пеўня.

На ганку гаспадыніна Маня абірала бульбу і кідала ў даёнку. Таня стала побач і пазірала, як вялікія бульбіны боўтаюць у ваду. Раптам выхапіла большую, упілася ў яе дробнымі зубкамі і, азіраючыся, пабегла за свіран. Я пайшоў следам. Таня прагна грызла сырую бульбіну, а ўбачыўшы мяне, схавала за спіну. Я ўгаворваў яе, што так рабіць няможна, а самога душылі слёзы.

У цёплыя майскія дні пад платамі разлапушылася маладая крапіва, на ліпах раскруцілася мяккая саладкаватая лістота. Я ўставаў рана і, каб не вельмі дапытваліся цікаўныя, навошта збіраю гэтыя «гербарыі», зразаў крапіву, сасмыкваў з ліп маладыя лісточкі, і на абед быў закалочаны пайковаю мукою смачны вітамінны суп.

Яшчэ ў зімовы прыезд Аля прывезла з дому маленькую, не іначай музейны экспанат, швейную машынку. Шыць у нас не было чаго і з чаго, і машынка стаяла на лаве забаўкаю для Тані. У нядзелю я пайшоў з вучнямі палоць і капанічыць прышкольны доследны ўчастак. Гнуліся і махалі капаніцамі аж да вечара. Дамоў вярнуўся запылены, змораны і потны. Зірнуў на стол і ледзь не ўмлеў — мой адзіны пінжак ляжаў распораны на ўсе полкі і клінкі. Аля спакойна і засяроджана страчыла на сваёй машынцы нешта з шэрага сукна. «Што ж я заўтра адзену ў школу?» — «Свой пінжак». Гэта гаспадыня ўпрасіла яе пашыць Мішу пінжачок за два вядры бульбы і чатыры літры малака. Хіба ж адмовішся ад такой платы? Аля зроду не шыла пінжакоў, хоць у лагеры і прасядзела некалькі гадоў за швейным канвеерам. Дзе ўзяць выкрайку? Вось і распарола мой пінжак і па ім уштукавала абнову гаспадынінаму сыну. Увечары мой адзіны «віцмундзір», нанава сшыты, вісеў на спінцы крэсла, хоць ад паўторнага шытва месцамі карабаціліся рубцы. На Мішу пінжак сядзеў як уліты, а мы два тыдні аб'ядаліся бульбаю, і Таня піла сырадой даўжэй, чым было дамоўлена. Добрая душа была ў маёй гаспадыні, царства ёй нябеснае. Яна ж і зрабіла рэкламу новай швачцы. І пацягнуліся заказчыцы — каму сукеначку, каму кофтачку, каму фартушок, каму спаднічку пашыць. Плата толькі натураю, хто колькі дасць. Разжыліся мы на бульбу і буракі, укіслую шаткаванку, на гладышку малака, часам перападала і ладная скварка. Больш Таня не хапала з даёнкі сырую бульбу.

## VI

У канцы мая Аля з'ездзіла ў Слуцкі райана і вярнулася настаўніцаю матэматыкі рускай сямігодкі. Мы адразу павесялелі і акрыялі — гэта ж яшчэ адна зарплата, яшчэ дзевяць кілаграмаў мукі і тры літры газы. Ура! Цэлае багацце. Да пачатку навучальнага года Аля пайшла абіраць бульбу і мыць

посуд на кухні адкрытага на лета ў той жа школе піянерскага лагера. Ішла досвіткам, вярталася ўвечары.

Таня прывыкла да мяне, мы скрозь былі разам, а неўзабаве заняліся агульнаю работаю. Замест беспартыйнага Бандарчыка дырэктарам нашай школы, як і прадбачыў я, стаў Уладзімір Дзямідавіч Лазнік. Чарнявы, складны і вясёлы, ён даношваў вайсковы кіцель з ордэнам Айчыннай вайны, медалямі за ўзяцце некалькіх гарадоў. Не ставала толькі Зоркі Героя. Яму ўсё не выпадала пад’ехаць у Маскву і атрымаць яе. Казалі, што ў райана і ў райкоме ёсць выпіскі з асабовай афіцэрскай справы, што «Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР за выкананне асоба важнага задання прысвоіў капітану Лазніку У. Д. званне Героя Савецкага Саюза». Другая выпіска сведчыла, што дыплом аб сканчэнні Мінскага педінстытута імя Горкага знаходзіцца ў асабовай справе афіцэра запасу У. Д. Лазніка.

Пра асобае заданне Лазнік гаварыў толькі намёкамі: «Была справа ў Порт-Артуры. Зрабіў тое, чаго не магла зрабіць дывізія. Пакуль што гэта ваенная тайна». Таму і дакументы яго захоўваліся ў асабовай справе ў штабе акругі. Ніхто не рызыкаваў дапытвацца і ўдакладняць. Чалавек быў правераны, давераны, заслужаны і скрозь дапушчаны. Лісты на яго імя ішлі абавязкова з тытулам: «Герою Савецкага Саюза...»

Прызначэнне Лазніка ў нашу школу ўстрывожыла мяне, ці не забярэ частку маёй нагрузкі, а я застануся з маляваннем ды чарчэннем. Пры сустрэчы Уладзімір Дзямідавіч супакоіў мяне: партыйная і адміністрацыйная работа будуць адымаць шмат часу, таму да дырэктарства ён бярэ сабе геаграфію, ваенізацыю і фізкультуру. Развітваючыся, пацікавіўся, дзе і як жыву. Выслухаў і прапанаваў пераязджаць у яго дом — у вялікай кухні выгарадзіць пакойчык, да печы прыляпіць плітку, і будзем жыць у добрым суседстве.

Гэта мяне здзівіла і збянтэжыла. Няўжо ён не ведае, хто я і адкуль тут узяўся? А можа, у яго даручэнне трымаць «лішэнца» навідавоку. Але і спакушала такая ўдача. Па-першае, блізка да аднае і другое школы, бо Алі прыйдзецца ад Карпіевічаў хадзіць на работу з канца ў канец праз пустыры і ўсё мястэчка кіламетры з чатыры. Па-другое, у доме ад бровара ёсць электрычнасць і плата мізэрная ў жактаўскім доме, можа, і градку дадуць на вялікім гародзе Лазнікі. Адным словам, закружылася ад шчасця галава.

Але з чаго зляпіць тую баковачку? Тут я папаламаў галаву і папабіваў ногі: хадзіў, як апантаны, знайсці кавалак дошкі,

фанеркі, рэечкі, якую-небудзь скрынку. Шастаў каля вакзала, за складамі смалакурні і бровара, на пераездзе часам звальваліся з грузавікоў то аполак, то дошка — усё падбіраў. Сарамнавата было цягаць усё гэта ламачча, але патрэба была вышэй за гонар. З абцугамі хадзіў па пагарэлішчах і выдзіраў іржавыя цвікі, збіраў кавалкі дроту, абгарэлыя цалейшыя цагліны, ды і азіраўся, каб не запыніў гаспадар пагарэлішча, а іх бадай нікога не было — каго пастралялі немцы, хто з'ехаў і не вярнуўся.

Разжыўся ў Змітра Карпіевіча струмантам. Паабчэсваў кавалкі старых жэрдак і папрыбіваў да падлогі і столі стаякі, да іх — папярэчыны і пачаў зашалёўваць чым Бог паслаў будучую сцяну. Прыбіваў дошчачкі ад скрынак, фанеркі, кавалкі вагонкі, абчэсваў і прыбіваў аполкі. Сцяна выходзіла хвалістая і разнастайная, як карціна абстракцыяніста. Таня поўзала каля мяне, падавала выпрастаныя цвічкі і лягчэйшыя дошчачкі. Аля часам забягала да нас і прыносіла з піянерскай кухні свае недаедкі дачушцы. Позна ўвечары два будаўнікі вярталіся дадому — у Карпіевічаву хату.

З назбіранай на пагарэлішчах цэглы апошні ўрэцкі пячнік, заўсёды «пасля ўчарашняга», маленькі, як гномік, дзядок Парахневіч прытачыў да вялікай печы плітку, прыкрытую лістом тоўстай бляхі. Збіў і навесіў я крываватыя дзверы, пабяліў свой «асабняк», збіў казялкі і шчыток для тапчана, у пустым хляве знайшоў кінутую некім шафку і трыногі столік, сяк-так збіў лаўку, і новы прытулак быў гатовы.

У суседа пазычыў каламажку, і сонечным ліпеньскім днём склалі на яе свой немудрашчы скарб, я ўпрогся ў лямку — і паехалі на новую кватэру. Дарога была доўгая — праз усё мястэчка. Я ішоў, унурыўшы галаву, каб не вітацца з вучнямі і сустрэчнымі местачкоўцамі — было сорамна за нашу «маёмасць» і такі пераезд.

Аля адзіную каштоўнасць — антыкварную швейную машынку, несла на руках, Таня аберуч трымала мурзатую анучную ляльку. Мы з удзячнасцю радаваліся ласцы новага дырэктара за прытулак у яго кватэры, але я не разумеў, навошта яму лішні клопат — на кухні старонняя сям'я. Пра спагаду, альтруізм без выгады, міласэрнасць у наш час даўно забылі. У любых акалічнасцях звычайна пыталіся: «А што я ад гэтага буду мець?» А тут такая ласка! Потым я пераканаўся, што Лазнікі проста паспачувалі нам і хацелі мець рахманых і ціхіх суседзяў.

Уладзімір Дзямідавіч быў перагружаны партыйнымі справамі, рэдка стыкаўся дома: то выклікаў райкам, то абкам, то райана, то нарады і сходы ў калгасе, на бровары, у смалакурні і на чыгунцы. Ён адразу стаў самым вядомым у мястэчку чалавекам. І не дзіва. Не так ужо і многа было Герояў Савецкага Саюза. Вучні ў сачыненнях пра Айчынную вайну ставілі ў адзін рад Марэсьева, Гастэлу, Талаліхіна і Лазніка.

Школьныя справы Уладзімір Дзямідавіч цалкам даверыў завучу, саракагадоваму студэнту-завочніку Змітру Васільевічу Пігулеўскаму. Педант па характары, ён акуратна правяраў планы, журналы, справаздачы, не надта сурова выгаворваў за пралікі, галоўным чынам маладым настаўніцам пачатковых класаў. Уладзімір Дзямідавіч забягаў у настаўніцкую, пытаўся, «як у нас справы?», і бег на сход партарганізацыі бровара. Увечары дадому прыходзіў вясёлы і гаваркі. Жонка часам жартавала: «Зноў Валодзя нанюхаўся брагі».

Я выпадкова заўважыў, што дырэктар пад гімнасцёркаю носіць гумавую грэлку, і паспагадаў маладому чалавеку з хворым страўнікам. Аднойчы Уладзімір Дзямідавіч паклікаў мяне ў свой прасторны і светлы пакой. На стале стаяў графін, поўны празрыстай вадкасці, дрыжала яна і ў рубчастых шклянках. «Разумееце, адзін не п'ю, а таварышы прасілі зняць пробу з іх прадукцыі, так што не адмоўцеся выканаць вытворчае заданне», — рагатнуў дырэктар і жывасілам прымусіў мяне пакаштаваць пякельнай вадкасці. Я ледзь не задыхнуўся. «Чаму так мала? Няўжо не спадабалася?» Я хапаў паветра і не мог прамовіць слова.

З грэлкаю ён хадзіў амаль заўсёды, часта бываў вясёлы і гаваркі, а п'яным не бачыў ніколі.

Настаўніцкі адпачынак карацейшы за канікулы, і мы з Аляю хадзілі ў свае школы перастаўляць парты ў часе пабелкі, развешваць у класах партрэты членаў Палітбюро, на адвароце шпалераў пісаць лозунгі: «Дзякуй Вялікаму Сталіну за шчаслівае дзяцінства!», «Любіце кнігу — крыніцу ведаў», «Грызіце граніт навукі!». Тэксты лозунгаў зацвярджаліся райана, а мне рабілася страшна ад «граніту навукі». Я добра ведаў, што гэта некалі прыдумаў праклятыў партыйных дакументах і выкраслены адусюль Троцкі. Ведаць ведаў, а сказаць баяўся.

Радавалі і абнадзейвалі лісты Алеся Пальчэўскага. Нечакана і неспадзявана аднойчы надвячоркам ён і сам з'явіўся ў маім катушку. Адразу яго нельга было пазнаць — у шэрым капелюшы, доўгім макінтошы, зацыраваным на плячы танным, але

ладным светлым гарнітуры, і сам ён быў радасны і светлы. Мы з ім папахлябалі гора ў лагеры і цяпер не страцілі адзін аднаго. Ён мне паказаў сцежку ў Наркамасветы і вось знарок прыехаў з добраю весткаю. Ён дастаў з бумажніка канверт з грыфам Вярхоўнага Савета, а з яго выняў велічынёю з паштоўку выпіску з рашэння аб зняцці з яго ў парадку памілавання судзімасці, а значыць, і пазбаўлення правоў. Прыехаў расказаць, якія трэба рыхтаваць паперы, да каго звяртацца, што пісаць у заяве. У яго ўжо быў сапраўдны пашпарт. У ім, вядома, ёсць адпаведная літара, добра вядомая кожнаму кадравіку і міліцыянеру. З гэтым пашпартам не будзе месца ў сталічнай гасцініцы, не дазволяць жыць у вялікім горадзе або ў прыгранічным раёне. І ўсё ж, і ўсё ж, хоць тут не будзеш лішэнцам.

Алесь мне расказваў, што жонка яго даўно выраклася, сышлася з нейкім следчым, сын жыве ў бабулі ў Мінску, часта прыязджае да бацькі ў Рудзенск, Алесь палавініць з ім зарплату ды і жыве дзеля яго. Забягу трохі наперад. Пасля другога арышту бацькі і любімы сынок яго выракся, прыняў прозвішча і па бацьку айчыма, вырас, стаў членам партыі. Алесь, як і ўсе пакутнікі «першага сталінскага закліку», рэабілітаваны вярнуўся з сібірскай ссылкі, напісаў і выдаў з дзесятак кніг прозы, стаў салідным пісьменнікам. У Мінск завітаў яго сынок, наведаў Пальчэўскага і прадставіўся: «Ігар Сяргеевіч Персідскі. Вы, гаварат, Аляксандр Осипавич, што-та пишите. Пустое это дело. У меня на партработе такой пачот и уважение, что где там писателю сравняться». Яшчэ дзве-тры сустрэчы з Ігарам Сяргеевічам скарацілі жыццё майму лепшаму другу, чалавеку з галубінай душою — Алесю Пальчэўскаму.

А тады мы марылі з ім з «чыстым» пашпартам вярнуцца ў літаратуру, строілі планы на будучыню і не ведалі, што ўжо друкуюцца бланкі ордэраў на новыя арышты і вялікія тыражы «Постановлений Особого совещания».

Праз некалькі дзён пасля Алесевага ад’езду я быў у Мінску і даволі хутка трапіў да Старшыні Камісіі па прыватных амністыях Вярхоўнага Савета Марыі Барысаўны Осіпавай. Строгая стрыманая жанчына з зоркаю Героя Савецкага Саюза на шліфце сіняга пінжака выслухала мяне, дала аркуш паперы, каб коратка апісаў, у чым мяне абвінавачвалі. Я сказаў, што прасцей запатрабаваць маю справу і пераканацца, што за год следства так і не знайшлі ў мяне ніводнага злачыннага ўчынку. «Што вы! Ніякіх спраў не захавалася. Усё згарэла ў першы дзень вайны. Мы не займаемся пераглядам спраў, а часам амнісціруем у парадку памілавання».

Осіпава склала мае паперы ў папку і сказала: «Чакайце. Аб выніках паведамім». З Дома ўрада я выйшаў абнадзееным — калі з Алеся знялі судзімасць, дык чым я горшы? Але ж у яго было восем, а ў мяне дзесяць гадоў лагера. Можа, гэта пашкодзіць? Сумненні, хістанні, хваляванні і страх, страх — усё жыццё.

Пасланяўся па горадзе, купіў некалькі патрэбных кніжных навінак, ляльку для Тані і надумаў, перш чым ехаць дадому, заскочыць у Бабруйск да Барыса Мікуліча, пабачыцца і параіць рыхтаваць паперы ў Вярхоўны Савет. Пошце мы не давяралі: раптам прачытае ліст той, каму гэта трэба, дасць звон той жа Осіпавай — і хадзі да скону з воўчым білетам.

У горад майго юнацтва цягнік прыйшоў раніцаю. Пасля мінскіх руін Бабруйск здзівіў ранейшым выглядам, усё было, як і дваццаць гадоў назад: некранутая Сацыялістычная вуліца з такім знаёмым домам рэдакцыі газеты «Камуніст», паранейшаму шлёпаюць машыны ў друкарні імя Непагодзіна, працуе швейная фабрыка, толькі парадзеў сквер і ўбога выглядае пашарпаны, без крыжоў сабор.

Іду на вуліцу Пушкіна, у бібліятэку, дзе працуе Барыс. У вузкім, заваленым кнігамі пакойчыку Барыс засяроджана нешта пісаў. Гэта быў ужо не той золатавалосы кучаравы прыгажун — парадзелі валасы, пабляк і асунуўся твар і постаць здрабнела. На мяне ён зірнуў і адразу не пазнаў. Відаць, і я «папрыгажэў» за дзесяць гадоў на баландзе... Пасля абдымкаў я расказаў пра свой візіт у Вярхоўны Савет і параіў неадкладна ехаць у Мінск. А Барыс мне расказваў пра свае надзеі прабіцца ў друк, пра абяцанні Лынькова, Броўкі і Гурскага. Ён быў апантаны літаратураю, прагаю пісаць і друкавацца.

Пакуль Барыс быў на рабоце, я нахадзіўся па знаёмых вуліцах, як з даўнімі сябрамі, сустракаўся з колішнімі дамамі, пастарэлымі прысадамі, а людзі нібыта наехалі ўсе новыя, нетутэйшыя, і шмат вайскоўцаў. Схадзіў да прахадной дрэваапрацоўчага камбіната, дзе некалі здабываў сабе стаж і прэстыжнае званне рабочага. Як і раней, дымілі тры трубы электрастанцыі, пабліскваў зашклёны дах майго колішняга беладрэўнага цэха, за парканам снаваў манеўровы паравозік з платформай піловачніку, пахла смалою, кіслым фанерным клеем. Непадалёк стаяў домік колішняй рабочай амбулаторыі. Тут я некалі кватараваў у сваёй зямлячкі — санітаркі і вартаўніцы гэтай установы «аховы здароўя».

Нахадзіўся да зморы і ўвечары прыйшоў на Мінскую вуліцу да Барыса. Пасядзелі ў пакойчыку Веры Антонаўны,

а начаваць пайшлі ў будан у іх колішнім садзе. Дом згарэў, а сядзібу пакуль што не аднялі. Мы ўсю ноч прагаварылі, дыхаючы водарам прывялай травы і дробных паданак, збітых нядаўняй навальніцай. Чаго і каго толькі не ўспомнілі ў тую ноч. Барыс расказаў, як па дарозе на лагпункт сканаў Міша Багун, успомніў, што Валодзя Хадыка пісаў вершы і зашываў іх у каўнер бушлата. Загінулі яны разам з аўтарам у кар'еры пад абвалам пароды. Расказваў Барыс, як перабіваўся ў лагеры каля станцыі Рашоты, і, вядома, пра свае літаратурныя планы, пра работу над гістарычным раманам «Адвечнае», марыў узяць адпачынак, паехаць на Лагойшчыну да бацькавай радні на сырадой і дранікі і там папісаць уволю.

Не ўяўлялі мы толькі, што раніцай развітваемся назаўсёды, што лёс нас хутка зноў загоніць у Сібір, што за тры месяцы да рэабілітацыі ў сяле Машукоўка спыніцца Барысава сэрца, а мне суджана будзе рыхтаваць пасмяротныя выданні твораў Барыса Мікуліча, пісаць да іх прадмовы, каментарыі і пасляслоўі. Так ён і не пабачыў сваіх кніг, не парадаваўся сваёй папулярнасці... пасмяротнай.

А тады Барыс праводзіў мяне да хлебазавода, абяцаў прыехаць у госці, а як толькі што надрукуе, абавязкова прыслаць. Ён верыў няпэўным абяцанням рэдактараў, хоць тыя добра ведалі, што вышэйшыя інстанцыі не толькі Мікуліча, а і Дастаеўскага не дазволяць надрукаваць пасля няволі.

Канчалася лета. Мы з Аляю ў канцы жніўня выправіліся ў Слуцак на настаўніцкую канферэнцыю. Туды ў гэты час збіраўся ўвесь цвет раённай педагогікі: прыхарошаныя, падплоеныя настаўніцы ў штапельных, а хто і ў крэпдэшынавых сукенках, у адпрасаваных касцюмах прыгальштучаныя мужчыны. Іх куды меней, чым настаўніц. І ўсе ведаюць адзін аднаго, збіраюцца купкамі, гавораць, весела смяюцца, кураць «Беламор» і не здагадваюцца, якое гэта жахлівае слова. Каля ганка — сапраўдны рынак адборнай садавіны: чырванабокія шлапакі і белыя салодкія папяроўкі, слуцкія бэры і філігранныя «паненкі». Уся зала прапахла яблыкамі.

Як і звычайна на такіх нарадах, усё было знаёма і аднастайна. Асабліва зацята ўсе прамоўцы грамілі «бязродных касмапалітаў» і перараджэнцаў, заклікалі да пільнасці, да партыйнасці ў выкладанні ўсіх прадметаў, лаялі вейсманістаў-марганістаў. Мы з Аляю зашыліся ў апошнія рады. На сэрцы было трывожна і горка. Здавалася, многія падазрона пазіраюць на нас, хоць для ўсіх тут былі мы чужыя. На абед выправіліся

ў сталоўку ў канцы рынку. Селі насупраць дзвярэй і цярпліва чакалі свае порцыі. У дзвярах з’явіўся ўкормлены мужчына з невысокаю чарняваю кабетаю, абвёў усе столікі паглядам і спыніўся на нас. Гляджу і вачам не веру — няўжо Сцяпан Ліхадзіеўскі[1]? Усміхаючыся, ідзе да нас некалі баявы паэт-трыбун, сакратар пісьменніцкай камсамольскай ячэйкі, нечакана арыштаваны ў 1933 годзе. Павіталіся, нібы і не было такой доўгай і страшнай разлукі. Ён адбыў тры гады высылкі ў Казахстане, скончыў Томскі універсітэт, абараніўся і вось — дацэнт кафедры зарубежнай літаратуры Ташкенцкага педінстытута. Выкладае літаратуру мінулага стагоддзя, а цяпер вяртаецца з Баслаўцаў ад малодшага брата. Першае пытанне было, ці ведаю, дзе Барыс Мікуліч. Я расказаў пра нашу сустрэчу ў Бабруйску. Сцяпан з Барысам у маладосці былі неразлучнымі сябрамі, нават апраналіся ў аднолькавыя футравыя дохі і шапкі. Сцяпан запісаў Барысаў адрас, а я яго, каб хутчэй паведаміць Барысу.

Паабедаўшы, развіталіся на рынку. Мы спяшаліся на пасяджэнне, а Сцяпан з жонкаю на цягнік, а там самалётам у Ташкент. Праз шмат гадоў нам собіла сустрэцца ў Мінску і сталіцы Узбекістана, у доме Ліхадзіеўскіх. Мы доўга перапісваліся, мне давялося рэдагаваць кніжку вершаў Сцяпана ў нашым выдавецтве. А сустрэча ў слуцкай сталоўцы ледзь не стала фактам абвінавачвання ў спробе аднавіць «нацыяналістычную арганізацыю». Адрас Ліхадзіеўскага я паслаў адразу Мікулічу. Потым фантазія следчага ледзь не зрабіла з мяне «сувязніка небяспечных контррэвалюцыянераў». Пра гэта я даведаўся трохі пазней.

Знешне я жыў спакойна, але заўсёды адчуваў трывогу і небяспеку, нібыта бяда неадступна хадзіла следам. Куды б ні ішоў, што б ні рабіў, біла і біла адна думка: за што на мне паставілі агіднае кляймо недаверу, падазронасці, чаму я не ўпэўнены не толькі ў заўтрашнім дні, а ў наступнай хвіліне, чаму не дае спакою прадчуванне, што не ўся бяда мінавала, што нехта страшны цікуе мой кожны крок, я з жахам бачыў змрочную постаць высокага чэкіста ў рагавых акулярах, цывільным плашчы і кепцы, а над халявамі ботаў мільгалі крывавыя канты. То гэты таемны чалавек, то маёр Ушакоў з’яўляліся нечакана, дапазна заседжваліся ў сельсавеце, да іх шмыгалі нейкія непазнаныя постаці. Вядома, стукачы. Я ведаў, што іх больш за ўсё цікавяць Мазавецкі і я.

Што ім трэба ад мяне? Што вышукваюць у маіх лістах? Што раней за мяне чытаюць маю карэспандэнцыю, відаць па неахайна заклееных канвертах. Варта ўвечары каму зайсці да мяне, як ужо нехта топчацца пазаваконню. Як тут не з'ехаць з глузду ці не стаць вісельнікам? Ды хіба адзін я такі? Кожны з таўром ГУЛАГа і воўчым білетам пакутаваў у штодзённым страху, калаціўся наяве і ў сне, а па радыё штодня гучала: «Я другой такой страны не знаю, где так вольно дышит человек». Сапраўды, мабыць, не было ў свеце падобнай краіны.

Замест Лазніка дырэктарам рускай сямігодкі прыслалі маладжавую жанчыну з двайным падбародкам і двайным прозвішчам Макейчык-Макавейчык. Яна крута ўзялася наводзіць парадкі і адразу стала прыкметнаю ў мястэчку. Апраналася шыкоўна ў замежныя строі, хадзіла з высока паднятаю галавою, гаварыла толькі ў загадным ладзе. Казалі, яе муж быў важны ваенны, навалок трафеяў, а потым невядома куды знік.

Жыла яна адна ў кватэры пры школе і ні з кім сяброўства не заводзіла. Аля пад яе кіраўніцтвам выкладала матэматыку і прападала ў школе дапазна: падцягвала слабейшых вучняў, вяла гурток лепшых матэматыкаў, праводзіла алімпіяды. Урокі ў яе былі зранку, а ў мяне ў другую змену. Даводзілася часта Таню замыкаць адну ў нашым катушку. Ад суму яна распісвала алоўкамі сцены і падушкі, «правярала» вучнёўскія сшыткі, каб над імі не гарбеў бацька, а лепш расказваў ёй казкі. Пасля яе праверак мне рабілася млосна.

Аднаго разу, не адмыкаючы хату, Аля зазірнула ў акно і ледзь ад страху не самлела: на падлозе сядзела Таня з маёю брытваю ў руцэ. Добра, што ў маці заняло мову і яна не крыкнула, а ціхенька адамкнула замок, на дыбачках падышла да дачкі і асцярожна з роціка выняла блішчастую цацку, а сама ўпала на тапчан. Пасля гэтага, калі была нявыкрутка, адводзілі Таню да суседзяў — слаўнай сям'і аптэкараў Клішэвічаў. У іх быў Танін равеснік, чысценькі, дагледжаны Славік. З Таняю ён ахватней снедаў і палуднаваў, аптэкарша саджала іх побач — хто спрытней апарожніць талерку. Калі хацелася есці, Таня дыпламатычна прасілася да Славіка. Яна бегла праз гарод на высокі аптэчны ганак, ляпала клямкаю і казала: «Вось і я». Яна вельмі хутка навучылася гаварыць па-беларуску, так, як гаварылі яе равеснікі, па радыё ўважліва слухала і запаміналa песні і паціху спявала сваёй лялькцы «Як сарву я ружы кветку», «А ў полі вярба» і «Ох, ці мне, ох». Я радаваўся, што яна

гаворыць па-нашаму, а сам быў вымушаны выкладаць толькі рускую мову.

Макейчык-Макавейчык ацаніла старанне Алі і прызначыла яе завучам. Пабольшала зарплата, а яшчэ больш прыбавілася работы. Мы цягнулі любую нагрузку, выконвалі любыя даручэнні, абы неяк перабівацца і жыць.

Усё лета я жыў у напружаным чаканні адказу з Вярхоўнага Савета. Аля, відаць, думала пра тое ж самае, але старалася не напамінаць пра гэта, каб не вярэдзіць і так збалелую душу. У канцы кастрычніка канверт з грыфам Прэзідыума Вярхоўнага Савета дрыжаў у маёй руцэ. Што ў ім? Які прысуд? Калі адмовілі, каб толькі не дазналася Аля. Азірнуўся і акуратна адрэзаў беражок. На кавалачку паперы велічынёю з паштоўку адразу прачытаў апошні радок: «Зняць судзімасць у парадку памілавання», потым некалькі разоў перачытаў усю пастанову. Няхай сабе памілаванне, абы знялі «намордnік». Ад радасці замітусіўся, хацеў бегчы да Алі, суцешыць яе, што і ў мяне ёсць нейкія правы, можа, і нам пашанцуе тут ціха дажыць свой век. Хацелася хутчэй пазбавіцца ад свайго гідкага «воўчага пашпарта». Але каму скажаш пра такую радасць, каму прызнаешся, што да гэтага дня быў лішэнцам, пазбаўленым грамадзянскіх правоў, не меў нават вайсковага білета. Я наіўна верыў, што ніхто не ведае пра маю «непаўнацэннасць», а потым пераканаўся, што ведалі ўсе, шэптам пераказвалі адзін аднаму, але ніхто ніколі мяне не ўпікнуў, ніхто грэбліва не адвярнуўся.

Адпрасіўся на дзень у Слуцак, каб выправіць новыя дакументы. Неўзабаве меў трохгадовы пашпарт, вядома, з адпаведнымі літарамі і вайсковы білет на «рядового необученного». Я адчуў, што скінуў вялізарны цяжар, і ўзяўся за работу з яшчэ большым стараннем і імпэтам: прыдумляў літаратурныя віктарыны, вечары па творчасці класікаў і сучасных паэтаў. У вялікай модзе была лірыка Сіманава і паэмы Твардоўскага, вучні чыталі «Далеко от Москвы», «Повесть о настоящем человеке», ахвотна афармлялі выстаўкі па творчасці Пушкіна і Лермантава.

Улюбёныя ў літаратуру старшакласнікі часам чакалі мяне пасля заняткаў, каб па дарозе пагаварыць, а то і паспрачацца аб прачытаным, некаторыя заходзілі ў мой катушок, каб закончыць размову. Усе вучні былі падросткі — хлопцы брыліся, дзяўчаты выглядалі паненкамі. Калі не было дома Юліі Лук’янаўны, да дырэктара часам забягала цыбаценькая

вучаніца сёмага класа Галя Гарчэня. Мяне гэта ніколькі не здзіўляла, бо і да мяне заходзілі вучні і вучаніцы.

VII

На дзве зарплаты жыць стала трохі лягчэй, хоць цэны на рынку раслі хутчэй за нашы заработкі. У нядзелю любанцы прывозілі на продаж такія-сякія харчы, іх імгненна размяталі афіцэрскія жонкі і такія бабылі, як мы. Калі што ўхопіш, лічы — пашанцавала.

Золкаю змрочнаю раніцаю Аля заспяшалася на рынак і хутка змрочная і ўзлаваная вярнулася з пустым кошыкам. Наперадзе быў галодны тыдзень. «Няўжо нічога не падвезлі з Любаншчыны?» — здзівіўся я. Аля і слова не можа сказаць пасінелымі вуснамі. Адбылося незвычайнае: той самы Рыміч, што ў канцы вайны так упраўна ў сельпоўскім ларку прадаваў спірт-сырэц, раней за ўсіх прыбег на рынак і, не таргуючыся, скупіў усё, што на ім было. У яго склеп павезлі бульбу, мяса, сала, масла, сыры, яйкі, тварог. Абураныя пакупнікі разышліся з пустымі кошыкамі.

Чаго ж гэта апетыт узгарэўся ў колішняга ларочніка? Доўга думаць не прыйшлося: паштовая тэлеграфістка ўспомніла, што не так даўно Рымічу прыйшла дзіўнаватая тэлеграма: «Гельт больной. Принимайте срочные меры». Гэта была шыфроўка пра хуткую грашовую рэформу. Усе Рымічавы родзічы раз'ехаліся ў розныя ашчадкасы рабіць буйныя грашовыя ўклады. Пранюхалі і заварушыліся астатнія местачкоўцы: у крамах скуплялі ўсё, што было, што гадамі ржавела і буцвела на паліцах і на складах. Неслі юшкі, хамуты, аброці, хоць даўно ніхто не трымаў ні каня, ні вала. Усе былі заклапочаны, як збыць грошы.

Калі абвясцілі рэформу, у нас заставалася адна ружовая трыццатка. Яе хапіла на паўкіло цукерак-падушачак. Усе адразу сталі бедныя: замест тысячы атрымлівалі сто, за чырвонец давалі рубель. Паступова прывыклі да новых грошай і зажылі трохі вальней. А Рыміч, казалі, прынюхаўся да сваіх запасаў і частку ноччу закапаў.

Праз месяц пасля пачатку заняткаў у нас адкрылі так званую вячэрнюю школу рабочай моладзі.

У нашы цёмныя і цесныя класы прыходзілі стомленыя дарослыя людзі. Яны прайшлі ўсю вайну, заслужылі высокія ўзнагароды і вось цяпер садзіліся за вузенькія парты пісаць дыктанты, рашаць задачкі, на памяць вучыць вершы. Юнакамі яны пайшлі на фронт, не паспеўшы здаць выпускныя экзамены і атрымаць атэстат сталасці. За вайну многае забылася, і дыктанты стракацелі чырвонымі папраўкамі і частымі двойкамі, але дарослыя людзі хацелі ўтрымацца на службе, таму займаліся сур'ёзна і старанна. У мяне ў дзесятым класе было толькі чатыры вучні. Адносіны ў нас былі таварыскія. Часам урок ператвараўся ў гадзіну франтавых успамінаў. Я вучняў называў па імю і па бацьку.

Цераз дарогу, насупраць школы, быў так званы рэстаран з нейкімі вінегрэтамі, паскручванымі скваркамі, півам, вядома, прадукцыяй нашага бровара. Перад канцом заняткаў, а часам і на вялікім перапынку мае вучні бегалі перакусіць і пагрэцца не толькі чаем. Здаралася, упрошвалі і мяне пасядзець разам.

Вячэрняя школа павялічыла нагрузкі і заработкі. Былі дні, калі я даваў па дзесяць гадзін, і ўжо ледзьве варочаліся сківіцы. Фактычна з трыма зарплатамі ўжо можна было неяк жыць у нашым маленькім цёплым катушку. З Лазнікамі мы жылі дружна, удзячныя і за такі прытулак. Здаралася, Уладзімір Дзямідавіч клікаў мяне на «пробу прадукцыі бровара». Я адхрышчваўся як толькі мог. Ведаў — варта толькі з'явіцца з пахам перагару і цыбулі, як адразу паляціць данос у райана. Ды і не мог я скампраметаваць сябе перад вучнямі і іх бацькамі. Дырэктару і Герою ўсё дазвалялася, толькі не мне.

Мы з Аляю задавальняліся тым, што мелі, і малілі Бога, каб толькі не было горш, каб ніхто болей нас не чапаў, каб сумленна жыць і працаваць. У мяне абудзілася даўняя слабасць — купляць кнігі, ды яны мне былі неабходныя. Мой катушок пасля кожнай зарплаты і паездак у Мінск і Слуцак вузеў і вузеў ад тоўстых аднатомнікаў класікаў, навінак сучаснай прозы і паэзіі. Выпісваў і некалькі часопісаў. Прыахвоціў вучняў да літаратуры і мусіў сам не адставаць, каб весці размову пра ўсе навінкі.

Начамі я чытаў і перачытваў Талстога, Тургенева і Чэхава, паэтаў пушкінскай пары, збіраў матэрыялы пра дзекабрыстаў і натхнёна расказваў пра Рылеева, Бястужава, Мікіту Мураўёва, пра Марыю Валконскую і Аляксандру Мураўёву, пра іх крыжавы шлях у Сібір, пра мужнасць, цярпенне і вернасць сапраўднаму каханню. Міжволі ўспаміналіся жонкі маіх сяброў

па пакутах. Верных загналі ў лагер, адступніцы пакінулі ў бядзе мужоў, а шчасця так і не знайшлі. Па абавязку чытаў «узоры сацыялістычнага рэалізму» — Бабаеўскага, Вірту, Паўленку і Палявога.

Добра, што Лазнік не прэтэндаваў на маю нагрузку, ды і навошта яму гарбець над сшыткамі і сачыненнямі. Да дырэктарскай зарплаты ён вёў геаграфію, не выкладаў, а сапраўды вёў: забягаў у клас з указкаю, даваў заданне самастойна прачытаць па падручніку ад і да або выводзіў клас «на мясцовасць», даваў школьны компас і загадваў намаляваць у сшытках рэльеф мясцовасці. «Стараста, сачы за парадкам, а я хутка прыйду з тэрміновай нарады», — і знікаў да канца дня. Любіў Уладзімір Дзямідавіч сядзець у прэзідыумах, «выдаваць» мабілізуючыя прамовы, асабліва кіраваць партарганізацыяй бровара і раіцца з дырэктарам Монічам.

Заўсёды занятага грамадскаю і партыйнаю работаю дырэктара ніхто не адважваўся папракнуць. Часам круцілі галовамі і шапталіся маладыя настаўніцы, а каб сказаць услых — барані Божа. Часам Уладзімір Дзямідавіч голасна скардзіўся завучу: «От бяда, не даюць працаваць. Зноў на тры дні выклікае райкам на семінар. Так што вы, Дзмітрый Васільевіч, глядзіце тут, каб быў парадак», — ляпаў указкаю па халяве, заходзіў у клас, даваў заданне вучням і знікаў. А назаўтра казалі, што бачылі яго каля хацінкі пры чыгуначнай вадакачцы. І дома яго ў гэтыя дні не было.

Жывучы пад адным дахам, мы часам чулі за дзвярыма Лазнікаў гучныя размовы, падобныя на сваркі. На прыпудраным твары Юліі Лук’янаўны пасля такіх размоў былі відны баразёнкі ад слёз. У невялічкім мястэчку, асабліва калі чалавек навідавоку, нічога доўга не ўтоіш. Нашы настаўніцы з усмешачкамі пазіралі на дырэктара, а калі ён выходзіў, доўга шапталіся і хіхікалі. А ён па-ранейшаму трымаўся незалежна, жартаваў і зноў некуды спяшаўся, скардзіўся: «Заела партыйная работа» — і знікаў на дзень-другі. Назіральныя жанчыны прыкмячалі, што якраз у гэтыя дні на занятках не было і Галі Гарчэні. Бывала, «хімічка» або «немка» скардзіліся ў настаўніцкай: «Зноў Гарчэня драмала на ўроку. Матэрыялу — ні ў зуб нагою. Прыйшлося ставіць двойку».

Семнаццацігадовая Галя жыла з мамаю ў хатцы пры вадакачцы за кіламетр ад мястэчка. Злыя языкі плявузгалі, што туды і знікаў у «камандзіроўку» наш дырэктар. Калі плёткі даходзілі да мяне, я шчыра абураўся і пераконваў, што гэтага не можа

быць — яна ж яшчэ дзіця. І сапраўды, ціхмяная бялявая Галя была цыбаценькая і тоненькая, як падлетак.

А за дзвярыма нашых суседзяў усё часцей чуліся сваркі, усхліпванні Юліі Лук'янаўны, бразгаў дзвярыма Уладзімір Дзямідавіч і знікаў з дому. А Юлія прыкметна круглела, па твары пайшлі карычневыя плямкі, па ўсім было відаць — пара шыць распашонкі.

Чуткі пра дырэктарскія заляцанні да вучаніцы пакаціліся з канца ў канец мястэчка, Лазнік, відаць, адчуў небяспеку, паехаў у раён і дамогся, каб яго перавялі ў Амговіцкую школу па сямейных абставінах. Склаў у рукзак немудрашчы скарб і знік, не развітаўшыся з жонкаю. Угневаная Юлія Лук'янаўна паехала ў райкам і вывела на чыстую ваду свайго ўцекача. Ніякага інстытута ён не канчаў, уся адукацыя — даваенны педтэхнікум. Да звання Героя яго ніхто не прадстаўляў. Усю вайну ён праслужыў у штабе палка ў Германіі і ў Порт-Артуры. Усе бланкі і пячаткі былі ў яго. Вось пры дэмабілізацыі і зрабіў сабе ліпавыя «выпіскі з афіцэрскай асабовай справы». А тут развесілі вушы, узрадаваліся, што з'явіўся Герой, і ўзнялі Лазніка на вышэйшую ступень раённай славы.

Нікому не хацелася апынуцца ў ролі гогалеўскага гараднічага, вырашылі ўсё ціха звесці да вымовы па партыйнай лініі, а райана зрабіла пералік за незаконна атрыманую зарплату без адпаведнай адукацыі — і перавялі Лазніка У. Д. у выкладчыкі малодшых класаў.

Юлія Лук'янаўна трохі пажыла адна, паплакала цішком, пашкадавала, што пагарачылася, а потым разважыла — лепш было ўсё сказаць самой, чым выкрые пракуратура, пацягне ў суд і наробіць вэрхалу на ўвесь раён. І ўсё ж, відаць, яна дужа прывязалася да свайго Валодзі і зразумела, што будучаму дзіцяці трэба хоць такі, трохі кручаны, бацька. Двойчы з'ездзіла «на міравую», а неўзабаве і сама пераехала да мужа.

З тыдзень іх кватэра пуставала, мы і не адважваліся прэтэндаваць на яе. Нарэшце савет зліtаваўся над намі і дазволіў заняць дырэктарскія пакоі. О-о! Гэта было найвялікшае шчасце. У двух светлых пакоях мы адчулі сябе, як у палацы. Паверылі, што лёс зычыць нам дабра — знялі судзімасць, удваіх працуем, маем людскую кватэру, жыві і радуйся да скону.

Наш катушок аддалі немаладой удаве з дванаццацігадовым хлопчыкам Міцем. Ён стаў добраю нянькаю нашае Тані. А калі хадзіў на пераезд памагаць маме, яна з такімі ж смаркачамі, як сама, збягала за чыгунку пасвіць суседчыну карову, забрыдала за далёкія пералескі, і я пасля заняткаў гадзінамі бегаў па полі,

а яна хавалася ў баразёнках, каб не забраў дадому. Самае небяспечнае было, калі дзеці залазілі ў глыбокі катлаван, запоўнены чорным бітумам. Ад гарачыні ён раставаў, дзеці качалі з яго мячыкі, смала прыставала да ручак, склейвала пальчыкі, і яны не маглі расшчапіць далоні. Нейкі п'яны валацуга пайшоў нацянькі, улез у катлаван, смала яго засмактала, а калі знайшлі, ледзьве выцягнулі засмоленую мумію.

Наша суседка Лукер'я рабіла на чыгунцы і часта ездзіла ў Слуцак на рынак або ў крамы, нешта вазіла на продаж сама. У пасёлку пачаўся абмен пашпартоў, а фатографа свайго не было. Лукер'я ў раёне сфатаграфавалася на шэсць здымкаў. Два здала ў пашпартны стол, а чатыры засталося ў яе.

Аднаго разу, стоячы каля брамкі, разгаварылася з суседкаю, безграшоўнаю ўдавою. Тая пабедавала, што няма калі і няма за што ехаць у Слуцак да таго «з'ёмшчыка». Выручыла Лукер'я: «А на д'ябла табе ездзіць, у мяне засталося аж чатыры карткі, бяры дзве і здавай пашпартыстцы. Мы ж з табою аднолькавыя красючкі». І аддала за рубель дзве свае карткі. У пашпартным стале важна, каб былі ўсе дакументы і дзве фатаграфіі, а хто на іх, нікога не цікавіла. Так і пражыла жанчына з Лукер'інымі здымкамі да наступнага абмену пашпартоў.

І я атрымаў новенькі ў шэра-зялёных корачках пашпарт. Усё ўглядаўся, дзе тая таемная літара або лічба, тое адвечнае таўро, што трымае на прывязі ў правінцыяльнай глушэчы, сведчыць, што ты — істота трэцяга гатунку ў «краіне роўнасці і братэрства». А так хацелася трапіць у цывілізаваны свет, паслухаць оперу, сімфанічны канцэрт, наведаць карцінную галерэю. Я мог, азіраючыся, як злодзей, на дзень-два прарвацца ў Мінск або ў Маскву, але і на такія паездкі не выстарчала маіх заработкаў, хоць з вячэрняю школаю працаваў па дзесяць гадзін у дзень. Усё, што эканоміў на харчах, траціў на новыя кнігі і часопісы. У мяне набіралася ладная бібліятэка.

У кнігарнях беларускія кніжкі толькі гартаў, у зборніках колішніх сяброў і знаёмых Астрэйкі, Зарыцкага[2] і Віткі чытаў адзін-два вершы, а купляць не адважваўся, каб часам не сталі «вещественным доказательством», бо цень зіркатага чалавека ў блакітнай фуражцы трызніўся днём і ўначы.

На дзвюх зарплатах у прыстойнай кватэры, здавалася нам, лепшага нічога і не трэба. Аля часта ўспамінала хворую маці і нудзілася па бацьках. Жылі яны на невялічкай станцыі паміж Масквою і Ленінградам. Бацька па інваліднасці меў невялікую

пенсію, а яшчэ даволі маладая маці пакутавала ад сардэчнай надастатковасці, прыступаў стэнакардыі і ў кожным лісце пісала, што вельмі хоча пабачыць унучку. Мы запрасілі прыехаць да нас, паглядзець і, калі спадабаецца, застацца жыць разам.

Прыехалі на агледзіны і засталіся. Яны ўпадабалі мяккі клімат Случчыны, нашу хату, гарод, палісад з вялізным кустом бэзу, простых і сардэчных суседзяў, а галоўнае — хацелася ўсім быць разам. З іх пераездам мы не рваліся з заняткаў дадому. Я часта затрымліваўся ў вячэрняй школе з маімі цікаўнымі дарослымі вучнямі. Дамоў вяртаўся позна, выкрасаючы юнраўскімі чаравікамі іскры з урэцкага бруку. Лепшага я нічога не хацеў, толькі б не чапалі болей, далі дажыць у гэтай хаце, на гэтай рабоце. У выхадныя дні адвесці душу часам заходзіў да нас Рыгор Антонавіч Мазавецкі. Яму, бабылю паняволі, хацелася пабыць у сям'і, пачаяваць з расійскага самавара, адвесці душу гаворкаю не пра школьныя і местачковыя плёткі, а пра больш высокія матэрыі. Мы гаварылі з ім пра Гётэ і Тагора, Гофмана і Буніна, Блока і Ясеніна (азіраючыся). Сустрэчы з Рыгорам Антонавічам былі для мяне сапраўдным універсітэтам: я дзівіўся яго ведамі і памяццю — ён аднолькава цікава расказваў пра нябесныя свяцілы і антычную філасофію, пра адносіны Шылера і Гётэ, пра эпоху Івана Грознага, ад яго я ўпершыню пачуў пра выдатнага вучонага Вавілава і прайдзісвета Лысенку. Яго імя паўтаралі ад Масквы да самых да ўскраін, а Рыгор Антонавіч лічыў Лысенку Хлестаковым у біялогіі, а яго галінковую пшаніцу — міфам для наіўных дзівакоў. Пра лагер мы амаль ніколі не ўспаміналі і не гаварылі — балюча было вярэдзіць свежыя раны і небяспечна гаварыць на забароненую тэму.

Часам я наязджаў у Мінск да стрыечнага брата, пабегаць па кнігарнях, купіць цацку Тані, самае неабходнае ў нашай беднай гаспадарцы. На вуліцах азіраўся, каб не сустрэцца з колішнім знаёмым, не расказваць яму, дзе быў, што рабіў, дзе жыву цяпер, а спытае, схлушу, што прыехаў з Расіі. Усё яшчэ не пакідаў страх — а раптам нехта дазнаецца і падтыкне: «Вунь куды зашыўся былы нацдэм. Прыкінуўся рускім. Цюга яго! Лаві! Трымай!»

І ўсё ж у нейкім магазінчыку сустрэўся з даўнім таварышам Янкам Шарахоўскім[3]. Некалі ён пісаў вершы, працаваў у рэдакцыі часопіса «Чырвоная Беларусь», жылі з ім па суседстве, разам гулялі ў парку «Прафінтэрн». А сустрэліся, адразу

пазналі адзін аднаго, загаварылі, нібыта і не разлучаліся. Я яму прызнаўся, дзе жыву і працую, сказаў пра сям'ю. Ён тады быў адказным сакратаром рэдакцыі «Полымя» і запрасіў заўтра зайсці да яго ў Дом прафсаюзаў на пляцы Волі.

Я доўга вагаўся, ісці ці не ісці, і ўсё ж даўняя прытручанасць літаратураю і мара калі-небудзь у яе вярнуцца перамаглі сумненні. Назаўтра знайшоў доўгі цьмяны рэдакцыйны пакой. На парозе сутыкнуўся з імклівым рэдактарам «Полымя» Петрусём Броўкам. «Ага, здароў, здароў. І ты прыехаў. Ну, і добра. Бывай, браце, спяшаюся». І пабег. Ці не спалохаўся, што пачну назаляць вершамі. Ніяк ад Мікуліча не адаб'юцца, а тут яшчэ адзін прыпёрся. Я заўсёды спрабаваў разгадаць ход думак таго, з кім сустракаўся і гаварыў.

За сталом у шынялі з капітанскімі пагонамі сядзеў даўні таварыш па бабруйскай філіі і беладрэўным цэху Лёша Зарыцкі. Ён стрымана павітаўся, добра, што не стаў нічога распытваць, і ўнурыўся ў рукапісы новых паэтаў, што прыйшлі на змену гулагаўскім ахвярам. Падумалася: колькі ні знішчаюць пакаленне за пакаленнем беларускую інтэлігенцыю, у літаратуру ідуць і ідуць новыя творцы і не баяцца, што і яны за чыстую («апалітычную») лірыку могуць трапіць на дыбу і канвеер няўмольных сяржантаў і лейтэнантаў. Пры акне сядзеў высокі хлопец з сумнаўсмешлівым добрым паглядам. Шарахоўскі нас пазнаёміў. Я паціснуў хваравіта вялую руку і пачуў незнаёмае прозвішча «Мележ». Тады яно нічога не гаварыла. Відаць, Шарахоўскі паспеў нешта расказаць пра мяне, бо ён уважліва і спагадліва прыглядаўся і сказаў: «Мне ваша прозвішча запомнілася з піянерскіх часоў па «Чырвонай змене» і «Іскрах Ільіча». Зацягнулася паўза, і я адчуў сябе тут лішнім і, магчыма, небяспечным. Шарахоўскі, мабыць, запрасіў дзеля прыліку, а я прыпёрся і адчуў, як асцерагаюцца даўнія знаёмыя, бо і яны жывуць у вечным страху і не давяраюць адзін аднаму. Падумаеш — усе азіраюцца і жывуць у страху перад шэрым таямнічым домам на рагу вуліц Савецкай і Урыцкага. Я заўсёды абмінаў і абмінаю гэты страшны дом. Баяўся не толькі я, баяліся партыйцы і вучоныя, пісьменнікі і сакратары ЦК, рабочыя і непісьменныя калгаснікі; усе начамі прыслухоўваліся да кожнага стуку ў свае і ў суседавы дзверы, самі следчыя баяліся адзін аднаго, бо трэці быў патэнцыяльны стукач. Здавалася, змяіныя зрэнкі праз шкельцы пенснэ ўглядаюцца ў кожную душу.

Мінск усё яшчэ ляжаў у руінах і друзе, зеўралі чорныя вачніцы недабураных дамоў, на пустырах праспекта Сталіна[4]

зялянелі лапікі бульбы, і грукатаў адзіны трамвай ад вакзала да парку Чэлюскінцаў. Я прыехаў на апошні прыпынак, прайшоў па ўсыпаных ігліцаю сцяжынках, прыглядаўся да кожнага ўзгорачка і лагчынкі. Некалі ў турме шапталіся, што камендант Ермакоў і наглядчык «Конская галава» расстрэльваюць нашага брата недзе ў канцы парку. І цяпер часта спыняюся там, і ўспамінаюцца вочы Галавача, Вольнага, Зарэцкага, Маракова, Кляшторнага[5], Лявоннага, расстраляных у адзін дзень.

На месцы дома, дзе нас некалі па трое сутак распіналі садысты з партбілетамі, ваеннапалонныя ў дзве змены будавалі на ўвесь квартал новы бастыён здзекаў і жаху. У закончаным крыле ўжо да раніцы гарэлі агні, за жалезныя вароты на вуліцы Урыцкага шнуравалі «чорныя вораны», у натоўпах мільгалі блакітныя фуражкі і наганялі страх на сумленных людзей. Аднойчы позна ноччу ўзмоцнены канвой вёў чалавек дваццаць зняволеных у турму. Страх скалануў душу: і я ж не так даўно хадзіў — рукі назад. Няўжо калі-небудзь вось так павядуць і мяне?

Дадому вярнуўся ўстрывожаны і прыгнечаны: установа працуе, значыць, ёй заўсёды патрэбен свежы «матэрыял». Даў зарок больш не сустракацца з мінскімі знаёмымі, не кідаць на іх цень недаверу і .самому жыць спакайней.

## VIII

Я ніколі не цікавіўся палітыкай — не чытаў доўгія стэрэатыпныя перадавіцы, рапарты аб дасягненнях, пастановы і тэарэтычныя артыкулы пра наша шчаслівае жыццё. Навошта чытаць, калі я жыву гэтым жыццём. Але добра ведаў: як толькі ў краіне нешта пагоршыцца, адразу знаходзяцца вінаватыя — шкоднікі, дыверсанты, агенты, нацыяналісты, і ўсе няшчасці спісваюцца на іх.

З'яўлялася пастанова або «геніяльнае ўказанне» аб павышанай пільнасці — сушы на ўсякі выпадак сухары, прыслухоўвайся ноччу да шорахаў і стукаў.

Грозным папярэджаннем прагучала пастанова ЦК ВКП(б) па дакладу Жданава аб часопісах «Звезда» і «Ленинград». Апанаваў страх ад публічнага распяцця Ахматавай і Зошчанкі, а побач з імі «разбойнікаў» Садоф'ева, Камісаравай, Спаскага і ўсіх «серапіёнаў»[6]. Жахлівае паведамленне пра арышты шкоднікаў і ворагаў народа зноў распаліла ў даверлівага народа,

прывычнага прымаць на веру кожнае друкаванае слова, класавы псіхоз. Разгарнулася кампанія барацьбы з безыдэйнасцю і «бязродным касмапалітызмам». Крычалі «касмапалітызм», але многія не разумелі, што гэта за звер. У дзевятым класе вячэрняй школы старшына Ахмедаў спытаў: «А ваабще-то чито такое космо-политызма?» — «Дазвольце, я растлумачу, — падскочыў бравы, з гусарскімі вусікамі вясёлы дасціпны лейтэнант Дубец. — Космополитизм, товарищ Ахмедов, это когда плохой человек косо смотрит на политику. Слово сокращённое. Понятно?» — «Так точно, товарищ лейтенант». Усе пакаціліся ад рогату, толькі адзін Ахмедаў не разумеў, чаго яны так заходзяцца.

А мне было не да смеху: калі наверсе гукнулі, скрозь унізе павінна адгукнуцца — у кожным кутку павінны быць свае касмапаліты, адшчапенцы, буржуазныя нацыяналісты. Як няма? Чаму няма? Што, кончылася класавая барацьба? А капіталістычнае акружэнне, а падрыўная дзейнасць замежнай агентуры? Не будзь блізарукі, шукай, выпорвай з кожнай шчыліны. І пачалася барацьба. На сходах, педсаветах, палітзанятках, настаўніцкіх нарадах патрабавалі бязлітаснай расправы з усімі адступнікамі ад генеральнай лініі.

Прысланы з суседняй вёскі да нас дырэктарам Хведар Аляксандравіч Прафіновіч быў непахісны ідэйны фанатык. Невялічкага расточку, шэратвары, з шырокім бязгубым ротам, насіў гаматную гімнасцёрку, перацягнутую шырокаю папругаю, цубкае скуранае, аж да пят, паліто і фуражку-сталінку. На першым часе з усімі быў па-езуіцку ўсмешлівы, нібыта далікатны, а як адчуў уладу, стукаў кволым кулачком і ніколі не адступаў ад сваіх загадаў. Мяне ён абавязаў у кожным класе прапрацаваць гістарычную пастанову партыі і даклад таварыша Жданава, выступіць на педсавеце, на агульным сходзе пайшчыкаў спажыўкаапераціі пра варожую дзейнасць пісьменнікаў-адшчапенцаў і пра небяспеку бязроднага касмапалітызму.

Я добра ведаў, як з невінаватых патрыётаў следчыя рабілі ворагаў самых розных кірункаў і адценняў, быў перакананы, што Ахматаву і Зошчанку без дай прычыны абвінавачваюць у смяротных грахах, каб пачаць новы паход на творчую інтэлігенцыю. Я спешна набыў спецыяльна выдадзены зборнік разгромных артыкулаў «Против безыдейности в литературе» і, сцяўшы зубы, супроць уласнага сумлення, цытатамі з абвінаваўчых актаў Яголіна, Ярмілава і Плоткіна выкрываў

пісьменнікаў, якіх даўно чытаў і любіў. Падмацоўваў свае выступленні цытатамі з «безыдэйных» вершаў Ахматавай, іх слухалі з асабліваю ўвагаю і не разумелі, што варожага ў лірычных радках.

Але што я мог зрабіць? Як ратавацца? Хлусілі ўсе, ды з якім яшчэ імпэтам, агаладалым, абадраным і разутым калгаснікам, якія яны шчаслівыя, што калгас з павіслымі на пастронках коньмі — самая перадавая форма гаспадаркі, дзе няма эксплуатацыі і бяспраўя, выбарчая сістэма самая дэмакратычная ў свеце. І я даводзіў па Жданаву, што «безыдэйныя творы могуць пасеяць толькі сум, упадак духу, песімізм, імкненне адысці ад надзённых пытанняў грамадскага жыцця».

Я выкрываў чужую ідэалогію, даводзіў прапісныя ісціны палітграматы, а сам начамі калаціўся, калі за акном праходзілі машыны... на аўтабазу, і з палёгкаю ўздыхаў, як толькі яны міналі нашу брамку.

У той год быў агітатарам на дзесяцідворцы і сам ужо меў права галасаваць за кандыдатаў блока камуністаў і беспартыйных у мясцовы савет. З зямлянкі ў хату, з хаты ў зямлянку хадзіў агітаваць, каб ішлі на выбары, і ў кожнай выслухваў плач і енкі мацярок-адзіночак, няшчасных берыеўскіх удоў. У самога сціскалася сэрца, хацелася неяк суцешыць няшчасных пакутніц, а вымушаны перамолваць газетную лухту, у якую не верылі і іх аўтары.

Алю прызначылі сакратаром выбарчай камісіі, каб хутка падлічвала працэнты адгаласаваўшых. О, гэта ўжо быў вялікі давер, і яна старалася яго апраўдаць найлепшым чынам. Выбарчы ўчастак быў у доме лясніцтва. У пакоі, прыбраным усім чырвоным і партрэтам правадыра і настаўніка ўсіх часоў і народаў, камісія выдавала бюлетэні, у другім стаяла пацягнутая чырвоным скрынка з вузенькаю шчылінкаю ў вечку, дзеля прыліку выгарадзілі дзве кабіны, але ніхто ў іх не адважваўся заходзіць, каб, барані божа, не падумалі, што гэта ён выкрасліў патрэбнага блоку кандыдата. Ён адзін, і мы з аднаго выбіраем, як у тым раі, — Бог прывёў Адаму Еву і сказаў: «Вось табе Ева, выбірай сабе жонку». І выбраў Адам. І мяне зноў апанавалі крамольныя думкі, каму трэба гэтая камедыя выбараў без выбару, і ў ёй занятыя тысячы і тысячы людзей, друкуюць плакаты, заклікі, бюлетэні, шлюць тысячы тэлеграм з грыфам «Выбарчая», па ўсёй краіне не змаўкаюць тэлефоны, засядаюць саюзныя, рэспубліканскія, абласныя, раённыя, сельсавецкія камісіі, на самалётах, на цягніках, на фурманках у завеі і ў слоту вязуць дакументы, справаздачы, вынікі выбараў. І ўсё гэта

робяць на поўным сур'ёзе. Божа мой, што лезе ў маю галаву?! Можа, сапраўды я варты кары за такія думкі, і нікому не выкажаш іх. І ў ранняй журналісцкай маладосці я бачыў галодных калгасных дзяцей, на маіх вачах з голаду вымірала Украіна, каля жлобінскага вакзала вырас цэлы пагост падобных на муміі дзяцей «нэнькі Украіны». А пісаць павінен быў пра шчаслівае калгаснае жыццё, пра братэрства нашых народаў. Ведаў, што хлушу, і пераконваў сябе, што гэта толькі мясцовыя непарадкі, а недзе жывуць так, як пішуць у «Правде», як паказваюць у кіно. Можа, і праўда мяне за гэта трэба было караць. Ад думак гула галава, балела сэрца і апаноўваў страх.

І ўсё ж трэба было хадзіць з хаты ў хату і забяспечваць стопрацэнтны ўдзел у выбарах, упартых «нехацімцаў» даводзілася падкупляць сваімі рублямі, да самага зацятага бегалі з маленькаю урнаю, калі ж ён упінаўся, цішком у сенцах кідалі самі бюлетэнь у шчылінку.

Старшыня выбарчай камісіі — дырэктар смалакурні Вігдорчык, у «сталінцы» з шырокім каўняром, у закасаных фетравых бурках, хоць яшчэ і снег не лёг, кожную гадзіну дакладваў, як ідуць «выбара». Важна было хутчэй забяспечыць найбольшы ўдзел у гэтай дзяржаўнай кампаніі. Аля падлічвала працэнт ахопленых галасаваннем, і задаволены Вігдорчык званіў у акруговую камісію. Да змяркання амаль усе ўрэчцы выканалі свой грамадзянскі доўг. Урну дазвалялася ўскрываць толькі ў дванаццаць гадзін ночы.

Нявыспаныя члены камісіі пазяхалі, разганялі сон чаем, выходзілі на свежае паветра. Мястэчка даўно спала, толькі ў змроку недзе перабрэхваліся сабакі ды вецер рыпеў незачыненай брамкай. Вігдорчык раз-пораз пазіраў на марудныя стрэлкі гадзінніка. Нарэшце ў чорнай талерцы рэпрадуктара куранты прабілі дванаццаць. «Пара!» Вігдорчык адчыніў дзверы ў суседні пакой і захістаўся на парозе — на месцы урны не было, толькі з партрэта ўсміхаўся ў вусы Генералісімус. Вігдорчык закруціўся на месцы, ухапіўся за галаву: «Гвалт! Разбой! Укралі! Яўна варожая вылазка. Цяпер нам усім хана. А вы вушы развесілі. Даверыўся вам. Хто адшчапляў дзверы?»

Не ўцяміўшы адразу, што адбылося, сонныя члены камісіі кінуліся ў другі пакой. Урны не было. У Алі захаланула сэрца — няўжо зноў сушыць сухары? На каго зваляць? Вядома, на «контрыкаў», былых лагернікаў. Вігдорчык дапытваўся, хто выходзіў праз чорны ход, хто і чаму не зашчапіў дзверы. Усе пазіралі адзін на аднаго, лыпалі вачыма, кляліся, што ніхто не

выходзіў праз суседні пакой. За Вігдорчыкам члены камісіі павыскоквалі на вуліцу, абшасталі гарод. Толькі Аля засталася пільнаваць спісы і нескарыстаныя бюлетэні.

Наўкол была цемень, вецер шапацеў сухім лісцем кіяшніку, людзі натыкаліся на высокае цыб’е сланечнікаў, спатыкаліся ў разорах, прыцярушаных першым сняжком. Нідзе нікога і нічога не было. Заўсёды чырвоны твар Вігдорчыка стаў шэрым і яшчэ даўжэйшым. Што рабіць? Хутка раён запатрабуе звесткі. А дзе іх узяць? Ні урны, ні бюлетэняў няма. «Што тут доўга думаць? Яўна варожая дыверсія, — цвяроза разважаў парторг калгаса Брагінец, — няма чаго цягнуць. Звані ў райкам, а там рашаць, што рабіць». — «Але! Алё! Мне тэрмінова райкам, так, па выбарчай, — дрыжэў голас Вігдорчыка. — Таварыш дзяжурны, гэта з Урэчча. Яшчэ не ведаем колькі. У нас... Чэпэ. Я кажу, чэпэ ў нас. Якое? Не, не пажар. Прапала няўскрытая урна, так, з бюлетэнямі. Якія жарты? Шукалі — усё дарэмна. Канешне, вылазка. Група НКВД? Добра, будзем чакаць. Ніхто з участка не пойдзе».

Я прачнуўся пад раніцу. Алі дома не было. Няўжо так доўга падлічваюць? Там жа і лічыць няма чаго — колькі бюлетэняў, столькі «за». Вось і пішы для прыліку: дзевяноста дзевяць і дзевяць дзесятых аддалі галасы за блок — і ніколі не памылішся. У нас жа аднагалоссе і аднадушша.

А на выбарчым участку сядзелі, як на ўласных хаўтурах, толькі Вігдорчык шнураваў па пакоі і разважаў, хто і як мог зрабіць такую дыверсію. Свае, урэцкія, надзейныя, падазроных усіх выкарчавалі, значыць, нейкая навалач дзейнічае ціхай сапай. Ад разваг і поглядаў Вігдорчыка Аля сціскалася ў камячок. Яна разумела, каго ён мае на ўвазе.

Толькі пад раніцу прымчаўся «казёл» з трыма аператыўнікамі. Яны сурова дапытвалі кожнага члена камісіі паасобку, дамагаліся: «Хто гэта мог зрабіць? Каго падазраяце?» Агледзелі дзверы ў сенцы. Яны прыставалі няшчыльна. У сенцах знайшлі веласіпедную спіцу. Ёю і адкінулі зашчапку. З ліхтарыкамі выйшлі ў двор знайсці сляды злачынцы, але за дзвярыма ўсё было сталочана ботамі членаў камісіі. Аператыўнікі крылі іх ледзь не мацюкамі: «Вы што, можа, знарок усё заблыталі, каб і знаку не знайсці?» Колькі ні лаялі, колькі ні бегалі, а урны не было. Акруговая камісія тэрмінова патрабавала вынікі галасавання, гэта затрымлівала справаздачу па рэспубліцы. Параіліся з аператыўнікамі і знайшлі выйсце: прагаласавалі ўсе па спісах, у кабіны ніхто не заходзіў, Брагінец адказваў за гэты

ўчастак. Значыць, так і паведамляй — сто працэнтаў. Не, так няёмка, паўпрацэнта трэба скінуць. Такія справаздачы можна было даваць з кожнага ўчастка без галасавання, без лішняй траты сродкаў і часу.

Развіднела, а урна ўсё не знаходзілася. Аператыўнікі перабіралі ўсіх падазроных у пасёлку, міліцыянер Баброў дакладваў, што ноччу ніхто «сумніцельны» не прыязджаў і не выязджаў. Значыць, урна недзе тут. Цікава, ускрылі ці не, бюлетэні цэлыя ці знішчылі.

Раптам праз запацелае акно ўбачылі і вачам не паверылі — сама на кароценькіх ножках, прыкрытая шапкаю, ідзе чырвоная скрынка. Вігдорчык ірвануўся насустрач. Урну нёс начны вартаўнік смалакурні. Убачыў свайго дырэктара, паставіў скрынку, выцер шапкаю лоб: «Ух, ты! Не такая, халера, цяжкая, як няўдобна несці, пальцы здранцвелі». — «Я табе пакажу халеру! Дзе ты яе ўзяў?» — аж зайшоўся Вігдорчык. «Іду гэта я з дзяжурства, перайшоў пуця, аж бачу, у бур’яне нехта чырвоны сагнуўся. Гукнуў — маўчыць. Дай, думаю, пагляджу, што там робіць. Падышоў бліжэй, аж — скрынка. Гэта ж і я ўчора ў яе нейкую паперчыну кідаў. Патрос, шамаціць усярэдзіне. Дай, думаю, аднясу назад, можа, патрэбная. От і валаку».

Аператыўнікі агледзелі скрынку з усіх бакоў: дно, верх і бакі цэлыя, пячаць на месцы. Ускрылі — усе бюлетэні сапраўдныя, вывернулі іх на стол. Сярод іх мільгнула блакітная ад сшытка вокладка з буйным надпісам: «Вігдорчык, не спі!» Пачалося даследаванне запіскі. Круцілі з усіх бакоў і пад табліцаю множання знайшлі ледзь дробненькі надпіс: «Віцёк Дзен...» і — пакручасты хвост. «Хто такі ў вас Віцёк Дзен?» — сурова спытаў старшы аператыўнік. «Няўжо сынок майго тэхнарука Віця Дзенісевіч? — аж закалаціўся Вігдорчык. — Як адразу не здагадаўся, што гэты гад можа так адпомсціць». Вігдорчык не памыліўся. Тэхнарук смалакурні Іван Дзенісевіч даўно грызся з дырэктарам і ніяк не мог яго зваліць. Ідэя прыйшла ў часе выбараў. На добрым падпітку, а ў гэты дзень чаго-чаго, а гарэлкі было хоць заліся, Дзенісевіч пракраўся каля поўначы з задніх сянец у лясніцтва, веласіпеднаю спіцаю адкінуў зашчапку, забраў урну, аднёс за чыгунку і паставіў у бур’ян. Здуру на вокладцы сынавага сшытка леваю рукою напісаў пасланне свайму дырэктару, укінуў у шчыліну і пайшоў спаць.

На допыце ён доўга не ўпінаўся, расказаў усё, як было, — па п’янцы захацеў пакпіць з Вігдорчыка, каб і ў раёне ведалі, якая гэта варона. Ранейшыя сігналы не дзейнічалі, дык, можа,

хоць цяпер загрыміць. І сапраўды, Вігдорчык за прытупленне пільнасці паляцеў з дырэктарскага крэсла, Дзенісевічу далі за хуліганства вымову з занясеннем: райкам не хацеў узнімаць вялікі шум, каб не праславіцца на ўсю рэспубліку.

Супакоіліся і мы, што так усё абышлося. Каб не распісаўся Віцёк, напэўна пацягнулі б нас з Мазавецкім.

Перад Новым годам я маляваў і выразаў матылькоў, грыбкі, зорачкі, сняжынкі, склейваў папяровыя ланцужкі і прыбіраў для Тані першую ў яе жыцці ёлку. Памагаў развешваць цацкі мой вучань, дапытлівы і слаўны лейтэнант Волкус, і застаўся з намі сустракаць Новы год. Мы радаваліся, што нарэшце сабраліся ўсе разам, што ёсць у нас сям’я, цікавая работа, прытулак, што ўжо не галадаем, і жадалі адно аднаму шчасця на наступны год, каб ён быў не горшы за сёлетні, нават усміхалася Аліна мама, паружавела і любавалася, як унучка кружыцца каля ёлкі.

## IX

У наш леташні прыезд у Старобін цётка Зося войкала: «Як жа гэта беднае дзіцятка жыве без свайго малачка?» і, відаць, угаварыла Марусю аддаць мне яе кароўку. Як толькі атрымаў паштоўку, паехаў у Старобін, пераначаваў і на досвітку залыгаў быструю, з зорачкаю на лбе Малінку. Цётка Зося выманіла яе за вароты пасоленым акрайчыкам, перахрысціла на дарогу, і мы па халадку выправіліся з мястэчка.

За Старобінам пачыналіся зыбучыя пяскі, ад дарогі абсаджаныя чырвоным ракітнікам, там, дзе цяпер Салігорск, зялёнаю сцяною стаяла жыта. Мы звярнулі на Пагост і пайшлі лугавымі абочынамі. Я спыняўся і папасваў сваю Малінку сакаўным дзяцельнікам, галінкаю збіваў аваднёў, а хутка мая кароўка пайшла павальней, замыкала, пачала ўпінацца. Я цягнуў яе за повад, а яна матала галавою. Шчасце, што сустрэлася добрая жанчына, спынілася і загаварыла: «Ці далёка вядзеш, чалавеча?.. Ого, блізкі свет. Так і загубіць кароўку нядоўга. Бач, як вымя расперла. Садзіся ды здойвай». Чаго я толькі не рабіў на сваім вяку, а даіць не даводзілася. Упрасіў тую добрую кабету, і ў траву зацурчэлі тугія струмкі малака, шапкаю ўзнялася пена. Мне страшэнна хацелася піць, я прагна глядзеў на сырадой і толькі глытаў густую сліну. Уздыхнула мая Малінка, пашчыпала траўкі, і мы весялей пайшлі лугавінаю,

палявымі дарогамі, папасваючыся на ўзмежках і ўтравянелых канаўках.

Надвячоркам прыбіліся ў доўгае сяло Дарасіно. Там жылі мае вучні. Стомленых і запыленых, пусцілі нас нанач бацькі Мішы Масілевіча, напаілі Малінку, паставілі ў хлеў, каб не секла заедзь, пачаставалі мяне вячэраю, і я заснуў у свірне на лапіку леташняга сена.

Апоўдні мы ўжо былі дома. Аля, яе бацькі і асабліва Таня радаваліся Малінцы, а Таня марыла, што будзе цяпер пасвіць сваю кароўку. Пасвіць не пасвіла, а ад малачка ружавела і круглела.

За сцяною нашага дома былі разгароджаныя, зарослыя бэзам і язмінам могілкі з пахілымі крыжамі і замшэлымі помнікамі. Нябожчыкаў хавалі адразу за нашаю сцяною. Могілкі былі любімым прыстанішчам Тані і суседскіх дзяцей. Паміж бэзавых кустоў яны гулялі ў хованкі, скоўзваліся з пахілых помнікаў і не прапускалі ніводнага пахавання. Не разумеючы ўвесь трагізм смерці, яны з цікавасцю глядзелі на жалобны рытуал. Асабліва падабалася, калі нябожчыка адпяваў мясцовы святар Шаламіцкі, махаў кадзілам, і з яго з прыемным пахам ладану віўся сіні дымок.

За могілкамі і нашым гародам па чыгуначнай аднапутцы часта ішлі таварнякі з бярвеннем, дошкамі, цэглаю, саставы цыстэрнаў. Тады Таня радасна крычала: «Глядзі, глядзі, бачкарны поезд ідзе». Часта бабка не разумела, што кажа ўнучка, і прасіла перакласці «дубцы», «комін», «патэльня».

У мяне на ўсё лета з'явіўся новы клопат — забяспечыць на зіму карову сенам. Самым гаспадарчым і пракідным у практычных справах быў у нашым калектыве Рува Якаўлевіч. Ён дамовіўся з калгасам суседняга раёна на балотным масіве Сінягоў касіць з трацiны. Чацвёра настаўнікаў на ўсе канікулы зашыліся ў камарыны гушчар, на ўзлессі паставілі будан, у дождж і ў спёку ад цямна да цямна пласталіся на куп'істай дрыгве, каб паставіць дзве капы калгасу, трэцюю — сабе. Паабдзіраліся, пазарасталі, кульгалі на папрэлых нагах, харчаваліся, чым лес багаты, ды на тыдзень прывезеным хлебам. Намучыліся, папагрузалі па багне, папакармілі аваднёў і камароў, але навыбівалі і вывезлі сена на ўсю зіму.

Навучальны год, як і звычайна, пачаўся з настаўніцкай канферэнцыі ў Слуцку, зноў гучалі знаёмыя даклады з працэнтамі паспяховасці, справаздачамі дырэктараў, і наш Прафіновіч выпаўз на трыбуну пахваліцца дасягненнямі. У

канцы выступіў сакратар райкама. У яго прамове часцей за ўсё гучала: «Пільнасць, класавая непрымірымасць, высокая ідэйнасць выхавання ў духу адданасці партыі Леніна — Сталіна». Як толькі называлася імя вялікага і мудрага, усе доўга пляскалі ў далоні і ўставалі. Нехта разумны сказаў: «Гэта палітыка з гімнастыкай». А мне ўсё здавалася, як толькі сакратар загаворыць пра пільнасць, дык абавязкова глядзіць у мой бок, адразу адчуваў, як гараць вушы і стукае ў скронях.

Рыгор Антонавіч летам таемна з’ездзіў у Маскву. Вярнуўся змрочны і цішком расказваў, што там пачалі забіраць «паўторнікаў», плануецца перасяленне ўсіх яўрэяў у Бірабіджан. Людзі зноў начамі не спяць. Некаму трэба было заўсёды трымаць народ у напружанні і страху. Неспакойна было і ў мяне на душы, але дома маўчаў, а начамі прыслухоўваўся да гулу машын. Нехта з настаўнікаў прывёз з Мінска навіну: «Зноў пасадзілі наццэма Андрэя Александровіча». Маладыя не чулі такога прозвішча, а мяне гэтая вестка, як гром, ударыла, хоць і прыкінуўся, што не пачуў, перавёў гаворку на нешта іншае, каб не выдаць хвалявання.

Неспакой тачыў неадступна: што б ні рабіў, куды б ні ішоў, як міна з гадзіннікавым механізмам, цікала і цікала адна думка, часцей білася сэрца, прапаў сон і апетыт, апускаліся рукі ў рабоце, пачаліся правалы ў памяці, замкнуўся і спахмурнеў у прадчуванні бяды. Вучні насцярожыліся, часам пазіралі спагадліва, як на хворага.

## X

Кароткія дні змрочнай восені цягнуліся маркотна і доўга. Хоць класы былі невялікія, даводзілася правяраць стосы сшыткаў, асабліва распісаліся аматары літаратуры, трэба было складаць зусім непатрэбныя планы і справаздачы, чатыры разы на тыдзень даваў па дзесяць гадзін у дзённай і вячэрняй школах.

Раней на ўрокі ішоў як на свята, а цяпер... гаварыў пра паэмы Маякоўскага, а ў галаве гуло адно і тое ж — магчыма, гэта мой апошні ўрок, а дома ўжо чакаюць «архангелы» ў блакітных фуражках. Мае замінкі заўважалі вучні, а я яшчэ больш губляўся.

Пасля апошняга ўрока ў вячэрняй школе выходзіў у чарнечу золкай ночы, дадому ішоў усё павальней і павальней. За спіною цокалі абцасы, а здавалася — сочаць за мною, ідуць следам

і вось-вось скамандуюць: «Стой!» А то думалася, ці не мой «апякун», таемна прыстаўлены, сочыць мой кожны крок. Ён жа можа напісаць усё, што ўзбрыдзе ў галаву, з яго ж патрабуюць: «Давай і давай! Не можа быць, каб учарашні лагернік быў задаволены, каб не выказваў варожых настрояў». Аднаго сексота я ведаў, а хто другі, а можа, і трэці ёсць.

Як мы ні бедна жылі, а пасля свайго пакутніцкага дзесяцігоддзя я радаваўся адноснай волі, што ёсць прытулак, работа, кавалак хлеба, добрая і клапатлівая сям'я і любімая дачушка. Другі раз усё гэта страціць было немагчыма. Але спакою няма, нешта точыць, вярэдзіць душу, чорным цяжарам наваліўся страх і нязбытна гняце. Асабліва пакутныя ночы. Змораная ў школе і дома Аля засынае адразу, а я з расплюшчанымі вачыма баюся паварушыцца, каб не пабудзіць яе, каб не пыталася, чаму не спіцца, што гняце і мучыць. І яна заўважала, як я перамяніўся, але маўчала, не лезла з роспытамі ў душу, каб не вярэдзіць мае і свае раны. Ад перанапружання думак і нерваў баяўся зусім здурнець. Калі наважыліся забраць другі раз, забіралі б хутчэй, каб не пакутаваць і не рваць душу. Чаканне гора — горш за самое гора.

Усё радзей прыходзілі лісты ад Мікуліча і Пальчэўскага, і яны былі кароткія і трывожныя, з празрыстымі і цьмянымі намёкамі. Мы ж ведалі, як уважліва чытаюць нашу перапіску.

Аднаго разу познім вечарам пачуўся тупат на ганку і настойлівы стук у дзверы. Прыхінуўся да акна — на прыступках стаялі трое. Ну, усё, прыйшлі. Сэрца паплыло ніжэй і ніжэй. Аля адарвалася ад сшыткаў і застыла ў нерухомасці. Выйшаў на здранцвелых нагах у сенцы, рукі калаціліся і не маглі адразу намацаць клямку. А на ганку весела гаманілі. Падумаў — рагочучы, нясуць мне бяду. Адшчапіў і ледзь не захлынуўся ад радасці — на ганку стаялі лейтэнанты з вячэрняй школы. З прабачэннямі ўвайшлі ў пакой і растлумачылі, што зайшлі даведацца, якія творы трэба чытаць, на якія тэмы пісаць сачыненні, каб не адстаць ад класа. Паружавелая Аля прапанавала распрануцца і запрасіла да чаю. Хоць ненамнога былі за мяне маладзейшыя мае вучні, але адчувалі сябе вучнямі і пачціва ад пачастунку адмовіліся, запісалі заданне і пайшлі. Я з палёгкаю ўздыхнуў, але ў гэты вечар ужо нічога не мог рабіць.

Восень павольна ўбіралася ў зіму. Начныя замаразкі шклілі лужыны і распісвалі шыбы дзівоснымі ўзорамі, першы сняжок не раставаў у канавах і разорах. Каля бровара параваў на высокіх сталюгах вялізны чан з брагаю. Гразь змяшалася

з рудою жыжаю, хлюпалі слізкія кладкі. Людзі з вёдрамі на каромыслах дапазна тоўпіліся, штурхаліся, лаяліся і ўпрошвалі непрыступнага бардаўшчыка Войсята «ўліць хоць вядзерца кароўцы». Ад хмельнай брагі сыцелі і прыпускалі малако каровы, заліваліся лоем кормнікі. Хоць і сорамна было штурхацца каля смярдзючага чана і прасіць ласку ў Войсята, але куды дзенешся, трэба неяк карміць нашу падараваную Малінку. Усе настаўнікі трымалі кароў і парсюкоў, бо інакш не пражывеш, і штурмавалі разам з вучнямі і іх бацькамі «цытадэль Войсята». Штурхаліся настаўнікі, штурхалі і іх, адціскалі і лаялі, адбрэхваліся не заўсёды далікатна яны. Я наперад не лез і толькі цярпліва пазіраў збоку. Здаралася, бардаўшчык заўважаў мяне і літасціва клікаў: «Гэй, доўгі вучыцель, падстаўляй, адпушчу!» Хоць і гідка было такое ласкі, праціскаўся і падстаўляў вёдры пад густы гарачы струмень.

Па дарозе дадому на каромысле гайдаліся цяжкія закарэлыя вёдры, на штаны і чаравікі расплёсквалася гарачая брага. Хто ж будзе паважаць такога апушчанага, зняважанага яго становішчам настаўніка і яго прафесію? Успаміналася, як некалі маіх салідных, чыста апранутых настаўнікаў паважалі ўсе мястачкоўцы, старыя і малыя пры сустрэчы здымалі перад імі шапкі.

А як глядзяць на цябе, звяважанага, зацёпканага, паўгалоднага, у нейкіх неданосках настаўніка, калі гаворыш пра высокія матэрыі, выкрываеш немарксісцкую філасофію Талстога і Гётэ, рэакцыйную творчасць Дастаеўскага. І ўсё ж вучні паважалі большасць сваіх настаўнікаў.

Некалькі маіх даўніх сяброў грымяць у друку і па радыё. Лёс злітаваўся над імі ў яжоўскія часы, і яны, вядома, упэўнены, што яны самыя сумленныя і ідэйна вытрыманыя патрыёты, а ўсіх злачынцаў вымела жалезная чэкісцкая мятла. Я ў кнігарнях гартаю іх кніжачкі з дзесяткамі прысвячэнняў вялікаму і мудраму, з гімнам ладу, што «заручыў з шчасцем» народы Беларусі і з сонцам чырваназорнай Масквы. А мы ж некалі сябравалі, аднолькава жылі і думалі аднолькава, яны недзе пераседзелі страшную пару, а я на ўсё жыццё выцягнуў сабе воўчы білет і да скону буду пакутаваць з ім.

Што са мною адбываецца, бачылі Аля і яе спакутаваная хваробаю добрая мама. Яна задыхалася ад сардэчнай недастатковасці, шапацела сінюшнымі вуснамі, калі хацела нешта сказаць, высока падымала бровы, і кожнае слова ледзь было чуваць. Ужо дарослаю Таня прызналася, што і яна ў пару

свайго горкага маленства разумела, што ў доме жыве нейкая трывога, усіх не пакідае страх, што над намі навісла бяда, усе нечага асцерагаюцца і маўчаць у чаканні няшчасця.

Трывога нарастала ўсё больш і больш. У савет зачасцілі ўпаўнаважаныя ў ботах, чорных палітонах і шэрых кепках, а часам і ў блакітных фуражках. Некага выклікалі, вялі доўгія размовы з нашым ліслівым і коўзкім дырэктарам. Было зразумела, што цікавяць іх Рыгор Антонавіч і я. Але што яны могуць выпытаць пра нас? Усё наша жыццё навідавоку — школа, дом, урокі, сшыткі, паходы да бардаўшчыка — і круг замкнуўся. У вольныя хвіліны перачытваю рускіх класікаў і сучаснікаў, захапляюся Бялінскім і дзіўлюся, што так можна пісаць крытычныя артыкулы. Перад сном расказваю дачушцы казкі. Што ж цікавага і заганнага ў маіх паводзінах? Пра што даносяць стукачы? Няўжо зноў давядзецца прайсці цярністы шлях следства, турмы, карцэраў і загнуцца за калючым дротам у таежнай глушы?

З'явілася адно жаданне — хутчэй, хутчэй, не цягніце, не мучце, не гуляйце ў хованкі, вось вам мая галава — сячыце, бо другі раз ніхто не вытрымае гулагаўскага кашмару. Хіба ж можна двойчы без віны караць аднаго і таго ж чалавека? Я ж нікому і вока не запарушыў, а цяпер яшчэ адказны за лёс сям'і. Што будзе з ёю?

Нават кароткая радасць, калі ўсе сабраліся разам, пакінула наш дом. Гаварылі толькі пра самае будзённае і неабходнае, а думалі кожны адно і тое ж. Алін бацька прыкурваў ад цыгаркі цыгарку і гадзінамі моўчкі сядзеў на парозе, нават Таня сцішылася, стала маўкліваю і задуменнаю.

Праўду мне казалі памілаваныя смертнікі: «Не так страшна ў такім горы памерці, як страшна чакаць, калі цябе павядуць і паставяць да сценкі». Я гэта разумеў сам, і часам мільгала шалёная думка — паехаць у раён, зайсці да іх і папрасіць: «Хутчэй забірайце, не мучце, каб не звар'ярцець», і ўспаміналася: «Уж лучше посох и сума, не дай мне Бог сойти с ума».

Перад Новым годам прыйшоў ліст з Рудзенска, невядома кім напісаны: «Алеся забралі 26 снежня і павезлі ў Мінск». Гэтыя некалькі слоў ледзь не збілі мяне з ног. Забралі Алеся, блізка і мая чарга. Не было лістоў і ад Барыса.

Мы ішлі з Мазавецкім праз вуліцу на ўрок у другое памяшканне, і я сказаў, што ўжо бяруць нашага брата і ў раёнах. Ён з уласцівым яму спакоем адказаў: «Я даўно іх чакаю. Пакуль Ірад

на троне, жыцця нам не будзе. Думалі, што замардавалі ўсіх чыста, аж выпаўзлі з тысяч адзінкі, ды яшчэ рыпаюцца — скаргі пішуць. Вось і замятаюць, каб не назалялі і не плявузгалі, чаго не трэба. На канікулы з'езджу да сям'і, а там — бог бацька».

Зіма 1948 года сапраўды была зімою нашай трывогі. Алесь ужо сядзеў, магчыма, і Мікуліч пазіраў на гэтае шэрае неба праз краты. Апанавалі апатыя і глухата, напружанне змянялася абыякавасцю, жаданнем заснуць, але і ў сне не было спакою — снілася тое, пра што думаў удзень. Здавалася, галава заплыла нейкім студнем — слухаю і нічога не чую, часам з'яўлялася вар'яцкая думка: кінуць усё, ускочыць у цягнік — і памінай як звалі. Але хіба ў нас дзе схаваешся? У нас жа ўсе на прывязі, хто на даўжэйшай, хто на карацейшай шворцы. А ўцячэш, растрыбушаць сям'ю і старых не памілуюць — ведалі і не данеслі, давайце туды ж, за краты. А калі ўцёк, значыць, адчуваў за сабою віну — і кара адпаведная.

Канікулы прайшлі ў трывозе. Вярнуўся з Масквы Мазавецкі і ў той жа вечар завітаў да нас. Разважлівы аптыміст, і ён неяк звяў, нечага не дагаворваў, спрабаваў жартаваць: «Далей Нарыльска не пашлюць, а там усе сцежкі знаёмыя».

Я праводзіў Рыгора Антонавіча да рэчкі, развіталіся на мосце, ён пайшоў, а я стаяў і глядзеў услед, пакуль не знікла ў змроку яго невысокая постаць. Дыміла труба бровара, параваў чан з бардою. Мястэчка спала, там-сям у зямлянках мільгалі каганцы ды гарэла чырвонае вока семафора.

Жыццё мяне прывучыла верыць сваім прадчуванням, веру ім і цяпер і амаль ніколі не памыляюся. У першы дзень пасля канікулаў так не хацелася ісці ў школу. У мяне быў другі ўрок, і я ледзьве плёўся па коўзкай абочыне. Каля школьнай брамкі сустрэўся Прафіновіч. Здавалася, ён і спіць у сваім скураным паліце. Павітаўся з ім, але рукі не падаў. Дырэктар неяк замітусіўся, злавесна ўхмыльнуўся і, як даўно чаканую навіну, паведаміў: «Ноччу забралі Мазавецкага. Як вам гэта падабаецца? — і, не дачакаўшыся адказу, пабедаваў: — А мне ламай галаву, кім замяняць урокі».

Я стаяў анямелы.

Як у той дзень правёў урокі, аднаму Богу вядома.

## XI

У пачатку сакавіка мясцовы міліцыянер даў мне распісацца на выкліку ў райаддзел МУС. «Ну-у, усё!» — вырашыў я, наўрад ці вярнуся адтуль. Браць з сабою мыла, уціральнік і бялізну ці ехаць улегцы? Забіраюць звычайна дома, перэтрасаюць усё да ніткі, даюць распісацца ў пратаколе вобыску. Праўда, забіралі і на вуліцы, у цягніку, на службе, выклікалі ў пашпартны стол і адтуль прамым ходам у «амерыканку» або ў сутарэнне. Чалавек знікаў бясследна. Карная машына працавала разнастайна і без збояў.

Выклік мяне трошкі нават супакоіў: хутка кончацца мае бяссонныя ночы, чаканне і насцярожанасць. Настала мая чарга.

З Аляю развітваўся і думаў — назаўсёды, яе бацькам сказаў, што еду ў райана. Да Слуцка дабраўся на тармазной пляцоўцы таварнага вагона і павольна пайшоў па малалюднай вуліцы, спыніўся каля пошты, паглядзеў на варотцы ў страшны двор, куды сумленныя людзі не ходзяць па сваёй волі, гоніць туды толькі бяда і дзікая людская жорсткасць.

Да прызначаных адзінаццаці заставалася яшчэ паўгадзіны. Я бязмэтна блукаў па брудным адталым снезе, спыніўся каля ацалелага ў вайну асабняка з калонамі. У ім некалі быў акружком партыі з першым сакратаром Каменштэйнам. Яго за буйныя поспехі ўзнагародзілі ордэнам Леніна. У той час ардэнаносцаў былі адзінкі, і мне, маладому журналісту, давялося пісаць пра гэтага дэмакратычнага, але ўпэўненага ў сваёй праваце і непарушнасці сталінскай мудрасці пасівелага камуніста. У 1937 годзе і Каменштэйн разам з астатнімі партыйнымі работнікамі розных рангаў трапіў на крывавы канвеер, стаў польскім шпіёнам і ледзь не эмісарам папы рымскага.

Успомніліся мае колішнія прыезды ў гэты ўтульны гарадок, а з рухам гадзіннікавай стрэлкі нарастала трывога. Так не хацелася ісці за тую брамку, адкуль не заўсёды і не кожнаму ўдавалася выйсці. Далей цягнуць было нельга. Боўтнуў, як у пельку. Дзяжурнаму паказаў павестку і апынуўся ў добра напаленым кабінеціку начальніка Зорава. Чамусьці ў гэтым страшным ведамстве мне некалькі сустракалася начальнікаў з такімі прыгожымі прозвішчамі. Няўжо ўсе былі аднаго роду або бралі сабе аднолькавыя мянушкі? Некалі каты «працавалі» ў масках і мянялі свае прозвішчы, як і вялікі крывапівец Сасо.

Начальнік здаўся інтэлігентным, нават мяккім і тактоўным чалавекам. Прапанаваў сесці, пацікавіўся, як жыву, як працую,

спытаў, ці пры сабе пашпарт і даведка аб зняцці судзімасці. Доўга разглядаў яе і паклаў у тоненькую папку. «Я не магу яе вам пакінуць, бо дублікаты і копіі не выдаюцца», — запярэчыў я. «Не бойцеся, атрымаеце сваю даведку праз тыдзень. Вось вам распіска». Ён напісаў яе ад рукі, дзеля прыліку папытаўся, як ідуць справы ў школе, ці не канфліктуюць настаўнікі з дырэктарам, якія ў мяне былі адносіны з Мазавецкім і ці часта мы сустракаліся. Дзесяцігадовы вопыт навучыў мяне, як адказваць на такія пытанні. Начальнік стрымана развітаўся і дазволіў ісці.

Я выскачыў на вуліцу і з палёгкаю ўздыхнуў — на тыдзень маю адтэрміноўку, сёння вярнуся дадому, пабачу і супакою сваіх. З райаддзела (і гэта — рай!) заспяшаўся на вакзал, доўга чакаў таварняка ў наш бок і пад вечар дабраўся дадому.

Дакладна праз тыдзень у настаўніцкую пастукаўся міліцыянер, паклікаў мяне ў калідорчык, і мы абмяняліся паперкамі. Я заўважыў, што мая даведка была да нечага падшытая, заўважыў сцёртыя адзнакі алоўкам. У настаўніцкай усе маўчалі, некаторыя пазіралі на мяне, як на безнадзейна хворага. Над сталом тырчалі маленькая галоўка і вузкія плечы дырэктара. Апошнім часам ён усё меней заўважаў мяне, нічога не пытаў і нічога не даручаў. На мае ўрокі зачасціў абсалютна не дасведчаны ў філалогіі завуч. Адзіная ў яго была заўвага — складана тлумачу новы матэрыял і слоўцы нейкія незразумелыя ўжываю, а іх у падручніку няма. Выходзіць, заглядаў. А вучням было ўсё зразумела, яны ахвотна засвойвалі матэрыял і літаратурную тэрміналогію, адказвалі ўпэўнена, сур’ёзна, і не толькі па падручніку.

Аднойчы ў настаўніцкай з’явіўся вясёлы, гаваркі малады чалавек з запалавелым чубам. На добрай беларускай мове расказваў мінскія навіны. Ён прадставіўся мне: «Карэспандэнт «Настаўніцкай газеты» Мікола Сергіевіч[7]» — і захацеў наведаць мой урок у дзевятым класе, пацікавіўся, што праходзім. «Патрыятызм у «Вайне і міры» Талстога», — адказаў я, а сам сабе падумаў: ну, вось і карэспандэнта падкінулі мне, каб адшукаў ідэйныя і метадычныя памылкі і раздраконіў у друку. Так часам рыхтавалі да пасадкі ідэалагічных работнікаў: спачатку ашальмуюць у друку, створаць грамадскую думку, каб арышт выглядаў лагічным завяршэннем выкрыцця ворага і даваў зачэпку следству. Але я быў не тою фігураю, і хутчэй за ўсё нараіў яму наведаць мой урок сам дырэктар.

У клас мы ішлі цераз вуліцу, і карэспандэнт успомніў, што некалі сустракаў у друку маё прозвішча. Я, відаць, пачырванеў,

але запэўніў яго, што ніколі да друку не меў дачынення, а прозвішчаў такіх асабліва шмат на Жлобіншчыне. Я мабілізаваў усю волю і адчуў, што ўрок ідзе як мае быць: вучні добра ведалі матэрыял, некаторыя па памяці цытавалі тэкст рамана, з любоўю характарызавалі герояў, не згаджаліся з некаторымі ацэнкамі падручніка. Карэспандэнт вёў амаль стэнаграфічны запіс урока. Гэта мяне насцярожыла, я ўважліва сачыў за кожным сваім словам і адказамі вучняў, папраўляў недакладнасці. Урок закончыўся хвіліна ў хвіліну. Карэспандэнт пахваліў вучняў і пашкадаваў, што не ўзяў фотаапарата.

Па дарозе ў настаўніцкую Сергіевіч нагаварыў столькі прыемнага, што зрабілася аж няёмка, і ў настаўніцкай выказаў сваё захапленне, а добрыя адказы вучняў тлумачыў папярэдняю падрыхтоўкаю, самастойным мысленнем амаль дарослых маладых людзей. Настаўнікі маўчалі, можа, ад рэўнасці ці таму, што нешта ведалі іншае. Перад апошнім урокам дырэктар затрымаў мяне. Значыць, будзе афіцыйны разбор урока. Аж не. Прафіновіч Сергіевіча, Фрыда і мяне павёў у сваю кватэру пры школе. Ён пакуль што жыў адзін, сям'я заставалася ў сваёй хаце ў Сорагах. Пакуль гаварылі абы пра што, на стале з'явілася пляшка гарэлкі, салёныя гуркі, кавалак сала і хлеб. Я здзівіўся, што ўпершыню трапіў у такое інтымнае застолле. Выпілі па паўшклянкі, і завязалася ажыўленая гаворка пра ўсё і ні пра што. Найбольш гаварыў Сергіевіч, хваліў дзевяты клас, абураўся, што школа туліцца ў дзевяці непрыстасаваных хатах, і абяцаў падняць пытанне ў друку і ў міністэрстве аб будаўніцтве новай школы.

Толькі мы разлілі па другой раце, як нехта пастукаў у зашчэпленыя дзверы. Відаць, была ў двары чуваць наша гамана, і стук паўтарыўся зноў. Хуценька схавалі пляшку, закусь прыкрылі газетаю, пачалі закурваць, Прафіновіч упусціў у пакой высокага мужчыну ў рагавых акулярах, шэрым паліце і ў хромавых ботах. З дырэктарам ён павітаўся за руку, нам толькі кіўнуў, папрасіў прабачэння «за вторжение», бо ў сельсавеце нікога няма, і ён, калі можна, пачакае тут. Дырэктар рассыпаўся перад ім у пачцівасці і гасціннасці, запрасіў за стол, але госць адмовіўся, разгарнуў «Праўду» і загарадзіўся ёю. Усё засталося недапітае і недаедзенае, гаворка звяла на паўслове. Сергіевіч застаўся ў дырэктара, а мы з Рувам пайшлі ў адну дарогу і да павароткі ў яго завулак маўчалі — добра ведалі, з якое ўстановы госць перапыніў наша застолле. Я быў упэўнены, што пасля знаёмства з капітанам у цывільным Сергіевіч нічога добрага

пра мяне і маіх вучняў не напіша, аж памыліўся: перад майскімі святамі ў «Настаўніцкай газеце» з’явіўся вялікі артыкул пра нашу школу. Асабліва высока ацаніў Сергіевіч выкладчыка рускай літаратуры і вучняў дзевятага класа.

Пасля такой пахвалы мільгнула надзея: а можа, і пранясе «чаша сия», бо чалавеку хочацца верыць у тое, чаго яму асабліва хочацца. А прадчуванне гняло і гняло, я разумеў, што хаджу на волі апошнія дні, што нябачны канвой ужо сочыць за мною, ды яшчэ ўсім нам настрой сапсавала маладая цыганка: сляпіцаю прыстала варажыць. Звычайна варажбіткі хлусяць самае добрае, а гэтая, наадварот, напрарочыла хуткую ў доме смерць, мне — доўгую разлуку, казённы дом і дальнюю дарогу, а потым — жаданую сустрэчу, а ў старасці — шчаслівае жыццё. Я не фаталіст, не веру магам і варажбіткам, але цяпер магу сказаць — усё, што напрарочыла маладая цыганка, амаль цалкам спраўдзілася.

Май укрыў белым кіпенем сады, п’яніў саладкаватым водарам вільготны ад расы бэз. Алінай маме станавілася горш і горш, яна задыхалася і не магла хадзіць. На свята яе забралі ў бальнічку на канцы мястэчка, непадалёк ад рускай сямігодкі. Кожны раз ад мамы прыходзіла Аля сумная і заплаканая. Новая бяда заглушыла мае трывогі, прыгнятала бяссілле памагчы і ўратаваць мілую і такую добрую пакутніцу. Я распытваў уважлівую і чулую доктарку Марыю Рыгораўну пра стан сваёй цешчы. Яна толькі разводзіла рукамі і гаварыла, што медыцына пакуль што не ўсё можа, ды і лекаў патрэбных няма. Да клопатаў пра хворую дадалося яшчэ работы перад выпускнымі экзаменамі — пісаць білеты па мове і літаратуры для ўсіх класаў, падбіраць прыклады для разбору, праводзіць кансультацыі ў асноўнай і вячэрняй школах. Прыходзілася думаць, як пасадзіць бульбу, дзе дастаць гною, хто ўзарэ соткі. Кажуць жа — паміраць збірайся, а жыта сей.

## XII

Аля стала маўклівая і змрочная, да змяркання прападала ў школе, потым сядзела каля хворай мамы. Таню даглядаў дзед, каб не хадзіла, растапырыўшы рукі, па рэйках і не лезла ў катлаван, поўны густое смалы.

Восьмага мая па дарозе ў школу Аля зайшла ў бальніцу. Мамін твар пасінеў, ад кожнага слова падымаліся бровы і

большалі вочы, ледзь варушыліся засмяглыя вусны. Аля прыціснула да шчакі яе пахаладзелую сухенькую руку і не стрымала слёз.

Ласкавая добрая мама згасала на вачах. З апошніх сіл прашаптала: «Не плач, дачушка. Бера-жы ся-бе і іх». І больш — ні слова. Выпрасталася і замоўкла. Тою раніцаю мы асірацелі. Колькі было праліта слёз, нават цяжка ўспомніць. Нібыта нейкі рок караў нас: мая маці памерла ў сорак дзевяць, Аліна — у сорак сем. Пакуль жывуць нашы маці, нават пасівелыя дзеці адчуваюць сябе маладымі. Без маці — кожны з нас сірата, а сіроцтва старыць чалавека, згінае яго, ён чарсцвее без ласкі, клопату і падтрымкі самага блізкага чалавека — Маці. Страта Алінай маці была нашым найбольшым горам. Страшней за смерць нічога не бывае.

Радні ў нас тут не было, з суседзямі вялікай дружбы не заводзілі, каб не кідаць цень на добрых людзей, нікога не запрашалі ў госці і самі нікуды не хадзілі. Памаглі хаваць цешчу Рува Якаўлевіч, матэматык Гурыновіч і фізік Няронскі. Труну збіў наш былы гаспадар Зміцер Карпіевіч, ён і магілку выкапаў амаль адразу за нашым плотам. Труну вынеслі на руках, паставілі на груд жоўтага пяску, без папа, без прамоў, моўчкі апусцілі нябожчыцу ў сухую ўрэцкую зямлю, запляскалі грудок, укрылі белаю квецennю бэзу, пастаялі, і не верылася, што ўжо няма добрага чалавека і ніколі яе не пабачыш і не пачуеш, толькі ў памяці жыве нябожчык, пакуль ёсць каму помніць яго.

У хаце выпілі па чарцы за супакой душы працаўніцы і пакутніцы Палагеі, дзед ледзьве стрымліваў слёзы і супакойваў дачку і ўнучку. Успомнілі, што сёння Дзень Перамогі, налілі па чарцы за абаронцу Сталінграда Руву Якаўлевіча, пасядзелі яшчэ трохі, не ведаючы, пра што гаварыць у такі час, і разышліся. Хата адразу здалася пустою.

Таня кожны дзень насіла свежыя кветкі на бабчыну магілку, мяняла ваду ў слоіках і ўпершыню зразумела, што назаўсёды страціла любімую і ласкавую казачніцу і клапатніцу. Прыгнечаны горам дзед моўчкі сядзеў у двары і курыў адну за другою тоўстыя махорачныя цыгаркі. Што ён думаў, што ўспамінаў, чаго шкадаваў, у чым каяўся, чым дакараў сябе і сваіх блізкіх, не дазнаецца ніхто. Ён верыў, што я ніколі не быў злачынцам, ворагам свайго народа, і ўсё ж бедаваў, што дачка звязала лёс з такім ненадзейным, загнаным і адрынутым чалавекам. І што яна ў ім знайшла? Старэйшы за яе, дачасна пасівелы і палыселы,

кляймёны на ўсё жыццё. Ведала, што шчасця з ім не будзе. Не адумалася ў пару, рынулася за ім, як у вір галавою,і іх пацягнула сюды. Можа, змена клімату і штодзённыя трывогі ўкарацілі жыццё Полі. І вось ён застаўся адзін на чужой старане з прадчуваннем новай бяды. Хоць усе маўчалі, а яна накочвалася ўсё бліжэй і бліжэй.

Выпускныя экзамены ў тыя гады пачыналіся дваццатага мая. Хваляваліся настаўнікі і вучні, якія прышлюць тэмы сачыненняў, каго прызначаць старшынёй экзаменацыйнай камісіі. Дзевятнаццатага мая выпускнікі збіраліся на апошнюю кансультацыю перад сачыненнем. У палісадзе адцвітаў і асыпаўся бэзавы куст, я сядзеў перад адчыненым акном і старанна перапісваў прыклады для разбору па граматыцы і білеты па літаратуры. Аля зранку была ў сваёй школе, Таня гарцала на могілках і ў бур’янах колішніх пагарэлішчаў.

Маю работу перапыніў клапатлівы дарадца па гаспадарчых справах Рува Якаўлевіч. Ён ужо згадзіў аратага на гэтым тыдні ўзараць і пасадзіць на нашых сотках яму і мне бульбу. Загадзя купленае і прарошчанае насенне пусціла белыя кіпцюркі парасткаў і прасілася ў баразну. Мы гаварылі пра розныя дробязі, Рува скардзіўся на нетактоўнасць і прычэпкі дырэктара, на яго звычку збіраць плёткі і розныя чуткі пра настаўнікаў, падслухоўваць пад дзвярыма ўрокі, а потым распякаць за нейкія дробязі перакалечанага Магіляўца, за недастатковую ацэнку вучэння Лысенкі і сталінскіх лесаахоўных палос на поўдні краіны.

Ад доўгага чакання страхі мае прытупіліся, думаў, дадуць закончыць навучальны год, выпусціць дзесяты клас дзённай і вячэрняй школ.

Раптам у пакой без стуку ўбег разгублены і мітуслівы адзіны мясцовы пажарны Іван Койка. Патаптаўся каля грубкі, адчыніў дзверцы, спытаў, калі чысцілі комін, памыляўся і, не развітаўшыся, пабег. Нават зімою яго не цікавілі нашы печы, а то раптам прыбег у маі правяраць толькі маю грубку. Я разумеў, што не комін яго цікавіў, і мае сумненні пацвердзіліся праз паўгадзіны: Конка правяраў, ці дома я, ці не паліў у грубцы паперы, і памчаўся далажыць каму трэба. Заспяшаўся і Рува. Толькі ён устаў, як у двары з’явіліся завуч і двое ў блакітных фуражках. Як ні дзіўна, я нічолькі не спалохаўся, можа, таму, што даўно чакаў і ведаў — раней ці пазней, а забяруць. Таячыся ад сваіх, даўно сабраў і схаваў заплечную торбу з параю бялізны,

бруском мыла і чорнымі сухарамі. У рубец ад пінжака загнаў кавалачак стрыжня ад алоўка і маленькую іголку.

У дзверы пастукалі і, не чакаючы адказу, гуртам увайшлі ў пакой. Павіталіся, а я ў адказ пажартаваў: «Мабыць, каб на ваш стук адказаў «нельга», павярнулі б назад?» — «А вы жартаўнік. Мы не ў госці, а па справе. А вы хто будзеце?» — звярнуўся да Рувы сухарлявы капітан. За яго адказаў завуч: «Гэта наш настаўнік Рува Якаўлевіч Фрыд. Камуніст і ветэран». — «Добра, сядайце. Будзеце панятым. А вы вось азнаёмцеся». Капітан падаў мне вузенькую паперку, здавён знаёмы «Ордер на право обыска и ареста». Як я ні настройваў сябе на спакойны лад, апошняе слова асабліва балюча пеканула — я ж дакладна ведаў, што такое арышт, — камера, баланда, допыты, прагулкі і карцэр, а мне на яго за доўгі язык заўсёды шанцавала. «Сядайце вось сюды». На стале ляжалі нажнічкі, і я хацеў пастрыгчы пазногці, бо там давядзецца толькі абкусваць. Падышоў даўно знаёмы маёр Ушакоў, моўчкі забраў нажнічкі і паклаў каля сябе. «Не бойцеся, з такою зброяю нападаць на вас няма сэнсу, а рэзаць сабе вены няма падстаў, і ў вас няма падстаў для арышту». Яны прыкінуліся глухімі.

Алінага бацьку пасадзілі на табурэт і загадалі нікуды не выходзіць, а самі ўзяліся за сваю гнюсную работу: Ушакоўператрасаў пасцелі, прамацваў рубцы ў коўдрах, прастукваў падлогу і сцены, капітан здымаў з самаробных паліц кніжкі, перагортваў кожную старонку, спыняўся на паметках і заўвагах на палях, але нічога для сябе цікавага не знайшоў. Відаць, для праформы спытаў: «Зброя ёсць? Калі ёсць, выкладайце самі, гэта змякчае віну». — «А як жа, ёсць. Мая зброя — слова. А кулямёт хаваю на могілках. Знойдзеце — ваш», — пажартаваў я. «У вашым становішчы варта быць сур'ёзным і на пытанні адказваць дакладна і сумленна, а вы тут... балаганіце». — «Якое пытанне, такі і адказ», — зноў агрызнуўся я. Ведаў, яны толькі пастухі: іх абавязак забраць і здаць. Панятыя сядзелі моўчкі і пазбягалі майго пагляду.

У пакой убегла расчырванелая Таня, ухапіла за руку і цягне тэрмінова рабіць загвоздку для каляскі. Я пасадзіў яе на калені, прытуліў і растлумачыў, што гэтыя дзядзі не дазваляюць нікуды выходзіць, што яны мяне забяруць з сабою і мы няскора пабачымся. Таня нахмурылася і моцна абхапіла мяне за шыю. «Не расстраивайте ребёнка», — буркнуў капітан. «Па-мойму, гэта вы без дай прычыны сіроціце дзяцей пры жывых бацьках і прыносіце людзям толькі гора. Ну ж і рабацёнка ў вас...» —

«Думайце, што гаворыце, а то пры сведках запішам кампраметацыю органаў. Мы выконваем толькі службовы абавязак», — гаркнуў капітан. Я папрасіў Таню, каб цётка Лукер’я збегала ў школу і паклікала маму, а то павядуць, не развітаўшыся. Дачка зразумела, што гэтыя дзядзькі робяць нешта нядобрае, варожа зыркнула на іх і выйшла з пакоя. Сярод кніг капітан знайшоў сшытачак з напісанаю ў лагеры вельмі ж патрыятычнаю паэмаю. Ён уважліва і доўга чытаў яе. «Это вы со своей головы сочинили?» — «Трохі з сваёй, трохі з чужой». — «Как понимать?» — «Вайны я не бачыў, а вось напісаў». Капітан пагартаў, пакруціў з усіх бакоў, відаць, павагаўся, забіраць ці не, і адклаў убок. «А где вы прячете белорусские книги?» — «Хіба беларускія кнігі забароненыя, што іх трэба хаваць? Яны мне проста непатрэбны. Я ж выкладаю рускую мову». — «Не притворяйтесь. Мы знаем, кто вы на самом деле». — «Я той, хто ёсць, савецкі грамадзянін з знятай судзімасцю». Капітан пасмыкаў пальцамі, як звычайна патрабуюць грошы: «Справочку, справочку о помиловании на стол». — «Яе ў мяне няма, і дарэмна не шукайце, толькі час патраціце». — «Вось які вопытны жук», — азваўся Ушакоў. Яны доўга дамагаліся выпіскі з пастановы Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Яна была надзейна схавана ў Мінску ў стрыечнага брата і потым не раз выручала мяне ў самых складаных акалічнасцях.

Аля прыбегла хутка. Стрымана павіталася, спытала, што мне можна ўзяць з сабою. Я папрасіў прынесці маю торбу і даць рублёў дзесяць грошай. Завучу перадаў падрыхтаваныя білеты і прыклады па мове і пачаў збірацца. Усе ўсталі, нібыта пры вынасе нябожчыка. Асабліва быў прыгнечаны Рува Якаўлевіч. Ён жа прыйшоў з самым лепшым намерам, а трапіў у панятыя і распісаўся ў пратаколе вобыску, хоць нічога не знайшлі і не забралі. Я яму сказаў: «Ніколі не верце, што я злачынца. Сумленне маё чыстае». — «Не говорите лишнего. Следствие всё выяснит», — перапыніў мяне капітан. «О, я ведаю, як яно высвятляе».

Копію пратакола вобыску аддалі Алі і растлумачылі, што па ўсе даведкі трэба звяртацца ў бабруйскае абласное ўпраўленне НКУС. Маю торбу перакінуў цераз плячо цесць, Таня ўчапілася ў маю руку і пайшла поруч, з другога боку ішла панурая Аля. Панятых адпусцілі дамоў. Рува некалькі разоў азірнуўся, а Пігулеўскі, унурыўшыся, падаўся ў свой бок. Суседзі з абодвух бакоў вуліцы пакідалі садзіць бульбу і пляскаць грады, пазвісалі на платах і на веснічках і глядзелі, як чэкісты вядуць «замаскаванага настаўніка-злачынцу». Я стаў каля кладоў насупраць

свежай цешчынай магілы. «Не останавливайтесь», — прашыпеў капітан Шаўцоў. «Я толькі развітаюся з магілаю цешчы». — «Не положено». — «Можаце страляць». Я спакойна дайшоў да магілы, зняў кепку, укленчыў і пастаяў некалькі хвілін, схіліўшы галаву. Аля чакала мяне з поўнымі вачыма слёз. «Возьмите жену под руку и не устраивайте демонстраций», — камандаваў капітан. Ушакоў ішоў моўчкі, звесіўшы галаву. «Гэта вы дэманструеце, нібыта злавілі злачынцу. Раней хапалі ноччу, а цяпер не саромеецеся днём». З усіх двароў на нас глядзелі людзі, старыя крадком ківалі галовамі, Рымарчук нават зняў шапку, бухгалтар бровара Сеўрук памахаў рукою, бабылка Собалева стаяла каля сваёй зямлянкі і плакала наўзрыд, хрысцячы дарогу.

Працэсія была маляўнічая: пасярод вуліцы худы сівенькі дзед ішоў з маёю торбаю на плячы, я вёў за ручку Таню, побач, апусціўшы галаву, ішла Аля. Сустрэчныя зварочваюць убок, азіраюцца, некаторыя ківаюць галовамі. Вядуць у сельсавет, каля яго ўжо шмат народу — побач крама, рэстаран, школа, усім цікава паглядзець на настаўніка-арыштанта. Відаць, хітра маскаваўся, што толькі цяпер злавілі. У расчыненых вокнах школы вучні чакаюць кансультацыі. Я ніколі не пазніўся, а цяпер яны дзве гадзіны дарэмна чакалі мяне. Убачылі, выбеглі, спыніліся воддаль і спалохана пазіраюць. Можа, не так шкадуюць мяне, як баяцца, што экзаменаваць будзе нехта чужы і, напэўна, прыдзірлівы.

Каля савета стаіць палутарка, а ў сваім кабінеціку чакае старшыня савета Сымон Гурыновіч. Ён неяк вінавата пазірае на нас. Капітан Шаўцоў дазволіў мне напісаць даверанасці на атрыманне зарплаты і адпускных. Гурыновіч заверыў іх. «Зачем народ толпится?» — запытаў капітан. Нібыта апраўдваючыся, старшыня тлумачыў: «У магазін селядцы прывезлі, і ў рэстаране нешта даюць, яны і талочацца, а тут... вось яны...»

Грузавік падалі да ганка. Воддаль ужо стаяў вялікі натоўп, нават буфетчыца і афіцыянткі павыходзілі з рэстарана. Шчыльна стаялі мае вучні, дзяўчаты неўпрыкмет выціралі вочы. Я пацалаваў сваіх, узяў на рукі Таню, яна моцна абхапіла мяне за шыю і не хацела адпускаць. Толькі цяпер заплакала Аля. Я перасіліў спазмы, улез у кузаў, зняў шапку,пакланіўся і памахаў людзям, што прыйшлі на гэтае горкае развітанне, і нягучна сказаў: «Я яшчэ вярнуся». Побач сеў Ушакоў. Палутарка завуркатала, прачмыхалася і кранулася з месца, я глядзеў на сваіх, вучні махалі рукамі і хусцінкамі.

За пераездам машына марудна цягнула па пясчанай дарозе. Павольна знікалі ўрэцкія хаты, сады і прысады, толькі доўга яшчэ тырчала ў небе труба з касмыком шызага дыму. «Ці вярнуся калі сюды? Ці пабачу калі сваю сямейку? Што чакае наперадзе — турма, лагер, што прышыюць на гэты раз? Беларускіх кніжак не знайшлі, урокі былі вытрыманыя і расхваленыя ў газеце, ніякага вальнадумства сабе не дазваляў, шчыра верыў кожнай «гістарычнай» пастанове і прамове, не сумняваўся ў зводках пра вялікія поспехі і высокі ўзровень нашага жыцця, а нэндзу, галечу, зямлянкі і галодных дзяцей тлумачыў вайною, мясцоваю неўладкаванасцю, хацелася верыць, што недзе сапраўды людзі жывуць шчасліва і радасна, а ў нас часовыя цяжкасці выправяцца.

Раптам успомніў: сёння ж 19 мая! Зноў 19! Першы раз забралі 19-га, вызвалілі 19-га, памілавалі 19-га,і вось другі раз вязуць у турму 19-га. Выпадковасць? Ці фатальная заканамернасць, нейкая дзіўная кабалістыка. Каб не вяртацца да гэтай каварнай лічбы, скажу наперад — праз сем гадоў 19-га вызвалілі з ссылкі і рэабілітавалі 19-га. Хочаш — вер, хочаш — не вер, а так было. Я думаў сваё, а маёр Ушакоў загаварваў мне зубы, суцяшаў, што нічога страшнага не будзе, што ёсць нейкае ўказанне, успомніў ён і маю лекцыю прапагандыстам.

За лясы садзілася вялікае зіхоткае сонца. Паружавелі бярозы ў клейкай лістоце, чырвонаю пазалотаю гарэлі сосны, прыдарожны лес заходзіўся птушынымі галасамі, доўга кувала зязюля, а я развітваўся з гэтаю прыгажосцю, з мілымі краявідамі і хмельным водарам вясны. Няўжо зноў тыя ж камеры, доўгія пракураныя калідоры і кабінеты следчых з нязменным крыкам: «Говорите правду!» А там праўдаю лічаць толькі хлусню, саманагаворы і паклёпы.

## XIII

Да раніцы пратрымалі ў пакойчыку дзяжурнага райаддзялення. Ужо добра, што адразу не ўкінулі ў камеру. Сярэдняга веку, палыселы, з невыразным тварам чэкіст усю ноч нешта перапісваў, падшываў паперы, разы тры за ноч адказаў па тэлефоне, а я варочаўся на мулкім цыратовым тапчане. І гэты страж дзяржаўнай бяспекі заспакойваў, што нічога страшнага не будзе. «Самае страшнае ўжо адбылося, мяне, як злодзея ці бандыта, правялі пад канвоем праз усё мястэчка. Што думаюць мае вучні

і іх бацькі, якія плёткі распускаюць злыя языкі, як цяпер жыць і працаваць жонцы? Я ж не зрабіў ніякага злачынства, а мяне прынародна ашальмавалі», — не вытрываў я і выказаў набалелае. Відаць, добры чалавек, дзяжурны не пярэчыў і толькі ківаў галавою.

Як добра развіднела, прыйшоў высокі бялявы лейтэнант Вялічка, склаў у партфель мае дакументы, і мы пайшлі да таго ж раскалыванага грузавіка. Вялічка сеў са мною ў кузаў. Пры выездзе з горада падабралі некалькі жанчын з торбамі, чамаданамі, сумкамі. Яны ўсю дарогу сакаталі, нешта расказвалі, шапталіся і рагаталі, і ніхто не здагадваўся, што едзе побач з арыштантам і яго канваірам.

Мільгалі знаёмыя вёскі Шышчыцы, Валяр'яны, Вынісцы, паваротка на Узду. Над намі сінела бязвоблачнае неба, прыпякала сонца, асыпалася квецень яблыневай Случчыны. Пры ўездзе ў Мінск усе пасажыркі ссыпаліся з нашага грузавіка. Мы ехалі па старой, не кранутай вайною Нямізе, я пазнаваў добра знаёмыя дамы, па вузкіх тратуарах спяшаліся людзі, нават прамільгнуў нехта знаёмы. Якая вялізная адлегласць была паміж намі — у іх воля, свае клопаты здаюцца такімі важнымі, а мяне чакае камера, краты і самы горкі лёс. Я добра запомніў з першага арышту: «У нас дзверы адчыняюцца толькі ў адзін бок. Ёсць чалавек, будзе і справа». Знойдуць і цяпер.

Звярнулі на Камсамольскую вуліцу, машыну паставілі ў двары недабудаванага дома. З насілкамі і рыдлёўкамі вольна хадзілі палонныя немцы, нешта гучна гаварылі, курылі, смяяліся. Мой канваір аказаўся добрым чалавекам, спытаў, ці маю грошы, правёў да бліжэйшага ларка, я купіў у запас махоркі, некалькі кніжачак папяроснай паперы і пачак пячэння. «Ну, пайшлі, нічога не зробіш», — уздыхнуў Вялічка. Праз клуб імя Дзяржынскага і знаёмы турэмны двор каля некранутай у вайну «амерыканкі» прыйшлі ў камендатуру. Вялічка пад распіску здаў мяне і мае дакументы, а дакладней, дакументы на мяне, кіўнуў галавою і пайшоў.

Выходзіць, і праз трынаццаць гадоў нічога не змянілася ў гэтай установе. Займае яна ледзь не цэлы квартал у цэнтры горада, красуецца прыгожым парталам і белымі калонамі галоўны ўваход, але барані божа трапляць за гэтыя высачэзныя дубовыя дзверы. Недасведчаныя лічаць, што гэтая ўстанова стаіць на варце закону, а за яе сценамі — пекла беззаконня і здзеку. Як і пры першым арышце, выдзіраюць гузікі, выразаюць гаплікі,

выцягваюць шнуркі, голага прымушаюць прысядаць, глядзяць у рот, каб не пранёс часам ці не... аўтамат. Знявага і здзек грубага наглядчыка дэмаралізуе чалавека адразу, пазбаўляе звычайнай людской годнасці. Зноў прамацваюць кожны рубец у вопратцы, але трасцу — заначку маю не знайшлі, завязваю паясніцу матузком ад насоўкі, рукі назад і марш у «амерыканку». Пах свежай фарбы зноў нагадаў страшнае мінулае. Няўжо давядзецца прайсці тое ж самае? Н-е-е! Цяпер я вопытны, мяне не зламаць. Тая ж жалезная лесвіца вядзе ў адзіночкі, у цэнтры круга наглядчык-павук, перасвіст вывадных, і я зноў у чацвёртай адзіночцы, дзе некалі праседзеў самыя пакутныя тры месяцы. Зачыніліся дзверы, але ў змроку камеры ўжо нехта ёсць. Яе абжываў колішні начальнік Галоўліта Зяма Давідовіч. Ён недзе на Поўначы адмантуліў сваю дзесяцігодку, пасля вызвалення ў Мінск не пусцілі, жыў недзе за сто кіламетраў ад сталіцы, а цяпер зноў «паўторнік», нібыта кепскі вучань — другагоднік. Выхоўвалі нас, выхоўвалі, ды не выхавалі і зноў забралі на паўторны курс. Апаноўвалі страшныя думкі: хто ж тут злачынца? Тыя, што сядзяць за кратамі, ці тыя, што заганяюць у гэтую апраметную ні ў чым не вінаватых людзей? І катаў лічаць героямі, узнагароджваюць і ўзвялічваюць, а потым цішком знішчаюць за тое, што ведаюць шмат страшэнных злачынстваў. Знішчылі ж усіх следчых, што выкручвалі нам рукі і душы ў тыя кашмарныя гады. Ад думак самога апаноўвае страх. Здаецца, увесь запалоханы народ жыве ў зацятым маўчанні.

Давідовіч расказаў, што да мяне тут сядзеў Андрэй Александровіч і толькі што яго некуды забралі, відаць, каб не сустракаліся «нацдэм» з «нацдэмам», і яшчэ расказаў, што «паўторнікаў» на допыты цягаюць не часта і пераважна днём, не б'юць, з мухі не робяць слана, нават у следчых нейкая павага ёсць да «паўторнікаў», а можа, устаноўка такая.

Неўзабаве і мяне паклікалі на допыт. За сталом сядзеў малады чалавек у шэрым гарнітуры, пры гальштуку. Прадставіўся: «Капітан Пронін». Я ўсміхнуўся: ці не той ён Пронін, пра якога напісана столькі прыгодніцкіх раманаў. Ён на жарт адказаў жартам: «Гэта мой старэйшы брат». У яго на стале ляжала мая справа 1936—1937 гадоў з вялікім штампам у левым ражку «Хранить вечно». Выходзіць, вось якая я персона! І пасля смерці застануся ў гэтых архівах. А мне ж у Вярхоўным Савеце казалі, што ўсе справы згарэлі ў першы дзень вайны. Пронін гартае даўнюю хлусню на пажоўклых, скрываўленых пакутамі

старонках езуіцкіх допытаў і здзекаў. Следчы чытае і часам нечага ўсміхаецца, відаць, і ён бачыць абсурднасць «твораў» сваіх папярэднікаў. Іх даўно няма, а «справа» ходзіць за мною следам. Пронін пытае, ці прызнаю сябе вінаватым у ранейшых абвінавачваннях, і дакладна запісвае мае адказы — «Не і не!», што ніякай нацыяналістычнай арганізацыі я не ведаў і яе не было. Тут ён не надта настойліва запярэчыў і паспрабаваў упісаць агаворкі: «по-моему», «мне кажется». Я настояў дакладна запісваць катэгарычныя адказы. Аднойчы Пронін з нейкім другім рудаватым следчым называлі мне прозвішчы знішчаных пісьменнікаў і дапытваліся, што я ведаю пра іх лёс. «Гэта я хацеў бы спытаць, куды вы іх дзелі». Яны не зрэагавалі на мой адказ, а задалі новае пытанне — з кім я ў апошні час сустракаўся з рэпрэсіраваных раней нацыяналістаў і ўстанаўліваў дзелавыя сувязі. Я сказаў пра перапіску з Мікулічам і Пальчэўскім і заўважыў: «Спадзяюся, вам добра вядома, пра што мы пісалі». «А ў Слуцку з кім сустракаліся?» Я нічога не мог успомніць. «А Лиходиевского знаете?» — «А-а-а, вось што», — і я расказаў пра выпадковую сустрэчу ў слуцкай сталоўцы. «Всё у вас получается случайно. Случайно встретились, случайно записали адресок, случайно переслали Микуличу. А для чего? О чем собирались списываться?» Доўга яшчэ коўзаліся па гэтай сустрэчы, і ўсё ж я настояў запісаць так, як было. Паддаўся б ім, уляпілі б новую дзесятку. Тут я зразумеў, што Мікуліч ужо сядзіць, знайшлі ў яго мае лісты і вырашылі зляпіць новую арганізацыю.

Гаварыць і пытацца не было пра што, абвінавачванне не прад'яўлялі, толькі пераводзілі з камеры ў камеру, з «амерыканкі» ў турму, з турмы зноў у «амерыканку». У адзіночках душылася па дзесяць-пятнаццаць звязаных з акупацыяю арыштантаў. У гарадской турме трапіў у адну камеру з былымі талачынскімі паліцаямі і сівенькім наіўным старастам, быў і сапраўдны прыслужнік смаленскіх гестапаўцаў. Маладзечанскі сіяніст Ісак Патэнт з невялікімі перапынкамі не выходзіў з турмаў, лагераў і ссылак з 1926 года і заставаўся сапраўдным аптымістам. Ён ледзь мог успомніць свае юнацкія глупствы, нават мову бацькоў даўно страціў, затое арыштанцкую лямку цягнуў усё жыццё. Ён расказваў, як у дваццатыя гады жылося ссыльным у багатым сібірскім сяле на беразе ракі Парабель. Ім казна выдавала па чатыры рублі на пражытак, хапала іх на кватэру і харчы. Многія ссыльныя вучылі дзяцей, цяслярылі, сталяравалі і мелі скароміну і гародніну, малако і маселца. З ссылкі Патэнт трапляў

адразу ў лагер, з лагера зноў у ссылку. Пасля вайны тры гады пажыў на волі і вось зноў завяршыў арыштанцкі круг.

За непаслушэнства і непачцівасць да начальства двойчы мяне кідалі ў карцэр. Пронін угаворваў весці сябе стрымана і прыстойна. «А хіба са мною абыходзяцца прыстойна? Мне дасюль не прад'яўлена абвінавачванне. На якой падставе мяне трымаюць у турме, якое я зрабіў злачынства?» Пронін суцяшаў, што скора ўсё высветліцца і няма чаго асабліва хвалявацца.

Мае аднакамернікі атрымлівалі перадачы, часам, як жабраку, падавалі сухар ці цыгарэтку. А я не меў ніякіх вестак. Не дапускаў думку, што выракліся мяне, значыць, нешта здарылася з імі, перабіраў сотні варыянтаў, адзін за другога страшнейшыя, і страціў зусім надзею што-небудзь дазнацца пра сям'ю. Нарэшце ў «неперадачны» дзень, позна ўвечары, адкрылася кармушка і наглядчык у скрынцы перадаў мне сухары, кавалачак сала, махорку, запалкі і папяросную паперу. Усё перапісана Алінаю рукою. Значыць — жывая, значыць — дома. Толькі пасля даведаўся, як яны доўга мяне шукалі ў бабруйскіх турмах, у абласным аддзяленні НКУС, і скрозь быў адзін адказ: «Не значится». Куды дзелі чалавека, не гаварылі. Аля і яе бацька збіліся з ног, шукаючы мяне.

Пасля майго арышту выпускнікі вячэрняй школы прыехалі і запрасілі Алю на свой выпускны вечар. Яна расчулілася, адмовілася і паскардзілася, што ніяк не могуць мяне адшукаць. Праз некалькі дзён маёр Бярэзін прыйшоў сказаць, што ў маёра Ушакова дапытаўся, куды яны мяне дзелі. «Няхай едзе ў Мінск», — сказаў Ушакоў. Вось яна і прыехала і выплакала дазвол на перадачу.

Пасля арышту маю сям'ю перасялілі назад у катушок на кухні да Лукер'і Якаўлевай і Міцькі. Як там месцілася пяць чалавек, цяжка ўявіць, не лепш, відаць, было, як нам у камеры. Нашу кватэру адразу заняў дырэктар школы Прафіновіч, і гарод ужо быў яго, і з печы выселіў суседзяў. Класавая свядомасць вышэй за ўсё!

Як толькі закончыўся навучальны год, Алю звольнілі з работы «па скарачэнні штату». Кінулася да загадчыка райана Агеева. «Скажыце дзякуй, што не напісалі за сувязь з ворагам народа. Адмоўцеся афіцыйна праз друк ад так званага мужа, вы ж нават з ім не зарэгістраваны, так, сужыцелі, асудзіце яго варожую дзейнасць, і мы вас адновім. Не завучам, вядома, а работу дадзім». — «Ніколі не дачакаецеся. Ён такі вораг, як вы

папа рымскі», — павярнулася і пайшла. Толькі на вуліцы дала волю слязам.

Што ж ім было рабіць? Як утраіх жыць на сорак рублёў бацькавай пенсіі? І адкуль адразу такая навала — смерць маці, арышт, беспрытульнасць і беспрацоўе? Куды кінуцца? Хто дапаможа? І паехала Аля абіваць парогі парадных пад’ездаў у пошуках справядлівасці і спагады. Матывіроўка ў загадзе ўсіх здзіўляла — завуч звольнены па скарачэнні штату. Натуральна, званілі Агееву. Ён папулярна тлумачыў сапраўдную прычыну. І адразу быў далікатны адказ: «На вялікі жаль, у нас вольнага месца няма». У тыя гады ніводная школа не была ўкамплектавана, асабліва матэматыкамі.

Доўга яшчэ Аля выстойвала чэргі перад цыратовымі дзвярыма большых і меншых начальнікаў. Усе нібыта спагадалі, некаторыя раілі зайсці праз тыдзень. Яна не ішла, бо ведала — адмовяць. Набліжаўся пачатак навучальнага года. Калі не дадуць работу, хоць кладзіся на рэйкі. Апошняя спроба — прабіцца да загадчыка бабруйскага аблана Зайцава. Той цярпліва выслухаў даведзеную да адчаю маладую настаўніцу, пагартаў нейкія паперы і накіраваў у Пагост Старобінскага раёна. Аля ўзрадавалася: гэта ж дваццаць кіламетраў ад Урэчча і столькі ж да Старобіна.

Навучальны год пачала на новым месцы. Пасялілася ў адзінокай бабулі за дваццаць рублёў на месяц. Кожную суботу пасля заняткаў у слату і ў завею ішла да дачкі і да бацькі, а ў нядзелю вярталася назад. А я ўсё лецечка сядзеў у сутарэнні гарадской турмы. Часам прыносілі ўсё скупейшыя перадачы, але радаваўся кожнай вестачцы з дому, пісульцы, напісанай рукою самай дарагой істоты. На допыты перасталі вадзіць, бо не было пра што дапытваць.

У канцы ліпеня за сталом Проніна сядзела высокая кірпатая жанчына сярэдняга веку ў карычневым кіцелі з пятлічкамі і зорачкамі на іх. «Я прадстаўнік Пракуратуры рэспублікі, малодшы саветнік юстыцыі Мультан. Мне даручана абвясціць вам аб заканчэнні следства і азнаёміць з матэрыяламі вашай справы. Павінна сказаць, што судзіць вас няма за што і судзіць вас не будзем... але вам давядзецца змяніць месца жыхарства...» Мяне кінула ў жар. «Калі вы сапраўды юрыст, дык заўважылі, што мне не прад’яўлялася ніякага абвінавачвання вось ужо тры месяцы. І раптам закончана следства. Можа, вы прыпомніце з студэнцкіх падручнікаў, у якой краіне і ў якім стагоддзі хоць адзін выпадак, каб за адно і тое ж пакаранага нізашто і памілаванага чалавека

каралі другі раз». Пракурорка нешта прамармытала, што не час займацца тэорыяй, што судзіць мяне ніхто не збіраецца. «Дык што, мяне сюды запрасілі ў госці і тры месяцы трымаюць у смярдзючых клапоўніках. Арыштам скампраметавалі мяне перад вучнямі і іх бацькамі, а яны верылі мне. Я не ведаю, што з маёю сям'ёю — ні лістоў, ні спатканняў не даюць. Дзе яшчэ такое беззаконне? Калі я некаму замінаў, загадалі б, сам з'ехаў бы, каб і след прастыў. Навошта ж мяне абвясцілі злачынцам? Як злодзея ці забойцу, пад канвоем правялі праз усё мястэчка — глядзіце, каго злавілі. Што цяпер плявузгаюць пра замаскаванага пад настаўніка шпіёна ці дыверсанта?» — не сунімаўся я, бо ведаў — горай не будзе, а набалелае пякло і душыла.

«Супакойцеся, калі ласка. Усё будзе добра. Да вас зможа прыехаць сям'я, будзеце жыць, працаваць. Вось азнаёмцеся з матэрыяламі справы. Там нічога кампраметуючага няма. Усе кажуць, што вы жылі і працавалі добра і сумленна». — «І за гэта ўпяклі ў турму». Я дрыготкімі рукамі ўзяў тоненькую папку. У ёй было некалькі пратаколаў з маімі катэгарычнымі адмаўленнямі ў прыналежнасці да якіх-небудзь антысавецкіх груп і арганізацый, была прыкладзена стрымана станоўчая характарыстыка школьнага трыкутніка, пахвальныя водгукі старэйшых вучняў і некаторых настаўнікаў, толькі завуч паспрабаваў мазнуць дзёгцем — успомніў, што я некалі хваліў свайго прафесара Замоціна, арыштаванага ў 1938 годзе. Вось і ўвесь «кампрамат» — хваліў ворага народа.

Прачытаўшы «справу», я яшчэ больш абурыўся: «Пракуратура павінна ахоўваць законнасць, а яна дае санкцыю трымаць невінаватага ў турме...» Пракурорка спрабавала мяне ўлагодзіць, нават назвала таварышам і нарэшце, развёўшы рукамі, прызналася, што ёсць указанне зверху. «Арыштаваць невінаватага і трымаць у турме?» — не сунімаўся я. «Не толькі вас, а ўсіх раней рэпрэсіраваных выслаць за межы рэспублікі». — «Куды? У Смаленск ці ў Рыгу?» — «Гэта вызначыць адпаведны орган». — «Які?» Маўчанне. Прасіў спаткання з жонкаю. «Няхай вырашае следчы». — «Следства ж закончана. Цяпер мой гаспадар пракуратура». Мультан не адказала, пазваніла канваіру. Я выйшаў не развітаўшыся. Зноў рукі назад і марш у камеру.

Так закончылася «следства», але не закончыліся пакуты. З «амерыканкі» зноў перагналі ў турму — там збіраюцца этапы. Значыць, і мне хутка — у дарогу. Як у гэтым замку пакут усё непарушна і трывала. Вайна знішчыла ўвесь горад і не пакінула

ні драпіны на сценах і вежах турмы. Вось дзе ратавацца ад войнаў і землятрусаў!

Відаць, і Аля дазналася, што мне пара збірацца ў дарогу не на паўднёвы бераг Крыма, а ў супрацьлеглы бок. Яна перадала мне паліто, валёнкі, плашч і цёплую шапку. Хоць пракурорка назвала мяне таварышам, а турэмныя вертухаі ганялі і зневажалі, як былых паліцаяў і ўсіх асуджаных. Тут на ўсіх «закон» адзін. Я патрабаваў хутчэй адправіць мяне, куды прызначана. Адказ быў адзін: «Чакай рашэння». Так і чакаў аж да верасня.

У кантору выклікалі на змярканні. Чалавек у блакітнай фуражцы дастаў з папкі вузенькую паперку і зачытаў: «Постановление особого совещания при НКВД СССР от 19 сентября 1949 года. Слушали дело Граховского С. И. Постановили: Сослать на поселение в Новосибирскую область». — «Распишитесь, что ознакомились с решением ОСО». — «Дазвольце прачытаць самому, каб ведаць, за што распісваюся». — «А мне вы не верите?» — «Я цяпер нікому не веру. А на які тэрмін?» — «Объявят на месте». Відаць, і гэтаму змрочнаму вешчуну пакут было сорамна сказаць горкую праўду.

Зноў пацягнуліся маркотныя дні ў цёмным сутарэнні без кніг, без газет, без лістоў і спаткання. У камеры людзі мяняліся, як на вакзале, яшчэ ўкінулі новую групу талачынскіх паліцаяў — маладзенькіх і надта ж запалоханых вясковых хлопцаў. Дапытваюся, як жа іх нялёгкая загнала ў тую паліцыю. Наіўны і цыбаты Вася расказаў, як ён доўга хаваўся ад адпраўкі ў Нямеччыну, і ўсё ж застукаў яго начальнік паліцыі Квяткоўскі. Да вайны ён быў у Талачыне начальнікам НКУС. Усіх у раёне ведаў як аблупленых. Толькі прыйшлі немцы, Квяткоўскі пайшоў да іх на службу і ўзначаліў паліцыю. Перадаў спісы камуністаў і камсамольцаў, актывістаў і ардэнаносцаў — заслужыў поўны давер у новых гаспадароў. Набіў былымі сябрамі, знаёмымі і незнаёмымі турму пад самую столь, нават жонку загнаў у камеру, а сабе завёў маладзёнку.

Каб дагадзіць начальству, стараўся найбольш загнаць у паліцыю і гайсаў, як кручаны воўк, па сёлах. Прыстаў сляпіцаю і да Васі. Маці просіць, моліць не чапаць маладзенькае дурненькае дзіцятка, а Квяткоўскі выцягнуў Васю ў двор, прыставіў да сцяны і дастаў пісталет. Маці енчыць, цалуе боты некалі грознаму, а цяпер страшнейшаму кату, а ён бац з пісталета. Куля ўпілася ў бервяно каля самага вуха, другая асмаліла валасы. Укленчыў Вася і прастагнаў: «Пішыце».

Каго толькі не сустрэнеш, чаго не наслухаешся ў турме, на этапах, у лагерах! Кожны чалавек, кожная біяграфія — сюжэт для трагічнага і псіхалагічнага рамана. За свае доўгія падарожжы па турмах і перасылках я выслухаў тысячы споведзяў, адну за другою складанейшых, драматычнейшых і страшнейшых.

24 верасня выклікалі з рэчамі і перавялі ў этапную камеру. Толькі тут успомніў, што гэта ж дзень майго нараджэння. Так моўчкі і адзначыў яго. Маімі суседзямі былі худзенькія, даўгашыія, як неапераныя пеўнікі, хлапчукі з невялічкімі тэрмінамі за прагул, спазненне на работу, былі пачаткоўцы-кішэннікі, вакзальныя «майданнікі», трамвайныя «шчыпачы». Кожны прыкідваўся мацёрым вуркаганам, «ботаў па фені», «ціскаў раманішкі», з вывертамі мацюкаўся. Было шкода глядзець на гэтых горкіх дзяцей з паламанымі на самым пачатку лёсамі. Я ведаў — калонія і лагер даб’юць іх канчаткова, павысяць «кваліфікацыю», вытравяць з душы рэшткі сумлення і чалавечнасці.

Я моўчкі ляжаў на ніжніх нарах, падклаўшы пад галаву сідар з зімоваю вопраткаю. Нейкі хлапчук вякнуў: «А ці не паказытаць гэтага чорта?» — «Не займай. Ён ужо чырвонец адцягнуў. Глядзі, каб сапатку на патыліцу не звярнуў», — суняў рызыканта трошкі старэйшы прагульшчык. Раптам мае суседзі сталі ўважлівымі і клапатлівымі — першаму падавалі гарбушку і баланду, прапанавалі дабаўку і называлі на «вы». Я вечарамі расказваў ім казкі, «ціскаў раманішкі» і чытаў вершы. Хлапчукі часам кранаглі да слёз, калі зацягвалі тоненькімі галаскамі: «В воскресенье мать-старушка к воротам тюрьмы пришла и родимому сыночку передачу принесла. Передайте передачу, а то люди говорят, что в тюрьме майво сыночка сильно голадам марат».

## XIV

Верасень стаяў ціхі, сонечны і цёплы. З турмы нас вывелі чалавек сорак. Я глядзеў на пранізлівае сіняе неба, на пабранзавелыя клёны і ліпы, на кволую бярозку, што цудам трымалася на турэмнай сцяне. Праз трынаццаць гадоў мяне зноў вялі з аўчаркамі і лютымі канваірамі тою ж дарогаю на вакзал у вечную няволю. Калона наша была стракатая, як усе арыштанцкія калоны — хлапчукі ў дзіравых штанах, у брудных рамесніцкіх курціках, у атопках на босую нагу, ішло некалькі прыстой-

на апранутых мужчын і жанчын з ладнымі торбамі, відаць, паўторнікі. Гэты новы тэрмін адразу прыжыўся і бытаваў на ўсіх этапах і ў турмах. Падумалася: як шмат нас гналі ў 1937-м і як мала цяпер. Але ўсё ж трохі навыпорвалі. Напэўна, ГУЛАГ і лубянскае кіраўніцтва недзе далі прамашку, што з лагераў выпаўзла жменька яшчэ жывых недабіткаў. Уратаваліся і сядзелі б сабе цішком, дык не, пачалі поўзаць па пракуратурах, парткантролях, пісаць скаргі, патрабаваць аднавіць у ранейшых правах і нават у партыі. І дапісаліся!

Каб неназалялі, не атручвалі жыццё сапраўдным патрыётам, не лезлі сляпіцамі ў вочы, «гаспадар» загадаў усіх забраць, на ўсялякі выпадак правесці следства, калі хоць на парушынку будзе зачэпка, праяўленне «не нашых настрояў», загнаць у лагер, а не знойдзецца, саслаць у паўночныя вобласці Сібіры і Казахстана на вечнае пасяленне. 1948, 1949, 1950 гады сталі гадамі вялікага перасялення паўторнікаў на Поўнач. Хто не дацягнуў да паўторнага курса перавыхавання, за тых расплочваліся жонкі і дзеці сваім жабрацкім становішчам, падазронасцю і недаверам.

Нашу калону прывялі ў самы канец доўгага пасажырскага саставу. Праз даўно не мытыя шыбы ледзь былі відны густыя краты на вокнах. Пакуль прымалі ў начальніка канвою дакументы на нас, мы дыхалі халаднаватым асеннім паветрам з гаркаватым водарам апалага тапалёвага лісця, глядзелі, як на пероне шпацыруюць людзі, спяшаюцца з чамаданамі і клункамі пасажыры. Кожны па той бок канвою здаваўся самым шчаслівым чалавекам і не заўважаў свайго шчасця. На нас здалёк некаторыя пазіралі з цікавасцю, іншыя з пагардаю, а хтосьці нават спагадліва.

Адчыняюцца дзверы і запускаюць па дзесятку ў кожнае купэ-камеру з кратамі на вокнах і на дзвярах. Як заслужанаму арыштанту хлапчукі даюць мне месца пры акне, самі шчыльна ўціскаюцца, нібы патроны ў абойму. Праз дзверы з жалезных прантоў відно, як праходзяць дзесяткі ў суседнія камеры. Убачыўшы жанчын, блацякі ржуць і плявузгаюць брудныя непрыстойнасці. Вагон ахоўваюць салдаты тэрміновай службы з малінавымі пятліцамі.

Цягнік ідзе на Маскву. Мае суседзі хлусяць адзін аднаму, як «шопнуў лапатнік», як «накалоў фраера» і ў «хазе пераспаў з марухаю». Нахабнейшы пытаецца ў мяне: «Пахан, а ты тракцыст ці шпіён?» Я шапчу яму на вуха: «Хацеў узарваць крэйсер «Аўрора». — «Забажыся». — «Бля... буду. Толькі нікому не вякай».

Пасля Барысава дзверы адсоўваюцца. «Бягом па адным на апраўку!» — камандуе маладзенькі сяржант. Ёсць патрэба ці няма — бяжы, бо, калі будзе нясцерпна, не дапросішся. Каля расчыненай насцеж прыбіральні стаіць салдат і прыспешвае: «Давай, давай хутчэй!» Жанчыны просяць зачыніць дзверы, а ён нахабна рагоча і паўтарае: «Не положено». Здзічэнне, жорсткасць зраўнялі людзей з быдлам.

На змярканні начальнік канвою выклікаў мяне з рэчамі і павёў у канец калідора ў вузенькае купэ-адзіночку. Я абурыўся — за што мяне ў карцэр. Ён даволі далікатна растлумачыў, што разабраўся ў дакументах, і мне, адміністрацыйна высланаму, «не положено» быць разам з асуджанымі крымінальнікамі. Ён мне дазволіў у любы час карыстацца туалетам, браць у тытане чай. О, гэта ўжо была палёгка. Выходзіць, і ў турме на колах ёсць нейкія катэгорыі, суровы рэжым і палёгка. Вагон з кратамі некалі ахрышчаны «сталыпінскім», а дакладней было б з назвы выкінуць дзве сярэднія літары і аддаць перавагу самаму прагнаму да крыві «вялікаму і роднаму» з ціхім разважлівым голасам і нячутнымі крокамі па мяккіх дывановых дарожках.

«Сусед, сусед, — пачуўся з сумежнай адзіночкі жаночы голас, — куды высылка?» — «Новасібірская вобласць». — «Пашанцавала, а ў мяне Краснаярскі край, а ён цягнецца да самага Ледавітага акіяна. Можа, хочаце есці? Мне паспелі перадаць». Я здуру адмовіўся, бо сорамна браць падаянне ў жанчыны. Яна працавала ўрачом у трэцяй клінічнай бальніцы разам з маім стрыечным братам, і ў нас знайшлося шмат агульных знаёмых. Паціху гаварыць нам не забаранялі. Маладзенькі салдат шнураваў па калідоры, сунімаў вэрхал у камерах крымінальнікаў, часам прыслухоўваўся да нашых размоў.

Раніцай загрымела на ўвесь вагон: «Утро красит нежным светом стены древнего Кремля, просыпается с рассветом вся советская земля...» Загаманіў, заварочаўся, замацюкаўся наш «сталыпінец». Начальнік загадаў усім збірацца з рэчамі. Нехта азваўся: «Наши вещи хрен да клещи. А паечку, гражданін начальнічак, зажыліў. Гані мандро і сахарок. Хаваць ахвота. Не накорміш, хрэн выйдзем». — «На месте накормят», — суцяшаў начальнік.

Хоць было гадзін дзесяць, пайкі нам так і не далі, спазніліся на снеданне і ў турме. Вагон наш стаяў у тупіку Беларускага вакзала.

На пероне асляпіла зыркае сонца. Чыгуначнікі на нас не звярталі ўвагі, яны прывыклі кожны дзень бачыць натоўпы

змардаваных і пазелянелых у турмах пакутнікаў. Вывелі на прывакзальную плошчу. Праз лістоту пажоўклых ліп пазіраў бронзавы Аляксей Максімавіч Горкі. Гэта ён сказаў: «Человек — это звучит гордо» і «Если враг не сдаётся, его уничтожают». Адзіную цытату буравесніка рэвалюцыі ведалі і паўтаралі ўсе следчыя і апраўдвалі кожны расстрэл.

А ці будуць калі паважаць нас? Плошча кішэла людзьмі, доўгія чэргі цягнуліся да стаянак таксі, шасталі чорныя і белыя «Волгі», ішлі, абняўшыся, шчаслівыя юнакі, на каламажцы бразгаў медалямі бязногі інвалід. Я глядзеў наўкол і хацеў адгадаць, хто гэтыя людзі, куды так спяшаюцца, чаму абыякава, а то і з пагардаю пазіраюць на нас, няўжо сапраўды лічаць нейчымі ворагамі. Я радаваўся, што позняцца па нас «чорныя варанкі» — нястомныя сведкі людскіх пакутаў. Колькі і куды толькі не папавазілі нашага брата?

Дзелавая маладзічка з пачкам паперак у руцэ загледзелася і ўскочыла ў наша ачапленне. «Куда прёшь?! Матри, и тебя замету», — гаркнуў канваір. «Пошёл ты к едрени фени. Ори на этих несчастных, а я на тебя...» — плюнула, яшчэ агрызнулася і знікла ў натоўпе. Нехта з нашых заапладзіраваў ёй. «Прекратить!» На душы пасвятлела, што не ўсе жывуць у страху, нехта не баіцца малінавых пагонаў, а можа, і спагадае нам.

Падагналі «варанкі». Хуценька штурхалі ў каршэнь і пхалі ў цесную цемень, дзе ні павярнуцца, ні сесці. Праз паўгадзіны распіхалі па клапоўніках вялізнай перасылкі на Краснай Прэсні.

Пацягнуліся месяцы чакання з пад’ёмамі, паверкамі, прагулкамі на даху пятага паверха ў закратаванай клетцы. Усе марылі хутчэй вырвацца з гэтага сталічнага пекла, хоць да д’ябла, абы з-за кратаў. Я прайшоў перасылкі ў Куйбышаве, Чэлябінску, Новасібірску. У апошняй прасядзеў амаль да новага года і нарэшце трапіў у глухое таежнае сяло.

Я пражыў сем гадоў там, дзе палыхае паўночнае ззянне, дзе над заінелаю тайгою, як блізкія пажары, шугаюць заходы сонца, дзе бясконцыя зімы і сумёты да стрэх, а лета — кароткі сон.

Была Сібір.
Была ў няволі «воля»,
І шлях дамоў цярністы і даўгі.
Таму мінуламу і будучаму з болем
На развітанне сплочваю даўгі.

*Восень 1989 г., Іслач — Мінск*

# ТАКІЯ СІНІЯ СНЯГІ

Ну ж і трывушчы мы народ.
За што? За нейчую памылку
Адгаравалі дзесяць год
І трапілі навечна ў ссылку.

У густых пераспелых таежных малінніках трапіў мядзведзь у бяду. Прыкручаная ланцугом да асіны пастка прышчаміла пярэднюю нагу. Ён роў ад болю, грыз ланцуг, цягаў вакол камля вялізную пастку, а вылузацца — аніяк. Знясілены мядзведзь узяўся грызці зашчэмленую лапу.

Ён цярпеў боль, душыўся густою ўласнаю крывёю, крышыліся клыкі аб цвёрдую костку, а ён цярпеў і грыз, грыз і цярпеў. Паднімаў і трос двухпудовую пастку, каб хутчэй адвалілася недагрызеная лапа. Ён грыз зноў, пакуль не зваліўся на бок і не адчуў, што вольны.

Адлежаўся, адстагнаўся, адгаласіў свой боль, толькі рэха жудаснага адчаю перакочвалася ў змроку тайгі. Мядзведзь ляжаў і доўга залізваў скрываўленую куксу, ад смагі зашэрхлым языком хапаў спелыя маліны, абвостраным слыхам лавіў кожны шэлест і рып, трапяткімі ноздрамі трывожна ўцягваў паветра. Адлежаўся, устаў і пайшоў на задніх лапах, матляючы, як паходняю, ружоваю косткаю. Ён працерабіў у гушчары цэлую прасеку і сышоў на волю ў недасяжныя нетры тайгі, далей ад людзей і небяспекі, бо даражэй за волю нічога на свеце няма.

Хто не трапляў у пастку, хто не глядзеў на неба, сонца і зоры праз краты і калючы дрот, той не ведае, што такое ВОЛЯ.

# КРЫЖАВЫ ШЛЯХ

Нават воўк, выпушчаны з клеткі, адразу не можа адважыцца пабегці. І я доўга хадзіў, азіраючыся: дзесяць гадоў за калючым дротам і пад канвоем пакідаюць след не толькі ў сэрцы, а і ў характары.

Пасля дзесяці гадоў няволі я хадзіў і не мог нахадзіцца, надыхацца воляю, налюбавацца небам і зялёнымі прасторамі, не мог не адчуць сябе шчаслівым на адзіноце. Шчасце і радасці былі адносныя, бо жыў яшчэ з «наморднікам» — пяць гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў усё яшчэ трымалі на прывязі. Але мне шанцавала на добрых людзей. Яны памаглі мне аднавіць дыплом, дазволілі выкладаць рускую (толькі рускую) мову і літаратуру ў сярэдняй школе невялічкага, пакалечанага вайною мястэчка Урэчча на Случчыне.

Цяжка, беспрытульна, галадна і холадна было на тым часе нанава пачынаць жыццё на голым месцы сярод чужых, але спагадлівых людзей. Затое я быў вольны, захоплены працаю ў школе, сагрэты ўвагаю маіх вучняў. Побач была маленькая, дружная і цярплівая сям’я.

А як я акрыяў, калі ў 1947 годзе Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі зняў з мяне судзімасць, як захацелася жыць, натхнёна працаваць, верылася, што будзе ўсё лепш і лепш. Я быў класным кіраўніком дзесятага класа, сябраваў са сваімі вучнямі-пераросткамі і іх бацькамі.

І ўсё ж трывога не пакідала ні на дзень. Адчуваў, што мною вельмі цікавяцца «камандзіровачныя» з раёна ў хромавых ботах, у цывільных паліто і кепках. Брат маёй вучаніцы працаваў на нафтабазе і надта ж цікавіўся, як я жыву, спагадаў нашай беднасці, нібы распытваў пра сястру і нечакана задаваў правакацыйныя пытанні, заўсёды ветліва ўсміхаўся мне, загаварваў, набіваўся на паслугі. А я здагадваўся, што яму ад мяне трэба.

У снежні 1948 года кватэрная гаспадыня Пальчэўскага прыслала мне з Рудзенска некалькі трывожных радкоў: «Ваш друг Алесь арыштаваны і адпраўлены ў Мінск». У студзені арыштавалі нашага выдатнага выкладчыка-эрудыта Рыгора Мазавецкага. Да гэтага ён адбыў 10 гадоў у Нарыльску. Сям’я жыла ў Маскве, а ён знайшоў прытулак у сястры і ў нашай школе. Увесь час я перапісваўся з Барысам Мікулічам. У красавіку не прыйшло ніводнага ліста. І яго забралі ў Мінск.

Кола звужалася, работа валілася з рук, ад гулу кожнай машыны ўздрыгваў, і шчымела сэрца. Адчуваў, што прыйдуць і па

мяне. Хацеў, каб хутчэй, бо самае страшнае — чакаць немінучай бяды, тыднямі не спаць, баючыся звар'яцець. Да нас пераехалі Аліны бацькі. Радавацца б, але трывога расла і расла. Кажуць жа, што бяда не ходзіць адна: 9 мая раптоўна памерла зусім яшчэ маладая жончына мама. Яе пахавалі на могілках каля самае нашае хаты.

19 мая свяціла сонца, у гародчыку на кустах бэзу гулі чмялі, а я пісаў прыклады для граматычнага разбору на выпускным экзамене і збіраўся ісці на кансультацыю да сваіх вучняў. Але так яны кансультацыі і не дачакаліся. На парозе мяне запынілі маёр Ушакоў і капітан Шаўцоў. Прад'явілі ордэр на «обыск и арест» і ўзяліся перабіраць мае кніжкі, сшыткі і планы ўрокаў. Але нечага не знаходзілі. Нарэшце спыталі: «Где вы прячете белорусские книги?» — «А хіба беларуская літаратура забаронена, што яе трэба хаваць? Яе ў мяне няма, бо выкладаю рускую мову». — «Нам известно. Не притворяйтесь». Можа, каб знайшлі Купалу ці Коласа, падабралі б для мяне больш грозны артыкул у кодэксе.

Пад вечар мяне вывелі з хаты. Маю арыштанцкую торбу ўзяў на плячо цесць, Аля вяла заплаканую дачушку. Я спыніўся каля могілак і пайшоў развітацца з магілаю цешчы. Шаўцоў памкнуўся затрымаць, але на нас глядзела многа людзей з адчыненых вокан, праз брамкі і веснічкі. Мы ішлі доўгаю местачковаю вуліцаю да сельсавета пад поглядамі здзіўленых суседзяў. Што яны думалі? Якім злачынцам лічылі мяне?

Да сельсавета збегліся вучні, спыняліся местачкоўцы, выбягалі з крамы і сталоўкі цікаўныя паглядзець на арыштанта-настаўніка. Я развітаўся са сваімі і гучна сказаў: «Я ніколі ні ў чым не быў вінаваты». — «Прекратите агитацию!» — перабіў капітан у блакітнай фуражцы і зачыніў за мною борт грузавіка. Увесь натоўп махаў мне рукамі. Праз многа гадоў у тым жа Урэччы мне расказвалі, што хадзілі чуткі, нібыта ў школе працаваў шпіён, закінуты варожаю разведкаю.

Я ў кузаве трохтонкі ехаў у Мінск. Зноў — даўно знаёмая «амерыканка», доўгія калідоры і — дзверы, дзверы кабінетаў следчых, зноў рукі назад і перасвіст «вывадных». Маладзенькі лейтэнант Пронін (?) гартае маю справу 1937 года з грыфам «Хранить вечно». Ну як тут не заганарыцца? Такая важная справа, што будуць захоўваць вечна! Гаварыць нам не было пра што: малапісьменныя «данясенні» ўрэцкага сексота скампраметаваць мяне не маглі, даўнейшыя абвінавачванні я адмёў адразу. Гэта зразумеў і следчы. А мяне ўсё ж трымалі. Пераводзілі з турмы

ў турму, з камеры ў камеру, трымалі разам з былымі паліцаямі і старастамі, за «непаслушэнства» кідалі ў карцэр.

Пад восень «следства» закончылася суцяшэннем: «Судзіць вас няма за што і судзіць не будзем, толькі прыйдзецца перамяніць месца жыхарства».

Я абурыўся, што мяне ашальмавалі перад вучнямі, іх бацькамі, перад людзьмі, якія ведалі і верылі мне. Пытаўся: дзе, калі, у якой краіне, па якому заканадаўству двойчы караюць за адно і тое ж? А я ж не зрабіў ніякага злачынства, з мяне ж знятая судзімасць. Са мною згаджалася прадстаўнік пракуратуры, сама запалоханая жанчына, па прозвішчы Мультан і спасылалася на нейкую дырэктыву зверху пра ізаляцыю ўсіх раней засуджаных па палітычных абвінавачваннях.

Мне абвясцілі рашэнне «Особого совещания НКВД СССР» аб высылцы ў Новасібірскую вобласць. І я другім наваратам пайшоў асвойваць нары, падлогі пад імі, дэзакамеры, карцэры мінскіх, маскоўскай, куйбышаўскай, чэлябінскай і новасібірскай турмаў. Асабліва запомніліся чэлябінская і новасібірская сваёй незвычайнасцю: прыгожыя і светлыя новыя будыніны, з высокімі закратаванымі вокнамі з «наморднікамі», шырокімі калідорамі. Хутка мы даведаліся, што будавалі інстытуты, але новая хваля берыеўскіх злачынстваў прымусіла іх перарабіць у турмы. Потым я часам на пытанне пра адукацыю жартам адказваў, што прайшоў мінскі, чэлябінскі і новасібірскі інстытуты. Гэта нават былі не інстытуты, а пакутніцкія універсітэты і акадэміі. Яны адкрылі такое, што ў самым кашмарным сне не пабачыш, навучылі таму, чаго сам не спасцігнеш ніколі, і аднялі два дзесяцігоддзі маладосці і сталасці.

Мне ўспамінаюцца этапы сцюдзёнымі начамі пад сіверным ветрам і калючымі зорамі, брэх і цяжкі дух псіны службовых аўчарак, бессаромная лаянка і крыкі канвойных, аблiччы пакутнікаў і пакутніц, абсурдныя абвінавачванні ні ў чым не вінаватых моладзі і нямоглых старых, падлеткаў, «паўторнікаў» і так званых «указнікаў». Колькі чалавечых лёсаў прайшло побач, колькі людскіх трагедый давялося пачуць і пабачыць, колькі перадумана і выпакутавана!

Успамінаецца: з чэлябінскай перасылкі шэрым асеннім днём вывелі нас чалавек трыста. Паперадзе ішлі тры маладзенькія маці з немаўляткамі на руках. Уся доўгая калона зацята маўчала. Чуўся толькі шоргат ног, вурчанне аўчарак і каманды начальніка канвою. Выгляд наш мог напалохаць кожнага: блакітна-

празрыстыя, даўно не голеныя твары, самая розная зваляная вопратка, за плячыма брудныя мяшэчкі з арыштанцкім скарбам.

Каля хлебнага магазіна стаяла доўгая чарга. Яе адціснулі да плота. Жанкі ў чарзе ўбачылі маладзенькіх маці ў галаве нашай калоны і заплакалі. На нас глядзелі спалоханыя сумныя-сумныя вочы спагадлівых людзей, некаторыя ківалі галовамі, боязна памахвалі ледзь паднятымі рукамі.

Пасля Чэлябінска больш за месяц у новасібірскім «інстытуце» чакалі, калі нас адправяць на месца ссылкі. Там усё ж нас чакала адносная воля: свежае паветра, магчымасць звязацца з домам, невядомая работа і існаванне. Нашу затрымку начальства тлумачыла вялікімі маразамі, а мы гатовы былі ісці пешкі, абы вырвацца з-за кратаў, з душных камер са «шмонамі» і парашамі.

Нарэшце ў канцы снежня перад адбоем скамандавалі: «Усе на выхад з вяшчамі!» Запомнілася тая настылая, як жалеза, цёмна-сіняя ноч. Вялікія колкія зоры ўсыпалі бездань таямнічага неба. Цяжка было дыхаць сцюдзёным і рэдкім паветрам. Праціналі дрыжыкі. Над доўгаю калонаю цёмных постацяў пыхкалі аблачынкі белае пары. З торбачкамі за плячыма стаялі, як некалі казалі, людзі розных званняў, саслоўяў і прафесій. Былі ленінградскія партыйныя работнікі высокага рангу і караблебудаўнікі, два святары — адзін з Малдавіі, другі з Разані, васьмідзесяцігадовы аптыміст гаварыў: «Я чалавек дысцыплінаваны, без дазволу начальства не памру».

Аж з Масквы разам са мною вандруе дасціпны краматорскі сталяр Зміцер Сцяпанавіч Кінаш. З дому яго завезлі ў горад Сталіна (цяперашні Данецк), і ён дапякаў начальніку турмы адным пытаннем: «Скажыць, будзь ласка, чы довго мы будэмо сэдіти у сталінскай тюрмі?» Той тупаў нагамі, пагражаў карцэрам, загадваў так больш ніколі не гаварыць. А Кінаш спакойна тлумачыў: «А що я таке сказав? Колі сэдів у Києве, спытав бы про кіевську чи краматорську, а ў...» — «Цыц!» — крычаў начальнік, баючыся, што Кінаш зноў спытае тое ж. Пра жонку звычайна Зміцер Сцяпанавіч казаў, што яна «пануе в колгоспі».

Хто ж мы такія, адкуль і куды нас гоняць? Неафіцыйна называюць нас «паўторнікі». Гэта людзі, якія гадоў па дзесяць адседзелі ў лагерах, вызваліліся, пабылі трохі дома, з некаторых паздымалі судзімасці, ды раптам Берыя спахапіўся, што выжыла і вярнулася на волю больш як трэба, лазяць скрозь, нечага дамагаюцца, патрабуюць аднаўлення ў грамадзянскіх правах і нават у партыі. Загадаў сабраць усіх за краты, правесці следства,

калі знойдзецца хоць маленькая зачэпка, адправіць у лагер, а не — у ссылку ў паўночныя раёны Сібіры і Казахстана. Нам выпала Новасібірская вобласць. І вось вязуць у невядомы раён, у невядомае сяло. Усё засакрэчана. Куды б ні завезлі, абы хутчэй вырвацца на свежае паветра, каб прайсці без аўчаркі і канвою.

Нас вядуць па апусцелых вуліцах на вакзал. Як алебастра, рыпіць пад нагамі зляжалы снег, ад інею зліпаюцца вейкі, качанеюць рукі і ногі. Амаль усе апрануты дэмісезонна: забіралі ж вясною і летам.

Рыпіць снег, грукае мноства ног, чуецца нягучная каманда начальніка канвою: «Подтянись! Не отставай!» Лічаць і грузяць у звычайныя вагоны. Дзіўна — вядуць пад канвоем, а называюць таварышамі. Вось дык таварышы! Аказваецца, мы не асуджаныя, а толькі адміністрацыйна высланыя. Мы маем права выбіраць і... быць абранымі (юрыдычна, вядома). Весела было б, каб каго з нас абралі хоць бы дэпутатам сельсавета.

У вагоне цёпла і цесна. Усе адразу адышлі, выпрасталіся, паружавелі. А канваіры дрыжаць у тамбурах. Шкода іх. Як ні дапытваемся, куды вязуць, адказ адзін: «Не положено».

Досвітак халодны і туманна-сіні. На ўсходзе — задымленая злавесна кармазынавая палоска. З цяпла зноў высыпаемся на мароз, а на світанні ён асабліва люты. Над намі воблака пары. На доўгім аднапавярховым вакзале — заінелая шыльда, але можна разабраць: «Ст. Барабинск. Зап.-Сиб. Ж. Д.». А куды далей? Тут жа нас не пакінуць.

На прывакзальнай плошчы доўгая калона грузавікоў з белымі ад інею кузавамі. Маторы не глушаць, бо пасля не завядзеш. Шафёры ў кажухах, валёнках і калматых шапках пазіраюць на нас і толькі круцяць галовамі. Мы пакуляліся ў кузавы, а ў іх усё пхалі і пхалі, што не паварушыцца. Канваіры паселі ў кабіны. Колы грузавікоў правальваліся ў глыбокія выбоіны; каб не выкуліцца, мы хапаліся за барты і адзін за аднаго. Неўзабаве пачалася маўклівая, калматая ад іскрыстага інею тайга. Пры дарозе віднеліся вываратні, зламаныя сосны, дугою пазгінаныя пад цяжарам снегу тонкія бярозкі. Вандраванню нашаму, здавалася, не відаць канца. Наўкол тайга і тайга, ні прагаліны, ні сцежкі, ні аднае жывое душы, ні дымка, ні жывога гуку, толькі сям-там дарогу перакрыжавалі ласіныя сляды ды заечыя сцяжынкі.

Мабыць, кіламетраў праз трыццаць душа пачала прымярзаць да рэбраў. Мы з суседам па кузаве, а потым на ўсё жыццё верным другам Вацлавам Іванавічам з галавою ўкрыліся нейкаю дзяруж-

каю і, пакуль не задыхаліся, не вытыркалі носа. Выблісне сонца, тайга здаецца празрыста-ружоваю, нібыта адлітаю з хаатычна застылага срэбра.

Неспадзеўна над заінелымі верхавінамі тайгі ў чыстым небе ўзняўся блакітны слупок дыму і доўга не раставаў у вышыні. Усе адразу павесялелі, заварушыліся, пачалі выпростваць здранцвелыя ногі, здзіраць з павекаў іней і наледзь. Значыць — блізка прывал.

Машыны ўехалі ў доўгую, без адзінага дрэўца сумную вёску Пацюканава і, не глушачы матораў, спыніліся каля «Пельменной-чайной». Доўгая, прыземістая, з пабялелага ад часу кругляка хата ўрасла ў зямлю. Прыцярушаны снегам дах, як шчацінаю, зарос сухім бадыллем, каля коміна звесіў счарнелую галаву і лапушыстае лісце апруцянелы ад марозу сланечнік. Такія дахі — на кожнай хаце. Я дзівіўся, а шафёр растлумачыў: «Кровли-то земляные. В тайге живут, а избы берестой да дерном, по-здешнему пластом, кроют. Сказывают, теплее, ни дождь, ни гроза не пробьет». Тут я толькі зразумеў, чаму пашахонцы ў Салтыкова-Шчадрына цягнулі на страху карову пасвіць.

У чайной — воблакі пары. На куце кіпіць вялізны кацёл пельменяў. Іх, мёрзлыя і грымучыя, як каменьчыкі, засыпаюць у кіпецень з вялікага палатнянага меха. На сталах у сподках — чорны перац, у кантовых шклянках — закарэлая гарчыца. Разапрэлая буфетчыца, з тварам, як аблузаны бурак, налівае шафёрам гарэлку і накладае па сотні гарачых пельменяў. А мы туляемся па кутах, глытаем слінку і абдымаем закляклымі рукамі абабітую бляхаю грубку. Некаторыя прыбераглі рэшткі сухога пайка, разаграюць аж пабялелыя недаедкі пайкі хлеба, нехта просіць шклянку незаваранага і несалоджанага кіпетню.

Перадыхнулі, адышлі трохі ад холаду і зноў у дарогу. Цяпер пэўна ведаем — вязуць у Паўночны раён: болей па гэтай дарозе аж да самых Васюганскіх балотаў ніводнага раёна няма — адны вёсачкі ды заімкі.

Там нам і жыць. Колькі? Год, два, пяць, дзесяць? Ніхто не ведае, а начальства не кажа... У тайзе дарога асабліва траская. Па ёй ад першых маразоў да вясны шнуруюць сотні грузавікоў. Вывозяць збожжа «з глыбінкі». Летам па гэтых дарогах нават пасля дробнага дажджу не праехаць: колы грузнуць у чарназёмным жужалі па ступіцы, коням пад капыты набіваюцца слупы спрасаванага глею, што нельга ступіць. Каменя ў гэтых таежных мясцінах і знаку няма, брукаванкі і не сніліся нікому. Каб праехаць у бездараж, на дарогу валяць лясіны, выбоіны

замошчваюць хлудам, і ўсё гэта патанае ў твані праз два-тры рэйсы. Цяпер маразы ўкавалі дарогу, вось і спяшаюцца вывезці ўсё з далёкіх сёл на элеватары. Машыны ідуць толькі калонамі. Адзін шафёр ніколі не рызыкне ехаць у завею або ў лютую сцюжу: перамяце дарогу ці сапсуецца машына — верная пагібель у бязлюднай тайзе.

Павольна, але ўсё ж мы калываемся да свайго загадкавага, невядомага прыстанку. Зноў шчыльна сядзім у кузавах. Холад працінае ад пятаў да цемя, дранцвеюць скурчаныя і некім прыціснутыя ногі. Выехалі досвіткам, ужо надвячорак, а нашага прыстанку яшчэ не відно і не чутно — тайзе і дарозе няма канца-краю. І чаго толькі не перадумалася на гэтым пакутніцкім гасцінцы: усё невыноснае, поўнае зняваг і пакут жыццё выгнанніка прайшло перад вачыма. А што чакае наперадзе? Адно нязбытнае пытанне не дае ніколі спакою: за што, чаму, навошта цябе, як быдла, як злодзея або забойцу, столькі гадоў запар некуды гоняць, вязуць, кідаюць з турмы ў турму, з этапу на этап, з адзіночкі ў карцэр? З карцэра — у людскі мурашнік перасылкі. Ты ж нікому і вока не запарушыў, дзіцяці не пакрыўдзіў, з маленства ведаў толькі адзін наш лад, толькі наш народ і хоць цяпер гатовы за яго сумленна аддаць жыццё, толькі без агіднай плямы, якою цябе знявечылі не абаронцы, а сапраўдныя ворагі народа. Ты ў іх руках і не давядзеш, што зусім не вінаваты. Ніхто не слухае, ніхто не верыць. Здзічэлыя апрычнікі праўдаю лічаць хлусню і паклёпы, а за чыстую праўду ставяць да сценкі або мардуюць па некалькі сутак. На каго яны працуюць да знямогі, да поту, каму трэба ахвяры самых сумленных і адданых людзей? Не знайсці ні логікі, ні адказу. Гэтыя пытанні не пакідаюць каторы год. Некаму было мала дзесяцігоддзя пакут, дык зноў ашальмавалі цябе і тваіх блізкіх, адарвалі ад дому, ад сям'і, ад родных сцежак і гоняць па гэтай маўклівай ледзяной тайзе ў невядомасць. Хочацца крычаць: «Людзі! Апамятайцеся! За што такія пакуты?» Не мне аднаму. І столькі нас на гэтай дарозе, а колькі ў гэтую хвіліну сядзіць у турмах, на перасылках, едзе ў таварняках і «сталыпінскіх» вагонах, ідзе пад канвоем у сваю невядомасць. І за што? Што там чакае, дзе прыхінеш галаву, што будзеш рабіць, каму ты патрэбен, падобны пракажонаму са званочкам, якога староняцца і цураюцца людзі. Ад думак можна звар'яцець. Адганяеш іх, хочаш узбіцца на іншае, а свідруе адно: як там сям'я, чым пакаралі яе, куды выселілі з казённай хаты,

як там маленькая дачушка, што так і не зразумела, куды забралі і павезлі тату тым цёплым водарным майскім надвячоркам?

А мяне ж тады чакалі мае вучні на кансультацыю перад першым экзаменам на атэстат сталасці. Яны ведалі, што я ніколі не пазніўся, а тут так доўга не было. Яны сядзелі ў расчыненых вокнах, а калі зразумелі, што я не сам іду, а мяне вядуць капітан і маёр у блакітных фуражках, выбеглі насустрач, разгубіліся ў недаўменні. Я ім паспеў кіўнуць і ўсміхнуцца. А калі адвозілі, яны доўга махалі рукамі, а дзяўчынкі плакалі. Праз многія гады мне расказвалі, як іх прапрацоўвалі па ўсіх лініях за «дэманстрацыю спачування ворагу народа». Дасужыя языкі зрабілі мяне шпіёнам, закінутым з самалёта, царскім афіцэрам, а пры цару мне было чатыры гады. Так прыкладна дзейнічалі і абвінавачвалі ўвішныя следчыя. І ўсё ж цвярозыя і сумленныя людзі не верылі паклёпам, але маўчалі.

То ўспамінаеш, то думаеш, то дрэмлеш, пакуль не тузане і не хіснецца наш раскалываны рыпучы грузавік. Пракінешся, зірнеш з-пад дзяружкі, над галавою пашарэлае неба, наўкол у густым інеі тайга, наперадзе — дарога ў невядомасць.

Калі добра змеркла, з пярэдніх машын пачуліся галасы і вясёлая гамана. Як гусакі з кораба, і мы павытыркаліся паглядзець, што там наперадзе. У змрочнае неба ўзнімаліся стаўбуны светлаблакітнага дыму, бялелі стрэхі, сям-там мільгалі слабенькія агеньчыкі. Ці не наш гэта прыстанак? Які б ён ні быў, хутчэй бы толькі вылезці, выпрастаць ногі, адагрэць душу пад чужою страхою, дзе ніхто цябе не чакае, дзе ты нікому не патрэбен.

Сяло доўгае, раскіданае, з шырокімі пустымі вуліцамі. І тут — ні садоў, ні прысад. Куды ні глянеш — платы і платы, няроўныя, абы-як скіданыя. Хаты пад землянымі стрэхамі, з маленькімі вокнамі. Спыніліся каля клуба, і ўсіх запусцілі ў доўгую цёмную будыніну. Чыркаем запалкі, каб агледзецца. На сценах суцэльныя плакаты з чырванатварымі і белазубымі даяркамі і трактарыстамі. У цэнтры вялікая карціна «Утро нашей Родины»: на фоне світальнага жытнёвага поля ласкавы задуменны генералісімус з перакінутым цераз руку плашчом. Столькі ў ім ласкі і дабраты, што адразу ўзнікае думка: каб ён ведаў пра наша гора, паспагадаў бы і адразу вызваліў бы. Усе этапнікі шнуравалі па клубным калідоры — разміналі здранцвелыя ногі, панура маўчалі. У турме ў гэтую пару разносілі чай, а цяпер мы, знятыя з казённага харчавання, павінны дбаць самі пра сябе: самыя ашчадныя дагрызалі мёрзлыя скарынкі, у каго

не засталося, прагна курылі. У баковачку малады хлопец панёс пад пахаю чырвоны абрус, а ў руцэ трымаў лямпу з закураным шклом. Неўзабаве за ім пайшлі мужчыны ў пімах, унтах, белых фетравых бурках, кажушках і кароткіх дохах. Зміцер Сцяпанавіч адразу здагадаўся: «Вось і купцы ідуць». А калі прайшоў з вялікім партфелем капітан у белым казённым кажушку, Кінаш кіўнуў яму ўслед галавою: «І пастух у нас ужо ёсць».

Мы з гэтым змрочным гумарыстам з Краматорска каторы месяц вандруем з турмы ў турму, прыцерліся, прывыклі, і ўжо не хочацца разлучацца. Ён у мяне пытае, якую я прафесію назаву. «Настаўнік», — адказваю я. «Ну і пойдзеш на ферму быкам хвасты круціць ды вазіць сілас. Толькі кажы — сталяр. Мы з Вацлавам падвучым і дзе трэба выручым. Галоўнае — будзем разам, пад дахам і ў цяпле». Неўзабаве пачалі выклікаць... З баковачкі выскаквалі даволі хутка панурыя і разгубленыя: караблебудаўнікоў і свяшчэннікаў, энергетыкаў і партыйных работнікаў адпраўлялі ў калгасы. Нічога іншага ў раёне не было — ні пільні, ні цагельні, ні млына, ні самай прымітыўнай электрастанцыі.

Зміцер Сцяпанавіч з Вацлавам выйшлі са «споведзі» ўсцешаныя: іх узяў старшыня арцелі «Прагрэс» у сталярку. Прыняў і валагодскага ганчара Мартынава і вельмі ўзрадаваўся, што адкрые ганчарны цэх, бо ў раёне ні гаршка, ні міскі, ні кубачка ні за якія грошы не знойдзеш. Выклікалі і мяне. За сталом трымаецца гаспадаром падкрэслена грэблівы і цынічна развязны даволі малады капітан дзяржбяспекі Сокаў, на лавах уздоўж сцен сядзяць з абветранымі задубелымі тварамі старшыні калгасаў. Бяруць яны нашага брата без энтузіязму. Пачынаецца ўжо не допыт, а «собеседование»: прозвішча, імя, па бацьку, год нараджэння, спецыяльнасць. Адказваю — сталяр. «Дзе працаваў?» — «На Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце». — «Разрад?» Хлушу: «Пяты». — «Ну, хто бярэ?» Маўчанне. «Што-та ты больна тащой: рот раскроешь, наскрозь виден», — пацяшаецца Сокаў, і рагочуць усе «купцы», лісліва пазіраючы на начальніка. Але ніхто не хапае мяне. «Ну-у?» — прыспешвае Сокаў. Нарэшце добра паголены светлатвары мужчына пытаецца, ці ўмею рабіць крэслы. Я абнаглеў: «Плёвае дзела. Любое зраблю». І мяне бярэ старшыня арцелі «Прагрэс» Васіль Іванавіч Паўлік. Я рады, што не разлучылі з маімі турэмнымі сябрамі. Памкнуўся ісці. Спыняе Сокаў, запаўняе невялічкі бланк, прамакае чарніла і аддае мне: «Гэта твой адзіны дакумент. Кожныя дзесяць дзён будзеш адзначацца ў сельсавеце. Самавольная адлучка з месца жыхар-

ства лічыцца ўцёкам, а за ўцёкі — 25 гадоў катаргі. Зразумела? Ну, калі зразумела, распішыся». Я ўзяў свой «дакумент», але не выходжу. «Што яшчэ не ясна?» — раздражняецца начальнік. «Хачу спытаць, які ў мяне тэрмін». — «Ніякага тэрміну няма. Тут вам і паміраць. Можаце будавацца, забіраць сям’ю, калі ёй патрэбен, а не — у нас удоў хапае на любы густ», — рагатнуў Сокаў, і я выйшаў.

У калідоры, усцешаны, што будзем разам, Кінаш чыркнуў запалку, і я прачытаў свой «воўчы пашпарт»: «Пасведчанне. Дадзена ссыльнаму (прозвішча, імя, па бацьку) у тым, што ён абмежаваны правам перамяшчэння толькі ў межах сяла Біяза. Начальнік райаддзела НКУС капітан Сокаў».

Прачытаў і адразу адчуў, на які кароценькі павадок мяне прыпнулі.

Былі ў нашым этапе чатыры жанчыны: бальшавічка з дарэвалюцыйным стажам, іванава-вазнясенская ткачыха Алена Андрэеўна Гусева. Пры цару яна прайшла этапам ад Бутыркі да Туруханска, а з трыццаць сёмага асвоіла Лубянку, Калыму і Караганду, але засталася аптымісткай, упэўненай, што хутка ўсё высветліцца і стане на сваё месца.

Крышку асобна трымалася Алена Хрысціянаўна Ракоўская — дачка некалі вядомага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча. Была яна прыгожая, высакародная, яшчэ неабшорханая ў этапах, адукаваная і далікатная. На падлозе сядзела з маленечкім клуначкам на руках даволі маладая манашка ў чорнай хустцы, завязанай па самыя вочы, з адсутным выразам твару, нібыта нічога не бачыць і не чуе. Яна маўчала з намі, маўчала і з начальствам, нікуды не прасілася. Куды паехала, невядома. Зграбную і эмацыянальную Фаіну Лушыну адправілі ў Нова-Троіцк на ферму. «Я выкладала ў інстытуце, але ніколі не даіла кароў», — запярэчыла яна. «Вось адкрыем інстытут, тады калі ласка, — пакпіў Сокаў, — а цяпер самой прыйдзецца падвучыцца. Яшчэ знатнаю даяркай станеш».

Усе начавалі покатам у клубе на бруднай падлозе. Заўтра нас разбяруць новыя гаспадары. На досвітку нехта выйшаў на двор і прыбег узрадаваны: «Хлопцы, а канвою няма!» Павыскаквалі і мы. Калі доўга ходзіш пад канвоем, выпрацоўваецца ўнутраны тормаз: спыніўся канваір, стаіш і ты, каб не палічылі ўцекачом і не спісалі па акце. Калі першы раз вызваліўся, доўга хадзіў азіраючыся, — дзе ж мой канваір? А тут хоць і адносная, усё ж воля.

Уставалі ўсе памятыя, з азызлымі шэрымі тварамі, зарослыя і даўно не мытыя. У клубе нават вядра з вадою няма. Каля сталоўкі знайшлі студню з цяжкім абледзянелым вядром, але як мыцца, калі мароз пад трыццаць. Неба паружавела і ачысцілася, усход злавесна малінавы, над высокімі сумётамі сцелецца туман. Павыходзілі на двор, праціраем рукі і твары шорсткім снегам. Ён зашклёны тоўстым настам, прабіваем яго нагамі і выграбаем сыпкі, колкі снег.

Учора даелі сухі паёк — паўгарбушкі і салёную рыбіну. На гэтым дзяржаўнае ўтрыманне кончылася; ты ж «вольны» чалавек, сам думай, дзе жыць, на чым спаць, што есці. Гэта заўтра, пазаўтра, а цяпер жа трэба нечага ўкусіць. Амаль ні ў кога грошай няма. Іх забралі ў турме, выдалі квіткі і сказалі, што атрымаем на месцы. Але ніхто на нашы квіткі не паглядзеў і слухаць не стаў пра грошы. «Прыйдуць, атрымаеце». Толькі ніхто і не дачакаўся тых слёзных рублёў, што адрывалі ад дзяцей і пасылалі нам у турму.

А я сябе адчуваў багацеем: яшчэ ў Мінску жонцы ўдалося праз нейкага спагадлівага наглядчыка перадаць мне вялікую сторублёвую купюру з малюнкам Крамля пасярэдзіне. Цяпер гэта дзесяць рублёў, а тады здавалася унь якім багаццем. Мне ўдалося іх пранесці праз самыя прыдзірлівыя «шмоны». Дапамог шматгадовы вопыт. Цяпер яны, як ніколі, спатрэбіліся. У Біязу нас прызначылі чатырох, і я сваіх будучых аднавяскоўцаў запрасіў у сталоўку. «Ё-о-о... ма-ё-о!» — усклікнуў Кінаш, угледзеўшы туга скручаную сторублёўку. Я ўсім заказаў па гуляшу пад слізкаю белаю падліўкаю, хлеб і чай. Мы нарэшце адчулі пах і смак «вольнага» харчу. Рэшту грошай па агульнай згодзе пакінулі да месца, каб было за што тэлеграмаю паведаміць свой адрас. За суседнім сталом малдаўскі святар шчодра частаваў сваіх спадарожнікаў. Ад яго пасля было даволі многа клопату калгасу: неўзабаве яму пачало прыходзіць мноства пасылак, і старшыня вымушаны быў кожны тыдзень пасылаць на пошту фурманку. Прыходзілі і грашовыя пераводы на буйныя сумы. Не заўсёды на пошце хапала наяўнасці, каб аплаціць іх. Завялі ашчадную кніжку. Здаралася — калгасу тэрмінова трэба былі грошы, і старшыня мусіў пазычаць іх у ссыльнага папа. Ён рабіў далікатныя, прыгожыя і звонкія дзежачкі, даёнкі, ражкі і кадушкі ў абсталяванай для калгаса бандарні, пасылкамі і грашыма дзяліўся з бяднейшымі ссыльнымі, не пісаў ніколі скаргаў і хадайніцтваў, суцяшаў сябе і знаёмых: «Да будет на земле мир и в человецех благоволение». Мабыць, ён быў шчаслівы чалавек,

бо цвёрда верыў у нейкую вышэйшую ісціну і ўсіх суцяшаў, што няма нічога вечнага на зямлі і нашы пакуты не вечныя. Без веры нельга жыць. Верылі і мы ў лепшае, таму і выжылі.

Многія з ранку раз’ехаліся, а нас забіраць не спяшаліся. Сланяліся мы па раскіданым, нейкім пустынным раённым сяле. Непадалёк ад клуба стаяў двухпавярховы драўляны «дом урада». Я зайшоў, убачыў шыльдачку райана і вырашыў папытаць шчасця. У маленькім пакойчыку сядзеў чарнявы малады загадчык па прозвішчы Смык. Я спытаў, ці не трэба ім выкладчыкі мовы і літаратуры. Яшчэ як патрэбны: ніводная школа не ўкамплектавана настаўнікамі з вышэйшай адукацыяй. А як толькі даведаўся, як я трапіў у іх раён, адразу спахмурнеў і пачаў выкручвацца, што трэба параіцца, і тыцнуў пальцам у столь. Мы зразумелі адзін аднаго і ветліва рассталіся. Толькі ў нашым этапе было чалавек пятнаццаць настаўнікаў з вышэйшаю адукацыяй і вялікім вопытам, але ўсе яны раз’ехаліся на калгасныя фермы і лесанарыхтоўкі. Там яны былі неабходней, чым у школах.

Дзень раз’ясніўся. Пранізліва-сіняе неба аж зіхаціць халоднаю эмаллю. Абапал сонца ў брыжастым арэоле стаялі размытыя вясёлкавыя слупы. Снег аж слепіць вочы. Над комінамі плывуць белыя дымы, а ўдалечыні — застыла заінелая тайга. Па нас прыехаў прыгожы хлопец у рудой з сабачага футра дасе і вялікай калматай шапцы. Мы радыя, што нарэшце будзем мець нейкі пэўны прыстанак і зможам паслаць вестачку сям’і.

Зірнуў фурман на нашу «экіпіроўку», пакруціў галавою. Я спытаў, колькі кіламетраў ехаць. «Мне трыццаць, а вам... самі пабачыце. Умошчвайцеся, мужыкі». Мы пaглядзелі адзін на аднаго — сапраўды, наш гардэроб быў не па сезоне. Маё пальцечка працерлася на сіта, з пальчатак тырчалі пальцы, Кінаш з Мартынавым дрыжалі ў дзіравых целагрэйках. Трохі спраўней быў апрануты Вацлаў Іванавіч. Мы шчыльна ўселіся на сані, прыцярушаныя аўсянаю саломаю, фурман сцебануў ляйчынаю калматага заінелага коніка, і ён патрусіў па зіхатлівай раскатанай дарозе.

Уз’ехалі на дрыготкі мост цераз раку Тартас, і з усіх бакоў адкрылася бясконцая тайга. Пакуль ехалі сялом, наш фурман маўчаў, а тут разгаварыўся:

«Нейкія вы, мужыкі, больна рахманыя. А я думаў: о-го-го адпетыя арыштанты, а гляджу — нейкія зачуханыя ворагі народа. Няўжо і праўда ворагі?»

«Хто табе сказаў, што мы ворагі? Ты — народ, а мы, выходзіць, не народ, а ворагі народа? Га?» — спытаў Кінаш.

«Упаўнаважаны з раёна сказаў. Сабраў усіх у клуб і дакладваў: так, мол, і так. У сяло прыбудуць ссыльныя ворагі народа. Што за яны? Шпіёны, кажа, шкоднікі, контррэвалюцыйныя агітатары. Гэта яны забілі Кірава, атруцілі Горкага, узрывалі масты. Кватараваць будуць у вас, але каб дружбы і спагады — ніякай, а калі пачуеце варожыя разгаворчыкі, нямедля саабшчаць куды следвае. За неданасіцельства — стацця гласіць ад трох да пяці. От так наказваў. А нашы не пудкія, яшчэ за царом тут ссыльных перабывала цьма. Многія абжыліся і ўнукаў даўно пагадавалі. Усялякі народ быў. Так што не дзівіцеся, калі каторы нешта вякне. Гэта ён — для палітыкі».

Стала сумна, што нас так атэставалі. У лагеры ўсе былі аднолькавыя, а тут хто захоча плюне ў вочы, утрэшся і змоўчыш. Цябе ж і за чалавека не лічаць. Змрочныя думы ніяк не пасавалі да бясхмарнага сіняга неба, да прыбранай у зіхоткія каралі тайгі, халоднага, але яснага сонца. А мароз смаліў бязлітасна: дзеравянелі шчокі, заходзіліся рукі ў дзіравых пальчатках. Мы прыхінуліся адзін да аднаго, а спіна ўсё адно дранцвела ад напружання. Конік бег спорна, сані віхляліся на раскатах, падскоквалі на глызах і выбоінах.

Наш вазак строс з рукі вялікую калматую рукавіцу, дастаў з-за пазухі «чакушку» гарэлкі, зубамі выцяг і сплюнуў кардонны корак і працягнуў пляшку старэйшаму з нас — Вацлаву Іванавічу: «Каўтні, баця, для сугрэву і перадай другому». Мы па чарзе пацягнулі па добрым глытку, і з непрывычкі закружыліся ўваччу калматыя елкі і прыдарожныя хмызнякі, нейкае імгненне здавалася, едзем на парцы коней. «Дасмоктвайце», — буркнуў Вася, так яго звалі, потым выцяг з-за пазухі другі «чакан» і адным махам уліў у сябе, уцёрся, хвастануў каня, і сані памчаліся спарней. Пасля таго глытка нібыта пацяплела і напала дрымота. Сані пераскочылі невялічкі масток, матануліся на раскаце, і я ўбачыў, што пераехалі вузкую, пакручастую, ледзь прыхопленую на закрайках рачулку. Дзіўна: трыццаціградусны мароз, а рэчка цячэ. «От і наша Біязінка, — паведаміў Вася, — уся на крыніцах. Ніякі мароз не бярэ».

Дарога выскачыла на гала. Непадалёк віднеліся хаты, стаялі дымы над камінамі, а наўкол срабрылася тайга. Вось і наш прыстанак. Усюды — снежны прастор і глухая да звону ў вушах цішыня. Усё сяло абнесена высокім плотам. Пры ўездзе

ледзь ліпяць на адной закрутцы вароты. Уехалі ў вуліцу. Абапал нізкія хаты з маленькімі вокнамі, відаць, каб трымалася цяпло, ні дрэўца, ні студні не відно. Я даймаю Васю пытаннямі. Ён ахвотна тлумачыць: сяло абнесена паскоцінай — улетку з пашы прыганяюць скаціну, зачыняюць вароты, каб не ўбілася ў шкоду, і яна ўсю ноч дапасваецца на мураве вакол сяла. А студні не патрэбны — круглы год бяруць чыстую крынічную ваду з Біязінкі.

Мы спыніліся каля канторы арцелі «Прагрэс». Ну і кантора! Цесны закураны катух вясковай хаты з бляшанаю печкаю пасярэдзіне і двума пашарпанымі сталамі. Прыняў нас прысадзісты шыракатвары тэхнарук Проня Красцянаў, у ватніках, целагрэйцы і закасаных катанках, за другім сталом сядзеў сухі, з тварам праведніка, даўно не голены бухгалтар Ціхан Каргаполаў. Проня пацікавіўся, адкуль мы, што ўмеем рабіць, дзе працавалі. Майстры расказалі пра сваю кваліфікацыю, а мне, як таму самазванцу, стала горача і брыдка. Нешта прамармытаў пра камбінат, а сам падумаў, што ўжо не адрозню адборнік ад шаршэбкі. Проня з Каргаполавым узрадаваліся ганчару Мартынаву. У «Прагрэса» адкрываліся новыя магчымасці і перспектывы. «Але куды вас прыстроіць, мужыкі?» — пачухаў патыліцу тэхнарук. «Пакліч Варку, Настассю, Хімку і Мінадору. Удовы яны спраўныя, а мужыкі каму не трэба?» — параіў бухгалтар.

Праз паўгадзіны нас аглядалі чатыры кабеты ў цёплых хустках, хто ў плюшаўцы, хто ў кажушку, хто ў целагрэйцы. Шыракаклубая, зіркатая і гаваркая Настасся Яроміна адразу ўхапіла і павяла Мартынава. Вацлава выбрала сабе драбнатварая, з мышынымі вочкамі Керпіха. Мяне і Кінаша спагадліва агледзелі, паківалі галовамі дзве кабеты і падаліся да дзвярэй. «Куды ж вы, бабанькі?» — спахапіўся Проня. «Людскіх мужыкоў Настасся з Варкаю ўхапілі, а нам дахадзяг пакінулі. Хіба ты іх будзеш на палаці падсаджваць? Адны штаны невядома на чым цяляпаюцца», — адсекла маладзейшая, і абедзве шаснулі з канторы.

А мы, забракаваныя і збянтэжаныя, пазіралі на разгубленага Проню. Ён толькі развёў рукамі. «Відаць, гэтым ласіцам не кватаранты, а добрыя стаднікі трэба?» — запытаў Зміцер Сцяпанавіч. Проня адказаў спагадліва на поўным сур'ёзе: «Засухастоіліся бабы. Часам падлеткамі не грэбуюць. А вы і праўда ташчыя, як веснавыя прусакі... Куды ж вас дзець, мужыкі?» — «Да панядзелка няхай у мяне перабудуць, — згадзіўся бухгалтар, — а там, можа, Кузьміча ці Мітрафанавіча ўгаворым». Ён вылез з-за стала і, накульгваючы, зняў са сцяны паўкажушак, уздзеў

старую салдацкую шапку, буркнуў: «Хадзем» і павёў доўгаю вуліцаю аж у канец сяла.

На задах агародаў дыміліся лазні, пахла дымам, вільготнаю сажаю і распаранымі венікамі. Мы аж спыніліся, угледзеўшы на заснежанай сцежцы некалькі кабет у споднiх кашулях, проставалосых, у атопках на босую нагу. Яны паволі ішлі, жартавалі, абсыпаліся снегам, а над расчырванелымі целамі струменіла пара. А пажылі — і не да таго прывыклі.

Сонца зайшло, заліўшы край неба густым журавінавым сокам. Сустрэчныя віталіся з Каргаполавым і пыталіся, каго гэта ён вядзе. «Ссыльных у арцель прыгналі. Вяду на начлег». Пра нас, як пра глуханямых, гаварылі ў трэцяй асобе.

У чыстай, з вышараванай, як жаўток, падлогай хаце было ціха, утульна і цёпла. У кухні нас сустрэла высокая даўгатварая ў кажушнай безрукаўцы гаспадыня. «Прымай гасцей, Аляксееўна», — неяк вінавата прамовіў гаспадар. «Нешта не прыпомню, каб каго клікалі, — не надта ветліва, але і не злосна адказала Аляксееўна. — А калі прывёў, за парог не выправіш, абы не наслядзілі. Адкуль жа Бог прынёс?» — «З Расеі яны (у сібіракоў усё, што за Уралам, — Расея), ссыльных у арцель прыгналі, а нанач ніхто не ўзяў. Няхай у нас да панядзелка пабудуць». — «А ў Проні хіба хата малая?» Гаспадар вінавата лыпаў вачыма, а мне хацелася выскачыць за парог, ісці куды вочы глядзяць. Каб летам — пад кустом ці пад стогам прытулак знайшоў бы, а ў сцюжу куды дзенешся? Цярпі: удовы забракавалі, і тут не надта радыя нашаму прыходу. Лішнія, нікому не патрэбныя. Паселі на краёчку ўслона і маўчым: ад стомы і бяссоння ў халодным клубе ні рукі, ні ногі, ні язык не варочаюцца. Хацелася абы-дзе зваліцца і заснуць, а нам прапанавалі ісці ў лазню. Успомніліся санпрапускнікі, вашабойкі, дэзакамеры, апрацоўка брытваю кожнае валасінкі на ссохлым целе. Відаць, для большай знявагі мужчын галілі жанчыны, жанчын — мужчыны. Выходзіць, і тут перш за ўсё вырашылі памыць пастаяльцаў. Гаспадар распрануўся да споднікаў і нам прапанаваў «разбалакацца». Мы пасаромеліся і пайшлі за ім апранутыя ў канец двара.

Замест сенечак да страхі лазні прыстаўлена некалькі жэрдак, прыкіданых бульбоўнікам. Пад нагамі пачарнелы снег. Тут мы і распрануліся, праціснуліся праз нізкія дзверы і апынуліся ў гарачай і парнай цеснаце. Гаспадар засвяціў газнічку і падкінуў пары. Хвастаўся ён доўга, стогнучы і прыгаворваючы: «Ой, баска, ая-яй!» А мы баяліся выпрастацца, каб не паапякаць вушы. Пакруціліся каля палка, сяк-так апаласнуліся і выскачылі

ў «прылазнік». Ледзьве нацягнулі на мокрае цела амаль бляшаную ад пражарак бялізну, а рукі і локці былі ў плямах сажы ад закураных сцен і вушакоў.

Калі вярнуўся і адстагнаўся гаспадар, пасадзілі за стол і нас. Дымілася міса бульбы, падрумяненая бурачковым квасам шатkаванка і вялікія хрусткія грузды дражнілі і выглядам, і пахам, аж захадзілі нашы кадыкі. З вялікай бутлі ў рубчастыя шклянкі гаспадыня разліла густую жаўтаватую бражку. Саладкаватая, з дражджавым і хмельным духам, яна пілася, як бяскрыўдны квас. Пасля дзвюх шклянак галава была ясная, а ногі не слухаліся, нібы кудзельныя. Гаспадыня толькі пасміхалася з нас. Пасля лазні і вячэры ўсе неяк памякчэлі, адталі і падабрэлі. На падлозе нам паслалі вялікую кашму, далі дзве падушкі, накрыцца — сабачую даху. Толькі леглі — і праваліліся ў глыбокі сон.

У панядзелак нас усваталі на «фацеру» да рыжабародага бондара і німаката Архіпа Лаўрова. Месца нам адвялі каля самых дзвярэй пад палацямі. Мы збілі козлы і з аполкаў — шчыток, вялікі мех набілі свежымі стружкамі, «Вось і маем баярскую пасцель». Раніцай увесь гэты спальны агрэгат выкідалі ў сенцы. За дзень усё прамярзала, і мы да паўночы не маглі сагрэцца.

Арцель была накшталт славутых «рагоў і капытоў». У ёй хаваліся ад калгаснай работы здаровыя мужчыны, жанкі лічыліся ў калгасе, мелі вялікія прысядзібныя надзелы і карысталіся ўсімі калгаснымі выгодамі. Аднаго яны былі пазбаўлены — купляць у магазіне хлеб, прадавалі яго толькі рабочым і служачым. Такая была пастанова мясцовага сельпо. Затое хлеб бралі арцельшчыкі-мужы.

Калі чарга была вялікая, а хлеба прывозілі мала, член праўлення сельпо настаўніца Наталля Іванаўна загадвала прадаўшчыцы: «Уля, ссыльным хлеба не даваць». Мы моўчкі пакідалі чаргу, спадзеючыся на заўтра.

Ідучы ў краму, кожны раз цікавалі, каб зноў не трапіць пад забарону. Станавіліся апошнімі, прапускалі наперад пайшчыкаў і, як жабракі, цярпліва чакалі, перападзе сёння «паўцагліны» хлеба ці не. Калі заставаліся адны, прадаўшчыца спагадліва ўздыхала, азіралася і разразала кулідку на двух.

На работу мы прыходзілі зацемна і, пакуль добра не развіднее, сядзелі на варштатах, курылі, «травілі» анекдоты, на невялічкай пліце разагравалі закарэлую кляянку. Святло праз маленькія заледзянелыя шыбы прабівалася недзе гадзінам к дзесяці, тады толькі і пачыналі варушыцца работнікі — тры падлеткі і глуха-

ваты, з так-сяк залатаным няўмекам-хірургам страшным сінім носам Лёва Астанін.

А жонка ў яго была прыгажуня Каця. Тонкая, як чарацінка, з анёльскім тварыкам і крышачку мангольскімі, як чорныя вугалькі, вочкамі. Яна ў бабкі расла сіратою ў суседняй вёсачцы. Прыехаў да яе ў сваты прыгажун і балбатун Гошка разам з гарманістам Лёвам Астаніным. Самі падпілі і спаілі семнаццацігадовую Кацю. А прачнулася яна жонкаю ў абдымках Лёвы. Паплакала і паехала ў яго хату, нарадзіла чацвёра хлопцаў, была добраю гаспадыняю, клапатліваю жонкаю, а туга і боль не сыходзілі з яе твару. Лёва лічыўся майстрам. У арцелі не было людскага інструменту: шыпы на царгах заразалі не стамескамі, а кухоннымі нажамі. З майстэрні выходзілі табурэткі і нязграбныя канцылярскія крэслы. Старыя майстры з асінавых камлёў выдзёўбвалі, распарвалі, расцягвалі лёгкія рыбацкія чаўны, жанкі рабілі кадушкі, дзежачкі і ражкі. Гэта былі ўдовы, і за работаю яны спявалі невядома дзе пачутыя, а можа, і самімі складзеныя, такія шчымлівыя і трагічныя песні, што ў мяне стаяў у горле ком і самі сабою каціліся слёзы.

Зміцер Сцяпанавіч і Вацлаў адразу ўзяліся рабіць інструмент і праз тыдзень ужо мелі выдатныя рубанкі, фуганкі, шаршэбкі, адборнікі і вострыя стамескі. Мартынаў абсталёўваў ганчарню, на закінутым глінішчы ломам длубаў прамёрзлую гліну, часам заходзіў да нас пакурыць. Сваім становішчам ён быў задаволены: абедзве Настассіны дочкі спалі на печы, а ён з гаспадыняю раскашаваўся на ложку, бо другога не было. Да ложка прывязвалі маленькае цялятка, каб не змерзла ў прыгоне, яму падсцілалі саломку і адпойвалі малачком аж да цяпла. Зімою цяляты стаялі ў кожнай хаце. «Толькі часам, — скардзіўся Васіль Іванавіч, — ноччу смокча вялікі палец нагі».

Аднойчы Мартынаў да нас зайшоў зажураны і спалоханы. Памыліўся трохі і расказаў сваю бяду: «Панімаяш, такая незадача — павесіў я гэта свае ватнікі на біла ложка і заснуў, а раніцай гляджу, штаны пад нагамі ў цяляці, падняў, а кішэня ўся зжаваная. Няйначай некалі былі крошкі, дык яно і жвакала ўсю ноч». Мы яго супакоілі, што Настасся ўшые новую кішэню. «Кішэню-то яна ўшые, а дзе я вазьму свой «воўчы пашпарт»? Ад яго і знаку не засталося. Што цяпер будзе?» На мяне напаў дурны смех: успомнілася гогалеўская свіння, што ўкрала прашэнне ў судзе, а тут разумнае цяля пазбавіла чалавека ад абразлівай паперкі, якою і нас прыпнулі, як тое цяля да біла.

Неўзабаве з раёна прыехаў наш упаўнаважаны правяраць падначаленае яму пагалоўе. Днём ён адпачываў, некага выклікаў у свой катушок пры сельсавеце, а гадзін у адзінаццаць ночы вуліцаю ішла дзяжурная па сельсавеце, грукала ў вокны і загадвала: «Ссыльныя, на адметку!» Уставалі, апраналіся на скорую руку і спяшаліся ў сельсавет. Наш начальнік быў строгі і не цярпеў спазнення. Самазадаволены малодшы лейтэнант распытваў і гаварыў розныя непрыстойнасці прыгнечаным і змардаваным людзям. У сяле было некалькі інтэлігентных жанчын, і з імі ён не цырымоніўся. Апрача двухсэнсоўных жарцікаў, ён часта пытаўся, ці выбралі мы месца на могілках, бо тут нам і паміраць. Нацешыўшыся, ставіў штампік, распісваўся на нашым адзіным дакуменце, на які сорамна было самому глядзець, не тое што людзям паказваць.

Мартынаў да каменданта пасунуўся, ледзь перастаўляючы ногі. Нехта пажартаваў: «Бач, як выкруціла Настасся». — «Не так Настасся, як цялё», — удакладніў Кінаш. Усе прыціхлі. За дзвярыма грымеў шматпавярховы мат, грукат кулакоў, а потым раскацісты рогат. Ледзь чутна апраўдваўся Мартынаў. Выйшаў ён, выціраючы шапкаю змакрэлы лоб, у руцэ дрыжаў аркушок чыстай паперы. Ганчар звярнуўся да мяне: «Ты граматнейшы. Састаў, пажалуста, аб'ясненне нашчот цяляці і майго дакумента». Мужчыны хіхікалі і бессаромна кпілі, а мне падумалася: ці не разумнейшае Насціна цяля за тых, хто прыдумаў гэты «пашпарт»?

Калі мы выйшлі з сельсавета, сяло даўно спала. Вялікі круглы месяц заліў блакітным святлом хаты і снягі. Здалося, сапраўды з поўні глядзіць на нас спакутаванае аблічча біблейскага Авеля. Чамусьці ўспомнілася, што і Енукідзе звалі Авелем, дзіўнае, рэдкае імя. Няўжо і тады, у той дагістарычны час, брат караў брата? А колькі іх, пакараных, пасля? Лепей не думаць. За нас думала начальства.

Па рыпучай, раскатанай палазамі дарозе, як чорныя гракі, да наступнай рэгістрацыі разыходзіліся ссыльныя. Колькі яшчэ будзе такіх начных выклікаў, ніхто не ведаў.

## МУСІШ ІСЦІ

У арцелі было хранічнае безграшоўе. Нам выдавалі «аванец» — пяць рублёў і пуд бульбы на два тыдні. Добра, што

родныя часам прысылалі некалькі чырвонцаў, а то і пасылачку. Мае напарнікі былі майстрамі высокай кваліфікацыі. Вацлаў за доўгія гады выгнання зрабіў тры выдатныя скрыпкі, а тут недзе агораў мандаліну і часам вярэдзіў душу шчымлівымі мелодыямі: то ўзыходзіла «Зорка Венера» над полем, то плакала ў жыце «Перапёлачка», то кружылася віхурная «Лявоніха». У Кінаша з-пад фуганка выходзілі рэчы, як лялькі, а попыт на іх быў невялікі. Часам за калысачку або аконную раму перападала гладышка малака або кавалак убоіны.

У хаце Архіпа Лаўрова свайго кутка ў нас не было. Вечарамі вакол стала рассаджвалася вялікая сям'я німаката: канапаты рудзенькі Пецька рашаў задачкі, Паранька сукала ніткі, Моцька скубла пер'е, наша «планавая» гаспадыня Дзяменцьеўна смаліла на прыпечку толькі што скатаныя на продаж пімы. Іх далёка за поўнач у лазні валяў гаспадар. Пасля работы з грукатам абіваў ад снегу на ганку ногі, уваходзіў у хату ў воблаку халоднага паветра, доўга тупаў, шаргатаў лыжкаю па дне чыгунка, курыў, кашляў, мы прачыналіся. І завязвалася гамонка, так, ні пра што.

Часам у хату ўвальваліся пагрэцца падпітыя падарожнікі. Хатняе цяпло і хмель штурхалі іх на наш тапчан пры дзвярах, і ўжо на крайнім, а то на абодвух нехта сядзеў і не мог уцяміць, што гэта мяккае і цёплае пад ім варушыцца, ды яшчэ і спіхне.

Уся гаспадарская сям'я спала ў суседнім пакоі покатам на разасланай на падлозе кашме, каб цяплей было, накрываліся дохамі з сабачых шкур. Іх будзілі прыезджыя, запальвалі лямпу, з'яўлялася пляшка або бражка, і ледзь не да раніцы гула хата галасамі. Тут у наваколлі кіламетраў на паўсотню было тры-чатыры вёскі, і ўсе добра ведалі адзін аднаго. Дзверы звычайна ні ў кога на ноч не зашчапляліся, і калі трэба ў любую хату заходзілі, як у сваю.

Відаць, не соладка жылося і Вацлаву ў Керпіхі. Ён усё часцей падбіваў нас шукаць асобны пакойчык на траіх. Гэты клопат мы даручылі яму. Ён вельмі хутка асвойтаўся ў сяле: то шыбы шкліў, то дзверы падганяў, то папраўляў шырокія раззыбаныя ложкі. Расплочваліся хто чым мог. Яму і дамовіцца было лягчэй.

Нарэшце парадаваў: «Знайшоў». Мы гатовы былі адразу перайсці на новую кватэру, але ў нашым будучым пакоі яшчэ стаялі авечкі з ягняткамі. Трэба было ў прыгоне для іх адгарадзіць катушок, выкінуць угноеную салому, адмыць падлогу, пачакаць, пакуль вычхаецца авечы дух.

Дачакаліся. Пярэбары былі — як у таго жабрака: падперазаўся і пайшоў. Занялі мы маленькі пакойчык з дзіраваю плітою і за-

мураваным наледдзю акенцам. Замазалі пліту, пабялілі закураную столь, разжыліся лямпаю і зажылі ў самай беднай і самай добрай у сяле ўдавы Палагеі Цімошыхі. Гаспадар загінуў на самым пачатку вайны, а яна неяк выкідалася з чатырма дзецьмі і кароўкаю да мірных гадоў. Большанькія, Тайка з Марыйкаю, памагалі маме на «фірме», а Ванька з Толікам у адных апорках пазменна бегалі ў школу. Большы прыбягаў з першае змены, страсаў у парозе «абуўку», меншы ўскокваў у мокрыя апоркі і ляцеў на ўрок.

Пасярод недагледжанай, заваленай нейкім ламаччам і старызнаю кухні з рання да ночы гула бляшаная печка, у засеку каля дзвярэй пускала белыя парасткі бульба. Кожны, хто прыбягаў з фермы або школы, набіраў яе, рэзаў тонкімі скрылёчкамі і налепліваў на гарачую бляху печкі. Падсмажаныя, яны адскаквалі, на іх фукалі і адразу адпраўлялі ў рот. Такое было снеданне і абед.

Хлеба ў гаспадыні не было: кілаграмы, атрыманыя з восені, даўно былі скручаны на жорнах і з'едзены. У магазіне калгасніку хлеба не выпрасіць. Так і жылі на бульбяных «пяцімінутках» ды на шклянцы малака. Калі нам у краме перападаў глёўкі «кірпіч» і мы садзіліся вячэраць, нячутна ў наш пакойчык пракрадаўся Толік. Ён моўчкі стаяў каля стала, глядзеў чыстымі і прагнымі вочкамі. Мы налівалі яму кубачак фруктовага чаю, адразалі па лустачцы хлеба і глядзелі, як прагна ён разам з намі вячэраў. Нам успаміналіся свае дзеці і думалася: можа, нехта пачастуе і іх.

Толя вельмі любіў маляваць. Яму даручалі пісаць лозунгі, і ён старанна на вялікім кавалку шпалераў разведзенай парцяною фарбаю выводзіў: «Спасибо Великому Сталину за наше счастливое детство».

Так мы жылі сваёю дружнаю арцеллю. Ідучы з работы, у торбачках з майстэрні прыносілі сухія смольныя абрэзкі і стружкі, весела гула наша пліта, булькатаў чайнік, пасля вячэры Вацлаў лажыўся на тапчан, клаў на грудзі мандаліну і пацiху вярэдзіў нашы душы.

Субота ў кожным сібірскім сяле — асаблівы дзень: усе паляць лазні. Ні сходаў, ні палітзаняткаў, ні педсаветаў у суботу не бывае. Над сялом плыве бярозавы дым, а потым, калі напаленая дачырвана каменка дасць добры дух, у старых вушанках і рукавіцах хвошчуцца да ачмурэння, качаюцца ў сумёце і зноў — на палок. З лазні ідуць дамоў у адным споднім, а сустрэнецца сусед, можна пастаяць і пагаварыць. Наша змардаваная сухенькая гаспады-

ня парылася гадзіны па дзве. У хату ўпаўзала рачкі, клалася на падлогу, вохкала, стагнала, паўтарала: «Ой, баска!» Мы яе запрашалі на чай. Адказ быў аднолькавы: «Ох-ти, не смогаю, мужики». Так яна адлежвалася да ночы. Любыя хваробы ў Сібіры лечыць лазня. Трохмесячнае дзіцятка, загорнутае ў пялёначку, па сумётах бабка нясе ў напаленую лазню і хвошча да знямогі.

Вечарамі пад гул завірухі і пяшчотнае трэньканне мандаліны мы з Кінашом пісалі дадому лісты. Ішлі яны доўга, і далёка не ўсе даходзілі. Па дарозе з майстэрні мы заўсёды спыняліся каля пошты, спадзеючыся, што ў акно пастукае добры паштавік Мікалай Рэдзькін. Спыняў ён нас радзей, чым нам хацелася. Затое кожны ліст быў нашай агульнай радасцю. Мы яго чыталі і перачытвалі разам.

Доўга я не ведаў, што пасля майго арышту жонку звольнілі з пасады завуча «па скарачэнні штату». Загадчык райана Агееў патрабаваў афіцыйна адмовіцца ад «ворага народа», угаворваў забыць яго і не падтрымліваць ніякай сувязі, тады можна падумаць пра работу ў іншай школе. А мая Аля заўпарцілася і засталася без работы з маленькаю дачушкаю і старым бацькам сярод чужых людзей і без усякіх сродкаў. Іх перасялілі з кватэры ў кладовачку пры кухні, настаўнікі пераходзілі на другі бок вуліцы. І пайшла мая няскораная просьбітка абіваць парогі ў пошуках працы. Ёй спагадалі некаторыя суседзі і часам дапамагалі сесці ў цягнік ці аўтобус мае былыя вучні па вячэрняй школе — афіцэры мясцовага невялічкага гарнізона.

Нарэшце злітаваўся загадчык Бабруйскага аблана Зайцаў і адважыўся паслаць жонку «ворага народа» выкладаць матэматыку ў Пагосцкую сярэднюю школу. Аклад — 600 (дарэформенных рублёў). Аля дзяліла на тры роўныя часткі — бацьку з дачкою, мне і сабе па 200 рублёў. Пасля заняткаў кожную суботу яна выпраўлялася пехатой за 20 кіламетраў ва Урэчча да дачушкі з бацькам, а ў нядзелю пад вечар вярталася назад. А мне пісала бадзёрыя пісьмы. Я іх чакаў, як свята, так хацелася верыць, што дома ўсё добра. Нарэшце я атрымаў аматарскі здымак жонкі з дачкою. Зірнуў і ледзь не заплакаў. На мяне глядзелі поўныя адчаю тужлівыя вочы на спакутаваных запалых абліччах. Хацелася ўкленчыць перад імі, маліцца за іх цярпенне, трываласць і веру.

Тады ж падумалася: колькі нас тысяч і тысяч пакутнікаў гібее ў турмах, лагерах, на этапах і ў ссылцы ні за што ні пра што. А ў кожнага недзе гаруюць бацькі, жонкі і дзеці, пад вечным страхам перад анкетамі, аддзеламі кадраў, перад непрыкметнымі вачыма, што сочаць за іх кожным словам і крокам. Яны скрозь адчуваюць

сваё бяспраўе — іх у першую чаргу звальняюць, высяляюць з кватэр, папракаюць без дай прычыны, нават дзяцей не бяруць у дзіцячы сад, не прымаюць у піянеры: а раптам прынясе варожую ідэалогію. Так комплексам непаўнацэннасці калечылі кволыя душы на ўсё жыццё, выхоўвалі новых Паўлікаў Марозавых.

На людской бядзе звышпільныя нажываюць асаблівы давер, аўтарытэт, заслугі, пасады і трывалае становішча. Чым гучней крычаць пра класавую непрымірымасць, пра пільнасць, чым нахабней плююць у вочы запалоханым, спакутаваным страхам без віны вінаватым, тым надзейней іх грунт пад нагамі. Так прайшоў нябачаны падзел на «чыстых» і «нячыстых». «Чысты» ў любую хвіліну мог апынуцца за кратамі, а «нячысты» да канца дзён заставаўся «нячыстым». Ад такіх думак самому рабілася страшна.

Успомнілася, як аднойчы ва Урэччы знаёмая буфетчыца сталоўкі пад вялікім сакрэтам аддала мне аркушок паперы з даносам на мяне. Даносіць, уласна, не было чаго. Прыстаўлены да мяне «стукач» падрабязна запісваў, куды я хадзіў, з кім і калі сустракаўся, хто бывае ў мяне. Дакладна ставіў даты, гадзіны і хвіліны. Хто ж за мною сачыў? Мілы, далікатны, заўсёды ўдзячны за ўвагу мне той самы брат маёй вучаніцы. А тут не пашанцавала — перапіў у сталоўцы і згубіў сваю «дакладную». Хацелася яе аддаць яму, але пашкадаваў, няхай думае, што ўсё абышлося, а я ўжо ведаў свайго «шэфа». Колькі такіх вольных і нявольных наглядчыкаў і даносчыкаў сачыла адзін за адным? Былі яны ў кожнай установе, у цэху, брыгадзе, нават у камеры і бараку. За пайку хлеба і міску баланды прадавалі такіх жа пакутнікаў, як і самі. Напэўна, яны ёсць і сярод нас, у гэтай агульнай бядзе. Ходзяць жа нацянькі нейкія шэрыя постаці начамі ў баковачку да нашага ўпаўнаважанага грамадзяніна Траццякова. Чаго? Што іх вядзе туды? Значыць, трымай язык за зубамі, а думкі на замку. Лепш не думаць, каб не звар’яцець.

Часам хочацца верыць, што не толькі тутэйшыя людзі, а і нашы начальнікі павінны зразумець, што мы ніякія не ворагі, не дыверсанты і не шкоднікі. Можа, і разумеюць, але мусяць спраўляць сваю не надта далікатную службу, бо нічога іншага рабіць не ўмеюць, а пуп ірваць не вельмі хочацца. Куды прыемней хадзіць у начальніках, крычаць, зневажаць, здалёк палохаць блакітнаю фуражкаю і пагражаць за парушэнне саслаць за Палярны круг. Так і жывуць на высокіх акладах, кормяць сям’ю асобымі пайкамі, і разыходзяцца ад іх, як магнітнае поле, нябачныя стрэлы страху.

Ох, як развярэдзіў душу, як расцвяліў думкі маленькі аматарскі здымак з жалобнымі паглядамі маіх самых дарагіх і любых пакутніц.

Поўнач. У наледзянелыя шыбы б'ецца завея. Сон змыкае павекі. Грукат у раму: «Ссыльныя, на адметку!» Не, гэта не сон. Мусіш ісці.

## НОВАЯ «СПЕЦЫЯЛЬНАСЦЬ»

Жыць станавілася немагчыма на «прагрэсаўскія» авансы. Хоць і сталяраванне маё наўрад ці каштавала больш. З горам папалам ляпіў крэслы, на якія і сам не адважваўся садзіцца. Цягнуць з мізэрнага жончынага бюджэту не дазваляла сумленне. Ведаў, як там туга і цесна. Завіхацца ў арцелі не было сэнсу, колькі б ні зрабіў — плата адна. Ды і работа валілася з рук ад непраходных змрочных думак, тугі па родных, незагойнае крыўды і болю, ад змрочных перспектыў. Адно слова «навечна» наганяла жах.

Члены арцелі мелі заработкі намнога большыя за нас: яны былі гаспадары. А хто мы? З ласкі нанятыя работнікі, бяспраўныя ссыльныя. Хто прыслухаецца да нашых скаргаў і крыўдаў? Вацлава і Змітра Сцяпанавіча, сапраўдных майстроў, так-сяк падтрымлівалі, а я адчуваў сябе абузаю, ад якое хацелі пазбавіцца. Варта было вякнуць, быў адзін адказ:«Не глянецца, ідзі ў калгас». А там цэлы дзень на марозе вазі сена, выкідай з кароўніка змерзлыя глызы за палачку ў ведамасці. На першым часе калгас ссыльнаму выдаваў на дзень кілаграм хлеба і літр малака, роўна на два рублі, а на працадзень налічалі 10 капеек. За дзень работнік з'ядаў 20 працадзён. Самы лепшы ў калгасе цясляр, касец і стагавальнік Міша Цэсарук за сем гадоў не мог адрабіць свайго доўгу. Калі прыйшла пара вызваляцца, Цэсарук быў вінен калгасу чатырыста рублёў. Даведку яму на атрыманне пашпарта выдалі толькі тады, як жонка з Украіны прыслала грошы на выкуп мужа. Становішча ссыльных у калгасе было самае цяжкае.

Напачатку мы ўтрох сёрбалі з аднаго кацялка, але хутка ў мяне задрыжала рука, перш чым узяцца за лыжку. Мае сябры да арцельных авансаў нешта прызараблялі ў агульны кацёл. А чым яго мог закрасіць я? Тут нават грузчыкі не патрэбны. Таму чужы кавалак рубам станавіўся ў горле. Нічога не кажучы сваім сябрам, я пачаў шукаць работу.

У канцы сяла быў вялікі дзіцячы дом. Тут знайшлі прытулак сіроты франтавікоў, бежанскія дзеці, падабраныя каля разбітых бамбёжкаю саставаў, хлопчыкі і дзяўчынкі з колішняй аўтаномнай рэспублікі немцаў Паволжа і ціхія, маўклівыя і асцярожныя дзеці «ворагаў народа». Яны трымаліся асобна, вучыліся старанна, гаворкаю нагадвалі то Украіну, то Беларусь.

Дырэктар гэтага дома, высокі, кучаравы, у драцяных акулярах, апрануты пад Макаранку, Сцяпан Васільевіч Кемелеў быў самы аўтарытэтны чалавек у сяле. Да яго я і падаўся. Прыняў мяне адразу ў прасторным, добра напаленым кабінеце. Прапанаваў сесці і далікатна пачаў распытваць, хто я, дзе працаваў, што скончыў, чаму трапіў сюды. Я адразу адчуў давер і сімпатыю да яго і шчыра пачаў расказваць сваю драматычную біяграфію. Ён слухаў уважліва, пазіраючы ў акно. Здавалася, верыць, бо такое прыдумаць і нахлусіць нельга. Ён спрабаваў суцешыць, што разбяруцца і, калі дапушчана памылка, выправяць. Але не па спагаду я прыйшоў да яго.

Сцяпан Васільевіч прызнаўся, што такі работнік во-о як яму спатрэбіўся б, але... Ён шырока развёў рукамі: «Зразумейце, не ад мяне гэта залежыць. — Уздыхнуўшы, сказаў: — У нашай школе толькі дырэктар з вышэйшаю адукацыяй, астатнія — педкурсы, педтэхнікум, ёсць і «практыкі» — пасля 10 класаў». Відаць, каб зусім не пазбавіць надзеі, абяцаў параіцца, можа, што і выйдзе. Развітваючыся, успомніў, што ў школе патрэбен загадчык гаспадаркі, і параіў зайсці да Яўгена Паўлавіча Пуціна.

Школа была па дарозе, і я вырашыў за адным разам атрымаць усе аплявухі і супакоіцца. Болей не было куды ісці... Вось і школа. Адна толькі назва. На пукатым, агароджаным жэрдкамі голым дзядзінцы — доўгі «асноўны корпус» з пачарнелага бярвення і вялікімі вокнамі, побач дзве хаты, на два класы кожная. Гаспадарчы хляўчук, а ў канцы двара прыгон для каня і двух быкоў. Вось і ўся гаспадарка.

Я доўга не мог зразумець, чаму ў Сібіры, дзе столькі лесу, ні ў адным двары няма добрага цёплага хлява. Скрозь толькі прыгоны — скіданыя з жэрдак загарадкі, абы не ўцякла скаціна. Без падсцілкі каровы ляжаць на заледзянелых глызах, часта прымарожваюць хвасты і вымі. Скаціна за зіму абрастае нейкім дзікім мохам і, як бразголкамі, прымерзлымі камякамі гною.

Увайшоў у школу, і ў гэтым убогім «храме навукі» да болю зайшлося сэрца. Я да самазабыцця любіў школу, дзяцей, натхнёныя ўрокі, калі іх слухалі, не варушачыся, вечары, спектаклі,

паходы, віктарыны, спрэчкі па сачыненнях. І тут пахла крэйдаю, недзе разлітым чарнілам, на нізкіх вешалках віселі кажушкі, целагрэйкі, пафарбаваныя, сваёй работы пальцечкі, з класаў даносіліся павышаныя галасы настаўніц. Як я ім зайздросціў, як хацелася ўвайсці ў клас, сказаць: «Добры, дзень, дзеці. Тэма сённяшняга ўрока...» І спазма раптам перахапіла горла. Пастаяў перад настаўніцкай, супакоіўся, пастукаўся і ўвайшоў у прасторны пакой. Пасярэдзіне — доўгі стол, засланы чырвоным, у чарнільных плямах, абрусам, на ім — сшыткі, падручнікі, чарніліцы-невылівайкі. За прыстаўным столікам сядзеў дробненькі мужчына ў танным шэрым пінжаку, сіняй касаваротцы, з бледным стомленым тварам, шэрыя вочы глядзелі здзіўлена, светлыя негустыя валасы спадалі на лоб.

І гэты дырэктар сустрэў мяне па-людску, падаў руку, пасадзіў побач. Пашкадаваў, што не мае права скарыстаць мяне па спецыяльнасці, а школе так патрэбен добры «славеснік». І ён, як і Кемелеў, бездапаможна развёў рукамі. Пасаду заўхоза амаль пэўна дакляраваў, як толькі разлічыцца цяперашні. Як-ніяк, а загадчык гаспадаркі ўсё ж гучыць.

Што гэта за месца і што за работа, я расшалопаў, толькі як упрогся ў яе, і лішні раз пераканаўся, што мой бутэрброд заўсёды падае толькі маслам на падлогу, а ўсе няшчасці мяне знаходзяць першага, а пакідаюць апошняга.

Адзіны быў ратунак і надзея на добрых людзей, што былі побач, на шчырае і бескарыслівае братэрства ссыльных, гатовых падтрымаць, выручыць з бяды, суцешыць парадай, падзяліцца з таварышам агульнага лёсу.

Мы ўсе пазнаёміліся ў вузенькім калідорчыку сельсавета, чакаючы выкліку на адметку. Нас было дваццаць мужчын і чатыры жанчыны. Паволжскія немцы і эстонцы былі на іншым уліку, на лягчэйшым рэжыме і трымаліся асобна ад нас.

У сяле быў фельчарскі пункт з амбулаторыяй і дзвюма палатамі для цяжкахворых. Загадвала медыцынаю сельсавета вопытны маскоўскі ўрач, абаяльны і дабрэйшай душы чалавек Эла Рыгораўна Брускіна. Яна ў складчыну з інтэлігентнаю ленінградкаю Ганнай Якаўлеўнай купіла маленечкую хатку якраз насупраць амбулаторыі. Дагледзелі яе так, што яна стала самым утульным і цёплым прытулкам большасці ссыльных. У цесным пакойчыку ўсім хапала месца. Апрача нас траіх часта заходзіў колішні прафсаюзны дзеяч Іван Міхайлавіч Ермакоў. Тут ён латаў боты і шыў са старых халяў чыркі. Ён любіў весці

«філасофскія» размовы «ваабчэ». Успамінаючы жыццё на волі, расказваў: «Я ў сваё ўрэмя говорил лексии по общым вапросам исполнения часа по два, нащот Антанты и дурмана религии. И вот на тебе! За мою приверженность и кристальную преданность и меня туда же, со всем раенным руководством. Я чист, клянусь вам. Хоть сейчас гожусь на любой ответственный участок. Тридцать шесть жалоб только товарищу Сталину атправил. И молчок. Перехватывают, ироды. Кабы дошли, Иосиф Виссарионович вмиг бы освободил и должностишку предоставил. Я еще до-о-бьюсь. Мотивировочки есть, будьте уверены».

Разумная, ужо не маладая і заўсёды стомленая Эла Рыгораўна спагадліва глядзела праз пукатыя шкельцы акуляраў і на поўным сур'ёзе падтаквала Івану Міхайлавічу. Тут ніхто не быў лішні. Доўгімі зімовымі вечарамі пад гул завірухі і патрэскванне марозу ў гэтай утульнай хацінцы мы пілі гарачы чай, гулялі ў карты, уголас чыталі «Огонек» і газеты двухтыднёвай даўнасці, жартавалі, успаміналі любімыя творы і спектаклі, ніхто нікому не вярэдзіў душу сваімі болькамі і душэўнымі пакутамі, дамовіліся ніколі не гаварыць пра палітыку.

У Новы год у гэтай хацінцы ставілася ёлка з самаробнымі цацкамі, таннымі цукеркамі, пячэннем з маскоўскіх і ленінградскіх пасылак. Днём і ўвечары сюды прыходзілі суседскія дзеці і дзеці эстонцаў і немцаў. Яны спявалі і скакалі, расказвалі вершы на трох мовах і разыходзіліся з маленькімі падарункамі. Ганна Якаўлеўна ўспамінала сваіх унукаў, выцірала слёзы, не спадзеючыся іх убачыць.

Хатка насупраць бальніцы стала эпіцэнтрам усіх біязінскіх ссыльных. Тут пра кожнага зацікаўлена і шчыра дбалі абедзве мілыя жанчыны. Ганна Якаўлеўна з-за ўзросту і калецтва нагі не працавала нідзе. Жыла на ўтрыманні дзяцей і сястры. З Элаю Рыгораўнаю яны былі як родныя. Тэрыторыя нашага Паўночнага раёна была роўная невялікай аўтаномнай рэспубліцы. Толькі тут была бясконцая тайга, так дакладна названая ўрманам, бездараж, саракаградусныя маразы і двухметровыя сумёты, а паселішча ад паселішча за многія дзесяткі кіламетраў.

Зімою дарогі замяталі завеі, з вясны і да замаразкаў яны патаналі ў чорнай, як густая мазута, твані. Калі падсыхалі, клейкая, як асфальт, гразь наліпала на колы, яны пераставалі круціцца, сунуліся з выбоіны ў выбоіну, гразь набівалася слупкамі на капыты, і конь не мог ступаць. А доктар у самую дзікую завею і мароз, у залеву, а ў летнюю спёку праз хмары аваднёў мусіць ехаць у самыя далёкія сёлы да хворых.

У бальніцы трымалі маленькага мангольскага коніка. На ім Эла Рыгораўна абслугоўвала свой участак. У далёкай Мядзвежанцы хлапчук гуляў з бацькаваю дубальтоўкаю, спусціў курок і параніў на печы маленькую сястрычку. Доктарка кінула ўсё і адна ноччу паехала ратаваць дзіця. На паўдарозе каляныя ад марозу гужы саслізнулі з абледзянелых аглабель, сані сталі, мангол ступіў некалькі крокаў і спыніўся. Цемень, гудзе ад завеі тайга, на дзесяткі кіламетраў — ні жывое душы. Як ні старалася Эла Рыгораўна запрэгчы каня, нічога не выходзіла. Зачапіла лейцы за сані, легла на салому, гатовая загінуць. Зліпаліся ад сну вейкі: так засне і не прачнецца. Але да апошняга ў чалавека жыве надзея: мабыць, у сне пачуўся тупат і рып саней, галасы і выразнае «Тп-р-р-у!».

Спынілася фурманка. Не дачакаўшыся доктара, бацька вёз так-сяк забінтаваную дзяўчынку ў Біязу. Сустрэча ў тайзе выратавала доктара. Эла Рыгораўна некалькі сутак не адыходзіла ад параненай. Паставіла яе на ногі і адправіла далечвацца ў раённую бальніцу.

У ссылцы былі калгаснікі, кравец, ганчар, сталяры, інжынеры, настаўнікі, колішнія партыйныя работнікі. Агульны лёс зраўняў усіх. Мы трымаліся адзін аднаго, дапамагалі як маглі і чым маглі, дзяліліся апошнім. Мясцовыя людзі пыталіся, ці не родныя мы ўсе. Мы жылі па няпісаным законе пакутніцкага братэрства, таму і выжылі, таму і зберaглі чалавечую годнасць, дабрату і спагаду.

Як толькі вызвалілася пасада і наша начальства дало згоду, дырэктар школы ўзяў мяне заўхозам. Гучыць. Не абы-хто, а загадчык. Што гэта такое, я ўцяміў за два дні. Але не шкадаваў: мяне вабіла школа і цвёрды аклад — 300 рублёў (цяперашніх 30). Можна адмовіцца ад жончынай дапамогі, не быць нахлебнікам у сваіх сяброў. Мне пашанцавала, што заўхозства прыпала на канец зімы: амаль усё сена і дровы вывез мой папярэднік, у тайзе заставалася два стажкі і кубаметраў трыццаць леташняга беразаку.

Мне перадалі па акце пудкага, некалі абгарэлага на пажары каня, празванага Смажаным, двух быкоў, трое саней і тры дабітыя вазы, хамут, два ярмы, вераўчаныя лейцы, нажоўку, малаток і дзве жмені ржавых цвікоў. Я павінен досвіткам накарміць і напаіць сваё цягло, запрэгчы і цугам ехаць у лес, прабіваць дарогу да паленніцы, накласці дроў на тры фурманкі і везці ў школу за сем кіламетраў. Хоць быў сакавік, а яшчэ маразы

даходзілі да трыццаці градусаў, бушавалі завеі і секлі сіверныя ветры. Ногі правальваліся ў сумётах, шчокі апякала сцюжа. На змярканні ўязджаў у сяло, складаў дровы, даглядаў сваю скаціну і ледзь плёўся ў настаўніцкую па заданне на заўтра. У школьных вокнах дрыжалі слабыя агеньчыкі — гарэлі лямпы без шкла. Нехта дадумаўся, што так меней згарае газы. Столі былі закураны, у канцы ўрокаў настаўнікам і вучням прыходзілася адмывацца ад сажы.

Дырэктар, далікатны і ціхі Яўген Паўлавіч, зацемна прыходзіў у школу і позна ўвечары яе замыкаў. У тыя гады ўся краіна ад Масквы да самых да ўскраін працавала начамі. Якая там была праца? Чыноўнікі травілі непрыстойныя анекдоты, гулялі ў даміно і карты, рангам вышэй — у більярд, абы не спаць, пакуль не спалася «вялікаму і мудраму гаспадару». А раптам некаму спатрэбяцца нейкія весткі. Так і сядзелі або драмалі ад Крамля да Біязінскага сельсавета.

Толькі кіпела работа да самага рання ў закратаваных кабінетах. У воблаках дыму і густога мату дзяўблі адно і тое ж: «Прызнавайся! Гавары праўду!» А праўдаю лічылі самапаклёпы і абгаворы, фантастычную хлусню і «працавалі», пакуль не зламаюць знясіленую здзекамі сумленную ахвяру, каб не прастойвалі «сталыпінскія» вагоны, каб ішлі і ішлі этапы на ўсход, здабываць золата, вугаль, валіць лес і... паміраць, задоўга да вызвалення. Усё гэта было мне знаёма і ўспаміналася, як кашмарны сон.

Камендант адзначацца выклікаў толькі апоўначы, цешачыся сваім красамоўствам, уладаю і нецэнзурнымі жарцікамі.

Мокры, настылы і галодны, у свой катушок я прыходзіў позна. Зміцер Сцяпанавіч курыў каля пліты, Вацлаў трэнькаў на мандаліне або драмаў. Мяне чакалі кацялок гарачай бульбы, місачка гаспадынінай капусты і пахкі фруктовы чай. Я прагна вячэраў, у цяпле гарэлі шчокі, у скронях татахкалі звонкія малаточкі. Каб трохі адышлі ногі, клаўся на тапчан і засынаў цяжкім, з трывожнымі прывідамі сном. А заўтра зноў трэба ўставаць цёмначы, ехаць у лес па завеянай за ноч дарозе, каб прывезці дроў Самушкінай. Выкладала яна мову і літаратуру, хоць сама скончыла ледзьве-ледзьве дзевяць класаў. Пісала: «Томара», бо пад націскам Тома, «лошедь», «актевист», але няшчадна цягала неслухаў за валасы, давала кухталя ў спіну і крычала: «Язви тя в душу, аглаед!»

Прывёз ёй неяк дровы, падважыў калком сані, зваліў звонкі беразак каля плота. Гаспадыня выскачыла на ганак: «Хазяйственник, ах ты, гультай! Хто ж будзе складаць?» Я ледзь стрымаўся, але перасіліў сябе: «Вам, Еўдакія Прахораўна, пасля напружанай інтэлектуальнай працы карысна заняцца фізічнаю». Яна нібы сарвалася з ланцуга: «Я табе паабражаю... ак-ту-альная! Панаганялі сюды контрыкаў з наморднікамі ды яшчэ вякаюць. У-у-у, вражына!» Я развярнуўся, хвастануў ляйчынаю Смажанага і выехаў з двара. А яна крычала ўслед: «Ну, змей, хоць бы вароты зачыніў».

Горла сціснуў даўкі камяк крыўды і болю, вочы засціла сляза.

Некаторыя настаўніцы глядзелі на мяне падазрона і варожа. Яны ведалі, што я выкладчык з вышэйшаю адукацыяй, і пабойваліся, каб не падрываў іх аўтарытэт, не вельмі паказваў сваю эрудыцыю. Я часам затрымліваўся ў школьным калідоры, чуў натацыі, лаянку, пагрозу, стук кулаком або бездапаможныя тлумачэнні. Было сорамна за настаўнікаў і шкода дзяцей, а яны былі дапытлівыя і таленавітыя. Ніхто з іх яшчэ не бачыў электрычнасці, хоць ведалі законы Ампера і Ома, некаторыя сур’ёзна пыталіся: «А калі пройдзе цягнік, за ім палатно скручваюць у трубку?» Большасць настаўнікаў і вучняў не ўмелі скланяць лічэбнікаў у давальным, творным і месным склонах, у сшытках кішэлі нявыпраўленыя памылкі. А працэнт паспяховасці ў справаздачах быў высокі. Гэта падабалася начальству.

Больш дасведчаныя дзетдомаўцы, якія пабачылі свет, забягалі да мяне ў завозню і, не саромеючыся, дапытваліся: «Дзядзька, праўда, што вы настаўнік? За што вас сюды прыгналі? У Маскве вы былі? І на Краснай плошчы? А ў Маўзалеі? Можа, і Сталіна бачылі?» Што я мог ім сказаць, як растлумачыць, чаму апынуўся тут? Сказаць — нізашто, будзе «паклёп» на органы следства і суда, «варожае ўздзеянне на падрастаючае пакаленне». І кляпаць на сябе не мог. Выкручваўся: «Адбылася памылка. Хутка разбяруцца і выправяць. Вы ж дапускаеце памылкі, а настаўніца іх выпраўляе», хоць бачыў, як Самушкіна піша «кометет» і «гінерал».

У мяне часам шукалі справядлівасці гэтыя маленькія бунтары з абвостраным пачуццём годнасці, нецярплівыя да няшчырасці і падману, чэрствасці і грубасці, згаладалыя па ласцы і ўвазе. Настаўніцы іх не любілі і пабойваліся, бо яны не ўмелі крывіць душою, падхалімнічаць і гаварылі ў вочы тое, што думаюць, а

іх адвучалі ад гэтай «шкоднай» звычкі з маленства і самі ад яе адвыклі даўно.

Хлапчукі з дзіцячага дома ўнадзіліся да мяне з нявырашанымі пытаннямі, а то проста лавілі наравістага Смажанага, верхам ездзілі на ім на пашу, памагалі мне ўпраўляцца, прыносілі свае сачыненні. А настаўніцам здавалася, што я іх знарок кампраметую, і папярэджвалі не хадзіць да мяне і не гаварыць з «ворагам народа», бо ён такому навучыць, што самі загрымiце за краты. Я ведаў пра гэтыя папярэджанні і часта думаў, што прамяняў бы ссылку на лагер. Там быў роўны з усімі, меў месца на нарах, пайку хлеба, міску баланды і чарпачок кашы і ні пра што не думаў, а тут ламай галаву, як перабіцца з ранку да вечара: прыйдзеш у краму, а там загад: «Ссыльным хлеба не даваць», любы гаспадар скажа: «Паря, аслабані фацеру», — і нічога не зробіш, забірай сваю торбу і шукай прытулак, і ўсё ж, што ні кажы, і на кароценькім павадку, але ты нібыта вольны: ідзі на ціхую задуменную Тару, дыхай кедрачамі і піхтоўнікам, можаш паслаць і атрымаць тэлеграму. Хто не быў у няволі, той не ведае, якое гэта шчасце. А цярпець навучаныя: такія прайшлі «універсітэты»!

Павольна, нясмела надыходзіла вясна. Уначы яшчэ задыхаліся ад сцюжы, а ўдзень сляпіла вочы зыркае сонца, звінелі капяжы, з-пад сумётаў выбіваліся каламутныя раўчукі. Біязінка злізвала апошнія ледзяныя закрайкі і набухала празрыстай крынічнаю вадою. З дарог і калгасных стайняў цягнула аміячным духам адталага гною. Яго звычайна вясною спальвалі — тыднямі сяло задыхалася ад дыму. Чарназёму гной быў не патрэбен, ад яго толькі ўсё буяла. Да адлігі я вывез усё сена і дровы, пасля заняткаў да партаў прыбіваў адарваныя вечкі, падцягваў зваленыя вароты ў хляве, даглядаў каня і быкоў, быў рымарам і стальмахом, сталяром і ўсеагульным папіхачом, хоць і лічыўся загадчыкам. Чаго? Ніхто не ведаў. У адным возе зламалася драўляная вось. Я сказаў Яўгену Паўлавічу: «А вы зрабіце новую». — «Я ніколі нічога падобнага не рабіў. Трэба заказаць у майстэрні». — «Вы гаспадарнік. Гэта ваш клопат».

Куды дзенешся? Мусіў рабіць. Праўда, дзіркі для загваздак прадзяўбаў наўкасы, а вось гадоў з дзесяць служыла.

Дамоў я пісаў бадзёрыя ўсцешныя лісты, адмовіўся ад грашовых пераводаў, урэзаў свой бюджэт, каб паслаць сям'і якую капейчыну. Пасылкі часам прыходзілі ад стрыечнага брата, хірурга Мікалая Бобрыка. Ён мне быў за бацьку ў студэнцкія гады і на ўсіх маіх пакутніцкіх дарогах. Пасля вайны ён дэмабілізаваўся

ў званні падпалкоўніка медыцынскай службы і прыслаў мне свае боты, гімнасцёрку, брыджы і амаль новы шынель. Пасля сваіх вышмуляваных у камерах і на этапах неданоскаў у новым абмундзіраванні я выглядаў больш салідна. На мяне пачалі скоса глядзець занадта пільныя настаўніцы, а камендант, угледзеўшы такога ссыльнага, сур'ёзна сказаў: «Вы не маеце права насіць камсастаўскае абмундзіраванне. Ці не ўцякаць сабраліся?» — «Ад вас не ўцячэш. Мы ж вечныя. Я не пазбаўлены выбарчых правоў. Магу выбіраць, а значыць, і быць выбраным. Што скажаце, калі абяруць старшынёй ну хоць бы сельсавета? Га? Тым больш маю права насіць усё, апрача пагонаў і блакітнай фуражкі». Ён пачырванеў, сцяў зубы і прасіпеў: «Трэба болей слухацца і меней пярэчыць, а то надта разумны і лезеце не ў свае справы. Сігналы ў нас ёсць... не забывайцеся. Ха-ха-ха. Стар-шыня! Чаго захацеў!» — «Нічога асаблівага. Ссыльны Салтыкоў-Шчадрын быў вяцкім віцэ-губернатарам і пакінуў па сабе добрую памяць». Ён гэта, відаць, чуў упершыню і паглядзеў на мяне, як на вар'ята. «Ідзіце! Бяда з гэтымі вучанымі».

Сібірская вясна бурная, іскрыстая, сонечная, з шумнымі і віратлівымі паводкамі. Лажкі і нізіны становяцца азярынамі. Біязінка вырываецца з берагоў, а шырокая, зарослая чаромхаю, тальніком і глогам Тара ломіць пабурэлы лёд, крышыць крыгі і залівае па самыя макаўкі ўсё наваколле. Мясцовыя рыбакі спускаюць на ваду лёгкія асінавыя чаўны, з дарожкамі, восцямі, «павукамі», плывуць па разводдзі і вяртаюцца з чырванапёрымі акунямі, даўгарылымі шчупакамі і мноствам срабрыстых чабакоў. У затопленых кустах плёскаецца, гукае, крычыць і свішча ашалелае ад цяпла, вясны і шчасця мноства пералётнага птаства. А мне ўспамінаюцца вясна на Пцічы, набухлыя кусты бэзу, бухматыя жоўтыя коцікі на вербах, качыны гон над разводдзем і шчаслівыя, поўныя спадзяванняў гады майго юнацтва. І такі агортвае сум, такі боль гняце сэрца, што і выказаць нельга нікому. У кожнага сваё гора, свой сум. Чакаю лета і спадзяюся пабачыцца з жонкаю. У лагеры чакаў яе на «свіданку», а тут у адведзіны.

Сышлі снягі, апалі паводкі, падсохлі груды, пацвярдзела густая, як асфальт, гразь на дарогах. Тайгу завалакла шыза-зеленаватая смуга. Пакуль не ўзняліся хмары гнусу, усе спяшаюцца на лясныя дзялянкі рэзаць на зіму «веснадзельныя» дровы. За лета яны высыхаюць, як звон, і загараюцца ад аднае запалкі. Усе вялікія работы тут робяць талакою, як тут кажуць, «помачамі». Збіраюцца сваякі, бліжэйшыя суседзі, сёння паставяць шуркі

аднаму, заўтра другому, пазаўтра трэцяму. Глядзіш, за некалькі дзён усе з дрывамі на ўсю даўжэзную зіму. Так косяць і стагуюць сена, ставяць дамы, садзяць і выбіраюць бульбу. Гэта спрадвечныя самыя працавітыя кааператывы, таварыствы ўзаемнай дапамогі. Ад помачаў ніхто ніколі не адмовіцца і не адмаўляецца. Ідуць мужчыны, жанкі, старыя і дзеці, і работа кіпіць, пакуль не будзе ўсё зроблена. Суровая Сібір прадыктавала свае мудрыя законы.

Адразу я не паверыў вачам. На пустым пляцы раніцаю былі выкапаны ямкі пад штандары з лістоўніц, а ўвечары на гэтым месцы стаяў ладны дом, толькі без печы і зашклёных вокан, у ім заліваўся гармонік, грукалі ў скоках, сакаталі прыпеўкі, да раніцы ішла гулянка. Вось і ўся плата за работу. Неверагодна. Праўда? А ўсё проста: зруб паставілі ў лесе, размецілі, падагналі кроквы і тоўстыя латы, накалолі плашак на столь, загадзя акасячылі вокны і дзверы, надралі на дах бяросты. Раніцай усё перавезлі на пляц і накінуліся, як мурашы, складаць, насцілаць мох, наворваць удзірванелы дзёран на дах. Увечары стаяў накрыты, як лялька, новы дом. А плата? Бітон густое салодкае бражкі і чыгун бараніны.

А колькі ж трэба дроў на зіму школе і кожнаму настаўніку, з разліку дванаццаць кубаметраў на душу? Вось думай і старайся, заўхоз. Толькі падсохла тайга і не падняўся гнус, тры старэйшыя класы — пяты, шосты і сёмы — разам з настаўнікамі ў лесе. Тут кожны з маленства прывучаны валіць з пня, пілаваць, калоць самыя кручаныя камлі, складаць роўныя паленніцы. Ішло нас на лесасеку душ каля ста, з песнямі, жартамі, штурхатнёй, кепікамі.

Лесапавал — работа небяспечная, а ў мяне дзесяцігадовы вопыт лесаруба, і я расстаўляю настаўнікаў і вучняў так, каб нікога і сучок не драпнуў, і сам завіхаюся з пілою і сякераю. Абедаць садзіліся ўсе разам: раскладалі жытнія шаньгі, адвараную бульбу, пірагі з тварагом і чаромхаю, запівалі малаком. Я са сваім акрайчыкам хаваўся за кучаю ламачча, каб ніхто не зжаліўся і не частаваў мяне сваімі шаньгамі.

За два тыдні мы справіліся з дрыўмі. Наперадзе была вялікая работа — накасіць і застагаваць на тры галавы сена. А зіма доўгая — з кастрычніка да мая. Вакол сяла ніякіх сенажацяў не было. Касілі ў тайзе на колішніх дзялянках, пакуль яны не пазарасталі хмызам і падлескам. У гушчары ўрмана, куды і сонца не заўсёды прабівалася, школа мела свае «надзелы». Калі мне іх перадавалі, я не ўяўляў, як тут касіць па пнях, па

ламаччы, сярод няспаленых лаўжоў. Успаміналіся нашы надрэчныя заліўныя лугі, нават балоты здаваліся раем. Але нікуды не дзенешся — трэба адрабляць свае трыста рублёў. А тайга гудзе і звініць хмарамі вялізных аваднёў, ліпкіх сляпнёў і плоймаю камарэчы. Толькі і робіш, што хвошчашся веццем, а заедзь сячэ спіну, рукі, твар, працінае шапку. Як тут касіць, калі дыхаць ад камароў немагчыма? Старыя сібіракі расказвалі, што некалі селавы сход вялікаму злачынцу выносіў самы страшны прысуд: на суткі пакінуць прывязанага ў тайзе. На тым месцы знаходзілі непазнавальны труп, як кажухом укрыты гнусам.

Мне рабілася страшна, але трэба было касіць. Пад маім началам было пяць тэхнічак. У нас — касавіца мужчынская работа, а ў Сібіры — асноўныя касцы жанчыны, ды яшчэ якія касцы! Мы выехалі на сваім транспарце. Дзялянка наша была кіламетраў за сем ад сяла. Распрэжаныя конь і быкі адразу рванулі ў хмызнякі, каб хоць трохі ацярэбвацца ад заедзі. Пакуль здымаў косы, падбіваў клінкі і мацаваў ручкі, мае жанкі ва ўсім белым, у тоўстых шарсцяных панчохах і мяккіх чырках нацягалі ламачча і яловага лапніку, развялі курадым, палеглі на траву і пачалі качацца ў дыме. Я не разумеў, дзеля чаго яны вэндзяцца: грэцца няма патрэбы — дзень ясны, сонечны і гарачы. Гукнулі мне: «Иди, окурись». Я адмахнуўся: «Лепш закуру». Жанчыны з крынічкі прынеслі гладышку сцюдзёнай вады, напіліся і ўзяліся за косы. Я пайшоў паперадзе, але на сярэдзіне пракоса мне пачалі падразаць пяты. Спыніўся, нібы памянташыць касу, яны, смеючыся, пайшлі наперад, а мяне апанавала цёмная хмара заедзі. На тэхнічках не было ніводнага авадня ні сляпня. Чаму? У мяне пад тонкаю кашуляю з сіняга штапелю не было ніводнага жывога месца, на шчоках і руках пухлі цвёрдыя белыя пухіры, камары лезлі ў вочы і ў рот. Я махаў касою, а мяне секла і секла заедзь, нібы таго асуджанага на кару. Здавалася, яшчэ трохі — і можна звар'яцець ад укусаў, гулу, звону і невыноснага свербу.

Бязмужняя, чорная, як цыганка, Мінадора, усміхаючыся, пакрыквала на мяне: «Варушыся, хадзяйсцвеннік, бо з'ядуць, а нам атвячаць. З такім касцом да снегу не адкосімся!» Я ў той дзень быў самы няшчасны: ссечаны заеддзю, знясілены, прыгнечаны сваім становішчам і здзеклівымі кепікамі маіх падначаленых. Хацелася ўсё кінуць-рынуць і некуды бегчы. Але куды пабяжыш у намордніку з кароткаю шворкаю? Нават гнус апанаваў мяне аднаго, а жанкі косяць спакойна, глядзяць на мае пакуты і толькі пасміхаюцца. Высокая, касцістая, з мужчынскім тварам і буйным васпаватым носам Дуся Груенка падышла да мяне і спагадліва

сказала: «Трэба ж было надзець белую кашулю, акурыцца разам з намі, а так з’ядуць».

Я дацярпеў да абеду. Жанкі паселі на траве палуднаваць, а я не мог спыніцца ні на хвіліну, нарэшце ўзяў сваю торбачку з хлебам і двума драбкамі цукру і палез на высокую разлапістую асіну і з палёгкаю ўздыхнуў. Жанкі мае качаліся ад рогату. А мне было добра — авадні так высока не ўзляталі. Я выціраў гарачы пот, змешаны з крывёю ад укусаў. Злазіць было страшна, але трэба зноў ісці на пакуты. Гэта быў дзень кары. Успомню цяпер, і працінае боль і сверб. Потым апранаўся ў светлае, акурваўся, мазаў рукі дзёгцем, і мы даволі хутка дакасілі свае дзялянкі. Калі пачалі звозіць на валакушах сена да стога, зноў з мяне пакпіла Мінадора: «Хадзяйсцвеннік, давай баганы». Я пацiснуў плячыма і развёў рукамі: што такое баганы, пачуў упершыню. «Навошта ж наймаўся, калі і баганоў не ведаеш?» Выручала тая ж добрая і спагадлівая Дуся: узяла сякеру, паказала тры рагатыя асінкі, мы ссеклі іх, паставілі казялкамі і на іх пачалі накладаць сена, каб з сярэдзіны яго прадзімала ветрыкам. Работа ў нас ішла спорна: у тайзе, як вялікія шаломы, стаялі школьныя стагі, жанкі больш не кпілі з мяне, нават палагаднела злосная на ўсіх Мінадора.

Адкасіўшыся, я сядзеў у завозні — перацягваў хамут, ушываў старыя аброці. Хоць было і лета, дырэктар сабраў усіх настаўнікаў. На канікулы ніхто не раз’язджаўся, бо не пускала гаспадарка: соткі, гароды, дровы, сена. Я здзівіўся. Відаць, нешта тэрміновае. Праз паўгадзіны Яўген Паўлавіч зайшоў да мяне. Патаптаўся, паглядзеў на маю работу і неяк збянтэжана загаварыў: «Ведаеце, толькі што ў газетах апублікавана выдатная праца таварыша Сталіна: «Марксізм і пытанні мовазнаўства», і ёсць загад райана тэрмінова вывучыць яе і прымяняць пры выкладанні ўсіх прадметаў. Мы чыталі, чыталі і заблыталіся ў гэтых індаеўрапейскіх мовах, у тэорыі Мара. Я — гісторык. Гэтага мы не праходзілі. Можа, вы дапаможаце разабрацца ў гэтых прамудрасцях? Хадзем. Там ужо чакаюць настаўнікі». Я паглядзеў на разгубленага дырэктара і з усмешкаю спытаў: «Не баіцеся, што саб’ю вас з марксісцкіх пазіцый? Я якраз вывучаў мовазнаўства па Мару». — «Не ўдасца, — усміхнуўся Яўген Паўлавіч, — марксізм я ведаю добра. Калі трэба, падпраўлю».

Я прызнаўся, што працу Сталіна прачытаў уважліва і самае істотнае падкрэсліў. З-пад бэлькі дастаў газету, і мы пайшлі ў настаўніцкую спасцігаць глыбіні новых адкрыццяў у

мовазнаўстве. Нават Наталля Іванаўна глядзела на мяне не так пагардліва і калюча. Усе слухалі ўважліва мае каментарыі, але ніхто не ўяўляў, як увязаць мовазнаўства з батанікай, фізікай, хіміяй, з табліцай множання. А інструкцыя патрабавала безагаворачных увязак.

Не ведаю, правільна ці не я сказаў, што сувязь мовазнаўства з любым прадметам вымагае высокай культуры мовы кожнага настаўніка, а значыць, і вучня, шырокага мыслення, дасканалага валодання прадметам, агульнага моўнага і арфаграфічнага рэжыму.

## ЧАТЫРЫ СЛУПЫ ДА СУСТРЭЧЫ

Лісты з дому прыходзіді даволі часта. Хоць дзе той быў дом? Дачка з дзедам гаравалі ў катушку, выгараджаным на кухні колішняй нашай кватэры, жонка за дваццаць кіламетраў ад іх кватаравала ў бурклівай адзінокай бабулькі, таксама ўдавы 37-га года.

Не дом быў, а сапраўднае раскіданае гняздо.

Жонка суцяшала і абяцала ў канцы ліпеня ці пачатку жніўня адведаць мяне. Я лічыў дні. Паштоўкаю паведаміў адрас у райцэнтры, дзе яна можа знайсці прытулак і ўвагу. Паштоўкі ішлі хутчэй і меней цікавілі нашых шэфаў.

Дні складаліся ў тыдні, але не было ні маёй госці, ні вестак з дарогі. Бяссонныя ночы высушвалі душу і мазгі. Якія жахі толькі не вярзліся! Колькі бясследна знікала людзей у дарозе? Успомнілася, як Алю ледзь не скінулі бандыты з цягніка, калі ехала пасля вайны да мяне ў лагер. Таму ні спаць, ні піць, ні есці не мог. Ад пакутлівых думак можна рэхнуцца. Кожную раніцу глядзеў на неба і маліў у яго літасці, бо, як толькі задажджыць, раскіснуць таежныя дарогі, у наш бярлог ніякімі сіламі не прабіцца.

Пакуль стаяла пагода, яшчэ верылася ў сустрэчу. На тыдзень згадзіў пакойчык у ветлівай і ласкавай бабкі Вяткінай, а яна кожны дзень дапытвалася: «Какие новостя-то есть, сказывай. Матри, паря, поди, увел твою беленькую какой ни на есть чорный кабказец». І падкідала мне новую пакуту: пасля Айчыннай вайны па амністыі распаўзліся па краіне крымінальнікі, шасталі па цягніках, рабавалі, забівалі, скідалі з падножак.

А як задажджыла, я ўпаў духам зусім. Напаўзлі нізкія цёмна-шэрыя хмары з раскалмачанымі закрайкамі. Бясконца цадзіў і цадзіў нудны і спорны дождж. Ён заліў маю апошнюю надзею.

Знясілены ад дум і трывог, коўзаючыся нібы па намыленай сцежцы, я ішоў у сваю завозню. Нечакана нехта моцна пастукаў у раму. Праз адчыненую фортачку гукнуў паштавік Мікалай Рэдзькін: «Толькі што з райцэнтра званіла ваша жонка. Яна там чакае на пошце». Я аслупянеў. Як у такую залеву і бездараж яна магла дабрацца? Доўга не думаючы, пайшоў ёй насустрач. Я не ішоў, а бег па калюжынах і выбоінах гразкай і ліпкай дарогі. Абапал пад дажджом шапацела намоклае лісце, ігліца лістоўніц і елак іскрылася дробнымі каралямі дажджынак. У скронях татахкала ад хвалявання і шпаркай хады, думкі круціліся, як на калаўроце, не верылася, што сёння сустрэну сваю «дзекабрыстку», думаў, як дабярэмся да Біязы. Трывогі змянілі ўспаміны — перад вачыма праходзіла маё кароткае, такое заблытанае і цяжкае жыццё. Не пакідала адна думка: за што? Няўжо да скону гараваць у гэтай глушэчы з кляймом палітычнага злачынцы пад пільным наглядам жорсткасці і недаверу?

Самае крыўднае — адчуваць бездапаможнасць, пераканаць людзей, знаёмых, якія цябе ведалі і верылі табе, што ты ні ў чым не вінаваты.

Следчыя, пракуроры, суддзі даўно ўпэўніліся ў гэтым, але страх за сваю шкуру штурхае на злачынствы, на здзекі, на знішчэнне сумленных людзей. У нашай планавай гаспадарцы і яны маюць свой план, і выконваюць яго сабе на радасць, людзям на гора.

На дарозе — ніводнай жывой душы. Гарланяць на дождж вялізныя мокрыя вароны, часам прашалясціць у траве змяя. Гэта ж непадалёк адсюль, у даспелых малінніках, мядзведзь адгрыз сабе лапу. А чалавек здольны на такое? І ўспомніўся наш даваенны лясны лагер: дзень на павале, ноч грузім пульманаўскія вагоны шпаламі і дрыўмі, сёрбаем баланду з атрубей і турнэпсу, дахадзягі б'юцца каля памыйніц за гнілыя галовы траскі. Над варотамі лозунг: «Лучковая пила и канадский топор — кратчайший путь к освобождению!» Пад ім праходзяць змардаваныя панурыя брыгады з піламі і сякерамі. Да агароджы ступіў яшчэ дужы бялявы і ціхі Вася Буянаў, паклаў левую далонь на слупок і з усяе сілы секанўў вострым тапаром. Кісць адскочыла на мокры пясок, і пальцы сціснуліся ў кулак. Буянава забралі ў санчасць, а потым у цэнтральны ізалятар, судзілі за «членовредительство»

і да неадбытага тэрміну дадалі яшчэ дзесяць гадоў. Ён страціў руку, але затое выжыў, адседзеў да «званка», вызваліўся і быў рэабілітаваны не пасмяротна.

Я не магу адкараскацца ад страшных успамінаў. Хоць бы дзе жывая душа, хоць бы фурманка ўслед або насустрач. У такую нягоду ніхто не паедзе: на колы наліпае столькі чарназёму, што яны перастаюць круціцца, конь ідзе, як на катурнах, і можа скруціць нагу. А я іду подбежкам і сам дзіўлюся, як хутка мінаю і мінаю прыдарожныя слупы. Наперадзе іх застаецца чатыры. Чатыры слупы да сустрэчы.

Нейкі тупат насцярожыў. Азірнуўся і ледзь не ўмлеў: па ўтравянелай абочыне ў лёгкім вазку на знаёмым рыжым стаенніку ехалі двое ў зялёных плашч-палатках з нізка насунутымі капюшонамі. Першая думка — скокнуць у лес, але позна: мяне ўжо ўбачылі. Так, гэта мае гаспадары. Пазнаю нашага ранейшага ўпаўнаважанага лейтэнанта Траццякова і маладзенькага Пушыкава. Сэрца збіваецца з рытму. «Тп-р-р-у!» Параўняліся. Стаю, хачу прывітацца, а язык шорсткі, як суконка, не слухаецца. Усё ж нешта прамармытаў. Замест адказу Траццякоў пытаецца: «Куды спяшаемся?» Я лепячу, што прыехала жонка і недзе чакае пад дажджом. «А хто дазволіў?» Уключаецца Пушыкаў: «Вам вядома, што самавольная адлучка з месца пасялення лічыцца ўцёкамі, а за гэта... вас папярэджвалі?.. Правільна, 25 гадоў катаргі. Спяшаецеся за калючы дрот? Што будзем рабіць, таварыш лейтэнант?» Дзе мая была душа і ці была наогул, не памятаю, а Пушыкаў усё насядаў: «Ну што ж, вернемся, яго — у КПЗ і аформім справу, каб іншыя не бегалі».

Доўгае маўчанне. Стаю, як над прорваю. Спіхнуць ці ўтрымаюся? «Так і быць, — марудна цэдзіць Траццякоў, — ідзіце. Толькі адразу — у райаддзел да дзяжурнага. Скажаце, я дазволіў. Хай зробіць адзнаку ў дакуменце. Запомніце, гэта першы і апошні раз. Но-о-о!» — хвастануў каня ляйчынаю, і каламажка пакацілася па ўтравянелай абочыне.

Я адразу не мог сысці з месца. Глядзеў ім услед, і не верылася, што бяда мінавала і я вось-вось убачу сваю Алю.

Тайга парадзела. Абапал дарогі густыя зараснікі тальніку, ракітніку і глогу. Вось ужо відны нізкія берагі і павольная плынь шырокай ракі. Дарога крута ўзнімаецца на доўгі драўляны мост з пазелянелымі ад моху парэнчамі. Прыбаўляю ходу, амаль бягу, у мітульзе стаіць нейкая маленькая постаць. Ці не прывід? Яна! Яна! Вось ужо ўсміхаецца і бяжыць мне насустрач. Падхапіў

яе на рукі, маленькую, лёгенькую, як дзіця. Мы плачам абое, тулячыся мокрымі халоднымі шчокамі, і вусны адразу не знаходзяць вуснаў. Яна ад валасоў да падэшваў мокрая і настылая, рукі дрыжаць, а пабляклыя вусны шэпчуць нешта блытанае і пяшчотнае. Я расшпіліў сваю мокрую целагрэйку, з яе ідзе пара, і затуляю вузкія плечы, каб хоць трошкі іх адагрэць.

«Чаму ж ты не ў Лідзіі Яўсееўны?» — «Я не ведаю ніякай Лідзіі». Так і ёсць, паштоўка мая не дайшла. «Як жа ты дабралася ў такую нягоду? Дзе спынілася?» — «Доўга расказваць. Хадзем. Можа, хто пусціць у хату». Мы сыходзім з моста і ідзём гразкаю селавою вуліцаю. «Дзе твае рэчы?» — «Вось, — яна падняла маленькую сумачку. — Чамадан застаўся на машыне, а машына застрала недзе пасярод тайгі. Яе доўга пхалі, падмошчвалі ламачча і паленне, а грузавік садзіўся ўсё глыбей і глыбей. Шафёр цябе ведае. Ён з вашага калгаса, Іван Макараў». — «Як жа ты дабралася?» — «Так і дабралася. Пехатою. Пагрэлася каля вогнішча, спытала дарогу. Тут яна адна. З тайгі нікуды не звернеш. Узяла сваю сумачку і патупала. Дождж, тайга, камарэча, гразь. Чаравікі, поўныя слізкай твані, распаўзаюцца. Дайду да мастка цераз канаўку, накрыюся плашчом ад камарынага звону, адпачну і — далей. Так ноч і дзень. Часам апаноўваў страх: то застогне сава, то зваліцца з дрэва сухая галіна, то закрычыць драч. Хоць бы дзе вёсачка, хутар, хацінка. Нідзе жывое душы. Наўкол тайга».

Мы прыпыніліся каля райаддзела НКУС. Дождж сціх. Зайшлі ў вузкі калідорчык. У пакой дзяжурнага я шчыльна зачыніў дзверы, каб Аля не пачула, як ён будзе зняважліва са мною гаварыць. І не памыліўся. Маладзенькі прышчаваты сяржанцік чытаў мне натацыю, паказваў уладу: «Пакуль не вернецца лейтэнант, замкну ў цёмную і сядзі». Ён доўга яшчэ куражыўся, нарэшце зрабіў адзнаку ў «воўчым білеце» і гаркнуў: «Чашы!»

Аля заўважыла па мне, як мы пагаварылі з дзяжурным. Каб не думаць пра гэта, я распытваў пра яе падарожжа.

У райцэнтр яна прыбілася толькі раніцаю, стомленая, мокрая, па шыю ў гразі. Такую ніхто і на парог не пусціць. Дайшла да рэчкі, распранулася ў кустах, апаласнулася, пазмывала з адзежы гразь, нацягнула ўсё мокрае і пайшла на пошту званіць у Біязу. Чакала, чакала і пайшла на мост сустракаць. «Дзе ж ты так затрымалася?» — «Доўгая гісторыя, куды мы ідзём?« — «Да добрых і мілых людзей, у якіх ты павінна была спыніцца». І я расказаў, што дзве ўжо немаладыя інтэлігентныя жанчыны, сасланыя за расстраляных мужоў, патуляліся па чужых кутках і разам купілі

на ўскраіне сяла старую хатку, дагледзелі яе і дружна жывуць ужо каторы год. Лідзія Яўсееўна — выдатны педагог-універсал. Яна падцягвае па ўсіх прадметах гультаяватых дзетак мясцовага начальства, піша кантрольныя работы завочнікам, на тое і жыве. А сухенькая, іранічная і вострая на язык Вера Міхайлаўна займаецца гаспадаркаю. Праз далёкага сваяка ёй прысылаў грошы сын — бакінскі інжынер.

Хатка Лідзіі Яўсееўны і Веры Міхайлаўны стала гасцінным прытулкам, кансультацыяй па ўсіх трывожных праблемах, спавядальняю амаль для ўсіх ссыльных раёна. У ёй заўсёды нехта начаваў, абедаў; сюды заязджалі родзічы ссыльных. І ўсім было месца, увага, добрае слова і кавалак хлеба.

Тут перабывалі жонкі і дзеці былых партыйных работнікаў, асуджаных па «ленінградскай справе». Амаль кожны дзень сюды заходзілі Ракоўская і пляменніца Мартава — Вікторыя Сяргееўна Волкава. Яна ніколі не бачыла свайго апазіцыйнага дзядзькі. Закончыла брусаўскі літаратурны інстытут, працавала ў «Комсомольской правде», а з 1937 года за такое небяспечнае сваяцтва разам з сястрою асвоіла турмы, лагерныя баракі і вось атрымала вечную ссылку. Алена Хрысціянаўна Ракоўская загадвала літаратурнаю часткаю вядомага маскоўскага тэатра, сябравала з рэдактарам «Нового мира» Гронскім, паэтамі Паўлам Васільевым і Уткіным. Заходзіў да Лідзіі Яўсееўны і Сава Савіч Марозаў. Так, так, сын таго славутага фабрыканта і мецэната. Хадзіў ён няголены, у чорным кажушку і нешта рабіў у раённым зямельным аддзеле. Гэта было найвялікшае шчасце. Амаль усе ссыльныя перабывалі ў гэтай утульнай хатцы на ўскраіне раённага сяла.

Сюды мы і прыйшлі з Аляю. Яна нясмела стала ў парозе і адразу апынулася ў абдымках звонкагалосай Веры Міхайлаўны. «Я вас такою і ўяўляла, беленькай і зграбнай. Дзе ж вы прападалі? Мы чакалі кожны дзень. Праходзьце, распранайцеся. О-о-о! Вы ж мокрая наскрозь. Ліда! Сустракай госцю. Нясі што-небудзь цёплае і сухое. Давай валёнкі».

Са сваёй баковачкі Лідзія Яўсееўна вынесла халат і валёнкі. Мая сарамлівіца разгубілася зусім, калі тонам гаспадыні Лідзія Яўсееўна загадала: «Вера, грэй чай і накрывай на стол». Ёй, як у старой п’есе, падыграла Вера Міхайлаўна: «Шампанскае і ўстрыцы падаваць? Ну і, вядома, какаву «Золотой ярлык» можна?» — «Вера, не паяснічай. Некалі будуць і шампанскае і «Золотой ярлык», — адпарыравала Лідзія Яўсееўна. «Вера, без

веры і жыць не варта. Вы мяне прабачце на некалькі хвілін. У мяне вучань». І знікла за няшчыльнымі дзвярыма.

Аля адразу адчула, якая тут простая і сардэчная атмасфера. Яна пераапранулася, абула цёплыя валёнкі, пасінелы твар паружавеў, заіскрыліся вочы. Нам было добра і ўтульна, як у самых блізкіх родзічаў. Яна паціху расказвала пра дачку, пра бацьку, пра сваю работу ў Пагосце. У Старобіне была доктарам мая стрыечная сястра і часам памагала жонцы свайго няшчаснага брата.

Калі на стале з’явіліся гарачая бульба і чай, уся ўвага была звернута на Алю. Усе чакалі навін, верылі ў розныя меркаванні і чуткі, спадзяваліся, што ў некага прачнецца сумленне і скончыцца гэты кашмар. «Ну як там Масква?» Ёй не было калі разглядаць яе. Начавала на вакзале, выстойвала доўгія чэргі ў розных прыёмных. Адзінае, што паглядзела, — выстаўку падарункаў таварышу Сталіну да яго сямідзесяцігоддзя. Такога багацця і прыгажосці нават і ўявіць немагчыма. А то абівала парогі ў Міністэрстве асветы, у прыёмнай КДБ, Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Прасіла аднаго: каб мне дазволілі працаваць у школе, яна паказвала выпіску з пастановы аб зняцці з мяне судзімасці. Яе разглядалі, круцілі галовамі і пасылалі ў другую такую ж глухую да гора чаргу. Нарэшце сказалі, што пры ўсёй няхватцы настаўнікаў у Сібіры выкладчыцкую работу ссыльнаму даверыць не могуць.

Перад ад’ездам яна прыйшла на Красную плошчу. Доўга глядзела на напяты ветрам Дзяржаўны сцяг над зялёным купалам, на званіцу Івана Вялікага, на далёкія вокны крамлёўскіх палацаў і думала: недзе там ходзіць у мяккіх ботах, магчыма, пазірае на горад і плошчу вялікі і мудры правадыр. Чаму ж ён не ведае, колькі пакутуе невінаватых людзей, гатовых жыццё аддаць за Радзіму. Яго адно слова — і тысячы стануць шчаслівымі, а шчасце — спакойна жыць і сумленна зарабляць свой кавалак хлеба замест пайкі. Яна выстаяла доўгую чаргу да Леніна. Прайшла і ледзь стрымала слёзы.

«Як выглядае Масква? Што людзі гавораць у чэргах каля Вярхоўнага Савета і Пракуратуры?» — дапытвалася Лідзія Яўсееўна. У чэргах людзі стаялі пахмурныя і маўклівыя, кожны са сваім горам, а давяраць яго незнаёмаму не адважваліся.

Білет Аля ўзяла не да Барабінска, а да Новасібірска, каб не думаць, што нечага не зрабіла, паехала ў вобласць. Праз пяць дзён была ў сталіцы Заходняй Сібіры. Куды ісці? З Чырвонага праспекта выпадкова звярнула на вуліцу Дзяржынскага і

апынулася каля шэрага будынка абласнога НКУС. Штурхнула цяжкія дубовыя дзверы з тоўстаю пакручастаю ручкаю. Слязьмі і просьбамі прабілася да генерала Какучаева. Увайшла, а сказаць нічога не можа: раскрывае рот і захлынаецца паветрам. Ён даў вады, супакоіў, прапанаваў сесці, уважліва выслухаў блытаны і таропкі расказ пра нашы пакуты, прачытаў пастанову аб зняцці з мяне судзімасці і здзівіўся, чаму мяне другі раз арыштавалі і выслалі сюды. Адразу некаму пазваніў. Увайшоў маладзенькі лейтэнант. «Гэты малады чалавек праводзіць вас у аблана да таварыша Андросава. Я яму перадам, што не пярэчым, каб ваш муж працаваў у школе. Спадзяюся, усё будзе добра». І нават праводзіў з кабінета. Яна не верыла сваім вачам. Забягу трошкі наперад: пазней да нас дакацілася чутка, што генерала Какучаева самога арыштавалі. Праўда ці не, сцвярджаць не магу. Чаго толькі не бывала.

Расказаўшы пра свае клопаты, Аля з сумачкі дастала пашпарт, а з яго — загад Новасібірскага аблана аб прызначэнні мяне выкладчыкам чарчэння і малявання ў Біязінскай сямігадовай школе.

«Чаму чарчэння і малявання?» — здзівіўся я. «Дазволіць выкладаць мову і літаратуру не адважыўся нават спагадлівы і вельмі інтэлігентны Андросаў. «Літаратура — гэта ж ідэалогія. Як ты не разумееш?» Я многага не разумеў. «А калі на месцы будуць перашкоды, загадчык аблана даў тэлефон свайго намесніка Кулагіна. Ён разбярэцца і ўсё ўладзіць».

Я трымаў вузенькую жаўтаватую паперку, як тапелец трымаецца за выратавальны круг. Важна зачапіцца ў школе, толькі пачаць, а там будзе відно. Хацелася стаць на калені перад гэтай маленькай нязломнай жанчынай, з якою нас звёў горкі лёс на дарогах пакут і зняваг. Пры людзях на сантыменты не адважыўся. Юрыдычна мы з ёю не былі мужам і жонкай, і прозвішчы ў нас розныя, але любоў, адданасць, сумленне і вера звязалі нас мацней за самыя прыгожыя пасведчанні аб шлюбе. Нават такая наша прадбачлівая асцярожнасць не выратавала яе ад ганенняў і адміністрацыйных рэпрэсій.

Пасля вячэры і доўгіх размоў нам адвялі «дзяжурны» тапчан. Але нам было не да сну, пакуль мая «дзекабрыстка» не расказала пра ўсё, што перажыла пасля майго арышту, як рэагавалі мае вучні і настаўнікі, многія спагадалі, не верылі ў маю віну, але не кожнаму пра гэта гаварылі. Былі і такія, што лічылі мяне хітра замаскіраваным злачынцам і прыдумлялі неверагодныя гісторыі.

Раніцай я паспяшаўся ў райана. Ім загадваў добры педагог Іосіф Нічыпаравіч Маеўскі, нашчадак даўніх перасяленцаў з

Беларусі. Я моўчкі падаў яму сваю выратавальную паперку. Ён пакруціў яе з усіх бакоў, утаропіўся ў мяне. «Што ж, загад ёсць загад. Яго мы абавязаны выконваць... А вы ведаеце, якая ў вас будзе нагрузка? Пяць гадзін на тыдзень. З такою нагрузкаю трымаць адзінку, самі разумееце, мы не можам. Дзіўна, што аблана гэтага не ведае».

Я стаяў знямелы. Вось табе і радасць. Сэрца зайшлося, кроў ударыла ў скроні. Ці ж трэба было абіваць парогі прыёмных, плакаць, выпрошваць літасці, суткамі адной пад дажджом ісці па тайзе, рызыкаваць жыццём, каб атрымаць паперку, якая нічога не мяняе ў нашым пакутніцкім лёсе?

Маеўскі заўважыў мой адчай. «Т-э-э-кс... Што ж з вамі рабіць? Якую замежную мову вывучалі ў інстытуце? Нямецкую? У Біязе ніколі не выкладалася замежная мова. Па сетцы гадзіны ёсць. Яны прападаюць. Але самі вырашыць мы не можам. Калі дазволіць аблана, пярэчыць не будзем». І ён мне падаў мой звялы загад.

Я кінуўся на пошту. Заказаў размову з таварышам Кулагіным. Хвіліны чакання здаваліся вечнасцю. Некалькі разоў тэлефон быў заняты, то не адказваў. Нарэшце, па абедзе, пачуў у трубцы прыемны барытон. «Так, так. Добра. Зразумела. Папрасіце тэлефаністку пераключыць мяне на Маеўскага і самі ідзіце да яго». Я акрыяў. Дзе там ісці, бег бегма. Потым многа разоў, калі мяне здымалі, таварыш Кулагін мяне пазнаваў па голасе і заўсёды ратаваў.

Толькі па дарозе ў райана я заўважыў, што неба ачысцілася ад хмар, свяціла сонца, падсохлі сцежкі, і на душы пасвятлела.

Маеўскі мне сказаў, што выкладанне нямецкай мовы прыйдзецца пачынаць з алфавіта ва ўсіх класах, а цяпер я яму нарабіў клопату — здабываць падручнікі і праграмы. Ён даў мне копію загада для дырэктара школы і развітаўся без асаблівай ветлівасці.

Не абыходзячы лужыны, пераскокваючы праз канаўкі, я бег да сваіх з радаснаю навіною. Мяне заўважылі праз акно, і ўсе выйшлі насустрач. Важны быў прэцэдэнт — ссыльнаму дазволілі працаваць у школе, і ўжо з'ўляліся надзеі, строіліся меркаванні на «пацяпленне», на палёгкі ў рэжыме. Усе арыштанты жывуць суцяшэннямі і спадзяваннямі, нават засуджаныя да смерці і ў апошнюю хвіліну яшчэ разлічваюць на літасць.

На мяне з надзеяю глядзелі тры жанчыны. Я падняў загад, напісаны ад рукі загадчыкам райана. Навіна стала агульнай радасцю. «Дзякаваць Богу, лёд крануўся. Калі яны ўсіх настаўнікаў, што возяць сілас і рэжуць дровы, пашлюць у школы, будуць

шчаслівыя дзеці і багацейшаю на адукаваных людзей Сібір», — з імпэтам сказала Лідзія Яўсееўна. Уяўляю, якая б ад яе аднае была карысць у любой школе, а для яе — найвялікшы ратунак.

Вера Міхайлаўна некага ўгледзела на вуліцы, пастукала ў шыбу і памахала рукою. Сагнуўшыся ў нізкіх дзвярах, увайшоў высокі сутулаваты мужчына ў вышыванай кашулі і светлай кепцы. Шырока расстаўленыя вочы глядзелі праніклівa і іранічна, ніжняя губа вытыркалася наперад, нібы ён заўсёды ўсміхаецца. Нас пазнаёмілі: Іван Андрыянавіч Дзеравянка дваццаць пяць гадоў выкладаў мову і літаратуру ў школе Данбаса. За тое, што нешта расказаў цікаўным вучням пра Хвылёвага і Васіля Блакітнага, праслалі сюды на перавыхаванне. Яго з адным лёгкім у калгас не ўзялі. Пасланяўся па сяле без работы і прыстроіўся ў арцелі накшталт нашага «Прагрэса». Называў ён яе не інакш як «Рогі і капыты». Былі ў арцелі трактары і грузавікі, лесарубы недзе пляжылі тайгу, а летам сплаўлялі па Тартасе, няблага зараблялі, а начальнік вытворчасці і старшыня арцелі кожны дзень набіраліся да немачы. Не маглі распісацца ў нарадзе і зводцы. Іван Андрыянавіч ім параіў заказаць факсіміле, дык і тое яны часам ставілі дагары. Іван Андрыянавіч быў нарміроўшчыкам і пісарам, складаў «дутыя» справаздачы і расказваў пра сваю «шарагу» з едкім гумарам.

Да майго прызначэння Дзеравянка паставіўся скептычна: «Можа, гэта паказуха, гульня ў справядлівасць. Яны ж гавораць, што карыстаемся грамадзянскімі правамі, хоць за рэчку схадзіць без дазволу «не положено». А калі даведаўся, што мой лёс вырашыла паперка пра зняцце судзімасці, развёў рукамі: «У наш дэмакратычны і самы шчаслівы век усё вырашае паперка, а чалавек — прышпілены да яе скрэпкаю, дадатак. Праўду кажуць: без бумажкі ты букашка, а з бумажкай чалавек. У мяне здымаць не было чаго, ніхто не судзіў. Паперка, меншая за гэтую, — «слухалі... пастанавілі саслаць навечна». І саслалі. Вось і хаваю канцы злачынстваў п’яніц, пакуль разам з імі не пасадзяць. Вось тады будзе за што. Але наўрад іх зачэпяць, з пракурорам у рыбу разам ездзяць. А я, між намі кажучы, прашуся вартаўніком у другую шарашкіну кантору».

Калі загаварылі пра вечную ссылку, Іван Андрыянавіч прыжмурыўся, азірнуўся і ціха сказаў: «Як толькі гэты (ён указальным пальцам правёў па верхняй губе) адправіцца ў пекла, настане «фініта ля камедыя». От пабачыце. Мы яшчэ будзем людзьмі. Важна цяпер нічога не растраціць чалавечага. Таму не

думаю тут асталёўвацца. Уважліва слухаю радыё і чакаю, калі ён захлынецца крывёю і зайграюць жалобны марш».

Лідзія Яўсееўна ўскочыла, замахала рукамі. «Я забараняю ў маім доме такое гаварыць! Вы ведаеце, што за гэта даюць?» — «Ведаю, Лідзія Яўсееўна. Але ж я нікога не назваў. Мой старшыня з вусамі. Я меў на ўвазе яго. І спадзяюся, тут сексотаў няма». Ён пацiснуў мне руку, пажадаў поспехаў і між іншым сказаў: «Пабачым, як вас будуць дзяўбці будучыя калегі». Цырымонна развітаўся і выйшаў з хаты. Усталявалася цішыня. «Вось так заўсёды. З ім бывае страшна гаварыць». Насцярожылася Лідзія Яўсееўна. «А хіба ён не праўду гаворыць? Хіба ты не так думаеш? Толькі мы баімся саміх сябе. Страх паралізаваў усіх. І не толькі тых, што сядзяць. У мільёнаў пакутнікаў ёсць бацькі, жонкі, дзеці, браты, сёстры, дзядзькі і цёткі, і ўсе дрыжаць ад жаху перад анкетамі, спецаддзеламі, блакітнымі фуражкамі, усе трымаюць на чорны дзень сухары, а на сходах да замарачэння ляскаюць у ладкі, устаюць праз кожныя пяць хвілін, пачуўшы імя вялікага і мудрага, у кожнага «ўра» і кляп у роце. Дзе вы бачылі, каб дзвесце мільёнаў думала аднолькава? Навошта ім думаць, калі за ўсіх думае адзін».

«Вера, замаўчы! Каб я нічога падобнага не чула», — вырачылася Лідзія Яўсееўна. «Бяжы далажы Сокаву, што я контра. А я з пялёнак камуністка. Мой бацька быў лепшым другам Кірава. Мама нарадзіла мяне ў енісейскай ссылцы. Я дваццаць пяць гадоў у партыі, партыйнай і памру. Каб убачыў Ленін, што нарабіў Коба са сваімі апрычнікамі, яго хапіў бы другі ўдар».

Мы з Аляю прытаіліся, як мышы. Такога ніколі не чулі, а калі нешта падобнае думалі, баяліся нават прызнацца сабе.

Яшчэ адна акалічнасць трывожыла мяне: маляваць я так-сяк маляваў, чарціў арнаменты, а нямецкую мову за ўсе свае пакутныя гады забыўся канчаткова, ды і вучылі мы яе ў трыццатыя гады, абы атрымаць «здавальняюча» ў старога геносэ Зэмеля. Успомніў: дэр, дзі, дас, гутэн таг і гутэн абэнд, фраў, мэдхен. Бадай і ўсё. Як жа вучыць таму, чаго не ведаеш сам? Былі б падручнікі, граматыка, да пачатку заняткаў падвучыўся б. А што зробіш з пустымі рукамі? Сваёй трывогай я падзяліўся з Лідзіяй Яўсееўнай. Яна мяне суцешыла. Дала падручнік для пятага класа і маленькі нямецка-рускі слоўнік. Абяцала памагаць на першых парах. О, святая душа! Як я быў ёй удзячны тады і цяпер.

Каля пошты мне сустрэўся зарослы, запырсканы гразёю наш калгасны шафёр Іван Макараў. «Ці жывая хоць твая баба? Ну і шустрая. Гэта ж трэба — ноччу адна рванула праз урман, а каб

«хадзяін» дзе нарваўся, і касцей не знайшлі б. Ну і баба, ну і баба. Дзе хоць яна? Чамадан яе цэлы. Забярэш ці разам паедзем?»

Праз дзе гадзіны мы з Аляю калываліся ў кузаве старога «ЗІСа» па біязінскай дарозе.

Наша новая гаспадыня, бабка Вяткіна, сустрэла нас стрыманаю сібірскаю ўвагай: паставіла самавар, шаньгі з чаромхаю і тварагом і місу буйной, духмянай і салодкай маліны, як яна казала: «скуснай і жырнай». Распытвала, як жывуць людзі ў Расеі, колькі там даюць на працадзень. Праз паўгадзіны яны ўжо шчабяталі, як даўнія знаёмыя. Бабка Вяткіна мне прызналася: «Паглянулася твая маладуха, хоць ташчая і дробненькая».

Назаўтра я з'явіўся да дырэктара ў новай якасці. Здалося, што ён шчыра ўзрадаваўся. Маеўскі яго папярэдзіў па тэлефоне, і ён ужо знайшоў на маё заўхозскае месца нашага ссыльнага Мікалая Шчарбакова. Ён адседзеў сем гадоў за тое, што трапіў у акружэнне, і проста з лагера — у вечную ссылку. Здатны да любое работы, высокі шэравокі арловец быў задаволены за сябе і за мяне. Потым жылі з ім у добрым суседстве, дапамагалі адзін аднаму чым маглі і цяпер зрэдку абменьваемся лістамі.

Пасля дажджоў і слаты распагодзілася: па-летняму смаліла сонца, падсохлі сцежкі, а ноччу часам бялела трава ад ранніх прымаразкаў. Днём мы хадзілі на шырокую ціхаплынную Тару, купаліся ў не надта цёплай вадзе, ляжалі ў густой сакавітай траве пад ласкавым сонцам, нібыта і не было пакут, трывог і гора. Кожны думаў, як нам жыць далей, але ці мог я цягнуць яе ў вечную ссылку, у гэты суровы таежны край з саракаградуснымі маразамі, сумётамі па самыя стрэхі, з непраходнаю бездаражжу, з лютаю заеддзю з вясны да самых замаразкаў. Яна ж была вольная. Магла вырашыць свой лёс сама. Успомнілася, як некалі ў лагеры да майго лепшага таварыша прыехала на спатканне жонка, прывезла перадачу, пашчабятала пра навіны, а развітваючыся, сказала: «Не дакарай мяне сурова. Я выходжу замуж. І ў сына будзе іншае прозвішча, каб ніхто не пароў вочы, што бацька вораг народа». Знямелы мой друг толькі заплакаў, бо страціў апошнюю павуцінку, што звязвала з жыццём і іншым светам. Я не ўяўляў існавання без Алі і дачушкі. Дзеля чаго тады жыць, на што спадзявацца? Няхай жывуць адсюль за тысячы кіламетраў, але застаюцца мне самымі роднымі і блізкімі назаўсёды.

Аля была катэгарычнаю ў сваіх намерах: наступным летам з дачкою і бацькам пераехаць сюды зусім. Няхай сабе і навечна.

Вечарамі мы заседжваліся ў Элы Рыгораўны і Ганны Якаўлеўны. Яны былі асабліва ўважлівыя і ласкавыя з Аляю.

Чаго толькі не ўспаміналі, пра што не гаварылі ў тыя вечары! Абедзве некалі былі заўзятыя тэатралкі і ахвотна расказвалі пра спектаклі Станіслаўскага, Меерхольда, Таірава і Зубава, пра баталіі Маякоўскага ў Політэхнічным музеі, распытвалі пра сённяшнюю Маскву і жыццё на волі.

Жнівень ішоў на спад, канчаліся канікулы. Аля збіралася ў Беларусь. Я не кажу — дадому. Дому ні я, ні яна не мелі. Былі толькі тапчаны ў чужых кутках. Нас гнаў па свеце вецер нягоды, а мы цягнуліся адно да аднаго і не логікай, а інтуіцыяй верылі ў нейкае далёкае шчасце. Без веры жыць не варта і немагчыма. Мы думалі адно і тое ж, а гаварылі пра нейкія будзённыя дробязі, радаваліся сіняму-сіняму небу, ласкаваму сонцу, шэлесту надрэчнага тальніку і чаромушніку, павольнай плыні, што кацілася да берагоў далёкага Іртыша. Бачыць і чуць зямную прыгажосць — вялікае шчасце, а быць поруч з адданым, любімым і шчырым чалавекам — шчасце ўдвая. Але з кожным днём набліжалася расстанне. На колькі? Ніхто не ведаў.

Я дамовіўся з тым жа Іванам Макаравым, што ён, едучы па генератар для калгаснай электрастанцыі, давязе да Барабінска і маю жонку. Ён яшчэ пажартаваў: «Давязу, калі зноў не ўцячэ». Ужо быў складзены чамаданчык, і мы прыліплі да акна ў чаканні машыны. У дзевяць гадзін, як дамовіліся, яе не было, не прыйшла ў дзесяць і ў адзінаццаць. Ужо не сядзелася, і я пабег на калгасны двор. Іван вазіў на тачок збожжа. Тым часам дарожны пыл, як воспінамі, пабілі буйныя кроплі дажджу. Яны капалі спарней і спарней. Я ўжо не ішоў, а хутка бег на ток, каб пабачыць шафёра. На паўдарозе ён прытармазіў машыну: «Нічога, браце, не будзе. Зранку на ток, а цяпер сам бачыш, — ён тыцнуў чорным пальцам у хмарнае неба, — зноў кукаваць на дарозе. Няхай пагуляе, пакуль распагодзіцца».

Я павольна паплёўся ў сяло. Сцежкі сталі ліпкія і коўзкія ад спорнага дажджу. Не спяшаўся, каб прытрымаць гэтую горкую навіну. Аля сустрэла яе спакойна: як толькі забарабаніў дождж, самае неабходнае склала ў сетачку, надзела плашч і чакала мяне развітацца. Мне адняло мову ад яе намеру. Угаворваў, упрошваў, трымаў сілаю. Яна хапалася за клямку і тлумачыла: калі спозніцца на працу, звольняць і яе, загінем з голаду, а дарога знаёмая — дайшла сюды, дойдзе і назад. «Пусці! Дарэмна трацім час. Можа, дзе-небудзь пад’еду», — суцяшала мяне. Так правалэндаліся да паўдня, а дождж ліў як з луба. Аля сядзела каля акна ў плашчы з сетачкаю на каленях. Мы толькі паціху ўздыхалі. Калі адсюль удасца выбрацца, не ведаў і сам бог. На

Урэччы засталася пяцігадовая дачушка з дзедам на яго мізэрнай пенсіі, у мяне пакуль што ніякіх заработкаў не было, наш адзіны заработчык застраў тут на няпэўны час. Можа страціць работу там і не знайсці тут. Што будзем рабіць? Як жыць? Апрача калгаса, няма за што зашчаміць рукі, а плата там вядомая. І ўсё ж я затрымаў сваю няўмольную госцю і ўгаварыў пайсці да дырэктара школы даведацца, ці знойдзецца тут хоць гадзін васемнаццаць для яе матэматыкі.

Ісці было ўжо амаль немагчыма. Коўзкі чарназём, як смала, засмоктваў падэшвы і наліпаў на абцасы. Выбраліся на ўтравянелую паскоціну і пайшлі задамі. Нізкае хмарнае неба, нудны дождж, убогія шэрыя хаты з землянымі стрэхамі, крывыя, абы-як скіданыя платы, ніводнай прысады, ніводнага дрэўца ў сяле — усё наганяла такі сум, што хацелася галасіць і бегчы куды вочы глядзяць.

Яўген Паўлавіч выслухаў нашу бяду і пачаў цярпліва дазвоньвацца да райана. Пагаварыўшы з Маеўскім, перадаў яго згоду даць работу матэматыкам, калі будзе адмацаванне і дакументы з ранейшай школы. Развіталіся мы з дырэктарам без асаблівага энтузіязму. «Хто ж мяне там адпусціць? Амаль усе школы не ўкамплектаваныя. Сама, можа б, яшчэ адпрасілася, а пісаць... дарэмна». І тут я ўхапіўся за апошнюю саломінку: у Старобіне даўно працуе доктарам мая стрыечная сястра. А хто ў раёне не ўважыць доктару? Зайшлі на пошту, і я адбіў у Старобін падрабязную тэлеграму.

Казаць, як мы жылі, што думалі, як суцяшалі адно аднаго, проста немагчыма. Часцей моўчкі ўздыхалі, а думы былі самыя чорныя: ну, адпусцяць, тут возьмуць на работу, а як жыць? У нас — ні пасцелі, ні міскі, ні лыжкі, і нідзе нічога не купіш, ды і купіла таго не было.

Дні міналі марудна, як у чаканні прысуду. Штодня хадзіў на пошту, з надзеяй глядзеў на Рэдзькіна і моўчкі выходзіў. Ды і пошта ў гэтую бездараж не хадзіла. Адзіная сувязь з раёнам — тэлефон. А там тэлефаністка магла забыць перадаць зменшчыцы, а ў тае сваіх клопатаў хапае. Хадзіў, нібы нешта згубіўшы. І вось — стук у шыбу. Узбягаю па коўзкіх крутых усходцах. Думаеш самае горшае, а Рэдзькін капаецца ў паперах, пытаецца ў дзяўчыны, дзе тая тэлеграма. Божа мой! Хвіліны б'юць па галаве. Нарэшце дрыжыць у руках напісаны ад рукі тэкст: «Адпусцілі. Справа выслана авіяпоштай. Маруся». Да Алі бег як падстрэлены. Яна выслухала спакойна. Глядзела і маўчала. І я падумаў: хацела ўсё ж вярнуцца ў сваю школу, бліжэй да

дачкі і бацькі, а я ёй адрэзаў шлях. Вінаваты! Вінаваты! — ледзь не загаласіў я. Як мог вырашаць яе лёс па сваёй волі, а волі ў мяне аніякай няма, што я магу вырашаць у сваім бяспраўным становішчы? Часам трывожыла, ці не думае Аля, што заманіў яе сюды і эгаістычна трымаю пры сабе, а яна і не збіраецца пахаваць маладосць у гэтай глушэчы, далёка ад сваякоў і родных мясцін. Мы абое нудзіліся па дачцэ і не ведалі, калі і як сустрэнемся з ёю.

Да бабкі Вяткінай я ўпрасіўся толькі на тыдзень. Прайшло больш. Кватарантаў яна трымаць не збіралася, чакала з бальніцы свайго старога і без залішняй дыпламатыі загадала шукаць сабе «фацеру». І пайшоў я ад хаты да хаты пытаць сабе прытулку. Не ў кожнай з іх было дзве палавіны, а ў прастарнейшых дзетак вялося як бобу. Аднаго яшчэ пускалі, а з сям'ёю бралі не вельмі. І ўсё ж у канцы сяла злітавалася дзябёлая ўдава Дуня Шышкіна. З сынам-трактарыстам яны займалі кухню, а нам аддала пакой з асобным цёмным калідорчыкам. Перанёс ад Цімошыхі свой тапчан, паходны мяшэчак і Алін чамаданчык, разжыліся лямпаю і каторы раз пачыналі жыць нанава. З Урэчча прыслалі самыя неабходныя Аліны рэчы, а я ад стрыечнага брата дачакаўся слоўнікі і нямецкую граматыку, акварэльныя фарбы і некалькі пэндзлікаў. Можна было пачынаць навучальны год.

## «ДЭР МАН»

Над сшыткамі і планамі заседжваліся мы дапазна. З Алінаю дапамогаю я разбіраў кожны параграф, зверху дробненька надпісваў пераклад складаных слоў і зубрыў амаль на памяць. Пакуль ва ўсіх класах вывучалі алфавіт, было прасцей і спакайней, а пачаліся тэксты, захваляваўся, потым трохі пасмялеў, нарэшце супакоіўся, бо ніхто з настаўнікаў не мог праверыць маё дзікае вымаўленне. Горш было з вучнямі. Дзетдомаўцы — дзеці вайны і вясковыя сіраты — адразу варожа настроіліся супроць майго прадмета: «Нам не трэба фашысцкая мова». Тым больш што выкладае яе чалавек палітычна заплямлены, можа, нават які-небудзь гітлераўскі паслугач, учарашні школьны конюх. А цяпер уставай перад ім і гавары «Гутэн таг».

Я ўсімі сіламі і довадамі пераконваў, што няма фашысцкай мовы, а ёсць мова Маркса, Энгельса, Гётэ і Шылера, што Ленін чытаў «Капітал» у арыгінале. Я разумеў сваіх пратэстантаў з душамі, скалечанымі вайной, з незагойнымі ранамі горкага сіроцкага дзяцінства, спагадаў ім. Але як давесці, што не мова

вінавата, а страшэнная пачвара фашызму? Расказваў пра пакуты і барацьбу Лібкнехта, Люксембург і Тэльмана і нешта крануў у іх сэрцах. Калі ж пачалі чытаць першыя словы і сказы «Дэр ман», «Дэр рабэ», «Дэр афэ», «Вэр іст орднэр?», мне ахвотна адказвалі: «Іх бін орднэр». Заўважаў, што і на перапынку некаторыя выхваляюцца перад малодшымі нямецкім слоўцам. Усё новае падкупляе і заахвочвае, пакуль фармалізм не адаб'е ахвоту.

Як толькі выходзіў з настаўніцкай, мае вучні беглі ў клас і крычалі: «Дэр ман ідзе». Вось у мяне і мянушка з'явілася. Я рабіў выгляд, што нічога не чую і не ведаю, быў з усімі лагодны, справядлівы і ветлівы, заахвочваў старанных, падбадзёрваў ленаватых, зацікавіў маляўнічымі табліцамі, малюнкамі з подпісамі. Часам чуў, як на вуліцы мае вучні хваляцца сваёй вучонасцю і гергечуць абы-якія нямецкія словы.

Але больш за ўсіх мяне даймалі два дзетдомаўцы — руды і канапаты Віця Тартынскі і цыганаваты Ваня Бойка. Яны пратэставалі па-свойму: на ўроку нешта стругалі, пускалі папяровых галубоў, стралялі ў дошку жаванаю папераю. Я іх спакойна ўшчуваў, не скардзіўся дырэктару, не пагражаў, не дапякаў двойкамі. Яны думалі, баюся іх, а мне было шкада іх пакалечанага дзяцінства, ім карцела хоць так спагнаць сваю крыўду на фашыстаў. Каб дапячы «Дэр ману», яны часам бессаромна пыталіся: «А праўда, што вы былі перакладчыкам у немцаў?» Я спакойна адказваў, што фашыстаў бачыў толькі ў кіно. «А Наталля Іванаўна казалі...»

Я ведаў, адкуль гэта ідзе: занадта «пільныя» настаўніцы глядзелі на мяне і на Алю адчужана і варожа. Яны жылі сваімі інтарэсамі і плёткамі, таемна варагавалі паміж сабою за нагрузку, за пахвалы, за дровы, за сена і... мужыкоў. І раптам нейкія ссыльныя ўрэзалі іх нагрузку ды яшчэ прэтэндуюць на нейкую вучонасць. Рабілі выгляд, што мы не існуем, хоць пільна сачылі за кожным крокам і словам, настройвалі вучняў супроць нас. Аля, прыроджаны педагог, з першых урокаў узяла кожны клас у свае маленькія дужыя рукі. «Сумную» матэматыку слухалі і палюбілі ўсе без выключэння, такой цішыні, як на яе ўроках, не было ні ў дырэктара, ні ў завуча. І гэта злавала і раздражняла нашых «калег».

Мы трымаліся асобна. На перапынках садзіліся ў канцы доўгай драўлянай канапы і маўчалі, калі бывалі «фортачкі», цішком правяралі сшыткі, пісалі планы. Класнага кіраўніцтва мне не даверылі. Пасля некалькіх заняткаў палітгуртка па вывучэнні «Кароткага курса ВКП(б)» і маіх выказванняў ды-

рэктар мне сказаў: «Можаце не наведваць палітзаняткі. У вас жа вышэйшая адукацыя, матэрыял добра вядомы, некаторыя пры вас адчуваюць сябе няёмка. Ім здаецца, што пасмейваецеся з іх адказаў... Бывае смешна і мне, але што зробіш?» Я разумеў прымітыўную дыпламатыю Яўгена Паўлавіча і больш не хадзіў на палітзаняткі. Трэба было цярпець, каб толькі ўтрымацца і неяк існаваць. Часам хацелася кінуць усё, пайсці на самую цяжкую работу, але, апрача арцелі «Прагрэс» з яе «аванцамі» і калгаса з палачкамі, нічога не было.

Школу я вельмі любіў з самага ранняга вучнёўства: выпускаў насценныя газеты і рукапісны часопіс, ставіў спектаклі і дэкламаваў вершы, быў пастаянным аратарам на ўсіх святочных дэманстрацыях. Словам, быў дылетантам на ўсе рукі, усё патрохі ўмеў. Думаецца, кожны настаўнік павінен іграць на скрыпцы або піяніна, маляваць, іграць у аматарскім спектаклі, выразна чытаць вершы і прозу, сваім умельствам і прыкладам захапіць вучняў.

На ўроках малявання ў мяне была цішыня. Усе стараліся. Нават Тартынскі і Бойка, высалапіўшы языкі, шчыравалі над сваімі малюнкамі. Мы рабілі класныя і школьныя выстаўкі. Каму не хацелася трапіць на іх? У сёмым класе вучылася даволі дарослая эстонская дзяўчынка Валя Ыўнап. Яна малявала амаль прафесійна. Яе пейзажы здзіўлялі глыбінёй перспектывы, каларытам, дакладнасцю і настраёвасцю. Не ведаю, як склаўся яе лёс. Калі не стала яна мастачкай, страчана яскравая індывідуальнасць. Яе малюнкі ўпрыгожвалі нашы выстаўкі і класы, побач з імі выстаўляліся лепшыя работы тых, хто ўпершыню ўзяўся за аловак.

У нашу школу хадзілі дзеці з блізкіх і дальніх сёл. Пераважна пераросткі. Жылі яны каля школы ў доўгай стадоле інтэрната толькі ў лютыя маразы і завеі, а так хадзілі на заняткі і дадому пехатою за пяць, восем і дзесяць кіламетраў. У сібіракоў жа ёсць прыказка: «Сто вёрст — не адлегласць, сорак градусаў — не мароз». Гэта засвойвалася з дзяцінства. А мы адчувалі і дваццаціградусную сцюжу. Я хадзіў у сваім шынялі, а для Алі справілі паўкажушак і зваляли зграбныя чорныя «пімікі», з абцасамі і тоўстымі насамі, каб не мерзлі пальцы, купілі гаматную з брыжамі клятчастую хустку і прывыкалі да лютай сібірскай зімы.

Вечарам запальвалі пліту, нешта варылі і смажылі купленае ў суседнім беларускім сяле Кардон. Там жылі даўнія перасяленцы з Віцебшчыны і Барысаўшчыны, але і ў чацвёртым пакаленні яны зберaглі моўныя асаблівасці, хатні ўклад, звычаі, арнамент

на посцілках і ручніках, кашулях і блузках і пелі песні роднае старany. Кардон быў адразу за Тараю. Я часта хадзіў туды адвесці душу, пагрэцца каля печы, складзенай, як у нашых вёсках, пачаставацца хрусткім дранікам і мачанкаю. У землякоў можна было купіць кавалак сала і вяндліны, вантрабянкі і каўбасы. Карэнныя сібіракі нічога гэтага рабіць не ўмелі. Рэзалі свінчо, здымалі шкуру, усё нутро выкідалі сабакам, тушу вешалі на крук у кладоўцы, замарожаную адсякалі, колькі адхопіць сякера, варылі ў чыгуне, выкідалі кавалак свініны на чыста вышараваны стол і па камандзе гаспадыні «таскайце, мужыкі» падбіралі ўсё дачыста. Кардонаўцы за паўстагоддзя так і не навучылі суседзяў гаспадарыць па-свойму.

Павячэраўшы, гібелі над сшыткамі і планамі і ўсё часцей успаміналі дачушку і Алінага бацьку. Ён быў не вялікі грамацей і лісты пісаў не так часта, а мы іх чакалі кожны дзень і нудзіліся моўчкі, каб не вярэдзіць душу адно аднаму. Гэтай зімою яны павінны былі абое прыехаць да нас, але не так проста выправіцца ў такую далёкую дарогу, ды і мы не надта прыспешвалі, пакуль больш-менш не ўсталяваліся самі. Становішча наша было нетрывалае: аднаго паклёпу зайздросніка або пільнага «патрыёта» было дастаткова, каб застацца без кавалка хлеба, а то і загрымець за Палярны круг. Каб утрымацца, выкладаліся з апошніх сіл і не адразу зразумелі, што гэта якраз і небяспечна. «Ага, яны хочуць нас засланіць, паказаць вучонасць, скампраметаваць сумленных настаўнікаў. Мы ж вам пакажам!» І гулі дырэктару ў вушы розную несусвеціцу, паклёпнічалі, пад'юджвалі вучняў супроць мяне і ўсё на «высокім узроўні пільнасці і класавай непрымірымасці».

Але Яўген Паўлавіч, сумленны і разумны чалавек, умеў здымаць і згладжваць усе канфлікты і тактоўна браць нас пад абарону.

У пачатку снежня ён даручыў мне рыхтаваць навагодні вечар: прыдумаць якія-небудзь касцюмы, дэкламацыі, нарабіць з вучнямі цацак на ёлку і, вядома, каб былі Дзед Мароз і Снягурачка. Гэтае даручэнне разбудзіла ў мяне даўні творчы імпэт. Я начамі фантазіраваў, як правесці навагодні вечар, каб ён запомніўся надоўга. Напрыдумляў многа, а з чаго і як рабіць? У школе ні фарбаў, ні самай таннай тканіны, ні кардону, ні нават добрай паперы няма. А рабіць трэба.

Пайшоў у ганчарню да Васіля Іванавіча Мартынава, набраў трохі добрай мяккай гліны, у Элы Рыгораўны выпрасіў чырвонага стрэптацыду, жоўтага акрыхіну, «зялёнкі», вучняў папрасіў

прынесці абломкі пабітых люстэркаў, парцяную і суконную фарбу, сіньку для бялізны. Аматары знайшліся адразу. Асабліва іх натхняла, што работа наша была засакрэчана, каб ніхто не ведаў, што мы рыхтуем і робім. Таямнічасць асабліва падабаецца дзецям. Мы ляпілі з гліны балванкі для масак, абклейвалі замест пап'е-машэ папераю ад старых сшыткаў, здымалі вясёлыя і пачварныя маскі, размалёўвалі іх, рабілі бутафорскія рыцарскія шаломы, мячы і сякіры. Сядзелі да поўначы з вучнямі ў мяне і ў школе. Актывісты хадзілі за мною гуртам, гаварылі толькі шэптам і трымалі тайну да самага вечара.

Тыдні за два да Новага года ў дзіцячы дом прыехаў прадстаўнік райфінаддзела спісваць састарэлую маёмасць — адзенне, фіранкі, просціны і мэблю. Перш чым падпісаць акт, усё спісанае выносілася ў двор і спальвалася. Я дамовіўся з хлапчукамі з дзіцячага дома, каб яны, як толькі падпаляць старызну, з усіх бакоў наляцелі на касцёр, хапалі ўсё, што трапіць пад рукі, і бегма неслі ў школу. Хутка ў кутку школьнага калідора з'явілася куча прыпаленай, затаптанай у снезе старызны, а для нас гэта было цэлае багацце. У выхадныя дні дзяўчаткі ўсё перамылі, потым па маіх малюнках кроілі, шылі, расфарбоўвалі, крухмалілі, пасыпалі паздзіранаю з люстэркаў амальгамаю і самі дзівіліся, якія шыкоўныя ў нас выходзілі касцюмы.

Таямнічасць і сакрэтнасць асабліва захаплялі маіх памочнікаў. Яны станавіліся маімі вернымі сябрамі. Ужо бадай ніхто не называў мяне «Дэр ман», пацішэлі Тартынскі і Бойка. Я выпрастаўся ў школе і дома, нават часам пачаў усміхацца і жартаваць, павесялела і Аля. Верылася, што жыццё неяк наладзіцца і складзецца. Калі амаль усё было гатова, удзельнікі будучага навагодняга вечара развучвалі вершаваныя звароты і пажаданні настаўнікам, лепшым калгаснікам і вучням, былі ў нас героі з былін і класічных твораў — Руслан, Людміла і нават Чарнамор. Усё гэта трымалася ў сакрэце да Новага года. А мы лічылі дні да сустрэчы з нашаю дачушкаю. Яна ў сне працягвала насустрач ручаняткі, то раптам знікала ў смузе, то ўзнімалася і, як птушаня, ляцела над лугам і закаласелым полем і раставала пад белым воблакам. Рабілася тужліва і трывожна.

Мы ведалі, што дзед ужо збыў падараваную мне цёткаю карову, па маім спісе запакаваў найлепшыя кніжкі, склаў самае неабходнае ў скрынкі з-пад запалак, здасць у багаж, і — выедуць.

Па нашых разліках павінны прыехаць, але ні іх, ні вестак не было. Па ўсёй Сібіры бушавалі няпраглядныя бураны, і, вя-

дома, цягнікі прабіваліся ледзь-ледзь. Ды і выехалі яны хутчэй за ўсё паштовым — супакойвалі мы адно аднаго. Я ведаў, што ў Барабінску амаль усе біязінцы заязджаюць да брата Вары Керпіхі, чыгуначнага машыніста і добрага чалавека. Папрасіў і я ў яе адрас і дазвол, каб прытуліў і маіх далёкіх падарожнікаў. Я часцей звычайнага забягаў на пошту і кожны раз ні з чым вяртаўся дадому. Потым і Аля прызналася, што і яна не абмінала кантору Рэдзькіна.

У суботнія і нядзельныя вечары мы хадзілі да Элы Рыгораўны і Ганны Якаўлеўны адвесці душу. Яны асабліва шчыра, як да дачкі, прыгарнуліся да Алі. Тут мы на некалькі гадзін забываліся пра сваё гора, развясельвалі адно аднаго, чыталі паэму Яшына «Алёна Фаміна» і артыкулы ў «Огоньке», пераказвалі нейкія няпэўныя навіны, аздобленыя намёкамі на палёгкі і спадзяванні, жартавалі, расказвалі даўнія вясёлыя гісторыі і рэзаліся ў карты, пілі чай з маскоўскімі або ленінградскімі сухарыкамі.

Вярталіся позна цёмнаю завейнаю вуліцаю, правальваліся ў сумётах, церлі рукавіцамі шчокі, каб не абмарозіць. Ад сцюжы патрэсквалі вуглы і платы, паміж хмар прабіваліся буйныя калючыя зоркі, пад імі іскрыўся цёмна-сіні снег. Каб не рыпаць настылым ганкам, мы на дыбачках прабіраліся ў свой пакой, грэліся каля пліты і, не запальваючы лямпу, клаліся на тапчан і ўздыхалі.

Нарэшце прыйшла тэлеграма з Барабінска: «Прыехалі. Чакаем багаж». Мы адразу павесялелі, але трывога не пакідала: завея паперамятала дарогі. Іх прабівалі гусенічныя трактары вялізным клінам з тоўстага, акаванага бярвення, а завея праз якую гадзіну замятала і гэты след.

## НОВЫ ГОД

Усе школьныя лямпы знеслі ў селавы клуб. Тут звычайна праводзілі калгасныя і святочныя сходы, разы тры на месяц прывозіў кінаперасоўку доўгі і шыракаплечы, з устойлівым пахам бражкі і цыбулі Молат Казлоў. Тады з канца ў канец вуліцы ішлі два хлапчукі і бесперапынку на ўвесь голас крычалі: «На кіна ў клуб. Карціна гукавая «Секлятар райкома». Дарослым па рублю, дзіцячы — пяцьдзесят капеек». Клуб заўсёды быў поўны: многія ішлі са сваімі лаўкамі, стаялі каля сцен, дзеці сядзелі на падлозе перад экранам. Здаралася — сеанс расцягваўся на два вечары: на вялікім марозе глух і замярзаў рухавічок, тады

механік збіраў у гледачоў парцянкі, падкладаў пад рухавік, абліваў бензінам і падпальваў. З паўгадзіны ішоў фільм, і зноў тухла святло. Калі больш парцянак не было, сеанс пераносіўся на другі вечар. Часам Молат у цёмным клубе пераказваў, чым канчаюцца «Кубанскія казакі» і «Падзенне Берліна» або «Сакратар райкама». Яго пераказ быў варты пяра самага вынаходлівага сатырыка.

Пад Новы, 1951 год у клуб сышлося ледзь не ўсё сяло. Дзеці ўвялі ў вушы бацькам, што будзе нешта незвычайнае з іх удзелам, і паваліў народ. Пасярэдзіне стаяла вялікая прыбраная ёлка, са школы прынеслі батарэйны прыёмнік, і ён грымеў на поўную магутнасць. Упараная ў кажухах і плюшаўках публіка патрабавала пачынаць. Дырэктар тлумачыў, што Новы год сустракаюць роўна ў поўнач.

І вось нарэшце дачакаліся. Спецыяльна для Сібіры куранты прабілі поўнач. Расчыніліся дзверы, і ў белых воблаках пары паказаліся тры конскія галавы — накрытыя папонамі белыя стаеннікі ўвезлі ў клуб сані, а на іх стаяў у чырвоным адзенні, усыпаным зіхатлівымі зоркамі, Дзед Мароз і ўся ў белым, з каронаю на галаве Снягурачка. Белабароды і чырванашчокі Дзед Мароз гучна сказаў вершаванае прывітанне і даручыў Снягурачцы запаліць ёлку. Яна ўключыла падвешаныя на галінкі, сабраныя з усяго сяла электрычныя ліхтарыкі. З’явіўся былінны рыцар у блішчастым шаломе, круціўся і падскокваў доўгабароды Чарнамор, вакол ёлкі заскакалі зайцы, лісы, а калі ўваліўся калматы мядзведзь, малыя паднялі лямант. У футры, цалкам знятым з мядзведзя, скакаў і куляўся сямікласнік Міша Іваноў. Маскі ўцягвалі ў карагод вучняў і дарослых, спявалі песні і частушкі, дэкламавалі вершы і байкі. Такога свята Біяза яшчэ ніколі не бачыла.

Разыходзіліся далёка за поўнач. Я быў стомлены ад клопатаў і напружанага хвалявання, каб усё было добра. Старшыня сельсавета і парторг дзякавалі дырэктару школы, сціплы Яўген Паўлавіч шчасліва ўсміхаўся іківаў у мой бок, але гэтага ніхто не заўважаў. Непрымірымая Наталля Іванаўна і тая галасна захаплялася: «А коні, коні, як жывыя. І Дзеда Мароза ледзьве пазнала». Толькі дырэктар дзіцячага дома пацiснуў мне руку і паабяцаў дапамогу нашаму драмгуртку. Праз тыдзень у раённай газеце «Сталинский призыв» з’явілася заметка: «Незвычайная сустрэча Новага года ў Біязе». Пералічылі амаль усіх удзельнікаў вечара. Невядома толькі было, хто яго рыхтаваў.

Бацькі і мацяркі «артыстаў» спынялі мяне на вуліцы і дзякавалі, што ўбачылі, якія здатныя іх дзеці. «Пецька-то мой, язви его, дома сурок сурком, а тута ишь как разошелся. Свое-то чадо не враз признал, а он как рявкнет: «Колдун несет... этава, как его, что саблей помахивал... во-вот, богатыря». Ну, спасибо, учитель, потешили. Тако баско у нас отродясь не было».

Дзякавалі і настаўнікі. Казалі, дырэктар хацеў абвясціць падзяку загадам, але яго своечасова «папраўлі». Бугаёва, Міронава і Самушкіна зіркалі на мяне як на асабістага ворага. Чаму? За што? Нарэшце дайшло: хачу іх засланіць, прынізіць іх усталяваныя аўтарытэты, раблю кар'еру. І хто? Нейкі там ссыльны контрык. Падумаеш, нарабіў цацак з леташніх сшыткаў і дзетдомаўскай старызны. Даходзіла да мяне, што і дырэктара яны папярэджвалі: «Яшчэ невядома, якую свінню ён можа падкласці. Аславіць на ўвесь раён. Глядзіце, мы сігналізавалі». Яўген Паўлавіч лагодна іх супакойваў, але і не змяніў адносін да мяне.

Я быў рады, што заслужыў увагу вучняў і бацькоў. Мне нават у краме саступалі чаргу, але я дзякаваў і станавіўся ў хвост. Больш не чутно было «Дэр ман ідзе». Я нікога не стараўся засланіць. Хацелася, каб дзеці не толькі цягнулі сумную школьную лямку, каб не ляцелі дадому, адбыўшы павіннасць у класе, наслухаўшыся ўшчуванняў, пагроз і папрокаў. Цяпер яны ахвотна заставаліся ў школе дапазна, а слаўны і здольны Сымон Макравусаў з суседняй вёскі часта пасля нашых рэпетыцый начаваў у класе на стале. Пільных настаўніц трывожыла, ці не трапілі вучні пад варожы ўплыў ссыльнага.

Ушчувала мяне і Аля: «Навошта лезеш на ражон? Сіла ў іх. Ім павераць, а табе ўлепяць новае абвінавачванне, і не апраўдаешся». Усё магло быць. Наш камендант звычайна заязджаў да Наталлі Іванаўны. Яна расказвала, што робіцца ў сяле з канца ў канец. Збор навін быў у магазіне, а прадаўшчыца — яе найлепшая сяброўка. Апрача таго, у баковачку пры сельсавеце да ўпаўнаважанага часта шмыгалі невыразныя ў змроку постаці. Я сябе адчуваў як пад рэнтгенам, але здрадзіць вучням і сваім захапленням не мог.

Вечарамі мы ў сваім пакойчыку прыслухоўваліся да кожнага гуку, да рыпу на ганку. І калі не чакалі, раптам у вокны ўдарыла святло фараў, спынілася і засігналіла машына. Я выскачыў у чым быў. З кабіны бензавоза вывалілася мне на рукі змучаная дачушка, за ёю, крэкчучы, вылез патомны гутнік, інвалід і пенсіянер Алін бацька. А рэчы? Рэчы засталіся ў кладоўцы барабінскага машыніста. Дзед некалькі дзён шукаў кузаўную

машыну, чакаць больш не было як. Трапіўся бензавоз, селі ў кабіну і вось прыехалі. У сетачцы была лялька, дзве сукеначкі, пачак цукру і паўцагліны хлеба. Як толькі ўсталюецца дарога, дзед з’ездзіць і прывязе рэчы.

Дачушка гарэла і вяла на вачах, галоўка хілілася набок, заплюшчваліся вочкі, шчокі пайшлі чырвонымі плямамі. Куды ж яе пакласці? Што падаслаць, чым укрыць? Добра, у пакоі стаіць гаспадынін куфар. На яго паслаў шынель, пад галаву паклаў пінжак і накрыў Аліным кажушком. Дзед не распранаючыся закруціўся ў падбітую кажушынаю паддзёўку і лёг каля пліты на падлозе. Стомленым і змучаным доўгаю дарогаю, ім было не да размоў. Пагаворым заўтра.

Толькі патушылі лямпу — стук у акно і жаночы голас: «Ссыльныя на адметку». Гукнуў і падаўся далей будзіць нашага брата. Я сеў на тапчане. Трэба ісці. А ў чым пойдзеш? Зморанае хворае дзіця толькі заснула. Не будзіць жа яго. У адной гімнасцёрцы ў такую сцюжу да сельсавета не дойдзеш. Лёг і праварочаўся да світання. Пасля другога ўрока ў мяне «фортачка», вось і пайду да начальства на споведзь. На вольным уроку прыбег у сельсавет. Пушыкаў у пакоі старшыні гуляў з фінагентам у шашкі. На мяне зірнуў і пайшоў у дамкі. Я стаяў як слуп. Калі выйграў партыю, загаварыў павольна і цвёрда: «А я абвясціў вас уцекачом. Чаго маўчыш?» — «Гэта справа вашага сумлення». — «Ха-ха-ха... Сумленне! Ведаеш, што вырасла там, дзе было сумленне?» — «Ведаю, ведаю, гражданін начальнік. Чуў. Але без сумлення чалавек перастае быць чалавекам». — «Гэта што, намёк ці абраза? Бач ты яго! Так і 58-ю пункт 10 склапатаць можна. Мы яшчэ праверым, дзеля чаго ўнядрыўся ў школу і чым там займаешся».

Я, прызнацца, звяў. Ён можа са мною зрабіць што захоча. Пачаў ціха і лагодна апраўдвацца, чаму не змог прыйсці ноччу. «Можаш казкі бабцы расказваць. Скажы дзякуй, што тады, як да сваёй благавернай бег, Траццякоў выручыў. Я б цябе а-фо-рміў». Так ён мяне паласкаў, як анучу. Я не вытрымаў, працягнуў рукі: «Калі ёсць наручнікі, вяжыце і гоніце на катаргу». Голас задрыжаў і асекся. Пасля доўгага маўчання Пушыкаў падаў аркуш паперы і буркнуў: «Пішыце тлумачэнне». Ён прабег яго вачыма, паклаў у папку, пагразіў пальцам: «Запомніце, дарую апошні раз. І засвойце — ссыльны, які не з’явіўся на адзнаку, лічыцца ўцекачом. У-це-ка-чом! Зразумела? Ідзіце!»

Божа мой, хацелася стагнаць і раўці ад знявагі, абразы і болю, ад сораму, што стаяў, як вінаваты школьнік, перад гэтым сыценькім і ружовенькім, упэўненым у сваёй неабмежаванай уладзе малодшым лейтэнанцікам. За якія подзвігі гэтую адзіную зорачку пачапілі яму? Што ён карыснага зрабіў людзям? За што яму плацяць высокі аклад, а няшчаснай Цімошысе ставяць толькі палачкі ў ведамасці? Што ў яго ў галаве? Што ў душы?

Праз два дні Зміцер Сцяпанавіч і Вацлаў прынеслі маёй Тані зграбненькі ложак, Ганна Якаўлеўна ад свае падушкі адсыпала пер'я на ясік, падарыла «лішнюю» байкавую коўдру і прасцінку. Тварык маёй дачушкі гарэў чырвонымі плямамі, яна кідалася і трызніла. «Адзёр», — паставіла дыягназ Эла Рыгораўна і два разы на дзень прыбягала да нашай хворай. Пакуль мы былі ў школе, даглядаў і забаўляў яе дзед. Ганна Якаўлеўна прыносіла журавінавы і чаромушны кісялі, чытала і расказвала казкі, мерала тэмпературу і давала лекі, а потым, накульгваючы, па сумётах ішла на другі канец сяла ў сваю ўтульную хацінку. Відаць, недарэмна біязінцы пыталіся, ці не радня мы ўсе. Раднілі нас горкі лёс і сумленне. Не, «гражданін» Пушыкаў, ёсць у людзей сумленне! Як толькі людзі страцяць яго, кончыцца жыццё на зямлі.

Дачушка паволі ачуньвала. Завея ўлеглася, пайшлі з Барабінска машыны па збожжа, і дзед пачаў наладжвацца ў дарогу па рэчы. Аж неспадзявана ўвечары завітала да нас Керпіха і з парога завойкала: «А божачка-божачка! Зрабі людзям дабро, дык ад бяды не адкараскаешся. І навошта мне трэба было даваць братаў адрас? Гэта ж гора такое, — яна дастала з кішэні скамечаны канверт, — не ведаю, як і сказаць. Брат быў у рэйсе, а жывуць яны, самі бачылі, у глухім тупіку. Ведама, дома жонка і малыя дзеці. Нейкі аспід угледзеў, што вы ўносілі ладныя скрыні, а самі паехалі з пустымі рукамі. Ноччу выдралі ў сенцах клямку, дзверы ў хату падперлі калком і распараджаліся як хацелі. Паплылі вашы скрынкі і ў прыдачу паўкубельца братавага сала. От пісьмо. Пачытайце самі», — яна працягнула спісаную старонку ў касую лінейку. Мы стаялі як апараныя. «Брат усіх на ногі падняў. Ні міліцыя, ні сабакі след не ўзялі. Побач жа чыгунка. Матанулі некуды, і ішшы-свішчы».

Мы вытрывалі і гэты ўдар лёсу. Без пажару засталіся пагарэльцамі. Толькі дачушка плакала па сваіх цацках і любімых казках. Праўду кажуць — на каго Бог, на таго і людзі, дзе кората, там і рвецца.

## ТРЫВОГІ КОЖНЫ ДЗЕНЬ

Страчанага было шкада, хоць мы прывыклі да куды большых страт. Нас на многія гады абрабавалі прылюдна, сярод белага дня адабралі волю, усе правы, хоць фармальна маглі дзеля ўласнага суцяшэння галасаваць за адзінага кандыдата нават у Вярхоўны Савет. Ім быў легендарны Аляксандр Пакрышкін. Яго на нейкай машыне з гусеніцамі прывозілі ў наша сяло. Усе не столькі слухалі, колькі глядзелі на сапраўднага героя. Хацелася крыкнуць, што мы тут пакутуем ні за што ні пра што. Заступіся, Герой. Будзь і цяпер Героем. Але хіба скажаш? Хіба заікнешся? Цярпі і спадзявайся, што пакуты не вечныя. Мне было лягчэй, што побач сям'я, а часта грызла сумленне, што мае самыя дарагія гаруюць з-за мяне, а маленькая Танечка пачынае разумець не роўнае з усімі становішча бацькоў, што яны пазначаны недаверам і ганьбаю, таму замыкаецца, цураецца суседскіх дзяцей. Яна часта плакала і ніколі не прызнавалася — чаго. Я пачуў, як яе равесніца Моцька крычала: «Ссыльная вражына!» Як дзіцяці растлумачыць, чым суцешыць? Што, калі ўзненавідзіць нас за непаўнацэннасць, за кляймо, якім мы пазначаныя? А што думае цесць — патомны рабочы? Ён жа марыў пра шчаслівы лёс дачкі, і на табе, ускочыла ў такую бяду і трымаецца за яе, як сляпая.

Часам здавалася — ад думак можна звар'яцець. А дома ў нас былі мір, увага, ласка і клопат. Пра самае балючае стараліся не гаварыць, а думаць думалі і шанавалі і без таго збалелыя сэрцы. Патроху наладжваўся і быт. Некаторыя нават зайздросцілі нашым дзвюм настаўніцкім зарплатам.

Пасля навагодняга вечара ледзь не ўсе вучні пацягнуліся да мяне, захварэлі акцёрствам, захапіліся маляваннем, выстаўкамі сваіх малюнкаў, насценгазетамі. Некаторыя шчыгілялі нямецкімі слоўцамі, вымаўляючы на чалдонскі лад, паказвалі перад бацькамі сваю вучонасць. Большасць настаўнікаў палагаднела з Аляю і са мною, нават не саромеліся пытацца, калі ў чым сумняваліся. Толькі тры самыя «пільныя» з педкурсаўскімі «дыпломамі» ніяк не маглі змірыцца, што нейкі «варажына» ўбіўся ў калектыў, засланяе іх работу і падрывае аўтарытэт, уплывае на вучняў, а гэта ўжо небяспечна. Па іх ананімках прыязджалі інспектары райана, слухалі мае нямецкія ўрокі, а я тым часам трохі паспеў падкавацца: бегла чытаў, добра засвоіў даўжэзныя лічэбнікі, вучні ведалі некалькі кароценькіх вершаў. Што ж зробіш? Жыццё прымушала пусціць пыл у вочы не

надта дасведчаным у лінгвістыцы інспектарам. Яны стрымана хвалілі мае ўрокі ў сваіх заключных актах.

І ўсё ж кожны раз, калі дырэктар нажнічкамі акуратна разразаў пакеты, мы з трывогаю глядзелі на яго, ці не прыйшоў загад аб нашым звальненні.

На педсавеце мне даручылі рыхтаваць праграму да веснавога агляду школьнай самадзейнасці, і я з імпэтам узяўся нешта прыдумляць, з нічога ляпіць нешта, пасля заняткаў прападаў у школе, каб хоць трохі галава адышла ад надакучлівых трывог і змрочных думак, ад вечнага страху. У нядзелю школаператваралася ў майстэрню: зноў з дзетдомаўскіх недапаленых трантаў шылі касцюмы, з кудзелі і воўны рабілі парыкі, з лою і фарбы грым. Вырашылі ставіць казку «Мікіта Кажамяка і Змей Гарыныч». Зляпілі вялізнае і страшнае тулава Змея. Добраахвотнікаў было больш як трэба. Усе прынялі адну ўмову: двойка пазбаўляе права ўдзелу ў аглядзе. Нават Тартынскі з Бойкам сталі непазнавальныя.

Нашым небяспечным канкурэнтам была раённая сярэдняя школа. Там вучыліся дзеці служачых, былі салідныя настаўнікі і большыя магчымасці, чым у нашай таежнай сямігодкі. Мы марылі хоць бы заняць другое месца і не шкадавалі ні часу, ні сілы, каб нешта цікавае паказаць. І я, і дзеці захапляліся да самазабыцця.

У пачатковых класах першы год працавала пасля педвучылішча беленькая і кволенькая Валя Салаўёва. Прыехала яна з Вышняга Валачка адпрацоўваць свае два гады. Як толькі канчалі свой тэрмін, ніхто з маладых педагогаў назад у Біязу не вяртаўся. Звычайна яны гаварылі: «Я ж не ссыльная. Замуж тут выйсці можна хіба за мядзведзя або застацца векавухай, а я жыць хачу». І знікалі. Як на сезонную глядзелі і на дробненькую і ціхую Валю. І раптам чэпэ! Маладая настаўніца, камсамолка закахалася. І ў каго? У ссыльнага статнага прыгажуна Івана Рудога. Ён быў майстра на ўсе рукі: нешта рабіў у канторы спажыўкааперацыі, увосень быў нарыхтоўшчыкам, меў прымітыўны фотаапарат, прызарабляў і ім. Вельмі хутка прыбудаваў трысцен да хаты бабылкі Астанінай. Патынкаваў, пафарбаваў, павесіў вясёленькія фіраначкі, зрабіў прыгожую мэблю, хадзіў заўсёды ўсмешлівы і вясёлы. Насупраць Іванавай прыбудоўкі кватаравала Валя. Часам прасіла суседа прыбіць зашчапку, то падцягнуць дзверы, пераставіць вешалку. Неўзабаве, як кажуць сібіракі, «паглянуліся» адно аднаму. Як ні хаваліся, а ад Наталлі Іванаўны не ўберажэшся. Яна ведала

пра кожнага больш, чым той сам пра сябе. І зашапталіся ў настаўніцкай: «Мала аднаго ссыльнага, дык і гэтая злыгалася». Валя прыкідвалася, што нічога не ведае і не чуе. Часам чырванела, калі школьныя сакатухі асабліва прыдзірліва аглядалі яе постаць, пасміхаліся і байкатавалі яе. Наталля Іванаўна насядала на дырэктара неадкладна абмеркаваць амаральныя паводзіны камсамолкі Салаўёвай. Той упінаўся, што няма ніякіх падстаў для такой прапрацоўкі маладой настаўніцы: яна дарослы чалавек і мае права сустракацца з кім хоча. «Э-э-э, не, Яўген Паўлавіч, вы траціце класавую пільнасць. Няхай круціць на здароўе хоць з д'яблам, а гэта ж ссыльны. Яны тут расплодзяцца, што і нас выжывуць. Ведаеце, чыю ідэалогію можа прынесці ў школу? А спытаюць, — указальны палец угору, — у вас і ў мяне. Патрабую неадкладна абмеркаваць паводзіны Салаўёвай і прыняць рашучыя меры».

На бліжэйшым педсавеце абмяркоўваліся прычыны нізкай паспяховасці ў асобных класах і справаздачы класных кіраўнікоў. Хоць паспяховасць у Валіным класе была не з горшых, яе пясочылі больш за ўсіх. Педсавет закругляўся, але ўстала Наталля Іванаўна: «Маё партыйнае сумленне і абавязкі завуча прымушаюць паставіць пытанне аб амаральных паводзінах і палітычнай неразборлівасці камсамолкі Салаўёвай. У чым гэта выявілася? Калі ласка. Салаўёва ўступіла ў недазволеныя нашай савецкай мараллю адносіны з ссыльным Рудым. Хто такі гэты прыгажунчык? Бацька яго адбывае пакаранне за антысавецкую агітацыю, а сынок садзейнічаў яго злачынствам і трапіў сюды. Думаеце, ён так закаханы ў нашую пр-ы-г-а-жуню, — яна са здзеклівай ухмылкай апякла Валю сваім каршучыным зіркам, — сумняваюся. Яму трэба сваёй ідэалогіяй атруціць душы нашых дзяцей. Салаўёва ў яго бывае кожны вечар... дапазна. У нашым калектыве павінна быць павышаная пільнасць, а тут яшчэ адна непрыемнасць. Мы абавязаны хадайнічаць перад райкамам камсамола аб выключэнні Салаўёвай з радоў ВЛКСМ, а райана вырашыць пытанне аб мэтазгоднасці яе далейшай работы ў школе». Выпаліла, як прысуд, і села. Яўген Паўлавіч разгублена лыпаў вачыма, маўчалі ўсе, толькі было чутно, як адлічвае хвіліны хрыпаты гадзіннік ды трымціць незакітаваная шыба. Я адчуваў сябе прылюдна аблітым гарачымі памыямі. Валянціна Міхайлаўна папрыгажэла ад чырвані шчок і бляску вачэй. Маўчала, нібыта гавораць не пра яе. Не вытрымала лепшая сяброўка Бугаёвай Варвара Іванаўна. У яе быў моцны тыл — муж дырэктар

дзіцячага дома. «Слухай, Наталля, па-мойму, каханне справа асабістая. Да каго ёй ісці, да дзевяностагадовага Жураўлёва ці да п’янага Гошкі? Ды і фактаў у цябе няма». — «Варвара, любоў катэгорыя класавая. А факты? Факты — вось яны». Яна паляпала далонню па сшытачку.

Я памкнуўся выйсці. «Куды вы? Не ўдасца ўхіліцца ад галасавання», — перапыніла Бугаёва. У мяне ўсё затрымцела, але стрымаўся і спакойна адказаў: «Калі вас так цікавіць, куды іду, можаце мяне праводзіць...» Варвара Іванаўна зарагатала: «Ну, палучыла?» — «Гэта нахабства! Бачыце, да чаго яны дайшлі». У калідоры дрыжачаю рукою прыпаліў папяросу, выйшаў у двор і затуліўся ад рэзкага ветру за сцяною. Думаў, перачакаю, пакуль перабушуюць страсці і разапнуць гэтую мілую новую ахвяру. Але памыліўся. Вярнуўся, калі прымусілі гаварыць Валю. «Каго любіць і ненавідзець, справа мая асабістая. А вас, Наталля Іванаўна, вызваляю ад агіднай місіі мерзнуць пазавуголлю і сачыць, куды і калі я іду. Я выходжу замуж за Івана Рудога». Зацягнулася нямая сцэна, як у «Рэвізоры» Гогаля. Маўчанне парушыла Бугаёва: «Ну, цяпер усё ясна. Хто за хадайніцтва перад райкамам камсамола і райана, прашу галасаваць. Смялей, смялей, таварышы». Яна свідравала кожнага сваімі вузкімі драпежнымі вачыма. Дырэктар не то падняў руку, не то пачухаў за вухам. Я сядзеў унурыўшыся, нібы глухі. «Ну а вы?!» — «Мне сорамна ўсё гэта слухаць. Нельга ў далікатных адносінах шукаць палітычную падкладку. А каб не псаваць ваш пратакол, запішыце — ссыльны ўстрымаўся».

З таго педсавета мінула ледзь не сорак гадоў, а сорам точыць маё сумленне: устрымліваецца баязлівы, бязвольны і беспрынцыпны чалавек. У кожнага павінна быць цвёрдая пазіцыя: або — або. Я павінен быў сказаць усё, што думаў, але страх за сям’ю не дазволіў лезці на ражон, тым больш што нічым не дапамог бы Валі. Наталля Іванаўна далажыла б Пушыкаву пра салідарнасць, блок, ледзь не арганізацыю ссыльных, а там нядоўга завесці і новую справу на рэцыдывістаў.

Мне агідна было заходзіць у настаўніцкую, сустракацца з трыма раз’юшанымі жанчынамі з паталагічнаю патрэбаю ламаць лёсы і душы сумленных людзей, таму на перапынках затрымліваўся з вучнямі ў класе і на калідоры і толькі забягаў змяніць класны журнал.

Валю Салаўёву выжылі са школы на першым годзе работы. Яна з годнасцю і пагардай сустрэла незаслужаныя абразы і знявагі, не прасіла ні ў кога літасці, не пісала скаргаў. Пера-

несла свой чамаданчык да Івана, надзела целагрэйку і гумовыя боты, завялі яны парсюка, вясною засадзілі соткі і былі абое шчаслівыя.

Я ведаю і далейшы лёс гэтай сям’і. Як толькі вызвалілі Івана, яны паехалі ў Вышні Валачок, Валя была настаўніцай і дырэктарам школы, абое ўступілі ў партыю, выгадавалі трое дзяцей.

Я часам і цяпер успамінаю сваю слабасць, і сумленне грызе і раздзірае душу, як кароста.

## ЗМЕЙ ГАРЫНЫЧ

Агляд пачаўся ў Доме культуры выступленнем раённай сярэдняй школы. Удзельнікі канцэрта ў прыгожых касцюмах добра спявалі, дэкламавалі, добра выконвалі танцы народаў розных рэспублік, паставілі сцэны з п’есы «Цімур і яго каманда». У зале сядзела амаль уся школа, і, як футбольныя балельшчыкі, усе апладзіравалі нястомна.

Пасля перапынку выступалі мы. Літмантаж, частушкі, вянок франтавых песень прайшлі з поспехам. А спектакль «Мікіта Кажамяка і Змей Гарыныч» зачараваў усіх гледачоў. Царскія і баярскія ўборы зіхацелі блёсткамі, здалёк парыкі з панчошак здаваліся сапраўднымі лысінамі, а калі з лязгатам і свістам вылятаў на сцэну «сапраўдны» даўжэзны, з шыпамі на спіне, з агеньчыкамі ў вачах і з шырока разяўленай пашчай Змей Гарыныч, зала замерла, а малыя ад страху палезлі пад лаўкі. Схватка Мікіты са Змеем стала вяршыняй спектакля. Мільгаў падсвечаны чырвоным ліхтаром блішчасты меч, ад яго ўдараў адлятала адна змяіная галава, на яе месца высоўвалася другая, і так некалькі разоў. Эфект быў незвычайны. У канцы ўсе прысутныя стоячы апладзіравалі артыстам таежнай сямігодкі. На сцэну прыбег загадчык райана павіншаваць з поспехам і загадаў не здымаць касцюмы: праз гадзіну трэба будзе ўсё паўтарыць яшчэ раз для насельніцтва райцэнтра за пэўную плату.

Мясцовы радыёвузел так разрэкламаваў нашу праграму, што ў клуб людзі пайшлі натоўпамі. Былі занятыя ўсе месцы і праходы. Падбадзёраныя пахвалою самога Маеўскага, мае артысты стараліся як ніколі. Маленькі басавіты Мішка Пшанічны, засунуты ў змяінае тулава, выrabляў такія выкрунтасы, што зала аж раўла і бясконца апладзіравала.

Нечпадзявана мы занялі першае месца, а грошы, выручаныя за наш спектакль, пайшлі на прэміі ўсім удзельнікам. Другое

месца заняла раённая школа. Пакрыўджаныя тупалі і свісталі, крычалі: «Няправільна!», патрабавалі перагляду, але рашэнне журы было канчатковае. Мы пачалі складаць свой «рэквізіт», як на сцэну з малым сынком зайшоў сам Пушыкаў. Ён першы кіўнуў мне і загадаў паказаць хлапчуку, што гэта за змей, з чаго зроблены і як свецяцца вочы, бо малы думае, што прывезлі з тайгі жывую пачвару. Пушыкаў пахваліў удзельнікаў і буркнуў мне: «Здорава ў вас выходзіць».

Не паспелі мы скласціся, як мяне паклікалі ў райана. Я пабег, спадзеючыся на пахвалу і падзяку. Але загадчык сядзеў даволі змрочны. Сесці не прапанаваў. «Скажыце, толькі шчыра, дзе вы ўзялі такія касцюмы, парыкі і ўсе гэтыя цацкі?» Я здзіўлена глядзеў на яго і маўчаў. Ён паўтарыў пытанне. «З агню». — «Як з агню? Я пытаюся сур'ёзна». — «А я сур'ёзна адказваю. З агню». І расказаў, як дзеці хапалі з фінагенцкага вогнішча абгарэлыя транты і што з іх рабілі. Іосіф Нічыпаравіч шчыра рассмяяўся: «А да мяне прыйшла дэлегацыя сярэдняй школы патрабаваць адмены рашэння журы, бо ў Біязе працуе ссыльны артыст маскоўскага тэатра, і касцюмы ў іх не самадзейныя, а прысланыя з тэатра некалькімі пасылкамі». Тут ужо разрагатаўся я. «Вы сядайце, сядайце, — памякчэў Маеўскі. — Я, прызнацца, і сам дзівіўся, адкуль усё гэта ў вас. Ну што ж, поспехаў вам. Едзьце, працуйце, а мы, калі трэба, падтрымаем», — і ён упершыню падаў мне руку.

У біязінскім клубе мы сваю праграму ў бітком набітай зале паўтаралі разоў пяць. Кабеты круцілі галовамі, войкалі і дзівіліся, на што здатныя іх дзеці. Памякчэла нават Наталля Іванаўна, хоць раней і абуралася, што ператварылі школу ў склад утыльсыравіны, але пазірала пранізліва і пільна маленькімі чорнымі вочкамі.

Праз тыдзень прыйшла раённая газета з падрабязнаю справаздачаю пра агляд школьнай самадзейнасці. Хвалілі нашых артыстаў, касцюмы, бутафорыю, канцэртную праграму. Узнёсла расказвалася пра выступленне сярэдняй школы і заслугі мастацкага кіраўніка Варвары Сцяпанаўны Наважылавай. Мае драмгурткоўцы абураліся, чаму не названы іх кіраўнік. Я суцяшаў сваіх праўдалюбцаў: «У нас жа с-а-м-а-дзейнасць. Значыць, вы дзейнічалі самі, таму і заслужылі першае месца, а я толькі збоку падказваў і памагаў. Гэта мой абавязак». Не мог жа я сказаць, што прозвішча ссыльнага забаронена называць у друку. Яны, мабыць, гэта разумелі і самі.

У 1951 годзе пабольшала наша сям'я. Нарадзіўся ў нас маленькі сібірак, крыклівы і неспакойны. Відаць, нервовасць

бацькоў перадалася яму і адбілася на сталым характары. Прыбавілася клопатаў: сталі ўсе нянькамі, часта не спалі начамі, куды ішлі, неслі яго з сабою. Часам суседскія дзяўчынкі гулялі з ім, як з лялькаю. Я часта адчуваў увагу сваіх вучняў і іх бацькоў, а хлапчукі з дзіцячага дома часам мімаходзь забягалі ў наш двор і памагалі напілаваць і накалоць дроў.

І ўсё ж трывога гняла ўдзень і ўначы. Дзіва што! Столькі гадоў жыць у вечным страху за сябе, за сям'ю, не ведаць, што цябе чакае заўтра. Таму і снілася адно і тое ж — перапоўненыя камеры, закратаваныя «цялятнікі», этапы, карцэры і следчыя. Я пракідваўся ад страху і радаваўся, што гэта сон, што ціха спіць дачушка, пахрапвае цесць, вялізны месяц праз размаляванае марозам акно залівае блакітным святлом рассыпаныя па падушцы залацістыя валасы маёй адданай і самаахвярнай пакутніцы. Шчасце, што мы разам, няма кратаў.

## ЗЛАВЕСНЫ ЗЯМЛЯК

Увесну ў канцы сяла нам нарэзалі трыццаць сотак няўдобіцы пад бульбу і гародніну. Усё лецечка, як мурашы, мы снавалі на сваіх градах. Цягалі лясёнкамі гной, капалі, палолі, капанічылі. Днём смаліла спёка, а ўначы прыхоплівалі замаразкі. Кожнае каліва трэба накрыць, перад заходам сонца, паліць. Як кажуць сібіракі, пласталіся дзень пры дні, цешачыся, што зімою будзе свая бульбіна, гурок, морквіна і шаткаванка.

Жнівень быў сухі і сонечны. Ляцела і слалася павуціннне, чырванню наліліся асіны, як васковыя свечкі, золатам адлівалі лістоўніцы і трапяткія бярозы, шапацеў бляшаным лісцем усыпаны барвовымі ягадамі глог. Асенняя тайга — чароўная казка. Як палітра, на якой змяшаліся ўсе колеры і адценні самых сакавітых фарбаў. Нічога прыгажэйшага за асеннюю сонечную тайгу не бачыў. Яна палаючым, зіхатлівым з купамі цёмна-зялёных елак і кедраў шырокім вянком абдымала наша доўгае і шэрае сяло.

На жнівеньскую настаўніцкую канферэнцыю выкладчыкі нашае школы трыццаць кіламетраў ішлі нехатою. Дарога збліжае людзей, развясельвае, паднімае настрой. З размовамі, жартамі, песнямі дайшлі да райцэнтра. На нізкім утравянелым беразе рэчкі памылі запыленыя ногі, абуліся і якраз паспелі на адкрыццё пасяджэння. Яно ішло, як звычайна, суха і нудна. Ад даклада і прамоў хіліла на сон. У цэнтры прэзідыума амаль

нерухома сядзеў незнаёмы рудаваты, з дробнымі рысамі твару чалавек, у суконнай «сталінцы» з вялікім каўняром. «Хто гэта?» — я спытаў у суседа. «Другі сакратар райкома таварыш Страпчанка. Загадваў абкомаўскім гаражом і пайшоў на павышэнне».

У выступленнях усё было знаёмае, мяняліся толькі назвы школ і прозвішчы лепшых і горшых настаўнікаў, пералічваліся дасягненні, працэнты паспяховасці і... некаторыя недахопы. У заключэнне пад воплескі слова далі таварышу Страпчанку. Ён павольна падышоў да трыбуны, моўчкі агледзеў прысутных так, што я апусціў галаву, зняў з рукі гадзіннік, паклаў на трыбуну, наліў у шклянку вады, з папрокам зірнуў на прэзідыум, чаму не здагадаліся наліць самі. Пачаў нягучна з вельмі знаёмым, не сібірскім вымаўленнем. Гаварыў аб ролі школы ў выхаванні патрыётаў, адданых ідэям Леніна — Сталіна, пра ролю настаўніка на дзесяцідворцы, у распаўсюджванні пазыкі, пра абавязковы выпуск баявых лісткоў і насценных газет на фермах і ў брыгадах. Бясконца паўтараў: «Вы абавязаны, вы павінны дапамагаць на праполцы, на сенажаці, на церабленні льну і копцы бульбы». Выходзіла, настаўнік вінен усім, а яму — ніхто.

Прамоўца памаўчаў, памаргаў маленькімі вочкамі з чырвонымі павекамі. «А цяпер, таварышы, павінен спыніцца на самым адказным і важным пытанні. Вы ведаеце, што наш раён спецыфічны. Вялікая колькасць нашых ідэйных праціўнікаў, а дакладней ізаляваных за варожую дзейнасць, жыве поруч з намі. Памыляюцца тыя, хто думае, што яны раззброіліся і перавыхаваліся, змірыліся са сваім становішчам. Не! Як вядома, класавая барацьба з варожымі недабіткамі абвастраецца. Некаторыя хочуць прыкінуцца лаяльнымі, старанна працуюць, каб ціхай сапай нашкодзіць на любым участку народнай гаспадаркі, зрабіць уплыў на несвядомых людзей, асабліва на моладзь. Абавязак кожнага настаўніка — пільнасць і яшчэ раз пільнасць. Усялякім варожым размовам, намёкам і анекдотам павінны даваць адпор і пра ўсё неадкладна даводзіць да ведама работнікаў органаў, замацаваных за вашымі населенымі пунктамі. Іх вы ведаеце. Райкам і органы спадзяюцца на вас. За работу, таварышы! Няхай жыве Усесаюзная Камуністычная партыя бальшавікоў на чале з нашым правадыром, мудрым настаўнікам народаў Савецкага Саюза і працоўных усяго свету Вялікім Сталіным!»

Залу скалануў гром воплескаў. Усе ўсталі і ляскалі, пакуль Страпчанка не спыніў жэстам рукі гэты ўсеагульны парыў любові і адданасці мудраму правадыру.

Гэтая адкрытая вярбоўка настаўнікаў у даносчыкі і шпікі мяне аглушыла і запомнілася амаль літаральна. Рукі апусціліся, сэрца сціснула трывога, у галаве стаяў звон. Пасля канферэнцыі, нікога не чакаючы, нікуды не заходзячы, мы з Аляй пехатою выправіліся дамоў. Ішлі моўчкі. Прамова новага сакратара прыгняла абаіх. Галава гула ад думак, але не хацелася размовамі вярэдзіць душу.

Дадому прыпляліся на змярканні. Танечка ўзрадавалася ледзянцам, а дзед некалькім пачкам папярос «Север». Мы далі нагам трохі адпачыць, каб увечары сесці за складанне планаў на першую чвэрць. Праз якую гадзіну зайшла наша гаспадыня і адразу з парога секанула: «От што, мілыя мае, шукайце сабе другую фацеру». — «Чаму, цётка Дуня? Мы ж акуратна плоцім кожны месяц. Ні разу не сварыліся, здаецца, нікому не замінаем». — «Так-то яно так, але чым вы будзеце плаціць цяпер? Вас жа абаіх знялі з работы. Толькі што ў магазіне гаварыў новы завуч Веньямін Мікалаевіч і загад паказваў». — «Мы ж толькі што прыйшлі з канферэнцыі. Нам ніхто нічога не казаў...»

Я ўскочыў і пабег да новага завуча. Яго прызначылі таму, што ў школе адкрылі восьмы клас, а Наталля Іванаўна са сваёй адукацыяй на такую пасаду «не цягнула». Я пастукаўся і адразу ўвайшоў у пакой на другой палавіне дырэктарскага дома. Веньямін Мікалаевіч апярэдзіў маё пытанне. «Як ні шкада, але мушу засмуціць вас. Пасля канферэнцыі мяне выклікалі ў райана і ўручылі вось гэты загад аб зняцці вас абаіх як неадпавядаючых свайму прызначэнню».

Я выскачыў як апараны і пайшоў нацянькі цераз школьны двор. Каля завозні Мікалай Шчарбакоў запрагаў Смажанага. «Ты куды на ноч гледзячы сабраўся?» — «Пара-дач-кі! Калі надумаліся. Пасылаюць у раён па сшыткі і наглядныя дапаможнікі. Каб заўтра былі тут. Ну і падкінуў ты мне рабацёнку». — «Колечка, пачакай хвілінку. Захапі з сабою Алю. Вось так патрэбна». Мікалай кінуў у перадок брызентавы плашч, мы селі на воз і пад’ехалі да нашай хаты. Нам быў ясны ўвесь трагізм нашага становішча: застацца без працы, без прытулку, без кавалка хлеба на мізэрнай пенсіі Алінага бацькі. Аля сабралася літаральна за тры хвіліны, схапіла закручанае ў

пялёначку дзіця і выбегла з хаты. Я ледзьве паспеў дагнаць яе і кінуць на воз забыты плашчык. Потым доўга глядзеў услед, пакуль фурманка не растала ў вечаровай смузе.

У двары дачушка бесклапотна гуляла ў хованкі з Моцькаю, цесць сядзеў на парозе і адну за другою курыў самакруткі. Я адчуваў сябе вінаватым перад усімі, уяўляў, што ён думае, як праклінае той дзень, калі лёс звёў яго ціхую і любімую дачушку з гэтым вечным выгнаннікам, пакалечыў яе маладосць і яго старасць, загнаў у гэты мядзведжы кут у добраахвотную ссылку. Адносна добра ўладкаваныя на Случчыне, мы сарвалі Аліных бацькоў з наседжанага месца на Калініншчыне. Яны ўпадабалі беларускую прыроду і клімат, дабрату нашых людзей і засталіся жыць з намі, гадаваць унучку і весці не надта хітрую гаспадарку. Але лёс быў бязлітасны да нас на самым пачатку: раптоўна памерла саракавасьмігадовая Аліна мама, а праз дзесяць дзён, майскім надвячоркам, перад першым выпускным экзаменам з'явіліся маёр Ушакоў і капітан Шаўцоў з панятым завучам школы, перакапалі наш немудрашчы скарб і павялі мяне праз мястэчка, каля школы. Адны глядзелі са спагадаю ўслед, некаторыя, мабыць, лічылі замаскаваным злачынцам.

Праз месяц звольнілі Алю з работы і перасялілі ў катушок, некалі адбіты мною пры кухні. Бездараж не выпусціла Алю адсюль, у Барабінску ўкралі ўсе нашы рэчы, і вось цяпер кінулі на галоднае існаванне. Які бязлітасны лёс! Якія жорсткія людзі! І нічога не растлумачыш, ніхто не хоча табе паверыць. Часта не на самых лепшых сыплецца толькі дабро, а не на самых горшых — адны няшчасці і пакуты.

Я з адчуваннем горкай віны і спагады глядзеў на дачасна ссівелага, сухенькага, з дрыготкімі пальцамі, заўсёды маўклівага Алінага бацьку. Але што я мог яму сказаць, чым суцешыць, як абнадзеіць? Вечнаю ссылкаю, вечным недаверам пастаўленых ахоўваць ідэйную чысціню і нас ад свабоды. Яны ў кожным заплямленым фальшыўкаю бачаць ворага. Ворага чаго і чыйго ворага? Адкуль жа іх столькі ўзялося, што не хапае турмаў і лагераў, што цэлыя вобласці ад Брэста да Магадана сталі месцамі няволі невінаватых пакутнікаў?

Ад гэтых думак баліць галава, але я ласкава нешта хлушу сваёй дачушцы, спадзеючыся, што яна нічога не разумее, а яна разумнымі вочкамі спагадліва і з папрокам глядзіць на мяне.

Тым часам пачынае крапаць дождж. Буйныя кроплі шлопаюць па мяккім дарожным пыле, па лапушыстым дзядоўніку, па зарослых лебядою стрэхах. Не запальваючы святла, вячэраем,

я стараюся развесяліць Таню, а яна з поўнымі вочкамі слёз дапытваецца, куды паехала мама. Уначы я не заснуў ні на волас. Ліў дождж як з луба. Заплюшчуся і бачу, як ледзьве цягне воз па ліпкай гразі ўпараны Смажаны, як калоціцца прамоклая навылет мая адзіная апора, мая «дзекабрыстка». Не-е! Ніякага падабенства. Валконскую, Мураўёву, Трубяцкую, Фанвізіну і нават Паліну Гэбль сустракалі генерал-губернатары, а мая Аля сто дваццаць кіламетраў адна пад дажджом па дзікай тайзе пехатою мясіла гразь. Яшчэ шчасце, што ў маліннiках былі сытыя мядзведзі і не выйшлі па здабычу на шлях. Думы раздзіраюць душу. Што дасць паездка ў раён? Пасля прамовы Страпчанкі, відаць, нічога. Гэта быў яго загад. Значыць, Алі давядзецца ехаць у Новасібірск і зноў стукацца ў двайныя парадныя дзверы.

Назаўтра, каб не бачыць маўклівых пакутаў старога, я пайшоў на свае соткі. Рабіў непатрэбную работу, каб хоць трохі апрытомнець ад надакучлівых дум. Пераскокваючы лужыны, бегла некалькі дзяўчынак з дзіцячага дома. Прыпыніліся, дружна прывіталіся: «А сёлета вы будзеце нас вучыць? І драмгурток будзе?» Кроў ударыла ў твар. Відаць, яны ўжо ўсё ведалі. Навіна ж пакацілася з магазіна. Я прыкінуўся, што недачуў, і запытаўся: «Адкуль гэта вы бяжыце ў такую макрэчу?» — «Трусам траву рвалі». І, падскокваючы, пабеглі з мяшэчкамі зелля. Якія яны шчаслівыя! У іх не будзе плям у анкеце, а што чакае маю дачку і ўсіх дзяцей пакараных бацькоў? Божа мой, толькі б не звар'яцець! З чым вернецца Аля? Як складзецца наш лёс?

Некалі з такім напружаннем і страхам я чакаў прысуду, як цяпер прыезду жонкі з раёна. Не хацелася ні піць, ні есці, ні спаць. Я лаўлю сябе, што, бывае, іду не туды, куды збіраўся, гавару не тое, што хацеў сказаць. Страшна. Паўтараю сам сабе: «Уж лучше посох и сума, не дай мне бог сойти с ума». Падумалася: куды саджаюць звар'яцелых ссыльных, у турэмную ці ў звычайную псіхіятрычку?

Каб яшчэ затрымалася Аля, напэўна б, рэхнуўся. Ні ў адзіночках, ні на следчых «канвеерах», ні на інсцэніроўках расстрэлу мяне не апаноўваў такі страх, як цяпер. Тады я быў адзін. Аднаму і гінуць не так страшна, а тут — сям'я, самыя дарагія і блізкія людзі, ты ж бездапаможны абараніць і засланіць іх ад бяды.

На трэці дзень надвячоркам мокрая, стомленая, запырсканая гразёю з пасінелым дзіцём на руках увайшла Аля, пагладзіла мае парадзелыя валасы. «Не адчайвайся. Неяк будзем жыць. Мяне аднавілі...» І расказала, як ёй спагадаў загадчык райана, бездапаможна разводзіў рукамі, а калі яна патрабавала даць копію загада з тлумачэннем прычыны, па якой нас знялі, сказаў, што выдаць не мае права, і толькі тыцнуў пальцам у столь і параіў, перш чым ехаць у Новасібірск, зайсці да таварыша Страпчанкі, але, барані божа, не спасылацца на яго.

Сакратар райкама доўга не прымаў яе, а выслухаўшы, здзекліва спытаў: «Вы што, член партыі? Не? Дык навошта ідзяце ў райком? Педкадрамі займаецца райана, туды і звяртайцеся». Што яна гаварыла Страпчанку, якія довады выстаўляла, што прасіла, што патрабавала, Аля мне не прызналася. Ён злосна маўчаў, потым працадзіў: «Супакойцеся. Зайдзіце ў другой палавіне дня. Падумаем, што можна зрабіць. Не парыце гарачку і нікуды пакуль не ездзіце». Другі раз да сакратара прабілася позна вечарам. Ён памякчэў, паспагадаў і здзіўляўся толькі, як яна, былая камсамолка, чалавек пралетарскага паходжання, звязалася з палітычным злачынцам, якому тут і паміраць, навошта яна калечыць сваю маладосць і будучыню дзіцяці. Яшчэ не позна адумацца і павярнуць свой лёс на правільны шлях.

«Я дзякую за параду. Я гэта чула многа разоў. Мне прапанавалі публічна асудзіць палітычную ненадзейнасць мужа, але я яго ведаю не горш за сябе, ведаю яго сумленнасць, яго адданасць савецкай ідэалогіі. Ён выбіўся з галечы, рэвалюцыя дала яму адукацыю, любімую працу, а нейкі паклёпнік ад зайздрасці ці ад злосці зламаў жыццё і штурхнуў на вечныя пакуты яго і нас». Страпчанка здзекліва спытаў: «Скажыце, ён у маладосці не папісваў часам у газетах і часопісах? Прозвішча знаёмае па даўніх часах. Ён жа з Беларусі?» Аля пацвердзіла здагадкі сакратара і сказала, што верыць у справядлівасць, што ўсё высветліцца і невінаватыя вернуцца да нармальнага жыцця. «Ну, бачу, хочаце перацягнуць мяне ў сваю веру. Дарэмна. Запомніце, у нас дарэмна нікога не саджаюць. Органы — святая святых нашай дзяржавы... У вобласць вам ездзіць няма патрэбы, мы тут параіліся і знайшлі магчымым дазволіць вам выкладаць матэматыку, а муж ваш ніколі не будзе працаваць у школе. Сёння ўжо не паспееце, а заўтра атрымаеце загад аб аднаўленні на рабоце».

Ледзь не да поўначы ў гасцінным доміку Лідзіі Яўсееўны абмяркоўвалася, узважвалася, разгадвалася значэнне кожнага слова новага сакратара і загадчыка райана. Горача выказваліся Алена Хрысціянаўна Ракоўская і Вікторыя Сяргееўна. Маё прызначэнне ў школу абнадзеіла ўсіх ссыльных, а звальненне прыгняло безнадзейнасцю і беспрасвеццем нашага становішча.

Раніцай сапраўды Аля атрымала загад і вось прымчалася абрадаваць нас. Я паслаў заяву ў аблана на імя самога Андросава і цярпліва чакаў адказу. Пачаліся ў школе заняткі. У восьмым класе Аля атрымала добрую нагрузку, а мае ўрокі пуставалі. Хтосьці прасіў дагрузіцца маляваннем і чарчэннем, але Яўген Паўлавіч чамусьці не спяшаўся.

Я цэлымі днямі капаўся на сваіх сотках і пазбягаў сустрэч з настаўнікамі і вучнямі. Але не-не ды прыбягалі да мяне гаваркія дзетдомаўцы, расказвалі пра свае поспехі і няўдачы, крыўды і сваркі. А мне было сорамна нешта ім гаварыць і абяцаць. Дачушка мая пайшла ў першы клас, а мы з дзедам выбіралі бульбу і больш маўчалі. Супакоілася і наша гаспадыня, што сорак рублёў за свой пакойчык будзе мець. А мы цвёрда вырашылі — вясною пачнём будавацца. Чаканне адказу з аблана пазбавіла сну, прыгняло непамерным цяжарам. Самае страшнае было атрымаць адмоўны адказ. Страпчанка ж мог напісаць усё, што прыйдзе ў галаву. Даводзь тады, што ты не вярблюд. Набраўся рашучасці — няхай будзе што будзе, пайшоў на пошту і так-сяк дазваніўся да Новасібірска. Мяне выслухалі, і прыемны барытон адказаў: «Чаго яны там чудзяць? Мы надоечы адправілі загад у пацвярджэнне папярэдняга. Вы будзеце адноўлены на рабоце». Я бег дадому, не чуючы пад сабою ног.

## ДОМАЎЛАСНІКІ

Зіма мінала з маразамі, завеямі, педсаветамі, плёткамі, ласкавымі і варожымі зіркамі ў наш бок. Зноў наша школа займала першае месца на аглядах самадзейнасці, восьмы клас прыбавіў мне нагрузку і заработкі. Мы акрыялі і павесялелі. Я радаваўся, што недзе ў вобласці ёсць не знаёмыя мне, але сумленныя і добрыя людзі — Андросаў і Кулагін. Колькі разоў яны нас ратавалі, а маглі ж адмахнуцца, каб спакайней жыць.

Пад вясну калгасны рухавік даў электрычнае святло. Напачатку яно гайдалася, як ад ветру, але ўсё ж гадзін да адзінаццаці свяціла. У старой шафе, выкінутай у школьны калідор, я

знайшоў фільмаскоп і набор дыяпазітываў па розных вучэбных прадметах. Асвоіў яго, і ледзь не кожны вечар у вялікім класе вучні збіраліся глядзець «маленькае кіно». Прыходзілі і настаўнікі на тэматычныя паказы.

У недалёкай вёсцы Платонаўцы за трыста дарэформенных рублёў купілі старую, але яшчэ моцную, прасторную хату. Сельсавет пад забудову ссыльным далёка за вёскаю, каля самай тайгі, нарэзаў высокі, ніколі не араны груд. Пад ім круцілася крынічная Біязянка, а з другога боку быў глыбокі лог, зімою забіты снегам, а ўвесну поўны талай вады. Ссыльных выселілі нават з сяла на асобную вуліцу і назвалі яе Зялёнай.

Цяпер і самому не верыцца, што за лета паставіў хату. Падруб і сталярку памаглі зрабіць Зміцер Сцяпанавіч з Вацлавам, а сцены, пакуль мог дацягнуцца, складаў сам, апошнія вянцы падняць памог сусед па забудове, сын сонечнай Малдовы, Несцер Павалук. Ён будаваўся, як ніхто: укапаў чатыры шулы, з жонкаю і дзвюма дачушкамі на сабе нацягалі з тайгі вяршынніку з сукамі і заклалі імі сцены, як азярод. Пад гэтым зрубам хутка дакапаўся да тлустай гліны, мясіў яе з саломаю і гноем і ляпіў сцены. Дах накрыў вялікімі лістамі бяросты, прышыў іх зграбнымі рэечкамі, сцены пабяліў, пад хатаю зрабіў склеп і цяплічку. За лета вырасла хата, як лялька.

Цераз вуліцу мнагадзетны, нізкарослы, затурканы нястачамі, бадзяннем па турмах і ссылках Іван Рудэнка зляпіў хацінку з дзёрну, абмазаў глінаю і берасцяны дах прыкідаў пластамі дзёрну. У гэтай земляной нары ён пражыў з вялікаю сям'ёю аж да вызвалення. Калі пыталіся ў Рудэнкі, за што ён трапіў у няволю, адказваў адным словам: «Па плану». Часам тлумачыў: пасвіў ён чараду авечак, падагнаўся да дарогі, аж бачыць — з іх сяла пыліць грузавік з людзьмі і вайскоўцамі ў кузаве. Стаў пры дарозе і глядзіць, куды гэта ў такую гарачую пару едуць людзі. Спыніўся і грузавік. Начальнік з кабіны пытае: «Гэта твае авечкі в-у-унь там сталачылі проса?» — «Што вы, я туды не ганяў, і проса ў тым баку няма». — «Давай залазь». — «А як жа авечкі?» — «Давай, давай, без разгаворчыкаў». Двое саскочылі, падсадзілі ў кузаў і паехалі. «Ну, вось і трыццаты ёсць», — узрадаваўся старшы. У іх план быў — забраць трыццаць ворагаў, а ў сяле знайшлося толькі дваццаць дзевяць мужчын. Іван Рудэнка «забяспечыў план» і вось пятнаццаты год пакутуе з сям'ёю. Тонкая, як тычка, жонка рабіла прачкаю ў дзіцячым доме, а Іван там жа канюхаваў, цяслярыў, сталярыў, рабіў, хто што загадае.

Ссыльныя дружна памагалі адзін аднаму будавацца. На сваёй будоўлі я і начаваў. На світанні з-пад крутаяру цягаў на каромысле гліну на тынкоўку і печ, разгарадзіў хату на тры катушкі, памаляваў падлогу і рамы, скідаў сенечкі і хлеўчучок, і ў канцы жніўня ўвабраліся ў пустую, гулкую, але сваю хату. Здавалася, лепшага нам і не трэба, абы не чапалі, каб толькі далі спакойна працаваць і дажываць век, няхай сабе і ў гэтым суровым краі.

З вясны да замаразкаў капаліся на сваім гародзе, цягалі сотні вёдзер вады на грады, няньчылі кожнае каліўца, завялі карову і двух парсюкоў, бо без гаспадаркі нават з грашыма будзеш галодны: у краме, апрача хлеба, ліпкіх цукерак, часам круп і салёнай рыбы, нічога не было. Так што хочаш не хочаш — абрастай гаспадаркай.

Затое вечарамі, калі за сценамі гудуць і стогнуць бураны, шуміць тайга, шорсткі снег шапаціць па сценах, у хаце патрэсквае аж чырвоная бляшаная печка, пахне падсмажанымі скваркамі і дранікамі — так добра і лагодна. На другі год да сянец прыбудаваў лазню. Распараныя сядзім суботнімі вечарамі ў прасторнай кухні, сёрбаем фруктовы чай і слухаем з вялікай папяровай талеркі навіны і спевы з Масквы. Часам прарвецца беларуская звонкая песня, а я глытаю слёзы, і агортвае балючы сум па нашых барах, васільках і перапёлках у жыце, па буслiным клёкаце, заліўных лугах, высокім і чыстым жаўруковым небе.

Школа наша расла: адкрылі дзевяты клас і неяк душыліся ў ранейшых старых катухах. Вучыліся пераважна пераросткі. Здаралася, прыходзіш пасля зімовых канікулаў у клас, пытаешся, чаму няма Ахрапкінай або Маліцікавай, а ў адказ чуеш, як самае звычайнае: «А они в замуж ушли». Бывала, тыдні праз два, не вельмі саромеючыся, вярталіся з замужжа, садзіліся за парту і зноў вучылі «парціцып цвай».

Ніводзін навучальны год я не пачынаў першага верасня. Прывыкаць да гэтага пачалі я і вучні. Непрымірымы змагар за высокую ідэйнасць Страпчанка здымаў мяне звычайна перад самым пачаткам заняткаў. Праз тыдні два мяне зноў аднаўляў аблана. Некаторыя лічылі, што ў мяне там ёсць «моцная рука», а я ў вобласці не быў і нікога не ведаў. Падстава была адна — знятая судзімасць, а самае галоўнае — не зваліся сумленныя, добрыя і смелыя людзі нават у жахлівыя гады суцэльнага страху, арыштаў, здзекаў і беззаконня. І ўсё ж былі Людзі. Я ім удзячны ўсё жыццё і не забуду ніколі.

Так мы і жылі да вясны 1953 года, пакуль і ў нашу глушэчу не дакацілася трывожная вестка: «Захварэў таварыш Сталін». У настаўніцкай звычайна паціху пыталіся: «Ну як! Што чуваць?» Уздыхалі і разыходзіліся па класах. Усе беды звальвалі на «ворагаў народа» — крамлёўскіх урачоў, якія ўсіх «труцілі і знішчалі», захапляліся даносам Лідзіі Цімашук, а ў класах заклікалі вучняў быць Паўлікамі Марозавымі — не шкадаваць ні бацьку, ні маці, намякалі, што і ў нас працуе ўрачом невядома хто, калюча пазіралі на мяне, нібыта ў хваробе правадыра ёсць і мая віна.

«Пільнасць і класавая нянавісць» паралізавалі ўсіх. Пушыкаў не толькі ставіў адзнакі ў нашых «воўчых пашпартах», а ўчыняў сапраўдныя допыты, дамагаўся даносаў аднаго на другога, дапытваўся, хто што гаворыць, як настроены, што думае, упартых гразіўся саслаць за Палярны круг. Прыгнечанасць і трывога не пакідалі нас.

Быў адліжны сакавіцкі дзень. Па снежнай траншэі праз свой пляц мы ішлі з Аляю на другую змену. Насустрач бегла наша Таня. Чаму так рана? Ці не познімся мы? Параўняўшыся, яна ціха сказала: «Нас адпусцілі. Памёр таварыш Сталін. Там усе плачуць». Я ўхапіўся за галаву. Аля смыкнула мяне за рукаў. «Не ўздумай толькі румзаць. Вочы ў цябе на мокрым месцы, а падумаюць — прыкідваешся, льеш кракадзілавы слёзы... Цяпер нешта будзе».

Настаўніцы спаборнічалі, хто каго пераплача, галасілі: як жа цяпер будзем жыць, што мы варты без мудрага і вялікага настаўніка і бацькі? Плакалі дарослыя і дзеці, сухія вочы выклікалі падазронасць: не плачаш, значыць, радуешся.

У жалобныя дні заняткі адмянілі, але настаўнікі і старэйшыя вучні збіраліся ў школе, слухалі жалобныя перадачы і маршы, рыхтавалі клас да мітынгу ў дзень пахавання. Знеслі дзе якія былі дываны, накрылі імі састаўленыя сталы, паставілі аблямаваны жалобнымі стужкамі партрэт правадыра, акружылі яго лепшымі «садамі» (вазонамі), паставілі сцяг сельсавета з чорнаю ліштваю.

У дзень пахавання амаль усё сяло сышлося ў школу. Калматыя, барадатыя, у кажухах і сабачых дохах сібіракі моўчкі падпіралі сцены, жанкі часам шморгалі насамі, настаўніцы адна перад адною заліваліся слязьмі, а калі пачаліся жалобныя прамовы, рыдалі да істэрыкі. Аля стаяла, апусціўшы галаву, а я, каюся, не ўтрымаўся і заплакаў, можа, таму, што напакутаваўся

за столькі гадоў, і самі сабою прарваліся нявыплаканыя слёзы. Наіўна яшчэ верылася, што толькі ён, народнае апірышча, дазнаўшыся пра нашы пакуты, можа злітавацца і вызваліць з няволі. І патаемна думалася: няўжо ён не ведае, колькі мільёнаў людзей розных узростаў, спецыяльнасцей, талентаў гіне ў турмах, лагерах і ссылках. Успаміналіся ленінградскія карабелы і партыйныя работнікі, бальшавікі з дарэвалюцыйным стажам, палкоўнікі і сакратары райкамаў, інжынеры, пісьменнікі і артысты. Следчыя мелі рацыю, калі гаварылі: «Дурняў мы не бяром», — хоць бралі ўсіх, як таго Рудэнку, «па плану».

Пасля пахавання ўсе нечага чакалі. З'явіліся партрэты Малянкова, адчулі палёгку ў калгасах, дасціпны народ адразу выказаўся: «Прыйшоў Малянкоў, паспыталі блінкоў». Чакалі нечага і мы. Трошкі памякчэў Пушыкаў, спакайней і лагодней глядзела Наталля Іванаўна, нават часам раілася з намі, прасіла аформіць табліцы для яе класа.

Эла Рыгораўна даволі часта ездзіла ў раён па лекі і ўказанні свайго начальства і, вядома, спынялася ў Лідзіі Яўсееўны. Прывозіла адтуль капу навін, усцешных чутак і здагадак. Імі толькі і трымаюцца ўсе нявольнікі, абнадзейваюць, суцяшаюць сябе і блізкіх.

Пасля таго як мы «асірацелі», у хатцы Лідзіі Яўсееўны і Веры Міхайлаўны сыходзіліся аптымісты і песімісты. Ленінградкі і масквічкі прыносілі лісты ад родных з намёкамі на лепшае: вызвалілі крамлёўскіх урачоў, спынілі высяленне з Масквы, Іван Андрыянавіч раіў усім складаць чамаданы, пасміхаўся з мяне, што рваўся, будуючы хату, а дастанецца чорту лысаму. Міналі тыдні і месяцы, а ў нашым становішчы ніякіх змен не было. Толькі трошачкі спакайней жылося.

Стаялі бязвоблачныя цёплыя дні, асядаў і ходка раставаў набрынялы снег, з шоргатам са стрэх спаўзала наледзь, з крутаяраў у Біязінку і Тару беглі каламутныя раўчукі, карычневатай смугою зацягнуліся бярэзнікі, пачарнелі паточаныя сонцам сумёты. Пахла вясною, курыліся першыя праталіны, лажок за нашымі гародамі стаў глыбокім і бурным ручаём. А ночы бывалі марозныя і зорныя. Часта начамі агаладалыя ласі падыходзілі да нашых хат, шукаючы спажывы.

Сібірская вясна імклівая, бурная і шумная. Разоры ператвараюцца ў рачулкі, нізіны ў азёры, аздобленыя пралескамі і мядункамі. У такую пару з сяла ні выехаць, ні ўехаць у яго, у веснавую бездараж і Пушыкаў нас не турбуе сваімі клопатамі. Нават пачынаеш забываць пра свой «наморднік», вольна ідзеш

у суседнюю вёску Кардон да землякоў-беларусаў. Пераехалі яны сюды ў пачатку стагоддзя з пясочкаў, багны і падзолаў на тлустыя сібірскія чарназёмы, абжыліся на таежных расцяробах, вырасла ці не чацвёртае пакаленне, а жывуць неяк асобна, збярогшы прадзедаўскія звычаі, гаворку, песні, побыт. Печы, посцілкі, калыскі і ложкі, стравы і ручнікі пазнаеш адразу — усё беларускае. Я часта хадзіў да землякоў адвесці душу, і яны былі рады чалавеку «са сваёй стараны». Маладыя толькі чулі пра яе, а я ім расказваў пра гарады, мястэчкі і сёлы Беларусі і сам жыў успамінамі.

Пасля адыходу ў «лепшы свет» правадыра і «бацькі народаў» нішто не пабурылася, не разваліласся. Наадварот, у краме давалі колькі трэба хлеба, прывезлі некалькі бочак салёнай кеты і нават з Кітая — скрынкі ніколі тут не бачаных апельсінаў.

Мы шчыравалі ў школе і на сваім гародзе, марылі, каб толькі далі спакойна разам хоць тут дажыць свой век.

У гарачы ліпеньскі поўдзень я капаўся на сваіх градах. Па вуліцы шпарка ішла наша суседка Рудэнчыха. Спынілася і паклікала мяне. «Чы чулы вы, што посадылы цього скажэнного Бэрыю?» Я замахаў рукамі, каб змоўкла, азірнуўся, ці не слухае хто. «Та вы нэ лякайтэся. Всі чулы в дітдомі па радзіву. Шпіён він і вбівец». Я стаяў як аглушаны. Убег у хату, хутчэй уключыў чорны рэпрадуктар. Ігралі маршы, расказвалі, як ідзе касавіца на Украіне і жніво ў Малдавіі. І толькі пад вечар пачуў: «Непарушнае адзінства партыі, урада і савецкага народа — залог нашай магутнасці ў гэтыя складаныя дні... Толькі што выкрыты вораг народа Берыя рознымі кар'ерысцкімі махінацыямі ўцёрся ў давер і прабраўся да кіраўніцтва. Яго чакае суд і заслужаная кара».

Я ўхапіў Алю на рукі і пачаў кружыцца па хаце: «Кончыліся нашы пакуты! Пабачыш, нешта зменіцца і ў нашым жыцці!»

Неўзабаве ссыльных пачалі выклікаць у райаддзел НКУС запаўняць анкеты і без асаблівай радасці намякаць, што ўсе хутка паедзем дадому. У хатцы Лідзіі Яўсееўны быў святочны ўздым, гаварылі, хто куды паедзе, расказвалі, што ў Маскву ўжо вяртаюцца з уральскай ссылкі. Сын Вікторыі Сяргееўны напісаў, што вярнулася яе сяброўка па камеры жонка Молатава Жамчужына і спраўлялася пра яе лёс. Іван Андрыянавіч збіраўся ў сваю Успенку. Там ён дваццаць пяць гадоў вучыў дзяцей, атрымаў ордэн «Знак Пашаны», потым лагер і веч-

ную ссылку, але ў самых складаных абставінах заставаўся аптымістам, ніколі не траціў пачуцця гумару, кпіў з сябе самога, што служыць у канторы «Рогі і капыты».

19 жніўня мне абвясцілі, што я вызвалены з ссылкі без зняцця судзімасці. І так кожнаму. Некаму карцела хоць пляму пакінуць. О, гэтая ракавая лічба 19! У 1936 годзе 19 кастрычніка мяне арыштавалі, праз дзесяць гадоў 19 кастрычніка вызвалілі з лагера, 19 ліпеня 1947 года знялі судзімасць, 19 мая 1949 года арыштавалі другі раз, 19 верасня пастанавілі саслаць на пасяленне і вось 19 жніўня адпускаюць на крыху даўжэйшы павадок: асуджаны чалавек не меў права жыць у буйных гарадах, сталіцах рэспублік, яго пашпарт быў такой серыі, з якою не вельмі прапісвалі і бралі на работу. Зазірну трохі наперад: пастанова аб маёй рэабілітацыі прынята 19 кастрычніка 1955 года, роўна праз 19 пакутніцкіх гадоў. Ну як тут не быць фаталістам?

Вызваленым без зняцця судзімасці выдавалі «часовы пашпарт» на адзін год — складзеную напал блакітную паперку. Каму яе пакажаш? Што з ёю выпрасіш? Тады я дастаў са свайго спрату пастанову аб зняцці з мяне судзімасці Прэзідыумам Вярхоўнага Савета БССР. Паказаў начальніку. Той здзівіўся, развёў рукамі: «Нічога не ведаю. Я дакладна выконваю ўказанне». Прыйшлося ўзяць «пашпарт» трошкі большы за «воўчы» з вялізным мінусам на геаграфічнай карце.

Неўзабаве мяне выклікалі ў районa і прапанавалі выкладаць рускую мову і літаратуру. Гэта была найвялікшая радасць. На ўрокі ішоў, як на свята, і стараўся, не шкадуючы сіл і часу. Літаратура — мая гарачая і нязменная любоў, і выкладаў яе з натхненнем.

Шкада толькі, што апусцела наша «калонія» ссыльных. Паехалі Эла Рыгораўна і Ганна Якаўлеўна. Не затрымаліся Кінаш і Вацлаў. Раз’ехаліся нашы лепшыя сябры з райцэнтра. А я вырашыў да поўнай рэабілітацыі нікуды не кратацца. Куды ж паедзеш з сям’ёю без пэўнага прыстанку і работы? Нудзіўся, але чакаў адказу з Пракуратуры і Вярхоўнага суда.

На перапынку жнівеньскай канферэнцыі собіла сутыкнуцца ў калідоры з маім «нястомным апекуном» Страпчанкам, і д’ябал тузануў за язык: «Можа, хоць цяпер пакінеце мяне ў спакоі, таварыш сакратар?» Ён сумеўся ад нечаканага нахабства, паглядзеў прыжмуранымі маленькімі вочкамі. «Я займаюся партыйнымі кадрамі, а настаўнікамі — раёна». — «Па ва-

шых указаннях». — «А ў вас у Новасібірску, відаць, моцная рука». — «Ніколі там не быў і нікога не ведаю. Проста ёсць яшчэ сумленныя і сапраўдныя людзі». — «А мы што, не сумленныя?» — вырачыўся ён. «Гэта вам лепш вядома». І раптам ён змяніў тон: «Не думаў, што беларусы такія настырныя. Ваша прозвішча памятаю па нарысах у газетах, а потым пісалі — «замаскаваны нацдэм». — «Дык вы-ы з Беларусі?» — «З Крычава». — «Вы ж мяне па-зямляцку кожны год штурхалі ў пятлю. Толькі сям'я стрымлівала». — «Цяпер працуйце спакойна». Я кіўнуў і выйшаў з клуба.

Ішоў па шырокай, асабліва сумнай цяпер пустой вуліцы і дакараў сябе, навошта чапаў землячка, але і стрымацца не мог. Бязмэтна выйшаў на ўскраіну і апынуўся на рынку. На ўкапаных сталах жанкі прадавалі зялёную і галоўкамі цыбулю, бручку, яечкі, кедравыя арэшкі, воўну, нейкія неданоскі. На стале пад паветкаю з толю ляжаў амаль новы кіцель, сінія брыджы і фуражка з блакітным верхам. Іх прадаваў звольнены ў запас Пушыкаў. Райаддзел амаль цалкам быў скасаваны, і непатрэбныя работнікі раз'язджаліся куды каторы. Я разгубіўся. Адвярнуўся і ён, думаючы, што не пазнаю. На ім была светлая кепка, безрукаўка і сандалеты. У цывільным ён выглядаў дробненькім і зусім не грозным. І ўсё ж я не ўтрымаўся, падышоў: «Прадаяце?» Пушыкаў злосна зіркнуў: «Не, праветрываю». — «А фуражачку я б у вас купіў... на памяць, — узяў і памераў. — Шкода, што малая, а то пафарсіў бы... Як мы яе баяліся».

## КРАМЛЁЎСКІЯ КУРАНТЫ

Пасля адноснага вызвалення амаль яшчэ два гады цярпліва чакаў маленькую паперку, якая вяртала чалавечую годнасць, правы, волю, незаплямленае імя. Дні, тыдні і месяцы цягнуліся марудна, але не пакідала надзея.

Пракуратура апратэставала абвінавачанні 1936 і 1949 гадоў і справу перадала Калегіі Вярхоўнага суда БССР. Я ўяўляў, колькі там разглядалася лёсаў жывых і даўно пахаваных у вечнай мерзлаце, каб з родных і блізкіх зняць страшнае кляймо. Каб меней думаць, шчыраваў у школе і на сваёй невялікай гаспадарцы: летам у таежнай глушэчы касіў і стагаваў сена, зімою даглядаў карову, рэзаў і калоў дровы, кожную раніцу адкідаў снег і прабіваў у сумётах, вышэйшых за мяне, траншэю

да крынічкі на беразе Біязінкі, высякаў прыступкі на абледзянелым крутаяры, каб можна было ўзысці з вёдрамі вады, па суботах паліў лазню, хадзіў на давераныя мне дзесяцідворкі.

І ў школе пабольшала нагрузка, прыбавілася сшыткаў, планаў, даручылі класнае кіраўніцтва, і наш драмгурток у клубе кожны месяц выпускаў прэм'еры. Мяне ўжо запрашалі на святочныя настаўніцкія вечарынкі. На іх было шмат бражкі і гарэлкі, не вельмі прыстойных жартаў і песень да крыку. Аднойчы падсела да мяне Бугаёва і зашаптала: «Не п'еш, разумненькі, і толькі пасміхаешся з нас, а я з гора часам залью вочы. Што гэта за жытка — без мужа гадаваць чацвёра дзяцей, а я ж яшчэ не перастарка. І маю маладосць гэты ірад Берыя атруціў — бацьку майго недзе нізашто згнаіў. Вось і засталася недавучкай, з'ехала сюды. Муж быў правільны і ідэйны і мяне такой выхаваў. Столькі насіла камень на сэрцы і от прызналася. Ведаю — плявузгаць не будзеш. З'едзеш хутка і забудзеш нас, дурняў». І праслязілася. Мне стала шкода яе. Суцяшаў як умеў. І яна была ахвярай нашага страшнага часу.

Нарэшце прыйшоў чаканы пакет з Вярхоўнага суда. Большай радасці ў мяне ніколі не было: 19 кастрычніка 1955 года я быў поўнасцю рэабілітаваны. Зноў 19-га і роўна праз 19 гадоў! Гэта не проста былі каляндарныя гады, а штодзённыя нечалавечыя выпрабаванні у адзіночках, «на канвеерах» у следчых камерах, у карцэрах, на непасільнай рабоце галодным і халодным на лесасеках і пагрузках, на пракладцы ляжнёвак і чыгунак. А нормы! Цяпер нават цяжка ўявіць, як мы іх выконвалі за шэсцьсот грамаў хлеба і тры міскі баланды. Адкуль браліся сіла і цярпенне? Адзін такі цярністы шлях некаторым удавалася вытрываць, але ён паўтарыўся ў 1949-м. Чаму? Навошта? За што аднялі маладосць, лепшыя гады не толькі ў такой драбнаты, як я, а ў мільёнаў таленавіцейшых вучоных, канструктараў, вынаходцаў, камандзіраў і паэтаў, артыстаў, чыгуначнікаў і тых аратых, што, як Рудэнку, бралі «па плану». Дзе яны? Хто вытрываў? Хто вярнуўся? Ды і на тых, хто выкараскаўся з пекла, яшчэ доўга скоса глядзелі, а часам і глядзяць «праведнікі» ўзору 37-га.

Усё часцей прыходзілі лісты ад сяброў і знаёмых па ссылцы. Вікторыя Сяргееўна і Эла Рыгораўна вярнуліся ў Маскву і пачалі працаваць, Ганна Якаўлеўна — у Ленінград, Вера Міхайлаўна — у Баку падала хадайніцтва пра аднаўленне ў партыі, Кінаш у Краматорску вярнуўся на свой завод, Вацлаў — у Мінску. І ўсе запрашалі не мінаць па дарозе дадому. А дзе ў

мяне той дом, я і не ведаў, але заставацца тут болей не мог. Вось калі я зразумеў, што такое настальгія. Мне снілася Беларусь, я сам з сабою гаварыў на роднай мове, успомніў забытыя песні, пахі аеру і яблыневага цвету. Родная зямля стала маёй мараю. Дзе б ні ішоў, што б ні рабіў, думаў адно. Усё пачаловаліцца з рук, часам адказваў не тое, што трэба было, і наважыўся ехаць. Аля мяне супакойвала і суцяшала, угаворвала дабыць да лета і тады збірацца ў дарогу. А куды? Хто нас там чакае? Каму мы патрэбны? Дзе прыхінеш галаву? Там жа — ні кала ні двара, а тут як ні кажы свая хата, нейкая гаспадарка і работа, з якое ўжо болей не спора і Страпчанка.

І ўсё ж мне з кожным днём рабілася цяжэй і цяжэй. Толькі часам на ўроках забываўся на свае пакуты: так ясна і даверліва глядзелі вочы дзяцей бяргульскіх кержакоў, кардонаўскіх беларусаў, весялоўскіх татарчанят і асцякоў. Я з імі пасябраваў і шчыра палюбіў сваіх непасрэдных і наіўнаватых выхаванцаў. Падросшы, яны, відаць, адчулі, што дарэмна мяне дражнілі «Дэр ман», задавалі абразлівыя пытанні, былі неслухамі і гультаямі.

Пасля зімовых канікулаў я падаў дырэктару заяву, каб вызвалілі мяне ад работы. Ён разгубіўся. Дапытваўся, можа, хто абразіў ці пакрыўдзіў, угаворваў закончыць навучальны год. Я разумеў свой абавязак, але заставацца не мог: усё валілася з рук — клікала воля, каб нішто не нагадвала гэтыя сем пакутлівых гадоў. Пры мне Яўген Паўлавіч пазваніў у районa. Было чуваць, як накінуўся на яго Маеўскі. Дырэктар развёў рукамі, аддаў мне заяву.

Прыйшлося ехаць у раён. Загадчык районa спакушаў мяне з новага навучальнага года пасадаю завуча ў раённай сярэдняй школе, абяцаў кватэру, добрую нагрузку жонцы. Пры мяккасці характару я быў непахісны. «Вас прымусіць пракуратура працаваць да канца навучальнага года», — перайшоў да пагрозы Маеўскі. «Сем гадоў я вам быў не патрэбен, як жабрак, выпрошваў работу на кавалак хлеба, звальненнямі кампраметавалі перад вучнямі і бацькамі. Вы ўяўляеце, у якіх умовах я жыў і працаваў. Прабачце, больш не магу заставацца ні дня».

І ўсё ж давялося ісці да пракурора, выслухаць угаворы і абяцанні і настояць на сваім. Мяне вызвалілі па ўласным жаданні з добраю характарыстыкаю і падзякаю за працу...

Ва ўсіх класах даў апошнія ўрокі, прадыктаваў заданні на дом і з камяком у горле выйшаў са школы. Маю нагрузку развярсталі паміж настаўнікамі. Яны былі радыя дабаўцы

да зарплаты, а некаторыя шкадавалі, што пакідаю школу. Я жартаваў: «Застаюцца ў заклад жонка і дзеці».

Калі ўдасца выехаць, пэўна не ведаў. Люты — самы мяцельны ў Сібіры месяц. Снежныя бураны накручваюць сумёты аж да стрэх, завальваюць двары, што сусед адкопвае дзверы ў суседа. Мяце і круціць так, што выцягнутая рука не відаць. У такую завею аднойчы мы з Аляю ледзь не загінулі за некалькі крокаў ад свайго плота. Пакуль ішлі з педсавета па вуліцы, заблудзіць не было як, а сышлі ў наш лажок і па пахі патанулі ў снезе. Грэбліся, грэбліся, тупкая дарога прапала. Вецер збіваў з ног, над галавою, як белыя ведзьмы, свішчуць і круцяцца шорсткія пасмы, поўныя снегу валёнкі спаўзаюць з ног. Выбіліся з сіл і папаўзлі, а куды, і самі не ведаем. Трымаемся, каб толькі не згубіць адно аднаго, паўзём у крутаверці гулкай сцюдзёнай прорвы. Я лёг і прытуліўся шчакою да шорсткага сумёту, і здалося — зусім блізка мільгнула кропелька святла. Няўжо трызненне? Не, не знікае, дрыжыць і мільгае. Я ўхапіў Алю за каўнер кажушка, і папаўзлі на агеньчык. Пераваліліся цераз замеценае прасла плота і дагрэбліся да свайго ганка. Увайшлі, як два снежныя слупы. Электрычнасць даўно выключылі, на стале гарэла ўкручаная лямпа і выратавала нас.

Такая ж завіруха ўсхадзілася перад маім ад’ездам. Гусенічныя трактары з вялізнымі клінамі прабівалі дарогу машынам па збожжа, пакуль лютавала завея. Раптам усё сціхла, заіскрыліся дзівосныя сумёты, ударылі маразы з барвовымі світаннямі і малінавымі заходамі. У Барабінск збіраўся ехаць калгасны шафёр, марудны, губасты і маўклівы Ахмед Асанаў, і паабяцаў узяць і мяне.

Ранічкаю з фанерным чамаданчыкам я прыйшоў да яго. Мяне праводзілі Аля і Таня. У двары пад грузавіком невялічкае вогнішча разагравала матор. Я развітаўся з дачушкаю на вуліцы, яна выцерла рукавічкаю вочы і пабегла ў школу. Мы зайшлі ў хату. Ахмед павольна сёрбаў зацірку і маўчаў. У Алі першага ўрока не было, і яна цярпліва чакала... У сенцах пачуўся тупат ног, і ў хату ўваліўся ўвесь мой клас: заплаканая Таня сказала, што я ад’язджаю, яны сарваліся з урока і прыбеглі развітацца. Я расчуліўся да слёз. Шкода было пакідаць гэтых шчырых, з самага маленства працавітых, прагных да ведаў дзяцей, якія яшчэ не бачылі радасці, але і заставацца не было як. Мае мілыя вучні махалі мне ўслед, пакуль машына не завярнула за апошнюю хату.

Ад Барабінска да Масквы ў перапоўненым, душным і тлумным вагоне ехалі больш за чацвёра сутак. На станцыях сыходзілі адны, садзіліся другія са сваімі размовамі і навінамі. У Кунгуры амаль усе пасажыры кінуліся да прывакзальных ларкоў, і вагоны напоўніліся глінянымі і фарфоравымі статуэткамі «Гаспадыні меднай гары», саматужнымі ўпрыгожаннямі з уральскіх самацветаў, капілкамі ў выглядзе размаляваных катоў і сабачак са шчылінамі для манет.

Па вагонах часта шасталі не так даўно амнісціраваныя «мазурыкі». Я іх пазнаваў з першага погляду, як даўніх знаёмых па бараках і брыгадах, і адшываў некалькімі сказамі на блатным жаргоне. Відаць, лічылі за свайго і пакідалі за мною «сферу дзейнасці».

У сталіцу прыехаў 16 лютага. Выйшаў на прывакзальную плошчу, агледзеўся, аж не верылася, што я ў Маскве. Не, яна — стольная! У кіёску купіў і разгарнуў свежую «Праўду». 14-га адкрыўся Дваццаты з’езд партыі. На першай старонцы — здымак Прэзідыума, а над ім у нішы скульптура Леніна на ўвесь рост. Толькі Леніна. Чаму ж няма таго, хто яго так доўга засланяў на плакатах і медалях? Яны ж побач у Маўзалеі? Падумаў і не прыдаў вялікага значэння.

Адрас Вікторыі Сяргееўны ведаў на памяць, але ў каго ні пытаўся, дзе той Лучнікаў завулак, толькі пацiскалі плячамі і разводзілі рукамі. Стаяў на ўскрайку тратуара са сваім няўклюдным чорным чамаданам, глядзеў на людную мітуслівую плошчу, на галубоў у лужынах веснавой вады, на адліжную, у лёгкай смузе Маскву. Апошні раз я яе бачыў сем гадоў назад цераз краты «сталыпінскага» вагона, а ў сваёй таежнай глушы толькі па радыё чуў бой курантаў і знаёмыя галасы Левітана, Высоцкай і Тобіяша. Не верылася, што некалі ступлю на яе вуліцы і плошчы, убачу Крэмль, Спаскую вежу і Маўзалей. Але няма чаго раскісаць, трэба неяк дабірацца на той невядомы завулак. І раптам успомніў: Вікторыя Сяргееўна казала, што побач Політэхнічны музей і Лубянскі праезд. Там жыў, хадзіў і памёр Маякоўскі.

Першая думка — сесці ў таксі, але страшна — колькі гэта можа каштаваць? Кожная ж капейка на ўліку, а калі яе яшчэ заробіш?

Пачаў дабірацца на аўтобусах і тралейбусах, надакучаць роспытамі. А на мяне глядзелі падазрона. Па маім выцертым, у асцюках, доўгім паліце, злінялай шапцы і тоўстых мокрых

валёнках, відаць, здагадваліся, адкуль я выскачыў, і маглі паклікаць міліцыю.

Дабраўся-такі на Марасейку, а там ужо рукою падаць да Лучнікавага завулка. Стары дом з брудным абшарпаным пад’ездам, дзверы, абабітыя дзіраваю цыратаю з касмыкамі чорнай ваты, на вушаку, як гузікі ў гармоніку, белыя кнопкі электрычных званкоў. Знайшоў патрэбны, далікатна націснуў і доўга стаяў. За дзвярыма пачуліся галасы, нехта некага гукаў, ляснулі засаўкі. Дзверы адчыніла невысокая сіваватая жанчына, падобная на Вікторыю Сяргееўну, і ўпусціла ў доўгі цемнаваты калідор з нейкімі куфрамі, скрынкамі, падвешанымі на сценах бляшанымі ваннамі і веласіпедам пад столлю. «Вікця, прымай госця». З суседняга пакоя выйшла мілая Вікторыя Сяргееўна і прадставіла сваю старэйшую сястру Людмілу, «карагандзінку са стажам». Пакуль сёстры сядзелі ў лагерах і ссылках, іх выракліся мужы (не ў прыклад многім жонкам), але ў абедзвюх выраслі слаўныя сыны, шчыра адданыя мацяркам. Яны ўтрымалі гэтую «камуналку» і зберaглі ўсё, што маглі зберагчы, — сумленне і добрую душу.

Я адчуваў сябе няёмка і скавана. І не дзіва, каб не здзічэць за столькі гадоў. Ступаў на дыбачках, каб нікога не патрывожыць, каб шматлікія суседзі не ўпікалі маіх гаспадынь «заезджым домам». Па калідоры і ў кухні шасталі і гучна гаварылі жанчыны ў доўгіх зліняных халатах, з папяровымі папільёткамі ў валасах, нешта варылі і смажылі на сваіх керагазах і прымусах. Я цярпліва чакаў, калі яны схлынуць, каб прайсці да ўмывальніка.

Праз некалькі гадзін, бачачы непадробную шчырасць і нязмушаную ўвагу мілых сясцёр і іх сыноў, я адчуў сябе смялей і вальней.

Мне хацелася пахадзіць па Маскве, пастаяць у доўгай чарзе да Маўзалея Леніна, наведаць Траццякоўку, з’ездзіць у Хамоўнікі, падыхаць паветрам Талстога, пабыць у кватэры Чэхава, пакланіцца Пушкіну. Вікторыя Сяргееўна збіралася пайсці разам, але я адмовіўся, каб не кампраметаваць сваім таежным выглядам, а схлусіў, што хачу самастойна паблукаць па сталіцы.

Увечары толькі і гаворкі было пра партыйны з’езд. Усе чакалі вялікіх змен, асцярожна гаварылі пра нейкія новыя ацэнкі ролі Сталіна, хоць усё яшчэ азіраліся, баючыся яго і мёртвага. Але ўсюды адчуваўся ўздым, раскаванасць, болей было ўсмешак і светлых абліччаў.

На другі дзень Вікторыя Сяргееўна сказала, што ўвечары ідзём у МХАТ на «Крамлёўскія куранты». Я ніколі не быў у гэтым славутым тэатры і чакаў вечара, як малое дзіця навагодняй ёлкі. Білеты ёй дастала Жамчужына. Я адпрасаваў сваю адзіную белую кашулю і стракаценькі гальштук, навёў на штаны стрэлачкі, мне падабралі чаравікі сына Людмілы Сяргееўны. Каб не вельмі кідацца ў вочы, у тэатр мы прыехалі незадоўга да пачатку спектакля. У гардэробе і вузкіх калідорах я аж зажмурыўся ад бляску генеральскіх пагонаў, гузікаў, ордэнаў і лампасаў, ад Зорак Герояў, ад кідкіх жаночых убораў. Амаль усе былі з ордэнскімі планкамі і дэпутацкімі значкамі, галаву п'янілі пахі тонкіх духоў. Куды я трапіў? Тузануў за вуха, ці не сон гэта. Я ціснуўся да сцяны, каб нікому не замінаць, глядзеў на шчаслівых людзей, а яны, як даўнія знаёмыя, стаялі купкамі, гучна гаварылі, жартавалі, смяяліся. Каб не кідацца ў вочы, я папрасіў маіх спадарожніц паказаць нашы месцы. Яны былі на першым ярусе балкона, па правую руку ад сцэны. Пад намі была ўся зала. Пасля трэцяга званка па праходзе ішла невысокая жанчына ў чорным плацці з расшытым бісерам рыдыкюлем, белыя кароткія валасы зачэсаны назад. У зале загрымела авацыя. Жанчына спынілася каля першага рада, павярнулася да публікі, пакланілася на ўсе бакі і села. Авацыя працягвалася. Па зале прашалясцела: «Кніпер-Чэхава». Фантастыка! Я бачу тую самую Вольгу Леанардаўну, якая да апошняй яго хвіліны была з вялікім Чэхавым, ведала Талстога, Шаляпіна, Горкага, Станіслаўскага, Левітана і Купрына, Андрэева і Буніна. І вось яна некаму ўсміхаецца, ківае прыгожай галавой, папраўляе срабрыстыя валасы.

Пачалі цямнець люстры. Сэрца замірае ад хвалявання: вось-вось рассунецца заслона з чайкаю і пачнецца цуд. Але зноў воплескі скаланулі залу. Усе ўсталі, усталі і мы, не ведаючы чаго. Якраз насупраць нас ва ўрадавую ложу ўваходзілі Хрушчоў, Булганін, Мікаян, Суслаў і некалькі незнаёмых у цывільным. Я толькі цяпер зразумеў, што трапіў на спектакль для дэлегатаў Дваццатага з'езда партыі.

Пасля ўсяго пяражытага апынуцца ў адной зале з кіраўнікамі партыі і дзяржавы, з лепшымі людзьмі краіны здавалася неверагодным, а часам нерэальным. З'яўленне Барыса Смірнова ў ролі Леніна сустрэў шквал апладысментаў. Ён быў такі жывы, такі натуральны, велічны і просты і поўнасцю супадаў з маім уяўленнем Правадыра ад самага дзяцінства. Увага гледачоў раздвойвалася паміж сцэнаю і ўрадаваю ложаю. Хрушчоў

ажыўлена ўсміхаўся, глядзеў у розныя бакі. Калі ў кабінеце Леніна з'явілася магутная постаць Барыса Ліванава ў ролі інжынера Забеліна з клуначкам пад пахаю, Мікаян пакратаў Мікіту Сяргеевіча за плячо, звярнуў увагу на сцэну і весела засмяяўся, потым частаваў суседзяў, відаць, цукеркамі з круглай бляшаначкі. Я ў той вечар яшчэ не ведаў усяе праўды, якую сказала партыя на гэтым пераломным з'ездзе, але на памяць міжволі прыходзілі мае сябры па агульных пакутах, паплечнікі і напарнікі на лесасеках і бесперапынных пагрузках. Дзе яны, маладыя, сумленныя, адданыя народу і роднай зямлі? Хто знойдзе іх магілы ў вечнай мерзлаце?

Гэты вечар у тэатры, размовы, здагадкі, чуткі і спадзяванні перавярнулі ўсю душу, далі сілу і веру, што пачынаецца іншае жыццё ў нашага адданага, непахіснага і незласлівага народа. Можа, нешта зменіцца і ў мяне. Але я яшчэ не ўяўляў, куды вынесе лёс, што чакае заўтра, дзе мой прытулак, хто сустрэне, хто адштурхне. Марыў аб адным — усім астатнім жыццём давесці, што заўсёды быў адданы свайму народу і Радзіме, ні ўчынкам, ні думкаю ніколі не здрадзіў ідэалам, у якія паверыў з маленства, якім быў адданы і верны ў бядзе і пакутах.

Я марыў пасяліцца ў ціхім раённым мястэчку, пры рэчцы і лесе, вучыць дзяцей дабру і сумленню, любові да пявучага роднага слова, адкрываць скарбы людскога розуму і духу.

Праз два дні з такімі марамі начным цягніком выехаў у Мінск. Толькі за Вязьмаю змарыў сон. Пад хісткі грукат колаў сніліся за хвалістымі сумётамі мая хата, наўкол, як прывід, заінелая тайга, над срэбна-блакітным прасторам — вялікі месяц і буйныя зоры. Я адчуў цёплае дыханне прытуленага да грудзей маленькага сына і пачуў яго настойлівы галасок: «Тата, дастань Месяц».

Прахапіўся і ўспомніў, што там даўно ўжо развіднела, над хатамі гайдаюцца белыя слупкі дыму, а наўкол — такія сінія снягі. Аля з Таняю спяшаюцца ў школу. Хто ж ім праб'е ў сумётах сцежку?.. Калі зноў будзем разам? І расла трывога: «Куды еду, дзе прыхіну галаву, каму я патрэбен?»

За акном шарэла світанне. На адхонах сям-там яшчэ ляжалі лапікі пачарнелага снегу. Відаць, будзе ранняя вясна. Што яна мне прынясе? Адлігу ці зноў сцюжу?

Замільгалі назвы беларускіх станцый. Ад хвалявання хадзіў і хадзіў па праходзе вагона — думаў, строіў планы то светлыя, то змрочныя. Але колькі ні плануй, жыццё ўсё вырашае па-свойму і нечакана выносіць зусім на іншы бераг.

Вынесла яно і мяне ў свет, пра які я і не адважваўся марыць.

Я пражыў доўгае, складанае, пакутнае і цікавае жыццё, аж не верыцца, што ўсё перажытае было са мною. А было, і нічога забыць нельга. Я дзяліў горкую долю свайго народа і шчаслівы, што цяпер магу паспавядацца за сябе і сваіх незваротных сяброў.

*Красавік 1987 — сакавік 1988 гг.*

## «ПОКЛОНИТЕСЬ РОДНОЙ ЗЕМЛЕ»

Его уже нет на свете пражская земля приняла нашего славного земляка — певца. А песня его звучит. Крутится черный диск, и неповторимый, чистый голос волнует и зачаровывает, тревожит сердце, будит воспоминания. То неповторимой «Купалінкай», то мажорной «Ці не дудка мая», то лирической «Зоркай Венерай»...

Вот уже сколько времени живу я во власти дивных песен Михаила Ивановича Забейды-Сумицкого и сожалею, что так поздно открыл его для себя...

Однажды я попал на концерт Забейды-Сумицкого в Белорусской государственной консерватории. Всех тогда покорили высокая культура исполнения, виртуозное владение голосом. Солист пел белорусские, польские и испанские песни. И в каждой раскрывался характер народа, его душа, его темперамент... Каждая песня звучала на языке того народа, который ее создал. В ней оживали самые тонкие нюансы языковых и музыкальных интонаций.

Вскоре певец поехал с концертами по республике, побывал и на родной Гродненщине, где прошло детство, а потом вернулся в «злату Прагу», что давно стала ему вторым домом. Но песни его остались в сердцах земляков, хотелось слушать их вновь и вновь. Я долго искал пластинки с песнями Забейды-Сумицкого, но, увы, не нашел.

...И вот солнечным сентябрем я попал в Прагу На другой день работник Союза писателей Чехословакии сообщил, что звонил Забейда и хотел встретиться со мной.

Спешу в район Виноградны, нахожу Польскую улицу. Вот и дом № 12. Дверь открывает хозяин, тот самый Михаил Иванович, которого я видел и слышал только раз, но которого мог бы узнать в любой толпе.

Захожу в небольшую сумрачную комнату. Половину ее занимает концертный рояль, накрытый льняной самотканой скатертью. На ней — ноты, книги и фотографии наших известных артистов и поэтов, кипы журналов «Полымя», «Маладосць», новинки белорусской поэзии и прозы.

Михаил Иванович радуется, что его не забывают давние и совсем молодые друзья: присылают свои книги, новые песни и дружеские сердечные письма.

Певец жадно расспрашивает про Беларусь, потом предлагает:

— Пойдем полюбуемся на «матичку Прагу».

Поблескивая крылышками, кружит большой пестрый мотылек и садится на грудь Михаилу Ивановичу. Я успел сделать несколько снимков, а мотылек сидит. Потом он вспорхнул, покружился, но не отстает от Забейды.

И уж совсем волшебником кажется певец, когда на его протянутую руку садится молодой скворец, а за ним — вертлявая синица. Видно, все живое чувствует человеческую доброту и тянется к ней.

Походив по живописным улицам, костелам и паркам древней Праги, возвращаемся в квартиру Забейды. Михаил Иванович садится к роялю и начинает тихо играть такую знакомую с детства «Калыханку». В мелодию вплетается светлый и печальный голос. Кажется, слышишь, как поскрипывает колыбель, трещит за печью сверчок, а за стеной воет осенний ветер. Видимо, и хозяин вспомнил детство на Гродненщине, в Шейпичах и Нестеровичах.

— Лет с восьми-девяти я начал работать по найму, — рассказывал Забейда, — сгребал сено, вязал снопы на панском поле... Отец умер, когда мне было полтора года, потом умерли братья и сестры, из семерых остался я один.

Юношей в качестве казенного стипендиата он поступил в Молодечненскую учительскую семинарию, а когда началась первая мировая война, эвакуировался в Смоленск.

— В 1917 году, — вспоминал Михаил Иванович, — участвовал в демонстрациях, носил лозунги и революционные плакаты, кричал «Долой царя!». В 1918 году окончил семинарию и поехал учительствовать в Сибирь.

В большом селе около Барнаула молодой учитель организовал хор и драматический кружок: был певцом и музыкантом, артистом и лектором.

А позже он очутился на Китайско-восточной железной дороге, учил детей железнодорожников.

Но призванием Забейды была все же песня. И он стал учиться вокалу и музыке у таких педагогов, как сотрудница Шаляпина Плотницкая, пианистка Тамашинская, дирижер Меттэр.

Одновременно он занимался на экономическом отделении Харбинского университета.

В 1929 году Забейда окончил университет, и ему предложили место ассистента. Когда же он отказался и подался в местную оперу, его готовы были считать сумасшедшим.

Вскоре ему предложили партию Ленского в опере «Евгений Онегин». За две недели она была подготовлена. Дебют принес успех и известность молодому певцу. Продолжая учительствовать, Михаил Иванович становится солистом оперы. Он поет партии Фауста, Альфреда в «Травиате», герцога в «Риголетто», князя в «Русалке». За три года исполнено более 15 ответственнейших партий.

В 1932 году Забейда едет в Италию. В Милане он учится под руководством известного певца и педагога Фернанда Карпи, того самого Карпи, который раньше выступал вместе со знаменитым Карузо[1]. Маэстро в восхищении от таланта молодого белоруса.

— Я пел на итальянском языке во всех известных классических операх, — вспоминал Забейда. — Как раз в то время в Милан приехал Леонид Собинов[2]. Мы познакомились, часто беседовали, вместе пели, а когда я исполнил арию Ленского, растроганный Леонид Витальевич сказал: «Как вы мне напоминаете мои лучшие годы молодости», дал свой адрес и пригласил приезжать в Москву.

«У Забейды сразу чувствуется нежная душа славянского романтического поэта. Его тонкая интерпретация захватывает слушателей. Его голос — это совершенный инструмент, способный передавать все чувства, высказанные в стихотворении, и тогда, когда он поет на чужом языке... Это подтвердила публика своими аплодисментами, прося повторить», — писал один из итальянских критиков.

Одни критики сравнивали Забейду с Титом Скипой[3], другим он напоминал Собинова, но все сходились на одном: певца ждет выдающееся будущее.

А он все чаще и чаще грустил по белорусским полям и перелескам, мечтал вернуться на родину, но обострилась давняя болезнь легких, и он был вынужден еще задержаться в Италии.

Изредка приходили письма из Шейпичей, входивших тогда, как и вся Западная Белоруссия, в состав Польши. В них было мало радостных вестей, матери одной жилось трудно. Лишь в

1935 году удалось навестить ее. Теперь известного певца приглашали выступать Познанская и Варшавская оперы. Приглашали, но только с одним условием: нигде и никогда не упоминать, что он белорус. Ему обещали ведущие партии, высокие гонорары, гастроли в столицах Европы и Америки, одним словом — блестящую карьеру.

— Отказаться от своего народа, от родного языка — то же самое, что отказаться от матери, — гневно ответил Забейда. — Я — белорус, белорусом и умру.

В концертах Михаил Забейда вместе с произведениями мировой классики пел белорусские народные песни.

— Мелодии нашего народа открывали мне дорогу к людским сердцам, — говорил Забейда. — Хоть эта дорога не обещала мне большой карьеры, но я не мог жить без родной песни.

Михаил Иванович вспоминал один из своих концертов в Вильне в конце 1936 года и показал «Беларускі летапіс» № 2—3 за 1937 год. На пожелтевших страницах — знакомые имена: Рыгор Ширма[4], Михась Василек[5], Тавлай[6], Машара[7].

А вот статья за подписью Максима Танка. Читаю: «Зусім іначай спяваў М. Забэйда-Суміцкі. З першых слоў ён нябачнымі пальцамі адчування ўзяў сэрца песні, палажыў яго на асцярожныя далоні дзіўнага голасу і, абвеяўшы чарамі, задумай, панёс яго, здаецца, на растайныя дарогі, між саламяных стрэх, між каласоў, затопленых сонцам, раскалыханых ветрам. І ці ж можна было не адчуць і не пайсці за песняром? Зала доўга кацілася да эстрады хвалямі воплескаў. Змоўкла. Пасля ўсяго мне здалося, у кожнага чагось не хапала, без чаго перш людзі стараліся жыць спакойна, быццам не заўважаючы, і нехта ім прыпомніў, што так няможна жыць далей, як жылі. Часамі песні так патрапяць сказаць!..»

Прочитав эти строки, я понял, что делала песня Забейды на прежних «Усходніх крэсах», почему пилсудчики грозили певцу казематами Картуз-Березы[8].

Забейда ездил по белорусским, литовским и польским селам и пел песни тех народов, которые боролись за свое освобождение. Оставаться в буржуазной Польше было опасно, и он поселился в Праге.

...Во время войны в литовской деревне послушать известного певца набилась полная хата. Было много молодежи. После концерта артиста приглашали на ужин. Один парень попросил Михаила Ивановича: «Спявайце больш. Вы абуджаеце волю да барацьбы за вызваленне ад акупантаў».

Только назавтра Забейда узнал, что на концерте и на улице была большая группа литовских партизан.

В партизанском отряде были его двоюродные братья Язэп и Владимир Урбановичи. Через них и свою мать Михаил Забейда передавал партизанским отрядам Волковысского района деньги, бинты и медикаменты.

В 1944 году за связь с чешскими подпольщиками фашисты забрали артиста из больницы и бросили в Панкрацкую тюрьму в Праге. Только счастливый случай спас его от смерти. В фашистских застенках погибла его любимая женщина. Он остался ей верен навсегда, так и не создав потом семьи.

...Казалось, я слышу, как кукует кукушка, шепчет зеленый дубочек, шелестит трава... Песни родной земли сменяются романсами Чайковского, испанскими народными напевами... Забейда пел на восемнадцати языках. Сколько же он мог бы дать нашему искусству, сколько бы талантов воспитал, сложись его судьба иначе!

— Обратите внимание: вербы здесь, как над Неманом, и туман, как у нас, — говорил Михаил Иванович во время нашей прогулки по Праге.

Тосковал он по родине сильно. Особенно я почувствовал это, когда Забейда зашел в мой вагон с табличкой «Прага — Москва». Присел, долго рассматривал каждую мелочь и молчал. Прозвенел звонок, но ему не хотелось выходить: так и поехал бы...

На прощание сказал «Даже вагон пахнет домом... Поклонитесь родной земле. Я ее очень люблю... Во сне часто вижу... Привет всем, кто меня помнит. Надеюсь вскоре встретиться...»

Надежды не сбылись...

Время от времени из Праги приходили письма. В каждом — грусть по родным местам. Иногда Михаил Иванович рассказывал о своих артистических успехах, радовался, что многие его ученики уже стали профессорами, а его самого за исполнение чешских песен в сезоне 1971/72 года музыкальный фонд отметил премией. Это было уже, кажется, тринадцатое поощрение.

Не стало Забейды 21 декабря 1981 года...

...Когда мне бывает грустно, я ставлю пластинку и слушаю удивительный голос Забейды-Сумицкого. Крутится черный диск — волнует, очаровывает, тревожит, будит воспоминания.

Песни и арии из опер в исполнении Михаила Забейды должны стать достоянием всех любителей народной и классической музыки, культурным достоянием нашего народа. Они должны

звучать по радио и телевидению, необходимо выпустить серию пластинок нашего выдающегося певца.

*1989 г.*

## ТАК ПОГИБАЛИ ПОЭТЫ...

В многолетней атмосфере лжи и вынужденного молчания дотошные исследователи белорусской литературы не могли понять, какая эпидемия в тридцатых годах выкосила почти всех писателей. И не древних старцев, а двадцати-тридцатилетних поэтов и прозаиков. Самому старшему из них, Тишке Гартному, едва исполнилось пятьдесят лет...

Октябрьская революция впервые предоставила белорусскому народу государственность[1], сулившую расцвет как общественно-экономических структур, так и культурных сил. Только с 1920 по 1926 год появилось пятьсот молодых литераторов. Их объединил Михась Чарот в обществе «Маладняк». Не все обладали безусловными талантами, не все они оставили заметный след в литературе, но были яркими личностями, преданными родной культуре, ее традициям, языку. В те годы говорить по-белорусски считалось признаком интеллигентности.

В литературу пришли новые дарования: Дубовка, Пушча, Зарецкий, Бабореко, Чорный, Крапива, Трус. Их приветствовал Купала и окрестил «орлятами». Захваченные свежим ветром революции, молодые литераторы стали ее пропагандистами и певцами. Конечно же, не обошлось и без разделения по творческим пристрастиям. Максимализм взглядов и жажда независимости некоторых из них раскололи «Маладняк» на небольшие общества и объединения. «Узвышша», «Полымя», «Праблiск», «Лiтаратурная камуна». Между ними в печати началась полемика, утверждение своего первородства, большей идейной преданности. Некоторым критикам не хватало такта в ведении дискуссий, теоретической обоснованности своих критических позиций, зачастую подменявшихся политическими обвинениями.

Суровостью и безапелляционностью суждений веяло от статей Алеся Дудара, подписанных псевдонимом Тодор Глыбоцкий. Он же написал стихотворение «Пасеклi наш край, патапталi». Никто его напечатанным не видел, но «всевидящие» очи и «всеслышащие» уши уже были начеку, и это по их милости поэт

Дудар стал первой жертвой по уголовному обвинению. В 1928 году его выслали в Смоленск. Жена Дудара и через шестьдесят лет не могла забыть своих мучений тех лет. В письме к автору этой статьи от 30 января 1989 года Наталия Вячеславовна вспоминала: «Началось с того, что культпроп ЦК, с которым у меня были хорошие отношения, требовал, чтобы я отказалась от Дудара... Я осталась без денег, без работы, а Дудар голодал в Смоленске». В 1979 году Николай Рыленков рассказывал мне, как смоленские поэты тайно встречались на берегу Днепра, поддерживали ссыльного Дудара морально и материально.

В 1930 году со страниц газет и журналов загремел прокурорский бас некоего Л. Бендэ. Кто он, откуда взялся, никто не знал, по-белорусски он не говорил. Особенно люто принялся расправляться он с самыми одаренными — Дубовкой и Пушчей. Ярлык «антисоветские» он приклеил к поэмам Владимира Дубовки «І пурпуровых ветразей узвівы» и «Камбайн». Последняя на самом деле называлась «Штурмуйце будучыні аванпосты», но критику это показалось явно невыгодным, и он не опубликованное еще произведение перекрестил в «Камбайн», обвинив Дубовку в компрометации колхозного строительства, «Лісты да сабакі» Язепа Пушчи Бендэ зачислил в кулацкую лирику. Разгромные статьи Бендэ, по существу, были доносами, а не критическими разборами художественного произведения.

Как-то при встрече я напомнил Язепу Пушче его «Лісты да сабакі», за которые поэт почти три десятка лет провел в изгнании. Язеп Павлович рассказал мне, что в самом начале 30-х годов он жил в Ленинграде и очень тосковал по родным Королищевичам, по милым сердцу местам и, не без влияния стихов Есенина «Собаке Качалова», вспомнив на отцовском дворе рыжего Кудлика, обратил к нему свои печаль и юмор. Не устерег хозяина рыжий Кудлик. Была сломана жизнь одного из талантливейших белорусских поэтов.

Еще более трагически складывалась судьба Владимира Дубовки: его трижды арестовывали, потом пятилетняя ссылка, десять лет лагерей, и в конце концов он оказался сосланным на вечное поселение в Красноярский край. И все это за тот «Камбайн». Откуда же взял Бендэ это название? Словом «комбайн» автор обозначил жанр комбинированной поэмы, ее полифоничность, сложную «архитектуру». В это своеобразное произведение входили стихи, драматические сцены, прозаические отступления и переводы из зарубежной классики. В предисловии к поэме Дубовка писал: «Новая вещь отражает некоторые мо-

менты из нашего переходного времени, переходного к новым, высшим формам общественной жизни — коллективизации».

Интересен и такой факт. Когда Дубовка начал собирать свои вещи для переиздания, многих рукописей отыскать он не смог. На «помощь» пришел все тот же Бендэ, в своей ленинградской квартире расчетливо припрятавший осужденные им же самим произведения и материалы самых разных авторов. Поэму «Штурмуйце будучыні аванпосты», многие стихи Бендэ продал автору за довольно высокую цену!

После 1930 года в литературной жизни установилось относительное затишье на фоне лозунгово-маршевой риторики, призывов ударников в литературу, оперативных романов и повестей на тему индустриализации и коллективизации. Но студенты тайно читали стихи и поэмы Дубовки и Пущи, Богдановича и Гаруна, хотя на лекциях «разоблачали» их по бендэвским трафаретам. Так воспитывалось узаконенное двурушничество.

Однако не спал по ночам дом на Советской улице с подвалом, из которого зимой валил пар, и часовым, всегда поторапливавшим прохожих: «Проходи, не задерживайся!» Понемногу в том душном подвале оказались поэт, драматург и ученый Михаил Громыко, прозаик Сымон Хурсик, не миновали его арестованные и сосланные на Север Максим Горецкий, Владимир Жилка, Никифор Чарнушевич...

В 1928 году из Западной Белоруссии нелегально перешел границу поэт коммунист Алесь Сологуб, дважды сидевший в виленской тюрьме за революционную деятельность. Как брата встретили его белорусские писатели. В Минске Сологуб окончил университет, стал учиться в аспирантуре, вошел в редколлегию журнала «Маладняк», его сборник «Лукишки» завоевал всеобщее признание. В 1932 году он организовал большую выставку картин известного западнобелорусского художника Романа Семашкевича. До сих пор я помню яркие, наполненные драматизмом и тревогой полотна-призывы этого незаурядного художника. Через год не стало ни Семашкевича, ни Сологуба. Уже после реабилитации Сологуба была обнародована дата смерти поэта — 1941 год. Гибель большинства белорусских писателей обозначена этим удобным для прикрытия кровавых злодеяний годом. Палачи старались списать их как жертв войны. На самом же деле многие были расстреляны сразу после ареста и чуть позднее.

Весной 1933 года недолго просуществовавший журнал «Беларусь калгасная» собрался напечатать рассказ Миколы

Никановича «Журавины» и статью Апанаса Сидоренко о творчестве Янки Купалы. Еще до выхода журнала эти произведения были признаны вредительскими, номер не увидел света, как «не увидели света» и авторы «крамольных» публикаций. Начался новый поход против литературы. Исчезли Лукаш Калюга, Юлий Таубин, Змитрок Астапенко, Максим Лужанин, Владимир Сядура, Змитрок Виталин[2], Алесь Прудников.

В августе 1936 года неожиданно был арестован поэт Сергей Дорожный. Он только что вернулся с Северного Кавказа, воодушевленный экзотикой горного края, довольный, что собрал интересные документы о партизанской борьбе первого секретаря ЦК КП(б) Белоруссии М. Ф. Гикалы во время гражданской войны. Дорожный задумал написать о нем поэму, а чекистам показалось, что поэт готовит покушение. Даже после ареста и расстрела Гикалы Дорожный все равно получил огромный срок и погиб в лагере близ Комсомольска-на-Амуре. Абсурд? А что было не абсурдно в этой всенародной трагедии, на этом кровавом балу по заранее разработанному сценарию?

Замученные на следствиях жертвы признавались, что взрывали мосты там, где их никогда не было, пускали под откос поезда, где и рельсы-то никто никогда не прокладывал, поджигали несуществующие заводы. Следователи требовали все новых и новых фамилий участников мнимых диверсий. Доведенные до отчаяния, несчастные называли имена людей, которых не всегда знали хотя бы в лицо. Они надеялись, что этот абсурд обнаружат прокурор либо суд. Следователи же были уверены, что двери в их учреждении открывают только в одну сторону. Ни один следователь в этом не ошибся.

Один за другим исчезали поэты, прозаики, драматурги и критики, студенты и преподаватели филологических факультетов. Был практически уничтожен состав Третьего Белорусского государственного театра одновременно с его художественным руководителем Владиславом Голубком. Камеры и подвалы всех тюрем были забиты арестованными. Каждый день шли этапы на Восток, а по ночам наглухо закрытые фургоны вывозили за город осужденных на смерть людей. Теперь мы знаем место их последнего пристанища — Куропаты.

По году были под следствием Тишка Гартный, Михась Чарот, Платон Головач, Анатолий Вольный, Василь Коваль, Борис Микулич, Владимир Ходыко, Валерий Моряков, Тодор Кляшторный, Юрка Лявонный и десятки других, менее известных и молодых литераторов. По протоколам следствий руководителями

«контрреволюционных групп» считались Купала, Колас, Бядуля, Бровка да и почти все остальные. В тюрьме допрашивали Кузьму Чорного и Янку Нёманского. Последнего успели расстрелять, а Чорного спас новый секретарь ЦК КП(б) Белоруссии П. К. Пономаренко. У него хватило мужества и смелости защитить от арестов Купалу, Коласа и некоторых других писателей, хотя на них уже были заведены «дела» и выписаны ордера.

Беззаконие и жестокий террор всегда прикрываются демагогическими теориями и лозунгами типа: «неприкосновенность личности», «сын за отца не отвечает», «только суд может лишить свободы». И тут же отца расстреливали без суда, жен отправляли в лагеря, детей под другой фамилией в специальные детские дома. Если жену ссылали на восемь лет в лагерь, значит, мужа расстреляли. Такая участь постигла Чарота, Головача, Зарецкого, Кляшторного, Вольного, Коваля, Харика, Лявонного, Морякова, Сташевского. Оставшихся в живых повезли в Воркуту, Норильск, Темники, в Сиблаг, на Колыму, на Печору и в Ухту, в Маринск и Унжлаг. Миллионы там и остались. Это и над их прахом шумит вековая тайга.

Они навечно остались молодыми и в Куропатах, и в заполярной мерзлоте интернациональной «республики ГУЛАГ». Я помню их юными и красивыми, до галлюцинаций слышу голоса, вижу перед собой их ясные живые глаза и в Куропатах плачу над простреленным черепом, может быть, моего старого друга. Сколько их там?

Вот имена расстрелянных
и погибших в лагерях писателей:

| | |
|---|---|
| Алехнович М. | Зарецкий М. |
| Аксельрод З. | Замотин И. |
| Астапенко З. | Сидоренко А. |
| Астрейко С. | Тарашкевич Б. |
| Барановых С. | Таубин Ю. |
| Бобореко А. | Тумилович Я. |
| Богун М. | Ходыко К. |
| Виталин З. | Харик И. |
| Вольный А. | Знаёмы С. |
| Головач П. | Коваль В. |
| Пивоваров З. | Калюга Л. |
| Ракита С. | Кляшторны Т. |
| Родзевич Л. | Куницкий С. |
| Розно А. | Лявонны Ю. |
| Сологуб А. | Моряков В. |

| | |
|---|---|
| Сташевский В. | Микулич Б. |
| Голубок В. | Немански Я. |
| Гартны Т. | Никанович М. |
| Горецкий М. | Хотулёв П. |
| Гриневич К. | Чарот М. |
| Дорожны С. | Шашалевич В. |
| Деркач А. | Шашалевич А. (Мрий). |
| Дудар А. | Жилка В. |

Вечная им память!

*1990*

## МАЛІТВА ПАКУТ І ЛЮБОВІ

...и я увидел звезду, падшую с неба на землю, и дан был ей ключ от кладезя бездны... и вышел дым из кладезя, как дым из большой печи; и помрачилось солнце и воздух от дыма из кладезя.

*Откровение святого Иоанна Богослова. «Новый завет», гл. 9.*

Здавалася — на фінішы доўгага і стракатага жыцця, якое прыпала на скрутнае і непрадказальнае стагоддзе, ужо нельга было нічым здзівіць і ўзрушыць. Я зведаў падзенні і ўзлёты, галаваломныя віражы, прачытаў безліч кніг і не думаў, што падобная на невялічкі малітоўнік кніжка можа так узрушыць, узяць душу і думкі ў такі доўгі палон. Амаль славянскай вяззю на карычневай вокладцы пазалотай адціснута: «Светлана Алексиевич. Чернобыльская молитва». Кніга пакут і любові. Збор патаемных прызнанняў і споведзяў.

Я памятаю пакуты майго і сумежных пакаленняў, калі лютыя параноікі без дай прычыны пласт за пластам зразалі бясцэнны генафонд самых розных народаў. А такога «ціхага» знішчэння, на якое эгаістычныя невукі кінулі нябачнаму спруту радыяцыі не толькі сваіх суайчыннікаў, а і яшчэ не народжаных дзесяткаў наступных пакаленняў, не было.

Але стоп! Досыць эмацыянальнай «лірыкі». Звернемся спачатку да сутнасці «Малітвы» Святланы Алексіевіч. Яе цяпер ведае амаль увесь свет — ад Амерыкі да Японіі, Кітая, В’етнама.

Чытаюць кнігі Алексіевіч на семнаццаці мовах, толькі не там, дзе яны створаны, дзе жыве і апантана працуе іх аўтар — нястомная, адважная, спагадлівая Святлана Алексіевіч.

Чытаю і не ўяўляю, як вытрымлівае — з маленькі кулачок і такое вялікае, спагадлівае і чулае да чужой бяды — сэрца. А праз яго прайшлі сотні трагічных лёсаў, што сталі яе болем і кнігамі. «У войны — не женское лицо», «Последние свидетели», «Цинковые мальчики» і вось — чарговая вяршыня творчасці, ушанаваная найвышэйшымі зарубежнымі прэміямі і ўзнагародамі. А на Радзіме някідкую, кволую жанчыну бэсцілі, у каго былі лішкі жоўці, не друкавалі, нават цягалі па судах за праўду і шчырасць. А яна ж адважылася паехаць у палаючы Афганістан і расказаць пра трагедыю нашых хлопчыкаў у злачыннай бойні, штучна падпаленай і не патушанай да гэтых дзён.

Кніжкі, напісаныя ў Мінску, узрушылі цывілізаваны свет — апрача Беларусі.

Чаму ж у нас так баяцца праўды, жорсткай, суровай і непадкупнай? «Праўда», спавітая калючкай, не можа выветрыцца з мазгоў верных прадаўжальнікаў «бессмертного дела». Кнігу, адзначаную вышэйшай прэміяй «Трыумф», узнагароджаную на Лейпцыгскай кніжнай выстаўцы, ушанаваную шматлікімі літаратурнымі прэміямі, у нас прачытаць немагчыма. Яна сёлета выйшла ў маскоўскім выдавецтве «Остожье» і заваявала ледзь не сусветную вядомасць і ўвагу. Толькі не ў нас.

Прачытаць яе мне пашчасціла ў № 4 і 5 часопіса «Полымя» за гэты год, а тыраж яго крышку большы за чатыры тысячы паасобнікаў. Да каго яна дайшла? Каго ўзрушыла? Хіба толькі некаторых філолагаў, настаўнікаў і літаратараў — і не дойдзе да мільёнаў пацярпелых і патэнцыяльных радыеактыўных чарнобыльскіх ахвяр.

Ці не сорамна нашым выдаўцам і іх шэфам, што так баяцца горкай праўды, якую ведае лепш за нас амаль увесь свет, ратуе і дапамагае ахвярам і дзецям, скалечаным «мірным атамам»?

Новыя нашчадкі колішніх першадрукароў, напэўна, лічаць, што ў кнізе Алексіевіч сабраны адны жахі, абвінавачванні бязлітасным недавумкам, якія не кінуліся папярэджваць і ратаваць апраменены народ элементарнай ёдавай прафілактыкай і засцерагаць ад пагібелі. Пачалі адсяляць у новыя вёскі за 30 кіламетраў ад выбуху, а там радыяцыя такая ж, як у зоне выбуху, магутнейшага за некалькі Хірасімаў.

Узрушаным вучоным, у якіх зашкалілі ўсе прыборы, у Вялікім доме палахлівы кар’ерыст №1 далдоніў: «Да, был пожар,

но его погасили. Никакой паники. Обстановка нормализуется». У тыя спякотныя дні тагачасны міністр аховы здароўя (толькі чыйго?) Міхаіл Яўсеевіч Саўчанка кожны вечар па тэлевізары суцяшаў: «Радыяцыйны фон нармальны. Можна купацца і загараць». А сам? Дзе былі дзеці яго і ўсіх начальнікаў, што ашуквалі народ і штурхалі на той свет? Вінаватых у пагібелі і выраджэнні нацыі не злічыць.

«Чарнобыльская малітва» — не кніга жахаў, не абвінаваўчы акт, а Евангелле самаахвярнай любові, узвышанага кахання, падзвіжніцкай самаадданасці блізкім і будучым дзецям — калекам з нараджэння. Святлана Аляксандраўна тры гады рызыкавала жыццём, блукаючы па вымерлых вёсках, у зоне найвышэйшай радыяцыі, ездзіла і хадзіла ў пошуках яшчэ жывых сведак трагедыі — з вёскі ў вёску, з дома ў дом, з горада ў горад, з пад'езда ў пад'езд. І сама знайшла да кожнага сэрца ключык і сцежку. Усё запісала — слова ў слова з усімі паўзамі, слязьмі і прычытаннямі. Яна ўсё бачыла, чула, кожнае слова прызнання прапусціла праз сваё чулае сэрца, запісала і аддала людзям, каб ведалі і памяталі.

Чалавечы і пісьменніцкі подзвіг Святланы Алексіевіч мне нагадвае, як у 1890 годзе А. П. Чэхаў на пракладных чатыры месяцы дабіраўся да Сахаліна, абышоў яго ўвесь, запісаў расказы ўсіх катаржнікаў і ссыльных пасяленцаў. Праз тры гады, пераступіўшы цэнзуру, да масавага чытача дайшла яго страшная кніга «Остров Сахалин».

З некалькіх соцень праслуханых і запісаных расказаў апрамененых, фізічна і духоўна скалечаных чарнобыльцаў у кнігу Святланы Алексіевіч увайшло каля сотні самых шчырых, адкрытых, сумленных споведзяў. Не дзіўна, што некаторыя суразмоўцы баяліся назваць свае прозвішчы: больш за апраменьванне скоўваў страх. Гэта і зразумела...

У «Чернобыльской молитве» — больш за сотню «сааўтараў» такой хвалюючай і гучнай, шматгалосай кнігі. Гэта — своеасаблівы вялікі сімфанічны аркестр з адным чулым гарманізатарам і дырыжорам. Святлана Аляксандраўна нічога не прыдумвала, не дадавала і не «паляпшала». Кожны споведнік гаворыць як умее, што ведае, што яго ўзрушае, баліць і вярэдзіць незагойную памяць. У кожнага свая інтанацыя, свая лексіка, часам шматкропны мужчынскі фальклор. І ўсё гэта выспаведана, выслухана, прапушчана праз сэрца і розум пісьменніцы — тонкага апантанага мастака.

Так, гэта — кніга пакут, трагедый, самаахвярнай любові, непаўторнага кахання, бязмежнай адданасці нашых высакародных сучаснікаў, асабліва сучасніц. Гэта — кніга будучыні. Яе будуць чытаць і перачытваць нашы наступнікі, каб не паўтарылася трагедыя з «мірным атамам», будуць чытаць, пакуль чарнобыльскі спрут будзе высмоктваць целы і косці, сэрцы і душы, калечыць яшчэ не народжаных будучых нашых наступнікаў.

Я дазволю свае развагі і сцвярджэнні засведчыць самымі кароткімі фрагментамі з выказванняў, якія асабліва ўражваюць. Спачатку — навуковыя звесткі пра нашу трагедыю: 70 працэнтаў чарнобыльскіх радыенуклідаў выпала на Беларусь. Ва Украіне забруджана 4,8 працэнта тэрыторыі, у Расіі — 0,5 працэнта. У нас выведзена з ужытку 264 тысячы гектараў забруджанай зямлі, — сцвярджае «Беларуская энцыклапедыя» 1996 года. Кожны пяты беларус жыве на забруджанай тэрыторыі, гэта 2,1 мільёна чалавек. З іх 700 тысяч — дзеці. Такое наша сёння і заўтра. За кожнай лічбаю — чалавечыя пакуты, жахлівыя лёсы безнадзейнасці.

Вось «Самотны чалавечы голас» удавы загінуўшага пажарніка Людмілы Ігнаценка. Яе шчырую споведзь, мабыць, упершыню пачула беларуская пісьменніца. Людміла ў яе пытаецца: «Я не ведаю, пра што расказваць... Пра смерць ці пра каханне? Гэта адно і тое ж... пра што?» Яе распавед да драбніц узнаўляе кожную дэталь тае жахлівай ночы, калі 26 красавіка 1986 года ў 1 гадзіну 23 хвіліны і 58 секунд усіх разбудзіў страшэнны выбух і полымя нібыта ўзарванага сонца. Каханы да самазабыцця муж Людмілы Васіль адразу ўсхапіўся, выскачыў у адной кашулі і рынуўся на дах узарванага чацвёртага энергаблока тушыць пажар: ногі прыліпалі да расплаўленага бітуму, усё рвалася і палала. Без ахоўных касцюмаў пажарныя яшчэ хацелі нешта ўратаваць.

«У сем гадзін раніцы мне перадалі, што мой Васіль у бальніцы. Я кінулася шукаць сваю знаёмую — урача гэтай бальніцы. Схапіла яе за халат. «Прапусці мяне». — «Не магу. З ім кепска. З імі ўсімі кепска». «Толькі паглядзець». — «Добра, — кажа, — тады бяжы на пятнаццаць-дваццаць хвілін». — Я ўбачыла яго: ацёкшы ўвесь, апухлы... Вачэй амаль няма... Многія ўрачы, медсёстры, асабліва санітаркі гэтай бальніцы праз нейкі час захварэюць... і... памруць... Але гэтага тады ніхто не ведаў».

Людміла ведала, што дотык да Васіля — яе смяротны прысуд, і не пакідала, не цуралася яго, бо кахала і была вернай да

самазабыцця. Праз нейкі час знайшла яго ў Маскве, у спецыяльнай радыелагічнай бальніцы. Наведванне і ўваход забаронены. Праўдамі і няпраўдамі, просьбамі, слязьмі і грашыма прарвалася да свайго ўжо непазнавальнага Васіля. Загадчыца аддзялення зліталася і папярэдзіла: «Калі заплачаш, я цябе адразу выпраўлю адсюль. Абдымацца і цалавацца нельга. Блізка не падыходзіць. Даю паўгадзіны». — Але я ўжо ведала, што адсюль не пайду. Калі пайду, дык з ім. Паклялася сабе (плача).

Калі б я магла вытрываць фізічна, дык бы ўсе 24 гадзіны не адышла ад яго. (Доўга маўчыць.) Ён ужо ляжаў не ў звычайнай палаце, а ў баракамеры, за празрыстаю плёнкаю, куды заходзіць не дазвалялася... Я навучылася прабірацца да яго... Я ўжо магу пра гэта расказваць... раней не магла. Я дзесяць гадоў маўчала... Дзесяць гадоў (змоўкла)».

Які трэба мець талент, якую душу, каб пасля такога доўгага маўчання адкрыцца Святлане Аляксандраўне, упершыню сустрэтай пісьменніцы?!

Я спахапіўся, каб не працытаваць усю сотню споведнікаў, не пераказаць усю кнігу. А ў памяці ўсё яскравей ажываюць тыя спякотныя дні, засакрэчаныя ад народа, груба схаваныя хлуснёй. Нас суцяшалі «небольшим, уже погашенным пожаром». На Беларусь выпала найбольш радыенуклідаў, а мы ў расшпіленых кашулях голагаловыя ў Першамайскі дзень гарланілі на дэманстрацыі: «Я другой такой страны не знаю, где так вольно дышит человек». Сапраўды, такой краіны не было і няма. Мы праклінали спёку, а не тых ашуканцаў, што чамусьці на трыбунах стаялі ў капелюшах і плашч-палатках, а дзетак сваіх і сямейнікаў цішком адправілі ў Балгарыю. Народ прымушалі не зважаць на нейкую там радыяцыю, — араць, баранаваць скрозь і штодзённа. Вось што расказвае былы першы сакратар Слаўгарадскага райкама партыі Уладзімір Мацвеевіч Іваноў: «На Украіне трывога, а ў нас у Беларусі ўсё спакойна: сяўба ў разгары... аралі, сеялі. Вы забылі, што да аварыі атам называлі мірным працаўніком, ганарыліся: «жывём у атамнай эры». Мы везлі малако з цэзіем, касілі саракакюрыйную траву. Выконвалі планы. Я іх выкалачваў... Труціліся самі, труцілі і людзей».

Нельга спакойна чытаць раздзел «Дзіцячы хор». У ім гучыць семнаццаць галасоў ціхага адчаю дзяцей ад 9 да 16 гадоў. Гавораць дзеці, якія не ўмеюць смяяцца. Яны баяцца стаць мутантам!, яны не ўмеюць бегаць, жартаваць, весяліцца і смяяцца. На самым світанні жыцця гавораць толькі пра сваю блізкую смерць. Адзін з іх расказвае «цёці пісьменніцы»: «У мяне быў

сябра. Яго звалі Андрэй. Яму зрабілі дзве аперацыі і адправілі дадому. Праз паўгода чакала трэцяя аперацыя... Ён павесіўся на сваім раменьчыку ў пустым класе... Юля, Каця, Вадзім, Аксана, Алег... Цяпер Андрэй. Мы памром і станем навукаю, — гаварыў Андрэй. — Для мяне цяпер неба жывое, калі я на яго гляджу... Яны там...» Выхавацелька садка вёскі Малінаўка Чэрыкаўскага раёна, калі з дзецьмі пажартавалі, заплакала: «Не старайцеся. Нашы дзеці не ўсміхаюцца, а ў сне яны плачуць».

Атамная пачвара карае не толькі нас, а і яшчэ не народжаных, тых, што калісьці з'явяцца на свет. Вось на што яна здатная. Мабыць, упершыню адкрыла душу пісьменніцы так, як не спавядалася ніколі, Ларыса З. (прозвішча прасіла не называць). Які трэба мець талент, каб з першай сустрэчы расхінулася затоеная душа і адкрыла самае невымоўнае нікому. Паслухайце. «Мая дзяўчынка... Яна не такая, як усе. Калі яна нарадзілася, гэта было не дзіця, а жывы мяшэчак, зашыты з усіх бакоў, ніводнай шчылінкі, толькі расплюшчаныя вочкі. На другі дзень я несла яе на аперацыю. Такія, як яна, не жывуць, а яна не памерла таму, што я яе вельмі люблю. За чатыры гады чатыры аперацыі. Гэта адзінае дзіця ў Беларусі, якое выжыла з такой комплекснай паталогіяй. Я яе вельмі люблю (спыняецца)». Падрабязнасці найжахлівейшыя. А самае важнае — Любоў, што перамагае нават непазбежную смерць.

Цытаваць можна бясконца. Тут, апрача «Дзіцячага хору», гучаць «Салдацкі» на 30 галасоў, шчырых і страшных, шматгалосы «Народны хор». І ў кожным голасе — жах і бязмежная любоў да жыцця, любай жанчыны, дзяцей і блізкіх.

«Пра што малюся — спытаеце мяне? Я не ў царкве малюся. Сама сабе... Я хачу кахаць. Я малюся за сваё каханне», — прызнаецца Каця П. Гэта ўсё асабістае, выпакутаванае, спавядальна расказанае з поўным даверам да праніклівай пісьменніцы.

У спустошаных, разрабаваных, выкрасленых скрозь вёсках яшчэ сям-там дажываюць свой век адзінокія бабулькі, названыя «самасёламі». Колькі іх ні ссялялі, яны не могуць пакінуць свой кут, сваю сцежку, градку і яблыньку. Вернай з маленства ўсяму роднаму засталася Зінаіда Каваленка. «Зайду на могілкі. Мама тут ляжыць. Дачушка мая. Гаспадар там мой... Федзя. Пасяджу каля ўсіх, паўздыхаю. Я да ўсяго прывыкла. Сем гадоў жыву адна, сем гадоў, як людзі з'ехалі... Ноччу воўк у двор увайшоў. У вакно зірнуў — стаіць, свеціць вачамі...» — І звяртаецца да пісьменніцы: «А любачка ты мая. Ці ўцяміла мой смутак? Панясеш людзям, а мяне, можа, ужо і не будзе...»

Чытаеш — і сэрца шчыміць. А як было Святлане Аляксандраўне слухаць, глядзець у злінялыя вільготныя вочы, чуць плач і доўгае маўчанне? Але ёсць самы дакладны, навуковы і па-чалавечы шчымлівы аналіз чарнобыльскай трагедыі былога дырэктара Інстытута ядзернай энергетыкі Акадэміі навук Беларусі Васіля Барысавіча Несцярэнкі.

Каб спасцігнуць маштабы, вытокі і наступствы ўсебеларускай бяды, трэба ўважліва прачытаць пяць старонак самай балючай споведзі выдатнага вучонага, сумленнага і бескампраміснага Чалавека. Ён адразу папярэджвае: «Я — фізік. Таму факты, толькі факты... За Чарнобыль калі-небудзь давядзецца адказваць. Надыдзе такі час... Хай праз пяцьдзесят, няхай мёртвыя... Яны — злачынцы! (Памаўчаўшы.) Тым днём, дваццаць шостага красавіка, я быў у Маскве. Там даведаўся пра аварыю. Званю з Масквы — звяжыце мяне са Слюньковым, у мяне тэрміновая інфармацыя. Аварыйная... Радыеактыўны слуп рухаецца на Беларусь. Гадзіны дзве спатрэбілася, каб трубку ўзяў сам Слюнькоў. «Трэба неадкладна правесці ёдавую прафілактыку насельніцтва і адсяляць усіх, хто жыве паблізу станцыі. Да сотні кіламетраў трэба адвезці людзей і жывёлу...» — «Мне ўжо дакладвалі, — кажа Слюнькоў, — там быў пажар, але яго патушылі». — «Тут тры тысячы мікрарэнтгенаў у гадзіну...» (Маўчанне.) Кіраўнікі клапоцяцца за свае пасады, а не за людзей: няхай гінуць, абы ціха было. Слюнькова якраз забіралі ў Маскву на павышэнне. Хто ж адмовіцца ад такое ласкі? Перасталі мяне прымаць, выслухоўваць. Я закідаў іх пісьмамі, дакладнымі запіскамі, рассылаў лічбы, карты ва ўсе інстанцыі. Чатыры папкі па 250 лістоў трымаў у сейфе. Прыязджаю з камандзіроўкі — папкі з сейфа зніклі... Гэта ўжо гісторыя, гісторыя злачынства».

Слюнькова павысілі, а дырэктара Інстытута ядзернай энергетыкі з пасады знялі за тое, што не мог і не ўмеў ілгаць. А па тэлевізары штодзённа екаталі: «У нас фон нармальны, абстаноўка стабілізуецца», — і заклікалі да пляжаў і вадаёмаў. Колькі з іх ласкі адышло і яшчэ адыдзе на той свет, колькі з’явіцца мутантаў, калек і ідыётаў?!

І прыйшлі на памяць радкі з «Новага запавету»: «...и упала с неба большая звезда, горящая подобно светильнику, и пала на третью часть рек и на источники вод. Имя сей звезде полынь (чернобыль. Словарь В. Даля); и третья часть вод сделалась полынью, и многие из людей умерли от вод, потому, что они стали горьки» («Откровение», глава 8). Можа, і не варта цалкам давяраць прароцтвам, а да засцярогі вучоных-ядзершчыкаў мусіў

прыслухацца далёкі ад навукі часовы дзеяч, заняўшы крэсла № 1. Затое атрымаў вышэйшую пасаду і пахвалу ад галоўнага чына: «Молодцы белорусы».

Заключны раздзел «Самотны чалавечы голас» — пранізлівы, балючы маналог Валянціны Панасевіч. Яго адным духам прачытаць цяжка: спазмы сціскаюць горла. Ці ж не ў тых сытых кар’ерных душагубаў яна пытаецца пра свайго мужа. «Хто яго ў мяне забраў? Па якім праве? Як я буду далей жыць? Я вам не ўсё, не да канца... Можа, не трэба майго імя. Ёсць таямніцы... Малітвы чытаюць сам-насам. Шэптам сама сабе (замаўкае)». Мноства шматкроп’яў, рэмарак перадаюць не толькі сэнс, а і інтанацыі, нюансы, недавыказаны боль. «У мяне ёсць адзін сын. Наш з ім сын... Ён даўно хворы. Ён вырас, але бачыць свет дзіцячымі вачыма... Я хачу быць з ім, мару памяняць кватэру бліжэй да Навінак. Сустракае мяне: «А дзе тата Міша? Калі прыедзе?» Хто ў мяне яшчэ пра гэта спытае? Ён яго чакае. Мы будзем чакаць з ім разам. Я буду чытаць шэптам сваю чарнобыльскую малітву».

Каго магла назваць Валянціна Цімафееўна свайму сыну — хто забраў яго тату? Яны схаваліся, пра іх маўчаць. Можа, яны яшчэ спатрэбяцца для «новых будоўляў»?

А ці не даў апошні сказ Валянціны Панасевіч назву трагічналюбоўнай кнізе — «Чарнобыльская малітва»? Яна стала здабыткам. Ачышчальным акафістам цывілізаванаму свету. Толькі не Беларусі. А кніга ж задумана, выпакутавана і напісана тут, побач з намі, але, выходзіць, не для нас. Кнігі Алексіевіч разышліся па свеце, спектаклі па яе п’есах хвалявалі і хвалююць гледачоў Масквы, Берліна, Омска, Парыжа, Сафіі, людзі глядзяць дакументальныя фільмы па яе сцэнарыях. Толькі не мы... Замест таго каб дзякаваць, шанаваць, ганарыцца таленавітаю дачкою нашага шматпакутнага народа, у яе бок — толькі абразы, папрокі, забароны, абвінавачванні і нават суды. За... праўду і нераўнадушша, сумленне і нязломнасць.

Імя і кнігі Святланы Алексіевіч сталі побач з творамі бескампраміснага Васіля Быкава. Яны шырока вядомыя эрудзіраванаму і сумленнаму свету, яны многім адкрылі раней невядомую Беларусь, нашу культуру і літаратуру. А хто ж ведае і ўведае імёны д’яблавых служак, што нарабілі столькі гора і бяды свайму народу? Іх забыліся, як толькі яны павыляталі з цёплых кабінетаў і крэслаў. А калі, можа, і ўспомняць, дык толькі з праклёнам.

Гісторыя беражэ і шануе памяць народных заступнікаў, адважных і бескампрамісных бяссрэбранікаў. Іх дзеі і кнігі, у першую чаргу на радзіме, павінны стаць залатым фондам духоўнасці, вучыць моладзь дабру, самаахвярнаму каханню, вернасці і адданасці Радзіме, сумленню і праўдзе.

Каб засцерагчы народ ад магчымых новых трагедый і бяздумнай паслухмянасці, каб людзі былі пільныя да атамнага спрута, добрыя гаспадары запрасілі б сведак і пакутнікаў чарнобыльскай трагедыі неаднойчы на тэлебачанне, каб усе пачулі святую і чыстую праўду.

Амінь!

«Замест эпілога» кніга «Чарнобыльская малітва» заканчваецца цытатаю трох кашчунскіх радкоў бяздумных і бяздушных «заработчыкаў» на людскіх пакутах і смерці. Вось яны:

«Кіеўскае бюро падарожжаў прапануе паездку ў горад Чарнобыль і мёртвыя вёскі... Вядома, за грошы. Наведайце ядзерную Меку» (газета «Набат», люты, 1996 г.).

***1998 г.***

## МОЙ КУПАЛА

*Незабыўныя факты і эпізоды*

Мяне ўгаварылі напісаць пра знаёмства і сустрэчы з Янкам Купалам. Прыйшлося перасіліць сваю нямогласць і згадзіцца расказаць, што зберагла памяць. А хто ж яшчэ раскажа? З вядомых мне, хто ведаў жывога Купалу, засталіся толькі — сын Коласа Міхась Канстанцінавіч, кампазітар Багатыроў, пісьменнікі Аўрамчык і Юрэвіч.

Я не прытрымліваюся паслядоўнасці і храналогіі, а пішу, што зберагла памяць.

Яшчэ гадоў 15 таму ў Беларусі слова «Паэт» было самым высокім і пачэсным званнем таленавітага чалавека. Прыхільнікі літаратуры спыняліся, глядзелі ўслед і шапталі адзін аднаму: «Вунь, пайшоў паэт». Гэта значыла «незвычайны чалавек».

З даўняй даўніны ў кожнага народа былі свае рапсоды, Гамеры — несмяротныя валадары людскога духу, спавядальнікі чалавечай душы і сумлення. О, гэта было высокае званне! Не кожны быў варты яго. Нездарма выдатнейшы паэт Аляксандр Твардоўскі аднойчы прызнаўся: «Я никогда не называю себя

поэтом. Это нескромно, так, как сказать о себе: «Я — хороший человек».

Я ўспамінаю, як некалі даўно забытыя бяздарныя вершапісцы кожнае сваё выступленне пачыналі: «Я як паэт павінен сказаць...». А сказаць яму не было чаго, апрача перацірання слоўнай лозунгавай мякіны.

І раптам: у колішнім «Северо-Западном крае» загучаў у 1905 годзе, прабіўся жывы голас Янкі Купалы ў вершы «Мужык», які заканчваўся цвёрдай пэўнасцю ў будучыню свайго народа: «Што хоць мной кожны пагарджае, я буду жыць! — бо я мужык!» І народ, які даў свету Купалу, жыве і будзе жыць.

У 1908 годзе ў Пецярбургу выйшла першая кніжка Янкі Купалы, і адкрывалася яна вяршыняй сціпласці — вершам «Я не паэта».

Я не паэта, о крый мяне Божа!
Не рвуся я к славе гэткай німала,
Хоць песеньку-думку я высную можа,
    Завуся я толькі — Янка Купала...
Шчасце так рэдка над светам усходзе,
Досыць бывае меці хоць мала.
Долю каб бачыў у родным народзе*,
    А быў бы шчаслівы Янка Купапа.

*(«Жалейка», 1908 г.)*

Ён быў і будзе вечным змагаром за шчасце свайго народа.

* * *

З маленства ў сваім палескім Глуску да 1922 года мы не ведалі, што мы — беларусы: нацыянальнасць вызначалася толькі па веравызнанні. Праваслаўны — значыць рускі, каталік — паляк, яўрэй і гэтак далей.

І раптам у школе настаўнікі загаварылі на нашай «простай мове», на мове нашых мацярок і бабуль. І мы даведаліся, што мы — беларусы, убачылі падручнікі і кніжкі на беларускай мове, адкрылі Купалу, Коласа, Багдановіча, Чарота, Бядулю і многіх маладзейшых літаратараў. І кожны душою прыкіпеў да роднага слова. Мы ганарыліся і стараліся гаварыць на літаратурнай мове.

Мой стрыечны брат — «маладняковец» Янка Бобрык, у кожныя канікулы прывозіў з Мінска стосы беларускіх кніг і

* Пазнейшы варыянт.

падараваў мне «Жалейку», «Шляхам жыцця» Купалы і «Вянок» Багдановіча. Я зачараваўся імі: чытаў, перачытваў і многае ведаў на памяць.

«Шляхам жыцця» Купалы я браў з сабою ў торбачцы на начлег, і, пакуль пасвіліся коні, каля вогнішча чытаў і перачытваў хлопцам верш за вершам, дэкламаваў пры кожным зручным выпадку. Калі пасталеў, сам захварэў на вершаскладанне. Цішком пасылаў свае вучнёўскія спробы ў Мінск і Бабруйск. У 1926 годзе з'явіліся ў друку мае першыя вершы. У 1930 годзе падаўся ў Мінск на пошукі літаратурнага шчасця.

У маленькай, напалову драўлянай сталіцы я гадзінамі таптаўся каля абшарпанага з нумарам 68 на Савецкай вуліцы Дома пісьменнікаў. Хацелася зайсці, убачыць жывых паэтаў і празаікаў, а можа, і Купалу з Коласам.

Аднаго разу на нялюднай Савецкай вуліцы кінуўся ў вочы адметны ад усіх, з кіёчкам у руцэ, у шэрым макінтошы, такой жа кепцы, сярэдняга росту, з светлым ружовым тварам, невялічкімі жаўтаватымі вусікамі чалавек. Калі наблізіўся, я ледзь не самлеў ад радасці, пазнаўшы па партрэтах Янку Купалу. Прасачыў, куды ж ён пойдзе? Так і ёсць — у Дом пісьменнікаў. Выходзіць, я не памыліўся. Ён знік у цёмным калідоры. Заходзіць у нехлямяжы «храм культуры» не адважыўся, хоць ужо быў членам бабруйскай філіі БелАППа — Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. Пралетарыем я быў, а пісьменнікам — наўрад ці? Нечакана сустрэўшы мяне на вуліцы, мой бабруйскі знаёмы, аўтар некалькіх кніжак прозы Барыс Мікуліч завёў-такі мяне ў пісьменніцкае «гняздо».

Леваруч быў невялічкі зальчык з нізкаю сцэнаю для сходаў і спрэчак, насупраць — светлы пакой з дзвюма праседжанымі канапамі, пасярэдзіне — круглы стол з газетамі і часопісамі. У сутарэнні — пісьменніцкая сталовая. Каля дзвюх гадзін на абед збіраюцца прадстаўнікі ўсіх жанраў. Безграшовым буфетчыца Бася выдае талоны напавер. І ўсе потым расплачваліся.

На канапе збоку сядзелі Купала і некалькі маладых паэтаў. Яны чыталі свае новыя вершы. Дзядзька Янка ўважліва слухаў Калі нешта падабалася, ківаў галавой. Хваліў Віталіна, Алеся Пруднікава, паэму «Бянгалія» Сяргея Астрэйкі. Астатнім раіў, каб у вершах не было лозунгавай траскатні, а ў кожным — свежая ўласная думка, дасканалае веданне таго, што пішаш, і дасканалая форма.

«Пісаць — гэта праца і праца, калі ўдаецца — шчаслівая катарга, а рыфмаваць «танкі і вагранкі» кожны ўмее. Давайце, хлопчыкі, лепей пройдземся на той бок вуліцы». І ўсе рушылі следам за Купалам. А насупраць пісьменніцкага дому, дзе цяпер Цэнтральная кнігарня, паміж прымітыўным кінатэатрам і домам некалькіх рэдакцый газет, тулілася піўнушка.

Былы пастарэлы спявак яўрэйскіх песень Лёва Браўн з вялікай бочкі пампаваў піва і з песнямі, прыказкамі і жартамі падаваў пенныя куфлі. Мы ўсе зайшлі следам за Купалам. Яго пазнаваў увесь горад, ён ледзь пасняваў адказваць на прывітанні незнаёмых. І тут наведвальнікі, убачыўшы Купалу, падаліся да сцяны. Лёва ўзрадаваўся: «О, о! Іван Дамінікавіч, заўсёды рады Вам. Колькі з Вамі? Восем? Люблю цотны лік», — і пачаў пампаваць куфель за куфлем пад сваю любімую песеньку: «Луна, Луна, наверно ты пьяна. И скорчилась и сморщилась, ни к черту не годна».

Дапіў свой куфаль і дзядзька Янка, разлічыўся за ўсіх і павёў нас далей да першага гукавога кінатэатра «Чырвоная зорка». Падышлі да касы. «Паглядзіце цудоўны фільм «Пуцёўка ў жыццё», — і падаў нам пук білетаў. «А Вы, дзядзька Янка?». — «А я ўжо глядзеў. Бывайце здаровы, хлопчыкі». — І пайшоў уніз па Савецкай да сваёй Садовай вуліцы (цяпер вуліца Купалы). На месцы музея быў яго драўляны дамок, з вялікай тапаляй у двары і адмысловымі кветнікамі.

Такіх праводзін было шмат. Купала любіў таленавітую моладзь. У яго заўсёды бывалі Сымон Баранавых, Уладзімір Хадыка, Зарэцкі, Валеры Маракоў... Маракова дзядзька Янка часта пакідаў у сябе начаваць, бо ён жыў далёка за горадам, у Козыраве. З вечароў і позніх пасяджэнняў Купала вёў Валерыя да сябе нанач.

Увішная, нястрымная і шчодрая Уладзіслава Францаўна, усімі любімая і самая гасцінная цёця Уладзя, кожнага ў тыя галодныя гады частавала вяндлінаю, каўбасамі (пальцам пханыя), усімі прысмакамі вясковай кулінарыі. Адкуль жа гэта бралася? Маці Купалы жыла на хутары Акопы, адна на гаспадарцы, усё, што мела, пасылала ў Мінск любімаму сыну. І Купала часта летаваў у Акопах, дапамагаў маці, пісаў вершы і паэмы. Там жа ў 1913 годзе нарадзілася несмяротная «Паўлінка» і адразу ажыла на пецярбургскай сцэне. Галоўную ролю выконвала прыгажуня Паўліна Мядзёлка, на ўсё жыццё стала лепшым сябрам Купалавага дому.

На пачатку 30-х гадоў у краіне пачалася жорсткая і шкодная барацьба, была разбурана сельская гаспадарка, а сумленныя і нястомныя хлебаробы-хлебадары з маленькімі дзеткамі і нямоглымі старымі за некалькі гадзін «ліквідаваліся як клас», з апусцелых хат і збэшчаных гаспадарак пад канвоем усе былі вывезены ў Сібір, Казахстан, на Далёкі Усход, ліквідаваны цэлыя нацыі і нацыянальнасці. Нейкаму нягодніку запарушыў вочы адзінокі хутар Акопы. Яго зруйнавалі за некалькі гадзін, ухапілі адзінокую Іванаўну — маці паэта, — загналі ў этапную цяплушку. Купала даведаўся пра гора маці — сваё вялікае няшчасце, — кінуўся за паратункам да старшыні ЦВК А. Р. Чарвякова і з яго дапамогай выхапіў з этапнай цяплушкі маці, забраў жыць да сябе. У яго невялічкім дамку жылі яго сёстры з дзецьмі і нават пляменнік Мядзёлкі. Усім хапала месца, хлеба і да хлеба.

На пачатку вайны Купала не здолеў угаварыць маці ехаць разам на Усход. Яна засталася. Берагчы сынавы рукапісныя скарбы. Пра трагічную гібель сына ў Маскве яна нічога не ведала, але чулае матчына сэрца-вяшчун не вытрымала прадчування бяды, і яна памерла на другі дзень пасля смерці сына — 29 чэрвеня 1942 года, пахавана ў Мінску на Даўгабродскіх кладах. На месцы Акопаў засталіся збуцвелыя штандары, але ў кожную Купалаву гадавіну на іх ляжыць мноства кветак і вянкоў.

* * *

Мяне можна папракнуць, што я нічога не кажу пра вечную Творчасць Купалы, што стала здабыткам літаратуры свету. Пра ўсё напісанае і зберажонае Купалам навукоўцы напісалі сотні аналітычных кніг, не менш абаранілі дысертацый і атрымалі вучоных ступеняў, разжавалі ледзь не кожны радок, знайшлі нават тое, што Купала і не думаў, засушылі нават цытаты. А паэзію перш за ўсё трэба чытаць, любіць і разумець сэрцам і перачытваць.

Таму я як жыццёвы сведка дазволю сабе з мноства фактаў і назіранняў расказаць яшчэ некалькі фактаў пра жыццё, паводзіны, воблік, шырыню чалавечай душы генія нашых душ, павадыра і прарока, былога, існага і будучага Купалу.

У адну з гадавін творчасці ўрад узнагародзіў Купалу легкавым «газікам». Гэта была першая і адзіная прыватная машына ў горадзе. Купала захапіўся шафёрствам. Успамінаецца, як ён заходзіў у Дом пісьменнікаў з новымі падручнікамі па аўтасправе. Вучыўся, ды так і не авалодаў. Мусіў наняць шафёра, а за руль садзіцца не адважваўся. Аднойчы ён спыніўся на рагу Ленінскай і Плошчы Волі.

На першым паверсе гатэля «Еўропа» быў вялікі пасудны магазін. Іван Дамінікавіч зайшоў туды і нечакана сустрэў маладога таленавітага хірурга Мікалая Іванавіча Бобрыка з жонкаю Кацярынай Іванаўнай. Бобрык у 1930 годзе ў 3-й клінічнай бальніцы ратаваў і загоіў рэзаную рану на жываце Купалы. У магазіне Купала ўзрадаваўся сустрэчы са сваім хірургам. Звярнуўся да Кацярыны Іванаўны: «Хачу купіць сервіз, а які не ведаю. Разлічваю на ваш густ. Паглядзіце і парайце».

Жонка доктара доўга прыглядалася, нарэшце выбрала. «Вялікі дзякуй вам», — сказаў Купала, разлічыўся ў касе, забраў загорнуты і перавязаны сервіз. «Вы дахаты?.. Тады прашу ў машыну». Кацярына Іванаўна аднеквалася, нарэшце села з мужам на задняе сядзенне, Купала — побач з шафёрам і пакупкай на каленях. Хутка прыехалі на гразкі Газетны завулак. Каля кватэры хірурга з пакункам выйшаў і Купала. «Гэта вам ад шчырага сэрца». Бобрыкі запярэчылі. «Бярыце, я ж абавязаны Мікалаю Іванавічу жыццём», — і перадаў сервіз Бобрыку, развітаўся і паехаў.

З полымя вайны цешчы хірурга ўдалося выхапіць з таго сервіза толькі чатыры чарачкі з зялёнага шкла і зберагчы іх. Толькі ў 70-я гады я выпрасіў іх і перадаў Купалаўскаму музею.

* * *

Я ў 30-я гады вучыўся ў Пядінстытуце, працаваў у «Чырвонай змене», шмат пісаў, аціраўся ў знаёмых рэдакцыях. стараўся дагадзіць рэдактару, каб толькі надрукавалі. Сачыняў «турксібы», «мартэны», «вагранкі», якіх ніколі не бачыў. У новым часопісе «Беларусь калгасная» Сымон Баранавых надрукаваў мой верш «Гідраэлектрастанцыя». Каб быць «наватарам», і я яго разбіў на лесвічныя прыступкі.

Я ўгледзеў у кіёску на рагу Садовай і Савецкай доўгачаканы часопіс, купіў і тут жа чытаю свой «опус». Не заўважыў, як падышоў Купала. Павітаўся. «Дай зірнуць, чым гэта ты захапіўся». Узяў часопіс, зіркам прабегся па маіх «сечаных» радках, усміхнуўся і спытаў: «Гэта пра якую гідрастанцыю ты напісаў? Дзе яна, калі ты яе бачыў?» У мяне мову ад сораму адняло, ледзь чутна прашаптаў: «Нідзе». — «Бачу, што нідзе. Пад Маякоўскага хочаш падладзіцца? Ён чалавек таленавіты, але па яго «лесвіцах» можна пралезці толькі аднойчы, многія з іх жывуць, як і газета, — адзін дзень. І ён ачомаўся ад свайго «наватарства» і пачаў пісаць сапраўдную лірыку. Запомні: пісаць

проста, як Пушкін, цяжэй за ўсё, каб кожны радок з сэрцам гаварыў». І мы разам пайшлі ў Дом пісьменнікаў. Які гэта быў гонар, калі бачаць людзі, што іду побач з Купалам.

У маі 1935 года літаратурная грамадскасць і ўся рэспубліка рыхтаваліся адзначыць, шырока і ўрачыста, 30-ю гадавіну творчай дзейнасці Купалы. Я тады працаваў у Радыёкамітэце. Ніякага запісу тады яшчэ не было: ўсе гаварылі і чыталі адразу ў эфір. Музычны рэдактар, кампазітар Ісак Любан дамовіўся з Купалам і выпрасіў дазвол трансліраваць сяброўскую вячэру з Купалавай кватэры напярэдадні афіцыйнага юбілею. Апаратуру мы паставілі ў кабінеце паэта, а мікрафон — на застаўленым закусямі і featured рознымі пляшкамі стале ў суседняй досыць прасторнай зале. Гасцей было няшмат — некалькі паэтаў, акцёры і актрысы тэатра, які яшчэ не насіў Купалава імя. Купала сеў у тарцы стала перад светлым буфетам. Злева сеў адказны работнік ЦК, славуты рудабельскі партызан Максім Ляўкоў, праваруч — ружовенькі далікатны акадэмік Сямён Якаўлевіч Вальфсон.

Мы ўключылі мікрафон. Я абвясціў, што перадачу вядзем з таварыскай, перадюбілейнай вячэры ў доме Народнага Паэта, акадэміка, члена ўрада Янкі Купалы. Пачаліся віншаванні і тосты. Купала наліў чаркі суседзям і сабе, дзякаваў за добрыя словы. Паўзу запоўніла маладая прыгожая артыстка Вольга Уладзіміраўна Галіна. Яна натхнёна пачала чытаць Купалавы вершы. Яна прачытала лірычныя радкі:

> Не глядзі на мяне, не глядзі, адыдзі.
> Не чаруй так сабой і на яве, і ў сне!
> Ты смяешся з мяне... дык ідзі ж, не глядзі,
> Бо замучыш, загубіш навекі мяне!

Расчулены Купала гжэчна падышоў да артысткі і пад воплескі пацалаваў у шчаку. Падскочыла вясёлая і жартаўлівая цёця Уладзя, смыкнула мужа за чуб і са смехам прыгразіла не цалаваць пры людзях маладых дзяўчат. Пачаўся смех, апладысменты, часам не надта дасціпныя жарты. Прыйшлося выключыць мікрафон.

Чым больш успамінаеш, тым больш прыходзіць на памяць. Успомнілася 18 чэрвеня 1936 года. Гадзіны ў чатыры дня па радыё прагучала страшная вестка: «Памёр Аляксей Максімавіч Горкі». Я адразу памчаўся ў Радыёкамітэт. Мяне сустрэў адказны сакратар «Апошніх паведамленняў» Юрка Такарчук. «Зараз жа звязвайся з Купалам і прасі хоць некалькі слоў жалю пра такую вялікую страту. Давай!»

Я доўга ўпрошваў тэлефаністку звязаць мяне з Купалам, але тэлефон усё быў заняты. Нарэшце прабіўся і пачаў упрошваць напісаць некалькі радкоў пра смерць Горкага. Пачуўся знаёмы, замаруджаны перарывісты голас: «Цяпер, хлопча, слова не магу прамовіць, слёзы душаць». Я не пераставаў упрошваць. І пачуў праз усхліпы: «Калі так патрабуюць, заскоч заўтра зранку. Можа, што і нашкрэбаю... Мне пісаць пра смерць Горкага цяжэй, чым уласны некралог», — сказаў і павесіў трубку. Мы далёка за поўнач рыхтавалі на заўтра жалобныя перадачы.

Наступнай раніцай я пастукаўся да Купалы. Упусціла цёця Уладзя. Іван Дамінікавіч быў незвычайна прыгнечаны і падаў мне старонку з жалобным развітальным словам. «Прабач, больш не змог. Ён жа нас з Коласам першы падтрымаў у тыя змрочныя гады, калі і слова «Беларусь» не было, і я адважыўся напісаць і надрукаваць у 1908 годзе ў «Жалейцы» верш з загалоўкам «Гэта крык, што жыве Беларусь». Мы развіталіся, і я пабег у рэдакцыю і перадаў Купалава слова ў дыктарскую, і яно некалькі разоў гучала з усіх рэпрадуктараў.

* * *

10 лютага 1936 года ў Мінск з Масквы гадзін у 11 дня прыйшоў спецыяльны «паэтычны» цягнік і прывёз на Усесаюзны пленум некалькі соцень выдатных паэтаў Саюза ССР і свету абмяркоўваць стан паэзіі. На вакзале іх сустракалі з аркестрам і кветкамі дзяржаўныя мужы, работнікі культуры і ўсе пісьменнікі.

Нервова чакаў сваіх многіх сяброў Купала. Спакойна хадзіў разважлівы Колас, мітусіліся ўсе маладыя. Пленум праходзіў у клубе імя Карла Маркса, амаль насупраць тэатра Янкі Купалы. Там я ўбачыў усіх славутасцей: Ціханава[1], Пастарнака[2], маладзенькага, яшчэ тады не славутага Твардоўскага[3], Бруна Ясенскага[4]... На пленуме выходзіў спецыяльны выпуск «Литературной газеты», мастакі з натуры малявалі шаржы.

Купала быў неразлучны са сваім даўнім сябрам і перакладчыкам, даўнім паплечнікам Блока і настаўнікам Ясеніна — паэтам Сяргеем Гарадзецкім. Яго Купала забраў да сябе дадому, а на вячэру да яго збіраліся Тычына[5], Сасюра[6], Тыцыян Табідзе[7] — усіх не пералічыш.

На пленуме былі спрэчкі, гучалі вершы. Я запрасіў да мікрафона ўкраінскага паэта Уладзіміра Сасюру, і тады ўпершыню прагучалі яго славутыя радкі: «Здрастуй, здрастуй, моя Білорусь — сянеока сэстра Украіны!» Пленум гэты цягнуўся

шэсць дзён, паэты выступалі на фабрыках, у інстытутах і школах. Тады мы ўпершыню пабачылі маладзенькага, доўгашыяга Міхалкова і пачулі без заіканняў яго «каронны» твор «Дзядзя Сцёпа».

Пачаліся страшныя 1936—1937 гады. Гора не абмінула і мяне. Я апынуўся ў нетрах тайгі з пілою і «канадскаю» сякераю на плячы. Асабліва даліся ў знакі гады вайны. Радыё мы не чулі, газет не бачылі, але водгулле вайны даходзіла і туды, асабліва яе востра адчувалі нашы страўнікі.

І раптам улетку 1942 года да нас даляцела жахлівая вестка: «26 чэрвеня ў Маскве загінуў Купала». Гэта была страшэнная трагедыя для нашай беларускай «калоніі». Усе тайком плакалі, а ўвечары знеслі свае пайкі і кацялок вару і справілі памінкі самага дарагога паэта, кожны ўспамінаў дарагія сустрэчы. Мучыла адна думка: як і чаму ён загінуў? Дакладнага адказу і цяпер няма.

* * *

Пасля майго канчатковага вяртання, ачышчаны і апраўданы, я зноў «уцерабіўся» ў літаратуру.

Неяк у канцы студзеня 1960 года наш былы бабруйскі «хросны бацька» Міхась Лынькоў запрасіў да сябе Вітку, Зарыцкага і мяне ў новую кватэру па вуліцы Захарава. Як гасцююць у такіх выпадках, ведаюць усе. Гаварылі пра літаратуру і літаратараў. Я ведаў, што Міхась Ціханавіч у 1942 годзе, наваяваўшыся, быў старшынёй Саюза пісьменнікаў і жыў у сталіцы на верхатуры гасцініцы «Масква». Маскоўскі і рэшткі беларускага Саюзаў пісьменнікаў рыхтаваліся ў сталіцы шырока адзначыць 60-ю гадавіну Янкі Купалы. Ён з жонкаю жыў у эвакуацыі ў пасёлку Пячышчы каля Казані. У чэрвені прыехаў на сесію Усеславянскага камітэта і на свой юбілей. Па Маскве былі расклееныя афішы «Юбілей Купалы». Ён таксама пасяліўся ў «Маскве» і зайшоў да Лынькова атрымаць прадуктовыя карткі. Міхась Ціханавіч прапанаваў разам павячэраць «Не, дзякую, Міхасёк, у мяне ў нумары ўжо стаіць вячэра, а я чакаю даўняга сябра — мастака Елісеева». Узяў карткі і выйшаў.

Лынькоў дакараў сябе, чаму не праводзіў да лесвіцы. Праз некалькі хвілін пачуліся крыкі, шум, мітусня — упаў з пляцоўкі і разбіўся Купала. Зацікаўленыя схаваць канцы трагедыі пусцілі чуткі пра самагубства. Глупства! Чакаючы госця і прыехаўшы на юбілей і пэўныя ўзнагароды, мог такое ўчыніць толькі вар’ят. Толькі не Купала.

Праз шмат гадоў вядомы кінасцэнарыст і празаік Аляксей Каплер у адным Доме творчасці ўспамінаў і расказаў мне, што ён якраз 28 чэрвеня паднімаўся па гасцінічнай лесвіцы да свайго знаёмага і раптам у пралёце праляцеў чалавек, а яго адзін туфель упаў на прыступку.

У 1962 годзе урну з прахам Купалы вырашылі пахаваць у Мінску на «Вайсковых могілках». Перазахаванне было прызначана недзе на 15—16 гадзін. Да могілак сабраўся вялікі натоўп людзей, выхаваных на паэзіі Купалы. З жалем даведаліся, што некалькі наменклатуршчыкаў з кіруючым В. Ф. Шаурам ужо цішком пахавалі урну на тым месцы, дзе цяпер стаіць помнік Купалу.

Няшмат яму помнікаў у Беларусі. А вось за акіянам, у амерыканскім Ароупарку бюст Купалы стаіць побач з бюстамі выдатнейшых паэтаў свету — Пушкіна, Міцкевіча, Шаўчэнкі. І будзе стаяць вечна побач з помнікамі ўладарам духу чалавецтва наш Купала.

Купала наш. Купала — наш гонар, наша вечнасць. Тыя, што бэсцілі яго, даўно забытыя ўсімі.

Купала — вечны падарожнік, павадыр відушчых, сляпых і глухіх з пакалення ў пакаленне да шчасця.

Несмяротнаму сыну душы беларускай вечная памяць і вечная слава.

Даруйце мне шматслоўе, але гэта толькі частачка таго, што зберагла памяць і легла на гэтыя старонкі, каб не знікнуць зусім.

Беражыце, шануйце і любіце Купалава слова, каб яно пераходзіла з душы ў душу, з веку — у век.

*Сярэдзіна чэрвеня 2002 года*

# *Дзённікі*

*23.XII.75 г.*

Чалавеку неабходна споведзь. Не толькі ў цяжкія хвіліны, калі гора становіцца невыносным і хочацца свае пакуты перакласці на плечы бліжняга. Няхай хоць пасіўна папакутуе і ён. Удваіх гараваць лягчэй. Мы ж усе — эгаісты і суцяшаем сябе, што не адным нам кепска. А калі гэты бліжні ды яшчэ зможа хоць ненадоўга суцешыць, — боль суцішыцца, як ад гаючых лекаў.

Таму хітра прыдумала рэлігія споведзь. Не перад Богам. Не! Спавядацца трэба перад людзьмі. Не толькі ў грахах, а і ў пакутах. Але ж мы баязліўцы і з усіх сіл пнемся здавацца лепшымі, чым мы ёсць. Таму і маўчым, таму тоім свае балячкі, самі няньчымся з імі, пакутуем, начамі не спім, а паказаць нават самым блізкім не адважваемся. А яны не гояцца самі сабою. Іх часта лечыць добрае слова, шчырая спагада або цвярозая парада і падтрымка ў бядзе.

Таму царкоўнікі спавядалі перад смерцю. І ў апошнія хвіліны адыходу ў нябыт рабілася лягчэй.

Не ведаю, ці палягчае мне, але паспавядацца трэба хоць самому сабе...

*21.VII.78 г.*

Вось, выходзіць, бадай тры гады пішу гэтую сваю споведзь[1]. Ці дапішу? Мушу. Думаў, сшытачка хопіць, каб збольшага пераказаць сваё пакалечанае, хоць і цікавае жыццё. Аж прыходзіцца пачынаць чацвёрты сшытак. У гэтым, вядома, дайду да сённяшніх дзён.

*29.XI.81 г.*

Усе сённяшнія «геніі» забыліся, што паслякастрычніцкая паэзія пачыналася з Чарота, з «Маладняка», з яго «Босых на вогнішчы».

У армян быў свой Чарот — Эгішэ Чарэнц. Яго лёс — дакладная аналогія лёсу Чарота. Арменія яго юбілей у сусветным маштабе святкавала штодзень у Ерэване і ў Маскве, паставіла свайму пакутнаму сыну манументальны помнік, выдала ўсе яго творы. А Чарота не адзначыла ніводная газета. У «ЛіМе» — 12 радкоў інфармацыі. Хто ж нас будзе паважаць, калі мы сябе не паважаем?

*9.III.82 г.*

Учора было б 90 гадоў А. Р. Чарвякову. Яго аўтарытэт і папулярнасць у народзе у 20—30-я гады была бязмежная, амаль легендарная, прастата і дабрата Усебеларускага старасты была выключная. Летам 1937 года ў камеры «амерыканкі» з абрыўка «Звязды» мы даведаліся, што «А. Р. Чарвякоў пакончыў жыццё самагубствам на асабістай, сямейнай глебе». І ўсё.

Да XX з’езда КПСС яго імя было забыта і не ўспаміналася. Цяпер на магіле стаіць помнік, былы Даўгінаўскі тракт носіць імя Чарвякова, з’явілася кніга Якубава пра Чарвякова, а к 90-годдзю друкуюцца артыкулы. Дзіву даешся: 27-гадовы Чарвякоў узначаліў урад рэспублікі — быў старшынёй ЦВК і Саўнаркама адначасова, аднаўляў разбураную рэспубліку, быў пятай асобай у Беларусі. Партыйныя органы займаліся толькі партыйнай работай. І раптам — самагубства. Адбылася гэтая загадкавая і страшная падзея ў часе работы надзвычайнага з’езда КПБ у ліпені 1939 года, калі скрозь знаходзілі і «выкарчоўвалі ворагаў народа». Новы сакратар ЦК Шаранговіч (расстраляны па справе Бухарына) выкрываў Чарвякова ў смяротных грахах, былы дырэктар Гістпарта Ул. Пакэ сцвярджаў, што А.Р. нямецкі ці польскі шпіён. Праз некаторы час і Пакэ быў знішчаны.

Учора Валодзя Мяжэвіч расказаў такі эпізод. У 30-я гады ён быў карэспандэнтам «Известий», а карпункт узначальвала жонка Чарвякова. Па службе Мяжэвіч часта бываў дома, сустракаўся, гутарыў, гуляў у шахматы з А. Р. і ведаў яго ахоўнікаў Дубовіка і Явенку. Пасля сваёй 20-гадовай адсутнасці Мяжэвіч у Міністэрстве лясной гаспадаркі сустрэў Івана Пятровіча Явенку, пазналі адзін аднаго, узрадаваліся, і Мяжэвіч папрасіў расказаць пра гібель Чарвякова. Явенка сказаў, што ў часе таго надзвычайнага з’езда сядзелі з Дубовікам за сцяной.

Не чакаючы перапынку, А. Р. выйшаў з прэзідыума і накіраваўся ў свой кабінет. Дубовік загадаў Явенку аставацца на месцы, а сам пайшоў за Чарвяковым.

Перапынак зацягнуўся аж на дзве гадзіны. Калі пачалося пасяджэнне, Шаранговіч абвясціў, што Чарвякоў пакончыў жыццё самагубствам. Явенка кінуўся шукаць свайго напарніка Дубовіка, але так нідзе не знайшоў. Праз некаторы час пайшоў да яго дадому. Не было яго і там. Як пайшоў у той ракавы дзень, так больш і не з'яўляўся. Плакалі жонка і трое дзяцей, але ніхто нічога ім не сказаў. Явенка пацікавіўся ў начальства пра лёс таварыша. «Гэта не твой клопат. Забудзь і больш ніколі ні ў кога не пытайся», — адказалі яму. Вось і ўсё. Думай, што і як тады было.

*19.VI.82 г.*

Тыдзень жыву ў Каралішчавічах. Зноў веранда шостага пакоя стала маім кабінетам і спальняй. За шкляною сцяною пагойдваюцца сосны і маладыя дубкі. Учора перад самым маім акном на лапках елкі з'явілася чацвёра ваверчанят, а маці, як вопытны «трэнер», зводдаль назірае за імі і, відаць, падае каманды. Як мяне радуе ўсё жывое і першароднае. За апошнія тры гады апусцеў наш лес зусім — перабілі ласёў, а іх тут была цэлая чарада, вольна хадзілі дзікі, а цяпер і след прастыў. Узброены дзікун нішчыць усё, што трапляе на вочы, і ніякія законы і забароны яго не дастаюць. І птушак стала мала ў лесе. Хіба толькі не перавяліся камары.

*25.VI.82 г.*

Прачытаў сёння ў «Литгазете» інтэрв'ю з Іраклієм Абашыдзе[2]. Мудра і дакладна ён сказаў «Обретя слово, человек стал человеком. Потеряв слово, народ перестает быть народом».

*29.VI.82 г.*

Сёння, намацваючы дарогу зломкам алюмініевага лыжнага кійка, увайшоў да мяне Сцяпан Гаўрусёў. Ён амаль нічога не бачыць. Ён забыўся, што ў красавіку мне падарыў свой аднатомнік, і прынёс зноў. Даволі доўга расказваў сваё пакутнае, заблытанае і марна пражытае жыццё. Праз п'янку ў свой час ён страціў сапраўдную сям'ю і дзвюх дачок, жонку Таню, якая імкнулася зберагчы яго талент. Звязаўся з завугольнаю валацугаю, разбэшчанаю прайдзісветкаю. І вось вынік — пятнаццацігадовы сын засуджаны за агіднае згвалчванне на 5 гадоў, сам дапіўся да слепаты. Загубіў не абы-які талент. Гэта, мабыць, і віна

«сяброў»-сабутэльнікаў, і Саюза. Хоць шматлікія лячэнні не далі істотных вынікаў. Шкада яго. Ой, як шкада!

*10.VII.82 г.*

Дачытаў «Драчунов»[3]. Дзіўлюся, як надрукавалі такую жорсткую праўду. Пасля «выканання і перавыканання» «сустрэчных планаў» па здачы хлеба ў вёсцы Манастырскай пачаўся страшэнны голад. 5/6 вымерла ў страшных пакутах, а старшыня сельсавета лічыў сябе пераможцам, прыкрываўся дэмагагічнымі лозунгамі, злачынства апраўдваў «вышэйшымі мэтамі».

Здзіўляе шчырасць і адкрытасць аўтара. Гэта біяграфія-споведзь, жорсткая, страшная, адкрытая і праўдзівая.

Я адчуў вялікую павагу да Міхаіла Мікалаевіча Аляксеева. Мы з ім амаль цэлы тыдзень пазалетась правялі ў Кіраўскай вобласці ў часе Дзён літаратуры. Ён вельмі просты і абаяльны чалавек, нягледзячы на ўсе званні і пасады.

*22.VII.82 г.*

Як я люблю жытнёвае поле, задуменнае, павольнае, журботнае, нібы ў чаканні свае згубы. Узмежак, зарослы рамонкамі і васількамі, малінавым цветам дзядоўніку і ўтравянелая палявая дарога. Хаджу ў поле ранічкай і ўвечары: вітаюся і кажу дабранач. Каб побач не было поля, не напісаў бы і верша «Колас» для № 10 «Полымя» па іх заказу. Паспрабаваў выказаць свае адносіны да паэта сімвалічна — праз псеўданім — Колас. Здаецца, атрымалася. Прыйдзецца ў панядзелак ехаць у Мінск і здаць у рэдакцыю. Што скажуць дасведчаныя «знатакі»? Можа, здымуць, як зняў з мае падборкі ў № 9 маю «Душагрэйку» занадта пільны рэдактар? Чаго ён толькі не баіцца? Яму скрозь вярзецца крамола, варожыя намеры, бо дрыжыць за сваё крэсла, абы ціха было і спакойна жылося.

*3.IX.82 г.*

А сёння апанаваў сум. Сабраўся за горад, у асеннюю цішыню. Даехаў толькі да Маскоўскіх могілак. Наведаў магілы Машэрава, Лынькова, Мележа, Астрэйкі, Бялевіча, Броўкі і Лёлі, Глебкі, Каржа. Знайшоў вельмі сціплую, але пранізліва кранальную магілу Анатоля Сербантовіча[4]. Так мы і забылі гэтага таленавітага юнака. А ён не ніжэй Рубцова. Таго вунь як паднялі, а мы дбаем толькі пра сябе, пра свае перавыданні. А яго вершы могуць упрыгожыць любую літаратуру.

*26.IX.82 г.*

А я з 2-га па 17 верасня сядзеў у Каралішчавічах — вычытваў карэктуру свайго двухтомніка. Гэта больш за 700 старонак. Спяшаўся, а выдавецкія карэктары толькі возьмуцца за яе ў кастрычніку. Падпішуць, відаць, з першай карэктуры. Але мне зноў усё ж сапсавалі настрой. Жычка[5] цішком, нікога не папярэдзіўшы, зняў з першага тома маю «Душу». Мабыць, самы дарагі для мяне верш. Кірэенка[6] з маёй падборкі выкінуў «Душагрэйку». Не шанцуе маім ні «Душы», ні «Душагрэйцы». От і жыві без душы і нават без «душагрэйкі».

Усяго ў нас баяцца. А ў маскоўскіх выданнях Жыгулін ды і іншыя друкуюць больш вострыя рэчы.

Узяць хоць бы «Драчуны» М. Аляксеева. Голад 1933—34 гг. апісаны так выразна, масавае выміранне паволжскіх вёсак прымушае аб многім задумацца.

А пазаўчора, пасля юбілейнага вечара Танка, перад пачаткам банкета сустрэўся з аўтарам «Драчунов». Мы з ім знаёмыя па Днях літаратуры ў Кіраўскай вобласці. Я яму выказаў падзяку за сумленны твор, за смеласць, за праўду.

Гаварылі мы даволі доўга. Міхаіл Мікалаевіч пацвердзіў маю думку, што твор носіць дакументальны характар, што не толькі ў яго родным сяле Манастырскім у тыя страшныя гады вымерла каля 500 сем’яў, што голад ахапіў частку Сібіры, усю Украіну, Краснадарскі край, данскія стэпы.

Гаварыў, што нават яму цяжка было прабіць у друк гэты сумленны твор. Найбольш вострыя сцэны зняў Галоўліт. Толькі пасля станоўчых рэцэнзій у цэнтральным друку нібыта іх адновяць у чарговым выданні.

Да нас падышлі А. Т. Кузьмін[7] і Васіль Быкаў. Васіль пазнаёміў А. Т. з Аляксеевым. А Кузьмін пачаў мне гаварыць, што многае робіцца па ўвекавечанні памяці герояў Рудабелкі[8] і прапанаваў у будучым разам з ім паехаць туды.

Хутка паклікаў Максім усіх за банкетныя сталы.

*22.III.83 г.*

Прыеду дадому, давяду да ладу Дудзіна, прыйдзецца з’ездзіць у Ленінград прачытаць яму пераклады і здаваць рукапіс у выдавецтва. Работа была цікавая і карысная. Ён вельмі мне блізкі паэт па сваёй традыцыйнай манеры, па сутнасці свайго стаўлення да жыцця, да сучаснасці, па класічнай форме і дасканаласці радка. Не цярплю расхістаных вершаў і слоўнай пустаты. У яго кожны

радок напоўнены думкай і пачуццём. Гэта добрая школа для перакладчыка.

*14.VIII.83 г.*

Пазаўчора дамовіліся з Нілам Гілевічам сустрэцца на адкрыцці выстаўкі сямідзесяцігадовага Яўгена Ціхановіча[9].

Было душна і спякотна. Мы сышліся на ганку Палаца мастацтва. Не бачыліся болей як тры месяцы, цяпер было пра што пагаварыць. Адкрыццё выстаўкі затрымлівалася — перавешваліся карціны. Да нас падышоў усхваляваны юбіляр і ўгаварыў мяне сказаць слова на ўрачыстым адкрыцці выстаўкі. Доўга і нудна мямлілі мастацтвазнаўцы, а я расказаў эпізод з круіза вакол Еўропы. Калі я падараваў у Афінах нашаму гіду Розе Карвелі паштоўку з рэпрадукцыяй карціны Ціхановіча і «Лясной песняй» з нотамі, як мы тады правезлі гэтую песню па ўсёй Грэцыі. Гаварыў я і пра школу Галубка[10], пра яго душу і ў жывапісе, і нашым мастацтве. Закончыў: «Не зважайце на ўзрост. У мастака няма старасці, мастацтва заўсёды маладое і натхнёнае».

*18.IV.84 г.*

Здаецца, у наступным годзе ўбачыць свет мая кніжка казак і вершаў для дзяцей у выдавецтве «Юнацтва». Яе лёс вырашыў выпадак: сустрэўся ў рэдакцыі перакладаў з Артурам Вольскім[11], пагаварылі, і ён прапанаваў напісаць заяўку і найхутчэй здаць рукапіс.

Прыемна, што кніжка выйдзе, але засмучае, што ў кожнай гарадской і вясковай кнігарні — сапраўдныя могільнікі беларускіх кніг. Нават прадаўцы палохаюць пакупнікоў: «Это же белорусская»... І тыя, сарамяжа, адыходзяць, нібыта баяцца далучыцца да «простолюдинов».

О, бедны народ! Нас болей, чым фінаў, эстонцаў, латышоў, літоўцаў і балгар. Тыя шануюць сваю гісторыю, культуру і мову, літаратуру і мастацтва, а мы...

*3.V.84 г.*

Напярэдадні майскага свята блукаў па парку імя Горкага. [...] На ўзбярэжжы сустрэў Мікалая Матукоўскага. Загаварылі пра тэатр. У Коласаўскім і ў ТЮЗе ідзе спектакль па яго п’есе пра Заслонава. Ён мне сказаў, што трэба было б паглядзець, і тут жа дадаў, што ў ТЮЗе п’еса пастаўлена вельмі кепска. А я прызнаўся, што даўно расчараваўся ў нашых тэатрах. У іх няма

праўды жыцця, усё — суцэльная тэатральшчына, штучнасць, ненатуральнасць, кепская дэкламацыя, крык і бездапаможнае рэжысёрскае эксперыментатарства. У акадэмічным тэатры даўно няма акцёрскага ансамбля, адзінства разумення і трактоўкі, кожны іграе сябе і крычыць, як умее.

Дзіўна, драматург Матукоўскі цалкам са мною згадзіўся.

Непрыкметна загаварылі пра злачыннае следства нашай міліцыі і пракуратуры над невінаватымі людзьмі, пра што быў цікавы выкрывальны матэрыял Матукоўскага ў «Известиях». Ён сказаў, што гэта была не адзіная справа, сфабрыкаваная пад недаравальным націскам следчых. І ўспомніліся метады 1937 года. Тут Мікалай Ягоравіч прызнаўся, што і яго бацька ў той час быў незаконна пакараны, а ён, хлапчук, а пасля і дарослы, не верыў роднай маці, што бацька быў сумленнейшы чалавек, слепа верыў у чысціню «органаў» і скрозь у анкетах пісаў: «бацька — вораг народа». Толькі пасля XX з’езда КПСС яму паведамілі, што бацька яго быў невінаваты і пасмяротна рэабілітаваны.

*22.VI.84 г.*

Учора быў на юбілейным вечары Быкава. [...] Народу набілася на ўсе ярусы, у праходы, стаялі ў дзвярах. Юбілей быў па самай высокай катэгорыі. Прысутнічаў увесь урад. З Масквы прыехалі Озераў і Залыгін, з Ленінграда — Гранін. Усё было шчыра і ўрачыста. Не было так шчыра ні на водным юбілеі. Быкаў атрымаў тэлеграму ад А. А. Грамыкі[12]. А сам, як заўсёды, трымаўся сціпла і тактоўна. Сапраўды, ён быў раней «непочитаемый», але... «читаемый», цяпер і «почитаемый и читаемый». Сапраўдны талент не схаваеш, не закрэсліш, не замаўчыш.

*16.VIII.84 г.*

16 жніўня зайшоў да мяне Скрыган. Пад нарачанскага вугра выпілі па чарцы каньяку. Пагаварылі пра жыццёвыя дробязі. Супалі нашы думкі, што ў сучаснай паэзіі і прозе страшэнна шмат мякіны, непатрэбшчыны, шэрасці — усё знаёмае, збітае, без цікавых думак, без смелых разважанняў, без крылаў і палёту.

Праводзіў я Янку па вуліцы Коласа. З усяе нашае вялікае сябрыны мы з ім толькі ўдвух і засталіся. Хто наступны?

*22.VIII.84 г.*

Дзіўлюся сам, адкуль у мяне такая лянота? Блукаюць радкі, задумы, а прымусіць сябе ўзяцца за пяро, усадзіць за стол не хапае сілы. Узрост? Старасць? Душэўная глухата? Відаць, не.

Ці не разуменне, што праца твая нікому не патрэбна, ніхто яе не чакае, ніхто (ці бадай ніхто) тваіх кніг не купіць, не прачытае, а калі пагартае, дык яны мала каго ўзрадуюць і ўсхвалююць. Відаць, пішам не тое, што трэба, што павінны б былі пісаць, гаворым не ўсю праўду і нават паўпраўда наша без болю і грамадзянскай страсці.

І ўсё ж хочацца мне напісаць тую аповесць майго юнацтва, над пачаткам якое столькі марна мудраваў. Вазьму ды ад першай асобы раскажу пра ўсё, што захавала памяць з пераходамі ў сучаснасць, з лёсамі колішніх маіх аднагодкаў. Трэба толькі настроіцца і ўзяцца.

*15.X.84 г.*

У такім «працэджаным» вершы, як «Душагрэйка», па загаду прыйшлося правіць «злосць» на «сцюжу». Бо нават самыя глухія і нязначныя намёкі на той страшнапамятны час цяпер катэгарычна забаронены.

Што ж рабіць з маёй біяграфіяй? Куды дзець два дзесяцігоддзі, выкрасленыя з жыцця? Хіба ж іх можна выкрасліць? Мне не сорамна сваіх пакут, а хтосьці баіцца іх успамінаць, лепш прыкінуцца, што нічога не было.

Ёсць прабел і ў маёй біяграфіі — нехта вырваў старонку з яе, хоць не быў ні злачынцам, ні графам я, а старонкі ўсё ж нестае.

Мабыць, самай галоўнай, на гора мне, бо спакою дасюль не дае. За яе мне нікольki не сорамна, але нехта баіцца яе.

*17.X.84 г.*

Відаць, Л. Талстой меў рацыю сцвярджаць: «В глубокой старости обыкновенно думают, что доживают век. Напротив, в глубокой старости идет самая драгоценная, нужная жизнь и для себя, и для других».

Сапраўды, жыццёвы вопыт, веды, назіранні, барацьба з самім сабою (сумненні, папрокі, пакуты сумлення, аналіз памылак і агідных учынкаў) прыводзяць да пэўнай мудрасці, фармуюць светапогляд, жыццёвыя прынцыпы і філасофскія перакананні, ідзе духоўнае ачышчэнне і ўдасканаленне, чаго не было ў бяздумнай маладосці.

*11.XI.84 г.*

У кнізе ўспамінаў пра К. Сіманава[13] В. Пяскоў[14] расказаў, як жартам К. Міхайлавіч падлічваў свой узрост: кожны дзень

вайны падвойваўся, падвойваліся і дні працы над «Жывымі і мёртвымі», і так Сіманаў налічыў 82 «пражытыя гады».

Колькі ж па такой арыфметыцы пражыў я? З 1936 па 1946 год можна патроіць, а то і ўчацвярыць, а рэшту да 1956 — падвоіць. Дык мне выйдзе 120 гадоў. Менавіта столькі адпрацавала сэрца. У «амерыканцы», на этапах, пры паўторных з'яўленнях капітанаў у хромавых ботах, у адзіночках і «кандзеях» яно адлічвала 120 удараў у хвіліну. Сапраўды, адпрацавала два тэрміны чалавечага жыцця.

Учора ў мяне з'явіўся Барыс Ярачкін. Мы з ім некалі сустракаліся на 3 ЛП[15] у «гаспадарцы» Цокура. Тады я з ім сустракаўся рэдка і мала ведаў. Цяпер ён жыве ў Астрахані, член СП, піша прозу і падарыў мне свой раман «Огненная купель», выдадзены ў Валгаградзе, пра першыя дні вайны пад Мінскам. Ён тут пачынаў службу лейтэнантам і сустрэў першы фашысцкі ваенны вал.

Як жа ён трапіў туды, дзе быў я? Калі кажа праўду, за тое, што напісаў дакладную камандзіру палка пра злачынства камандавання, якое вылівала гаручае з супрацьтанкавых пляшак і здавала іх у абмен на гарэлку, а адбівацца ад танкаў не было чым. Відаць, вінаватыя спалохаліся такога праўдалюбца, падабралі аж тры артыкулы крымінальнага кодэкса і падвялі пад «вышку». Чатырнаццаць дзён праседзеў у смертнай камеры. Ракасоўскі «вышку» не зацвердзіў, так ён трапіў у Унжлаг. Цяпер атрымаў усе ранейшыя ўзнагароды, рэабілітацыю і пенсію.

Чаго толькі не было! Чаго толькі не вынесла наша пакаленне!

Настаў час адказваць за кожнае слова, за кожны радок, рыфму, вершы, публіцыстыку. Ніякай аблегчанасці, ніякіх палёгак сабе. Усё жыццё незадаволены сабой і сваёй пісанінай. Часам сорам чытаць многа разоў перавыданае.

Цяпер я на фінішы, перад закрыццём заслоны. Нават слабы акцёр у фінальнай сцэне аддае ўсе свае сілы і здольнасці, каб сысці з падмосткаў пад воплескі, каб запомніцца гледачам, пакуль ідуць хоць да гардэроба.

*16.XI.84 г.*

Днямі засядаў у камісіі па прыёму ў члены Саюза пісьменнікаў. Дзіўная рэч — часта прымаем пяцідзесяці- і сямідзесяцігадовых. Можна СП расшыфраваць, як Саюз пенсіянераў. Праўда, на гэты раз напрымалі і зялёнай моладзі. Прымалі без належных падстаў, забываючы галоўны пункт статута СП — творчасць

павінна мець самастойнае значэнне. Цяпер усе пісьменныя панавучваліся так-сяк рыфмаваць і гуляць у гукапіс і ўжо лічаць сябе паэтамі. Выдавецтва часта непатрабавальна выдае першыя кніжачкі, а дакладней, сшытачкі пераймальных вершаў, а мы пачынаем уміляцца «талентамі», у якіх яшчэ нічога свайго няма, апрача добра вывучаных рэдакцыйных калідораў і літаратурных плётак. Пра што яны будуць пісаць? Што скажуць чытачу, чым парадуюць? Ніхто не ведае і не адкажа.

*21.XI.84 г.*

А толькі што разгарнуў кнігу Каверына[16] і ў лісце Первамайскага[17] да яго (1965) прачытаў тое, што не раз прыходзіла мне ў галаву, але ўголас не выказаў: «Я заметил, что в молодости дни короткие, а годы долгие... К старости все наоборот». І яшчэ: «Самые нужные слова говорятся человеку, когда он уже умер и не может их услышать. А кто знает, если бы они сказаны были при жизни — не продлили бы они его дни и труды?»

*20.XII.84 г.*

«Праведник отходит, а свет от него остается». Гэта сказаў Дастаеўскі, па-мойму, і пра Алеся Пальчэўскага.

*28.XII.84 г.*

Пад раніцу прыснілася: высока, у сіваватым зімовым небе з нябачнага крана зрываецца вышыннік у белай касцы. Ні крана, ні троса не відаць, а ён павольна-павольна падае, нават не падае, а стайма плыве ўніз. У мяне замірае сэрца, бо зараз грымнецца аб зямлю, і канец. А ён павольна апусціўся на снег і паціху праз кладачку пайшоў па двары на поўнач.

Увесь дзень латаў свой няшчасны рукапіс успамінаў і эсэ. Патрабаванне адно — забыць тое, што нельга забыць, выкрасліць тое, чаго не выкрасліць з гісторыі.

Пад вечар зайшоў Г. Вагнер[18]. Прасіў зрабіць некаторыя пераробкі ў маім тэксце для харавога выканання. А толькі што пазваніла Браніслава Леапольдаўна і трагічным тонам паведаміла: у 8 гадзін не стала Колі Лобана[19]. Аказваецца, ён чатыры дні быў непрытомны, а мы з Цімахом (Віткам) тыдзень назад былі ў яго. Нават выпілі па чарачцы каньяку, жартавалі, глядзелі тэлевізар. А стол у яго маленькім кабінеціку быў завалены расклейкаю яго трохтомніка. Стаяла машынка з закладкаю — перадрукоўваўся змест. На развітанне ён падарыў мне сваю кнігу «Пяць раніц тыдня». У яго ледзь хапіла сілы

нашкрэбаць аўтограф: «Дарагому Сяргею Іванавічу Грахоўскаму ад аўтара. М. Лобан».

Развіталіся ў калідоры. Ён праводзіў нас да дзвярэй і не думалася, што бачым яго апошні раз. Вось і завяршыў слаўны праведнік, сумленнейшы і нястомны працаўнік Мікола Лобан свой зямны пакутніцкі шлях. Яшчэ не стала аднаго добрага друга. [...] Вось і мой сон: зваліўся з вышыні і павольна пайшоў на поўнач. Там могілкі. Хто ж наступны? Горка, адзінока, пуста!

*30.XII.84 г.*

Ну, вось і адмучыўся вялікі пакутнік, праведнік і святы добразычлівец Коля Лобан. І дзень быў такі, як у маім сне, — неба ў сіваватай смузе, чысты снег і лёгкі марозік.

*4.I.85 г.*

А на стале — скрэмзаны рукапіс маёй кнігі «Так і было», скрэмзаны толькі там, дзе ёсць хоць намёк на падзеі самае змрочнае пары. А хіба яе выкрасліш з лёсаў многіх маіх сучаснікаў, хіба абмінеш цэлае дваццацігоддзе?

У Маскве можа Карпаў[20] друкаваць у «Палкаводцы» пра свае пакуты, М. Аляксееў у «Драчунах» маляваць жахлівыя карціны голаду на Волзе, Жыгулін[21] — свае спавядальныя калымскія вершы, а ў нас нават у аўтабіяграфіях маладзейшых гатовы выкрасліць: «Нарадзіўся ў 1937 годзе».

Вось і пайшоў сёння да галоўнага цэнзара з некалькімі старонкамі ўспамінаў пра Галубка, Дубоўку, Шашалевіча, Пушчу. Аляксандр Антонавіч разумны і добразычлівы чалавек, але і ён не ўсё можа. Ды і навошта яму рызыкаваць?

*9.I.85 г.*

Штодня псую рукапіс «Так і было». Так і не разумею, каго абдурваем, хаваючы галаву пад крыло? Як жа можна расказаць пра чалавека або пэўны час, абмінаючы два дзесяцігоддзі, робячы выгляд, што іх наогул ніколі не было? Што ж зробіш? Абміноўваем, прыкідваемся.

*18.I.85 г.*

Рукапіс сваёй пакалечанай будучай кнігі здаў. Назваў яе «Так і было». На вялікі жаль, многае было зусім не так. Каб расказаў, як яно было, кніга была б вартая ўвагі.

*22.I.85 г.*

Я у Каралішчавічах. Нібыта і не выязджаў з гэтай цішыні, замеценых снегам калматых елак і белых сумётаў. Я адзін. Адзінота — мой доктар, маё адхланне ад хатняй дзікасці, нервознасці, нядобразычлівасці. Сяджу тут, а думы — там.

Сцюдзёна, снежна, цяжка на сэрцы. Адзіны паратунак — стаць на лыжы і прайсціся па заснежаным лесе. Можа, палягчае. Сёння ў сталовай кінарэжысёр Міхаіл Пташук хваліў маю апошнюю падборку ў «ЛіМе». Яго дачка вывучыла на памяць мой «Глобус памяці», каб прачытаць на школьным вечары. Часам вяртаюцца надзеі — хоць некаму ты трошкі патрэбен. А каб у душы была раўнавага, я змог бы яшчэ нешта зрабіць.

*23.I.85 г.*

Трэці дзень жыву ў белай казцы: лес, замецены снегам, увесь нейкі светлы і празрысты. Пасля 20-градуснага марозу ўдарыла адліга, учора нават ішоў дождж. Прастойваюць мае лыжы, і я ўвесь у прастоі. Можа, ад стомленасці пасля інтэнсіўнага калечання рукапісу кнігі «Так і было», пасля тэрміновай падзёншчыны. Адпачы-ва-ю!

*26.I.85 г.*

Л. Талстой заўважыў: «многія рускія пісьменнікі адчувалі б сябе лепш, калі б у іх былі такія жонкі, як у Дастаеўскага». Гэтая 35-гадовая ўдава прысвяціла ўсё сваё жыццё памяці Дастаеўскага, выданню яго кніг, поўнай біяграфіі і бібліяграфіі, да апошняй хвіліны жыла клопатам пра яго. Кожны дзень увечары яна гаварыла сабе: «Нічога не зрабіла, а стамілася страшэнна». Як гэта ўсё правільна і разумна.

*30.I.85 г.*

Прачытаў некалькі невялікіх аповесцей і апавяданняў Фёдара Абрамава[22]. У іх усё жывое, натуральнае, з колерамі і пахамі, каларытныя, не падобныя адзін на адзін характары і лёсы, а якая дакладная і натуральная мова, у кожнага героя — свая інтанацыя, жывое аблічча, без падрабязнасцей, але жывое, выпісанае двумятрыма рысамі. А які клопат пра сваю зямлю, людзей, прыроду, пра закінутыя, апусцелыя «неперспектыўныя» вёскі. Які боль у кожнай рэчы! Пачытаеш такое і сорам брацца за пяро.

*22.II.85 г.*

Каралішчавічы.

Чацвёрты дзень адыходжу ад тлуму тут, у лесе. На гэты раз трохі налёг на работу: адрэдагаваў і выправіў леташнія апавяданні, передрукаваў з некаторымі праўкамі ўспаміны пра К. Сіманава. Сумленны, добразычлівы гэта быў чалавек і нястомны праўдзівы пісьменнік. Відаць, ён правільна абышоўся са сваім талентам: маладосць аддаў паэзіі, сталасць — прозе, апошнія гады — дакументальнай публіцыстыцы. Як толькі яму хапала часу, сілы і энергіі?

*14.V.85 г.*

Дык ці варта пакутаваць над словам, над радком, калі твая праца нікому не патрэбна, калі ты — проста ўтрыманец дзяржавы: пішаш, выдаюць, складаюць на паліцы і плоцяць табе за тое, што ніхто цябе не чытае. Не чытаюць не таму, што гэта не цікава, таму што пісана на мове, асуджанай на пагібель.

*10.VI.85 г.*

А ў суботу выпадкова трапіў да слаўнага архітэктара (аўтара Хатыні) Лёні Левіна і якраз на дзень нараджэння яго дачкі Галі. Якая слаўная моладзь там была! Чыстая, разумная, светлая, цвярозая. А які абаяльны і слаўны сам Лёня, яго Наташа! Вось дзе шчаслівая сям’я!

*24.VI.85 г.*

Потым пайшлі на т. зв. Возера разам з урачом Ганнай Рыгораўнай (здаецца, яе так завуць). Яна вучылася ў Маскоўскім медінстытуце і жыла ў адным пакоі з Героем Савецкага Саюза Надзеяй Траян. Расказвала пра яе сціпласць, цяжкі асабісты лёс — рана аўдавела і засталася з двума малымі дзецьмі, была старшынёй таварыства «Чырвонага Крыжа», шмат ездзіла па свеце і раптам дачасна адправілі на пенсію і нават нібыта хацелі пазбавіць геройскага звання: узялі пад сумненне яе ўдзел у забойстве гаўляйтара Кубэ. Ды і Осіпава ва ўсіх выступленнях адмаўляе яе нават мізэрную ролю, кажа — не ведае, якое дачыненне мае да ўсяе гэтае тэрарыстычнай акцыі. А я даўно перакананы, што забойства гаўляйтара было магутнейшым стрэлам, звярыным тэрорам фашыстаў супраць беларускага народа: расстрэльвалі кожнага 10-га ў агромністым страі пакутнікаў, спалілі сотні вёсак з людзьмі на Лагойшчыне і Міншчыне, а

замест Кубэ прыслалі люцейшага гаўляйтара, і ён у народнай крыві выкупаў сваю ўладу.

*24.VII.85 г.*

Па дарозе дамоў сустрэў Алеся Адамовіча. Павіншаваў яго з вялікім поспехам: фільм па яго сцэнарыі «Ідзі і глядзі» атрымаў вышэйшы прыз на сусветным кінафестывалі ў Маскве. А тут нашы «дзеячы» хацелі яго забараніць. Замест таго, каб ганарыцца поспехам свайго мастацтва, робяць усё, каб скампраметаваць яго. І пасля выключнага поспеху і ўсеагульнага прызнання некаторыя пішуць скаргі ў вышэйшыя органы, каб скампраметаваць фільм. Усе маскоўскія газеты надрукавалі па некалькі захопленых артыкулаў, у беларускім друку — ні радка. І што мы за нацыя?

*2.VIII.85 г.*

Аксакаўшчына.

Шосты дзень жывём у санаторыі і задаволены ўсім. Каб яшчэ менш лілі дажджы, было б зусім добра. Кожны дзень катаюся на лодцы на невялікім лапіку, а дакладней — лужыне вады, прымаю душ і хаджу ў басейн, адчуваю сябе прыстойна, цяпер не так хвалюе сэрца, як страўнік. Ные ён увесь час.

Тут цяпер можна здымаць другую серыю фільма «И жизнь, и слезы, и любовь». Увесь «кантынгент» дажываючы, але ўчэпіста трымаецца за жыццё. Моладзі — адзінкі. Старэйшы за ўсіх — К. К. Крапіва. Жыве ён у люксе з сынам і нявесткаю. Выпадкова ўбачыў яго на праходцы. Калываючыся, ледзьве ступаў з кійком у доўгім чорным плашчы сухі, як Дон-Кіхот, нямоглы чалавек. Падышоў і пазнаў К. К. Павітаўся. «А хто ж вы будзеце?» Назваўся. Працягнуў руку: «Добры дзень, Сяргей Іванавіч». Бач ты, не забыўся. Выказаў задавальненне маёй творчай актыўнасцю. Пацікавіўся, колькі мне год. Успомнілі Зарэцкага, Скрыгана, Каваля, Хадыку. Крапіва назваў Дубоўку ў ліку таленавітых паэтаў. Рэзюміравалі — якая была б наша багатая літаратура, каб яе так старанна не «прарэджвалі».

Пазаўчора купіў малінаў і трохі аднёс Крапіве. Быў задаволены і ўдзячны. Ён нічога не бачыць. Я насыпаў ягад у талерку, даў лыжку, і ён прагна пачаў есці, седзячы на ложку. На падваконніку ляжала «Полымя». К. К., аказваецца, сочыць за перыёдыкай.

*7.VIII.85 г.*

Учора доўга гаварыў з Крапівой. Сядзіць ён на лавачцы ў саламяным капелюшы, у нейкім выцертым лапсердаку. У ру-

ках кіёк, за шкельцамі акуляраў — невідушчыя вочы, і галаву задзірае, гаворачы, як сляпец, а розум светлы, памяць выразная і свежая. Часам, кажа, забывае прозвішчы і імёны, а даўнейшыя факты памятае цвёрда. Пагаварылі пра так званае «наватарства» сучасных рэжысёраў, і ён яго не прымае, успомнілі выдатны акцёрскі ансамбль колішняга БДТ І з Крыловічам, Грыгонісам, Уладамірскім, Глебавым, Ржэцкай. Цяпер у тэатры няма аблічча, няма традыцый, рэжысёрскай школы і эстэтычнай платформы. Незадаволены К. К. і пастаноўкай яго «Брамы неўміручасці».

Загаварыў я, што ён павінен пісаць мемуары. Памаўчаў К. К. «Калі ж некаторыя факты забыліся або помняцца недакладна». А ён прывык да акадэмічнай дакладнасці і скрупулёзнасці.

*12.XI.85 г.*

З цікавасцю чытаю кнігу Букчына[23] пра дзекабрыстаў. Зрабіў для сябе адкрыццё: Тадэвуш (Фадзей) Булгарын у дзяцінстве жыў у Макавішчах каля Глуска.

Вельмі шкадую, што дзекабрыста Івана Гарбачэўскага адкрыў па-сапраўднаму мне той жа Букчын, і так позна. Калі б я ведаў, што ён пасля смерці А. Мураўёвай 37 гадоў запальваў лампадку ў капліцы Пятроўскага завода ў памяць гэтай самаахвярнай дзекабрысткі, лампада б гэтая інакш бы асвяціла маю паэму «Спаленыя масты». Зноў папрок сабе — трэба глыбей, сур'ёзней ведаць матэрыял, перш чым брацца за пяро.

*12.XII.85 г.*

Наведаў мяне Янка Скрыган. Прынёс свой выдатна выдадзены двухтомнік. Ён, бясспрэчна, сапраўдны пісьменнік. Калі б меў магчымасць, як і многія (у тым ліку і я), напісаць усё, што пражыў, убачыў, адчуў перапакутаваў, гэта былі б творы высокага грамадзянскага гучання, вялікай праўды, перасцярогі, заклік да сумленнасці і сумлення, да пашаны і беражлівасці — лю-дзе-й! Чаму ж мы хаваем свае беды, язвы, якія адправілі на той свет мільёны лепшых людзей, — Тухачэўскага, Блюхера, Ягорава, Убарэвіча, Постышава, Касіяра, Чарвякова, Галавача, Зарэцкага, Хадыку — тысячы тысяч такіх непаўторных талентаў, як Павел Васільеў, Барыс Карнілаў, В. Мандэльштам.

Схаваць гэты жах, гэтую несправядлівасць (пра якую людзі ведаюць па глухіх і прыблізных чутках) значыць тое самае, што схаваць пухліну, якая можа выбухнуць, выклікаць новую смяротную эпідэмію.

*13.XII.85 г.*

Пра што мару на сконе дзён? Яшчэ хоць раз прайсціся па сцежках свайго маленства. Зірнуць на ўзвышшы Лагойшчыны, сінія лясы каля Ракава, на прысады ў маім Падзамшы, прайсціся берагам Пцічы там, дзе яе яшчэ не паспелі знішчыць, падыхаць смольнаю апалаю ігліцаю і няўлоўным верасовым водарам, пакланіцца збуцвеламу крыжу на ростанях дарог, помнікам на магілах маіх аднагодкаў, што загінулі, каб я іх перажыў на сорак гадоў, каб жылі мае дзеці і ўнукі. Прайсціся яшчэ раз па Беларусі — і не страшна будзе памерці, хоць і хочацца жыць.

*10.VIII.86 г.*

Сёння і заўтра яшчэ буду тут, у Каралішчавічах, і развітаюся назаўсёды з гэтым не надта зручным у адносінах сучаснай цывілізацыі, але такім абжытым і ўтульным домам.

Літфондаўскія дурні сёння прадаюць наш дом, а ён мог стаць найлепшым літаратурным музеем, а новы трэба было пабудаваць побач.

Развітвацца цяжка. Вось ужо ходзяць пакупнікі (як чэхаўскія ?), поруць у кожны куток кійком, прыйдуць новыя гаспадары, а я буду сумаваць па гэтым доме. У ім жа, бадай, большасць напісана і перакладзена мною — тут.

Так тут добра думалася, соладка спалася, лёгка дыхалася. А колькі тут выхаджана і перагаворана з Броўкам, Дубоўкам, Брылём, Лобанам, Гілевічам, Лыньковым, Скрыганом, а ў апошнія дні з Жураўлёвым і Мальдзісам! Так, як тут, не пісалася нідзе.

Туды, на Іслач, у той «турэмны замак» мяне зусім нішто не вабіць. Ды і калі ён будзе, ды і які ён будзе? Да гэтага часу за сем гадоў ніяк яго не давядуць да ладу.

Бывайце, мае мілыя і дарагія сэрцу Каралішчавічы! Тут я не раз акрыяў, тут святлела мая душа, тут з’яўлялася столькі думак, пачуццяў, радкоў і старонак. Нізка кланяюся Вам і не ўяўляю, як пражыву без вас, куды схаваюся ад бедаў і непрыемнасцяў, дзе знайду прытулак спакутаванай душы.

Іду развітвацца з «возерам», лесам і такімі дарагімі краявідамі.

Прайшоў па знаёмых сцежках, паўздыхаў, развітаўся.

*15.XI.86 г.*

Чытаю кніжку К. Тарасава (яго падарунак) «Странствие в тесном кругу». З задавальненнем заканчваю аповесць пра Рагнеду. Зайздрошчу яго дасведчанасці ў гісторыі. А мы ж яе так слаба ведаем. Сорамна. Не вывучалі ў школе, трэба было вывучаць самастойна, але кнігі па гісторыі ў нас рэдкасць.

*26.I.91 г .*

Даўжэнка[24] лічыў, што нашы трыбуны зроблены так, каб ніхто з іх не гаварыў праўду. 73 гады суцэльнай бессаромнай хлусні! Хлусня пераходзіць ад пакалення пакаленню з акцябронскага ўзросту. З тае пары дзіця ўжо разумее, што ад яго чакаюць, чаго ад яго трэба — шпар па паперцы ману, а яшчэ не ўмееш чытаць, у дзіцячым садзе ўваб'юць у галоўку дурную ману. Чым больш расце чалавек, тым дасканалейшаю становіцца яго хлусня. Асобныя фанатыкі хлусяць і самі пачынаюць верыць у тое, што гавораць.

Цяпер хлусня з трыбун пералезла ў гутаркі, прэс-канферэнцыі, у інтэрв'ю. І так налаўчыліся, што ўжо без паперкі хлусяць. Як шоўкам шыюць. Пастралялі бяззбройных людзей, дык яны самі і вінаватыя, або парламент, які яны абаранялі, свой урад нібыта арганізаваў забойства.

У інтэрв'ю «Литгазете» Кручкоў[25] кажа: з 30-х па канец 50-х гадоў было засуджана не 70 мільёнаў, а ўсяго 3 мільёны 778 тысяч 234 чалавекі, з іх расстраляна 786 т. 98 чал. Які прымітыўны хлус! Хто паверыць? У «маім» маленькім, амаль невядомым Унжлагу за мае 10 гадоў перамалолі не менш мільёна. А Калыма, Варкута, Караганда, Цемнікі, Бура-палам, Нарыльск, Сіблаг, сотні і сотні фабрык смерці. Салаўкі, Беламор-канал, і Волга-Дон, уранавыя шахты. Дакуль жа злачынная бюракратыя будзе лічыць народ дурнем, бессаромна хлусіць? Пара павініцца, пакаяцца, адмежавацца, раскрыць жахлівую праўду, няхай скаланецца свет, каб паверылі, што такога не будзе. Не, будзе, будзе, можа, страшней у нашай адзічэлай аўтарытарнай краіне «рабов и господ».

*22.IV.91 г.*

Кіеў, з'езд пісьменнікаў, здалося, вярнулі мяне да жыцця. Паверыў у свае сілы. На з'езд былі запрошаны ўсе члены Саюза, а іх 1236. У зале было больш тысячы. Адкрыў з'езд хор «Малітваю аб Украіне». Ушанавалі памяць ахвяр сталінізму пад гукі «Развітальных звонаў». На сцэне — толькі партрэт

Тараса і — ніякіх функцыянераў. З’езд стаў Першым (замест X) з’ездам незалежнага Саюза. Было шмат гарачых і разумных прамоў і прапаноў.

Тры дні (16, 17 і 18 красавіка) бушавалі страсці.Мне далі слова ў першы ж дзень і прынялі яго гарачымі воплескамі, шмат дзякавалі, казалі, «лепшая прамова» дня. Потым зачытаў ліст Быкава пад суцэльныя авацыі. Жыў у добрым нумары гасцініцы «Масква».Прыезджаму ў Кіеве галодна, бо ўсё прадаецца толькі па купонах. Абед у рэстаране самы звычайны, комплексны — 10—12 р. У гасцінічным буфеце нават няма чаю. А на плошчы бушуюць «страйкеры».

*12.VIII.91 г.*

Прачытаў у «Новом мире» пачатак успамінаў А. Салжаніцына «Бодался теленок с дубом». Як гэта дакладна знойдзена! Усе сумленныя, мыслячыя адчувалі сябе немаўлятамі перад дубам. Сістэмы, якую ні скалануць, ні расхістаць нікому не ўдавалася. Яна праглынала ўсё жывое і перадавое сваёй крыважэрнай непахіснасцю. Толькі адзінкі такіх, як Салжаніцын, маглі стаяць самаахвярна на сваёй пазіцыі.

Якая ў яго назіральнасць, якія трапныя і лаканічныя характарыстыкі ўладарных пудзілаў, падхалімаў, закормленых за верную службу «інжынераў чалавечых душ». З стэнаграфічнай дакладнасцю напісаны старонкі пра сустрэчы Палітбюро з творчай інтэлігенцыяй, абмеркаванні «непроходимых» твораў А. І. у «Новом мире» і Саюзе пісьменнікаў, у кабінетах усемагутнага ЦК.

Якая прадбачлівасць, якая вера, што яго праца дойдзе да народа кожным радком, кожным словам.

Пасля такой літаратуры нашы патугі нешта пісаць здаюцца бездапаможным графаманствам.

Салжаніцын — глыба народнага сумлення, самаахвярны падзвіжнік, прарок. Яго, безнадзейна хворага ракам, відаць, сам Бог вярнуў да жыцця, каб, як Хрыстос, нёс людзям дабро і праўду.

*14.VIII.91 г.*

Успомніўся запіс Салтыкова-Шчадрына ў часе яго ссылкі ў Вятку на пасадзе віцэ-губернатара: «Проснулся ночью и подумал: «Чем теперь занимается Россия? — Во-р-у-ет». Гэта тады. А як крадуць цяпер, «от Кремля до самых до окраин»?

Правы быў Г. В. Пляханаў: «Толковать об организации социалистического общества в нынешней России — значит вдаваться в несомненную и притом крайне вредную утопию».

Утапісты і эксперыментатары загубілі такую багатую краіну, разбэсцілі, разлажылі, ababралі, «остервянили» таленавіты і некалі сумленны і добры народ. «В государстве, рожденном великой революцией, вдохновлявшемся самыми передовыми (утапічнымі) идеями, сумел захватить власть человек с психологией пахана бандитской шайки» — О. Лацис! Пахана няма, а шайка дзейнічае.

*14.VIII.91 г.*

Перадапошні дзень у Ісłачы. Вязу дадому некалькі вершаў, але яны мяне мала радуюць. Пісаў для падтрымання формы. Знаходак няма. Публіцыстыка, зарыфмованая ў пэўных памерах. Яна ўздзейнічае на свядомасць, а не на пачуцці. А паэзія звернута да душы, да пачуццяў, да ўздзеяння на эмоцыі.

*26.IX.93 г.*

Ух! Дзякаваць Богу прайшоў мой юбілей без вечара ў Саюзе, але ў бібліятэцы не паслухаліся і ўсё ж зрабілі выстаўку кніг, недзе знайшлі адзіны здымак з пісьменнікамі на латвійскім рыбацкім судне ў 1989 г. Нечаканае мноства тэлеграм, лістоў, паштовак ад Саўміна, міністраў замежных спраў, інфармацыі, культуры, а сёння да мяне награнуў сам міністр Вайтовіч з памочнікам, з кветкамі і «матэрыяльнай дапамогай»! Дажыліся пісьменнікі, што ім на хлеб часам даюць падаянне. Нечакана прыйшлі два прадстаўнікі Федэрацыі прафсаюзаў з адрасам, вазаю і кветкамі, рэдактар бабруйскай газеты Дземідовіч прынёс бабруйскі сувенір і сваё пітво (0,5 л). Пасядзелі, выпілі па чарцы. Тэлеграм, лістоў, званкоў безліч. Толькі што пазваніў Ніл Гілевіч, супакоіў і суцешыў мяне, а я думаў, ці не накляпаў яму чаго які-небудзь паклёпнік, што ад яго нічога няма. Аж, аказваецца, ён ад Вярхоўнага Савета на Саюз паслаў мне тэлеграму, а пра яе мне нават ніхто і не пазваніў. Такі Саюз, такія работнікі. Яго званок зняў нейкі цяжар з душы, а добрае слова пра маю лімаўскую падборку супала з пахвалою Віткі, Русецкага, Панчанкі, Васілевіч, Вярцінскага. Прыемна, вядома, было б яшчэ прыемней, каб не мае хатнія акалічнасці.

Дзякаваць Богу: «Вот и кончен сабантуй, на душе томление». І «томление» будзе да скону дзён.

*2.X.93 г.*

Пасля спякотнага лета пачаліся раннія халады. У кватэрах 17 градусаў, на вуліцы — 8. Паліць не збіраюцца, кажуць — да лістапада. А я па ўласцівай, відаць, толькі мне дурасці ўжо заплаціў за кватэру з ацяпленнем.

Адкладзеная сустрэча з Сяднёвым[26] адбылася ў той панядзелак, 28 верасня. Ён з Сачанкам[27] прыйшлі ў Дом афіцэраў на сустрэчу з выкладчыкамі беларускай мовы ў войску. Я прыйшоў, каб толькі пабачыцца праз 56 гадоў з Масеем. На ганку чакаў мяне Хомчанка[28]. У фае сядзелі Сяднёў і Л. Савік. Мы адразу пазналі адзін аднаго, хоць і не бачыліся больш за паўвека. Абняліся. Ён такі ж невысокі, вастраносенькі і зіркаты з глыбокіх вачніц. Прыбег маёр прасіць прабачыць за затрымку. Аказваецца, перад курсантамі выступалі міністр абароны Казлоўскі і Гілевіч, размова зацягнулася. Пасля іх выступлення пазнаёміліся ў службовым пакоі з міністрам. Ён і выступаў (па пісаным) і гаварыў няблага па-беларуску. […]

Пасля паехалі на метро Сяднёў, Хомчанка і я да мяне. Выпілі па чарцы, закусілі паляндвічкай з Мікалаеўшчыны і вугром з Нарачы, пілі каву з Валіным смачным тортам. Гаварылі, успаміналі, перабіваючы адзін аднаго. Масей расказваў пра свае вандраванні ў часе вайны, вырваўшыся з Мінскай турмы і з-пад расстрэлу за Чэрвенем, пра тулянне па Нямеччыне, працу на металургічным заводзе ў Амерыцы, потым у Мюнхене на беларускай «Свабодзе» і зноў вяртанне ў ЗША, пра сваю трайную пенсію. Расказаў пра пакуты паралізаванага Сядуры[29], успомніў, што ў Мюнхене бываў у Ліны (Галіны Аляксандраўны Гаммер-Скрыган) і бачыў у яе маю кніжку «Памяць».

Падарыў я яму некалькі сваіх кніг. Праводзілі з Хомчанкам у «Царскае Сяло» да Сачанкі і развіталіся.

*29.IX.93 г.*

Учора нарэшце скончыліся мае юбілейныя клопаты: апошні — сустрэча ў Музеі літаратуры ў Траецкім прадмесці. Прыйшлі Макаль, Аўрамчык, Панізнік, студэнты майго педінстытута (цяпер ужо універсітэта), мой паклоннік Уладзімір Прышчэпаў з ружамі, Ігар Рыдзеўскі, абавязковая Мая Кляшторная, Коля Пігулеўскі. Малайцы, музейшчыкі, у першую чаргу Міхась Іванавіч Пратасевіч, што ў даволі вялікім пакоі зрабілі маю выстаўку — кніжкі, рукапісы, здымкі і малюнкі. Нават знайшлі «Беларускі піянер» за 1926 год з маім першым піянерскім вершам. Аляксей Рагуля сказаў пахвальнае (як на ўсіх юбілеях) слова, студэнткі так-сяк чыталі мае вершы, Макаль прысвяціў

невялічкі верш, эмацыянальна і гаварыў, і чытаў даўняе мне прысвячэнне Коля Аўрамчык, выступіў Сяргей Панізнік.

Узяла інтэрв'ю мілая жанчына з тэлебачання пра мае малюначкі, а гарадское радыё — пра сённяшні час. Выступіў і падарыў вялізны Коласаўскі альбом Даніла Міцкевіч (сын Коласа). Так і закончыў я сваё васьмідзесяцігоддзе.

*22.V.94 г.*

Учора быў на чарговым Коласаўскім свяце паэзіі ў Смольні і Мікалаеўшчыне. Там тры дні ішоў міжрэспубліканскі фестываль (Расія, Украіна, раёны Беларусі) дзіцячай самадзейнасці — музыкі, танцоры, спевакі.

Мы з Данілам на хаце ў Смольні, дзе ўпершыню ў 1912 годзе (26 чэрвеня) Купала наведаў Коласа, адкрылі памятную дошку (скульптар Л. М. Гумілеўскі). Але ўвесь дзень церусіў дождж. Бедныя дзеці ў макрэчу спявалі, скакалі, ігралі духавыя аркестры. Выступалі Багатыроў, Вольскі і я. Перакусілі з тостамі. А навукоўцаў, якія на Коласе зарабілі высокія званні і стаўкі, не было ніводнага. Такія яны прыхільнікі Коласавай творчасці. У Мікалаеўшчыне да бюста Коласа ўсклалі кветкі, ігралі аркестры, але дзіўная рэч: ніводзін з вяскоўцаў Мікалаеўшчыны нават і блізка не паказаўся — ні настаўнікаў, ні вучняў.

*24.XI.95 г.*

26 лістапада быў на абедзе ў сына Якуба Коласа Данілы Канстанцінавіча. Яны з братам Міхасём маюць асабняк на дзве палавіны і на два паверхі ў кожнага. Даніла апошнім часам абязножаў — па пакоі тупае з кійком. Для мяне гонар такія запросіны. Апрача мяне быў Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі з сімпатычнаю жонкаю. Нічога шыкоўнага ў кватэры няма — састарэлая мэбля, сціплы абед, але затое доўгая і шчырая гаворка аж на чатыры гадзіны. Зайшоў і малодшы Міхась — прафесар і доктар дакладных навук. Ён для сябе і знаёмых піша трапныя і вострыя эпіграмы і наогул вельмі цікавы, разумны і далікатны. А я яго памятаю шасцігадовым хлопчыкам: стаяў ён з бацькам каля колішняга (1933) кінатэатра «Пралетар» і радаваўся новай шапачцы. Божа мой, колькі ж часу прайшло, а я яшчэ жывы.

*16.III.96 г.*

У № 2 «Полымя» надрукаваны мае «Дзяды і Радаўніцы». Хто чытаў, дзякуюць. Учора па тэлефоне расхваліў сын Коласа Даніла. А ён, слаўны чалавек, цяжка і невылечна хворы.

*28.III.96 г.*

Быў запрошаны на адкрыццё (прэзентацыю. Чый каму прэзент?) выстаўкі жывапісу майго земляка з Глуска Славы Захарынскага. Ён, бясспрэчна, таленавіты мастак з уласным мысленнем і бачаннем. Псіхалагічнае ўродства грамадства ён пераводзіць у фізіялагічную анамалію. Уражвае серыя «Пацукі», «Дамы». Тэхніка вельмі высокая. Карціны бударажаць, а не супакойваюць, не радуюць чысцінёй і прыгажосцю. На адкрыцці імянітых гасцей сустракаў высокі, прыгожы, выхаваны, у чорным аксамітным гарнітуры аўтар.

А вядомых было шмат — цяперашні міністр замежных спраў Сянько, разумны і сімпатычны чалавек. З ім я шчыра і адкрыта перамовіўся. Былі міністр Краўчанка, новы культуртрэгер Сасноўскі, вядомыя мастакі, пісьменнікі (няшмат) і галоўнае — нашы глушчане. Першы Славаў настаўнік Булгакаў, Юра Сямёнаў з жонкаю. Яна мне шмат прыемнага сказала пра мае творы. Пазнаёміўся з кардыёлагам Барысам Туміловічам. Я адразу пацікавіўся, ці не з «Ёршыкаў» (глуская мянушка) ён? Барыс зарагатаў. А гэта як наш глускі пароль. Сандамірскі[30] быў з усёю сям'ёй. Усіх хлопчыкі ў смокінгах частавалі шампанскім і чырвоным віном. Фінансавала нейкая фірма. Потым яе кіраўнік падышоў да мяне, на добрай беларускай мове многа прыемнага сказаў — у яго бацькі захоўваецца мая кніга з аўтографам. Шкада, што не было кнігі водгукаў, а я не сабраўся па тэлефоне падзякаваць Славу.

*1.IX.96 г.*

Прыехалі мае глушчане — сын Сандамірскага Глеб і Фуксона-Анатоль. Якія слаўныя людзі растуць. [...]

Глускай бібліятэцы я зноў перадаў больш за 200 кніг. Ужо сёння званіў і дзякаваў Сандамірскі. Абяцаў у канцы тыдня заехаць сам. А сёння, толькі што, забралі ў музей-архіў літаратуры папак 20 рукапісаў, лістоў, перакладаў, каля 400 здымкаў, лагерныя вершы і копіі даведак аб рэабілітацыі. Відаць, мой фонд там самы большы. Адных кніг з аўтографамі я ім здаў 587. Глускай бібліятэцы адправіў больш за тысячу кніжак з маіх паліцаў і больш за 50 сваіх.

Навошта я гэта раблю? [...]

Чаму спяшаюся? Смерць выкасіла ўсіх сяброў. Учора яшчэ забрала на 20 гадоў маладзейшага і таленавіцейшага за мяне Макаля. Як шкада, якая страта таленавітага і сумленнага паэта.

# *Лісты*

## 1. СЦЯПАНУ ЛІХАДЗІЕЎСКАМУ

*6 студзеня 1959 г., Мінск*

Дарагі Сцяпан!

Дзякую, што ўспомніў мяне і прыслаў Мірцеміра[1]. Спадзяюся неўзабаве атрымаць і тваю кнігу. Яна, дарэчы, ёсць у плане рэдакцыйнай падрыхтоўкі і павінна выйсці ў 1960 годзе. На гэты час і я планую сваю новую кніжку. Добрая частка яе ўжо напісана. Сёлета павінна выйсці кніжачка для дзяцей, але здачу яе ў набор затрымліваюць лайдакі-мастакі. Як толькі выскачыць, табе прышлю абавязкова.

У апошні час рыхтаваў кнігу аповесцяў і апавяданняў нашага друга Барыса Мікуліча, засталося напісаць невялікую прадмову да яе і дапамагчы сёстрам утрэсці ўсе справы з выдавецтвам. Але нашы рэдактары і рэцэнзенты многае знялі з непублікаваных рэчаў, таму прыйшлося ўключыць «Дужасць» і тое-сёе з апавяданняў. Масква ў [1960] годзе збіраецца выдаваць яго толькі неапублікаваныя рэчы. Некаму будзе сорамна.

Як жыву я? Як гарох пры дарозе. Да гэтага часу пакутую ў адным пакоі і цешу сябе абяцанкамі. Таму пішу мала. Удаецца толькі тое-сёе зрабіць у дамах творчасці: у кастрычніку ў Ялце напісаў нізку вершаў. З’явяцца яны, мабыць, у лютаўскіх нумарах «Полымя» і «Беларусі», а днямі еду ў Каралішчавічы з надзеяю нешта напісаць. К вясне на месяц збіраюся на будаўніцтва Полацкага нафтаперагоннага завода. Думаю ўключыцца ў брыгаду, пажыць, папрацаваць з рабочымі. У лютым будзе ў нас з’езд. Можа, прыедзеш? Пра ўсё астатняе табе, мабыць, піша Стах[2].

Жадаю табе, браце, у гэтым годзе, які так цудоўна пачаўся, шчасця і здароўя, радасці, вялікіх творчых поспехаў. Моцна абдымаю.

*Сяргей.*

## 2. СЦЯПАНУ ЛІХАДЗІЕЎСКАМУ

*21 верасня 1962 г.,*
*Мінск*

Дарагі дружа!

Рады, што ты, нарэшце, пераканаўся ў маёй добразычлівасці. Ці яшчэ сумняваешся? Няўжо я калі-небудзь даваў падставы думаць інакш? Наогул пра гэта больш гаварыць не варта, мы ж не гімназісткі, якія чакаюць «объяснений в любви» або надзімаюць губкі па кожнаму поваду.

Я тваю кніжку чакаю, як і ты, з нецярплівасцю і сустрэну з вялікай радасцю. Трэба будзе крышку разварушыць нашых крытычных цюленяў, бо яны часам умеюць таго-сяго наогул не заўважаць. Асабліва ў апошні час: праходзяць дзесяткі кніжак, пра якія ў друку не з'яўляецца ні слова. А гэта самае страшнае. Хай лепш лаюць, абураюцца — толькі не маўчаць.

Наогул у нас пануе нейкая абураючая абыякавасць да ўсяго літаратурнага працэсу — у кожным артыкуле нейкая коўзкая абцякаемасць, жвачка і ацэнкі па рангах. Я ўяўляю, каб на нейкі час вершы друкаваліся ананімна. Як бы многае перавярнулася! У кожным разе чытач не быў бы дэзарыентаваны так, як часам бывае ў нас. А калі б сказалі, што за вершы і раманы не будуць плаціць, колькі б зберагліі паперы! Засталіся б у літаратуры толькі тыя, што сапраўды не могуць не пісаць. А іх не так многа. Не падумай, што гэта прадыктавана нейкімі асабістымі крыўдамі. Не, пакуль што мяне ніхто не крыўдзіць, а крыўдна робіцца, што вельмі часта ў нас бывае такая непатрабавальнасць, столькі мякіны мы падсоўваем чытачу, а пасля дзівімся, чаму нашу прадукцыю (іменна прадукцыю) не купляюць, не чытаюць, не шануюць.

Можа, таму, што я шаную чытача, у апошні час пішу мала. За лета амаль нічога не зрабіў. Месяц праездзіў па Далёкім Усходзе, многае пабачыў і пакуль што не напісаў ні радка. Хочацца гаварыць пра адчутае і перажытае лепш, чым я ўмею, свяжэй, мацней, усхваляваней, а яно не выходзіць так, як хочацца.

Некалькі дзён правёў на радзіме Коласа, паблукаў па цудоўных мясцінах Наднямоння, а ўчора толькі вярнуўся з Полацкага нафтабуда. Так, можна сказаць, лета пратоўк, а цяпер, мабыць, пара і за работу брацца. Скажу табе па сакрэту — напісаў два апавяданніцы, збіраюся яшчэ тое-сёе зрабіць у прозе, магчыма, нават адважуся на невялічкую аповесць. Пакажа будучае, што з гэтага будзе. Можа, толькі пшык.

У наступным годзе павінна выйсці кніжка маіх вершаў. Хочацца яе паднавіць, асвяжыць, але ўсё, што пішу, мала радуе і задавальняе самога.

Вось так, браце, і жыву. А ў Мінску ты, вядома, будзеш. Праўда?

Жадаю табе самага бліскучага доктарства, цудоўных вершаў і душэўнай маладосці. А на маё ныццё не зважай. Усё залежыць ад настрою.

Прывітанне і найлепшыя пажаданні тваёй сям'і.

Моцна абдымаю. Дык пабачымся?!

*Сяргей.*

## 3. ЗАГАДЧЫКУ АДДЗЕЛА САЦЫЯЛЬНАГА ЗАБЕСПЯЧЭННЯ ГОМЕЛЬСКАГА АБЛАСНОГА САВЕТА ДЭПУТАТАЎ ПРАЦОЎНЫХ ТАВ. НОВІКАВАЙ Л. Н.

*[1962—1966]*

Паважаная Лідзія Нікіфараўна!

У гарадскім пасёлку Акцябрскі Светлагорскага раёна я сустрэўся з чалавекам вельмі цяжкага лёсу. Завуць яго Міхаіл Лаўрэнцьевіч Курчыцкі. З 1929 года і да пачатку Айчыннай вайны ён працаваў у калгасе кавалём (вёска Кашэвічы Капаткевіцкага раёна). У часе вайны рамантаваў зброю, каваў коней для партызанскіх атрадаў, якімі камандавалі тт. Бар'яш і Дулейчык. У 1944 годзе т. Курчыцкі трапіў у фашысцкі палон. Быў вязнем лагера смерці Маўтхаўзена і Асвенціма, цудам выратаваўся з крэматорыя і быў вызвалены 9 мая 1945 года. На целе Курчыцкага пра гэта сведчыць лагерны № 188710.

Пасля вызвалення працаваў кавалём на Уральскім алюмініевым заводзе, з 1949 года — у калгасе імя Будзённага, былога Акцябрскага раёна, потым працаваў у райпрамкамбінаце, быў вартаўніком, конюхам міжкалгасбуда. Пасля хваробы працуе

ў Акцябрскай участковай бальніцы. Цяпер яму 61 год, але вымушаны працаваць, нягледзячы на падарванае здароўе, бо яму вызначана пенсія толькі ў размеры 10 рублёў 8 капеек на месяц. Яе не хапае нават на хлеб аднаму чалавеку, а ў т. Курчыцкага ёсць сям'я.

Можа, пры афармленні пенсіі не хапала некаторых дакументаў, бо малапісьменнаму чалавеку іх цяжка сабраць, а той, хто вызначаў пенсію, падышоў фармальна.

Я лічу, што да такога пакутніка трэба адносіцца больш чула, дапамагчы яму адпаведным чынам аформіць неабходныя дакументы, а тых, якіх не хапае, запрасіць ад імя раённага аддзела сацыяльнага забеспячэння і хоць бы мінімальна забяспечыць яго старасць.

Звяртаюся да Вас з вялікай просьбай і спадзяваннем на Вашу чуласць і прашу даручыць сваім работнікам разабрацца ў справе М. Л. Курчыцкага, каб за яго працу, за вялікія пакуты забяспечыць яму спакойную старасць.

Адрас Міхаіла Лаўрэнцьевіча Курчыцкага: г/п Акцябрскі Светлагорскага р-на, вул. Дзяржынскага, 28.

З глыбокаю павагаю і ўдзячнасцю

член Саюза пісьменнікаў СССР.

Буду ўдзячны, калі паведаміце мне аб выніках па адрасу: г. Мінск, 5, вул. Красная, 22, кв. 133, Сяргею Іванавічу Грахоўскаму.

## 4. ЯКАВУ ДРАЙЧУКУ[1]

*16 верасня 1966 г.,*
*Мінск*

Дорогой Яков Иванович!

Необычная бандероль и письмо растрогали меня до глубины души. Сожалею и извиняюсь, что не смог сразу ответить: только вчера возвратился из длительной поездки на озеро Нарочь.

Думаю, что Ваша щедрость и внимание к землякам давно приобрели общественный характер. Мне хочется выступить в газете «Літаратура і мастацтва» и не только рассказать о Вашей заботе о родном селе, но и напомнить друзьям-писателям, художникам и композиторам, что у каждого есть родная Ржавка, и как можно много сделать для нее по Вашему примеру.

Я обещаю Вам, что буду посылать все свои новые книги Вам и Вашей библиотеке. Только что вышел мой сборник рассказов, в Москве, в издательстве «Советский писатель», выходит книга стихотворений в переводах на русский язык, издается сборник стихотворений для детей и в переводе на русский язык выходит наша коллективная книга «Мы расскажем о Минске». Все это с автографами я пошлю в колхоз «Савецкая Беларусь».

Низко кланяюсь Вам и Зинаиде Васильевне!

Желаю Вам бодрости и счастья на радость людям.

Крепко жму Вашу руку!

*Сергей Граховский.*

*P. S.* Будете в Минске, прошу ко мне. Телефон 3-20-49.

## 5. МІХАЛУ ЗАБЭЙДУ-СУМІЦКАМУ

*11 кастрычніка 1967 г., Мінск*

Дарагі Міхал Іванавіч!

Адразу ж, прыехаўшы дахаты, паслаў Вам сумбурны ліст, праз пару дзён адправіў заказной поштай кнігу «Пра час і пра сябе», некалькі апошніх нумароў «Літаратуры і мастацтва» і два «Кругозора». Ці атрымалі? А ўчора аддрукаваў свае пражскія здымкі. Шкада, што не было пад рукамі паперы большага фармату. Але я да іх яшчэ вярнуся і аддрукую лепш. Пакуль што пасылаю тое, што ёсць. Не вельмі дакарайце за якасць. Аматар!

У нядзелю 15 кастрычніка ў 13 гадзін 30 хвілін па маскоўскаму часу беларускае радыё па першай праграме будзе перадаваць перадачу-канцэрт «У гасцях у Забэйды-Суміцкага». Рыхтавала яе аспірантка Бут… далей прозвішча не запомніў. Работнікі музычнай рэдакцыі мне абяцалі паведаміць Вам тэлеграмай. Адначасова прасілі падрыхтаваць наступную перадачу пра Вас. Я згадзіўся і пастараюся зрабіць у бліжэйшы час.

Вельмі зацікавіліся рэдакцыі Вашымі ўспамінамі. Думаю, што Вам варта было б іх крышачку асвяжыць нейкімі цікавымі дэталямі, каб «дрэва загаманіла жывымі лістамі». У Вас, пэўна, папросяць аўтарскі экземпляр, каб не спасылацца і не перадрукоўваць з «Белавежы». Так што майце на ўвазе, каб такая прапанова не была неспадзеўкаю.

Мару пра сустрэчу з Вамі ў Мінску. У Вас столькі прыхільнікаў і паклоннікаў!

Прабачце за інфармацыйна-сухі тон ліста. Пішу ў рэдакцыі, бо хачу хутчэй адаслаць здымкі і праграму.

Спадзяюся, што ў маіх самых лепшых пачуццях не сумняваецеся.

Моцна Вас абдымаю!

*Сяргей Грахоўскі.*

## 6. МІХАЛУ ЗАБЭЙДУ-СУМІЦКАМУ

*13 сакавіка 1968 г.,*
*Мінск*

Дарагі Міхал Іванавіч!

Я вельмі чакаў Ваш апошні ліст, а яму давялося чакаць мяне. У апошнія дні лютага наведаў старажытны Ноўгарад, агледзеў цудоўныя саборы і манастыры, вельмі цікавы музей, на тры дні затрымаўся ў Ленінградзе, зноў захапляўся скарбамі Рускага музея, Нявою, мастамі, праспектамі і самою атмасфераю гэтага дзівоснага горада.

Надзвычай мяне ўзрадавала, што Вам спадабалася мая перадача. Можа, у ёй што і не так, але ўсё сказана ад шчырага сэрца, з вялікім захапленнем і любоўю да Вас і Вашых песень. Прыемна і тое, што яна кранула душы многіх людзей, яны пішуць мне: «Вельмі шкада, што нам рэдка даводзіцца слухаць такі цудоўны голас. Вось каб Забэйда-Суміцкі быў у нас у Мінску, тады б часцей мелі такую вялікую асалоду. Сяргей Іванавіч, запрашайце, калі ласка, яго да нас у Мінск, мы б з вялікаю радасцю слухалі яго песні».

А вось другое пісьмо: «...Вы нас порадовали дивным, незабываемым тенором Забейды-Сумицкого. По окончании этого чудесного пения еще долго-долго звучал его прекрасный голос. Этот вечер для нас был праздником и хотелось бы слушать его бесконечно.

Просим почаще передавать по радио его песни, а еще лучше, чтобы он, Забейда-Сумицкий, жил у нас в Минске. Как много бы он дал молодежи, искусству, народу. Приглашайте его к нам».

Пад першым і другім пісьмом — дзесяткі подпісаў. Бачыце, як ставіцца пытанне? Што Вы на яго адкажаце?

Цяпер у Празе Рыгор Раманавіч[1]. Вы, напэўна, бачыліся і гаварылі з ім. Спадзяюся, ён мне раскажа пра Вашы сустрэчы і пра Вашы адносіны да пытанняў, пастаўленых слухачамі і

прыхільнікамі. Гэтае пытанне ставяць не толькі яны, і Вам варта яго неяк вырашыць.

«Ніву» я выпісваю і ўважліва чытаю. Чытаў і гэтую заметку.

Пра свае справы асабліва няма чым хваліцца. Цягнуць мяне жывасілам у драматургі. Паглядзім, што з гэтага выйдзе. А нядаўна на мяне ўзвалілі яшчэ адну нагрузку — старшыня секцыі паэзіі (ужо другі раз). От і круціся. А калі ж пісаць? У нас ужо адчуваецца вясна, але я яшчэ не саступаю з лыжных пазіцый.

Усе, хто ведае і любіць Вас, шлюць самыя шчырыя пажаданні і найлепшыя пачуцці. Мая сям'я нізка кланяецца Вам, а я моцна абдымаю.

*Ваш Сяргей.*

*P. S.* Выразку з «Нівы» вяртаю. Пішыце. Заўсёды чакаю Вашых лістоў.

## 7. МІХАЛУ ЗАБЭЙДУ-СУМІЦКАМУ

*28 верасня 1970 г.,*
*Мінск*

Дарагі Міхась Іванавіч!

І я ўжо дабіраюся да ўзросту, калі ўсё часцей і часцей на памяць прыходзяць сумныя думкі і філасофскія ісціны «о бренности бытия». Але трэба жыць і думаць пра жыццё, радавацца кожнаму світанню, зорнаму небу і песні, якая заўсёды з Вамі. Учора мы з Гілевічам не адзін раз успаміналі Вас у кансерваторыі, слухаючы сімфанічны канцэрт. Першаю выконвалася араторыя «Мая Радзіма» маладога нашага кампазітара Дзмітрыя Смольскага. Іграў вялікі сімфанічны аркестр, удзельнічалі салісты (тэнар і бас), чытальнік і змешаны хор. Твор, на нашу недасведчаную думку, вельмі каларытны, эмацыянальны, смелы па музычным вырашэнні вельмі важнай патрыятычнай тэмы — Радзімы. Прымалі яго вельмі горача, хоць і слабавата гучалі салісты. Прыемна, што ў араторыі былі скарыстаны і мае вершы.

На канцэрце сустрэўся з Рыгорам Раманавічам, зноў загаварылі пра Вас, пра Вашы песні, Вашу дабрату і шчырасць. Прасіў кланяцца Вам і абяцаў у бліжэйшы час напісаць. Ён надта ж закруціўся ў розных справах, на пасяджэннях і ў камісіях. Смуткуе, што прыходзіцца развітацца з самым дарагім і любым дзіцём — капэлай.

Там жа перадаў Алене Васілевіч Ваша добрае слова пра яе аповесць[1]. Яна аж пачырванела ад задавальнення і прасіла шчыра падзякаваць Вам і пажадаць самага вялікага шчасця. А для мастака найвялікшае шчасце — яго мастацтва.

У нас ужо настала даволі змрочная і халодная пара. Лье дождж, дзьме сіверны вецер, пахмура і не вельмі ўтульна. А верасень быў сонечны, цёплы і зялёны, і неяк раптоўна захаладала. Але восень, можа, пасадзіць, нарэшце, мяне, гультая, за стол, бо ўсё лета пралайдакаваў, праездзіў. І, мабыць, самае незабыўнае — Кіжы.

Што тэта такое? — пытаецеся Вы. У амаль казачнай азёрнай Карэліі, недзе пасярэдзіне агромністага Анежскага возера ёсць прыгожы востраў. На ім здавён было сяло Кіжы (у перакладзе — Ігрышча), забудаванае драўлянымі дамамі дзівоснай прыгажосці і нябачанай архітэктуры, драўляныя цэрквы, капліцы і саборы. Зроблены яны сякераю, без адзінага цвіка. Слупянееш перад гэтым цудам, перад непаўторным мастацтвам простага народа. Цяпер — гэта месца паломніцтва ўсіх аматараў прыгажосці. Відовішча гэта непаўторнае. Вось Вам паштовачка. Можа, яна дасць Вам хоць далёкае ўяўленне пра гэты непаўторны куток.

Не так даўно выйшла з друку мая новая кніжка. Днямі вышлю яе Вам.

Кастрычнік, мабыць, правяду ў Доме творчасці. Пара брацца за работу.

Вось, бадай, і ўсё.

Шчасця, бадзёрасці і новых натхнёных песень Вам, дарагі дружа.

Моцна вас абдымаю!

*Ваш Сяргей.*

## 8. МІКАЛАЮ СІДАРЭНКУ[1]

*3 сакавіка 1971 г.,*
*Мінск*

Дорогой Николай Николаевич!

Простите, что пишу с некоторым опозданием, — был в Киеве на праздновании юбилея Леси Украинки. Немного устал от дорог и впечатлений.

По приезде сразу же прочел Ваше заключение и отзывы обоих рецензентов. Даже если бы они были анонимные, не трудно было бы безошибочно узнать их авторов. Заключение написано с должной требовательностью и пониманием особенностей «не весьма громкой поэзии», по определению т. Соловьева, проникновением в суть замыслов и чувств автора, который так боится барабанной громкости.

В рецензиях удивляет диаметрально противоположная оценка одних и тех же стихотворений. Д. Осин[2] к числу удач причисляет «Патухне сонца толькі для мяне», «Райбальніца», «Многа помнім» и др. Именно эти стихотворения Гр. Соловьев считает «слабее других». Все его оценки и рассуждения напоминают песочные часы, которые все время перевертываются противоположными сторонами: то его покровительственная снисходительность прощает «ординарность и обыденность», то в следующей строке он утверждает, что «автор умеет неновый сюжет оживить своею собственной поэтической интонацией, своими индивидуальными и художественными красками». Убежден, что каждый поэт стремится в самом обыденном увидеть крупицу поэзии и открыть ее людям. В этом, видимо, секрет поэзии, а не повод для упреков. Между нами. Кто такой Гр. Соловьев? Тщетно искал его имя в «Справочнике Союза писателей». Хотелось бы поучиться (хоть бы на старости лет) на его «громких» поэтических откровениях или на глубоких критических исследованиях. Хотя он рецензирует уже вторую мою книгу, но так и остается для меня только «закрытым рецензентом». Неужели в Москве перевелись поэты, чье слово для автора было бы полезным, нужным и авторитетным советом? Это так, между прочим. Теперь по сути ваших предложений. Знаю, что издательство большинство поэтов без званий и номенклатурных чинов старается втиснуть в два листа. Два так два! Ничего не попишешь! Согласен на два. Но из Вашего списка изъятий хотелось бы отстоять «Званы» и «На сибирском тракте». Не знаю Ваших мотивов против них, а Дм. Дмитриевич Осин пытался найти в «Званах» символический

подтекст, обобщение. А я и не ставил себе такую задачу. Звонарь первым ударил в набат, когда загрохотала война, и первым погиб на старенькой разбитой колокольне, естественно, по нем никто уже не мог позвонить. Следует ли объяснять общеизвестное, что на призыв набата поднялся народ, чтобы сопротивляться и побеждать?

Картинка «На сибирском тракте» особенно дорога мне своей суровой жизненной правдой и интернационализмом двух последних строк.

Вот такие мои замечания, просьбы и пожелания. Если книга попадет в план выпуска (72 или хотя бы 73 года — года моего пенсионного совершеннолетия), буду благодарен Вам, Валентине Михайловне Карповой и Николаю Васильевичу Лесничевскому, обещавшим мне всяческую поддержку.

При редактировании книги можно будет что-то заменить новыми стихотворениями, что-то исправить.

Это письмо сугубо частное. Если нужно официальное согласие на два листа, пришлю его в издательство.

9 марта с группой белорусских писателей дней на 10 еду на Урал. Пока еще есть силы, хочется больше увидеть и узнать.

Желаю Вам, дорогой Николай Николаевич, благополучия и больших творческих радостей, счастья, удач и успехов Вашей семье.

*Ваш С. Граховский.*

## 9. МІХАЛУ ЗАБЭЙДУ-СУМІЦКАМУ

*15 ліпеня 1972 г.,*
*Мінск*

Дарагі Міхась Іванавіч!

Зноў я пазнюся, вінюся і каюся. Гарачае тлумнае лета зусім закруціла мяне. Увесь чэрвень праездзіў па Алтайскім краі Сібіры. Там праходзілі дні літаратуры, прысвечаныя 50-годдзю СССР. Прыехала 70 пісьменнікаў з усіх рэспублік. Былі надзвычай цікавыя паездкі, сустрэчы, знаёмствы, ночы на беразе Обі пры святле зыркага вогнішча і дарогі, дарогі — тысячы кіламетраў. Ураженняў вельмі многа. А прыехаў і адразу навалілася гара работы: перад здачай у друк даводзіў да ладу свой двухтомнік выбраных твораў. Трэба было вычытаць, выправіць каля 1000 старонак.

А 5 ліпеня ўжо сустракалі гасцей на Купалаў юбілей. Прыехала шмат прадстаўнікоў братніх літаратур. 7-га адкрылі помнік нашаму вялікаму Янку, і помнік, і ўсё афармленне надта выдатна зроблена. Увесь пастамент (а Купала стаіць на кургане, з яго бруіцца крынічка на папараць-кветку) патанаў у ружах, васільках, рамонках і папараці. Усё кранала да слёз. Цяпер да помніка не спыняецца паток людзей. А як цудоўна зроблены фантан: дзве прыгажуні, чыстыя і цнатлівыя, пускаюць па вадзе купальскія вяночкі, і яны плывуць, плывуць. Увесь парк стаў Купалаўскі. Гэта — наша слава, наша гордасць.

А 21 ліпеня з групай паэтаў еду ў Ленінград на Купалаўскія вечары. Вярнуся і праз пяць дзён — зноў у дарогу, зноў у Сібір, але далей, аж у Краснаярскі край, па Енісеі да Нарыльска і Дудзінкі. Вырашыў гэтае лета правандраваць. Пакуль носяць ногі, трэба ездзіць, лятаць, хадзіць, а калі прыстануць, прыйдзецца пасядзець. Але лепш «на хаду ўпасці».

Вось, дарагі дружа, якія мае навіны і планы на бліжэйшы час. Пастараюся прыслаць Вам здымкі Купалаўскага комплексу і цікавую кніжку «Зорка Венера». Гэта зборнік вершаў на вечную тэму кахання. І складзены, і выдадзены ён добра.

А што новага і добрага ў Вас? Як самаадчуванне і настрой? Як жывецца і пяецца?

Няхай Ваша песня радуе і хвалюе людскія сэрцы.

Моцна Вас абдымаю, дарагі дружа!

*Ваш Сяргей.*

*P. S.* Калі трапіцца пабачыць майго цёзку, скажыце, што я памятаю яго просьбу і, як толькі «прышвартуюся» да свайго берага, пастараюся яе выканаць.

## 10. МІКОЛУ ЛОБАНУ

*18 кастрычніка 1977 г.,*
*Мінск*

Дарагі Мікола Паўлавіч!

Хацелася проста напісаць «Дарагі Коля!», але трымаюся зададзенага табою тону. Не пашкодзіць і Паўлавіч.

Твой ліст вельмі ўзрадаваў мяне. У наш тэлефонны век мы пазбаўляем сябе радасці прыемных і грунтоўных кантактаў. Ніякая размова праз «Алё!» не дасць таго, што самы кароткі ліст.

А будучых даследчыкаў нашы тэмпы пазбаўляюць эпісталярнага жанру Што яны, бедныя, будуць рабіць?

Усё гэта так, між іншым.

Вядома, зайздрошчу я табе. Добра ў такую пару пагрэцца і папялёскацца ў цёплым моры. А ў нас то дождж, то прымаразкі. Праўда, сёння сонечны і ласкавы дзень бабінага лета. Пытаешся пра навіны ў Мінску? Дык слухай: 14 кастрычніка Саюз наладзіў культпаход у Рускі тэатр на спектакль «Возвращение в Хатынь». Гэта трэба ўмець — дзве гадзіны гавораць пра людскія пакуты, а ні ў кога не ўздрыгануўся ніводзін мускул на твары, ніхто не ўздыхнуў. Так забіваюць так званымі навацыямі мастацтва. Была на спектаклі і твая Браніслава Леапольдаўна (з маладым і прыгожым кавалерам). Добра, што спектакль ідзе без антракту, бо ў зале б, апрача актораў, нікога б не засталося. Можа, я традыцыяналіст, нічога не разумею ў мастацтве. Але ж глядзеў фільм «Белы Бім чорнае вуха» і тры гадзіны не высыхалі слёзы.

Што яшчэ?

Учора быў урачысты пленум усіх творчых саюзаў. Чыгрынаў[1] далажыў пра здабыткі літаратуры ад Шамякіна да Быкава. У пераліку трох імён не хапала (сціпласць не дазволіла) аўтара «Апраўдання крыві». Да «Глыбокай плыні»[2] нічога не было ў літаратуры і няма. У такім жа плане былі і астатнія даклады. Выключэнне — Семяняка[3] пра беларускую музыку гаварыў грунтоўна, заклікаў ствараць творы нацыянальнага гучання.

Вось, бадай, і ўсе нашы навіны. Нідзе не бываю, не сустракаю нікога і нічога не раблю. Апатыя заела, веру страціў у свае магчымасці, а пісаць на ўзроўні Гамолкі[4] сорамна. Вось і пакутую.

Як працуецца табе пад абхазскім небам?

А яно там празрыстае і ласкавае.

Пішы, дарагі дружа!

Моцна абдымаю!

*Твой Сяргей.*

*P. S.* Не палохайся — кавалерам тым быў твой унук Дзяніс.

Палюбуйся на свой праспект.

## 11. ВІСАРЫЁНУ ГАРБУКУ[1]

*1 мая 1980 г.,*
*Мінск*

Дарагі Вісарыён Сцяпанавіч!

Рад быў атрымаць твой харошы і шчыры ліст, даведацца, што даўні добры друг поўны энергіі, жыве клопатамі і інтарэсамі літаратуры, а што трохі застагнаў, мне не зусім да густу. Ты ж некалі браў абавязак быць бадзёрым да 90 гадоў. Так трэба і трымацца.

Я яшчэ трохі варушуся. Працуецца, праўда, марудна, без ранейшага імпэту. Спадзяюся яшчэ напісаць кніжку вершаў, можа, апошнюю. А сёлета ў мяне ў бібліятэцы беларускай прозы выйшлі дзве аповесці, выходзіць кніга А. Блока ў маім перакладзе і кніжачка для дзяцей. У маі збіраюся на Украіну па творчых і «мерапрыемных» справах.

У Саюзе нашым шмат мітусні: то юбілеі, то пахаванні. Іх, на нашу бяду, становіцца ўсё болей і болей. Самыя горкія для мяне страты Алесь Пальчэўскі і Броўка. А колькі слаўных таварышаў адышло ў апошні час!

Але будзем жыць, пакуль жывецца!

Летам збіраюся ў Каралішчавічы, а ў жніўні — у Кактэбель.

Найлепшыя пажаданні Людміле Пракопаўне, моцна абдымаю. Бадзёрасці і шчасця, дарагі дружа!

*Твой Сяргей.*

*P. S.* Шчырае прывітанне і найлепшыя пажаданні Наталлі Уладзіміраўне Копіевай!

## 12. МІХАЛУ ЗАБЭЙДУ-СУМІЦКАМУ

*23 кастрычніка 1980 г.,*
*Мінск*

Дарагі Міхась Іванавіч!

Трывожна, бо даўно ад Вас няма ніякіх вестак. Ці хоць дзюжыце яшчэ трохі? Ці ўсё добра ў Вас? Учора зноў слухаў Вашу «Калыханку» і «Зялёны дубочак».Якая гэта асалода, колькі душы ўкладзена ў кожны гук і такт, у кожную паўзу!

І ўбачыў Вас такога, як тады на ўзвышшы Рыгровага Парку і пры развітанні на Пражскім вакзале. А я ўсё яшчэ ў клопатах.

Яшчэ нешта задумваю, нешта раблю, да нечага імкнуся. Перад юбілеем А. Блока зацягалі на выступленні з перакладамі яго вершаў. Магчыма, днямі выйдзе і яго кніжка, пераказаная мною па-беларуску. Перачытваю цяпер і бачу, як многа трэба было палепшыць, паправіць. А перавыданне не прадбачыцца. Хіба да 200-й гадавіны нехта перакладзе нанава. Давядзецца мне на юбілейным вечары выступаць і з дакладам, а назаўтра — ляцець у Ленінград на чарговы юбілей. Словам, заюбілеіўся.

Спадзяюся зімою схавацца ад усяе мітусні і ўзяцца за сур'ёзную работу. Хочацца яшчэ нешта добрае сказаць людзям.

Прывітанне Вам ад усіх знаёмых.

Пішыце хоць зрэдку, хоць коратка.

Жадаю Вам дабра і бадзёрасці!

З найлепшымі пачуццямі

*Сяргей Грахоўскі.*

## 13. НАВУМУ САНДАМІРСКАМУ

*14 студзеня 1997 г.,*
*Мінск*

Дарагі Навум Барысавіч!

Шчыра Вам удзячны за надзвычай цікавае, таленавітае, багатае фактамі і лёсамі нашых землякоў, Вашай выключнай памятлівасцю выданне[1]. Нават адны глускія прозвішчы ўзварушылі маю душу і памяць, сустрэў я і свайго колішняга вучня Барыса Маркмана. Пазайздросціў Вашай натуральнай «разговорной» стылістыцы пранікнёнага, з добрым мастацкім густам літаратара. А Ваш дасціпны, тонкі і добразычлівы гумар варты шырокага і маштабнага скарыстання.

Афарызмы з раздзела «Соло на пишущей машинке» маюць права на самастойнае выданне. Чаго варта «метро імя Кагановіча», «Семейный фонд» да и все без исключения местечковые хохмы. А ведь местечковый юмор абсолютно не исследован фальклористами! Ба! Не заметил, как пошел на объединение и слияние даже языков, двинулся в россияне! Разумею Ваша захапленне талентам Славы Захарынскага. Яго работы ўражваюць колерным напаўненнем, дэталлю, штрыхом, у чорна-белым ды яшчэ кепскім выкананні паліграфіяй страцілі ўсю сваю арыгінальнасць і непаўторнасць. Варта было б даць некалькі даўнейшых і сучасных здымкаў мястэчка, якое Вы залішне

часта называеце «поселком», «г/п», слава Богу, не «поселком городского типа».

Прочел с интересом ставшую фольклорной версию о поимке Подлишевским «шпиона». Жаль, что Вы не заглянули в мою книжку «Сустрэча з самім сабою». У ёй на 196 старонцы я дакладна расказаў пра гэты выпадак у апавяданні «Чужаземец», праўда, крышку змяніў прозвішча дружынніка, а Толю Сачко назваў Якімам (бо ў кнізе быў перабор Толяў). Але ўсё гэта дробязь і глупства.

А кніжка проста выдатная. Яна заслугоўвае быць выданай у адным з дзяржаўных выдавецтваў вялікім тыражом як узор патрыятычнай краязнаўчай літаратуры. Такая рэдакцыя ёсць у выдавецтве «Беларусь», але ў мяне там нікога знаёмага няма. Наогул кантакты з нашымі выдавецтвамі ўскладняюцца з кожным днём. Што казаць, калі рассыпалі набор перад самым выхадам кнігі апавяданняў Быкава?

Я вельмі шкадую, што быў вельмі хворы, калі Глеб прынёс Ваш слаўны падарунак, і не змог яго па-людску прыняць. Цяжка хворая і жонка на пнеўманію.

Ага, Вы цудоўна расказалі і пра глускіх медыкаў, дзякую, што ўспомнілі маіх родзічаў Бобрыка і Лёву Матузава. Ён і мяне ратаваў.

Наогул усё цудоўна. Віншую, віншую і жадаю творчых удач.

Найлепшыя пажаданні Вашай мілай Паліне Юр’еўне, Толю і ўсім Фуксонам, калегам па рэдакцыі, Шулякоўскаму і ўсім, хто памятае мяне.

Дабрага здароўя, шчасця і поспехаў у Новым годзе!

*Ваш Сяргей Грахоўскі.*

## 14. НАВУМУ САНДАМІРСКАМУ

*[1997 г.],*
*Мінск*

Дарагі Навум Барысавіч!

Вялікі дзякуй за Ваш падарунак —чарговы творчы здабытак, цікавую паліфанічную кнігу. Яе ў першы ж дзень я адным духам прачытаў 88 старонак, рэштку дачытваў ноччу. Нібыта пабыў на Радзіме, на глускіх вуліцах і завулках, сустрэўся з мноствам дарагіх мне землякоў, з асаблівым хваляваннем прагледзеў мноства (хоць і прымітыўных), але цікавых здымкаў, пазнаў на

іх многа знаёмых абліччаў. Падабаліся вельмі многія вершы і «Строфы». Дарэмна Вы іх не прапануеце ў «сталічны» друк. Друкуюць жа столькі бяздарнай ахінеі, а яны б упрыгожылі кожнае выданне.

Няёмка, што Вы выстаўляеце мяне на «правы фланг» сваіх «славутых» персанажаў. Хто я? што варты ў параўнанні з Тумілoвічам, Арцішэўскім, Матузавым, якія выратавалі і ратуюць тысячы асоб, Мікалаем Бобрыкам, што стварыў хірургічную школу ў Беларусі, з Пігулеўскім, аўтарам мноствам каштоўных адкрыццяў, выдатным вучоным Ю. К. Пятрэнем, многімі славутымі землякамі.

Я цяпер вельмі крытычна гляджу на ўсё зробленае і недаробленае мною ў літаратуры, а недаробленага больш, чым зробленага. Цяпер бы я амаль усё перапісаў бы нанава, а многае выкінуў з кніг.

Добра, што Вы адшукалі і адкрылі столькі цікавых і таленавітых людзей, такіх, як Цадзік Славін, Георгій Сысой (на жаль, не чытаў яго). Вы прарабілі вялікую даследчую работу, адшукаўшы такі цікавы гістарычны матэрыял, столькі дарагіх мне здымкаў. А вось на старонцы 143-й дапусцілі недакладнасць. Гаворачы пра глускі рэстаран, пішаце, што ён пабудаваны на «месте не менее красивой деревянной церквушки. Не Кижи, конечно». Няпраўда! Царква Богаяўленская была вялікая і каменная, з высокай званіцай (здымак на с. 142). Яе доўга бурылі. Было там кіно, потым мэблевы магазін і нарэшце дабілі, а на фундаменце пабудавалі рэстаран. Вы ж жылі амаль побач.

Кніга напісана цікава, можа, занадта перагружана аўтарскай эрудыцыяй, імёнамі Гамера, Гётэ, Шэкспіра, Гейнэ для параўнання з ніжэйшымі за іх «геніямі» Глушчыны.

Чытаў з цікавасцю і карысцю для сябе. Гэта публіцыстыка вельмі высокай якасці, а вершы і «строфы» не ніжэй прафесійных і вядомых.

Хачу паведаміць, што Блакіта (Болтача) адправілі на пенсію з «Вожыка», а ў камісіі, відаць, яшчэ застаўся. У Саюзе я амаль не бываю, гэта «спажывецкая» арганізацыя бізнесменаў на літаратуры.

Усё ж збяруся і, калі паймаю Іпатаву, пагавару з ёю. Яна ўсё ж мая выхаванка.

Яшчэ і яшчэ дзякую за ўсе Вашы клопаты і незаслужаную ўвагу да мяне. Падзяка Вашай Паліне і Толю. Жадаю ўсім Вам шчасця. Сорамна, што не здолеў ім памагчы.

Ад усяго сэрца абдымаю.

*Сяргей Грахоўскі*

*P. S.* Прабачце курыны почырк амаль сляпога.

## 15. НАВУМУ САНДАМІРСКАМУ

*21 красавіка 2000 г.,*
*Мінск*

Дарагі Навум Барысавіч!

Я не ведаю, як і чым аддзячыць Вам за клопат, а Мікалаю Пятровічу[1] за шчодрасць у падтрымцы маёй цяжкой сям'і гуманітарнай дапамогай. Яму я паслаў ліст шчырай падзякі, а Вам некалькі,можа,і не зусім удалых вершаў і найлепшыя пажаданні. Нарэшце злавіў Гальпяровіча (звышактыўнага), ён мяне ўсяляк падтрымаў, праз яго перадаў просьбу Радзе СПБ аб пераглядзе Вашага прыёму. Ён міла абяцаў падтрымку. […]

Пра творчасць нечага казаць. Што можна пісаць ў такіх умовах? А ўсё ж умудрыўся здаць у № 6 «Полымя» 200 радкоў вершаў, 23 павінна (калі не знялі) прайсці перадача маіх вершаў па радыё. Нешта абяцае «Мастацкая літаратура» на гэты год. А «верится с трудом»!

У «Юнацтве» выйшла мая маленькая «Птушыная дзяржава» з трох казак. А «Прэзідэнт» гэтай «дзяржавы» не мае права атрымаць нават адзін экземпляр аўтарскіх. Кніжачка маленькая, а цана 312 тысяч. Я павінен ганарыцца, што так высока цэніцца мая творчасць. Аўтар некалі быў капеечны, а стаў — шматтысячны. Камедыя!

Пачаў пісаць «сокровенные» ўспаміны, а далей 10-й старонкі не зрушыўся. Нервы і самаадчуванне не дазваляюць. Зусім аглух, амаль аслеп — катаракта засланіла свет. Чытаю з лупаю, хаджу з кіем.

Ці ведаеце Вы, што ў Віцебску выдаецца выключна цікавы, салідны і надзвычай таленавіты часопіс «Мишпоха» («Сям'я») Саюзам беларускіх яўрэйскіх грамадскіх арганізацый? У ім друкуюцца таленавітыя вершы, проза, дакументы. Цудоўныя ілюстрацыі, і «всё понятно, всё на русском языке». Я думаю, што Ваш удзел упрыгожыў бы часопіс (два нумары ў год). На ўсякі выпадак вось яго адрас: 210001, г. Віцебск-1, а/я 22. Я яго чытаю з захапленнем. Думаю, Вам варта нешта сваё прапанаваць ім.

Учора і сёння «Пейсах». Я пакаштаваў любімай з глускага маленства мацы, а хутка — Вялікдзень, згуляем у біткі, а там — пад чырвонымі сцягамі адзначым усе вялікія майскія святы.

Вось з усімі імі — былымі і будучымі — віншую Вас, Вашу сям'ю, Фуксонаў і ўсіх, хто яшчэ помніць мяне. Мікалаю Пятровічу — паклон і падзяка.

Даруйце, што сапсаваў святочны настрой.

Моцна абдымаю!

*Сяргей Грахоўскі.*

Дакументы прыкладаю.

# ДАДАТАК

## ЛІСТЫ МІХАЛА ЗАБЭЙДЫ-СУМІЦКАГА СЯРГЕЮ ГРАХОЎСКАМУ

### 1. ЛІСТ АД 14 ЧЭРВЕНЯ 1967 г.

*Прага*

Дарагі Сяргей Іванавіч!

Шчыра дзякую за вельмі цікавае пісьмо (ад 27.V г. г.). У думках пабываў з Вамі ў мясцінах, дзе насіў Вас добры вецер. Веру, што маеце шмат уражанняў і як выдатны паэт і пісьменнік перадасце іх многім і многім сваім чытачам-паклоннікам, да якіх належу і аз грэшны. Чакаю на «Полымя» з Вашымі вершамі.

Шкадую, што сам не магу ездзіць: не пазваляе здароўе. І радуюся, што гэта могуць рабіць іншыя. Падарожжы вельмі абагачаюць чалавека. І мяне многа насіла па свеце, але я хоць і бачыў, ды не ўмеў як след углядацца. І мэта ў мяне была іншая: больш чуць, чым бачыць. І таму цяпер вельмі рад чытаю. На жаль, псуецца зрок. Не дзіва! Мне сёння стукнула 74. Аглядваючыся назад, дзіўлюся, што яшчэ жыву. Сіроцтва (без бацькі), дзве вайны, туберкулёз, фашысцкая турма і проста злыя людзі. Усё жыццё жыў, як з пятлёй на шыі: пацягне нешта ці нехта за яе, і канец.

І ўсё ж любіў і люблю людзей. І дагэтуль стараюся даваць ім радасць сваімі песнямі.

Нядаўна правёў з Вамі цэлы вечар. Адведаў мяне адзін суайчыннік, т. Шпак, які вельмі любіць нашы песні. Пусціў я яму магнітафонную стужку, якую высылаў у Мінск: «Для песень народжаны». Слухаў з захапленнем. «Вось гэта па-мастацку зроблена», — сказаў ён, праслухаўшы да канца. А калі я сказаў яму, што чытае сам аўтар, ён быў яшчэ больш захоплены. Пазычыў я яму першы том Вашых вершаў, якія ён вельмі любіць чытаць. Добра валодае нашай моваю. Падарыў яму і дзве свае доўгайграючыя пліткі. Ён іх граў на вяселлі свае сястры (недзе пад Пінскам). Вельмі хоча Вас пабачыць.

Вельмі добрае, сяброўскае пісьмо прыслаў Максім Танк к майскім святам — з новым, яшчэ не друкаваным вершам, за што Максіму вельмі ўдзячны, бо часамі здаецца, што ў жыцці нічога мне не ўдалося зрабіць. А столькі меў ахвоты, жадання і працы, — усё для таго, каб быць ка-

рысным Радзіме і наогул сацыялістычнаму грамадству. Вельмі балела і баліць тое, што ў 1968 годзе знішчылі ўсе мае найгранні ў Пражскім радыё, хоць яны як выдатныя былі ў «залатым фондзе». Было там, між іншым, 9 нашых народных песень, апрацаваных (на маё жаданне) чэшскім кампазітарам для сімфанічнага аркестра з салістам.

Было, як кажуць, ды сплыло. Усё дыялектыка.

І цяпер, хоць здароўе маё пагоршылася, стараюся, калі даюць магчымасць, спяваць, каб у меру маіх сіл даваць людзям радасць сваімі спевамі. Я ўжо даўно навучыўся мець радасць з радасці іншых.

Апошнім часам у нас вельмі багатае музычнае жыццё — «Пражская вясна». Спявала і Св. Данілюк — народная артыстка Беларусі. Вельмі прыгожы голас, але па-беларуску не спявала.

Шлю Вам, дарагі дружа, і Вашым блізкім самыя найлепшыя пажаданні і сардэчныя прывітанні. Не забывайце!

*Ваш М. Забэйда.*

## 2. ЛІСТ АД 4 СТУДЗЕНЯ 1969 г.

*Прага*

Дарагі Сяргей Іванавіч!

Шчыра дзякую за навагоднія пажаданні. Даўно збіраўся Вам пісаць, ды сум і нават трагедыя, якія пануюць у свеце, мяне стрымвалі. Хацелася напісаць нешта прыемнае, радаснае, а гэта не часта ўжо ці бывае. І ўсё ж нечага добрага дачакаўся. Атрымаў прэмію ад Чэшскага музычнага фонду (Cesky hudebni fond) за сістэматычнае каштоўнае выкананне песень чэшскіх сучасных кампазітараў у сезоне 1967—68 гг. (Магчыма, чыталі ў «Ніве»?)

Выйшла пласцінка з нашымі народнымі песнямі ў Польшчы. 3 гады чакаў на яе, ды і цяпер яшчэ не чуў, бо мне дагэтуль не прыслалі аўтарскіх экземпляраў.

Ну і тут, у Празе, выйшла пласцінка з беларускімі песнямі і рамансамі. Знатакі ацэньваюць яе вельмі высока. На пласцінцы песні і рамансы Туранкова, Аладава, Багатырова, Пуксты, Алоўнікава і інш. На вершы Купалы, Багдановіча, Танка, Чарнушэвіча, Бядулі, Русака і інш.

У нашым музычным свеце гэта немалаважная з’ява. Ці толькі гэта будзе выкарыстана?!

На днях вышлю Вам дзве пласцінкі. Адну для Вас, а другую — каму лічыце патрэбным, каб яна прагучала ў радыё ды каб быў зроблены заказ. Нумар для заказа 1120444. Гэта stereo, а № mono (моно) 0120444. Пласцінка не дарагая. Стоіць 28 карон. Пры большым замаўленні будзе яшчэ танней. Пішу ўсё гэта дзеля таго, каб заказ, аб якім пісалі ў «ЛіМе», не астаўся на паперы, але каб сапраўды быў зроблены. Песня ж людзям патрэбна, як хлеб, як соль, як паветра. На Вашу рэляцыю

«Для песні народжаны» дагэтуль яшчэ адклікаюцца: «Эта передача произвела на меня ошеломляющее впечатление, взволновала до глубины души...» і г. д. (Брест, Спичакова).

«...Растрывожыла дальняе рэха некранутыя тайны душы...» — чытаў у «Полымі» Вашы вершы. Вельмі мне спадабаліся. Шкада, што жыццёвыя турботы, часта дробязі забіраюць у нас многа часу, які так патрэбны для творчае працы. Чуў, што Танк хварэў. Спадзяюся, што ўжо выздаравеў. Ён жа яшчэ малады. Горш у мяне. Дажыў да лет, калі многія ўміраюць. А мне ўсё яшчэ не хочацца. Вельмі мала зрабіў у параўнанні з тым, што хацеў зрабіць. (Тут я глыбока ўздыхнуў.)

Трэба канчаць, каб было «за здравіе», а не «за упокой».

Дык жадаю Вам, даражэнькі сябра Сяргей, і Вашым блізкім усяго найлепшага ў новым годзе. Прывітанні ўсім, хто любіць нашу песню. Абдымаю.

*Ваш Міхась Забэйда.*

## 3. ЛІСТ АД 4 КРАСАВІКА 1969 г.

*Прага*

Даражэнькі Сяргей Іванавіч!

Шчыра Вам дзякую за цікавае пісьмо, асабліва за «самацытату», мілагучную, вобразную, вясновую. А вершы пра каханне пісаць заўсёды можна і трэба,калі яны льюцца з душы. Ці ж не Пушкін казаў: «Любви все возрасты покорны…»? Спяваць (голасам) пра каханне ўжо трудней, калі дзедам выглядаеш, і то я спяваю. Нядаўна быў мой канцэрт, у якім я спяваў 9 новых песень пра каханне (гэта быў творчы заказ Чэшскага музычнага фонду), і выступленне прайшло з вялікім поспехам. Буду паўтараць яго ў маі зноў (калі не памру раней!), апошняе выступленне вельмі ўдалося. Забыўся пра хваробу свайго сэрца і не зышоў з подыя, пакуль не адспяваў 24 песні. Было гэта ў Багданчы. Як бачыце, зачаў аптымістычна, але далей, на жаль, так не будзе. Мушу Вам прызнацца, што, едучы на выступленне, цяпер ужо ніколі не маю ўпэўненасці ў тым, што яно не будзе апошнім… Ну што ж. Такі закон жыцця: усё, што мае пачатак, мае і свой канец. І таму планаў ужо не раблю ніякіх. Вельмі рад, што паспеў зрабіць пласцінку беларускіх песень і рамансаў. А вось ці будуць іх слухаць на Беларусі, не ведаю. Аб гэтым ніхто нічога не піша.

Вельмі мяне парадаваў Алег Лойка: прыслаў цэлага Багдановіча. 3 кніжкі ды яшчэ альбом-выстаўка ў школе. (Шкада толькі, што малы тыраж.) Уяўляю сабе, колькі трэба было папрацаваць, каб усё гэта выдаць. Малайчына Лойка. На днях напішу яму.

Цікавы артыкул напісаў Я. Семяжон (у «Полымі», № 1 г. г.): «а як выйшла ў людзі» (нават мяне ўспомніў).

Вельмі часта карыстаю з Вашага падарунку: «Пяцьдзесят чатыры дарогі» і «Пра час і пра сябе». Гэта знаёміць мяне з нашымі лепшымі творчымі людзьмі. Радуюся вялікім поспехам нашае літаратуры і яшчэ больш кахаю нашу Радзіму і яе песні.

Часта Вас успамінаю, прагульваючыся ў Рыгравым садзе, адкуль мы з Вамі любаваліся мацічкай Прагаю. Шкада толькі, што настрой цяпер зусім іншы. Канцэрты, у якіх я сеяў і расціў дружбу, цяпер немагчымыя. «Усё цячэ, усё мяняецца». Хто гэта сказаў?

Мае беластоцкія суродзічы дагэтуль не прыслалі мне аўтарскіх пласцінак беларускіх народных песень. Хоць ужо даўно іх прадаюць…

Але прыяцелі «мае» шпачкі, дык я ізноў не адзін. «…Я кнігу маю з друкарні пана Марціна Кухты».

Бывайце здаровы і шчаслівы.

Не забывайце.

Ваш удзячны

*М. Забэйда*

## 4. ЛІСТ АД 5 СНЕЖНЯ 1973 г.

*Прага*

Даражэнькі Сяргей Іванавіч!

Столькі хацелася б Вам сказаць! Атрымаў і Ваша змястоўнае пісьмо (ад 2.XI г. г.) і захапляючую аповесць «Ранні снег». Не можаце сабе ўявіць, як яна мне блізкая! Я ж першы год па аканчэнні Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі працаваў як настаўнік якраз у Сібіры. І апісана ўсё Вамі так праўдзіва, так рэальна, канкрэтна і па-мастацку, што, калі пачаў чытаць, забіўся нават, што ў мяне ёсць білет на канцэрт, і чытаў да позняе ночы. Увесь час быў думкамі з Вамі, з Вашымі героямі. Чытаў не толькі з вялікім зацікаўленнем, але і з асалодаю. А гэта я не часта кажу.

Больш таго, і з маладой настаўніцай мусіў пераначаваць, як Ваш Аляксей Іванавіч. Толькі называлася яна не Вера, а Ніна... Ехалі мы на настаўніцкі з’езд у Барнаул. Захапіў нас буран. На цягнік мы спазніліся і мусілі на паўстанку разам пераначаваць, каб дачакацца наступнага цягніка.

А якія ў Вас цудоўныя малюнкі прыроды! Як Вы ўмееце ўглядацца і бачыць. Як знаходзіце патрэбныя (не выдуманыя!) словы, каб стварыць не толькі малюнкі-вобразы, але і адпаведны настрой.

Чытаючы Вашу аповесць «Ранні снег», быў моцна ўзрушаны і не раз меў мокрыя вочы...

Вельмі добра аб Вас і Вашай творчасці піша Алесь Звонак — «Адчуванне вышыні».

Згаджаюся з Вамі і з тым, што добрых людзей больш, чым кепскіх. Бяда ў тым, што нягоднікі больш актыўныя і не выбіраюць сродкаў, каб дасягнуць свае мэты. Яны гатовы выкарыстаць і «атамавае аружжа» і таму прыносяць людзям столькі зла. Але і я веру, што дабро пераможа.

У нас праходзіць месяц Чэхаславацка-савецкай дружбы. З гэтае нагоды 13 лістапада я спяваў у Празе ў Славянскім доме рускія, украінскія і беларускія песні. Слухачы так апладзіравалі, што відаць было, якую радасць прыносіць ім спявак. А з іх радасці і я меў вялікую радасць. Успомніліся дні маладосці, калі мяне за спевы насілі на руках.

Шкада, што жыццё, гэты найбольшы дар, які мае чалавек, так хутка праходзіць.

Радуюся за Вас, дарагі Сяргей Іванавіч, што маеце ўнукаў. Апрача свае багатае творчасці, Вы будзеце жыць і ў сваіх унуках. На жаль, я гэтага пра сябе сказаць не магу. Гены свае не перадаў нікому. Усё ўлажыў у свае песні. А яны гучаць, пакуль я жыву.

Нядаўна спяваў у крэматорыі над памёршай знаёмай. Было сумна і цяжка...

Ці атрымалі мой ліст ад 15.XI г. г., дзе віншаваў Вас з юбілеем? Пытаюся таму, што некаторыя пісьмы да Максіма Танка страціліся.

Каб кончыць аптымістычна, хачу дадаць, што тут вельмі багатае музычнае жыццё. У гэтым сезоне адбыўся супольны канцэрт двух веліканаў: Фішар Дзіскаў спяваў, Святаслаў Рыхтар акампанаваў! Вось гэта было свята мастацтва!

Вельмі шкадую, што не сустрэліся з Вамі раней. Шмат можна было б зрабіць. Жывіце, тварыце, дарагі дружа, абагачайце людзей і рабіце іх лепшымі (як гэта я стараўся рабіць). Моцна Вас абдымаю. Паклон Вашым блізкім.

З любоўю

*Ваш Міхась Забэйда.*

## 5. ЛІСТ АД 5 СТУДЗЕНЯ 1975 г.

*Прага*

Даражэнькі Сяргей Іванавіч!

Вялікае Вам дзякуй за навагоднія пажаданні. Калі б ведаў, што Вы хварэеце, ужо даўно напісаў бы Вам другі раз, не чакаючы адказу на папярэдняе пісьмо. Ні папракаць, ні кепска думаць пра Вас мне і ў галаву не прыходзіла. Чалавек не жыве, як хочацца, а жыве, як можацца. Апрача таго, я ж чытаў у «Полымі» Вашы вершы і Ваш нарыс «Сейбіт дабра і гневу» і ведаю, колькі трэба папрацаваць, каб гэта напісаць. Чытаў, як заўсёды, з вялікім зацікаўленнем і прыемнасцю. Успамінаў і Ваш нарыс «Для песень народжаны». А цяпер адказваю адразу (пісьмы ходзяць марудна), бо пра мяне тут гавораць, што прыношу людзям

шчасце, вось жа і Вам пішу, каб Вы адразу выздаравелі, каб вярнуліся сілы душы, каб Вы і далей давалі людзям радасць сваімі творамі, ці вершамі, ці прозай, ці проста добрым, шчырым словам.

Як добрага савецкага патрыёта парадуе Вас, магчыма, такі факт. Нядаўна ў пражскім радыё выступаў народны артыст Чэхаславакіі Карэл Пліцка, вядомы фалькларыст, мастак-фатограф і кінааператар. Выступаў з нагоды свайго 80-годдзя. Калі яго запыталі, што ў яго доўгім жыцці зрабіла на яго найвялікшае незабыўнае ўражанне, К. Пліцка, між іншым, сказаў: «...і беларуская калыханка ў інтэрпрэтацыі Міхала Забэйды». А чуў ён мяне 20 год таму, калі я выступаў разам з найлепшымі артыстамі нацыянальнага тэатра. Гэта была для мяне мілая неспадзяванка, якая вельмі падтрымала мяне маральна.

У месяцы чэхаславацка-савецкай дружбы спяваў цэлы канцэрт па-чэшску, па-руску, па-славянску і па-беларуску. Пасля канцэрта адзін са слухачоў падышоў да нас і сказаў, што яшчэ ніхто не зрабіў на яго такога моцнага ўражання, як гэта выступленне. А быў гэта старэйшы чалавек, і відаць было, што гаворыць праўду. (Канцэрт быў у Багданчы.). Цяпер рыхтуюся да выступлення ў лютым — 28, але ці дажыву, не ведаю, бо сэрца адказваецца працаваць. І ўсё ж рыхтуюся. Хачу, пакуль жыву, быць карысным дзяржаве, у якой жыву, Радзіме, якую ў сэрцы нашу, і ўсім добрым людзям, песні якіх спяваю.

А пісаць, па-мойму, трэба не толькі калі нам добра, але і тады, калі нам кепска. Іначай я, бадай, не напісаў бы ніводнага ліста. Жыццё, як манета, мае два бакі...

Не буду, аднак, філасофстваваць. Хачу яшчэ раз пажадаць Вам, дарагі Сяргей Іванавіч, многа і надоўга добрага здароўя, настрою і шчасця. Найлепшыя пажаданні Вашым блізкім, а калі знойдуцца яшчэ, то і супольным знаёмым.

З любоўю да Вас

*Ваш М. Забэйда.*

*P. S.* Хацеў бы ведаць, ці пісьмо атрымалі. Адказваю ўсім, але не ўсе пісьмы даходзяць да адрасата.

## 6. ЛІСТ АД 13 ЖНІЎНЯ 1975 г.

*Прага*

Дарагі Сяргей Іванавіч!

Не ведаю, калі пісаў Вам апошні раз, ці адказаў на Ваша пісьмо ад 24.VI, ці падзякаваў за Ваш «Ранні снег» (асобнае выданне), які мне так падабаецца. Ведаю, што ў галаве напісаў Вам не раз, часта пра Вас думаю, але ці паслаў гэтыя думкі на паперы, не ведаю. Калі не, — прашу прабачэння. Меў некалькі вялікіх канцэртаў з інтэрнацыянальнай праграмай у 6—7 мовах. Найбольшы быў 21.VII у Лагачовіцах, дзе я

і лячыўся. Спяваў па-італьянску, па-нямецку, па-чэшску, па-славацку, па-руску, па-польску, па-беларуску. Больш за 25 песень без перапынку. Цэлых паўтары гадзіны. Цяпер дзіўлюся, што з маім хворым сэрцам гэта вытрымаў. Мусіць, радзіўся пад шчаслівай зоркай, як кажуць. Поспех быў велізарны: аплауз, кветкі, «бісы». На другі дзень і мужчыны, і жанчыны, і старыя, і маладыя віталіся са мною, як з блізкім чалавекам.

Хоць я не бываю ніколі задаволены сабою, але радавала тое, што даў людзям прыгожыя хвіліны, што прагаварыў ім да сэрца, якое адчынілася для прыняцця хараства... што «як доўг, як дар дае пясняр...».

Шмат хто казаў, што гэта быў найпрыгажэйшы канцэрт, які яны пачулі ў Лагачовіцах.

Пытаецеся, як сябе адчуваю? Трошкі горш, чым раней. Больш балючых месц, больш палыкаю таблетак, але стараюся трымацца. Хаджу ў Рыгровы сад, забаўляю чужых дзетак, слухаю спевы птушак.

Маткі між сабой называюць мяне, як мне казалі, дзецкім лекарам.

Слухаю пражскае радыё, дзе з нагоды майго 75-годдзя высылалі канцэрт беларускае песні ў маім выкананні, 24.VI. Ці мо я ўжо аб гэтым Вам пісаў?

Цяпер тут высылаюць «Дворянское гнездо» Тургенева. З радасцю слухаю. Які майстар! Нядаўна высылалі «Абеліск» Быкава Васіля.

Шкада, што Мінск мае слабую радыёстанцыю. Так што роднага слова тут не пачуеш. Часамі слухаю ўласныя песні, і тады здаецца, што ўсё ж нешта для матчынай песні зрабіў. Жыву, як і раней, без уласнае кватэры, але з вялікім жаданнем быць карысным сацыялістычнаму грамадству. На ўсякі выпадак гатоўлюся да новых выступленняў, хоць кожны дзень можа быць апошнім...

А як жывяце Вы, дарагі Сяргей Іванавіч? Ці палепшылася здароўе? Звычайна інфаркт адчуваецца доўга. Я на першым нават не ляжаў. Горш было з другім: стаў хранічна хворым на сэрца, але стараюся трымацца...

Будзьце здаровенькія! Прывітанні супольным знаёмым. Не забывайце старога друга. Моцна Вас абдымаю.

Ваш Міхась Забэйда.

## 7. ЛІСТ АД 3 СНЕЖНЯ 1980 г.

*Прага*

Дарагі Сяргей Іванавіч!

Шчыра дзякую, што ўспомнілі. Апошні раз пісаў Вам у канцы мінулага года, дзякуючы за Блока, пераклад якога мне вельмі спадабаўся. Ад таго часу не меў ад Вас весткі, таму і Вам не пісаў, ведаючы, колькі маеце працы. Але часта пра Вас думаў, нават слухаў Вас на сваім магнітафоне, бо маю Ваша прыгожае выступленне ў мінскім радыё...

Мне ўжо, як, напэўна, чулі, стукнула 80 год. Чэшскі музычны фонд, вітаючы з жыццёвым юбілеем, напісаў прыгожае пісьмо, у якім вельмі высока ацаніў маю мастацкую цэлажыццёвую працу і вызначыў мне ўзнагароду, што мяне вельмі ўзрадавала, тым больш што мая хвароба (і сэрца, і ногі, і вочы) перашкаджае паказвацца між людзьмі. І ўсё ж не забылі. Музыкальны народ чэхі! Напісалі, што сваёю працаю я абагаціў музычнае жыццё Чэхаславакіі. Шчыра ім за гэта падзякаваў.

Вельмі рады, што можаце працаваць. І я стараюся быць карысным грамадству. Кансультую сваіх былых вучняў, якія спяваюць мой былы рэпертуар. І так жыццё ўцякае.

У нас настала злая, халодная зіма. Для людзей майго веку гэта трудная пара. Часамі трудна дайсці да сталоўкі. Хаджу ўжо з кульбакаю нават у хаце, бо пры паду старыя косці ломяцца, а потым кепска зрастаюцца. Стараюся быць асцярожным, каб не ўпасці.

Надыходзяць Каляды і Новы 1981 год. Зычу Вам і Вашым блізкім, каб ён прынёс Вам многа здароўя, поспехаў і шчасця, а цэламу свету мір, мір і мір. Шчыра дзякую ўсім, хто мяне памятае, і шлю найлепшыя пажаданні.

Сардэчна Ваш

*Міхась Забэйда.*

*P. S.* Часамі слухаю свае ранейшыя выступленні з запісу на плёнку ці на грампласцінку і дзіўлюся, як многа гэтага было! І як мала з гэтага скарысталі на Радзіме!

# КАМЕНТАР

## ВЕРШЫ

Бальшыня твораў друкуецца паводле выд.: Сяргей Грахоўскі. Выбраныя творы: У 2 т. Мн., 1994. Іншыя крыніцы пазначаюцца асобна.

*Душа (с. 19)*

Упершыню — «Полымя», 1965, № 2.

*Добры дзень (с. 20)*

Упершыню — «Маладосць», 1956, № 6.

*Белыя ліпы (с. 21)*

Упершыню — «Полымя», 1956, № 7.

*Ноч над Мінскам (с. 22)*

Упершыню — «Маладосць», 1956, № 7.

*Плынь (с. 22)*

Упершыню — «Маладосць», 1956, № 4.

*«Я цябе прыгадаў...» (с. 24)*

Упершыню — «Полымя», 1956, № 7.

*На таежнай дарозе (с. 25)*

Упершыню — «Полымя», 1956, № 7.

*Мама (с. 26)*

Упершыню — «Маладосць», 1957, № 7.

*Сляды (с. 27)*

Упершыню — «Маладосць», 1958, № 8.
[1] *Войтка* Ніна — юнацкая сяброўка Сяргея Грахоўскага.

*Начлег (с. 28)*

Упершыню — «Полымя», 1959, № 2.

*Твой голас (с. 28)*

Упершыню — «Беларусь», 1960, № 1.

*Вера (с. 29)*

Упершыню — «Полымя», 1962, № 2.

[1] *Мяжэвіч* Уладзімір (1907—1982) — беларускі пісьменнік. У 1937 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і асуджаны на 10 гадоў зняволення. Потым гэты тэрмін быў падоўжаны. Пасля рэабілітацыі ў 1955 г. вярнуўся з Сібіры ў Мінск.

*Ласіны след (с. 30)*

Упершыню — «Полымя», 1962, № 2.

*«Ты, мабыць, добра ведаеш сама...» (с. 32)*

Упершыню — «Работніца і сялянка», 1962, № 11.

*Табе зайздросціць сонца (с. 33)*

Упершыню — «Полымя», 1962, № 9.

*Дубовы ліст (с. 34)*

Упершыню — «Полымя», 1962, № 9.

*Сунічны сок (с. 35)*

Упершыню — «Полымя», 1963, № 9.

*Хмель (с. 37)*

Упершыню — «Полымя», 1964, № 7.

*Пачатак (с. 37)*

Упершыню — «Дзень паэзіі», 1965.

*«Як я жыў без цябе...» (с. 38)*

Упершыню — «Полымя», 1965, № 2.

*«Нас разлучалі вёрсты, і гады...» (с. 39)*

Упершыню — «Полымя», 1965, № 2.

*«Будзь музаю маёй...» (с. 40)*

Упершыню — «Работніца і сялянка», 1965, № 1.

*На катку (с. 41)*

Упершыню — «Літаратура і мастацтва», 1965, 19 студзеня.

*Званы (с. 42)*

Упершыню — «Полымя», 1969, № 8.

*Казка (с. 43)*

Упершыню — «Полымя», 1970, № 3.

*Лясы, лясы... (с. 43)*

Упершыню — «Полымя», 1971, № 10.

*Выратаванне (с. 45)*

Упершыню — «Літаратура і мастацтва», 1971, 3 снежня.

*Сівы салавей (с. 46)*

Упершыню — «Полымя», 1971, № 10. Без пазначэння прозвішча спевака. Пасля яго смерці аўтар у новай публікацыі дадаў прысвячэнне і замяніў асобныя радкі верша.

[1] *Забэйда-Суміцкі* Міхась (1900—1981) — славуты беларускі спявак. З 1940 г. жыў у Празе.

*Шыпшына (с. 47)*

Упершыню — «Полымя», 1973, № 2.

*Спадчына (с. 48)*

Упершыню — «Дзень паэзіі», 1980.

[1] *Бобрык* Янка (1905—1942) — беларускі паэт, мастацтвазнавец. Брацэнік С. Грахоўскага.

*Каралі (с. 53)*

Упершыню — «Літаратура і мастацтва», 1982, 29 студзеня.

*Дзве радасці (с. 54)*

Упершыню — «Маладосць», 1981, № 2.

*Няміга (с. 55)*

Упершыню — «Літаратура і мастацтва», 1981, 22 мая.

*Купалле (с. 55)*

Упершыню — «Полымя», 1982, № 6.

*Размова з Аляксеем Пысіным (с. 58)*

Упершыню — «Літаратура і мастацтва», 1984, 11 лютага.

[1] *Пысін* Аляксей (1920—1981) — беларускі паэт, заслужаны работнік культуры Беларусі.

*19 кастрычніка (с. 58)*

[1] 19 кастрычніка 1936 г. паэт быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС.

*Згаслыя свечкі (с. 61)*

[1] *Розна* Алесь (1913—1942) — беларускі паэт. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і зняволены. Загінуў ва Унжлагу Горкаўскай вобласці. Пасмяротна рэабілітаваны ў 1955 г.

*Сувой жыцця (с. 73)*

Друкуецца паводле выд.: Недапісаная кніга. Мн., 1996.

*Вячэрняя малітва (с. 75)*

Друкуецца паводле выд.: Недапісаная кніга. Мн., 1996.

*Маўчанне (с. 76)*

Друкуецца паводле выд.: Недапісаная кніга. Мн., 1996.

[1] *Скрыган* Ян (Янка, Іван Аляксеевіч; 1905—1992) — беларускі пісьменнік. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны за «контррэвалюцыйную дзейнасць» і асуджаны на 10 гадоў зняволення. У 1946 г. вызвалены з пяцігадовым паражэннем у правах. У 1949 г. зноў арыштаваны і высланы ў Сібір.

*Незваротнае (с. 76)*

Друкуецца паводле выд.: Недапісаная кніга. Мн., 1996.

*Памяці ненапісаных вершаў (с. 78)*

Друкуецца паводле выд.: Недапісаная кніга. Мн., 1996.

*Зорна, ветрана, зіма (с. 82)*

[1] *Таўбін* Юлі (сапр. Юдаль Абрамавіч; 1911—1937) — беларускі паэт. У 1936 г. быў арыштаваны (паўторна) і Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР ад 29.10.1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

*Адна надзея (с. 85)*

Друкуецца паводле выд.: Недапісаная кніга. Мн., 1996.

*Мінае лета (с. 86)*

Друкуецца паводле выд.: Недапісаная кніга. Мн., 1996.

*Самасуд (с. 86)*

Гэты верш, як і ўсе астатнія, друкуецца з аўтографа, які захоўваецца ў сям'і дачкі паэта Таццяны Грахоўскай.

## ПЕРАКЛАДЫ

### *Незнаёмка (с. 100)*

Друкуецца паводле выд.: Аляксандр Блок. Выбраныя вершы і паэмы. Мн., 1980.

### *Лістапад (с. 102)*

Друкуецца паводле выд.: Міхаіл Дудзін. Пасля спаткання. Выбранае. Мн., 1984.

## АПОВЕСЦІ

### *Зона маўчання (с. 105)*

Упершыню — «Полымя», 1990, № 2.

Друкуецца паводле выд.: Грахоўскі Сяргей. Выбраныя творы: У 2 т. Т. 2. Мн., 1994.

[1] *Дарожны* Сяргей (1909—1943) — беларускі паэт. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення волі. Адбываў пакаранне на Далёкім Усходзе, дзе і загінуў. Рэабілітаваны ў 1957 г.

[2] *Пальчэўскі* Алесь (1905—1979) — беларускі пісьменнік. У 1936 г. беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС, у 1937 г. прыгавораны да 8 гадоў зняволення. У 1949 г. быў зноў незаконна арыштаваны і высланы ў Краснаярскі край. Рэабілітаваны ў 1954 г. У 1955 г. вярнуўся на радзіму.

[3] *...мой даўні друг Алесь Розна.* — З паэтам А. Рознам (гл. каментар да верша «Згаслыя свечкі») С. Грахоўскі вучыўся ў Мінскім педінстытуце.

[4] *Галавач* Платон (1903—1937) — беларускі пісьменнік. Працаваў рэдактарам газеты «Чырвоная змена», першым сакратаром ЦК ЛКСМБ, намеснікам наркама асветы БССР. Быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і расстраляны.

[5] *Каваль* Васіль (1907—1937) — беларускі пісьменнік. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і потым расстраляны.

[6] *Вольны* Анатоль (сапр. Анатоль Іўсцінавіч Ажгірэй; 1902—1937)— беларускі паэт, празаік, драматург. Заслужаны дзеяч мастацтва БССР. У 1937 г. беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і расстраляны.

[7] *Маракоў* Валеры (1909—1937) — беларускі паэт. У 1937 г. беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і расстраляны.

[8] *Харык* Ізі (1898—1937) — яўрэйскі паэт Беларусі. У 1937 г. беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і расстраляны.

[9] *Пілсудскі* Юзаф (1867—1936) — польскі грамадска-палітычны, дзяржаўны і ваенны дзеяч.

[10] *Троцкі* Леў Давыдавіч (сапр. Бранштэйн Лейба; 1879—1940) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, удзельнік міжнароднага камуністычнага руху.

[11] *Замоцін* Іван (1873—1942) — беларускі літаратуразнавец. Родам з Расіі. У 1938 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і асуджаны на 8 гадоў зняволення. Памёр у турэмнай бальніцы ў Комі АССР.

[12] *Зарэцкі* Міхась (сапр. Міхаіл Яфімавіч Касянкоў; 1901—1937) — беларускі пісьменнік. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і пасля расстраляны.

[13] *Чарот* Міхась (сапр. Міхаіл Сямёнавіч Кудзелька; 1896—1937) — беларускі паэт, празаік, драматург. У 1937 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і расстраляны.

[14] *Шашалевіч* Васіль (1897—1941) — беларускі драматург. У 1930 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і выпушчаны на волю ў 1931 г. У 1937 г. ізноў быў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў лагернага зняволення ў Сібіры. Загінуў на лесапавале.

[15] *Лявонны* Юрка (Леанід Мікалаевіч Юркевіч; 1908—1937) — беларускі паэт. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і праз год расстраляны.

[16] *Баранавых* Сымон (Сымон Якаўлевіч Баранаў; 1900—1942 — беларускі пісьменнік. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і асуджаны на 10 гадоў зняволення. Загінуў у лагеры.

[17] *Мікуліч* Барыс (1912—1954) — беларускі пісьменнік. У 1936 г. быў асуджаны на 10 гадоў зняволення. У 1947 г. вярнуўся на Беларусь. Праз два гады быў паўторна арыштаваны органамі НКУС і высланы ў Сібір, дзе і памёр.

[18] *Багун* Міхась (сапр. Міхаіл Фёдаравіч Блошкін; 1908—1937) — беларускі паэт, празаік, перакладчык. У студзені 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і зняволены. У снежні 1937 г. памёр на адным з этапаў.

[19] *Хадыка* Уладзімір (1905—1940) — беларускі паэт. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС, а потым асуджаны на 10 гадоў зняволення. Загінуў на будаўніцтве чыгункі каля Улан-Удэ.

[20] *Ракіта* Сяргей (сапр. Законнікаў Сяргей Васільевіч; 1909—1942) — беларускі паэт. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС, а потым асуджаны на 10 гадоў зняволення ў лагерах. Загінуў на лесапавале.

[21] *Шушкевіч* Станіслаў (1908—1991) — беларускі паэт, празаік. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС, а потым асуджаны на 8 гадоў зняволення. Вярнуўшыся на радзіму, быў паўторна арыштаваны ў 1949 г. і высланы ў Краснаярскі край. Вярнуўся ў Мінск у 1956 г.

[22] *Знаёмы* Сяргей (сапр. Клопаў Сяргей Дзмітрыевіч; 1909—1937(?) — беларускі пісьменнік. У 1936 г. быў незаконна арыштаваны органамі НКУС і асуджаны на 8 гадоў зняволення. Як мяркуюць, загінуў на Калыме.

[23] *Піваварaў* Зяма (Залман Рувімавіч; 1910—1937) — беларускі паэт. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і праз год прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

[24] *Астапенка* Змітрок (1910—1944) — беларускі пісьменнік. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і асуджаны на 8 гадоў зняволення. У пачатку вайны з фашысцкай Германіяй уцёк з лагера на фронт. Загінуў у Карпатах, куды быў накіраваны з нейкім заданнем.

[25] *Куніцкі* Сымон (1902—1940 (?) — беларускі літаратуразнавец і крытык. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і асуджаны на 10 гадоў зняволення. Як мяркуюць, загінуў у лагеры на Калыме.

[26] *Звонак* Алесь (сапр. Пётр Барысавіч; 1907—1996) — беларускі паэт, драматург, перакладчык. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і ў 1937 г. асуджаны на 10 гадоў зняволення. Пасля вызвалення з лагера да 1956 г. знаходзіўся ў высылцы.

[27] *Калюга* Лукаш (сапр. Вашына Кастусь Пятровіч; 1909—1937) — беларускі пісьменнік. У 1933 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і асуджаны на 5 гадоў зняволення. Расстраляны ў г. Ірбіш Свярдлоўскай вобласці.

### *З воўчым білетам (с. 265)*

Друкуецца паводле выд.: Грахоўскі Сяргей. Выбраныя творы: У 2 т. Т. 2. Мн., 1994.

[1] *Ліхадзіеўскі* Сцяпан (1911—1979) — беларускі паэт, перакладчык, крытык, літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук. У 1933 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і асуджаны на 3 гады высылкі ў Казахстан. Рэабілітаваны ў 1956 г. Доўгі час жыў і памёр у Ташкенце.

[2] *Зарыцкі* Аляксей (1911—1987) — беларускі паэт.

[3] *Шарахоўскі* Янка (1908—1973) — беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, перакладчык.

[4] Праспект Сталіна потым быў па чарзе названы — Ленінскі праспект, праспект Францішка Скарыны. Цяпер — праспект Незалежнасці.

[5] *Кляшторны* Тодар (1903—1937) — беларускі паэт. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і ў 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

[6] *...і ўсіх «серапіёнаў».* — Маецца на ўвазе заснаваная ў 1921 г. у Петраградзе літаратурная група «Серапіёнавы браты».

[7] *Сергіевіч* Мікола (нар. 1921) — беларускі пісьменнік.

### *Такія сінія снягі (с. 361)*

Упершыню — Грахоўскі Сяргей. Споведзь. Аповесці і вершы. Мн., 1990.

Друкуецца паводле выд.: Грахоўскі Сяргей. Выбраныя творы: У 2 т. Т. 2. Мн., 1994.

## ПУБЛІЦЫСТЫКА

### *«Поклонитесь родной земле» (с. 449)*

Друкуецца артыкул паводле газ. «Знамя юности» ад 22 лютага 1989 г., дзе апублікаваны ўпершыню.

[1] *Карузо* Энрыка (1873—1921) — італьянскі спявак (тэнар). Адзін з самых славутых оперных спевакоў свету.

[2] *Собінаў* Леанід Вітальевіч (1872—1934) — рускі спявак (лірычны тэнар).

[3] *Скіпа* Ціта (1889—1965) — італьянскі спявак (лірычны тэнар).

[4] *Шырма* Рыгор (1892—1978) — дзеяч беларускай культуры, стваральнік і кіраўнік Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Беларускай ССР, народны артыст БССР і СССР, Герой Сацыялістычнай Працы.

[5] *Васілёк* Міхась (1905—1960) — беларускі паэт.

[6] *Таўлай* Валянцін (1914—1947) — беларускі паэт.

[7] *Машара* Міхась (1902—1976) — беларускі паэт і празаік.

[8] *Картуз-Бяроза,* або *Бяроза Картузская* — так называўся да 1940 г. горад Бяроза Брэсцкай вобл. Назва паходзіла ад Бярозаўскага кляштара картэзіянцаў (картузаў), пабудаванага ў 1648—1689 гг. У 1934 г. тут быў створаны палякамі Бяроза-Катрузскі канцэнтрацыйны лагер.

### *Так погибали поэты... (с. 454)*

Артыкул друкуецца паводле «Литературная газета» ад 21 сакавіка 1990 г., дзе ўпершыню апублікаваны.

[1] *Октябрьская революция впервые предоставила белорусскому народу государственность...* — Так патрабавалася ў савецкія часы пісаць пра беларускую дзяржаўнасць, хоць аўтар без сумнення ведаў пра існаванне яшчэ ў сярэднявеччы магутнай беларускай дзяржавы Вялікае Княства Літоўскае, а яшчэ раней — дзяржаўнага ўтварэння Полацкае княства.

[2] *Віталін* Змітра (сапр. Сергіевіч Зміцер Рыгоравіч; н. 1912) — беларускі пісьменнік. Сяргей Грахоўскі, на шчасце, памыліўся: Змітро Віталін уратаваўся ад сталінскіх рэпрэсій. Яго арыштавалі ў 1933 г. У 1935 г. ён вярнуўся са зняволення ў г. Калінкавічы Гомельскай вобласці. Працаваў на фанернай фабрыцы ў Мазыры. У Вялікую Айчынную вайну знаходзіўся на фронце. У 1961 г. пасяліўся ў Адэсе. Там пад сваім прозвішчам выдаў на рускай мове больш за дзесяць кніг прозы на ваенную тэматыку. У 80—90-х гадах публікаваў таксама ў нашай перыёдыцы вершы на беларускай мове.

### *Малітва пакут і любові (с. 459)*

Артыкул друкуецца паводле газ. «Народная воля» ад 23 верасня 1998 г., дзе ўпершыню апублікаваны.

### *Мой Купала (с. 467)*

Артыкул друкуецца паводле газ. «Народная воля» ад 22 чэрвеня 2002 г., дзе ўпершыню апублікаваны.

[1] *Ціханаў* Мікалай (1896—1979) — рускі пісьменнік. Герой Сацыялістычнай Працы.

[2] *Пастарнак* Барыс (1890—1960) — рускі паэт. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі, ад якой адмовіўся.

[3] *Твардоўскі* Аляксандр (1910—1971) — рускі паэт. Шматгадовы рэдактар часопіса «Новый мир».

[4] *Ясенскі* Бруна (1901—1941) — польскі і рускі пісьменнік.

[5] *Тычына* Паўло (1891—1967) — украінскі паэт, дзяржаўны і грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы.

[6] *Сасюра* Уладзімір (1898—1965) — украінскі паэт.

[7] *Табідзе* Тыцыян (1895—1937) — народны паэт Грузінскай ССР.

## ДЗЁННІКІ, ЛІСТЫ

### ДЗЁННІКІ

Друкуюцца ўпершыню паводле аўтографа, які захоўваецца ў сямейным архіве Таццяны Грахоўскай.

[1] *...тры гады пішу гэтую сваю споведзь.* — Гэта значыць успаміны пра перажытае, якія потым леглі ў аснову дакументальных аповесцяў Сяргея Грахоўскага «Зона маўчання», «З воўчым білетам» і «Такія сінія снягі».

[2] *Абашыдзе* Іраклій — грузінскі савецкі паэт, грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы.

[3] «*Драчуны*» — раман рускага савецкага пісьменніка Міхаіла Аляксеева (1981).

[4] *Сербантовіч* Анатоль (1941—1970) — беларускі паэт.

[5] *Жычка* Хведар ( н. 1927) — беларускі паэт. Быў тады старшым рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура».

[6] *Кірэенка* Кастусь (1918—1988) — беларускі паэт. Працаваў тады галоўным рэдактарам часопіса «Полымя».

[7] *Кузьмін* Аляксандр Трыфанавіч (н. 1918) — партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР. З 1971 па 1986 г. — сакратар ЦК КПБ.

[8] *Рудабелка* (цяпер Акцябрскі) — гарадскі пасёлак, цэнтр Акцябрскага раёна. У час акупацыі Беларусі войскамі Германіі (1918) і Польшчы (1919—1920) у Рудабельскай і суседніх валасцях Бабруйскага павета працягвала дзейнічаць савецкая ўлада, таму гэтыя аб’яднаныя воласці набылі назву — Рудабельская рэспубліка.

[9] *Ціхановіч* Яўген (1911—2005) — беларускі мастак.

[10] *Галубок* Уладзіслаў (1882—1937) — беларускі пісьменнік, рэжысёр, акцёр, тэатральны дзеяч, мастак. Першы народны артыст БССР

(1928). У 1937 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і расстраляны.

[11] *...сустрэўся ў рэдакцыі перакладаў з Артурам Вольскім.* — Вядомы беларускі паэт Артур Вольскі працаваў тады рэдактарам у выдавецтве «Юнацтва».

[12] *Грамыка* Андрэй Андрэевіч (1909—1989) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1957—1985 гг. з'яўляўся міністрам замежных спраў СССР, адначасова ў 1983—1985 гг. быў першым намеснікам старшыні Савета Міністраў СССР. Член Палітбюро ЦК КПСС у 1973—1988 гг.

[13] *Сіманаў* Канстанцін Міхайлавіч (1915—1979) — рускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы. Аўтар трылогіі «Жывыя і мёртвыя» і інш.

[14] *Пяскоў* Васілій Міхайлавіч (н. 1930) — рускі пісьменнік, журналіст. Лаўрэат Ленінскай прэміі.

[15] *ЛП* — лагерны пункт

[16] *...разгарнуў кнігу Каверына.* — Як відаць, маецца на ўвазе зборнік успамінаў, літаратурных партрэтаў, лістоў рускага савецкага пісьменніка Веніяміна Каверына «Здравствуй, брат. Писать очень трудно» (1965).

[17] *Первамайскі* Леанід Саламонавіч (1908—1973) — украінскі савецкі пісьменнік.

[18] *Вагнер* Генрых Матусавіч (н. 1922) — беларускі кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1963).

[19] *Лобан* Мікола (1911—1984) — беларускі пісьменнік. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1974).

[20] *Карпаў* Уладзімір Васільевіч (н. 1922) — рускі савецкі пісьменнік, Герой Савецкага Саюза (1944).

[21] *Жыгулін* Анатолій Уладзіміравіч (н. 1930) — рускі паэт.

[22] *Абрамаў* Фёдар Аляксандравіч (1920—1983) — рускі пісьменнік.

[23] *...кнігу Букчына пра дзекабрыстаў.* — Маецца на ўвазе кніга Сямёна Букчына «К мечам рванулись наши руки: Документальные повести» (1978, 2-е выданне 1985).

[24] *Даўжэнка* Аляксандр Пятровіч (1894—1956) — украінскі пісьменнік, кінасцэнарыст, рэжысёр, народны артыст РСФСР (1950).

[25] *Кручкоў* Уладзімір Аляксандравіч (н. 1924) — савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч. У 1988—1991 гг. — старшыня КДБ СССР. Член Палітбюро ЦК КПСС у 1898—1990 гг. У перыяд жнівеньскага крызісу 1991 г. быў членам т. зв. ГКЧП.

[26] *Сяднёў* Масей (1915—2001) — беларускі пісьменнік. У 1936 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і высланы на Калыму, дзе прабыў пяць гадоў у канцлагеры. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны яго прывезлі ў Мінск на перагляд справы, і з прыходам немцаў ён апынуўся на волі (уцёк каля Чэрвеня з-пад канвою). У 1943 г. перабраўся за мяжу, працаваў настаўнікам беларускай гімназіі ў Міхельсдорфе (Германія), з 1950 г. — у ЗША, выкладаў рускую мову ў Індыянскім універсітэце. Жыў у г. Глен Коў.

[27] *Сачанка* Барыс (1936—1995) — беларускі пісьменнік. Даследаваў творчасць беларускіх пісьменнікаў замежжа.

[28] *Хомчанка* Васіль (1919—1992) — беларускі пісьменнік. У 1937 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і зняволены. Адбываў пакаранне на Далёкім Усходзе, у Ніжне-Амурскім лагеры. У красавіку 1941 г. вярнуўся на радзіму. У 1941—1968 гг. служыў у Савецкай Арміі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.

[29] *Сядура* Уладзімір (1910—1995) — беларускі пісьменнік. У 1933 г. быў арыштаваны і высланы на два гады ў Сібір. У першы дзень вайны ў 1941 г. яго паўторна арыштавалі, але ён на этапе каля Чэрвеня ўцёк з-пад варты. У час акупацыі рэдагаваў у Мінску часопіс «Новы шлях». У 1944 г. выехаў у Германію. З 1951 г. жыў у ЗША.

[30] *Сандамірскі* Навум Барысавіч (н. 1942) — рэдактар глускай раённай газеты «Радзіма», журналіст, пісьменнік.

## ЛІСТЫ

Лісты Сяргея Грахоўскага і Міхася Забэйды-Суміцкага да яго захоўваюцца ў Дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва, адкуль і ўзяты для кнігі. Публікуюцца ўпершыню.

### *1. Сцяпану Ліхадзіеўскаму (с. 501)*

[1] *Мірцемір* (поўн. імя Мірцемір Турсунаў; 1910—1978) — народны паэт Узбекскай ССР (1971).

[2] *Стах* — Шушкевіч Станіслаў, беларускі паэт.

### *4. Якаву Драйчуку (с. 504)*

[1] *Драйчук* Якаў Іванавіч — генерал, бібліяфіл, жыў у Маскве.

### *6. Міхалу Забэйду-Суміцкаму (с. 506)*

[1] *...У Празе Рыгор Раманавіч.* — Шырма Рыгор (гл. вышэй).

### *7. Міхалу Забэйду-Суміцкаму (с. 507)*

[1] *Васілевіч* Алена (н. 1922) — беларуская пісьменніца. Як відаць, тут маецца на ўвазе адна з яе аповесцяў, што склалі потым трылогію «Пачакай, затрымайся…» (1972).

### *8. Мікалаю Сідарэнку (с. 509)*

[1] *Сідарэнка* Мікалай Мікалаевіч (н. 1905) — рускі савецкі паэт.

[2] *Осін* Дзмітрый Дзмітрыевіч (н. 1906) — рускі савецкі пісьменнік.

### *10. Міколу Лобану (с. 511)*

[1] *Чыгрынаў* Іван (1934—1996) — народны пісьменнік Беларусі (1994). З 1976 г. па 1986 г. быў сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. «Апраўданне крыві» — адзін з яго раманаў.

[2] «*Глыбокая плынь*» — раман народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна, напісаны ў 1947—1948 гг. За яго аўтар атрымаў Сталінскую прэмію (1951).

[3] *Семяняка* Юрый (1925—1990) — беларускі кампазітар, народны артыст БССР (1974).

[4] *Гамолка* Мікола (1922—1992) — беларускі пісьменнік.

### *11. Вісарыёну Гарбуку (с. 513)*

[1] *Гарбук* Вісарыён (1913—1986) — беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1979). Прыкаваны цяжкай хваробай да ложка, жыў у Пяцігорску.

### *13. Навуму Сандамірскаму (с. 514)*

[1] *...таленавітае... выданне.* — Гаворка ідзе пра адну з краязнаўчых кніг Н. Сандамірскага, прысвечаную гісторыю Глуска, — «Местечко 2, или Ностальгическое соло на пишущей машинке». Мн., 1996.

### *15. Навуму Сандамірскаму (с. 517)*

[1] *Дзядзюля* Мікалай Пятровіч — старшыня Глускага райвыканкама ў 1998—2006 гг.

## SUMMARY

Siarhei Hrakhouski (1913—2002) is an outstanding Belarusian poet, a prose writer and a publicist. The first literary attempts appeared in press in the 1920s. But then his literary activity was interrupted by the People's Commissariat of Internal Affairs' groundless arrest and the followed imprisonment in 1936. The poet suffered all the horrors of the Stalin concentration camps and the hardship of exile in Siberia. Having returned in Minsk after the 20 years' time imprisonment, he wrote about it in three documentaries *The Zone of Silence* («Zona mauchannya»), *With the Brand of Shame* («Z vouchym biletam») and *Such Blue Snow* («Takiya siniya sniahi») which are included in the present book. The edition comprises as well the best poems of different years, articles, letters and fragments from the diaries.

The introductory article «Having Broken Through «The Zone of Silence» is written by Lidziya Savik.

# ЗМЕСТ

Прарваўшы «зону маўчання». *Лідзія Савік*..........5

## ВЕРШЫ

Душа ..........19
Добры дзень..........20
Белыя ліпы ..........21
Ноч над Мінскам ..........22
Плынь ..........22
Жонка ..........23
* * * Я цябе прыгадаў… ..........24
На таежнай дарозе..........25
Мама ..........26
Сляды ..........27
Начлег..........28
Твой голас ..........28
Вера ..........29
Ласіны след..........30
* * * Ты, мабыць, добра ведаеш сама… ..........32
Табе зайздросціць сонца..........33
Дубовы ліст..........34
Словы ..........34
Сунічны сок ..........35
Дачка ..........35
Хмель..........37
Пачатак..........37
* * * Як я жыў без цябе?.. ..........38
* * * Нас разлучалі вёрсты, і гады… ..........39
* * * Будзь музаю маёй… ..........40
На катку..........41
Званы ..........42
Казка ..........43
Лясы, лясы... ..........43
Пралескі ..........45
Выратаванне ..........45
Сівы салавей ..........46
Шыпшына ..........47
* * * Зямля, я з табою ў сусвеце імчуся… ..........48
Спадчына ..........48
І першы, і апошні... ..........49

Мястэчка ....................................................................................50
Разуменне....................................................................................51
Чужыя.........................................................................................52
Каралі .........................................................................................53
Дзве радасці ...............................................................................54
Няміга.........................................................................................55
Купалле ......................................................................................55
Вечныя........................................................................................57
Размова з Аляксеем Пысіным ....................................................58
19 кастрычніка ............................................................................58
Страчаная маладосць .................................................................60
Згаслыя свечкі ............................................................................61
Рэквіем рукапісам .......................................................................63
Сцюжы ........................................................................................63
Стары млын ................................................................................64
Бывай ..........................................................................................65
Слова ..........................................................................................65
Ахвяры ........................................................................................66
Малітва........................................................................................67
Стук ............................................................................................68
Гонар Беларусі ...........................................................................68
Асацыяцыі...................................................................................69
Народ ..........................................................................................70
Пад небам Беларусі ....................................................................70
Мак ..............................................................................................71
Невядомыя акцёры .....................................................................72
Сувой жыцця ..............................................................................73
* * * Дагарае леташняе лісце… .................................................74
Вячэрняя малітва.........................................................................75
Маўчанне ....................................................................................76
Незваротнае ................................................................................76
Няволя ........................................................................................77
Памяці ненапісаных вершаў .......................................................78
Журавы........................................................................................78
Адзін радок лемантара ...............................................................79
* * * Пакойчык у фіранках і вазонах… .....................................80
* * * Не абміні чужой бяды… .....................................................80
Пачакай ......................................................................................81
Нязгаслая душа............................................................................81
Зорна, ветрана, зіма.....................................................................82
Закаханым ..................................................................................83
* * * Снег завейвае плечы… .......................................................84
* * * Лісты не прыходзяць, няма тэлеграм… ..............................84
Адна надзея.................................................................................85
Мінае лета...................................................................................86
Самасуд ......................................................................................86

Саксафаніст......87
Сам сабе... ......88
Мой лепшы твор......88
Асабістае......89
Непазбежнасць ......90
Коні ......90
Пакаянне ......91
Рай на Прыпяці......92
Новы каляндар......93
Стары конь......94
Тэлефон......94
Замова......95
Прадчуванне ......95
Паэзія......96
Суцяшэнне ......97
Дарога да волі......98
Апошняя элегія......98
Пераклады......100
Незнаёмка ......100
З Аляксандра Блока......100
Лістапад ......102
З Міхаіла Дудзіна ......102

## АПОВЕСЦІ

Зона маўчання ......105
З воўчым білетам. *Аўтабіяграфічная аповесць* ......263
Такія сінія снягі ......359

## ПУБЛІЦЫСТЫКА

«Поклонитесь родной земле» ......447
Так погибали поэты... ......452
Малітва пакут і любові......457
Мой Купала . *Незабыўныя факты і эпізоды* ......465

## ДЗЁННІКІ, ЛІСТЫ

ДЗЁННІКІ ......477

### ЛІСТЫ

1. Сцяпану Ліхадзіеўскаму......499
2. Сцяпану Ліхадзіеўскаму......500
3. Загадчыку аддзела сацыяльнага забеспячэння Гомельскага абласнога савета дэпутатаў працоўных тав. Новікавай Л. Н. ......501
4. Якаву Драйчуку......502

